АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# БЕЛАРУСКАЯ ГРАМАТЫКА

## Частка 1

**ФАНАЛОГІЯ. АРФАЭПІЯ. МАРФАЛОГІЯ. СЛОВАУТВАРЭННЕ. НАЦІСК**

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1985

ББК 81.2Бел-2
Б43

Рэдактары:
М. В. Бірыла, акадэмік АН БССР,
П. П. Шуба, доктар філалагічных навук

Рэцэнзенты:
А. П. Груца, доктар філалагічных навук,
А. Я. Міхневіч, доктар філалагічных навук,
Л. Ц. Выгонная, кандыдат філалагічных навук

**Беларуская** граматыка. У 2-х ч. Ч. 1. Фаналогія. Арфа-
Б 43 эпія. Марфалогія. Словаўтварэнне. Націск / АН БССР, Ін-т мовазнаўства імя Я. Коласа; [Рэд. М. В. Бірыла, П. П. Шуба].— Мн.: Навука і тэхніка, 1985.— 431 с.

У пер.: 2 р. 50 к.

Граматыка падрыхтавана з улікам моўнай практыкі двух апошніх дзесяцігоддзяў і вопыту раней выдадзеных граматык. Яна мае нарматыўную накіраванасць: паказаны нормы беларускай літаратурнай мовы 70—80-х гадоў, існуючыя варыянты і адхіленні, іх крыніцы і месца ў літаратурнай мове.

Разлічана на спецыялістаў-мовазнаўцаў, выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, настаўнікаў, работнікаў друку, радыё і тэлебачання.

Б $\frac{4602010000—026}{М316—85}$ 113—84

ББК 81.2Бел-2

## ПРАДМОВА

У беларускім мовазнаўстве найбольш поўнай і па ахопу навуковых праблем, і па разгляду фактычнага матэрыялу з'яўляецца Граматыка беларускай мовы ў двух тамах (т. 1— пад рэдакцыяй К. К. Атраховіча (Крапівы) і М. Г. Булахава, т. 2 — пад рэдакцыяй К. К. Атраховіча, М. Г. Булахава і П. П. Шубы). У Граматыцы ўпершыню сістэматычна прааналізаваны характэрныя для пяцідзесятых — пачатку шасцідзесятых гадоў нормы беларускай літаратурнай мовы і розныя адхіленні ад норм. Праца адыграла вялікую ролю ў нармалізацыі нашай літаратурнай мовы, у пэўным сэнсе з'явілася эталонам пры падрыхтоўцы іншых прац па граматыцы беларускай мовы. І хаця з часу выдання Граматыкі беларускай мовы прайшло дваццаць гадоў, яна па-ранейшаму з'яўляецца буйнейшым і найбольш аўтарытэтным даведнікам, кнігай для навучання.

Інтэнсіўная моўная практыка апошніх двух дзесяцігоддзяў выявіла рад праблем і пытанняў, якія патрабуюць новай іх распрацоўкі ці хаця ўдакладненняў. Перш за ўсё найбольш відавочным фактам функцыяніравання беларускай літаратурнай мовы з'яўляецца рост варыянтнасці літаральна на ўсіх узроўнях — у фанетыцы, словазмяненні, словаўтварэнні, акцэнтуацыі, сінтаксісе. Наяўнасць варыянтнасці ў любой літаратурнай мове непазбежная, хаця ў мовах з працяглай пісьмовай традыцыяй яна больш абмежавана, чым у літаратурных мовах адносна маладых. Наяўнасць варыянтаў у пэўным сэнсе з'яўляецца прыметай развіцця літаратурнай мовы, своеасаблівым этапам пераходу ад традыцыйнай нормы да новай, а самі варыянты выступаюць у мове ў якасці новых ці аджываючых элементаў.

Варыянты з'яўляюцца той базай, на якой зараджаюцца і фарміруюцца сінанімічныя сродкі мовы. Разам з тым рост варыянтнасці і сінаніміі сам па сабе яшчэ не з'яўляецца паказчыкам багацця літаратурнай мовы. Без належнага ўпарадкавання такая варыянтнасць можа прывесці да разнабою, да расхіствання ўсталяваных норм. Усё гэта абумовіла выразную нарматыўную накіраванасць новай граматыкі.

Гэта граматыка беларускай мовы падрыхтавана з улікам моўнай практыкі двух апошніх дзесяцігоддзяў і вопыту раней выдадзеных граматык і даследаванняў. Усе раздзелы напісаны на аснове дэталёвага аналізу спецыяльна сабранага матэрыялу. Аўтары ставілі сваёй мэтай паказаць нормы беларускай літаратурнай мовы сямідзесятых — васьмідзесятых гадоў, выявіць і прааналізаваць усе важнейшыя адхіленні ад норм літаратурнай мовы, устанавіць іх крыніцы, паказаць іх месца ў сістэме літаратурнай мовы.

Беларуская граматыка складаецца з дзвюх частак.

У першай частцы змешчаны раздзелы «Фаналогія» (доктар філалагічных навук А. І. Падлужны), «Арфаэпія» (акад. М. В. Бірыла, А. І. Падлужны), «Марфалогія» (дактары філалагічных навук П. У. Сцяцко,

П. П. Шуба, кандыдаты філалагічных навук Г. У. Арашонкава, Т. П. Бандарэнка, Л. М. Грыгор'ева), «Словаўтварэнне» (доктар філалагічных навук П. У. Сцяцко, кандыдат філалагічных навук В. П. Лемцюгова), «Націск» (М. В. Бірыла, Г. У. Арашонкава).

У другой частцы змешчаны раздзелы «Словазлучэнне», «Просты сказ», «Складаны сказ», «Спосабы перадачы чужаслоўяў».

Граматыка можа служыць дапаможнікам для сістэматычнага вывучэння беларускай літаратурнай мовы і быць даведнікам па асобных канкрэтных пытаннях.

Заўвагі і пажаданні просім высылаць на адрас: 220072, Мінск, Ленінскі праспект, 66. Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР.

# ФАНАЛОГІЯ

## ФАНЕТЫКА І ГРАМАТЫКА

§ 1. Гукавая абалонка мовы як яе неад'емны элемент — з'ява шматгранная. Розныя яе бакі маюць неаднолькавае дачыненне да граматыкі. Аспектамі гукавога ладу мовы, якія вывучае фанетыка ў межах мовазнаўства, з'яўляюцца артыкуляцыя гукаў, іх акустычныя ўласцівасці, успрыманне гэтых уласцівасцей носьбітамі мовы, функцыянальнае значэнне гукаў у мове. Непасрэднае дачыненне да граматыкі мае функцыяніраванне гукаў у мове, якім займаецца спецыяльны раздзел фанетыкі— ф а н а л о г і я, паколькі граматыка звычайна апісвае ўласцівасці пісьмовай формы мовы. Праз фаналогію ажыццяўляецца сувязь граматыкі з іншымі фанетычнымі аспектамі гукавога ладу, толькі праз яе выяўляюцца сувязі паміж вуснай і пісьмовай формамі мовы. Праз вусную мову становяцца больш зразумелымі многія з'явы ў словаўтварэнні, словазмяненні і ў іншых раздзелах граматыкі.

Нельга не ўлічваць і той факт, што, хоць граматыка апісвае пісьмовую форму мовы, яна вымушана выкарыстоўваць паняцці фанетыкі і непасрэдна (не праз фаналогію), бо, па-першае, пісьмовая форма з'яўляецца вытворнай ад вуснай і абапіраецца на яе, па-другое, матэрыяльныя сродкі выражэння пісьмовай мовы бяднейшыя, чым вуснай (гл. табліцу адпаведнасцей паміж літарамі і гукамі), па-трэцяе, авалоданню пісьмовай мовай папярэднічае веданне вуснай мовы.

Пры разглядзе словазмянення нельга абысціся без паняцця націску, вывучэнне сінтаксісу не абыходзіцца без спасылак на інтанацыю ў значна шырэйшым аб'ёме, чым той, для якога ёсць пісьмовыя сродкі яе абазначэння. Склад як фанетычная адзінка і законы яго гукавой арганізацыі дазваляюць больш грунтоўна разабрацца ў заканамернасцях і тэндэнцыях словаўтварэння і словазмянення. Напрыклад, вядома, што ў родным склоне множнага ліку назоўнікаў II скланення атрымаў пашырэнне канчатак *-аў*. Аднак па структуры склада ў беларускай мове формы *хатаў* і *коўдраў* зусім рознай прыроды. У форме *коўдраў* канчатак *-аў* абумоўлены тым, што ў выпадку чыстай асновы ўзнікае закрыты склад *коўдр* з не ўласцівым беларускай мове канцавым спалучэннем зычных *ўдр*, у якім немагчыма паяўленне беглага галоснага (немагчыма *коўдзер* або *коўдар*). Таму з'яўленне канчатка *-аў* яўна абумоўлена фанетыкай слова. Паяўленне ж паралельнай формы *хатаў* можа разглядацца толькі як вынік дзеяння марфалагічнай аналогіі або дыялектнага ўплыву, што стварае варыянтнасць нормы.

§ 2. І ўсё ж большасць фанетычных паняццяў і тэрмінаў выкарыстоўваецца ў граматыцы праз фаналогію. Фаналогія як вучэнне аб функцыяніраванні гукаў з'яўляецца адначасова і тэорыяй рацыянальнага пісьма. Хоць сцвярджаецца, што ў беларускай арфаграфіі шырока прадстаўлены фанетычныя напісанні, фанетычны прынцып «пішы, як чуеш» не адлюстроўвае сапраўднага становішча ў арфаграфіі і пішучая асоба не можа ім кіравацца. Даследаванні па ўспрыманню вуснай мовы

## Табліца адпаведнасцей паміж літарамі і гукамі (у межах слова)

| Літара | Гук | У якіх умовах абазначае гук | Прыклады |
|---|---|---|---|
| Аа | [а] | у пачатку слова і пасля цвёрдых зычных | *арэх, тата* |
| Бб | [б] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* перад санорнымі *р, л, м, н, й, в* і перад звонкімі зычнымі | *бок*<br>*блыха, абдаць* |
| | [б'] | перад галоснымі *я, е, ё, ю, і* | *бягом, бюро* |
| | [п] | у канцы слова і перад глухімі зычнымі | *дуб, бабка* |
| Вв | [в] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы* | *вада, вугал* |
| | [в'] | перад галоснымі *я, е, ё, ю, і* | *вавёрка* |
| Гг | [г] фрыкат. | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* перад санорнымі *р, л, м, н, й, в* | *гыркаць*<br>*грыб* |
| | [г'] | перад галосным *і*; у запазычаных словах — перад *я, е, ё, ю, і* | *берагі*<br>*герб, ґяур* |
| | [г], [г'] выбухныя | у некаторых запазычаных словах | *ганак, гузік*<br>*гірса* |
| | [х] | у канцы слова і перад глухімі зычнымі | *снег, лёгкі* |
| Дд | [д] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* перад санорнымі *р, л, м, н, й, в* | *даць*<br>*драць* |
| | [т] | у канцы слова і перад глухімі зычнымі | *сад, пасадка* |
| | [ч] | перад афрыкатай *ч* | *адчуць* |
| | [ц] | перад афрыкатай *ц* | *кадцы* |
| Дждж | [дж] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* перад санорнымі *р, л, м, н, й, в* | *хаджу*<br>*прынаджваць* |
| | [ч] | у канцы слова | *дождж* |
| | [д]+[ж] | на стыку прыставак на *-д* і каранёў на *ж-* | *паджарыць* |
| Дздз | [дз] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* перад санорнымі *р, л, м, н, й, в* | *ксяндза*<br>*дзвынкаць* |
| | [дз'] | перад галоснымі *я, е, ё, ю, і;* перад *ь* і перад зычным *в'* | *дзеці*<br>*дзьму, дзверы* |
| | [ц'] | у канцы слова і перад глухімі зычнымі, калі пасля *дз* ідзе літара *ь* | *моладзь, дзядзька* |
| | [д]+[з] | на стыку прыставак на *-д* і каранёў на *з-* | *падзол, падзямелле* |
| Ее | [е] | пасля мяккіх зычных | *землі, лесавод, сезон* |
| | [йе] | у пачатку слова, у сярэдзіне — пасля галосных і раздзяляльных апострафа і *ь*. Пад націскам або не ў першым пераднаціскным складзе. У першым пераднаціскным складзе толькі ў запазычаных словах | *ехаць, заедзь, з'езд, масье, зеляніна, сезон* |
| Ёё | [о] | пасля мяккіх зычных пад націскам | *вёрсты, лён* |
| | [йо] | у пачатку слова, пасля галосных і раздзяляльных апострафа і *ь* пад націскам і ў канцы слова не пад націскам у некаторых запазычаннях | *ёсць, пад'ём, медальён, радыё* |
| Жж | [ж] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* перад санорнымі *р, л, м, н, й, в* | *жалобны*<br>*жрэц* |
| | [ш] | у канцы слова і перад глухімі зычнымі | *нож, лыжка* |
| Зз | [з] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* перад санорнымі *р, л, м, н, й, в* | *зара*<br>*зло* |
| | [з] | перад звонкімі зычнымі | *збор* |
| | [с] | у канцы слова і перад глухімі зычнымі | *воз, казка* |
| | [ж] | перад шыпячымі *ж, дж* | *езджу* |

| Літара | Гук | У якіх умовах абазначае гук | Прыклады |
|---|---|---|---|
| | [ш] | перад шыпячымі *ш, ч* | *рэзчык* |
| | [з'] | перад галоснымі *я, е, ё, ю, і;* | *зямля* |
| | | перад *ь*; перад мяккімі зычнымі, за выключэннем *к', г', х'* | *разьба, змена* |
| Іі | [і] | пасля мяккіх зычных і ў пачатку слова не пад націскам | *зіма, індустрыя* |
| | [йі] | у пачатку слова пад націскам і ўнутры слова пасля галосных | *іней, ускраіна* |
| | [ы] | у складаных словах, калі першая частка заканчваецца на цвёрды зычны | *педінстытут* |
| Йй | [й] | пасля галосных у канцы слоў і перад зычнымі ў сярэдзіне слова | *край, вайна* |
| Кк | [к] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* | *карова* |
| | | перад санорнымі *р, л, м, н, й, в;* | *крышыць* |
| | | перад глухімі зычнымі і ў канцы слова | *локці, крык* |
| | [к'] | перад *е, і*, зрэдку перад *я, е, ё, ю* | *кіслы, Кёльн* |
| | [г] выбухны | перад звонкімі зычнымі | *вакзал* |
| Лл | [л] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* | *лодка* |
| | | перад зычнымі і ў канцы слова | *палка, вол* |
| | [л'] | перад галоснымі *я, е, ё, ю, і* і перад *ь* | *лёд, бэлька* |
| Мм | [м] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* | *мыла* |
| | | перад зычнымі і ў канцы слова | *бомба, Крым* |
| | [м'] | перад галоснымі *я, е, ё, ю, і* | *мяса* |
| Нн | [н] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* | *ныркі* |
| | | перад большасцю зычных і ў канцы слова | *каманда, сон* |
| | [н'] | перад галоснымі *я, е, ё, ю, і;* | *несці* |
| | | перад *ь*, перад *дз', ц'*, калі пасля іх ідуць літары *я, е, ё, ю, і* | *банька, манцёр* |
| Оо | [о] | у пачатку слова і пасля цвёрдых зычных пад націскам; пасля галосных не пад націскам у некаторых запазычаннях | *Орша, родны, адажыо* |
| Пп | [п] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* | *паход* |
| | | перад санорнымі *р, л, м, н, й, в;* | *прама* |
| | | перад глухімі зычнымі і ў канцы слова | *акопчык, акоп* |
| | [п'] | перад галоснымі *я, е, ё, ю, і* | *пяты* |
| Рр | [р] | заўсёды | *вёрсты, востры* |
| Сс | [с] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* | *сады* |
| | | перад санорнымі *р, л, м, н, й, в;* | *паслаць* |
| | | перад глухімі зычнымі і ў канцы слова | *страх, верас* |
| | [с'] | перад галоснымі *я, е, ё, ю, і;* | *сёмы* |
| | | перад *ь*; перад мяккімі зычнымі, за выключэннем *к', х'* | *вось, снег* |
| | [з'] | перад *ь*, пасля якога ідуць звонкія зычныя; перад звонкімі зычнымі, за якімі ідуць галосныя *я, е, ё, ю, і* | *касьба* |
| | [ш] | перад шыпячымі *ш, ч* | *разносчык* |
| Тт | [т] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* | *тата* |
| | | перад санорнымі *р, л, м, н, й, в;* | *трава* |
| | | перад глухімі зычнымі | *хатка* |
| | [д] | перад звонкімі зычнымі | *футбол* |
| | [ч] | перад шыпячымі *ч, ш* | *лётчык* |
| | [ц] | перад свісцячым *ц* | *у хатцы* |
| Уу | [у] | пасля цвёрдых зычных і ў пачатку слова; у запазычаных словах пасля галосных перад зычнымі | *думка, уваход, прэзідыум, ва універсітэце* |

| Літара | Гук | У якіх умовах абазначае гук | Прыклады |
|---|---|---|---|
| Ўў | [ў] | пасля галосных перад зычнымі і ў канцы слова | траўка, браў |
| Фф | [ф] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* у канцы слова і перад глухімі зычнымі | *фара* *штраф, фтор* |
| | [ф'] | перад галоснымі *я, е, ё, ю, і* | *фетравы* |
| Цц | [ц] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* у канцы слова і перад глухімі зычнымі | *цэгла* *канец, клёцкі* |
| | [ц'] | перад галоснымі *я, е, ё, ю, і;* перад *ь;* перад *в*, калі пасля яе ідуць галосныя *я, е, ё, ю, і* | *цяля* *бацька, цвёрды* |
| | [дз] | перад звонкімі зычнымі | *плацдарм* |
| Чч | [ч] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* у канцы слова і перад некаторымі зычнымі | *час* *ноч, пачварны* |
| | [дж] | перад звонкімі зычнымі | *лічба* |
| | [ц] | перад зычным *ц* | *у лодачцы* |
| Шш | [ш] | перад галоснымі *а, о, э, у, ы;* перад некаторымі зычнымі і ў канцы слова | *шырыня* *дошка, кош* |
| | [с] | перад зычным *с* | *чэшскі* |
| Ыы | [ы] | пасля цвёрдых зычных | *чырвоны* |
| Ьь | — | абазначае мяккасць папярэдняга зычнага на канцы слова і перад зычнымі; перад галоснымі *я, е, ё, ю, і* ўказвае на тое, што гэтыя галосныя абазначаюць *й* + галосны | *конь, восьмы* *лью* [л'йу] |
| Ээ | [е] | у пачатку некаторых слоў; пасля цвёрдых зычных пад націскам, не пад націскам — толькі ў запазычаных словах | *эра, бэлька, дэмакратыя* |
| Юю | [у] | пасля мяккіх зычных | *люблю* |
| | [йу] | у пачатку слова; пасля галосных і пасля раздзяляльных апострафа і *ь* | *юрта, крыю, б'ю* |
| Яя | [а] | пасля мяккіх зычных і *й* | *зямля* |
| | [йа] | у пачатку слова; пасля галосных і пасля раздзяляльных апострафа і *ь* | *яма, маяк, з'яднацца, каньяк* |

паказваюць, што розныя людзі не толькі не зусім аднолькава вымаўляюць, але і чуюць адно і тое ж па-рознаму. Таму відавочна, што рэалізацыя прынцыпу «пішы, як чуеш» прывяла б у лепшым выпадку да пісьма, падобнага на транскрыпцыю. На самай справе ў пісьмовай форме перадаюцца не ўсе асаблівасці гукаў, якія можа пачуць той або іншы носьбіт мовы, а толькі тыя, якія звязаны ў мове з пэўным сацыяльна значымым зместам. Таму больш правільна было б гаварыць аб фаналагічным, а не фанетычным прынцыпе арфаграфіі.

Такім чынам, граматыка пісьмовай мовы цесна звязана з фаналогіяй. Сапраўды, любое апісанне граматыкі не абыходзіцца без спасылак на яўна фаналагічную тэрміналогію. Напрыклад, пры аналізе тыпаў скланення назоўнікаў па неабходнасці выдзяляюцца асновы на цвёрды, мяккі, зацвярдзелы і заднеязычны зычныя. Пры гэтым характэрна, што тэрміны «цвёрды», «мяккі», «заднеязычны» ўжываюцца граматыстамі ў строга фаналагічным значэнні, і толькі тэрмін «зацвярдзелы» не зусім адпавядае патрабаванням фаналогіі.

§ 3. Паняцці фаналогіі шырока выкарыстоўваюцца пры вывучэнні

словаўтварэння і словазмянення. Раздзел мовазнаўства, які займаецца зменай (або чаргаваннем) фанем у межах марфем атрымаў нават назву, якая адлюстроўвае сувязь фаналогіі з марфалогіяй як часткай граматыкі, — марфаналогія (з морфафаналогія).

Чаргаванне фанем мае вельмі істотнае значэнне для марфалогіі, бо толькі праз яго можна выявіць асаблівасці скланення імён, спражэння дзеясловаў, словаўтварэння. Чаргаванні вызначаюць спецыфіку марфалогіі, бо нават у блізкароднасных мовах яны часта істотна адрозніваюцца.

### ФАНЕМА

§ 4. Зыходным і асноўным паняццем фаналогіі, найдрабнейшай адзінкай з'яўляецца фанема. Фанемамі называюць гукі, якія служаць для адрознення слоў або іх форм. Напрыклад, калі параўнаць рад слоў *бык, бок, бак, бук,* то лёгка заўважыць, што гэтыя словы адрозніваюцца гукамі [ы], [о], [а], [у].

§ 5. Для таго каб выявіць фанемы, зручна падбіраць такія пары слоў, якія былі б рознымі па значэнню і адрозніваліся толькі адным гукам (так званыя мінімальныя пары слоў): *важу — ваджу, дом — том, кон — конь, купаць — капаць, пылок — палок, рама — рана, шукаць — сукаць* і г. д. Такім шляхам выяўляюцца фанемы /ж/, /дж/, /д/, /т/, /н/, /н'/, /у/, /а/, /ы/ і г. д.

§ 6. Аднак у радзе выпадкаў падабраць адпаведныя мінімальныя пары не так лёгка. Могуць сустрэцца і такія выпадкі, калі як быццам і існуе мінімальная пара, а фанематычнасць гука выклікае сумненне. Напрыклад, мінімальную пару складаюць форма роднага склону назоўніка *газа* (з [г] выбухным) і форма назоўнага склону множнага ліку назоўніка *газ (газы — газы),* бо гэтыя словы розныя па значэнню і адрозніваюцца толькі адным гукам ([г] выбухны ў форме слова *газа* і [г] фрыкатыўны ў форме слова *газ).* Аднак [г] выбухны звычайна не разглядаюць як асобную фанему, бо ён сустракаецца ў нязначнай колькасці слоў і назіраецца тэндэнцыя да замены яго [г] фрыкатыўным. У падобных выпадках прынята гаварыць аб свабодным вар'іраванні гукаў. Той гук, які сустракаецца рэдка і падлягае субстытуцыі (замяшчэнню), разглядаецца як факультатыўны варыянт фанемы.

§ 7. Паколькі не заўсёды можна адшукаць мінімальныя пары слоў, у фаналогіі выключна важнае значэнне надаецца паняццю фанетычнай пазіцыі. Фанетычная пазіцыя — гэта канкрэтныя ўмовы, якія вызначаюць артыкуляцыйныя і акустычныя якасці гукаў. Пазіцыя для пэўнага гука вызначаецца папярэднімі і наступнымі гукамі, яго становішчам адносна націску, месцам у слове, фразе і г. д. У выпадку з мінімальнымі парамі мы маем справу з поўнай тоеснасцю пазіцыі. Аднак для доказу фанематычнасці гука дастаткова і частковай тоеснасці. Возьмем, напрыклад, гукі [к] і [к']. Акрамя мінімальнай пары *куры́ — Кюры́,* наўрад ці можна знайсці якія-небудзь іншыя. У гэтай пары слоў адно слова належыць да агульнаўжывальнай лексікі, другое — уласнае імя, ды яшчэ і запазычанае. Таму на падставе толькі гэтага прыкладу яшчэ цяжка гаварыць аб фанематычнасці [к']. Але ёсць прыклады, якія паказваюць, што [к] і [к'] сустракаюцца ў аднолькавай фанетычнай пазіцыі. Склад [к' і] шырока распаўсюджаны ў розных лексічных пластах *(ківаць, кідаць, кішка, кукішкі* і г. д.). Зрэдку сустракаецца і склад [кы] *(кыркаць, кыця, кыш).* Такая ж сітуацыя назіраецца і са складамі *ка — кя, ко — кё, ку — кю (кахаць — кяхта, корпацца — кіяскёр, куры — манікюр).* На гэтай аснове можна з упэўненасцю гаварыць аб фанематычнасці [к] і [к']. У словазмяненні і словаўтварэнні [к] і [к']

звычайна паводзяць сябе як варыянты адной фанемы, таксама як [х] і [х'], [г] і [г'].

Зразумела, што ў разгледжаным выпадку мы маем справу з фанемай /к'/, якая яшчэ толькі развіваецца, таму адны са складоў у прыведзеных парах частыя, другія сустракаюцца досыць рэдка. Калі ж узяць іншыя пары гукаў, дык акажацца, што склады ў процiпастаўленых парах сустракаюцца аднолькава часта і шырока прадстаўлены як ва ўласна беларускай, так і ў запазычанай лексіцы, напрыклад, слоў са складамі *та — ця, са — ся, за — зя* і г. д. вельмі і вельмі многа. Таму сустракальнасць гукаў у аднолькавых фанетычных умовах у межах склада, несумненна, з'яўляецца дастатковым доказам іх фанематычнасці.

§ 8. Аналіз лексікі беларускай мовы паказвае, што ёй уласцівы наступныя фанемы: /п/, /п'/, / /б/, /б'/, /м/, /м'/, /ф/, /ф'/, /в/, /в'/, /т/, /ц'/, /д/, /дз'/, /дз/, /с/, /с'/, /з/, /з'/, /н/, /н'/, /л/, /л'/, /ц/, /ш/, /ж/, /ч/, /дж/, /р/, /г/, /г'/, /х/, /к/, /к'/, /г/ выбухны, /а/, /о/, /е/, /у/, /і/.

§ 9. Гукі [ы], [о], [а], [у], выступаючы ў канкрэтным гукавым акружэнні [б] — [к], маюць рад прымет, якія абумоўлены іменна гэтым акружэннем. У становішчы пасля [б] галосныя [а] і [ы] некалькі агубляюцца, пачатак [о] гучыць як [у], г. зн. становіцца больш вузкім. Змяняюцца пэўным чынам і канцавыя фазы вымаўлення гэтых галосных перад [к]. У выніку яны і цалкам некалькі змяняюцца ў даным кантэксце ў параўнанні з іншымі кантэкстамі. Аднак у кожным гуку заўсёды захоўваюцца такія прыметы, якія дазваляюць носьбітам мовы з іх дапамогай адрозніваць словы. Таму [ы], [о], [а], [у] з розных пазіцый адносяцца да адных і тых жа фанем /ы/, /о/, /а/, /у/, бо пры разглядзе іх у якасці фанем трэба абстрагавацца ад тых прымет, якія абумоўлены акружэннем.

У разгледжаным прыкладзе змены галосных у канкрэтным кантэксце не вельмі значныя, і толькі вопытны фанетыст можа выявіць іх на слых. Яны выяўляюцца больш лёгка інструментальным шляхам. Аднак у радзе выпадкаў пазіцыйныя змены бываюць такімі, што іх заўважыць любы носьбіт мовы. Напрыклад, калі параўнаць формы слоў *пакос* і *на пакосе, прызба — на прызбе,* гукі [с], [з] у становішчы перад канчаткам *-е* і мяккім [б'] змяняюцца ў [с'], [з'] — зусім іншыя гукі.

Калі ў залежнасці ад пазіцыі гукі змяняюцца такім чынам, што ўспрымаюцца як зусім розныя, не заўсёды ясна, да якой фанемы яны належаць. У сувязі з гэтым ніжэй будуць прааналізаваны найбольш складаныя выпадкі аднясення розных гукаў да адной фанемы.

§ 10. У некаторых пазіцыях узнікаюць спалучэнні гукаў замест аднаго. Напрыклад, мы гаворым *азёры,* а л е *возера, на лбе напісана,* а л е *з-пад ілба.* Толькі з дапамогай падрабязнага аналізу канкрэтных пазіцыйна абумоўленых спалучэнняў гукаў можна высветліць іх фанемную прыналежнасць. У беларускай мове да іх належаць спалучэнні з прыстаўнымі зычнымі і галоснымі, падоўжаныя зычныя.

§ 11. Валодаючы мноствам фанетычных (артыкуляцыйных або акустычных) прымет, гукі процiпастаўляюцца толькі некаторымі з іх, якія прынята называць дыферэнцыяльнымі. Астатнія прыметы называюць недыферэнцыяльнымі. Напрыклад, зычны [с] з'яўляецца пярэднеязычным, шчылінным, звонкім, цвёрдым, ненасавым. Пярэднеязычнасць, шчылiннасць, звонкасць, цвёрдасць з'яўляюцца дыферэнцыяльнымі прыметамі, таму што [с] процiпастаўляецца [х] заднеязычнаму *(сорам — хорам),* [т] змычнаму *(сом — том),* [з] звонкаму *(соль — золь),* [с'] мяккаму *(саджу — сяджу),* але не процiпастаўлены насавому пярэднеязычнаму шчылiннаму, бо такога гука наогул няма ў

беларускай мове. Таму ненасавы характар [с] не з'яўляецца дыферэнцыяльнай прыметай. Не будзе дыферэнцыяльнай прыметай мяккасць [х] перад [і] *(хітры)*, цвёрдасць [ч], [ш], [ж], [дж], [р], [ц], таму што [х'] не сустракаецца ў той жа фанетычнай пазіцыі, што і [х], а значыць, і не процiпастаўляецца яму. Усе ж астатнія названыя гукі не маюць мяккіх адпаведнікаў наогул.

Розная колькасць дыферэнцыяльных прымет яшчэ раз паказвае, што гукі і фанемы ні ў якім разе нельга разглядаць як тоесныя, бо фанемы суадносяцца не з усімі прыметамі гукаў, а толькі з дыферэнцыяльнымі. Каб адрозніць фанемы ад гукаў, у транскрыпцыі іх звычайна заключаюць у касыя дужкі /.../.

Асабліва ярка выдзяляюцца дыферэнцыяльныя прыметы ў тых выпадках, калі фанемы звязваюцца імі ў цэлыя рады. Такія рады называюцца с у а д н о с н ы м і, або к а р э л я т ы ў н ы м і, а адносіны паміж адпаведнымі фанемамі — к а р э л я ц ы я м і. Карэляцыі звычайна лягчэй за ўсё выяўляюцца дзякуючы наяўнасці такіх фанетычных пазіцый, у якіх абедзве процiпастаўленыя фанемы супадаюць у адным гуку, г. зн. іх процiпастаўленне перастае існаваць, нейтралізуецца. Гэта з'ява і атрымала назву — н е й т р а л і з а ц ы я. Возьмем, напрыклад, глухія і звонкія зычныя. У беларускай мове іх адрозненне яўна фаналагічнае *(дом — том, біць — піць)*. Але ў канцы слова звонкія зычныя аглушаюцца, таму тут няма процiпастаўлення па звонкасці — глухасці: [гры́ба] — [гры́пу], а л е [грып]. І такія суадносіны назіраюцца паміж усімі глухімі і звонкімі зычнымі. Значыць, глухасць — звонкасць з'яўляецца дыферэнцыяльнай прыметай, а глухія і звонкія зычныя фанемы ўтвараюць карэляцыю.

У беларускай мове, акрамя глухіх і звонкіх, карэляцыі ўтвараюць цвёрдыя і мяккія, шыпячыя і свісцячыя, змычныя і афрыкатыўныя зычныя фанемы. Для марфалогіі найбольш істотнае значэнне мае карэляцыя зычных па цвёрдасці — мяккасці, бо іменна процiпастаўленне цвёрдых і мяккіх зычных нейтралізуецца ў сувязі са словаўтварэннем і словазмяненнем. Карэлятыўныя адносіны сярод галосных выяўляюцца не так выразна, бо галосных вельмі абмежаваная колькасць, і таму не могуць ствараццa вялікія па колькасці карэлятыўныя рады.

§ 12. Карэляцыі і дыферэнцыяльныя прыметы, на аснове якіх яны ўтвараюцца, маюць найбольш істотнае значэнне для фаналагічнага аналізу. Па-першае, карэляцыйныя адносіны дазваляюць найбольш лёгка выдзеліць дыферэнцыяльныя прыметы, г. зн. вызначыць фаналагічны змест фанем, якія ўдзельнічаюць у карэляцыі. Па-другое, фанемы, якія ўтвараюць карэляцыі, безумоўна, з'яўляюцца блізкімі, роднаснымі, бо яны адрозніваюцца толькі адной дыферэнцыяльнай прыметай. Адны і тыя ж фанемы ўваходзяць у розныя карэляцыі. Напрыклад, фанема /с/ уваходзіць у карэляцыйны рад па глухасці — звонкасці /с/—/з/, па цвёрдасці — мяккасці /с/—/с'/, па шыпячасці — свісцячасці /с/—/ш/. Дзякуючы дыферэнцыяльным прыметам, якія ствараюць карэляцыі, большасць фанем не ізаляваны адна ад другой, а звязаны паміж сабою, утвараючы с і с т э м у ф а н е м.

Звычайна фанемы, якія ўваходзяць у карэляцыйныя рады, не толькі ў артыкуляцыйным і акустычным аспектах маюць агульныя ўласцівасці, але і падобна паводзяць сябе пры змяненні фанетычных умоў ужывання, абумоўліваюць аднолькавыя з'явы ў марфалогіі. У сувязі з гэтым уласцівасці карэляцый беларускай мовы будуць разгледжаны асобна.

### *Фанемная прыналежнасць гукаў з розных фанетычных пазіцый*

§ 13. У пазіцыі перад галоснымі ў беларускай мове ўжываюцца гукі [в] і [в']. Калі пры словаўтварэнні або словазмяненні яны аказваюцца перад зычнымі або ў канцы слоў, то змяняюцца на [ў], параўн.: [каро́ва] — [каро́ў] — [каро́ўн'ік], [н'іва] — [н'іў], [крыві́] — [кроў]. Пры гэтым чаргаванне [в'] — [ў] магчыма толькі таму, што [в'], як і ўсе іншыя губныя, зацвярдзеў у канцы слоў і перад зычнымі. Таму пазіцыйным варта лічыць толькі чаргаванне [в] — [ў]. Такім чынам, да адной фанемы /в/ адносяцца гукі [в] і [ў]. Адначасова назіраецца чаргаванне фанем /в/—/в'/, якое цалкам марфалагізавана, г. зн. паяўляецца пры словазмяненні і словаўтварэнні, параўн.: *трава — траве — травінка — траў* і *раса — расе — расінка — рос.*

§ 14. Пачатковы гук [у] (*уступ, уражанне* і г. д), а таксама прыназоўнік *у*, калі папярэдняе слова ў моўнай плыні заканчваецца на галосны, пераходзіць у [ў], што знайшло адлюстраванне і ў арфаграфіі: *уступ — ва ўступе, уцячы — яна ўцякла, услед — ісці ўслед, зайшоў у хату — зайшла ў хату, быў у мяне — была ў мяне* і г. д.

Ужыванне [у] і [ў], безумоўна, звязана з пазіцыйнымі зменамі гукаў. У сувязі з гэтым адбыліся нават семантычныя змяненні прыназоўнікаў *у* і *в*. Супаўшы ў пэўных фанетычных пазіцыях у гуку [ў], яны перасталі ў беларускай мове адрозніваецца па значэнню, параўн. руск. *попало в меня, было у меня* і бел. *трапіла ў мяне* і *было ў мяне.*

На першы погляд варта адносіць гук [ў] у гэтых выпадках да фанемы /у/. Аднак рашаючым трэба лічыць той факт, што [ў] з'яўляецца зычным гукам і пераход [у]—[ў] звязаны з памяншэннем колькасці складоў у слове. Фанема /у/ з'яўляецца галоснай і таму складаўтваральнай. Аднясенне гука [ў] да фанемы /у/ азначала б, што колькасць складоў у слове застаецца пастаяннай, што ў сапраўднасці не назіраецца. А гэта азначае, што і [ў] з [у] трэба адносіць да фанемы /в/, г. зн. зычнай фанемы.

Такім чынам, [ў] незалежна ад паходжання, праяўляючы ў межах склада якасці зычнага, суадносіцца заўсёды з зычнай фанемай /в/.

§ 15. Шырока распаўсюджаны таксама пераход [л]—[ў], які замацаваўся за пэўнымі граматычнымі катэгорыямі слоў і асобнымі словамі: *моўчкі, поўны, чытала — чытаў, шоўк.* Аднак гэты пераход не распаўсюджваецца на канцавы [л] назоўнікаў мужчынскага роду (*вал, вол, капітал, падзел, пасол, стол*), а таксама на [л] у сярэдзіне слова, калі пры змяненні слова пасля яго паяўляецца беглы галосны (*галка — галак, могілкі — могілак, палка — палак, сажалка — сажалак*). Але калі пераход адбыўся, то [л] не ўзнаўляецца нават з паяўленнем беглага галоснага (*поўны — повен, чаўны — човен*). Пераход гэты не ажыццяўляецца ў новаўтварэннях тыпу *калгас.* Прыведзеныя факты сведчаць, што пераход [л] — [ў] з'яўляецца гістарычным і яго трэба разглядаць як чаргаванне фанем /л/—/в/.

Як чаргаванне фанем /в'/ — /у/ разглядаецца і адзінкавы выпадак пераходу [в'] — [у]: *віць —ую, уеш, уе* і г. д. Праўда, трэба ўлічваць, што гэты пераход ускладняецца пазіцыйным паяўленнем [ў] (*яна ўе*), але гэта проста азначае, што ў формах слова *віць* можа назірацца не толькі чаргаванне /в'/ — /у/, але і /в'/ — /в/.

§ 16. У беларускай мове гук [й] ужываецца як пасля галосных, так і перад імі: [май] — [йа́ма], [вайна́] — [вайе́нны] і г. д. Па сваіх фанетычных якасцях [й] перад галоснымі не менш адрозніваецца ад [й] пасля галосных, чым [в] ад [ў]. Відавочна, паколькі гэтыя два гукі рэ-

гулярна ўжываюцца ў розных фанетычных пазіцыях, яны адносяцца да адной фанемы /й/. Да гэтай жа фанемы адносіцца [й] у тых выпадках, калі ён узнікае з [і] у пазіцыі пасля галоснага перад зычным: пасля прыставак, далучаных да каранёў, якія пачынаюцца з [і] *(іграць — зайграць, ісці — увайсці)*; пры адсутнасці паўз паміж словамі [ма́ц'і й дачка́], [на Йва́на].

§ 17. Па сваіх функцыянальных уласцівасцях фанема /й/ не ўваходзіць ні ў якую карэляцыю зычных і, такім чынам, займае асаблівае, ізаляванае становішча ў фаналагічнай сістэме.

Сапраўды, [й] не мае парнага глухога гука, і перад ім захоўваецца адрозненне глухіх і звонкіх зычных, чым і абгрунтоўваецца яго аднясенне да санорных. З пункту погляду карэляцыі цвёрдых і мяккіх зычных [й], безумоўна, адносіцца да мяккіх, бо перад ім змякчаюцца ўсе зычныя, якія змякчаюцца і перад іншымі мяккімі. Аднак у адрозненне ад іншых мяккіх зычных /й/ з'яўляецца адзінай фанемай ва ўсёй фаналагічнай сістэме, якая не мае адпаведнай парнай цвёрдай. Якія б процпастаўленні [й] з іншымі гукамі ні ўзяць, ён ніколі не ўтварае з імі карэляцыі. Таму гэта фанема, у якой не ўдаецца выявіць якія-небудзь дыферэнцыяльныя прыметы.

Адасобленасць ад фаналагічнай сістэмы і фаналагічная збедненасць абумоўліваюць шырокае ўжыванне гэтага гука ў тых выпадках, калі ў моўнай плыні ўзнікаюць спалучэнні галосных, не ўласцівыя беларускай мове: [б'ійало́г'ійа], [ра́д'ыйо], [б'ійо́н'іка], [к'ійо́ск], [зайі́ка], [п'ійан'е́р] і г. д. Гэтым жа абумоўлена і яго выкарыстанне як аднаго з прыстаўных зычных.

§ 18. У беларускай мове назіраюцца шматлікія выпадкі, калі [й] знаходзіцца пасля зычных перад галоснымі ў адным і тым жа складзе і гэтыя склады процпастаўлены іншым, якія складаюцца з мяккага зычнага і галоснага, параўн.: [з'йем] і [з'е́м]лі, ся[мйа́] і це́[м'а], [пйу] і [п'у]пітр. Сярод складоў падобнага тыпу найбольш процпастаўлены «губны цвёрды зычны + [й] + галосны», якія сустракаюцца як у пачатку слова [бйу], [пйу], так і ў яго канцы [с'амйа́], [верабйу́], а таксама аналагічныя склады з [р], якія прадстаўлены галоўным чынам у канцы слоў [надво́рйе], [дав'е́рйе], [шырйу]. У беларускай лексіцы шырокаўжывальныя і спалучэнні «[з'] + [й] + галосны», «[д] + [й] + галосны»: [з'йе́с'ц'і], [з'йав'іцца], [падйо́м], [адйе́ст], [прадйав'іц'].

Іншыя зычныя ў спалучэнні з [й] сустракаюцца толькі ў запазычаннях: [кан'йа́к], [м'едал'йо́н], [дас'йе́], [дз'йерц'] — імя *Дзьердзь* і г. д. Акрамя таго, у формах дзеяслова *ліць* і ў некаторых уласных імёнах прадстаўлена спалучэнне «[л'й] + галосны». Ва ўсіх гэтых выпадках /й/ з'яўляецца самастойнай фанемай, якая дапамагае адрозніваць словы.

§ 19. Галосныя пасля цвёрдых і пасля мяккіх зычных добра адрозніваюцца ва ўспрыманні. З акустычнага пункту погляду любы галосны пасля мяккага зычнага ў адрозненне ад адпаведнага галоснага пасля цвёрдага зычнага пачынаецца з *і*-падобнага пераходнага ўчастка. Такім чынам, галосныя пасля цвёрдых і мяккіх зычных утвараюць суадносныя пары гукаў: [а] — [ä], [о] — [ö], [е] — [ë], [у] — [ӱ], [ы] — [і]. З таго, што мяккія зычныя разглядаюцца як самастойныя фанемы, вынікае, што якасць галосных цалкам абумоўлена папярэднімі зычнымі і пары галосных адносяцца да адной і той жа фанемы. Такі пункт погляду з'яўляецца агульнапрынятым і спрэчак не выклікае адносна ўсіх галосных, акрамя пары [ы] — [і]. Сцвярджаецца, што [ы] і [і] суадносяцца з асобнымі самастойнымі фанемамі, і прыводзіцца рад аргументаў на карысць падобнага падыходу, якія зводзяцца да наступнага.

У пералічаных парах галосных вядучым варыянтам з'яўляецца той,

які ўжываецца ў незалежным становішчы (у пачатку слова і ў ізаляваным вымаўленні). У пары [ы] — [і] у незалежным становішчы шырока прадстаўлены толькі [і]. Праўда, у беларускай мове націскны [і] звычайна прыкрываецца зычным [й]: [йіней], [йіскры]. Аднак сцвярджаюць, што побач з [а], [о], [е], [у], [і] ізалявана можна вымавіць і [ы], а ў пачатку слова [ы] хоць і не сустракаецца, але можа сустрэцца, калі стварыць, напрыклад, тэрмін, аналагічны *аканню, оканню, еканню, іканню, — ыканне.* Гук [ы] ужываецца таксама як назва літары *ы*. Гэты аргумент як быццам найбольш пераканальны, калі ўлічыць, што ў беларускай мове, як і ў іншых усходнеславянскіх мовах, націскныя галосныя амаль не сустракаюцца ў пачатку слова, за выключэннем запазычанняў. Але ў запазычаннях сустракаецца і [ы]. *Ыйсон, Ый Джу* і г. д. Сцвярджаюць таксама, што [ы] можна вымавіць працяжна, пры гэтым [ы] ніколі не пераходзіць у [і]. Гук [ы] можна вылучыць з кантэксту, у той час як галосныя пасля мяккіх зычных ізаляваць нельга. Нарэшце, пра самастойнасць [і] і [ы] сведчыць і тое, што рад суфіксаў, якія пачынаюцца з [і], змякчаюць цвёрды зычны ключэннем запазычанняў. Але ў заазычаннях сустракаецца і [ы]: пераўтвараюць папярэдні зычны асновы з мяккага ў цвёрды *(кот — коцік, ліса — лісіца, хворост — хварасціна,* але *гусь — гусыня),* хоць маюцца два суфіксы *-ын-я* і *-ін-я (рабыня, графіня).*

Аднак усе гэтыя довады на карысць самастойнасці [ы] не вельмі пераканальныя. На самай справе тэрмін *ыканне* так і не ўзнік, а што да назвы літары, дык калі б былі асобныя адназначныя літары для галосных гукаў пасля мяккіх зычных, яны б таксама сталі магчымымі. Напрыклад, можна вымавіць і гук [е] пасля цвёрдых і пасля мяккіх зычных.

Сапраўды, у беларускай мове паралельна з парай *быць: біць* існуюць пары *гэта: гета, бэ(лька): бе(лка), лэ(паць): ле(піць).* Гук [е] настолькі пашыраны пасля цвёрдых зычных, што ён сустракаецца амаль пасля кожнага зычнага — і не толькі ў запазычаных словах, а і ва ўласна беларускай лексіцы: *пэцкаць, сэрца, мястэчка, вуздэчка, гэты, лэпаць, зэдаль, тэма* і г. д. Характэрна, што па меры асіміляцыі запазычанай лексікі не назіраецца тэндэнцыя да памякчэння папярэдняга зычнага. Эксперыменты па ўспрыманню галосных з розных фанетычных пазіцый пацвярджаюць у такой жа ступені самастойнасць [ы] — [і], як і [э] — [е], а таксама іншых пар галосных пасля цвёрдых і мяккіх зычных. Гэта азначае, што любы варыянт галоснага, які залежыць ад цвёрдасці і мяккасці зычных, носьбіт мовы ў стане імітаваць, вымавіць яго пры належнай трэніроўцы. Пара [ы] — [і] мае тут толькі тую перавагу, што літары, якія абазначаюць гэтыя гукі, маюць не зусім такое гукавое значэнне ў пачатку слоў, як пары літар *э—е, о—ё, а—я, у—ю.*

Калі *е, ё, я, ю* заўсёды адпавядаюць спалучэнню гукаў «[й] + адпаведны галосны», то [і] абазначае не толькі [йі] (калі [і] знаходзіцца пад націскам), але і гук [і] (калі ён не пад націскам), параўн.: *іней* [йін'ей] (магчымы і варыянт [ін'ей]), але [іго́лка], [іржы́шча] і г. д. Адназначнасць літар для [ы] і [і] робіць уражанне адноснай самастойнасці гэтых гукаў у параўнанні з іншымі парамі галосных.

Пры спасылцы на суфіксы, якія пачынаюцца з [ы] і выклікаюць ацвярдзенне ўтваральнай асновы, не ўлічваюць тое, што пры словаўтварэнні выкарыстоўваюцца не толькі суфіксы, але і чаргаванні, у тым ліку і чаргаванне цвёрдых і мяккіх зычных. Пры такой аргументацыі самастойнасці [ы] варта прызнаць, напрыклад, і самастойнасць варыянта [ä] пасля мяккіх зычных, бо суфікс *-ян-*, які ўтварае прыметнікі, памякчае зычны ўтваральнай асновы *(драўляны, алавяны, шкляны).*

Асноўным аргументам на карысць таго, што адносіны [ы] і [і] та-

кія ж, як і іншых пар галосных, з'яўляецца тое, што [і] ужываецца толькі пасля мяккіх, а [ы] — толькі пасля цвёрдых зычных. Акрамя таго, калі слова пачынаецца з [і] і ідзе за словам, якое канчаецца на цвёрды зычны, гэты [і] звычайна чаргуецца з [ы]: *іголка*, а л е [з ыголкай], [п'ёдынстыту́т], [спо̀ртынв'ента́р] і г. д. Адваротная замена [ы] на [і] не назіраецца таму, што няма слоў, якія б пачыналіся з [ы]. Можна прывесці рад прыкладаў з марфалогіі, якія паказваюць, што цвёрдасць або мяккасць зычных абумоўлівае паяўленне [ы] або [і]. У прыватнасці, назоўнікі з асновай на шыпячыя пасля іх зацвярдзення захавалі скланенне, якое характэрна для мяккіх асноў, пры гэтым [і] перайшоў у [ы]. Падрабязней аб гэтым гл. § 38. Тое ж можна сказаць і адносна канчатка *-і, -ы* пасля цвёрдых і мяккіх зычных у назоўным і вінавальным склонах множнага ліку, хоць [і] у гэтым выпадку ніяк гістарычна не апраўданы.

Такім чынам, адзінае правільнае фаналагічнае рашэнне — лічыць [ы] і [і] варыянтамі адной і той жа фанемы /і/. Толькі ў сувязі з тым, што ў графіцы маюцца адназначныя літары для абазначэння гэтых гукаў,нават у транскрыпцыі нязвычна бачыць абазначэнне абодвух гэтых гукаў адной літарай (*ы* або *і*).

### *Фанемная прыналежнасць пазіцыйна абумоўленых спалучэнняў гукаў*

§ 20. У пачатку слоў націскныя галосныя ў спрадвечна беларускіх словах сустракаюцца рэдка. У асноўным тут прадстаўлены ненаціскныя галосныя: *авёс, уча́стак, igольчаты*.

Сярод слоў з пачатковымі ненаціскнымі галоснымі выдзяляецца значная група з пристаўнымі галоснымі. Прыстаўнымі могуць быць толькі [і] і [а]. Яны паяўляюцца перад спалучэннямі зычных, першымі з якіх з'яўляюцца [р], [л], [л'], [м], [ў], а за імі ідуць шумныя зычныя або [в], [в'] (*ірваць, ірдзець, ілгаць, імгла, імгненне, імчаць, імшара, аўторак)*; значна радзей прыстаўныя галосныя ўзнікаюць перад некаторымі іншымі спалучэннямі зычных, напрыклад: *ігруша, істужка*.

У радзе выпадкаў фанетычная якасць прыстаўнога галоснага не мае значэння, у выніку чаго ўзнікаюць фанетычныя дублеты з [і] і [а]: *аржаны* і *іржаны, імшара* і *амшара*. Відавочна, існуе тэндэнцыя да ўзнікнення дублетаў з [а] у тых выпадках, калі наступным галосным з'яўляецца [а] (акрамя прыведзеных прыкладаў, можна спаслацца яшчэ на *іржышча* і *аржанішча)*.

У звязнай мове прыстаўныя галосныя ўзнікаюць толькі тады, калі папярэдняе слова заканчваецца на зычны гук: *пёк аржаны хлеб, выгляд ільва*. Калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны, то прыстаўныя знікаюць: *пякла ржаны хлеб, гляджу на льва*. Знікаюць яны і пасля прыставак на галосны: *імгла — замглёны, імчацца — памчацца*.

Улічваючы чыста пазіцыйнае ўзнікненне ў моўнай плыні прыстаўных галосных, іх неабходна разглядаць як фанетычны прыгук зычных [р], [л], [л'], [м], [с], [г] і г. д. Гэтыя галосныя сумесна з зычнымі ўтвараюць адзіныя фанемы /р/, /л/, /л'/, /м/, /с/, /г/ і г. д.

§ 21. Некаторыя словы ў літаратурнай мове дапускаюць варыянты вымаўлення — з пачатковым галосным і без яго: *агарод — гарод, агурок — гурок, іграць — граць* і г. д. Аднак у гэтым выпадку [а] і [і] нельга разглядаць як прыстаўныя, бо яны належаць да асновы слова, і іх адсутнасць ніколі не бывае абумоўленай фанетычнымі ўмовамі. Таму ў даным выпадку [і], [а] адносяцца да фанем /і/, /а/.

Пры ўтварэнні слоў з дапамогай прыставак на зычны ад слоў, якія

пачынаюцца некаторымі спалучэннямі зычных, у тым ліку і спалучэннямі зычных, перад якімі ўзнікаюць прыстаўныя галосныя, паміж прыстаўкай і коранем паяўляецца галосны [а]: *падабраць, падаткнуць, падарваць, адассаць, адагрэць.* У гэтым выпадку паяўленне [а] не звязана з прыстаўнымі галоснымі, бо [а] паяўляецца толькі тады, калі ў корані ёсць беглы галосны. Параўн. *адабраць — адбяру, падагнаць — падганю, адассаць — соска, разаслаць — рассцялю, разадраць — раздзяру* і г. д. У радзе выпадкаў [а] паяўляецца і пасля прыставак перад коранем слова, у якім назіраецца чаргаванне [ы], [і] з нулём гука: *адазвацца — адзывацца, падаткнуць — падтыкаць, адаспацца — адсыпацца, разапхнуць — распіхаць, адагнуць — адгінаць* і г. д. І нарэшце, [а] паяўляецца ў словах, у якіх толькі шляхам гістарычнага аналізу можна выявіць бегласць галоснага ў корані: *сагрэць* — гістарычна той жа корань, што і ў *гарэць; абамлець* — гістарычна той жа корань, што і ў руск. *медлить* і г. д.

Паяўленне [а] пасля прыставак на зычны тлумачыцца тым, што пры словаўтварэнні беглы галосны перасоўваецца ў апошнюю далучаную марфему, параўн. у назоўніках: *дзень — дзянёк — дзянёчак.* Тут па меры далучэння суфіксаў беглы галосны рухаецца к канцу слова. Таму і пры далучэнні прыставак ён перамяшчаецца на іх. Гэта азначае, што [а] пасля прыставак адносіцца да фанемы /а/, якая чаргуецца з нулём гука.

§ 22. Як прыгук зычных фанем трэба разглядаць устаўны галосны, які паяўляецца ў канцавых спалучэннях зычных, не ўласцівых беларускай мове. Гэта спалучэнні шумных зычных з санорнымі ў запазычаных словах, якія ў вымаўленні разрэджваюцца кароткім галосным тыпу [а]: *міністр, кадр, дубль* ([м'ін'істар], [ка́дар], [ду́баль]) і г. д. Відавочна, такой жа прыроды [а] у словах *дзёран* і *сівран.*

§ 23. Прыстаўныя зычныя [в], [г], [й] паяўляюцца ў пачатку слова перад націскнымі галоснымі, у сярэдзіне слова таксама перад націскнымі галоснымі і ў некаторых выпадках захоўваюцца перад ненаціскнымі галоснымі: *востры, навобмацак, вугал, павук, вучаніца, гэта, іней,* [йін'ей] і г. д.

Найбольш часта ў якасці прыстаўнога выступае [в]. Гэты зычны заўсёды ўзнікае перад націскнымі [о] і [у]: *вугаль, павук, востры, завочны.* Перад [о] прыстаўны [в] паяўляецца ў пачатку і ў сярэдзіне слова пасля прыставак: *возера, вокны, навокал, навобмацак.* Выключэнняў параўнальна нямнога: не паяўляецца [в] у словах *одум, наогул, оканне* і ў большасці запазычаных слоў: *ордэн, омнібус, орды, осмій, оргія* і г. д., а л е *воцат, вохра* (дапусціма і *охра*). Калі націск з [о] сыходзіць, то знікае і прыстаўны зычны: *азёры, акно, альховы, астрыць.* Толькі ў некаторых выпадках ён захоўваецца і перад [а] з націскнога [о]: *наваколле, вачэй.* Зрэдку могуць ужывацца варыянты з прыстаўным зычным і без яго: *акно* і *вакно, астрыць* і *вастрыць.*

Прыстаўны [в] узнікае таксама і перад ненаціскным [у]: *завушніца, вуголле, навучэнец, вучыцца.* Ён адсутнічае толькі ў тых выпадках, калі [у] з'яўляецца прыставачным, узыходзіць да прыставачнага [у] або ўзнік з [в]: *участак, ускраіна, урон, унук, учарашні, усход, узнікненне* і г. д. Перад [у] звычайна не бывае прыстаўнога [в] у запазычаных словах — *універсітэт, унікальны, прэзідыум.* Выключэнне складае слова *вустрыца* і вытворныя ад яго, зрэдку з прыстаўным [в] ужываецца слова *вунія* (гл. Белорусско-русский словарь.— М., 1962). Характэрнай асаблівасцю [в] перад ненаціскнымі галоснымі з'яўляецца тое, што ён ніколі не знікае, а гэта азначае, што выявіць яго прыстаўны характар можна толькі шляхам параўнання гучання адпаведных літа-

ратурных слоў з дыялектнымі, калі ў іх няма [в] або паяўляецца іншы прыстаўны. Часам для гэтага прыходзіцца звяртацца да гісторыі слова (параўн. *восем — осмъ).*

Шырока распаўсюджаны і прыстаўны зычны [й]. Ён узнікае ў пачатку слова перад націскным галосным [і]: *іней* [йін'ей], *іскра* [йіскра], *іхні* [йіхні]. Калі папярэдняе слова заканчваецца на цвёрды зычны, то [й] звычайна знікае — *пад інеем* [падын'ейем], *ад іскры* [адыскры] і г. д., хоць магчыма і яго захаванне: *з іх* [зых] і [з'йіх]. Перад націскным і ненаціскным [і] у сярэдзіне слова [й] часцей за ўсё не з'яўляецца прыстаўным, таму што адносіцца да кораня, а наступны [і] належыць суфіксу або канчатку: *героі* [г'еро́й-і], *краіна* [край-ін-а]. Устаўны [й] узнікае ў запазычаных словах перад [а], [о], [е] пасля галосных [і], [ы]: *стацыянар* [стацыйана́р], *алімпіяда* [ал'імп'ійа́да], *радыё* [ра́дыйо], *біёлаг* [б'ійолах], *дыякан* [дыйа́кан], *акіян* [ак'ійа́н], *піянер* [п'ійан'е́р]. А л е: *сальфеджыо, адажыо, дыэтан* і некаторыя іншыя.

Прыстаўны [й] развіўся і ў займенніках 3-яй асобы *ён, яна, яно, яны.* Ён не ўзнікае ніколі перад [і], калі гэты галосны сам з'яўляецца прыстаўным *(ільняны, ірдзець, істужка, іржышча),* перад ненаціскным [і] у першую чаргу ў запазычаных, а часта і ў словах славянскага паходжання: *індустрыя, інстытут, інжынер, інтарэс, ігольчаты, заінтрыгаваць.*

З'яўленне прыстаўнога [г] у літаратурнай мове вельмі абмежавана. Ён узнікае толькі ў займенніку *гэты,* у некаторых выклічніках *(гэй, га, го),* хоць у дыялектнай мове ён значна больш распаўсюджаны. Адсюль у літаратурную мову і трапляюць формы *гостры, гастрыць, гараць, гарапнік,* зафіксаваныя ў Белорусско-русском словаре (М., 1962). Ужываецца прыстаўны [г] незалежна ад фанетычнай пазіцыі.

Такім чынам, аналіз ужывання прыстаўных зычных паказвае, што ў сучаснай беларускай мове яны ўяўляюць досыць разнародную з'яву. Таму і фаналагічны падыход да іх не можа быць аднолькавым. Прыстаўны [в] перад [у] зараз не абумоўлены ніякімі фанетычнымі ўмовамі, бо ён ніколі не знікае. Таму відавочна, што [в] адыгрывае такую ж функцыянальную ролю, як і непрыстаўны. З пункту погляду фаналогіі прыстаўны [в] трэба разглядаць як асобную зычную фанему, тоесную /в/ перад іншымі галоснымі, а гэта азначае, што спалучэнне галоснага і прыстаўнога зычнага перад ім трэба разглядаць як дзве розныя фанемы. Такім жа чынам трэба разглядаць, безумоўна, прыстаўны [г] з наступным галосным.

Іншая карціна назіраецца ва ўжыванні прыстаўнога [й]. Ён выступае толькі ў пачатку слоў пасля паўзы і пасля галосных. Калі слова з прыстаўным [й] аказваецца пасля слова на зычны, то [й] знікае. Не бывае ён і перад ненаціскным [і]. Гэта азначае, што яго з'яўленне цалкам абумоўлена фанетычнай пазіцыяй. Таму яго нельга разглядаць як самастойную фанему. У гэтым выпадку мы маем справу с фанемай /і/, перад якой узнікае зычны прыгук у пэўных фанетычных умовах. Што да ўстаўнога [й], дык яго трэба разглядаць як асобную фанему /й/.

Ужыванне прыстаўнога зычнага [в] перад галосным [о] не заўсёды абумоўлена пазіцыяй. У выпадках, калі [в] знікае пры змяненні слоў і націск сыходзіць з [о], сітуацыя такая ж, як з [й] перад [і]: прыстаўны [в] цалкам абумоўлены фанетычнай пазіцыяй і не мае значэння для адрознення слоў, г. зн. яго трэба разглядаць як адну фанему з [о], як фанетычна абумоўленую мадыфікацыю [а]: *возера — азёры.* Калі [в] не знікае пры змене месца націску, яго трэба разглядаць як асобную фанему /в/, а спалучэнне галоснага з прыстаўным зычным — як двухфанемнае: *вочы — вачэй.*

Паколькі ў адных выпадках спалучэнне [в]+[о] выступае ў якасці адной фанемы, а ў другіх, безумоўна, з'яўляецца двухфанемным, у сістэме сучаснай мовы працэс выдзялення прыстаўных зычных у самастойныя фанемы трэба лічыць незавершаным. Пра гэта ж сведчыць і наяўнасць вымаўлення з [в] і без [в] перад гукам [а], які ўзнік з націскнога [о]. У гэтым выпадку мы маем справу з факультатыўнымі варыянтамі фанем: побач з фанемай, якая прадстаўлена спалучэннем [во] (/о/) выступае і двухфанемнае спалучэнне, якое таксама прадстаўлена спалучэннем гукаў [в]+[о] (/в/+/о/).

Неадназначная інтэрпрэтацыя спалучэнняў «прыстаўны зычны+галосны» цалкам апраўдваецца з марфалагічнага пункту погляду. Яна дазваляе дасягнуць стабільнасці фанемнага саставу марфем. На самай справе, у выпадку з [в] перад [у] і перад [о], калі [в] не знікае, у любых фанетычных пазіцыях будуць выступаць дзве фанемы /ву/; у выпадку з [й] перад [і] і з [в] перад [о], калі [в] знікае, на марфемным узроўні мы будзем мець адну фанему /і/ або /о/: [йін'ей] — /ін'ей/, *ад інею* [адын'ейу] — /ад-ін'ей-у/, [воз'ера] — *азёры* [аз'оры] — /аз'ор/.

### *Падоўжаныя зычныя гукі і іх суадноснасць з фанемамі*

§ 24. З фанетычнага пункту погляду ў беларускай мове амаль усе зычныя могуць быць падоўжанымі. Да іх адносяцца: [т], [д], [дз'], [с], [з], [с'], [з'], [ш], [ж], [ц], [ц'], [ч], [н], [н'], [л'], [б], [п], [к], [к']. Іх ужыванне можна праілюстраваць наступнымі прыкладамі: *адтуль* [аттýл'], *Замошша, ззаду, дваццаць, зжарыць* [жжáрыц'], *збожжа, сучча, аддаць, манна, аббрыць, палоззе, жыццё, разводдзе, ралля, сёння, мякка, мяккі.*

Артыкуляцыйна падаўжэнне зычных заключаецца ў павелічэнні часу артыкуляцыі асобных фаз адпаведных гукаў: у змычных і змычна-шчылінных затрымліваецца ў часе змычка моўных органаў, у шчылінных больш доўга вытрымліваецца шчыліна паміж органамі мовы. Паколькі у час артыкуляцыі змяняецца толькі адна яе фаза, то, безумоўна, артыкуляцыйна падоўжаныя змычныя, змычна-шчылінныя і шчылінныя зычныя ўяўляюць сабой адзінае гукавое ўтварэнне. Некалькі асобна стаіць у гэтым сэнсе [в], які ў суседстве з падобным да яго гукам (*захоўваць, распрацоўваць*) артыкуляцыйна складаецца з дзвюх частак: першая частка ўяўляе сабой губна-губную шчыліну, пры якой утвараецца [ў], а другая — у большасці выпадкаў губна-зубную шчыліну, якая характэрна для ўтварэння [в]. Таму ўжо на артыкуляцыйным узроўні відавочна, што гэта два розныя гукі.

Павелічэнне часу артыкуляцыі адлюстроўваецца ў гукавой хвалі большай працягласцю асобных акустычных сегментаў: у выбухных і афрыкат змычка павялічваецца прыкладна ў два разы, у фрыкатыўных у столькі ж павялічваецца фрыкатыўны сегмент. Паколькі ў выбухных і афрыкат падаўжаецца толькі змычка, то яны не могуць падаўжацца ў пачатку слова, бо ў глухіх выбухных змычка азначае поўную адсутнасць гукавой хвалі, а ў звонкіх ваганні галасавых звязак на змычцы, калі б яны працягваліся больш доўгі час, успрымаліся б як гудзенне. Таму спроба вымавіць у пачатку слова падоўжаны зычны прыводзіць не да падаўжэння, а да большай напружанасці або паўтарэння аднаго і таго ж гука двойчы: назіраюцца змычка і выбух, якія яшчэ раз паўтараюцца, што ў падоўжаных змычных і змычна-шчылінных ніколі не назіраецца. Фрыкатыўныя ж можна працягнуць і ў пачатку слова: *сшытак* — у вымаўленні [шшы́так], *зжаць* — у вымаўленні [жжац'] і г. д.

Такім чынам, артыкуляцыйна і акустычна падоўжаныя зычныя ўяўляюць сабой адзіны элемент (апрача [в]), які адрозніваецца ад адпаведных звычайных зычных толькі часам гучання. Ніякіх меж, якія б дазволілі раздзяліць падоўжаныя зычныя па акустычнай або артыкуляцыйнай карціне на два гукі, не назіраецца.

§ 25. Відавочна, што аснову фанемнай прыналежнасці падоўжаных зычных трэба шукаць на больш высокіх моўных узроўнях, і ў прыватнасці ў марфалогіі. Традыцыйна ў фанетыцы беларускай мовы адрозніваюць марфалагічнае і фанетычнае падаўжэнне. І сапраўды, аналіз усіх фанетычна падоўжаных зычных паказвае, што ў адных выпадках яўна праходзіць мяжа паміж марфемамі такім чынам, што яна падзяляе падоўжаны зычны на два аднолькавыя гукі, адзін з якіх належыць да папярэдняй марфемы, а другі да наступнай, напрыклад: *ззаду* — прыстаўка *з-* і корань *-зад-*, *аддаць* — прыстаўка *ад-* і корань *-да-*, *каменны* — корань *камен-* і суфікс *-н-*, *купацца* — *купац-* — аснова інфінітыва і *-ц-* з постфікса *-ца* і г. д. Гэта марфалагічнае падаўжэнне.

Пры марфалагічным падаўжэнні ніхто не сумняваецца, што падоўжаныя зычныя неабходна разглядаць як дзве аднолькавыя фанемы. Гэта зусім лагічна, бо кожны носьбіт мовы адчувае марфемы як асобныя часткі слова, надзеленыя сэнсам. Для адрознення марфалагічнага падаўжэння ад астатніх выпадкаў ужывання падоўжаных зычных (фанетычнае падаўжэнне) быў уведзены нават спецыяльны тэрмін п а д в о е н ы я  з ы ч н ы я. І хоць гэты тэрмін, як будзе паказана далей, не мае пад сабою грунтоўных падстаў, ён адлюстроўвае вельмі важную асаблівасць разгледжаных зычных фанем: адна з іх належыць да папярэдняй марфемы, другая да наступнай.

§ 26. Значна больш складаным з'яўляецца пытанне аб падоўжаных зычных, якія звычайна знаходзяцца на мяжы кораня і канчатка (тыпу *зелле, насенне, паводдзе, перадплечча* і г. д.) і гістарычна ўзыходзяць да спалучэнняў зычных з гукам [й]. У гэтых спалучэннях зычны адносіўся да кораня, а [й] быў суфіксам: *палоззе* з [*полоз-ьй-е*], *зацішша* з [*затиш-ьй-е*], *сучча* з [*суч-ьй-е*], *вуголле* з [*угол-ьй-е*], параўн. руск. *полозья, затишье, сучья, уголья.*

На месцы былых спалучэнняў «зычны+[й]» падаўжаюцца наступныя зычныя:

[л'] — *галлё, ралля, вяселле, крылле, наваколле, гніллю, моллю.* Часам памылкова сюды ж адносяць і выпадкі тыпу *чулліві, гулліві* і вытворныя ад іх, хоць тут відавочна, што першы гук [л'] адносіцца да кораня, а другі да суфікса прыметнікаў *-лів-*: *чул(ы)+лів+ы=чул-лів-ы*, параўн. *гавар(ыць)+лів+ы=гавар-лів-ы;*

[н'] — *пытанне, жаданне, свіння, сняданне, світанне, рунню;*

[з'] — *рыззё, палоззе, граззю, маззю;*

[с'] — *калоссе, кассё, рыссю, Палессе, воссю, крыссе;*

[дз'] — *абоддзе, разводдзе, паводдзе, суддзя;*

[ц'] — *смецце, выццё, сваццяя, трыццаццю, раццю;*

[ж] — *збожжа, бездарожжа, падарожжа;*

[ш] — *узвышша, зацішша, Замошша;*

[ч] — *сучча, ноччу, запечча, перадплечча.*

§ 27. Ужыванне ўсіх пералічаных падоўжаных зычных у сучаснай мове цесна звязана з пэўнымі тэматычнымі і граматычнымі разрадамі лексікі і некаторымі граматычнымі формамі слоў. У асноўным яны ўжываюцца:

а) у назоўніках ніякага роду, якія абазначаюць зборныя паняцці: *палоззе, рыззё, бадылле, скулле, суквецце, гніллё, сучча;*

б) у аддзеяслоўных назоўніках, якія прадстаўлены двума тыпамі — з падоўжаным [н'] (*праўленне, кіраванне, адыманне, складанне*) і з падоўжаным [ц'] (*набыццё, жыццё, пачуцце, піццё, ліццё, распяцце*). Гэтыя аддзеяслоўныя назоўнікі могуць абазначаць працэсы або набываць значэнне зборнасці ці нават канкрэтнасці (*ліццё* — як вынік працэсу, *праўленне* — як назва ўстановы);

в) у прыставачных назоўніках, якія абазначаюць месца: *прыбярэжжа, раздарожжа, узлессе, узвышша, зарэчча, заплечча, наваколле;*

г) у складаных назоўніках і некаторых прыставачных з адценнем зборнасці: *стагоддзе, многаўладдзе, мнагамужжа, мелкаводдзе, беззямелле, бязлессе;*

д) у назоўніках, утвораных ад прыметнікаў з розным адцягненым значэннем: *багацце, прыволле, вяселле, ранне;*

е) у назоўніках жаночага роду, часта суадносных з назоўнікамі мужчынскага роду: *бягуння, пявуння, пападдзя, свацця, Наталля;*

ж) у некаторых назоўніках з прадметным значэннем: *кассё, ружжо, келля, валлё;*

з) у творным склоне адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам: *цішшу, граззю, зеленню, мышшу, гніллю;*

і) у творным склоне лічэбнікаў: *пяццю, дзесяццю, трыццаццю*;

к) у некаторых прыслоўях, утвораных ад назоўнікаў: *ноччу, рыссю, уваччу.*

§ 28. Ва ўсіх пералічаных выпадках падоўжаныя зычныя развіліся толькі ў становішчы паміж галоснымі. Калі ж спалучэнню «зычны+[й]» папярэднічаў зычны, то падаўжэнне не развілося: *косцю, прадвесне, вусце*. Толькі ў адзінкавых словах падаўжэнне зычных развілося ў іншых пазіцыях. У слове *ззяць* і вытворных ад яго падоўжаны [з'] узнік у пачатку слова, безумоўна, з карэннага спалучэння [зй]. Формы дзеяслова *ліць* прынята вымаўляць [л'йу, л'йеш] і г. д., хоць дапускаецца і падоўжаны зычны [л'л'у, л'л'еш] і г. д.

У радзе выпадкаў падаўжэнне не звязана са спалучэннямі «зычны+[й]». У слове *ссаць* падаўжэнне [с] развілося ў выніку выпадзення рэдукаванага [ъ] у корані. З падзеннем рэдукаваных звязана і ўзнікненне падоўжанага [н] у суфіксе *-енн-: страшэнны, здаравенны.* У слове *мяккі* падаўжэнне [к] развілося таксама пасля падзення рэдукаваных у выніку асіміляцыйных працэсаў. Складаныя фанетычныя працэсы прывялі да ўтварэння падоўжанага [н'] у слове *сёння.*

Аналіз моўнага матэрыялу паказвае, што ў пералічаных разрадах лексікі і граматычных формах падоўжаныя зычныя з марфалагічнага пункту погляду з'яўляюцца неаднароднымі. У зборных назоўніках яны яўна распадаюцца на два аднолькавыя элементы, другі з якіх выконвае ролю суфікса, што надае яму пэўную самастойнасць.

На карысць гэтага сведчыць наяўнасць у назоўніках падобнага тыпу, корань якіх заканчваецца на губныя зычныя і [р], гістарычна першапачатковага суфікса [й], які захаваўся ў выніку ацвярдзення гэтых зычных перад зычнымі і на канцы слова: *зуб*-[й]-[е], *пер*-[й]-[е], *куп*-[й]-[о].

Словаўтваральная роля падаўжэння асабліва яскрава выступае пры параўнанні зборных назоўнікаў, якія суадносяцца з аднакарэннымі назоўнікамі — назвамі маладых істот, і адпаведнымі нязборнымі: *варона— вараннё — варанё, груган — груганнё — груганё* і г. д. Аднак і ва ўсіх іншых назоўніках гэтага тыпу лёгка заўважыць словаўтваральную ролю падаўжэння.

§ 29. У большасці зборных назоўнікаў падоўжаныя зычныя часам разглядаюць у межах іх гістарычнага чаргавання з непадоўжанымі,

якое выкарыстоўваецца для словаўтварэння: *варона* — *вараннё* (чаргаванне [н] — [н'н']), *полаз* — *палоззе* (чаргаванне [з] — [з'з']), *збажына* — *збожжа* (чаргаванне [ж] — [жж]), *сучок* — *сучча* (чаргаванне [ч] — [чч]). У такім выпадку падоўжаныя зычныя неабходна было б цалкам адносіць да кораня.

Аднак такі падыход не з'яўляецца абгрунтаваным. Разгледзім, напрыклад, зборны назоўнік *сучча*. Гістарычна ён утвораны ад назоўніка з адзінкавым значэннем *сук* шляхам далучэння суфікса *-ьй-* і канчатка. У выніку першай палаталізацыі адбылося чаргаванне [к] — [ч], а пасля падзення рэдукаваных [й] прыпадобніўся да [ч], і такім чынам узнікла [чч]. Ад назоўніка *сук* утвораны і назоўнік *сучок*, дзе таксама ўзнікла чаргаванне [к] — [ч] у выніку першай палаталізацыі перад старажытным суфіксам *-ьк-*, які ніяк не суадносіўся з суфіксам *-ьй-*. Такім чынам, *сучок* і *сучча* ні ў сучаснай мове, ні ў старажытнай прама не суадносяцца, а таму і няправільна было б [ч] — [чч] разглядаць як гістарычнае чаргаванне.

§ 30. Асабліва выразна відаць неправамоцнасць разгляду падоўжаных зычных у межах гістарычнага чаргавання з непадоўжанымі на прыкладзе некаторых назоўнікаў з іншых лексіка-граматычных груп. Несумненна, што ад назоўніка *ружжо* ў літаратурнай мове ўтвораны прыметнік *ружэйны*. У гэтым прыметніку [й] з'яўляецца зычным утваральнай асновы, а [е] — беглым галосным, які ўзнікае пад націскам. У выніку пераходу націску на канчатак у слове *ружжо* [е] знікае, а [й] цалкам прыпадабняецца да [ж]. Такім чынам, тут мае месца гістарычнае чаргаванне [й] — [ж], а не [ж] — [жж]. Наяўнасць чаргавання [й] — [ж] надае самастойнасць і аўтаномнасць другой частцы падоўжанага [жж] і сведчыць на карысць таго, што тут мы маем справу з дзвюма аднолькавымі фанемамі.

Аналагічныя адносіны выяўляюцца ў парах слоў *ліццё* — *ліцейны*, *келля* — *келейны*, *ладдзя* — *ладзейны*. У прыметніках *ліцейны*, *келейны*, *ладзейны* [й] таксама адносіцца да словаўтваральнай асновы, а галосны [е] — беглы. Такім чынам, у словах *ліцейны*, *келейны*, *ладзейны* выдзяляецца прыметнікавы суфікс *-н-*, а ў словах *ліцейня*, *ліцейшчык*, *келейнасць* — тыповыя суфіксы для адпаведных катэгорый назоўнікаў: *-н'-* (параўн. *харчэўня*, *піваварня*, *смольня*), *-шчык* (параўн. *зборшчык*, *правершчык*), *-асць* (*радасць*, *годнасць*). У выніку знікнення беглага галоснага і поўнага прыпадабнення [й] да папярэдняга зычнага ў словах *ліццё*, *келля*, *ладдзя* ўзніклі падоўжаныя зычныя. Такім чынам, і тут назіраецца чаргаванне [й] — [ц'], [й] — [л'], а не адпаведных простых і падоўжаных зычных. Таму і ў гэтых выпадках падоўжаныя трэба разглядаць як дзве фанемы. Морфы *-ц'ц'-* і *-цей-* трэба разглядаць як варыянты аднаго і таго ж суфікса. У абодвух варыянтах суфікс гэты з пункту погляду сучаснага стану мовы непадзельны, як і ў іншых аддзеяслоўных назоўніках (*шыццё*, *жыццё*, *мыццё*, *пачуцце*, *набыццё*). Аналагічнае чаргаванне [дз'] — [й] назіраецца ў словах *суддзя* — *судзейскі*.

Другі элемент падоўжаных зычных выступае як суфікс у назоўніках жаночага роду, суадносных з назоўнікамі мужчынскага роду: *бягун-н-я*, *пявун-н-я*. У формах назоўніка *свіння* назіраецца чаргаванне [й] — [н'], параўн. *свіння* — *свіней*. У форме роднага склону множнага ліку *свіней* [й] адносіцца да асновы, а [е] з'яўляецца беглым галосным, хоць часта памылкова *-ей* лічаць канчаткам. Хутчэй за ўсё гэты назоўнік гістарычна ўтвораны ад назоўніка *свін*, які зараз у беларускай мове не ўжываецца, хоць гэты корань у звязнай форме сустракаецца ў радзе слоў: *свінапас*, *свінаматка*, *свінар*, *свінскі*. Магчыма, з гэтым коранем звяза-

ны *свінячы, свінячыць,* хоць адсутнасць падоўжаных тут можа быць растлумачана і па-іншаму. У тых гаворках, якім уласцівы падоўжаныя зычныя, адбылося выроўніванне асноў і ва ўсіх склонах прадстаўлены падоўжаны [н'н'].

Як суфікс трэба разглядаць толькі другі элемент падоўжаных зычных і ў іншых лексіка-граматычных разрадах назоўнікаў, акрамя аддзеяслоўных з суфіксам *-нн-* [н'н'], які з'яўляецца непадзельным: *кірава-нн-е, склада-нн-е, снеда-нн-е.*

Калі прааналізаваць усе выпадкі, дзе другі элемент падоўжаных зычных выступае або як самастойны суфікс, або набывае самастойнасць у сувязі з чаргаваннем «адпаведны зычны — [й]», то акажацца, што колькасць такіх выпадкаў будзе роўнай колькасці падоўжаных зычных. Па значэнню падобныя суфіксы групуюцца ў вельмі невялікую колькасць тыпаў. Таму дакладней гаварыць не аб суфіксах *-л'-, -н'-, -з'-, -ж-* і г. д., а аб суфіксу, які выражаецца падаўжэннем. Такім чынам, найбольш дакладны марфалагічны запіс будзе: *суч*-{:}-а, *бягу*[н']-{:}-[а], *бага*[ц']-{:}-[е], *вясе*[л']-{:}-[е] і г. д., дзе {:} абазначае падаўжэнне папярэдняга зычнага.

Паколькі у большасці выпадкаў марфемная мяжа падзяляе падоўжаныя зычныя на два элементы, іх трэба разглядаць як дзве аднолькавыя фанемы.

§ 31. Асобную праблему падзелу на марфемы ўяўляюць формы творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў жаночага роду на зычны і колькасных лічэбнікаў. Адносна падоўжаных зычных у гэтай форме існуе па меншай меры два пункты погляду. Згодна з адным з іх, яна характарызуецца канчаткам *-у* і чаргаваннем «зычны — падоўжаны зычны». У такім разе марфемная мяжа праходзіць пасля падоўжанага зычнага: [го́л'л'-у], [гра́з'з'-у], [трыццац'ц'-у́]. Марфемную мяжу можна праводзіць таксама пасля першай часткі падоўжанага зычнага, расчляняючы яго на два аднолькавыя гукавыя элементы.

Калі прытрымлівацца агульнапрынятага вызначэння канчатка як зменнай часткі слова, якая паказвае на сінтаксічную сувязь яго з іншымі словамі, то другі пункт погляду здаецца зусім лагічным і абгрунтаваным. Падзел на марфемы будзе наступны: *ноч-чу, ціш-шу, гол-лю, трыццац-цю, пяц-цю* і г. д.

І тут элементам канчатка можна разглядаць падаўжэнне, а не яго канкрэтнае ўвасабленне ў [ч], [ш], [ц'], [з'], [ж], [н'], [л'], [с'], [дз']: [но́ч-{:}-у], [гра́з'-{:}-у], [ціш-{:}-у], [пяц'-{:}-у́], [гні́л'-{:}-у] і г. д.

У гэтым выпадку атрымліваюцца канчаткі, аналагічныя канчаткам назоўнікаў гэтага ж тыпу скланення, аснова якіх заканчваецца на губны зычны і [р]: *глыб — глыб'ю* [глы́б-йу], *кроў — кроўю* [кро́ў-йу], *шыр — шыр'ю* [шы́р-йу] (параўн., аднак, *крывёй* [крыв'-о́й], дзе канчатак *-ой* узнік пад уплывам назоўнікаў тыпу *зямля*). Такому пункту погляду імпануе і гісторыя развіцця падоўжаных зычных з [й].

Паяўленне канчатка, у склад якога не ўваходзіць зычны [ко́с'ц'-у], [шас'ц'-у́], трэба разглядаць як яшчэ адзін варыянт канчатка творнага склону.

Такім чынам, і ў творным склоне падоўжаныя зычныя правільна разглядаць як спалучэнне дзвюх фанем, а марфемную мяжу праводзіць паміж імі.

§ 32. Паколькі прыслоўі тыпу *ноччу, рыссю* ўзыходзяць да формы творнага склону, то іх марфемную будову неабходна разглядаць у цеснай сувязі з гэтай формай: [ноч-{:}-у], [ры́с'-{:}-у].

§ 33. У беларускай мове па цвёрдасці — мяккасці адрозніваецца 14 пар гукаў: [п] — [п'], [б] — [б'], [м] — [м'], [в] — [в'], [ф] — [ф'], [т] — [ц'], [дз] — [дз'], [с] — [с'], [з] — [з'] — [н] — [н'], [л]— [л'], [к] — [к'], [г] — [г'], [х] — [х']. Улічваючы артыкуляцыйныя і акустычныя ўласцівасці гэтых гукаў, а таксама асаблівасці іх успрымання, лагічна прыняць адно з трох фаналагічных рашэнняў: 1) лічыць, што процістаўляюцца цвёрдыя і мяккія зычныя, а больш пярэдняе або больш задняе ўтварэнне галосных, іх акустычныя ўласцівасці і асаблівасці ўспрымання разглядаць як цалкам абумоўленыя папярэднімі зычнымі; 2) лічыць, што процістаўлены галосныя, а цвёрдасць або мяккасць зычных абумоўлена наступнымі галоснымі; 3) лічыць, што процістаўляюцца цэлыя склады па цвёрдасці і мяккасці і яны з'яўляюцца непадзельнымі адзінкамі, якімі адрозніваюцца словы.

Відавочна, што ад выбару аднаго з гэтых рашэнняў залежыць большая або меншая колькасць фанем. Нягледзячы на тое, што традыцыйна заўсёды прымаецца першае рашэнне, г. зн. выдзяляюцца самастойныя мяккія фанемы, вельмі часта, напрыклад, у слове *лёс* называецца галосны [ё], у слове *лясы* — галосны [я] і г. д. і адначасова называецца зычны [л]. Зразумела, тут відавочная блытаніна гукаў і літар, але ж яна падтрымліваецца тым, што ў складах *лё — ло, ля → ла* галосныя адрозніваюцца не менш, чым зычныя.

Разгляд спалучэнняў «зычны+галосны» як аднафанемных быў бы поўнасцю апраўданы ў тым выпадку, калі б не было закрытых складоў і шматлікіх спалучэнняў зычных. Наяўнасць закрытых складоў азначае, што магчымы мяккія зычныя і не перад галоснымі. І сапраўды, у беларускай мове мяккія зычныя могуць быць у канцы слоў і перад зычнымі. Таму, акрамя фаналагічных адзінак тыпу склада, неабходна было б уводзіць і фаналагічныя адзінкі, суадносныя толькі з мяккімі зычнымі. Наяўнасць закрытых складоў робіць іх колькасць у мове неабмежаванай, што таксама не дазваляе разглядаць склад як простую фаналагічную адзінку.

Не падыходзіць і другое рашэнне, таму што мяккасць зычных не заўсёды абумоўлена наступнымі галоснымі, бо мяккія зычныя сустракаюцца і ў незалежнай ад галосных пазіцыі. Калі лічыць, што склады адрозніваюцца галоснымі, то, акрамя павелічэння колькасці галосных фанем у два разы, зноў жа патрабуецца ўводзіць дадаткова мяккія зычныя фанемы для пазіцый канца слова і перад зычнымі. Спроба разглядаць у гэтых пазіцыях мяккія зычныя як спалучэнне «цвёрды зычны+[й]» не з'яўляецца ўдалай, бо ў такім выпадку [й] аказаўся б у канцы слова і перад глухімі зычнымі, што прынцыпова не характэрна для беларускай мовы.

Такім чынам, вызначальнай пазіцыяй для фаналагічнага аналізу цвёрдых і мяккіх зычных з'яўляецца іх становішча ў канцы слова і перад зычнымі, а гэта азначае, што трэба разглядаць мяккія зычныя як самастойныя фанемы, а галосныя пасля іх — як абумоўленыя пазіцыяй варыянты гукаў, якія адносяцца да тых жа фанем, што і іх варыянты пасля цвёрдых зычных. Аднак тут не могуць быць процістаўлены губныя гукі: [б] — [б'], [п] — [п'], [м] — [м'], [ф] — [ф'], [в] — [в']. Значна абмежавана ўжыванне мяккіх членаў процістаўлення [д] — [дз'], [з] — [з'] у выніку дзеяння закону аглушэння звонкіх зычных. Фаналагічнасць цвёрдых і мяккіх зычных найбольш поўна выражана толькі ў [ц'] — [т], [с'] — [с], [н'] — [н], [л'] — [л], якія шырока процістаўлены ў канцы слова і перад зычнымі: *банка — банька,*

*быт — быць, вугал — вугаль, плот — плоць, рыс — рысь* і г. д. Іншыя ж пары цвёрдых і мяккіх зычных, хоць і проціпастаўляюцца ў вызначальнай пазіцыі, павінны разглядацца з фаналагічнага пункту погляду так, як і пары, проціпастаўленне якіх відавочна. З гэтых меркаванняў і трэба зыходзіць пры выдзяленні мяккіх фанем.

§ 34. Сярод пар мяккіх і цвёрдых зычных асобнае месца займаюць заднеязычныя. Як ужо адзначалася, /к/ і /к'/, /г/ і /г'/ у беларускай мове з'яўляюцца адносна новымі, бо проціпастаўленне гукаў [к] — [к'], [г] — [г'] развілося галоўным чынам за кошт запазычанай лексікі. З фанетычнага пункту погляду гукі ў пары [х] — [х'] адрозніваюцца не менш, чым ва ўсіх астатніх парах цвёрдых і мяккіх зычных. Калі ж разглядаць іх з пункту погляду проціпастаўлення, дык маюцца істотныя адрозненні. Пара [х] — [х'] не сустракаецца ў аднолькавай фанетычнай пазіцыі, бо [х'] можа быць толькі перад [і] *(стрэхі, хітры)*, а таксама перад [е], калі гэты гук не з'яўляецца канчаткам: *хеўра, шляхетны*. Ва ўсіх астатніх выпадках ужываецца толькі [х]. Таму нельга знайсці не толькі слоў, але і складоў, якія б адрозніваліся толькі [х] і [х']. Гэта азначае, што абодва гэтыя гукі адносяцца да адной фанемы /х/.

§ 35. Сама пастаноўка пытання аб фанематычнасці мяккіх зычных сведчыць, што парныя мяккія і цвёрдыя ўспрымаюцца як вельмі блізкія гукі, і гэта блізкасць падмацоўваецца іх функцыяніраваннем. Сапраўды, пры змене фанетычных пазіцый назіраецца чаргаванне цвёрдых з мяккімі і мяккіх з цвёрдымі гукамі, у выніку чаго адбываецца нейтралізацыя іх проціпастаўлення: *аграбіць — аграб, эканоміць — эканом* (загадны лад), *эканом* (назоўнік), *стол — на* [стал'é], *сцяна — на* [с'ц'ан'é] і г. д. Чаргаванне мяккіх зычных з цвёрдымі ахоплівае галоўным чынам губныя зычныя, у той час як чаргаванне цвёрдых з мяккімі ахоплівае ўсе астатнія зычныя і значна больш пашырана. На аснове гэтых чаргаванняў выдзяляюцца карэляцыйныя пары цвёрдых і мяккіх фанем /п/ — /п'/, /б/ — /б'/, /м/ — /м'/, /в/ — /в'/, /ф/ — /ф'/, /с/ — /с'/, /з/ — /з'/, /н/ — /н'/, /л/ — /л'/, /к/ — /к'/, /г/ — /г'/.

§ 36. Больш складаная сітуацыя ўзнікае пры фаналагічным аналізе адносін паміж фанемамі /ц/, /ц'/ і /т/. З пункту погляду артыкуляцыі і акустычных уласцівасцей гукі [ц] і [ц'] розняцца паміж сабой у такой жа ступені, як і іншыя пары цвёрдых і мяккіх зычных: [с] — [с'], [з] — [з'], [н] — [н']. З пункту погляду фаналогіі [ц] і [ц'] несумненна проціпастаўлены: *цэлы — целы, цыркаць — цір, цэгла — цягло* і г. д. Хоць і без чаргавання, але ўсё ж назіраюцца выпадкі пераходу [ц] у [ц']: [ц'в'ік], [ц'в'іц'éн'н'е], [ц'в'іл']. У дыялектнай мове і ў прастамоўі назіраецца і адваротны пераход [ц'] у [ц]: [санцы́м'етр]. Літаратурным лічыцца вымаўленне *ціпка, ціпачка, ціп-ціп* з *цыпка, цыпачка, цып-цып*, якія або ўжываюцца як фанетычныя дублеты, або набылі іншае значэнне. Гэта дазваляе сцвярджаць, што пэўнае функцыянальнае збліжэнне паміж фанемамі /ц/ і /ц'/ адбылося. Аднак карэляцыйная сувязь усё ж захоўваецца паміж /т/ і /ц'/. І гэта не таму, што /ц'/ у большасці выпадкаў паходзіць з /т/. Галоўнай прычынай захавання карэляцыі /т/ — /ц'/ застаюцца шматлікія чаргаванні /т/ з /ц'/ пры змене формы слова і пры словаўтварэнні, калі змяняюцца і фанетычныя ўмовы ўжывання [т]: *хата — у хаце, свята — аб свяце, брат — брацік, кот — кацяня* і г. д.

Адносіны паміж фанемамі /дз/, /дз'/ і /д/ значна больш відавочныя і празрыстыя. Паколькі [дз] сустракаецца выключна рэдка, ніякіх функцыянальных адносін паміж фанемамі /дз/ і /дз'/ не ўстанавілася, хоць фанетычнае падабенства паміж гукамі [дз] і [дз'] такое, як паміж

[ц] і [ц']. На аснове чаргавання ў саставе марфем [д] — [дз'] адназначна вызначаецца карэляцыя фанем /д/ — /дз'/.

§ 37. Па-за карэляцыяй цвёрдых і мяккіх зычных, акрамя фанемы /й/, пра якую гаварылася вышэй, знаходзяцца фанемы, якія не маюць парных мяккіх — няпарныя па цвёрдасці — мяккасці. Шырока распаўсюджана іх назва — зацвярдзелыя зычныя, з якой звязан рад няправільных сцвярджэнняў адносна іх уласцівасцей.

Да цвёрдых зычных, якія ў беларускай мове ніколі не змякчаюцца, належаць [ж], [ш], [дж], [ч], [ц], [р]. Зычныя [ж], [ш], [дж], [ч], [ц] у розныя гістарычныя перыяды былі толькі мяккімі, але затым зацвярдзелі. Таму ў беларускай мове за імі і замацавалася назва зацвярдзелых. Што да [р], дык ён раней меў мяккі адпаведнік [р'], які затым зацвярдзеў. Таму зацвярдзелым з'яўляецца не ўсякі [р], а толькі той, які ўзнік з мяккага [р'].

Вельмі ўмоўна можна назваць зацвярдзелым і [ц]. У радзе выпадкаў яўна адбылося яго памякчэнне перад [в']. Параўн.: запазычанае *цвік* [ц'в'ік] і вытворныя ад яго, *цвінтар,* а таксама слав. *цвіль, цвет* і ўсе іх вытворныя.

Таму відавочна, што назва «зацвярдзелыя зычныя» з'яўляецца вельмі ўмоўнай і не апраўдваецца ні з пункту погляду гісторыі зычных, ні з пункту погляду іх сучаснага ўжывання. Цалкам гэта назва магла б быць прыменена толькі да шыпячых. Ва ўсякім разе не прыходзіцца гаварыць аб якой-небудзь спецыфіцы іх ужывання ў беларускай мове параўнальна з цвёрдымі. З сучаснага пункту погляду да іх лепш прымяняць тэрмін «няпарныя па цвёрдасці — мяккасці цвёрдыя зычныя». Правіла аб правапісе галосных пасля гэтых зычных, якое звычайна прыводзіцца ва ўсіх школьных падручніках і маецца ў Правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі (Мн., 1959), з'яўляецца зусім лішнім, бо ніякай розніцы паміж правапісам пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных няма. Відавочна, яно створана пад уплывам рускай мовы, дзе сапраўды правапіс галосных пасля шыпячых і [ц] вызначаецца тым, што, нягледзячы на цвёрдасць гэтых гукаў, галосныя літары пасля іх пішуцца як пасля мяккіх.

§ 38. З катэгорыяй цвёрдых і мяккіх зычных цесна звязаны асаблівасці скланення назоўнікаў (назоўнікі з асновай на [г], [к], [х] тут не разглядаюцца), бо асаблівасці іх скланення звязаны не толькі з цвёрдасцю — мяккасцю зычных.

У назоўніках з цвёрдай і мяккай асновай назіраецца адрозненне ў канчатках меснага склону адзіночнага ліку другога скланення, меснага і давальнага склону адзіночнага ліку першага скланення. Параўн. скланенне назоўнікаў з цвёрдай і мяккай асновамі першага скланення *сын, алень* і другога скланення *ніва, хваля:*

*Д. сыну, аленю, ніве, хвалі*
*М. (аб) сыне, алені, ніве, хвалі*

З цвёрдасцю і мяккасцю зычных асновы звычайна звязваецца і ўжыванне канчаткаў *-е* або *-у* назоўнікаў, якія з'яўляюцца агульнымі або ўласнымі назвамі асоб, параўн.: *аб вучню, кавалю, Міхасю* і *аб сыне, гарманісце, Міколе.*

У скланенні назоўнікаў на зацвярдзелы выяўляюцца асаблівасці, звязаныя з былой мяккасцю гэтых гукаў. Яны звычайна маюць канчаткі, якія фаналагічна супадаюць з канчаткамі назоўнікаў з асновай на мяккі, а не на цвёрды зычны. Параўн. скланенне назоўнікаў *завод* (цвёрдая аснова), *корч* (аснова на зацвярдзелы зычны), *дзень* (мяккая аснова):

Н. *завод, корч, дзень*
Р. *завода, карча, дня*
Д. *заводу, карчу, дню*
В. *завод, корч, дзень*
Т. *заводам, карчом, днём*
М. *(аб) заводзе, карчы, дні*

Тое ж назіраецца і ў другім скланенні:

Н. *сцяна, шаша, зямля*
Р. *сцяны, шашы, зямлі*
Д. *сцяне, шашы, зямлі*
В. *сцяну, шашу, зямлю*
Т. *сцяной, шашой, зямлёй*
М. *(аб) сцяне, шашы, зямлі*

Характэрна, што назоўнікі з асновай на [р] незалежна ад яго паходжання (зацвярдзелы ці не) скланяюцца як назоўнікі з мяккай асновай. Толькі ў назоўніку *двор* яшчэ зрэдку праяўляецца прыналежнасць [р] да цвёрдай асновы (*на дварэ*). Зразумела, трэба браць пад увагу той факт, што гукі [ы] і [і] адносяцца да адной фанемы /і/.

### *Глухія і звонкія фанемы*

§ 39. Звонкія і глухія зычныя фанемы ўтвараюць суадносны рад, які складаецца з 11 пар фанем: /б/ — /п/, /б'/ — /п'/, /д/ — /т/, /дз'/ — /ц'/, /з/ — /с/, /з'/ — /с'/, /ж/ — /ш/, /дж/ — /ч/, /г/ — /х/, /г/ — /к/, /дз/ — /ц/. З гэтых пар фанем найбольш слаба працiпастаўлены /дз/ — /ц/, /г/ — /к/, таму што гукі /дз/ і /г/ выбухны вельмі рэдкаўжывальныя, пры гэтым, як ужо адзначалася, /г/ выбухны з'яўляецца факультатыўным варыянтам фанемы /г/.

Процiпастаўленне глухіх і звонкіх фанем найбольш поўна праяўляецца перад галоснымі гукамі. Толькі [б'] — [п'] слаба процiпастаўлены перад [у] у сувязі з тым, што перад гэтай фанемай [б'] і [п'] сустракаюцца галоўным чынам у запазычаных словах: *бюро, пюрэ, купюра, бювар, бюст* і г. д. Захоўваецца гэта процiпастаўленне і перад санорнымі з той толькі асаблівасцю, што перад імі фанемы /б'/ і /п'/ не сустракаюцца, а /дз'/, /ц'/, /с'/, /з'/ бываюць рэдка толькі перад /м/: *дзьмуць, цьма, пісьмо, вязьмо*. Толькі зрэдку перад санорнымі процiпастаўлены і /дж/ — /ч/: *дажджлівы — зычлівы*.

Наяўнасць карэлятыўных адносін паміж парнымі глухімі і звонкімі зычнымі фанемамі пацвярджаецца тым, што ў радзе фанетычных пазіцый яны супадаюць у адным гуку. У канцы слоў і перад глухімі звонкія зычныя аглушаюцца, у выніку ў межах адной і той жа марфемы назіраецца чаргаванне звонкіх зычных з глухімі:

*грыбам*—|—[грып]  *каса*—|—[кос]  *ношак*—|—[ношка]
*грыпам*—|  *каза*—|  *ножак*—|

Такім жа чынам перад звонкімі зычнымі глухія азванчаюцца і ўзнікае чаргаванне глухіх са звонкімі: *касіць — касьба* [каз'ба́], *прасіць — просьба* [про́з'ба], *малаціць — малацьба* [маладз'ба́], *лічыць — лічба* [л'іджба] і г. д.

§ 40. Як вядома, у беларускай арфаграфіі прынята правіла, засна-

ванае на марфалагічным прынцыпе, згодна з якім чаргаванне глухіх і звонкіх зычных або звонкіх і глухіх не перадаецца на пісьме, а ва ўсіх пазіцыях абазначаецца той гук, які чуецца ў становішчы перад галосным. На словаўтварэнне і словазмяненне гэта карэляцыя зычных істотнага ўплыву не аказвае.

§ 41. Значная колькасць зычных гукаў пар па глухасці — звонкасці не складае. Да няпарных фанем у беларускай мове адносяцца: /в/, /в'/, /ф/, /ф'/,/л/, /л'/, /м/, /м'/, /н/, /н'/, /р/, /й/. Па сваіх функцыянальных уласцівасцях яны распадаюцца на дзве групы. Да першай адносяцца /ф/ і /ф'/, якія, артыкуляцыйна і акустычна адносячыся да глухіх, маюць і ўсе іх уласцівасці. Перад імі звонкія зычныя аглушаюцца, параўн.: *грабіць,* а л е *сфармуляваць; адлучыць,* а л е *адфрэзераваць* [атфрэз'ераваíц']. Гук /ф/ перад звонкімі зычнымі ([ф'] у гэтай пазіцыі ў беларускай мове амаль не ўжываецца) мае тэндэнцыю да пераходу ў [ў] — азванчаецца; звычайна ў гутарковай мове вымаўляюць [Аўган'іста́н], [аўга́н'ец], [аўга́н'і].

Да другой групы адносяцца ўсе астатнія няпарныя. Большасць з іх артыкуляцыйна і акустычна істотна адрозніваецца ад звонкіх зычных, галоўным чынам умовамі вылучэння гукавой хвалі, хоць назіраюцца і сходныя рысы, асабліва ў [в] і [в']. Аднак найбольш істотныя і паслядоўныя адрозненні назіраюцца ў функцыяніраванні. Перад імі не адбываецца азванчэнне глухіх, параўн.: *сляпіць* і *зляпіць, срэбны* і *зрэбны, зняць* і *сняць, двор* і *твор, б'юць* [бйуц'] і *п'юць* [пйуць], *смялець* (ад *смелы)* і *змялець* (ад *мелкі)* і г. д. Уся гэта група зычных, такім чынам, з функцыянальнага боку не мае нічога агульнага са звонкімі зычнымі (тым больш з глухімі) і ўтварае прынцыпова новы клас зычных, найбольш распаўсюджаная назва якога — с а н о р н ы я. Іх называюць часам с а н а н т а м і прымяняльна да тых моў, у якіх яны здольны выступаць у якасці складаўтваральных элементаў побач з галоснымі.

І сапраўды, нават у мовах, у якіх яны не могуць быць складаўтваральнымі, у прыватнасці ў беларускай, паміж імі і галоснымі існуе не толькі акустычнае, але і функцыянальнае падабенства. Яно заключаецца ў тым, што перад санорнымі і глухія, і звонкія зычныя гучаць так, як перад галоснымі. Іменна таму перад санорнымі лёгка выяўляецца проціпастаўленне глухіх і звонкіх.

§ 42. Са сказанага відаць, што назва, якая была першапачаткова выкарыстана і якая з'яўляецца традыцыйнай — няпарныя па глухасці — звонкасці зычныя — няправільна адлюстроўвае асноўную функцыянальную асаблівасць санорных. Самым істотным для іх з'яўляецца не тое, што яны не маюць адпаведных парных глухіх, а тое, што яны паводзяць сябе адносна глухіх і звонкіх так, як і галосныя. У сувязі з гэтым, напрыклад, няма патрэбы правяраць напісанне глухіх і звонкіх зычных перад санорнымі, а можна пісаць, што чуецца. Наадварот, пры напісанні слоў, у якіх ёсць спалучэнні глухіх або звонкіх зычных, іх можна змяняць так, каб пасля гука, які трэба праверыць, аказаўся санорны, бо няясны гук будзе такім жа, як і перад галоснымі, параўн.: [дарошка], а л е [дарожны] або [дарожак], [дарожан'ка].

Важнай асаблівасцю санорных у беларускай мове з'яўляецца тэндэнцыя да ўжывання іх у непасрэдным суседстве з галоснымі. Гэта тэндэнцыя асабліва паслядоўна праводзіцца для /р/, /л/, /л'/, /в/, /в'/, /й/, /н/, /н'/ і некалькі менш паслядоўна для /м/, /м'/. Гукі [м], [м'] часта сустракаюцца і не побач з галоснымі, але зычным, які аддзяляе іх ад галоснага, звычайна з'яўляецца іншы санорны: *многа, фільм, корм, мне.*

Адхіленняў ад тэндэнцыі ўжывання санорных у непасрэдным сусед-

стве з галоснымі ў беларускай мове няшмат: *мсцівец* і ўсе аднакарэнныя з ім словы; *стогн, гімн* і некаторыя іншыя запазычаныя словы: *рэзерв, нерв, В'етнам, спектакль, ансамбль, міністр.* Варта адзначыць, што пры вымаўленні гэтых слоў часта адбываюцца пэўныя фанетычныя змены, напрыклад, словы тыпу *нерв* часцей ужываюцца ў множным ліку, у словах тыпу *стогн, спектакль, міністр* паяўляецца рэдукаваны галосны, які можа развівацца ў нармальны гук, параўн.: *горан* з *горн, дзёран* з *дзёрн, бабёр* з *бобр* і г. д. У радзе слоў адбылося адпадзенне канцавых санорных: *боязь, жандар, Мсціслаў, жораў,* параўн. руск. *боязнь, жандарм, Мстиславль, журавль.*

Безумоўна, з гэтай уласцівасцю санорных звязана паяўленне прыстаўных галосных. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца той факт, што ў звязнай мове яны бываюць перад збегам зычных, першым з якіх з'яўляецца санорны, толькі ў тых выпадках, калі папярэдняе слова заканчваецца на зычны. Калі ж папярэдняе слова заканчваецца на галосны і адсутнічае паўза, то санорны знаходзіцца ў суседстве з галосным і прыстаўны галосны не ўзнікае, параўн.: *ён ірваў* і *яна рвала, дождж імжыць* і *перастала мжыць* і г. д.

§ 43. У марфалогіі з асаблівасцямі функцыяніравання санорных непасрэдна звязана ўжыванне некаторых канчаткаў, напрыклад *-аў, -яў* у родным склоне множнага ліку назоўнікаў жаночага роду: *урнаў, багнаў, чапляў, лазняў, коўдраў, выдраў.* Відавочна, распаўсюджванне канчаткаў *-аў, -яў* у назоўніках жаночага роду выклікаецца і пэўнымі марфалагічнымі прычынамі, аднак у радзе назоўнікаў прычынай развіцця гэтых канчаткаў з'явіліся чыста фанетычныя ўмовы — тэндэнцыя санорных да ўжывання па суседству з галоснымі. Гэта меркаванне падмацоўваецца і тым фактам, што існуюць шматлікія дублетныя формы назоўнікаў жаночага роду ў родным склоне множнага ліку з канчаткам *-аў, -яў* або з чыстай асновай, але з беглым галосным у канцавым спалучэнні зычных: *соснаў* і *сосен, вёснаў* і *вёсен, вёдраў* і *вёдзер* і г. д.

### *Карэляцыя шыпячых і свісцячых зычных*

§ 44. Шыпячыя і свісцячыя ўтвараюць наступныя суадносныя пары фанем: /с/—/ш/, /з/—/ж/, /дж/—/дз/, /ч/—/ц/.

Проціпастаўленне гукаў [дж]—[дз] практычна не прадстаўлена, бо абодва гэтыя гукі вельмі рэдкія, прычым [дж] у большасці выпадкаў абмежаваны пэўнымі словаўтваральнымі тыпамі слоў. Па-за парамі застаюцца свісцячыя /с'/ і /з'/. Але функцыянальна яны цесна звязаны з /ш/ і /ж/, у сувязі з чым можна гаварыць і аб парах /с'/—/ш/, /з'/—/ж/ побач з парамі /с/—/ш/, /з/—/ж/. Пра гэта сведчыць, напрыклад, поўная асіміляцыя [ш] наступным [с'] у зваротных формах дзеяслова другой асобы адзіночнага ліку (*купаеш — купаешся* [купа́йес'с'а], *мыеш — мыешся* [мы́йес'с'а]) і ў форме загаднага ладу (*зарэж* [зарэ́ш] — *зарэжся* [зарэ́с'с'а]), якая шырока распаўсюджана ў мове многіх носьбітаў літаратурнай мовы. Чаргаванне /з'/—/ж/ магчыма толькі зрэдку на стыках двух слоў у звязнай мове пры досыць паспешлівым вымаўленні ([за́в'ажжа] — *завязь жа*), таму карэляцыйная пара /з'/—/ж/ хоць і цалкам апраўдана, але не падмацоўваецца практыкай ужывання ў мове.

Карэлятыўныя адносіны паміж астатнімі парамі шыпячых і свісцячых падмацоўваюцца радам фактаў. У сувязі з рознымі марфалагічнымі зменамі шыпячыя могуць аказацца перад свісцячымі, а свісцячыя— перад шыпячымі. У гэтым выпадку дзейнічае заканамернасць, згодна з якой шыпячыя перад свісцячымі вымаўляюцца як свісцячыя, а свіс-

цячыя перад шыпячымі — як шыпячыя: *спытаць — сшыць* [шшыц'], *язда — езджу* [йе́жджу], *печка — печцы* [п'е́ццы]. Толькі ў давальным склоне назоўнікаў звычайна захоўваецца [ш] перад [ц]: [но́шцы], [ко́шцы] і г. д.

Такім чынам, карэляцыя шыпячых і свісцячых парных зычных не мае істотнага значэння для марфалогіі, але яе неабходна ўлічваць пры вывучэнні правапісу, паколькі правілы перадачы на пісьме шыпячых і свісцячых заснаваны на марфалагічным прынцыпе.

§ 45. Паколькі ў беларускай мове афрыкаты [ч], [дж] з'яўляюцца шыпячымі, а [ц], [дз] — свісцячымі, то карэляцыя адпаведных афрыкатыўных фанем з выбухнымі аказваецца вельмі блізкай да карэляцыі шыпячых і свісцячых зычных фанем.

Калі выбухныя зычныя аказваюцца перад афрыкатамі, то яны змяняюцца на адпаведныя афрыкаты: *ад+чуць* [аччу́ц'], *ад+чыніць* [аччын'іц'], *налад+чык* [нала́ччык], *карыт+ца* [кары́цца], *склад+цы* [скла́ццы] і г. д. У выніку поўнай асіміляцыі ўзнікае карэляцыйная сувязь паміж фанемамі /д/, /т/, з аднаго боку, і /ч/, /ц/ — з другога. Яна знаходзіць праяўленне і ў сцяжэнні выбухных з фрыкатыўнымі пры словаўтварэнні: *горад + ск + і = гарадскі* [гарацкі], *грамад + ств + а = грамадства* [грама́цтва] і г. д. У выніку падобнага працэсу паявілася і спалучэнне *-цц-* у інфінітыве і ў форме 3-яй асобы адзіночнага і множнага ліку зваротных дзеясловаў: *купацца — купаецца — купаюцца, мыцца — мыецца — мыюцца* і г. д.

Аднак падобная з'ява характэрна толькі для канца слова. У яго пачатку сцяжэнне звычайна не адбываецца і процістаўленне афрыкат і спалучэнняў выбухных са шчылiннымі захоўваецца. На слых добра адрозніваюцца, напрыклад, словы *ачумець* і *адшумець* [атшум'е́ц'] або [ачшум'е́ц'], *пацадзіць* і *падсадзіць* [патсадз'і́ц'] або [пацсадз'і́ц'] і г. д.

### *Чаргаванне фанем*

§ 46. Як ужо адзначалася, у залежнасці ад фанетычных умоў змяняецца і якасць гукаў. Напрыклад, у становішчы паміж цвёрдымі зычнымі прадстаўлены галосныя [а], [о], [э], [у], [ы], паміж мяккімі зычмі выступаюць галосныя больш пярэдняга рада, якія характарызуюцца наяўнасцю пачатковага і канцавога *і*-падобных пераходных участкаў. Пасля цвёрдых зычных перад мяккімі выступаюць галосныя з *і*-падобным канцавым пераходным участкам, пасля мяккіх зычных перад цвёрдымі яны маюць *і*-падобны пачатковы пераходны ўчастак. Гэтыя фізічна розныя гукі нясуць адну і тую ж функцыянальную нагрузку і аб'ядноўваюцца ў адну і тую ж фанему.

Паколькі якасць гукаў цесна звязана з фанетычнымі ўмовамі, яны ўтвараюць паралельныя рады, колькасць гукаў у кожным з якіх аднолькавая. У прыведзеным прыкладзе ў кожнай з фанетычных пазіцый 5 галосных гукаў, якія суадносяцца з пяццю фанемамі /і/, /е/, /о/, /а/, /у/. Такі тып адрозненняў гукаў ніяк не звязаны з марфемнай структурай слова і ніяк не выкарыстоўваецца ў марфалогіі. Адрозненні гэтыя часткова назіраюцца ў розных словах, а часткова ў формах аднаго і таго ж слова (параўн.: *садзіць — сядзіць* і *сядзіць — сяджу, садзіць — саджу)*, аднак усе магчымыя варыянты гукаў могуць быць выяўлены толькі з прыцягненнем розных слоў.

§ 47. Другі тып пазіцыйных змен характарызуецца тым, што яны адбываюцца звычайна на стыках марфем і колькасць процістаўленых адзінак аказваецца рознай у розных пазіцыях. Адбываецца гэта таму, што некаторыя пары гукаў, якія процістаўлены ў пэўных пазіцыях,

супадаюць у адным гуку — адбываецца нейтралізацыя проціпастаўленняў. Такім шляхам утвараюцца перасякальныя рады чаргаванняў. Пры наяўнасці перасякальных радоў пары фанем, з якіх яны складаюцца, утвараюць розныя карэляцыі. Перасякальнымі такія чаргаванні называюцца таму, што два або некалькі гукаў, якія прадстаўлены ў адной пазіцыі, як бы перасякаюцца ў адным гуку ў іншай пазіцыі. Да такіх чаргаванняў адносяцца чаргаванні звонкіх і глухіх, цвёрдых і мяккіх, шыпячых і свісцячых зычных. Напрыклад, перад галоснымі [с] і [з] проціпастаўлены, перад глухімі зычнымі можа быць толькі [с], перад звонкімі — [з]. Падобныя чаргаванні схематычна маюць выгляд:

[с]—⌉—[с] (перад глухімі)   [с]—⌉—[з] (перад звонкімі)
[з]—⌋   [з]—⌋

Супадзенне не пад націскам галосных [о], [е], [а] у [а] таксама ўяўляе сабой перасякальны рад чаргаванняў:

[о]—⌉
[е]—|—[а]
[а]—⌋

Гэтыя чаргаванні, як і паралельныя, носяць рэгулярны характар. Але яны істотна адрозніваюцца ад паралельных тым, што назіраюцца не ў розных словах, а ў формах аднаго і таго ж слова: [сады́], а л е [сат], [вада́], а л е [вадз'е́], [цэ́гла], а л е [цагл'а́ны], [грыбы́], а л е [грыпк'і] і г. д.

§ 48. Перасякальныя чаргаванні падзяляюць на пазіцыйныя і камбінаторныя. Калі чаргаванне адбываецца ў залежнасці ад становішча гука ў слове, яно адносіцца да пазіцыйных. Гэта чаргаванне галосных [о], [е], [а] з [а] (а к а н н е), чаргаванне звонкіх зычных з глухімі ў канцы слова і некаторыя іншыя. Камбінаторнымі называюць чаргаванні, якія ўзнікаюць у выніку асіміляцыі. Прыкладам могуць служыць чаргаванні звонкіх з глухімі зычнымі ў становішчы перад глухімі, глухіх са звонкімі перад звонкімі зычнымі, цвёрдых зычных з мяккімі перад мяккімі зычнымі, шыпячых са свісцячымі і г. д.

Адбываючыся заўсёды ў межах адной і той жа марфемы, гэтыя чаргаванні характэрны для словаўтварэння і формаўтварэння. Далучэнне або адпадзенне марфем стварае фанетычныя ўмовы для супадзення двух або некалькіх гукаў у адным. А гэта азначае, што, з аднаго боку, пазіцыя нейтралізацыі ўзнікае дзякуючы марфалагічным умовам, з другога боку, узнікшая пазіцыя з'яўляецца фанетычнай па сваёй характару.

§ 49. Дваісты характар чаргаванняў з перасякальнымі радамі знаходзіць сваё адлюстраванне ў неадназначным іх тэарэтычным асэнсаванні. Згодна з поглядамі адных тэарэтыкаў (маскоўская, пражская фаналагічныя школы), гэты тып чаргаванняў разглядаецца ў фаналогіі, а гук, у якім адбываецца супадзенне двух або некалькіх гукаў, разглядаецца як асобная фаналагічная адзінка (гіперфанема, архіфанема). З пункту погляду іншых вучоных (ленінградская фаналагічная школа), гэты тып чаргавання не цалкам знаходзіцца ў кампетэнцыі фаналогіі, бо ўяўляе сабой чаргаванне фанем, а гук, у якім супадаюць два або некалькі гукаў, адносіцца імі да адной з фанем, якія нейтралізуюцца. Гэты пункт погляду больш адпавядае працэсу ўспрымання гукаў. Першы ж пункт погляду больш адлюстроўвае не ўспрыманне гукавой матэрыі мовы, а правілы пераўтварэння абстрактных марфем у рэальныя ў час маўлення, калі дапусціць, што носьбіт мовы кожны раз ажыццяўляе працэс утварэння слоў на аснове запасу марфем.

§ 50. Трэцім відам чаргаванняў з'яўляюцца гістарычныя, да якіх адносяць такія чаргаванні, якія ні камбінаторнымі ўласцівасцямі, ні пазіцыйным становішчам з пункту погляду сучаснага стану мовы вытлумачыць нельга. Яны праяўляюцца таксама ў межах адной марфемы. Ужыванне той або іншай фанемы ў складзе марфемы ў гэтым выпадку абумоўлена суседствам іншых марфем і з'яўляецца абавязковым для носьбітаў мовы, але ніяк не апраўдваецца фанетычным становішчам і захоўваецца толькі па традыцыі.

Разгледзім дзеяслоўныя формы *насіць — нашу, касіць — кашу*. У параўнанні з інфінітывам у першай асобе адзіночнага ліку /с'/ мяняецца на /ш/. Чаргаванне /с'/—/ш/ характэрна для ўсіх носьбітаў беларускай мовы, аднак з'яўленне /ш/ ніяк не звязана з тым, што за ім ідзе галосны [у], бо перад [у] можа быць і /с'/: [с'уды́], [ус'е], [лас'ý] і г. д. Таму прынцыпова магчыма і форма *насю, касю,* але па традыцыі захоўваецца *нашу, кашу*. У выніку дзеяння аналогіі часта назіраецца выроўніванне формазмянення і гістарычнае чаргаванне страчваецца, параўн. дыял. *пяку — пякеш, пякець* і літ. *пяку — пячэш, пячэ*.

§ 51. Гістарычныя чаргаванні і чаргаванні з перасякальнымі радамі маюць шмат агульнага. І тыя і другія ўзніклі ў выніку гістарычнага развіцця мовы. Так, аглушэнне звонкіх зычных перад глухімі і ў канцы слова стала магчымым толькі пасля падзення рэдукаваных галосных, а чаргаванне заднеязычных з шыпячымі — у выніку першай палаталізацыі. Складаную гісторыю мае аканне, у выніку чаго ўзнік перасякальны рад /о/, /е/, /а/—/а/. Абодва гэтыя тыпы чаргаванняў носяць умоўны характар і захоўваюцца ў сілу традыцыі. Умоўнасць і дазваляе выкарыстоўваць іх як асноўны (зрэдку) або як дадатковы марфалагічны сродак.

§ 52. Чаргаванне галосных фанем з'явілася вынікам гістарычных працэсаў, якія адбываліся ў фанетычнай сістэме ў розныя перыяды яе развіцця. У сучаснай мове чаргаванне цесна звязана са словазмяненнем і словаўтварэннем і звычайна адносіцца да дадатковых марфалагічных сродкаў, бо асноўнымі застаюцца афіксы. Характэрна, што адны і тыя ж чаргаванні прадстаўлены па-рознаму ў розных часцінах мовы. Адны з іх шырока прадстаўлены ў іменах, іншыя ахопліваюць значнае кола дзеяслоўных форм. Частка чаргаванняў найбольш значную ролю выконвае пры ўтварэнні слоў, якія адносяцца да розных часцін мовы.

§ 53. Да шырока распаўсюджаных належыць чаргаванне /о/, /е/ з нулём гука. У сувязі з тым што /о/, /е/ у адных выпадках (звычайна пад націскам) паяўляюцца, а пры змене слоў або пры словаўтварэнні знікаюць, гэтыя галосныя называюць беглымі. Беглыя галосныя ў корані слоў часцей сустракаюцца ў назоўніках, калі адсутнічае суфіксальная марфема: *дзень — дня, сон — сном, яйка — яек, замок — замкá*. У выпадку далучэння суфікса бегласць галоснага звычайна пераходзіць на яго. Пры гэтым колькі б ні далучалася суфіксаў, яна заўсёды ўласціва апошняму ў слове: *дзень — дня, дзянёк — дзянька, дзянёчак — дзянёчка, замок — замка, замочак — замочка, замочачак — замочачка* і г. д. Калі ў пачатку кораняў з беглымі галоснымі знаходзяцца зычныя [л], [м], [р], то ў формах, у якіх гэты галосны знікае, развіваецца прыстаўны галосны, аднак часта такія словы страчваюць схільнасць да бегласці галосных кораня: *лоб — ілба, лей — ільва, мох — амшанік,* але *лён — ільну* і *лёну, лёд — ільду* і *лёду, рой — рова, равы, рот — рота, роце* і г. д. Бегласць галосных уласціва таксама шматлікім суфіксам назоўнікаў і прыметнікаў. Да такіх суфіксаў належаць:

*-к- — батрачка — батрачак, бярозка — бярозак, міска — місак, кіргізка — кіргізак, беларуска — беларусак, гандлярка — гандлярак;*

*-ок- (-ак-)* — *арэшак — арэшка, гарошак — гарошка, бугарок — бугарка, ручаёк — ручайка, вецярок — вецярка, ваўчок — ваўчка;*

*-оўк- (-ёўк-)* — *пуцёўка — пуцёвак, курсоўка — курсовак, антонаўка — антонавак;*

*-лк-* — *веялка — веялак, сеялка — сеялак, капцілка — капцілак;*

*-ечк-* — *гняздзечка — гняздзечак, калечка — калечак;*

*-янк-, -анк-* — *ваўнянка — ваўнянак, паганка — паганак;*

*-ец-* і вытворныя ад яго — *іспанец — іспанца, аршанец — аршанца, блукалец — блукальца, баязлівец — баязліўца;*

*-унак-* — *ратунак — ратунку, рубанак — рубанка, ласунак — ласунка;*

*-ань- (-янь-, -ень-)* — *вучань — вучня, лежань — лежня, певень — пеўня;*

усе суфіксы для ўтварэння назоўнікаў жаночага роду, якія заканчваюцца на [к]: *гулянка — гулянак, абяцанка — абяцанак, грачанка — грачанак, бялянка — бялянак, балячка — балячак, весялушка — весялушак, бамбёжка — бамбёжак.*

Беглыя галосныя адзначаны ў назоўніках, якія заканчваюцца пэўнымі спалучэннямі гукаў. Да іх належаць канцавыя спалучэнні галосных [е], [о], [а] з санорнымі [л], [л'], [н], [н'], [р] незалежна ад таго, з'яўляюцца гэтыя спалучэнні суфіксамі, часткай суфіксаў або належаць да кораня слова: *кацёл — катла, тыдзень — тыдня, карабель — карабля, дышаль — дышля, аглабель — аглобля, бусел — бусла, блазен — блазна, жаровень — жароўня, кухань — кухня, асяцёр — асятра, сясцёр — сястра, вецер — ветру.*

Наяўнасць або адсутнасць беглых галосных у назоўніках, якія заканчваюцца разгледжанымі спалучэннямі гукаў, цесна звязана з месцам націску ў парадыгме, параўн.: *асяцёр — асятра,* але *бракёр — бракёра; кашаль — кашлю,* але *медаль — медаля; свіран — свірна,* але *кажан — кажана* і г. д.

§ 54. У прыметніках чаргаванне галосных з нулём гука назіраецца пры ўтварэнні кароткіх форм мужчынскага роду ад поўных, якія маюць суфікс *-к-* або *-н-* і іх вытворныя (*вузкі — вузак, рэдкі—рэдак, блізкі — блізак, шкодны — шкодзен, поўны — повен, аб'ектыўны — аб'ектывен*) і зрэдку іншых кароткіх форм (*хітры — хіцёр, светлы — свецел*). Шырэй прадстаўлены беглыя галосныя пры ўтварэнні прыметнікаў ад назоўнікаў: *тайга* — [тайе́жны], *Літва — літоўскі, вайна* — [вайе́нны], *лёгкія — лёгачны, сонца — сонечны* і г. д.

§ 55. У коранях дзеясловаў чаргаванне галосных з нулём гука звычайна ўскладнена чаргаваннем з [і], пры гэтым адбываецца чаргаванне мяккіх і цвёрдых зычных: *церці — тру — заціраць, сцеліць — слаць — засцілаць, забяру — забраць — забіраць, заперці — запру — запіраць, дзяру — драць — задзіраць, памерці — памру — паміраць.* У радзе гэтых чаргаванняў паяўляецца [о], калі ад дзеясловаў утвараюцца назоўнікі: *заперці — запор, зацерці — затор, збіраць — збор* і г. д.

§ 56. Гістарычна не звязаным з беглымі галоснымі з'яўляецца чаргаванне /і/ з нулём гука, прадстаўленае ў лічэбніку *адзін — аднаго* і ў некаторых дзеясловах тыпу *піць — п'ю, біць — б'ю, ліць — льйю* (аднак дапусціма і [лійу́]). Як і ў папярэднім выпадку, пры ўтварэнні аддзеяслоўных назоўнікаў у іх корані паяўляецца [о]: *біць — бой, ліць — лой, піць — запой.* Аналагічна чаргуецца з нулём гука /ы/: *называць — назваць — назоўнік, замыкаць — замкнуць — замок.*

§ 57. Пры ўтварэнні аддзеяслоўных назоўнікаў прадстаўлена чаргаванне [е] ([а] у першым складзе перад націскам) — [о]: *везці — воз, плесці — плот, перанесці — перанос, раўсці (з ревьти) — роў, звезці — звоз,цячы — ток, гнесці — гнёт, церці — цёрка.*

§ 58. З іншых чаргаванняў галосных найбольш значную марфалагічную нагрузку маюць:

/е/—/а/: *лезці — лазіць, мець — маю, сесці — сядзе — садзіць, легчы — ляжа — лажыць;*

/а/—/у/: *прасохнуць — прасушыць;*

/у/—/ы/: *дух — дыханне;*

/е/—/о/: *весці — вёў, плесці — плёў, везці — вёз.*

Чаргаванне /е/—/о/ патрабуе і пэўных фанетычных умоў: яно адбываецца толькі ў тых выпадках, калі наступны мяккі зычны, які ідзе за [е], чаргуецца з цвёрдым. Аднак гэта чаргаванне не можа быць аднесена да пазіцыйных, бо, па-першае, не ўсякі [е] чаргуецца з [о] (параўн.: *па снезе* і *снег, беленькі* і *белы* і г. д.), па-другое, [о] можа захоўвацца і перад мяккімі зычнымі пад уплывам форм, узнікшых у выніку пераходу /е/ у /о/ (*мёд — у мёдзе, клён — на клёне* і г. д.).

§ 59. Акрамя названых чаргаванняў галосных з галоснымі, існуе рад чаргаванняў галосных са спалучэннямі гукаў, у склад якіх уваходзяць галосны і зычныя [м], [н], [й] або [в], [ў]:

[а] — *ін(ын), ім(ым): аджаць — аджымаць, аджаць — аджынаць, разняць — разнімаць, мяць — размінаць.* Пры гэтым тыпе чаргавання галосныя [і], [ы] у радзе форм могуць знікаць, чаргуючыся з нулём гука (*аджынаць — адажну, прыжаць — прыжму, размінаць — разамну*), а паміж прыстаўкай на зычны і коранем паяўляецца ўстаўны галосны [а];

[ы] — *ый — ов (оў): крыць — крый — пакровы;*

/ы/ — *ыв (ыў)* — [а]: *плыць — плывец — плаваць.*

§ 60. Асобную групу складаюць чаргаванні націскных і ненаціскных галосных. Хоць яны вызначаюць фанетычны від марфемы ў розных аднакарэнных словах або ў асобных формах слоў, абумоўленасць фанетычнымі ўмовамі таксама адчуваецца пры падобных чаргаваннях. Да іх належыць у першую чаргу чаргаванне [е]—[і] унутры дзеяслоўных марфем: *здзерці — здзіраць, заперці — запіраць, зацерці — заціраць.* Такое ж чаргаванне прадстаўлена і ў словаўтварэнні паміж аднакарэннымі словамі, якія належаць да розных часцін мовы: *свет → світаць — світанне, блеск — бліщчаць — бліскавіца, прыветна — прывітаць.*

Другім важным чаргаваннем з гэтай групы з'яўляецца чаргаванне [о], [е] — [ы]. Яно адбываецца ў словах са спалучэннямі [ро], [ло], [рэ]. У гэтых спалучэннях [о], [е], аказаўшыся ў аднакарэнных словах не пад націскам, пераходзяць у [ы]: *кроў — крыві, хрэсьбіны — хрышчэнне, глотка — глыток, блохі — блыха, крошка — крышыць* і г. д.

§ 61. Чаргаванне зычных фанем, як і чаргаванне галосных, узнікла ў выніку гістарычных змен гукаў у розныя эпохі развіцця мовы. У сучаснай мове чаргаванне зычных фанем шырока прадстаўлена як у формах адных і тых жа слоў, так і ў формах розных, але роднасных слоў. З пункту погляду марфалогіі іменна ў гэтых выпадках чаргаванне зычных і ўяўляе цікавасць, у той час як чаргаванне, якое сустракаецца ў словах, цяпер не ўспрымаемых як роднасныя, для марфалогіі істотнага значэння не мае.

Да найбольш распаўсюджаных у беларускай мове чаргаванняў зычных належыць чаргаванне /г/—/ж/, /к/—/ч/, /х/—/ш/: *пяку — пячэш, навука — вучыць, нага — ножка, магу — можаш, муха — мушка, сухі — сушу, калыхаць — калышу* і г. д.

Гэта чаргаванне назіраецца пры ўтварэнні простых форм вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў (*дарагі — даражэйшы, мяккі — мякчэйшы, ціхі — цішэйшы*), пры ўтварэнні прыметнікаў ад іншых часцін мовы (*Аленка—аленчын, брусок — брусчаты, вяснушка — вяснушчаты, ацэнка — ацэначны, муха — мушыны, смех —смешны, адліга — адліж-*

*ны, Калуга — калужскі, Волга — волжскі* і г. д.). Перад суфіксам прыметнікаў *-ск-* чаргаванне не адбываецца ў рэдкіх выпадках, калі прыметнік узнік параўнальна позна: *казах — казахскі, Пецярбург — пецярбургскі*. У выпадку ўтварэння прыметнікаў ад назоўнікаў тыпу *будаўнік, вартаўнік, прадстаўнік* адзіным марфалагічным сродкам утварэння з'яўляецца чаргаванне /к/—/ч/: *будаўнічы, вартаўнічы, прадстаўнічы*.

Чаргаванне заднеязычных /г/, /к/, /х/ з шыпячымі /ж/, /ч/, /ш/ характэрна для парадыгмы вялікай колькасці дзеясловаў: *клікаць — клічу, брахаць — брэша, ілгаць — ілжэш, ткаць — тчэ, лягу — ляжаш, цёк — цячы, зрачыся — зрокся* і г. д.

Гэты тып чаргавання зычных адсутнічае ў формах словазмянення, затое шырока прадстаўлены ў розных тыпах словаўтварэння назоўнікаў: *зберагчы — зберажэнне, бераг — беражок, сухі — суш, глухі — глуш, рака — рэчка, далёкі — далеч* і г. д.

З пункту погляду ролі ў марфалогіі да разгледжанага чаргавання найбольш блізкімі з'яўляюцца чаргаванні /з/ — /ж/, /с/ — /ш/, /ц/ — /ч/, а таксама /ск/ — /шч/, /зд/ — /ждж/, /сц/ — /шч/. Асабліва блізкі паралелізм гэтых чаргаванняў назіраецца ў дзеяслоўных формах: *ляцець — лячу, рэзаць — рэжу, часаць — чашу, ездзіць — езджу, паласкаць — палашчу, лазіць — лажу, пусціць — пушчу* і г. д.

§ 62. Марфалагічна іншым відам з'яўляецца чаргаванне заднеязычных /г/, /к/, /х/ са свісцячымі /з'/, /ц/, /с'/. Яно прадстаўлена галоўным чынам у формазмяненні назоўнікаў і аказвае істотны ўплыў на тып іх скланення. З гэтым чаргаваннем звязана змена асновы на мяккі або зацвярдзелы, пры гэтым апошні абумоўлівае мяккі тып скланення назоўнікаў (гл. § 38) у тых выпадках, калі перад зацвярдзелым [ц] маецца чаргаванне заднеязычных з шыпячымі. Чаргаванне /г/ — /з'/, /к/ — /ц/, /х/ — /с'/ ахоплівае амаль усе назоўнікі, аснова якіх заканчваецца на заднеязычны: *нага — назе, снег — снезе, рака — рацэ, ручка — ручцы, сведка — сведцы, страха — страсе, муха — мусе*. Аднак па скланеннях чаргаванне размеркавана нераўнамерна. У другім (жаночым) скланенні яно значна больш рэгулярнае, чым у першым (мужчынскім) у сувязі з тым, што ў апошнім у давальным і месным склонах развіўся канчатак *-у*. Рад назоўнікаў першага скланення можа мець паралельныя формы з чаргаваннем і без яго або нават толькі формы без чаргавання, параўн.: *начлег — у начлезе, бераг — на беразе*, але *луг — на лузе* і *на лугу, круг — на крузе* і *ў кругу*, а таксама *археолаг — аб археолагу, будаўнік — аб будаўніку, рух — у руху, страх — у страху* і г. д.

§ 63. Чаргаванне губных зычных са спалучэннем «губны + [л]» выкарыстоўваецца для афармлення першай асобы адзіночнага ліку дзеясловаў, аснова якіх заканчваецца губным, а таксама аддзеяслоўнага ўтварэння назоўнікаў. Гэта наступныя чаргаванні: [б] — [бл'] — *рабіць — раблю, згубіць — згублю*; [п] — [пл'] — *тапіць — таплю, купіць — куплю*; [м] — [мл'] — *карміць — кармлю, граміць — грамлю*; [в] — [ўл'] — *лавіць — лаўлю, дзівіцца — дзіўлюся, крывіць — крыўлю*; [ф] — [фл'] — *графіць — графлю*.

Некалькі прыкладаў утварэння назоўнікаў з гэтымі чаргаваннямі: *карміць — кармленне, драбіць — драбленне, лавіць — лоўля, гадаваць — гадоўля, тапіць — атапленне*. Назіраецца гэты тып чаргавання і пры ўтварэнні дзеясловаў незакончанага трывання: *купіць — купляць, аграбіць — аграбляць*.

Неабходна адзначыць, што ў дзеясловах, формы якіх паміж губным і наступным [й] доўгі час захоўвалі [і], чаргаванні губных са спалучэннем «губны + [л]» не назіраюцца: *забіць — заб'ю, папіць — пап'ю,*

*завіць — зайю* і некаторыя іншыя. Асобна стаіць чаргаванне ў назоўніках — назвах населеных пунктаў і жыхароў гэтых пунктаў: *Кіеў — кіяўлянін, Рым — рымлянін.*

§ 64. З формаўтваральных і словаўтваральных чаргаванняў неабходна таксама адзначыць чаргаванне /т/ — /ч/ і /ц'/ — /ч/ (*грукатаць — грукачу, скараціць — скарачу, тупацець — тупачу,* ■ таксама /д/ — /дж/ і /дз'/ — /дж/: *вадзіць — ваджу —ваджэнне; пасадзіць — пасаджу — насаджэнне.*

§ 65. Да частых чаргаванняў, якія фарміруюць фанетычнае і марфалагічнае аблічча беларускай мовы, адносіцца чаргаванне [л] — [ў]. Яно назіраецца ў формах дзеясловаў прошлага часу: *знала — знаў, дала — даў, купіла — купіў, рабіла — рабіў* і г. д.

§ 66. Важную марфалагічную ролю адыгрываюць таксама спрашчэнні груп зычных, якія адбываюцца пры словаўтварэнні: чаргаванне зычных з нулём гука:

*здн — зн — выезд — выязны;*
*стн (с'ц'н) — сн — пост — посны, карысць — карысны;*
*стл — сл — сцялю — слаць, шчасце — шчаслівы;*
*слн — сн — рамясло — раменнік, умысел — наўмысна;*
*лнц — нц — сонца;*
*рдц — рц — сардэчка — сэрца;*
*рнч — нч — горн — ганчар;*
*скн — сн — ціск — ціснуць;*
*згн — зн — брызгаць — брызнуць.*

## ЗАКАНАМЕРНАСЦІ БУДОВЫ СКЛАДА

§ 67. Складам называюць частку слова, якая складаецца з аднаго або некалькіх гукаў, сярод якіх абавязкова павінен быць галосны, які з'яўляецца складаўтваральным. Склад не з'яўляецца функцыянальнай адзінкай, але з пункту погляду артыкуляцыі і акустыкі ў яго межах адбываюцца працэсы, якія выклікаюць істотныя кантэкстныя гукавыя змены і дазваляюць гаварыць аб адзінстве гукаў, аб'яднаных у адзін склад.

Адным з такіх працэсаў з'яўляецца акамадацыя, у выніку якой у спалучэннях «зычны + галосны» рад прымет зычных і галосных распаўсюджваецца на ўсё гэта спалучэнне, і яно выступае як найбольш просты і самы распаўсюджаны склад. Таму падзел на склады слоў, у якіх чаргуюцца зычныя і галосныя, не выклікае ніякіх цяжкасцей: *га-ла-ва, я-ма, па-за-бі-ва-лі* і г. д. Паколькі ўзаемадзеянне галоснага з папярэднім зычным больш моцнае, чым з наступным, падзел на склады лёгка ажыццяўляецца і ў выпадку, калі сутыкаюцца два галосныя або галосны стаіць у пачатку слова: *а-га-род, а-вёс, а-э-ра-дром, па-а-бе-даць* і г. д. Простым аказваецца складападзел і тады, калі збег зычных назіраецца ў пачатку або ў канцы слова: *стра-ва, а-на-пест* і г. д.

§ 68. Праблема межаў склада ўзнікае тады, калі ў слове збег зычных знаходзіцца паміж галоснымі: *ся-стр-а, па-лк-а, дзеда-ўск-і* і г. д. Вырашаюць яе розныя вучоныя на аснове розных крытэрыяў, на якіх грунтуюцца шматлікія тэорыі складападзелу. У айчынным мовазнаўстве найбольшай вядомасцю карыстаецца санорная тэорыя, якая грунтуецца на ўліку неаднолькавай ступені гучнасці розных гукаў. Тэрміну «гучнасць» прыпісваецца сукупнасць якасцей гукаў, якія абумоўліваюць іх месца ў пачатковым складзе слова.

Вяршыняй склада і неабходнай яго часткай з'яўляюцца галосныя. Іх гучнасць ацэньваецца ў 4 балы, затым па гучнасці ідуць санорныя —

3 балы і, нарэшце, шумныя зычныя — 1 бал. Шкала гучнасці можа быць і больш падрабязнай, аднак сутнасць яе захоўваецца: галосныя і санорныя зычныя складаюць больш цесную групу, чым астатнія зычныя.

У складзе гукі размяшчаюцца па ўзрастаючай гучнасці. Сапраўды, возьмем лёгкі выпадак складападзелу, калі спалучэнне зычных знаходзіцца ў пачатку слова. Амаль усе пачатковыя трохгукавыя (выяўлена таксама адно чатырохгукавое спалучэнне) спалучэнні зычных у беларускай мове паказаны ў табліцы.

Калі ўлічыць, што за гэтымі спалучэннямі заўсёды ідзе галосны, то структура пачатковага склада па гучнасці выглядае як: 1 1 3 4 або 1 3 3 4 і толькі адно спалучэнне ([*мс'ц'*] — *мсцівец*) не ўкладваецца ў схему ўзрастання гучнасці — 3 1 1 4. З табліцы таксама відаць і дадатковая заканамернасць будовы пачатковага склада з трохгукавым спалучэннем зычных: першым зычным з'яўляецца шчылінны, другім — змычны, трэцім — санорны. Іншы парадак зычных назіраецца толькі ў спалучэннях *тхл, пхн, чхн, тхн, пск*, у якіх першым з'яўляецца змычны, другім—шчылінны і трэцім—санорны, а таксама *схл, згр, згн', згн, схм, схв, згл', згл*, паслядоўнасць зычных у якіх —«шчылінны + шчылінны + санорны». Асобна стаіць рэдкая структура *ткн* з паслядоўнасцю «змычны + змычны + санорны». Характэрна, што ва ўсіх гэтых спалучэннях другім гукам з'яўляецца заднеязычны, за выключэннем *пск*. Таму можна заключыць, што шчылінныя зычныя маюць тэндэнцыю быць менш гучнымі, чым выбухныя, пры гэтым толькі заднеязычныя, асабліва [х], прыроўніваюцца па гучнасці да выбухных.

Можна дапусціць, што і непачатковыя склады ў слове пры збегу зычных павінны мець такую ж структуру, як і пачатковыя. На гэтым дапушчэнні і грунтуюцца правілы складападзелу ў беларускай мове:

1) калі паміж галоснымі знаходзіцца спалучэнне шумных зычных або спалучэнне шумных з санорнымі, усё спалучэнне адносіцца да наступнага склада: *ся-стра, во-бла-ка, ка-пля, вё-ска, па-скры-пець, вядро, па-кла-сці;*

2) калі паміж галоснымі знаходзіцца спалучэнне санорнага зычнага з шумнымі, то санорны адносіцца да папярэдняга склада, а шумныя — да наступнага: *пар-ты-я, кар-ста-вы, бра-тэр-ства, план-та-цы-*[*йа*], *зай-чык, зай-гра-лі* і г. д.;

3) калі паміж галоснымі знаходзіцца спалучэнне санорных (гэта абавязкова двухгукавое спалучэнне), падзел на склады можа быць двоякім: першы санорны можна адносіць да папярэдняга склада (у адпаведнасці з правілам 2), але можна яго аднесці і да наступнага склада па аналогіі з двухгукавымі спалучэннямі санорных у пачатку слова (*многа, млявы, мрої*): *жор-ны і жо-рны, нор-ма і но-рма.* Звычайна прынята [й] заўсёды адносіць да папярэдняга склада (*зай-сці, чай-нік* і г. д.), хаця ў такой жа меры варта пераважна да першага склада адносіць таксама і [р], [ў]. З другога боку, калі першым санорным з'яўляецца [м], яго больш мэтазгодна адносіць да наступнага склада: *са-млець, ка-млё-вы* і г. д.

Правілы падзелу на склады не супадаюць з правіламі пераносу слоў. Часта не супадае падзел на склады і з падзелам на марфемы. Параўн.:

1) перанос *ад-рэзаць* і падзел на склады *а-дрэ-заць;*

2) падзел на марфемы *па-каз-ва-ць* і падзел на склады *па-ка-зваць.*

§ 69. Паколькі наяўнасць галоснага з'яўляецца абавязковай прыметай склада, канцавы зычны або спалучэнне канцавых зычных адносяцца да папярэдняга склада: *ву-хналь, тра-кта-рыст, по-езд* і г. д. Гэ-

та азначае, што канцавыя склады са спалучэннямі зычных будуюцца па прынцыпу ўзрастаюча-падаючай гучнасці: 1 3 4 3 1. Аднак у запазычанай лексіцы паслядоўнасць зычных тут значна менш аднатыпная, чым у пачатковым складзе, хоць і назіраецца тэндэнцыя да пераўтварэння іх у спалучэнні, пабудаваныя па прынцыпу падаючай гучнасці, параўн.: *спе-ктакль* — 1 1 4 1 3 і *спе-кта*-[*къл'*] — паяўляецца лішні склад са структурай 1 4 3.

§ 70. У залежнасці ад таго, на які гук канчаюцца склады, яны падзяляюцца на а д к р ы т ы я і з а к р ы т ы я. Адкрытымі называюцца

Т а б л і ц а

**Пачатковыя трохгукавыя спалучэнні зычных у беларускай мове**




склады, якія заканчваюцца на галосны гук або складаюцца з аднаго галоснага: *ка-ро-ва, га-ла-ва, а-га-ро-джа.* Закрытымі называюцца склады, якія заканчваюцца на зычны гук: *кар-ма, пай-шчык, квар-тал, куст, год.* Пачатковыя склады, якія складаюцца толькі з галоснага гука або галоснага і зычнага, называюцца н е п р ы к р ы т ы м і: *а-сёл, ар-мія, ар-ты-ле-ры-я, ал-тар.* Астатнія пачатковыя склады называюцца п р ы к р ы т ы м і: *са-ро-ка, ва-вёр-ка; ву-гал, во-кны.* Падзел складоў на адкрытыя і закрытыя, прыкрытыя і непрыкрытыя мае істотнае значэнне пры апісанні якасцей галосных і зычных гукаў.

Улічваючы той факт, што сярод неканцавых складоў пераважаюць адкрытыя, можна сцвярджаць, што ў беларускай мове захоўваецца тэндэнцыя да абмежавання тыпаў спалучэнняў зычных і ўтварэння адкрытых складоў.

# АРФАЭПІЯ

## ЗАДАЧЫ І ЗНАЧЭННЕ АРФАЭПІІ

§ 71. Арфаэпія (грэч. orthos — правільны і epos — мова) — гэта збор правіл аб аднастайным вымаўленні гукаў, слоў, фраз, вучэнне аб нормах літаратурнага вымаўлення.

Гэрмін «вымаўленне» ў такім аб'ёме, у якім ён з'яўляецца прадметам арфаэпіі, не ахоплівае абсалютна ўсяго, што звязана з вуснай мовай. «У паняцце вымаўлення ці вымаўленчай сістэмы ўваходзіць, як асноўны яе элемент, перш за ўсё фанетычная сістэма мовы, г. зн. склад гукаў, якія адрозніваюцца ў кожным даным становішчы, іх якасць, фанетычна абумоўленыя чаргаванні гукаў» [1]. Такім чынам, арфаэпія, з'яўляючыся навукай аб правільным вымаўленні, устанаўлівае нормы вымаўлення канкрэтных гукаў у пэўных фанетычных умовах (у пэўных гукавых спалучэннях), у канкрэтных граматычных формах, у асобных групах слоў ці нават у асобных словах.

§ 72. Інтанацыя, дыкцыя і націск, хаця з вымаўленнем непасрэдна звязаны, бо праяўляюцца ў выніку вымаўлення, у паняцце вымаўлення не ўваходзяць. Інтанацыя надае мове тую ці іншую эмацыянальную афарбоўку і такім чынам выконвае стылістычную (або ў пэўных выпадках сінтаксічную) нагрузку. Дыкцыя (выразнасць вымаўлення) таксама непасрэдна з нормамі літаратурнага вымаўлення не звязана. Можна мець выдатную дыкцыю — выразна артыкуляваць усе гукі — і не валодаць літаратурным вымаўленнем. І наадварот, пры недасканалай дыкцыі можа быць добрае літаратурнае вымаўленне.

Націск з'яўляецца прыкметай асобнага слова ці граматычнай формы, таму функцыянальна ён цесна звязан з лексікай і марфалогіяй, і яму прысвечан асобны раздзел.

§ 73. Арфаэпічныя нормы, як і іншыя з'явы мовы, толькі адносна стабільныя. Вельмі паступова, але ўсё ж яны змяняюцца. Гэтыя змены абумоўлены тымі ж прычынамі, якія выклікаюць і адхіленні ад вымаўленчых норм. Для эвалюцыі беларускага літаратурнага вымаўлення найбольшае значэнне маюць прычыны, звязаныя з уплывам дыялектнай мовы. Характэрнай зменай пад уздзеяннем дыялектнай мовы было замацаванне вымаўлення і напісання форм першай асобы множнага ліку дзеясловаў з канчаткам *-ом (бяром)*. Удакладненне правіл арфаграфіі таксама прыводзіць да змянення гучання слоў. Прыкладам можа служыць гісторыя інтэрнацыянальных слоў *сацыялізм, піянер*, якія раней пісаліся і вымаўляліся — *социялізм, піонер*, і іншых слоў іншамоўнага паходжання. Для таго каб мова магла быць зручным сродкам камунікацыі, трэба строга прытрымлівацца вымаўленчых норм, якія існуюць у даны перыяд, і ні ў якім разе не спрыяць іх больш хуткаму змяненню.

---

[1] Аванесов Р. И. Вопросы современного русского литературного произношения. — М., 1953, с. 7.

Паскарэнне гэтага працэсу прывядзе да хаатычнасці і неўпарадкаванасці мовы, у выніку — да падзення яе аўтарытэту.

§ 74. Для авалодання нормамі літаратурнага вымаўлення неабходна ўважліва ўслухоўвацца ў яго лепшыя ўзоры і засвойваць іх. І хаця вымаўленне — працэс аўтаматычны, усё ж яго можна і трэба кантраляваць. Пры належнай трэніроўцы можна навучыцца добра ўсведамляць становішча языка, дзеянне губ, мяккага паднябення і іншых моўных органаў. Пазбегнуць адхіленняў у арфаэпіі можна толькі ў тым выпадку, калі будуць заўважаны адрозненні, якія існуюць паміж узорам і сваім уласным вымаўленнем. А для гэтага вельмі важна ведаць тэхніку артыкуляцыі паасобных гукаў і характар іх змен у моўнай плыні.

§ 75. Арфаэпія мае вялікае практычнае і агульнакультурнае значэнне. Кожны чалавек, які валодае літаратурнай мовай, павінен дасканала асвоіць не толькі яе пісьмовую форму, але і вусную. Прыкра, калі мы знаходзім ці дапускаем памылку ў напісанні. Але не менш прыкра, калі дапускаецца памылка ў вымаўленні, асабліва перад масавым слухачом (у навучальнай установе, у тэатры, па радыё, у выступленнях і дакладах). Таму з асаблівай увагай за сваёй вуснай мовай павінны сачыць выкладчыкі, артысты, дыктары радыё і тэлебачання, лектары і дакладчыкі. Гэта не азначае, аднак, што не павінны сачыць за сваёй мовай людзі, якія не выступаюць перад масавым случахом. Памылкі ў вымаўленні ў прыватных гутарках таксама надзвычай непрыемны для слыху. Культура вуснай мовы ў пэўнай меры сведчыць аб узроўні агульнай культуры чалавека.

§ 76. Строгае адзінства лексічных, граматычных і фанетычных норм, правільнасць, чысціня і выразнасць літаратурнай мовы ў яе пісьмовай і вуснай форме — вось неабходныя ўмовы, пры якіх найбольш поўна і эфектыўна мова можа выконваць функцыю зносін паміж людзьмі. Усякае адхіленне ад адзіных норм, усякая недакладнасць ускладняюць узаемаразуменне, зацямняюць або нават зусім скажаюць сэнс выказвання. Правільнасць і чысціня мовы маюць важнае значэнне і ў галіне эстэтычнага ўздзеяння на слухача.

### *Вымаўленне галосных гукаў*

§ 77. Гук [е] на пісьме пад націскам перадаецца літарай *э* пасля цвёрдых зычных і літарай *е* пасля мяккіх. Вымаўляецца ён у націскным становішчы пасля цвёрдых зычных амаль так, як і ў ізаляваным становішчы (калі вымаўляць яго асобна, не ў слове) ([жэ́рдак], [рэ́чы], [сэ́рца]), а пасля мяккіх зычных і асабліва паміж мяккімі ён больш вузкі, і ізалявана яго вымавіць цяжка [л’ес], [прын’е́с’л’і]. На дыялектнай аснове магчыма адхіленне ў вымаўленні гука [е] у напрамку звужэння яго, павелічэння «закрытасці», і на яго месцы можа вымаўляцца [ê] (закрыты [е]), які па акустычнаму ўражанню крыху нагадвае [і] або [ы]: [шы$^{е}$рс’ц’], [цы$^{е}$п], [хл’і$^{е}$п], [л’і$^{е}$с]; закрыты [е] вымаўляецца на месцы былога [ѣ]. Такое вымаўленне сустракаецца ў выхадцаў з паўднёвых раёнаў Беларусі. Звычайна пад уплывам літаратурнай мовы гэта рыса знікае бясследна. Аднак вядомы выпадкі, калі яна захоўваецца ў мове людзей, добра знаёмых з нормамі літаратурнай мовы. Гук [е] літаратурнай мовы ў адрозненне ад [ê] вымаўляецца пры меншай напружанасці цела языка.

§ 78. Гук [о] на пісьме пад націскам абазначаецца літарамі *о, ё*. Вымаўляецца пасля цвёрдых зычных амаль так, як і ў ізаляваным вымаўленні *(дом, дома, нос)*, а ў становішчы пасля мяккіх зычных (і па-

між мяккімі зычнымі) становіцца больш пярэднім і вузкім: [л'ос], [кл'óн'ік]. У вымаўленні выхадцаў з паўднёвай часткі Беларусі ў закрытых складах на дыялектнай глебе магчыма замена гука [о] закрытым [ô], які нагадвае на слых гук [у]: [дуᵒм], [куᵒн'] і інш. У адкрытым складзе [ô] амаль не сустракаецца. Гэта дапамагае шляхам супастаўлення гука [о] у адкрытым і закрытым складах хутчэй пазбавіцца дыялектнага вымаўлення. Патрэбна памятаць таксама, што гук [о] вымаўляецца з меншым напружаннем цела языка, а гук [ô] — з большым.

§ 79. Гук [а] на пісьме перадаецца літарамі *а, я.* Пад націскам пасля цвёрдых зычных вымаўляецца як шырокі нелабіялізаваны гук, прыкладна такі ж, як і ў асобным вымаўленні: [даў], [прáўда], [садз'íц']. Пасля мяккіх зычных пры павольным тэмпе вымаўлення ён мае дыфтангоідны характар і вымавіць яго ізалявана вельмі цяжка. У прадстаўнікоў цэнтральных раёнаў Беларусі ў становішчы перад губнагубным нескладовым [ў] адпаведна гуку [а] ужываецца гук [о]: [прóўда], [настóўн'ік], [сказóў]. Гэта адхіленне лёгка ўсведамляецца і выпраўляецца.

§ 80. Гук [і] на пісьме абазначаецца літарай *і.* У слове пад націскам вымаўляецца так, як і асобны гук. У пачатку слова пад націскам, як правіла, перад [і] у вымаўленні развіваецца [й]: [йíн'ей], [йíскры], а не [íн'ей], [íскры]. Калі папярэдняе слова заканчваецца зычным гукам і пасля яго няма паўзы, на месцы [і] вымаўляецца [ы]: [ад ы́скраў], [праз ы́н'ей]. У прадстаўнікоў крайняга поўдня Беларусі заўважаецца перасоўванне гука [і] назад, а некаторы раз і ўніз. На слых ён нагадвае гук [ыᵉ] (аднак ні з гукам [ы], ні з гукам [е] поўнасцю не супадае): [мыᵉска], [п'ыᵉва]. Указанае вымаўленне вельмі стойкае, выпраўленне яго патрабуе ўсведамлення асаблівасцей артыкуляцыі гукаў [і], [ы], [е] і працяглых практыкаванняў.

§ 81. Гук [ы] на пісьме абазначаецца літарай *ы.* Вымаўляецца ён толькі пасля цвёрдых зычных і нічым не адрозніваецца ад вымаўлення ў ізаляваных умовах: [быў], [чыста]. На дыялектнай глебе магчымы два віды адхіленняў у вымаўленні гука [ы]. У выхадцаў з паўднёвай часткі Беларусі заўважаецца зрэдку перасоўванне [ы] наперад (у тых жа асоб гук [і] становіцца больш заднім), а таму [ы] і [і] аб'ядноўваюцца ў адным сярэднім для іх гуку [ы] ці [ыᵉ] — гуку пярэдне-сярэдняга рада. Напрыклад, [сыᵉр], [мыᵉ], [выᵉ] і інш. Другім адхіленнем з'яўляецца дыялектнае вымаўленне [у] на месцы [ы] у суседстве з губнымі [буў], [бук], [прывýк], аднак падобнае вымаўленне адносна лёгка выпраўляецца.

§ 82. Гук [у] на пісьме абазначаецца літарамі *у, ю.* Вымаўленне яго асобных заўваг не выклікае.

§ 83. Наогул патрэбна адзначыць, что пры вымаўленні націскных галосных практычна адхіленняў вельмі мала. Гэта тлумачыцца, з аднаго боку, тым, што пад націскам галосныя менш падпадаюць пад уздзеянне іншых гукаў — націскное становішча для іх з'яўляецца моцным, а з другога — тым, што ў такім становішчы дыялектныя варыянты вельмі выразна адрозніваюцца ад літаратурнага вымаўлення і адносна лёгка выпраўляюцца.

§ 84. Як ужо адзначалася, гукі [о], [е], [а] пасля цвёрдых і зацвярдзелых зычных ва ўсіх ненаціскных складах вымаўляюцца як гук [а], а на пісьме абазначаюцца літарай *а.* Ненаціскны [а] больш кароткі, чым [а] націскны, але зусім выразны. Напрыклад, [дайý], [кáн'а], [ракá]. Розніцу ў вымаўленні [а] у розных ненаціскных складах — [ламáц'], [ламавы́], [вы́ламац'], [разáк], [вы́разаў], [давáў], [вы-

даў]—на слых вызначыць амаль немагчыма. Таму практычна, відаць, няма патрэбы іх размяжоўваць.

У абсалютным пачатку слова, калі папярэдняе слова без націску (праклітыка) заканчваецца зычным гукам, галосны [а] вымаўляецца так, як у ненаціскных складах у сярэдзіне слова: [пад акно́м], [йак адз'ін], [к агн'у́]. Пасля слоў, якія заканчваюцца галосным гукам, у пачатку слова вымаўляецца [а] значна карацей, часта ледзь прыкметна, што можна абазначыць транскрыпцыйным знакам [ъ]: [на акно] ці [на ъкно], [на адз'ін] ці [на ъдз'ін], [на агн'і] ці [на ъгн'і].

Адхіленні ў вымаўленні ненаціскнога [а] найчасцей адносяцца да канцавога адкрытага склада, у якім не пад націскам адрозненне этымалагічных [о], [е], [а] захоўваецца: ([много], [сало], [хоче], [хата] і інш.) на тэрыторыі паўднёвай часткі БССР. Некаторым гаворкам поўдня ўласціва оканне: [коро́ва], [ко́лос]. Аднак апошняя з'ява пры знаёмстве з літаратурнай мовай лёгка знікае. Першая ж трымаецца значна мацней.

Ёсць адхіленні, звязаныя з дысімілятыўным аканнем — [выда́], [ныга́]. Гэта з'ява з боку гаворачай асобы, як правіла, застаецца незаўважанай. Таму для выпраўлення падобнага адхілення неабходна дапамога збоку.

Асобна трэба сказаць аб вымаўленні гука [а] на месцы этымалагічнага [о] у суседстве з губнымі (асабліва ў прыстаўцы *па-*). Тут у прадстаўнікоў паўночных і паўднёвых гаворак можа вымаўляцца [у]: [пубра́л'і], [пув'ал'і].

У словах іншамоўнага паходжання ненаціскны [е] не змяняецца: [екра́н], [ екв'а́тар], [жето́н], [реко́рт], [теа́тр], [дека́да]. Ненаціскны [е] у такіх словах вымаўляецца як выразны, але крыху карацейшы, чым пад націскам, гук.

Аднак ёсць група слоў, якія аканню не падпарадкоўваюцца. Гэта некаторыя словы з націскнымі складамі *ро, ло, рэ.* Калі галосныя [о], [е] у аднакарэнных словах аказваюцца не пад націскам, то яны супадаюць з [ы]: *кроў — крыві, хрэсьбіны — хрышчэнне, глотка — глыток, блохі—блыха, крошка—крышыць* і г. д. Шмат якія запазычаныя праз рускую мову словы вымаўляюцца з [ы] пасля [р], [ц]: *брызе́нт, цырымо́нны, рызі́на, трыво́га, рысо́ра.* Згодна з літаратурным вымаўленнем, словы *лодар, водар* і некаторыя іншыя вымаўляюцца з ненаціскным [а].

§ 85. Гукі [о], [е], [а] пасля мяккіх зычных супадаюць у гуку [а] (арфаграфічна *я*) толькі ў першым складзе перад націскам: [н'асу́], [в'асло́], [с'ало́], [л'асы́], [гл'адз'і]. Ва ўсіх іншых складах галосным [е], [о] адпавядае галосны [е]: [с'ел'ан'ін], [вы́н'ес], [во́з'ера], [по́л'е], [прыйе́дз'е]. Галосны [а] тут можа быць толькі ў тых выпадках, калі ён узыходзіць да этымалагічнага [а]: *пятачок, пяцярня, ляскатанне, лямантаваць* і г. д. Галосны [е] захоўваецца ў першым пераднаціскным складзе ў запазычанай лексіцы: *сезон, перон, электрон, бензін.*

Частка слоў дапускае вымаўленне [і] на месцы [е]: [н'ама́] і [ні́ма́], [дз'ав'а́ты] і [дз'ів'а́ты], [дз'ася́ты] і [дз'іс'а́ты]. Гук [е] у паслянаціскных складах (акрамя першага пераднаціскнога склада) часам вымаўляецца з невялікім зрухам у бок [а], таму пары слоў тыпу *аленем — аленям, праўленне — праўлення, рыбацкае — рыбацкая* і г. д. без кантэксту не заўсёды можна адрозніць на слых.

§ 86. Неабходна асобна сказаць аб вымаўленні [е] у адмоўі *не* і прыназоўніку *без.* У сучаснай мове назіраецца вымаўленне, аналагічнае напісанню. Калі *не* ці *без* пішуцца злітна з наступным словам, у першым складзе перад націскам вымаўляецца [а], а ў астатніх скла-

дах — [е]. Калі ж гэтыя словы пішуцца асобна — заўсёды вымаўляецца [е]. Магчыма, што лепш было б у першым складзе перад націскам заўсёды вымаўляць [а]. Многія так і вымаўляюць: [н'а бы́ў], [н'а по́йдз'е], [н'а но́вы], [н'ас'м'е́лы], [б'аз ба́ц'к'і] і інш. У практыцы сустракаецца вымаўленне [н'і], [б'із].

§ 87. У займенніках *мяне, цябе, сябе,* у прыслоўі *цяпер* часта можна пачуць [і]: [м'ін'е́], [ц'іб'е́], [ц'іп'е́р]. Аднак, як і ў іншых словах, тут павінен вымаўляцца [а].

§ 88. Яшчэ патрэбна агаварыць адхіленне, якое можа быць пры вымаўленні канцавога [е] у назоўніках жаночага і мужчынскага роду першага і другога скланення ў месным склоне адзіночнага ліку, дзе павінен вымаўляцца крыху аслаблены, але выразны [е]: [у ха́ц'е], [на рабо́ц'е], [у л'е́с'е], але на дыялектнай глебе часта вымаўляецца [і]: [у ха́ц'і], [у л'е́с'і].

§ 89. Ненаціскны гук [і] на пісьме абазначаецца літарай *і.* Па вымаўленню якасна не адрозніваецца ад націскнога, толькі ледзь карацейшы ад апошняга. У пачатку слова пасля зычнага гука, якім заканчваецца папярэдняе слова, вымаўляецца [ы]: [с Ыгна́там], [ад Ыва́на], а пасля галоснага — гук [і] з папярэднім [й]: [на Йігна́та], [да Йіва́на], [йана йішла́], [н'е йігра́й], [ма́тка йі дачка́] альбо толькі [й]: [йана йшла́], [н'е йгра́й], [ма́тка й дачка́]. На дыялектнай аснове, як і пад націскам, сустракаецца набліжэнне да [ы]: [п'ы^і^ла́], а таксама вымаўленне гука [у] у канчатках меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў мужчынскага і ніякага роду: [у с'і́н'ум], [у тре́ц'ум].

§ 90. Ненаціскны гук [ы] на пісьме перадаецца літарай *ы.* Вымаўляецца выразна, але карацей, чым пад націскам. З адхіленняў, якія магчымы пры вымаўленні гэтага гука, у выхадцаў з Магілёўшчыны, Віцебшчыны і Полаччыны сустракаецца замена [ы] на [а]: [брагадз'ір], [бала́], [вада́тна]. Указанае адхіленне самім гаворачым не ўсведамляецца, а таму без староннняй дапамогі выпраўляецца цяжка. У прадстаўнікоў цэнтральных і прылягаючых паўднёва-заходніх гаворак у канчатках меснага склону адзіночнага ліку прыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў мужчынскага і ніякага роду выступае [у]: [у но́вум], [на ге́тум], [у шо́стум]. У прадстаўнікоў крайніх паўднёвых беларускіх раёнаў замест ненаціскнога [ы] у корані слова ў суседстве з губным вымаўляецца [у] ([була́]), аднак пры знаёмстве з літаратурнай мовай вымаўленне становіцца правільным.

§ 91. Ненаціскны гук [у] на пісьме абазначаецца літарамі *у, ю.* Па якасці не адрозніваецца ад націскнога [у]. У становішчы пасля галоснага вымаўляецца [ў]: [йа ўз'аў], [был'і ўчора]. Адхіленне зрэдку сустракаецца ў прадстаўнікоў паўднёвых гаворак, у якіх у пачатку слова можа вымаўляцца [в]: [вз'аў], [вчора], [вдава́], [вча́стак], [в нас] — [у нас], [в бра́та] — [у бра́та].

У словах іншамоўнага паходжання ў становішчы пасля галоснага назіраецца дваякае вымаўленне — [у] ці [ў]: [аудыто́рыйа] і [аўдыто́рыйа], [лауреа́т] і [лаўреа́т], [аудыйе́нцыйа] і [аўдыйенцыйа] і інш.

§ 92. Спалучэнні [аа], [оо], [еа], [ео], [уа], [ау] на стыку розных марфем не пад націскам вымаўляюцца выразна, як два асобныя ненаціскныя гукі [заак'ійа́нск'і], [наадваро́т], [дрэваапрацо́ўчы], [фо̀таател'йе́], [реарган'іза́цыйа], у саставе адной марфемы (у словах запазычаных) вымаўленне іх больш злітнае [заъло́г'ійа], [г'еъло́г'ійа], [гнас'еъло́г'ійа], [вакуо́л'], [ау́л].

Спалучэнні [іо], [ыо], [іа] у словах іншамоўнага паходжання вымаўляюцца як спалучэнні [ійо], [ыйо], [ійа]: [б'ійо́лах], [ра́дыйо],

[ф'із'ійалóг'ійа], [індустрыйал'ізáцыйа], [сацыйал'ізм], [дыйéта] (дапускаецца і [дыéта]). Аднак гэта правіла непаслядоўнае. Спалучэнне [іо] захоўваецца, напрыклад, у словах *іон, адажыо, Токіо, Базіліо, капрычыо* і г. д. Унутры слоў перад [і], які знаходзіцца пасля галоснага, вымаўляецца [й], што асабліва выразна чуваць у націскным складзе ([Украйіна], [руйíны], [герайізáцыйа], [зайікáцца] і г. д.).

### *Вымаўленне зычных гукаў*

§ 93. Гук [г] у беларускай мове — заднеязычны звонкі фрыкатыўны, парны па глухасці-звонкасці з [х]: [горат], [нагá], [агарот], [разгром]. Выбухны [г] (парны звонкі з [к]) вымаўляецца толькі ў паасобных словах і ў спалучэнні [зг]: [гáнак], [гýз'ік], [гонта], [гáрн'ец], [гáза], [г'ірсá], [швáг'ер], [шваг'éрка], [гус], [гвалт], [гарсéт], [г'éстка], [агрéст], [рéзг'іны], [мазг'í] і інш. У літаратурнай мове замена [зг] на [ск] замацавалася толькі ў слове *віск.* Не лічыцца адхіленнем ад літаратурнай нормы і вымаўленне [г] як фарынгальнага звонкага фрыкатыўнага, які сустракаецца ў радзе паўднёвых гаворак, асабліва ў становішчы перад [а]: [ħалавá], [ħарох] і г. д.

§ 94. Гук [в] выступае як губна-зубны перад [ы], [а], [е]: [высока], [вадá], [вэрхал]. У становішчы перад лабіялізаванымі галоснымі ён набліжаецца да губна-губнога, але не супадае з ім: [воз'ера], [воўк], [вýл'іца], [высока]. У становішчы пасля галоснага перад зычным і пасля галоснага ў канцы слова [в] вымаўляецца як гук губна-губны, які на пісьме абазначаецца літарай *ў:* [прáўда], [галоўны], [кароў]. Гук [в'] — заўсёды губна-зубны: [в'ерх], [в'ір], [в'адро] і г. д.

§ 95. Гукі [д], [т] пры змякчэнні вымаўляюцца як [дз'], [ц']. Мяккія [дз'], [ц'] вымаўляюцца, як правіла, у лексіцы незапазычанай. Яны набылі фрыкатыўны элемент, вельмі часта з «шапяляватым» адценнем. З'ява пераходу [д] у [дз'] атрымала назву д з е к а н н я, а з'ява пераходу [т] у [ц'] — ц е к а н н я: [вадá] — [вадз'é], [брат] — *аб* [брáц'е], [тоўсты] — [таўс'ц'éй]. Гэты пераход адбываецца, калі [д], [т] аказваюцца перад [е], [і] або перад [в']. Дзеканне і цеканне ў беларускай мове — вельмі спецыфічная рыса, якая адрознівае беларускую мову ад іншых славянскіх моў. Гукі [ц'] і [дз'] не супадаюць па сваёй артыкуляцыі з адпаведнымі гукамі рускай, украінскай і польскай моў. Самы пачатак утварэння гэтых гукаў нагадвае артыкуляцыю [д], [т]. На наступным этапе язык усёй масай падымаецца ўверх, кончык яго апускаецца да ніжніх зубоў і ўпіраецца ў іх асновы. Месца змычкі змяшчаецца ў напрамку да сярэдзіны паднябення. У гэты час сярэдзіна языка прагінаецца і ўтвараецца шчыліна, у якой узнікае фрыкатыўны шум. Затым бакі языка адрываюцца ад паднябення, у выніку чаго фрыкатыўны шум нарастае. Паколькі шчыліна паміж усёй плоскасцю языка і цвёрдым паднябеннем шырокая, фрыкатыўны шум набывае нязначную «шапялявую» афарбоўку (лёгкае адценне мяккага [ш']).

У запазычанай лексіцы, як правіла, вымаўляюцца [д], [т]: [дел'егáт], [теáтр], [дыв'із'ійа], [крытыка], [тытáн]. У гутарковай мове ў многіх словах сустракаецца вымаўленне [дз'], [ц']: [дз'ірéктар], [дз'ел'егáт], [дз'ів'із'ійа], але яго трэба разглядаць як адхіленне ад літаратурнай нормы. У словах [дз'ýна], [ец'ýт] (эцюд), [ц'ір], [ц'ул'] заўсёды мяккія зычныя. Мяккія [дз'], [ц'] вымаўляюцца і перад суфіксальнымі [і], [о]: [каман'дз'ір], [балац'іроўка], [б'іл'ец'óр].

§ 96. Гук [дз] — цвёрдая афрыката. Пачынаецца ён як выбухны гук [д], а заканчваецца як шчылінны гук [з], аднак ён адрозніваецца ад спалучэння [д] + [з] злітнасцю артыкуляцыі. Ужываецца ён у некато-

рых беларускіх словах гукапераймальнага характару і ў нязначнай колькасці слоў, запазычаных з польскай мовы: [дзы́нкац'], [дзыл'ін-кац'], [дзвы́нкац'], [вэ́дзгац'], [пэ́ндзал'], [кс'андза́], [нэ́ндза], [дзы́нд-ра]. Вымаўляецца ён і на месцы [ц] перад звонкімі зычнымі: *палец бы прыняў* [па́л'едз бы прын'а́ў]. Пры нядбайным вымаўленні назіраецца замена яго найбольш блізкім гукам [з]. Аднак гэта адхіленне ад нормы.

§ 97. Адносна рэдка ўжываецца і гук [дж]. Гэта таксама цвёрдая афрыката. Вымаўляць яго трэба як адзіны гук, а не як спалучэнне [д]+[ж]. Ён сустракаецца галоўным чынам у дзеяслоўных формах і аддзеяслоўных назоўніках: [хаджу́], [гл'аджу́], [ваджэн'н'е], [супра-ваджэн'н'е]. Часам назіраецца яго замена [ж], асабліва ў словах [га-раджа́н'ін], [джэмп'ер], што з'яўляецца адхіленнем ад нормы. У запа-зычаных праз рускую мову словах дапускаецца на яго месцы вымаў-ленне спалучэння гукаў [д]-[ж]: [д-жем], [камбад-жы́йец], [тад-жы́к], [д-жака́рта]. У беларускіх словах раздзельнае вымаўленне [д]-[ж] сведчыць аб тым, што марфемная граніца праходзіць паміж гэтымі гукамі: [пад-жартава́ц'], [ад-жа́ц'], [пад-жа́ц'], [ад-жы́ц'], [ад-жы-на́ц'], [пад-жо́ўкнуц'].

§ 98. Гукі [з], [с] перад мяккімі губнымі і перад [з'], [с'], [н'], [л'], [дз'], [ц'] і [й] вымаўляюцца мякка: [з'б'е́гац'], [з'м'е́с'ц'і], [з' з'амл'і], [б'ез'з'ам'е́л'ны], [затрос'с'а], [б'аре́з'н'ік], [грыз'н'а́], [у с'н'е́з'е], [с'л'ады́], [йе́з'дз'іц'], [г'імнас'ц'орка], [раз'йу́шаны], [з'йе́з'дз'іў], [пас'йа́нс]. Перад мяккімі [г'], [к'], [х'] яны цвёрдыя: [мазг'і], [зг'інуц'], [н'іск'і], [уск'іп'е́ў], [ск'інуц'], [раск'іс], [сх'іл'іўс'а].

Зычныя [з'], [с'] у беларускай мове значна мякчэйшыя, чым у ін-шых усходнеславянскіх мовах, аднак яны не такія мяккія, як польскія [с''], [з'']. Эфект іх мяккасці дасягаецца тым, што кончык языка пры іх вымаўленні апускаецца да ніжніх зубоў, месца ўтварэння шчыліны ссоўваецца да сярэдзіны цвёрдага паднябення, сама шчыліна ў канца-вой фазе артыкуляцыі становіцца вельмі шырокай. На слых гэтыя гукі робяць уражанне не чыста свісцячых, а «шапяляватых» зычных.

§ 99. Гукі [н], [л] перад мяккімі [дз'], [ц'], [н'] і [й] памякчаюцца: [каман'дз'ір], [дзе́н'дз'і], [на в'ера́н'дз'е], [мун'дз'ір], [на фрон'ц'е], [кан'йа́к], [Пх'ен'йа́н], [в'ін'йе́тка], [л'йе], [ас'ін'н'ік], [настол'н'ік]. Перад іншымі мяккімі зычнымі [н], [л] захоўваюць цвёрдасць: [канс'іл'іум], [канс'е́рвы], [б'ассе́нс'іца], [гаманл'івы], [канв'е́йер], [за́лв'іца], [тонк'і], [пас'олк'і].

§ 100. Заднеязычныя [г], [к], [х] у становішчы перад мяккімі зыч-нымі звычайна цвёрдыя: [погл'ат], [гл'ей], [кл'он], [скл'еп], [с'ц'іхл'і], [агн'ом], [хл'еў], [хц'ів'ец], [духм'а́ны], [кв'е́тк'і], [хв'іл'іна], [Лукйа́н], [пу́хк'і], [л'охк'і], але [м'а́к'к'і].

§ 101. Губныя гукі [б], [п], [м], [ф], [в] мяккімі могуць быць толькі перад галоснымі: [б'е́лы], [п'е́с'н'а], [с'м'е́ла], [в'о́ска], [ф'е́рма]. Перад зычнымі (у тым ліку і перад [й]) і ў канцы слова губныя [б], [п], [м], [ф] вымаўляюцца цвёрда, а [в'] і [в] пераходзяць у [ў]: [бл'іска], [пл'е́чы], [з'амл'а́], [шуфл'а́да], [к'іпц'ура́м'і], [пйа́ны], [с'амйа́], [в'ерф], [голуп], [с'ем], [кроў]. У прадстаўнікоў паўднёвых гаворак сустракаецца вымаўленне перад націскнымі [о], [а] цвёрдых губных з наступным [й]: [мйот], [пйац'], [мйа́со]. Ступень выразнасці гука [й] у такіх выпадках неаднолькавая — ад зусім выразнага гука да ледзь улоўнага.

§ 102. Звонкія зычныя гукі ў канцы слова аглушаюцца: [хл'еп], [вос], [горат], [стох]. Як адпаведныя глухія гукі вымаўляюцца яны і перад глухімі: [ка́ска], [атказа́ў], [апц'ор]. У мове прадстаўнікоў рада гаворак, асабліва паўночна-ўсходніх, звонкія зычныя не аглушаюцца:

[хл'еб], [горад], [ка́зка], але такое вымаўленне — адхіленне ад літаратурнай нормы.

Глухія зычныя гукі перад звонкімі змяняюцца ў звонкія [каз'ба́], [про́з'ба], [фудбо́л], [ан'егдо́т].

§ 103. Калі змычныя гукі аказваюцца перад змычна-шчылiннымі зычнымі, то яны могуць вымаўляцца, як адпаведныя змычна-шчылінныя, асабліва ў размоўным стылі: [аччу́ц'], [аччын'іц'], [нала́ччык], [кары́цца], [скла́ццы]. У інфінітывах дзеясловаў і ў формах трэцяй асобы адзіночнага і множнага ліку вымаўляецца і пішацца афрыката [цц]: *купаецца, купацца, купаюцца, мыецца, мыюцца, мыцца.*

Перад свісцячымі [з], [с], [з'], [с'] змычныя [д], [т] у канцы гучання набываюць шчылінны элемент, а ў размоўным стылі могуць вымаўляцца нават як афрыкаты: [пад$^з$'з'ам'е'л'л'е] і [падз'з'ам'е'л'л'е], [пад$^з$'з'ел'ан'іц'] і [падз'з'ел'ан'іц'], [пат$^с$'с'ін'іц'] і [пац'с'ін'іц'], [пат$^с$садз'іц'] і [пацсадз'іц']. У некаторых словах афрыкаты перайшлі ў фрыкатыўныя гукі: [што], [пошта], [йайе́шн'а] (дапускаецца і [йайе́чн'а]). Спалучэнні гукаў [чн], [чц'] вымаўляюцца так, як і пішуцца: [пачціва], [сма́чна], [йа́чны], [йа́вачны] і г. д.

Частка слоў мае фанетычныя варыянты са змычнымі або шчылiннымі, шчылiннымі або афрыкатамі: [кракта́ц'] і [крахта́ц'], [хруст] і [хрушч], [штык] і [штых], [чвыр] і [жвір], [дапуска́ц'] і [дапушча́ц'], [гушче́ц'] і [гус'ц'е́ц'].

§ 104. Вымаўленне найбольш характэрных спалучэнняў зычных падаецца ў табліцы.

§ 105. У звязнай мове адбываюцца змены зычных на стыку слоў, характар якіх нагадвае змены спалучэнняў зычных унутры слоў.

Змены на стыку слоў звязаны з такімі прыметамі гукаў, як глухасць — звонкасць, цвёрдасць — мяккасць, шыпячасць — свісцячасць. Звонкія зычныя на канцы слоў перад санорнымі гукамі і перад галоснымі аглушаюцца: [нарот, йак в'адома]; [галоўнайе ш у ты́м, каб не згуб'іц']; [дроб'ас' йака́йа]. Вымаўленне звонкіх зычных у гэтай пазіцыі з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы. Толькі ў прыназоўніках на звонкія зычныя яны не змяняюцца на глухія: [ад йаго], [з'йім], [без в'інтоўк'і], [п'ерад йойу]. Перад глухімі зычнымі звонкія аглушаюцца вельмі паслядоўна: [с таго ча́су], [с кл'окатам], [ус'о ш так'і], [камбры́х спрабава́ў], [а шта́п тым ча́сам].

Для вымаўлення глухіх зычных перад звонкімі на мяжы слоў не існуе адзінага правіла. Пры хуткім тэмпе мовы глухія гукі ў гэтай пазіцыі азванчаюцца. Найбольш паслядоўнае азванчэнне глухіх назіраецца ў прыназоўніках, злучніках: [поб-здарав'іла], [П'атру́з' быў жартаўн'ік], [йагбы] ([г] выбухны), [бол'ж будуц'], [н'а горж за м'ан'е], [хлоп'едз быў]. Пры запаволеным тэмпе часцей за ўсё азванчэння не адбываецца: [голас дру́га], [пае́т глыбока нацыйана́л'ны], [бол'ш дастатку].

§ 106. Найбольшы разнабой на стыках слоў назіраецца ў вымаўленні цвёрдых—мяккіх зычных. Калі самастойнае слова заканчваецца на цвёрды зычны, а наступнае слова пачынаецца з мяккага зычнага, то гэты папярэдні цвёрды зычны ніколі не змякчаецца. Што да службовых слоў, то яны часцей за ўсё, асабліва ў размоўным стылі, мяняюць цвёрдыя зычныя [з], [с] на [з'], [с']: [з'йім], [з' йак'іх крайоў], [б'ес' с'аб'е].

Не адбываецца змякчэння апошняга зычнага ў прыназоўніках *праз, цераз* і ў прыназоўніках на [д]: [ц'ерас ц'аб'е], [ад м'ан'е], [ад дз'ейаслова].

§ 107. Шыпячыя перад свісцячымі зычнымі на стыку слоў змяняюц-

Табліца

**Вымаўленне спалучэнняў зычных**

| Спалучэнні зычных літар | Іх вымаўленне | Прыклады |
|---|---|---|
| бб | [бб'] | *аббіць, аббегаць* |
| гк | [хк] | *лёгкі, дрогкі* |
| гч | [хч] | *лягчэй, падналегчы* |
| гс | [хс] | *загс* |
| дб | [дб'] | *падбі́йся* |
| дв, дзв | [дв], [дз' в'] | *мардве, абедзве* |
| ддз | [дз' дз'] | *аддзьму* |
| дж | [дж], [д—ж] | *гараджанін, аджыць* |
| д — я, ё, ю, е, і | [дй] | *прад'явіць* |
| дс | [тс], [цс] | *адступіць* |
| дск | [цк] | *грамадскі* |
| дств | [цтва] | *грамадства* |
| дсь | [тс'] | *адсвечваць* |
| дт — санорны | [тт] | *адтрэсваць* |
| дц | [цц] | *адцадзіць* |
| дць | [ц' ц'] | *адцерці* |
| ждж | [шч] | *дождж* |
| жс | [шс], [с] | *Суражскі* |
| жк | [шк] | *баклажка* |
| жц | [шц] | *дарожцы* |
| жч | [шч] | *перабежчык* |
| зг | [ск] | *мозг* |
| здк | [стк] | *выездка* |
| здц | [стц] | *паездцы* |
| здзь | [з' дз'] | *здзьмухваць* |
| здж | [ждж] | *езджу* |
| зж | [жж] | *пазжынаць* |
| здк | [стк] | *паездка* |
| ззбр | [ззбр] | *абяззбройваць* |
| зль | [з' л'] | *верзлі* |
| змь | [з' м'], [зм'] | *змена, камунізме* |
| зн | [зн] | *позна, паязны* |
| знь | [з' н'[ | *дарагавізне* |
| зск | [сск] | *вагезскі* |
| зц | [сц] | *згрузцы* |
| зш | [шш] | *прывёзшы* |
| зч | [шч] | *грузчык* |
| зць | [с' ц'] | *абгрызці* |
| льтск | [л' цк] | *верхнявольтскі* |
| нгь | [нг'] | *кантынгент* |
| нг | [нх] | *лозунг* |
| ндзь | [н' дз'] | *камандзір* |
| ндск | [нцк] | *вендскі, вест-індскі* |
| нзь | [н' з'] | *вензель* |
| нтц | [нтц] | *студэнтцы* |
| нць | [н' ц'] | *арыенцір* |
| нцвь | [нц' в'] | *дранцвець* |
| нцк | [нцк] | *акупанцкі* |
| сьб | [з' б] | *просьба* |
| свь | [с' в'] | *свет* |
| скмь | [скм'] | *скмеціць* |
| скь | [ск'] | *скінуць* |
| скль | [скл'] | *склікаць* |
| сль | [с' л'] | *перавясле* |
| стн | [сн] | *посны,* але *кампостны, кантрастны, аванпостны* |
| стц | [стц] | *пастцы* |
| снь | [с' н'] | *снег* |
| ствь | [ств'] | *мностве* |
| стк | [стк] | *жорсткі* |
| сцвь | [с' ц' в'] | *жарсцвець* |

| Спалучэнні зычных літар | Іх вымаўленне | Прыклады |
|---|---|---|
| сць | [с' ц'] | *радасць, верзці* |
| сцк | [сцк] | *марксісцкі* |
| сц | [сц] | *запісцы* |
| сш | [шш] | *сшытак* |
| сч | [шч] | *счэпшчык* |
| сфь | [сф'] | *сфера* |
| твь | [тв'] | *дратве* |
| тль | [тл'] | *пераняттлівы* |
| тч | [чч] | *лётчык* |
| шц | [шц] | *дошцы* |
| шск | [шск], [ск] | *чэшскі* |
| чн | [чн] | *смачны*, але *яечня* і *яешня* |
| чц | [цц] | *чытачцы* |
| чць | [чц'] | *прабачце* |
| цвь | [ц' в'] | *цвярозы* |
| цтв | [цтв] | *абібоцтва* |

ца па глухасці — звонкасці: [н'а горж за м'ан'è], [тавàрыж З'ан'ко]. Свісцячыя перад шыпячымі змяняюцца не толькі па глухасці — звонкасці, але адначасова часцей за ўсё вымаўляюцца як шыпячыя: [б'аш ша́пк'і], [ж жа́л'ем]. На мяжы самастойных слоў свісцячыя захоўваюцца нязменна: [л'éс шум'èў], [голас чу́йу] і г. д.

Калі слова заканчваецца на [с'ц'], а наступнае пачынаецца з [т], то [ц'] скарачаецца па даўжыні і амаль пазбаўляецца фрыкатыўнага элемента: [хот$^{ц'}$ ты йаго], [ше́с'т$^{ц'}$ тамоў]. Асабліва выразная гэта з'ява ў размоўным стылі. Вымаўленне [ц'] у лічэбніках тыпу *пяцьдзесят, шэсцьдзесят, пяцьсот, шэсцьсот* характарызуецца не толькі яго азванчэннем, але і скарачэннем, у размоўным стылі — амаль да поўнага знікнення.

# ГРАМАТЫКА. МАРФАЛОГІЯ

§ 108. Гукавая арганізацыя мовы, яе лексіка і граматыка — гэта асноўныя састаўныя часткі складанай сістэмы, якой з'яўляецца сучасная літаратурная мова. Лексіка служыць будаўнічым матэрыялам у мове. Аднак для таго, каб пабудаваць выказванне, якое перадае пэўную думку, нясе пэўную інфармацыю, звычайнага набору слоў недастаткова. Словы патрэбна паставіць у сувязь паміж сабой, аб'яднаць іх у словазлучэнні, трэба пабудаваць сказ. Сувязь слоў у словазлучэнні і сказе ажыццяўляецца перш за ўсё дзякуючы таму, што словы могуць змяняць сваю форму.

Вучэнне аб слове і яго формах, аб класах слоў (часцінах мовы) і аб іх катэгорыях, аб сувязях слоў, аб словазлучэнні і сказе — гэта і ёсць граматыка. З граматыкай самым цесным чынам звязана словаўтварэнне — вучэнне аб складзе слова і ўтварэнні слоў па пэўных мадэлях (словаўтваральных тыпах). Састаўныя часткі слова — марфемы — з'яўляюцца найдрабнейшымі граматычнымі адзінкамі мовы. Не выпадкова многія даследчыкі ўключаюць словаўтварэнне ў граматыку як яе неадрыўны раздзел.

Граматыка ўключае ў сябе марфалогію (вучэнне аб слове і яго формах, аб лексіка-граматычных класах слоў) і сінтаксіс (вучэнне аб сувязях слоў, аб словазлучэнні і сказе). Характар словазмянення, спосабы спалучэння слоў, спосабы пабудовы сказаў і вызначаюць граматычны лад мовы.

## ХАРАКТАРЫСТЫКА АСНОЎНЫХ ГРАМАТЫЧНЫХ ПАНЯЦЦЯЎ

§ 109. Асноўнымі паняццямі, якімі карыстаецца граматыка пры аналізе ладу мовы, з'яўляюцца граматычнае значэнне, граматычны сродак, граматычная форма, граматычная катэгорыя.

Граматычнае значэнне — гэта абагульненае значэнне групы аднатыпных моўных адзінак: слоў, словазлучэнняў, сказаў. Агульным значэннем, напрыклад, слоў *дом, сонца, дарога, думка, вечар, трывога, радасць, сум* будзе значэнне прадметнасці, слоў *ісці, касіць, гаварыць, чытаць, цвісці* — значэнне працэсу, слоў *сіні, новы, драўляны, капіравальны, заўтрашні, свойскі* — значэнне прыметы і г. д. У групе слоў са значэннем прадметнасці можна, у сваю чаргу, вылучыць словы *дом, вечар, сум,* агульным для якіх будзе значэнне мужчынскага роду, словы *дарога, думка, трывога, радасць* — агульным для якіх будзе значэнне жаночага роду і г. д. Пры супастаўленні словаформ са значэннем працэсу *іду — ішоў — буду ісці, кашу — касіў — буду касіць* і пад. формы *ішоў, касіў* паказваюць на тое, што працэс адбываецца да моманту гутаркі, формы *іду, кашу* — у момант гутаркі, а формы *буду ісці, буду касіць* — пасля моманту гутаркі. Указанне на тое, што працэс адбываецца да моманту гутаркі, складае сутнасць граматычнага зна-

чэння прошлага часу; указанне на тое, што працэс адбываецца ў момант гутаркі — значэнне цяперашняга, а пасля моманту гутаркі — будучага часу.

Граматычным значэннем з'яўляюцца і абагульненыя значэнні адносін, якія ўстанаўліваюцца ў словазлучэнні ці ў сказе. Так, у словазлучэннях *сустрэцца вясною, сядзець цэлымі днямі, чакаць вечарамі* наглядаюцца ча́савыя адносіны, у словазлучэннях *жаць камбайнам, капаць экскаватарам, пілаваць пілой* — аб'ектныя адносіны і г. д. Гэта дае падставу кваліфікаваць граматычнае значэнне словазлучэнняў тыпу *сустрэцца вясною* як ча́савае (тэмпаральнае), а *пілаваць пілой* — як аб'ектнае (у прыватнасці, інструментальнае). У сказе *Дзеці сабраліся на лясной палянцы, калі пачало змяркацца* дадаткая частка складаназалежнага сказа (*калі пачало змяркацца*) мае граматычнае значэнне часу.

Граматычнае значэнне знаходзіць сваё матэрыяльнае выражэнне ў граматычным сродку: афіксе, службовым слове, змене месца націску, парадку кампанентаў у сінтаксічнай канструкцыі, інтанацыі. Так, граматычнае значэнне часу ў словазлучэнні *сустрэцца вясною* выражана, у прыватнасці, не толькі самім лексічным значэннем залежнага назоўніка, а і канчаткам творнага склону (*-ою*); значэнне часу ў дадзенай частцы складаназалежнага сказа (*калі пачало змяркацца*) выражана службовым словам — злучнікам *калі*; значэнне закончанага трывання ў дзеясловах *насы́паць, склі́каць* выражана месцам націску (параўн. адпаведныя дзеясловы незакончанага трывання *насыпа́ць, склікаць*); значэнне прыблізнай колькасці ў выразе *прысутнічае чалавек дваццаць пяць* выражана парадкам слоў (параўн. значэнне дакладнай колькасці пры ўмове прамога парадку слоў: *прысутнічае дваццаць пяць чалавек*); значэнне пытання ў сказе *Вы ўдзельнічаеце ў спаборніцтвах?* выражана інтанацыяй — павышэннем тону голасу ў канцы сказа (параўн. значэнне сцвярджэння ў апавядальным сказе *Вы ўдзельнічаеце ў спаборніцтвах,* дзе тон голасу паніжаецца ў канцы выказвання).

Граматычны сродак, як правіла, уваходзіць у склад той граматычнай адзінкі, якой ён надае тое ці іншае граматычнае значэнне. Інакш кажучы, граматычны сродак афармляе гэту адзінку, надае ёй пэўную граматычную форму. Кожнае граматычнае значэнне абавязкова знаходзіць сваё ўвасабленне ў адпаведнай граматычнай форме.

Граматычныя формы слова могуць быць простымі, або сінтэтычнымі, калі граматычны сродак з'яўляецца састаўной часткай словаформы (напрыклад, канчатак *-ою* з'яўляецца часткай словаформы творнага склону *вясною*), і складанымі, аналітычнымі, калі граматычны сродак выражаны дапаможным службовым словам (напрыклад, значэнне будучага часу ў словаформе *буду касіць* выражана дапаможным дзеясловам *буду*).

У адной граматычнай форме нярэдка выражаецца некалькі граматычных значэнняў. Так, у словаформе *вясною* канчатак *-ою* паказвае на жаночы род, адзіночны лік, творны склон. Сустракаюцца выпадкі, калі адно і тое ж значэнне знаходзіць некалькі сродкаў выражэння. Значэнне ўмоўнага ладу ў словаформе *ішлі б* выражана суфіксам *-л-* і часціцай *б*.

Розныя граматычныя формы адной і той жа моўнай адзінкі суіснуюць у мове як раўнапраўныя, аднак у маўленні звычайна адна з форм, найбольш незалежная, лічыцца пачатковай, або зыходнай. Напрыклад, у радзе форм *вясн-а, вясн-ы, вясн-у, вясн-ой* форма назоўнага склону лічыцца пачатковай.

Прыватныя граматычныя значэнні аб'ядноўваюцца ў сістэмы. Так, значэнні цяперашняга, прошлага і будучага часу дзеясловаў аб'ядноўваюцца ў сістэму часу. Значэнне часу з'яўляецца агульным, аб'ядноўваючым усе тры прыватныя значэнні. У такім выпадку мы гаворым пра граматычную катэгорыю часу. Значэнні адзінкавасці і множнасці аб'ядноўваюцца ў граматычнай катэгорыі ліку, значэнні завершанасці або незавершанасці працэсу — у граматычнай катэгорыі трывання (віду) і г. д. Кожная граматычная катэгорыя мае сваю сістэму граматычных значэнняў, якія ўвасоблены ў граматычных формах. Сістэма такіх граматычных форм называецца парадыгмай. Парадыгма можа мець у сваім складзе не менш чым два кампаненты і абавязкова павінна мець адзіную аснову — адцягненае, найбольш агульнае граматычнае значэнне, якое і складае сутнасць той ці іншай граматычнай катэгорыі.

Усе разгледжаныя паняцці і тэрміны (граматычнае значэнне, граматычны сродак, граматычная форма, граматычная катэгорыя, парадыгма) выкарыстоўваюцца як у марфалогіі, так і ў сінтаксісе.

## СЛОВА ЯК АСНОЎНАЯ АДЗІНКА МАРФАЛОГІІ

§ 110. Марфалогія — гэта граматычнае вучэнне аб слове. Аб'ектам марфалогіі з'яўляецца асобнае слова, яго граматычныя формы. Сама назва марфалогія паходзіць з грэчаскіх слоў morphē — 'форма' і logos — 'вучэнне'.

Слова існуе ў мове як сістэма форм. Уся сістэма форм аднаго слова — гэта адзінства, якое мае адно або некалькі цесна звязаных паміж сабою лексічных значэнняў. Такое адзінства, звычайна прадстаўленае ў слоўніках сваёй пачатковай словаформай, і лічыцца лексемай. Асобна ўзятая форма канкрэтнага слова называецца яго словаформай.

Марфалогія вывучае правілы ўтварэння словаформ, адрозненні паміж рознымі словаформамі адной і той жа лексемы, устанаўлівае мяжу паміж словаформамі, якія ўваходзяць у адну парадыгму, і словаформамі, якія ўтвараюць другую парадыгму (інакш кажучы, дапамагае вызначыць, дзе перад намі формы аднаго слова, а дзе — розныя словы).

## ЧАСЦІНЫ МОВЫ

§ 111. Часціны мовы — гэта лексіка-граматычныя класы слоў, якія характарызуюцца адзінствам абагульненага значэння, агульнасцю граматычных катэгорый, пэўнай сістэмай форм, асаблівасцямі ў спалучальнасці з іншымі словамі, асноўнымі сінтаксічнымі функцыямі і спосабамі словаўтварэння.

Аднясенне слова да пэўнай часціны мовы грунтуецца на аснове ўліку ўсіх пералічаных адзнак, але не ўсе яны маюць аднолькавую значымасць. Кожная часціна мовы мае свае спецыфічныя асаблівасці, што адрозніваюць яе ад іншых часцін мовы, і ўключае вялікую групу слоў з розным лексічным значэннем, якія аб'ядноўваюцца абагульненым граматычным значэннем (прадметнасці, прыметы, працэсу і інш.).

У сучаснай беларускай мове традыцыйна вылучаецца дзесяць часцін мовы: назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў, прыслоўе, прыназоўнік, злучнік, часціцы, выклічнік. Гэтыя часціны мовы не ахопліваюць усяго лексічнага складу мовы. Па-за межамі часцін мовы застаюцца гукапераймannі — моўныя сродкі, якія служаць для перадачы гукаў жывой і нежывой прыроды (*мяў, му, кукарэку, ш-ш-ш* і

г. д.). Гукаперайманні маюць некаторыя рысы, якія зближаюць іх з выклічнікамі. Не ўключаюцца ў часціны мовы і т. зв. мадальныя словы — лексічныя сродкі мадальнай ацэнкі аб'ектыўнай рэчаіснасці або сродкі перадачы суб'ектыўных адносін да ўласнага выказвання. У сказе большасць мадальных слоў выступае ў функцыі пабочных (*відаць, напэўна, магчыма, канешне* і пад.).

Усе часціны мовы, акрамя выклічнікаў, падзяляюцца на дзве вялікія групы. Да першай адносяцца паўназначныя, або самастойныя, часціны мовы — назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў і прыслоўе. Да другой — непаўназначныя часціны мовы, куды ўваходзяць словы, якія выражаюць адносіны паміж прадметамі, працэсамі, прыметамі і г. д. Абазначаючы ў мысленні адносіны паміж паняццямі, такія словы ў мове перадаюць адносіны паміж адзінкамі мовы — словамі, словазлучэннямі, сказамі, мадыфікуюць значэнне слова або сказа. Сюды адносяцца ўсе службовыя словы (прыназоўнікі і злучнікі, а таксама звязкі, якія афармляюць адносіны паміж дзейнікам і недзеяслоўным выказнікам, напрыклад: *быць, стаць, з'яўляцца* і інш.; дзеяслоўнае паходжанне звязак дае падставу многім граматыстам не вылучаць звязкі ў асобную часціну мовы, а разглядаць іх разам з дзеясловамі) і часціцы.

Паўназначныя словы падзяляюцца на знамянальныя і ўказальныя. Указальныя, або займеннікавыя, словы не называюць прадметаў, прымет, колькасці або акалічнасці, а толькі ўказваюць на іх. Падзел слоў на знамянальныя і ўказальныя не супадае з падзелам слоў на часціны мовы. Да ўказальных слоў адносяцца займеннікі і іншыя займеннікавыя словы — няпэўныя лічэбнікі (*столькі, колькі, гэтулькі* і інш.), займеннікавыя прыслоўі (*там, тут, туды, сюды, дзе, адкуль* і інш.), да знамянальных — усе астатнія паўназначныя словы, якія называюць прадметы, якасці, працэсы, дзеянні, стан, уласцівасці, лікі, прымету прыметы.

У групе паўназначных слоў супрацьпастаўляюцца два цэнтральныя класы — імёны і дзеяслоў. Сярод імён вылучаюцца назоўнікі — назвы прадметаў, прыметнікі — назвы прымет, якасцей, уласцівасцей, лічэбнікі — абазначэнні колькасці прадметаў. Імёны і дзеяслоў складаюць асноўны лексічны і граматычны фонд мовы.

Да дзеяслова непасрэдна прымыкае разрад безасабова-прэдыкатыўных слоў, якія выконваюць функцыю адзінага галоўнага члена ў безасабовых сказах і абазначаюць стан асобы, асяроддзя і г. д. (*весела, сумна, холадна, шкада, відаць, досыць, нельга* і пад.). Такія словы называюць прэдыкатывамі (або катэгорыяй стану) [1].

На базе імён, займеннікаў і дзеясловаў утварыўся клас слоў, якія абазначаюць прымету якой-небудзь іншай прыметы. Гэта прыслоўі.

Усе пералічаныя класы і разрады слоў не з'яўляюцца застылымі і нязменнымі. Паміж часцінамі мовы назіраецца ўзаемадзеянне, словы з адной часціны мовы могуць пераходзіць у другую. Такі пераход звычайна абумоўлены зменай сінтаксічнай функцыі слова, ужываннем яго не ў звычнай, уласцівай яму асноўнай функцыі, а ў іншай, нязвычнай, неўласцівай. Так, прыметнікі могуць пераходзіць у назоўнікі, прыслоўі — у прыназоўнікі, часціцы — у злучнікі і г. д. Пераход слоў з адной часціны мовы ў другую (субстантывацыя, ад'ектывацыя, нумералізацыя, пранаміналізацыя, адвербіялізацыя, прэпазіцыяналізацыя і інш.) разглядаецца звычайна як адзін са спосабаў словаўтварэння пры вывучэнні кожнай часціны мовы.

---

[1] Прэдыкатывы (катэгорыя стану) не ва ўсіх граматычных даследаваннях вылучаюцца як асобная часціна мовы. Безасабова-прэдыкатыўныя словы разглядаюцца разам з назоўнікамі (*шкада*), дзеясловамі (*відаць*), прыслоўямі (*весела*).

# НАЗОЎНІК

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 112. Назоўнік — часціна мовы з агульным значэннем прадметнасці, якая выражаецца ў марфалагічных катэгорыях роду, ліку і склону. Назоўнікі называюць рэчы, прадметы (*абцугі, аўтобус, кажух, камень, кніга, стол*), асоб (*даярка, дзіця, дэпутат, жанчына, інжынер*), жывыя істоты і арганізмы (*вавёрка, дзяцел, камар, мурашка*), рэчывы (*вада, мука, пясок, снег*), факты, падзеі, з'явы прыроды (*вайна, канікулы, свята, сход; вецер, дождж*), а таксама ўласцівасці, якасці, дзеянні, стан, што разумеюцца, уяўляюцца абстрагавана ад прадметаў (асоб), якія з'яўляюцца іх носьбітамі ці ўтваральнікамі (*дабрата, розум, чырвань, шчасце; барацьба, плаванне*).

§ 113. У сказе назоўнікі выконваюць розныя сінтаксічныя функцыі. Часцей за ўсё яны выступаюць у ролі дзейніка або дапаўнення. Назоўнікі, якія з'яўляюцца ў сказе дзейнікам, маюць форму назоўнага склону, у ролі дапаўнення назоўнікі могуць ужывацца ў розных ускосных склонах. *Над канюшынным полем звінелі жаўрукі* (Я. Радкевіч): *Дуб стаяў нерухома ў сваёй паважнай застыласці, трымаючы ў развілінах ёмкі ком снегу* (Я. Колас).

Назоўнікі могуць выступаць у сказе таксама ў ролі выказніка, недапасаванага азначэння і акалічнасці: *Усе мы былі механізатары: я з Вядзернікавым — камбайнеры, а Сівы і Раман — трактарысты* (Я. Радкевіч); *Ён* [Бальшакоў] *быў і трактарыстам, і камбайнерам, і апошні год перад вайной—дырэктарам МТС* (І. Навуменка); *Конь адшукаў на моху глыбокія ўмяціны ад учарашніх слядоў і павёз седака да дарогі* (І. Чыгрынаў); *Пасля вячэры распалілі касцёр, паселі кружком пад соснамі* (І. Навуменка).

## ЛЕКСІКА-ГРАМАТЫЧНЫЯ РАЗРАДЫ НАЗОЎНІКАЎ

§ 114. У залежнасці ад лексічнага значэння і асаблівасцей праяўлення марфалагічных катэгорый назоўнікі падзяляюцца на: 1) агульныя і ўласныя; 2) канкрэтныя і абстрактныя; 3) адушаўлёныя і неадушаўлёныя; 4) асабовыя і неасабовыя; 5) зборныя; 6) рэчыўныя.

### *Агульныя і ўласныя назоўнікі*

§ 115. У залежнасці ад таго, называецца прадмет як прадстаўнік цэлага класа ці як індывідуальны, назоўнікі падзяляюцца на агульныя і ўласныя.

Агульныя назоўнікі абазначаюць цэлыя класы аднародных прадметаў, з'яў прыроды, жывых істот, абстрактных паняццяў і г. д. (*акно, кніга, нож; вецер, гром; воўк, настаўніца, сястра, чалавек; змаганне, сон, цяжкасць*).

Уласныя назоўнікі з'яўляюцца індывідуальнымі назвамі асоб

(*Максім Багдановіч, Грышкевіч, Алена, Якуб Колас*), прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый (*фабрыка «Камунарка», Вярхоўны Савет, Камуністычная партыя Савецкага Саюза*), геаграфічных і адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак (*Палессе, Дзвіна, Навагрудчына, Мінск*). Да ўласных назоўнікаў належаць клічкі жывёл (*Жучка, Красуля*), астранамічныя назвы (*Венера, Марс*), назвы газет, часопісаў, літаратурных твораў, навуковых прац (*«Звязда», «Маладосць», «Дрыгва», «Фізіка»* (назва падручніка)) і іншых адзінкавых у сваім родзе прадметаў, з'яў рэчаіснасці.

## *Канкрэтныя і абстрактныя назоўнікі*

§ 116. Усе агульныя назоўнікі падзяляюцца на канкрэтныя і абстрактныя.

Канкрэтныя назоўнікі абазначаюць прадметы рэчаіснасці (*бяроза, дарога, дом, камбайн, кніга, лес, сані*) і з'явы прыроды (*бура, вецер, дождж*). Да канкрэтных належыць частка назоўнікаў, якія абазначаюць дзеянне, стан, час, грамадскія падзеі і некаторыя іншыя з'явы навакольнай рэчаіснасці (*адказ, занятак, практыкаванне; запаленне, захворванне; дзень, раніца; мітынг, канікулы, рэвалюцыя*), калі яны ўяўляюцца як канкрэтныя і паддаюцца лічэнню.

Канкрэтныя назоўнікі маюць формы адзіночнага і множнага ліку.

Абстрактныя назоўнікі абазначаюць адцягненыя паняцці, якасць, дзеянне, стан (*рэалізм; дабрата, устойлівасць, цяжкасць, чырвань; знаходжанне, касьба* і г. д.).

Яны могуць спалучацца толькі са словамі няпэўнай колькаснай семантыкі (*многа радасці, мала гонару*) і ад іх звычайна не ўтвараюцца формы множнага ліку. Утварэнне форм множнага ліку магчыма толькі ад тых назоўнікаў, якія набываюць значэнне канкрэтнасці (*цяжкасць — вялікія цяжкасці, чытанне — Коласаўскія чытанні, бяда — усе беды, радасць — першыя радасці*).

Некаторыя абстрактныя назоўнікі з'яўляюцца множналікавымі (*абставіны, агледзіны*) або маюць форму множнага ліку, якая адрозніваецца семантыкай ад аднакарэнных назоўнікаў адзіночнага ліку (*выбар — выбары ў Вярхоўны Савет, збор — вайсковыя зборы, зборы ў дарогу*).

## *Адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі*

§ 117. Усе назоўнікі дзеляцца на адушаўлёныя і неадушаўлёныя.

Адушаўлёныя назоўнікі з'яўляюцца назвамі людзей і жывых істот: *дачка, ткачыха, трактарыст, чалавек; заяц, карова, муха, рыба* і г. д.

Заўвага. Да адушаўлёных назоўнікаў не адносяцца назвы дрэў і раслін (*вярба, ядловец; васілёк, дзівасіл*) і назвы, якія абазначаюць сукупнасць жывых істот (*народ, натоўп, рой, статак, табун*).

Неадушаўлёныя назоўнікі — гэта назвы прылад, рэчаў, дрэў і раслін, з'яў прыроды, абстрактных паняццяў і інш.: *машына, стол; бяроза, лес, мак; град, мароз; смех, хуткасць* і г. д.

Парадыгмы адушаўлёных і неадушаўлёных назоўнікаў у множным ліку адрозніваюцца паслядоўна: у адушаўлёных назоўніках вінавальны склон супадае з родным: Р. *(няма) сыноў, жанчын, насякомых;* В. *(бачу) сыноў, жанчын, насякомых.* У неадушаўлёных назоўніках ві-

навальны склон супадае з назоўным: Н. *памідоры, слівы, вокны;* В. *(бачу) памідоры, слівы, вокны.*

У парадыгме адзіночнага ліку адушаўлёнасць і неадушаўлёнасць выражана толькі ў назоўніках мужчынскага роду з чыстай асновай: Р. *(няма) сына;* В. *(бачу) сына.* Але Н. *(ляжыць) памідор;* В. *(з'еў) памідор.* Словы жаночага роду не маюць фармальнага размежавання адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці: Р. *(няма) жанчыны, слівы;* В. *(бачу) жанчыну, сліву.* Тое ж датычыцца назоўнікаў ніякага роду: Н. *насякомае, акно;* В. *(бачу) насякомае, акно.*

§ 118. У некаторых назоўніках межы суадноснасці адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці хістаюцца, ад чаго залежыць марфалагічнае выражэнне вінавальнага склону.

1. Назоўнікі *вірус, мікроб, бактэрыя, амёба, інфузорыя,* якія абазначаюць ніжэйшыя жывыя арганізмы, у вінавальным склоне часцей маюць форму, агульную з формай назоўнага склону (*вывучаць бактэрыі, выявіць вірус*). Форма, агульная з родным склонам, ужываецца радзей (*вывучаць бактэрый, выявіць віруса*).

2. Назоўнікі *мярцвяк, нябожчык* успрымаюцца як жывыя істоты і таму марфалагічна ў вінавальным склоне афармляюцца як адушаўлёныя назоўнікі *(успомніць нябожчыка, знайшлі мерцвяка).*

Назоўнік *труп* у вінавальным склоне звычайна мае форму, якая супадае з формай назоўнага склону (*нясуць труп*).

3. Назоўнікі *лялька, матрошка* звычайна прымаюць марфалагічныя прыметы адушаўлёнасці: *яны былі падобны на лялек; прынеслі ў дзіцячы сад прыгожых матрошак.* Але *гуляць у лялькі.*

4. Як адушаўлёныя назоўнікі могуць змяняцца назвы некаторых танцаў *(гапак, казачок, крыжачок): Па яго патрабаванню аркестр грае гапака* (І. Дуброўскі); *Яшчэ танцавалі «Гапака», потым «Юрачку»* (І. Гурскі).

5. Форма вінавальнага склону супадае з формай роднага і для назваў фігур, карт у шахматных і картачных гульнях: *Мы твайго слана кульнём* (У. Корбан); *Кладу крастовага караля* (Я. Васілёнак); *Пад туза хадзі* (Я. Колас); *даць козыра.*

### *Асабовыя назоўнікі*

§ 119. Адушаўлёныя назоўнікі, якія абазначаюць асоб, называюцца асабовымі. У групу гэтых назоўнікаў уваходзяць назвы асоб па іх сацыяльнай, нацыянальнай і палітычнай прыналежнасці *(бядняк, рабочы, селянін; беларус, літовец; камуніст),* па роду грамадскай і працоўнай дзейнасці *(дэпутат, настаўнік, прафесар),* па полу і ўзросту *(дзяўчына, мужчына, падлетак),* па адносінах паміж людзьмі (*брат, жонка, сябар*), па месцу жыхарства *(гараджанін, мінчанін),* па розных якасцях (*весялун, герой, гуляка, патрыёт*) і інш.

### *Зборныя назоўнікі*

§ 120. Сярод агульных назоўнікаў выдзяляецца па значэнню і марфалагічных адзнаках група зборных назоўнікаў. Характэрнай прыметай гэтых назоўнікаў з'яўляецца адсутнасць у іх форм множнага ліку.

Да зборных назоўнікаў адносяцца словы, якія абазначаюць сукупнасць людзей, жывых істот, аднародных прадметаў як адно непадзельнае цэлае і выражаюць гэта значэнне пры дапамозе суфіксаў *-ств-а, -цтв-а, -j-о, -j-э, -ыj-а, -ат-а, -от-а, -н-я, -ур-а, -ар-а, -ін-а, -ын-а, -нік,*

*-няк* і некаторых іншых: *вучнёўства, настаўніцтва, звяр'ё, лам'ё, пер'е, карэнне, піянерыя, бедната, галота, дворня, агентура, дзетвара, машкара, садавіна, бярэзнік, хмызняк* і інш.

Да зборных адносяцца таксама назоўнікі, якія выражаюць зборнасць лексічна: *зброд, люд, моладзь, мэбля, хлам, чарот.*

### *Рэчыўныя назоўнікі*

§ 121. Назоўнікі, якія абазначаюць назвы рэчываў аднароднага саставу, называюцца р э ч ы ў н ы м і. Такія рэчывы можна дзяліць на часткі (частка рэчыва не траціць прыметы цэлага). Да рэчыўных назоўнікаў належаць назвы хімічных элементаў *(азот, аміяк, кобальт)*, выкапняў *(вугаль, торф)*, прадуктаў харчавання *(алей, малако, мёд, мука, хлеб, цукар)*, лякарстваў *(аспірын, валідол, цытрамон)*, сельскагаспадарчых культур *(авёс, жыта)*, тканін *(бастон, шоўк)*, розных матэрыялаў *(асфальт, цэмент)* і інш.

Звычайна рэчыўныя назоўнікі ўжываюцца або толькі ў адзіночным, або толькі ў множным ліку: *воцат, медзь, торф, чай; дрожджы, духі, крупы.*

### *Катэгорыя роду*

§ 122. Марфалагічная катэгорыя роду праяўляецца толькі ў формах адзіночнага ліку, але яна ўласціва назоўніку як слову ва ўсёй сістэме яго форм. У залежнасці ад семантычных або марфалагічных прымет назоўнікі адносяцца да аднаго з трох родаў: м у ж ч ы н с к а г а *(аграном, дуб, Іван, салавей, старшыня)*, ж а н о ч а г а *(бяроза, настаўніца, песня, радасць)* і н і я к а г а *(акно, поле, цемя, цяля)*. Кожная з гэтых груп характарызуецца адпаведнымі граматычнымі сувязямі з прыметнікамі, займеннікамі, дзеепрыметнікамі і дзеясловамі ў форме прошлага часу і ўмоўнага ладу *(новы дом, новая кніга, новае плацце; мой бацька, мая маці, маё дзіця; дыктант напісан, праца завершана, пісьмо адаслана; лес шумеў (бы), вада цякла (б), дзіця прыйшло (б).*

### К л а с і ф і к а ц ы я н а з о ў н і к а ў п а р о д а х

§ 123. Па марфалагічных прыметах да назоўнікаў м у ж ч ы н с к а г а роду адносяцца:

1) назоўнікі з асновай на цвёрды зычныя і *г, к, х,* якія ў назоўным склоне маюць нулявы канчатак: *завод, лес, рыбалоў, салдат; біёлаг, бярэзнік, настаўнік, мох;*

2) большасць назоўнікаў з асновай на *ж, дж, ш, ч, р* і *ц* і нулявым канчаткам у назоўным склоне: *дождж, нож, шалаш, плач, вецер, палац;*

3) назоўнікі з асновай на мяккі зычны і *й*, якія ў назоўным склоне маюць нулявы канчатак і канчатак *-я* або *-ю* ў родным склоне: *алень, вугаль, гай.*

Па значэнню да назоўнікаў мужчынскага роду адносіцца частка назоўнікаў з канчаткам *-а(-я)*:

1) назоўнікі, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу: *бацька, ваявода, дазорца, дзядзька, мужчына, мула, старшыня, старшына, тамада, тата, хлапчына;*

2) мужчынскія асабовыя ўласныя імёны: *Даніла, Мікола, Міша;*

3) назоўнікі з эмацыянальна-ацэначнымі суфіксамі *-к-, -як-, -іск- (-ыск-), -ішч- (-ышч-)*: *верабейка, салавейка, каняка, даміска, вятрыска, галасішча, вятрышча, дамішча* і пад.;

4) назоўнікі *сабака, цюцька.*

Па значэнню да мужчынскага роду адносяцца таксама:

1) іншамоўныя нескланяльныя назоўнікі, якія абазначаюць асоб мужчынскага полу або сукупнасць асоб, а таксама жывых істот незалежна ад палавой прыналежнасці: *аташэ, буржуа, дэндзі, кюрэ, рандзье, парцье, янкі; грызлі, какаду, кенгуру, поні, фламінга, шымпанзе* і інш.

Заўвага. Назоўнікі *івасі* і *цэцэ* адносяцца да жаночага роду, відаць, пад уплывам граматычнага роду слоў *рыба, муха.*

2) некаторыя неадушаўлёныя нязменныя назоўнікі: *салана, сірока, тарнада* (назвы вятроў), *бенгалі, пушту, фіджы, хіндзі* (назвы моў), *пенальці, экю.*

3) нязменныя назвы гарадоў: *Батумі, Дэлі, Сочы, Чыкага* і г. д.

Па марфалагічных прыметах да жаночага роду адносяцца:

1) назоўнікі, якія ў назоўным склоне адзіночнага ліку заканчваюцца на *-а(-я): булка, вясна, зямля, кніга, кропля, настаўніца, сажа, сасна, ткачыха, шаша, хмара;*

2) назоўнікі з асновай на мяккі зычны, радзей на *ч, ш, ж, р, б, ф, ў,* якія ў назоўным склоне маюць нулявы канчатак, а ў родным склоне канчатак *-і* або *-ы: гладзь, дэталь, моладзь, намаразь, нацыянальнасць, памяць, соль, якасць; ноч, рэч, шчолач, мыш, залеж, Свір, глыб, верф, кроў.*

Па значэнню да жаночага роду адносіцца назоўнік *маці* і запазычаныя нязменныя назоўнікі, якія абазначаюць асоб жаночага полу:

1) агульныя назвы: *ледзі, мадам, міс, місіс, пані, фрау, ханум;*

2) імёны і прозвішчы жанчын: *Кармэн, Мэры, Элен, Зэгерс, Шагінян;*

а таксама:

1) назвы дзяржаў, рэк, гор, пустынь: *Чылі, Нікарагуа, Місісіпі, Ай-Петры, Кіліманджара, Гобі;*

2) назоўнікі *кальрабі* (гатунак капусты), *беры-беры* (хвароба).

Па марфалагічных прыметах да ніякага роду адносяцца:

1) назоўнікі, якія маюць канчаткі *-е, -о(-ё), -а: зерне, поле, галлё, жыццё, вядро, дупло, воблака, неба, мора, сонца;*

2) назоўнікі на *-мя: бярэмя, вымя, імя, племя, полымя, семя, стрэмя, цемя;*

3) назоўнікі на *-я(-ё),* якія абазначаюць маладых істот: *ваўчаня(ё), гусяня(ё), парася (ё),* а таксама *дзіця, хлапчаня(ё), дзяўчо;*

4) назоўнікі з суфіксамі *-ств-а, -анн-е, -енн-е, -ішч-а* (*-ышч-а*): *прадпрыемства, сялянства, хадайніцтва; меркаванне; насенне; вогнішча, іржышча.*

Да ніякага роду адносяцца таксама:

1) большасць неадушаўлёных нязменных назоўнікаў: *алібі, бюро, інтэрв'ю, кіно, леча, метро, пюрэ, рагу, радыё, фае, фота;*

2) нязменныя назвы азёр: *Антарыё, Ківу, Чад;*

3) словы, што пераходзяць у назоўнікі з часцін мовы, якія не маюць родавых форм: *вялікае «дзякуй», гучнае «ура», пачулася працяжнае «выганяй», тваё «я», сказаў апошняе «бывай».*

§ 124. Значная колькасць назоўнікаў, якія абазначаюць асоб па роду іх дзейнасці, па характару пасады, па ўдзелу ў грамадскім і палітычным жыцці і пад., а таксама служаць для выражэння адмоўнай характарыстыкі асобы, у літаратурнай мове маюць толькі форму мужчынскага роду, хаця могуць абазначаць і асоб жаночага полу

*(аграном, брыгадзір, дэпутат, камсорг, начальнік, паштальён; абібок, лодар, невук* і інш.), напрыклад: *начальнік канструктарскага бюро камвольнага камбіната К. І. Лебедзева* (Звязда, 1972); *сакратар партыйнай арганізацыі панчошнага камбіната В. А. Юлава* (Звязда, 1972); *камуніст, кавалер ордэна Леніна Людміла Мікалаеўна Журбіла* (Там жа); *аграном Зінаіда Фёдараўна Есемчык* (А. Бялевіч).

У публіцыстычным стылі і ў мове мастацкай літаратуры назоўнікі гэтага тыпу, а таксама назоўнікі мужчынскага роду на *-а (-я),* калі яны абазначаюць асоб жаночага полу і маюць пры сабе прыдатак, які называе прозвішча асобы, спалучаюцца з дзеясловамі прошлага часу ў форме жаночага роду: *Сказала карэспандэнту ТАСС начальнік бюро надвор'я І. Н. Сяргеева* (Звязда, 1972); *Ля тэлефона была галоўны інжынер прадпрыемства А. Дацэнка* (Звязда, 1972); *Дапамагала ім у гэтым кіраўнік канструктарскага бюро ... Лідзія Уладзіміраўна Лапіна* (Піянер Беларусі, 1972).

Заўвага. Прыметнікі з такімі назоўнікамі дапасуюцца ў родзе, г. зн. маюць форму мужчынскага роду: *Старшы аграном павярнула на вузкую сцежку* (М. Паслядовіч); *Паліна Нікандраўна з калгасным аграномам Аняй Кавалёвай гэтыя дні аглядаюць землі* (І. Дуброўскі). Аднак у гутарковай мове пры назоўніках мужчынскага роду на *-а (-я),* якія абазначаюць асоб жаночага полу, прыметнікі і займеннікі сустракаюцца ў форме жаночага роду: *прыйшла наша староста Ніна; выступіла новая суддзя Сакалова.*

Паралельныя назвы для абазначэння асоб жаночага полу замацаваліся ў нейтральным стылі ў тых выпадках, калі прафесія ў роўнай меры звязана як з жаночай, так і з мужчынскай працай. Напрыклад: *лабарант — лабарантка, прадавец — прадаўшчыца, выкладчык — выкладчыца, настаўнік — настаўніца, студэнт — студэнтка, пісьменнік — пісьменніца, артыст — артыстка* і г. д.

Аднак, нягледзячы на свабоднае ўтварэнне падобных назваў у форме жаночага роду, не ўсе яны выкарыстоўваюцца ва ўсіх стылях. Так, у афіцыйна-дзелавым стылі перавага аддаецца ўтварэнням мужчынскага роду: *Узнагародзіць граматай старшага прадаўца Іванову; Спраўка выдадзена лабаранту Марозавай; Характарыстыка выкладчыка кафедры беларускай мовы Ганчаровай.*

### Назоўнікі агульнага роду

§ 125. У беларускай мове ёсць група назоўнікаў на *-а (-я)* т. зв. агульнага роду, якія абазначаюць асобу мужчынскага або жаночага полу па характэрнаму дзеянню або прымеце. Часцей за ўсё гэтыя назоўнікі маюць эмацыянальна-экспрэсіўную афарбоўку, і сфера іх ужывання — размоўны стыль мовы. Сінтаксічнымі паказчыкамі роду з'яўляюцца канчаткі прыметнікаў, дзеепрыметнікаў, парадкавых лічэбнікаў, дзеяслоўных форм прошлага часу, што ў залежнасці ад полу асобы, якую абазначаюць такія назоўнікі, прымаюць форму мужчынскага ці жаночага роду. Назоўнікаў агульнага роду ў беларускай мове каля сотні: *абжора, абдзірала, аб'ядала, адзіночка, бадзяга, беларучка, боўдзіла, брыда, валацуга, выскачка, гуляка, дурніла, дурніца, дурыла, жмінда, забіяка, забойца, задавака, задзіра, зазнайка, заіка, здыхля, здыхляціна, злачынца, зубрыла, калека, кніганоша, крыўляка, лежабока, ляўша, малайчына, манюка, мурза, мямля, назола, насупа, начніца, недавучка, недалуга, недарэка, непаседа, нераўня, нязгрэба,*

*няздара, няўклюда, няўмека, падліза, памаўза, папрашайка, пачвара, пісака, плакса, пранырa, прыдзіра, прыблуда, пустамеля, п'яніца, размазня, разява, разявака, расцяпа, румза, салапяка, самавучка, сарвігалава, святоша, сірата, сіраціна, сіўка, скнара, скупянда, служка, соня, стыляга, сцерва, творца, туляга, тупіца, урода, ханжа, хапуга, цёзка, ціхоня, чужаніца, чысцёха, шаляніца, шэльма* і некаторыя іншыя.

Да назоўнікаў т. зв. агульнага роду адносяцца словы *гняўко, нямко, хвалько*, а таксама бытавыя формы ад афіцыйных уласных імён тыпу *Саша, Лёня, Слава, Валя, Шура* і інш.

### Граматычны род абрэвіятур

§ 126. Граматычны род абрэвіятур вызначаецца або па структуры скарачэння, або па сэнсу, г. зн. па апорнаму слову расшыфроўкі.

Па структуры скарачэння да мужчынскага роду адносяцца:

1) «ініцыяльныя» гукавыя абрэвіятуры, якія заканчваюцца на зычны і пішуцца малымі літарамі: *загс* (запіс актаў грамадзянскага стану), *дот* (доўгачасовы агнявы пункт);

2) абрэвіятуры, якія складаюцца з пачатковых частак слоў або з пачатковых частак слоў і пачатковых гукаў (або назваў літар): *абком* (абласны камітэт), *ваенком* (ваенны камісар), *ваенкор* (ваенны карэспандэнт), *ваенрук* (ваенны кіраўнік), *геафак* (геаграфічны факультэт), *дзяржплемгас* (дзяржаўная племянная гаспадарка), *дзяржстрах* (дзяржаўнае страхаванне), *Дзяржтэхвыд* (Дзяржаўнае тэхнічнае выдавецтва), *дыямат* (дыялектычны матэрыялізм), *завуч* (загадчык навучальнай часткі), *калгас* (калектыўная гаспадарка), *камбат* (камандзір батальёна), *камсорг* (камсамольскі арганізатар), *камсамол* Камуністычны Саюз Моладзі), *лясгас* (лясная гаспадарка), *Мінбуд* (Міністэрства будаўніцтва), *мясцком* (мясцовы камітэт), *прафорг* (прафсаюзны арганізатар), *рыбгас* (рыбная гаспадарка), *сацстрах* (сацыяльнае страхаванне) і інш.

Род некаторых абрэвіятур вызначаецца па сэнсу. Абрэвіятуры, якія складаюцца з пачатковай часткі слова і цэлага слова, а таксама абрэвіятуры, якія ўтвораны шляхам спалучэння пачатку першага слова з пачаткам і канцом другога слова або толькі з яго канцом, маюць той жа род, што і апошняе слова: *ашчадкаса* ж., *ашчадкніжка* ж., *аргработа* ж., *аргаддзел* м., *эсмінец* м. (эскадронны мінаносец), *ваенкамат* м. (ваенны камісарыят), *мапед* м. (матацыкл-веласіпед). Абрэвіятуры, якія ўтвораны шляхам спалучэння часткі слова з назоўнікам у форме ўскоснага склону, адносяцца да таго ж роду, што і першае скарочанае слова: *камроты* м. (камандзір роты), *кампалка* м. (камандзір палка).

Род літарных і гукавых абрэвіятур, якія пішуцца вялікімі літарамі, часцей за ўсё вызначаецца па сэнсу апорнага слова зыходнага словазлучэння: *ЦУМ* м. (Цэнтральны універсальны магазін), *ДАСТ* м. (Дзяржаўны агульнасаюзны стандарт), *ДТ* м. (Дом тэхнікі), *МАЗ* м. (Мінскі ордэна Леніна і ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі аўтамабільны завод), *АТК* м. (аддзел тэхнічнага кантролю), *СП* м. (Саюз пісьменнікаў), *ЦДСА* м. (Цэнтральны Дом Савецкай Арміі імя М. В. Фрунзе), *ВЛКСМ* м. (Усесаюзны Ленінскі Камуністычны Саюз Моладзі), *БДУ* м. (Беларускі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўны універсітэт імя У. І. Леніна), *БССР* ж. (Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка), *ВДНГ* ж. (Выстаўка дасягненняў народнай гаспадаркі), *МТС* ж. (машынна-трактарная станцыя), *ГЭС* ж. (гідраэлектрастанцыя), *БелСЭ* ж. (Беларуская Савецкая Энцыклапедыя), *РТС* ж. (раённая тэлефонная сетка), *ЭВМ* ж. (электронная вы-

лічальная машына), *АТС* ж. (аўтаматычная тэлефонная станцыя), *СКБ* н. (спецыяльнае канструктарскае бюро), *СНТ* н. (студэнцкае навуковае таварыства), *ЦКБ* н. (цэнтральнае канструктарскае бюро).

Аднак род некаторых ініцыяльных абрэвіятур, якія ўтвараюць склад і канчаюцца на зычны, можа вызначацца не па сэнсу, а па структуры скарачэння. Так, у моўнай практыцы абрэвіятуры *БАМ* (Байкала-Амурская магістраль), *ВАК* (Вышэйшая атэстацыйная камісія), *ТАСС* (Тэлеграфнае агенцтва Савецкага Саюза) адносяцца часцей да мужчынскага роду, хаця апорныя назоўнікі ў іх жаночага і ніякага роду[1].

### Варыянтныя родавыя формы

§ 127. Невялікая колькасць назоўнікаў у сучаснай беларускай мове мае варыянтныя родавыя формы:

| Жаночы род | Мужчынскі род |
|---|---|
| *зала* | *зал* |
| *замша* | *замш* |
| *салата* | *салат* |
| *таполя* | *топаль* |

Перавага аддаецца формам жаночага роду.

| Мужчынскі род | Жаночы род |
|---|---|
| *клавіш* | *клавіша* |
| *санаторый* | *санаторыя* |
| *сахарын* | *сахарына* |
| *тыгр* | *тыгра* |

Перавага аддаецца формам мужчынскага роду.

Некаторыя назоўнікі, якія ў літаратурнай мове ўжываюцца ў мужчынскім родзе, у мове мастацкай літаратуры і гутарковым стылі могуць мець форму жаночага або ніякага роду.

Да іх ліку адносяцца: *боль, дыяганаль, жаваранак, жаль, каромысел, комін, мазоль, медаль, мухамор, палын, пасаг, пачак, плёс, раяль, россып, рукапіс, сабака, сажань, статак, стэп, табель, туфель, фальш, цень, цуд, шаль, шампунь, шынель, яблык.* Прыклады адступленняў ад літаратурнай нормы: [Карусь] *цыркаў сліну З-за белай комі́ны на хату* (Я. Колас); *Маладыя спартсмен.. прыціскаў букеты кветак да ззяючай на грудзях залатой медалі чэмпіёна* (Беларусь, 1978); *На тварах — Смяротная цень* (П. Броўка); *Рот заткнёны канцом шалі* (К. Крапіва); *Успамінаў потым Андрэй перацягнутую ў таліі шырокім салдацкім рэменем старэнькую шынель* (І. Сіняўскі); *Вось дзе сабака закопана* (І. Гурскі); *Да чаго ж прыгожа казахская і ўзбекская стэп* (Я. Колас); *Наступіў ёй на туфлю* (М. Лынькоў); *Прынясіце мне дзве пачкі папярос* (К. Крапіва); *Мароз паказаў у той бок, дзе крумкала, квакала ў тысячу галасоў зялёнае плёса* (М. Лобан); *— У сярэдзіне чэрвеня такое цуда! — ён узяў памідор* (І. Шамякін); *Падхапіць на каромысла пайнюткія вёдры* (А. Ус).

У паэтычных творах такія парушэнні могуць паяўляцца ў сувязі з неабходнасцю захавання рыфмы.

[1] Указанне на граматычны род кожнага асобнага складанаскарочанага слова і абрэвіятуры патрэбна глядзець у слоўніках.

Напрыклад, у Я. Коласа: *Вось звоны звоняць ціха, гожа, Спявае ж а в а р а н к а б о ж а, А ёй уторацць пташак хоры..; Міхал не спіць, а б о л ь т у п а я Яму пад сэрца падступае.*

Толькі як назоўнікі жаночага роду павінны ўжывацца словы *жырафа, камода, кішэнь (кішэня), папера, пасма, табака, трэль, шпона.* Ужыванне гэтых назоўнікаў у мужчынскім родзе з'яўляецца адступленнем ад літаратурнай нормы: *Тут стаяў нікеліраваны ложак, к а м о д, стол* (І. Навуменка); *Пабялеў, як той п а п е р* (Я. Колас); [Люба] *падтыкае мезенцам пад цёплую хустку н е п а с л у х м я н а е п а с м а* (А. Карпюк); *Запіхнуў паперку ў н а г р у д н ы к і ш э н ь* (В. Быкаў).

### Катэгорыя ліку

§ 128. У сучаснай беларускай літаратурнай мове для назоўнікаў характэрны дзве формы ліку — а д з і н о ч н а г а і м н о ж н а г а. Формы адзіночнага ліку ўказваюць на адзін прадмет, з'яву *(стол, год, дагавор, газета, акно)* або на сукупнасць, непадзельнасць *(мёд, малако, лісце, студэнцтва, моладзь).* Формы множнага ліку ўказваюць на раздзельную множнасць прадметаў, з'яў *(сталы, гады, дагаворы, газеты, вокны).* Формы множнага ліку могуць абазначаць таксама сукупнасць прадметаў або асоб *(валасы, французы, беларусы).*

§ 129. Не паддаюцца лічэнню і маюць толькі форму адзіночнага ліку:

1) рэчыўныя назоўнікі: *азот, віка, віно, волава, вугаль, гарох, гразь, жвір, золата, кісель, клей, малако, масла, мёд, ртуць, рыс, сала, салома, соль, чарніла, ячмень;*

2) зборныя назоўнікі: *апаратура, бярэзнік, вучнёўства, галлё, карэнне, лістота, моладзь, пер'е, птаства, радня, студэнцтва;*

3) абстрактныя назоўнікі, якія абазначаюць дзеянні, якасці, уласцівасці, стан: *бляск, бурленне, ветлівасць, глыбіня, дрымота, ініцыятыва, калектывізм, мараль, неабдымнасць, непрыемнасць, радасць, смех, суседства, яскравасць* і г. д.;

4) назоўнікі, якія абазначаюць грамадска-палітычныя вучэнні, формы дзяржаўнага ладу, мерапрыемствы і пад.: *марксізм, сацыялізм, аўтаматызацыя* і інш.;

5) назоўнікі, якія абазначаюць напрамкі свету: *захад, поўдзень, поўнач, усход;*

6) большасць уласных назваў: *Іван, Вольга, Пятровіч, Мінск, Нёман, Няміга, Азія, Афрыка, Урал, Венера, Юпітэр.*

Але ў пэўных сітуацыях ад некаторых адзіночналікавых назоўнікаў могуць утварацца формы множнага ліку. Некаторыя рэчыўныя назоўнікі ў форме множнага ліку абазначаюць від, гатунак: *вада — воды* (мінеральныя), *раса — росы* (вячэрнія), *віно — віны* (сухія, дэсертныя), *гразь — гразі* (лячэбныя), *соль — солі* (калійныя).

Форма множнага ліку некаторых абстрактных назоўнікаў абазначае канкрэтнае праяўленне пэўных якасцей, уласцівасцей або шматактнае дзеянне: *непрыемнасць — многа непрыемнасцей у адзін дзень, радасць — радасці сустрэч, хуткасць — хуткасці, гонка — гонкі.*

Адносіны адзіночнага і множнага ліку некаторых рэчыўных і абстрактных назоўнікаў адлюстроўваюць розніцу ў велічыні, масе, аб'ёме, прасторы, інтэнсіўнасці праяўлення: *авёс — аўсы, пясок — пяскі пустыні, снег — снягі Поўначы, ячмень — ячмяні; боль — болі ў вобласці сэрца, шум — шумы.* Прыклады з мастацкай літаратуры: *Я бачу роўныя пакаты Палёў за Нёманам і іх шаты — А ў с о ў палоскі, лавы жыта* (Я. Колас); *Над полем, дзе спелі жыта і п ш а н і ц ы. І мыліся ў*

*росах а ў с ы, Прайшла, празваніла свой час навальніца На ўсе галасы* (Я. Колас).

Формы множнага ліку ўласных імён ужываюцца для абазначэння розных асоб: *у класе дзве В а л і; у інстытуце працуюць дзве І в а н о в ы; браты К а з л о в ы; муж і жонка П я т р о в і ч ы, сям'я У р б а н о в і ч а ў.*

§ 130. Толькі формы множнага ліку маюць:

1) назоўнікі, якія абазначаюць прадметы, што складаюцца з дзвюх або больш аднолькавых частак: *абцугі, акуляры, вароты, вусны, граблі, грудзі, дзверы, клешчы, каралі, краты, кросны, куранты, лічыльнікі, лескі, лейцы, лёгкія, нажніцы, нары, насілкі, пласкагубцы, сані, шалі, шамкі, шлейкі* і г. д., а таксама некаторыя іншыя прадметы: *ночвы, сені, яслі;*

2) назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць чаго-небудзь як мноства: *аліменты, грошы, джунглі, мемуары, рэсурсы, субтропікі, тропікі, фінансы;*

3) назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць асоб, грамадскія пласты: *бацькі, людзі, кадры, нізы;*

4) ад'ектыўныя назоўнікі, якія з'яўляюцца батанічнымі і заалагічнымі тэрмінамі: *вязавыя, губацветныя, злакавыя, цытрусавыя; жвачныя;* некаторыя сельскагаспадарчыя тэрміны: *азімыя, яравыя.*

5) рэчыўныя назоўнікі, якія абазначаюць аднародную масу: *бялілы, дрожджы, духі, крупы;* некаторыя віды ежы: *біткі, зразы, мазгі, прысмакі, тэфтэлі;* рэшткі чаго-небудзь: *аб'едкі, апілкі, ачысткі, памыі;* матэрыялы: *абоі, дровы, лесаматэрыялы;*

6) абстрактныя назоўнікі, якія абазначаюць дзеянні, працэсы, што адбываюцца працягла або выконваюцца многімі: *выбары, заработкі, перавыбары, правады, роды;* бытавыя абрады: *дажынкі, імяніны, памінкі, радзіны;* адрэзкі часу: *канікулы, суткі;* віды гульняў: *жмуркі, хованкі, шахматы;*

7) некаторыя ўласныя геаграфічныя і астранамічныя назвы: *Альпы, Карпаты, Філіпіны, Баранавічы, Смалявічы, Навасёлкі, Барaўляны,* сузор'е *Плеяды.*

Множналікавыя назоўнікі, якія абазначаюць прадметы, што можна лічыць *(абцугі, дзверы, нажніцы, сені, штаны)*, а таксама некаторыя назоўнікі з часавым значэннем могуць мець супрацьпастаўленне адзінкавасць — множнасць, якое выражаецца сінтаксічна. Значэнне адзінкавасці перадаецца спалучэннямі тыпу *адны абцугі, адны нажніцы, адны суткі,* а значэнне множнасці (звычайна пры ўказанні колькасці да пяці) спалучэннямі са зборнымі лічэбнікамі *(двое нажніц, чацвёра сутак)* або з колькаснымі ці няпэўна-колькаснымі лічэбнікамі *(дзесяць дзвярэй, дваццаць пяць сутак, некалькі насілак).*

Састаўныя лічэбнікі, у склад якіх уваходзіць лічба *два, тры, чатыры,* з множналікавымі назоўнікамі не спалучаюцца. Няправільнымі з'яўляюцца як спалучэнні *дваццаць тры суткі,* так і *дваццаць трое сутак.* У такіх сітуацыях трэба выкарыстоўваць апісальныя канструкцыі: *дваццаць тры дні і ночы; дваццаць тры пары нажніц.*

§ 131. Ад множналікавых назоўнікаў трэба адрозніваць словы, якія ўжываюцца пераважна ў множным ліку, але маюць і форму адзіночнага ліку: *блізняты, боты, буцы, гетры, ініцыялы, лыжы, панажы, поручні, туфлі, чаравікі* і некаторыя іншыя.

§ 132. У творах мастацкай літаратуры і ў гутарковай мове адзначаецца ўжыванне форм тыпу *бруссі, бярвенні, валоссі, зуб'і, каменні, калоссі, карэнні, коллі, крыллі, лісці, паводдзі, пер'і, праменні* і некаторыя іншыя, якія па марфалагічнай структуры суадносяцца са зборны-

мі назоўнікамі *бруссе, бярвенне, валоссе, зуб'е, каменне* і г. д. і ўспрымаюцца як формы множнага ліку ад гэтых назоўнікаў: *Яны вышлі на пустыр, дзе нікога не было, і спыніліся каля яруса акуратна зложаных бярвенняў* (Я. Колас); *На пагорках і пайднёвых схілах пабялела жыта, пахілілася долу важкімі калоссямі* (А. Асіпенка); *І калоссі мнагазначна Хіляць, гнуць галовы* (Я. Колас); *Па краях папярэчных баразёнак валяліся вырытыя з карэннямі раслінкі* (П. Беразняк); *Гэты шэпт здаваўся яму ледзь прыкметным подыхам ветру па лісцях* (З. Бядуля); *Калі-нікалі апускаліся на паляну бусловыя пер'і* (З. Бядуля).

У літаратурнай мове для абазначэння больш як аднаго прадмета ўжываецца форма множнага ліку: *брусы, бярвёны, валасы, зубы, камяні, каласы, калы, карані, павады, палазы, пёры, прамяні.* Для выражэння множнасці як адзінага цэлага — формы *бруссе, валоссе, калоссе, лісце, колле* і г. д.

§ 133. Сінтаксічным шляхам выражаецца супрацьпастаўленне адзінкавасць — множнасць у нескланяльных назоўніках: *купілі новае паліто — купілі новыя паліто; вісіць паліто — вісяць паліто; наш аташэ — нашы аташэ.*

§ 134. У беларускай мове ёсць дзве групы назоўнікаў з пачатковай часткай *паў-*. Першую групу складаюць словы тыпу *паўмесяц, паўабарот, паўкруг, паўбутэлька, паўгоддзе.* Яны маюць катэгорыю роду, ліку і склону. Да другой групы адносяцца словы, якія складаюцца з часткі *паў-* і роднага склону назоўніка: *паўмесяца, паўабарота, паўкруга, паўгода, паўкіламетра, паўбутэлькі, паўдарогі, паўнеба.* Па традыцыі гэтым словам у слоўніках даецца родавая характарыстыка: *паўмесяца* м., *паўкруга* м., *паўгода* м., *паўдарогі* ж., *паўнеба* н. і г. д. Асаблівасць гэтых слоў заключаецца ў тым, што яны не маюць фармальнага паказчыка множнасці і выступаюць часцей за ўсё толькі ў функцыі назоўнага і вінавальнага склонаў, г. зн. могуць быць у сказе дзейнікам або акалічнасцю меры: *прайшло паўгода, на стале ляжала паўлімона, мы прайшлі паўкіламетра; яны пастаялі паўгадзіны, адпрацавалі паўзмены, хмары зацягнулі паўнеба.* У гутарковай мове некаторыя з гэтых назоўнікаў могуць ужывацца і ў іншых ускосных склонах.

Для гэтых слоў характэрна і своеасаблівая спалучальнасць з прыметнікамі і дзеяслоўнымі формамі. Азначэнні пры такіх словах, выражаныя прыметнікам або займеннікам, стаяць у множным ліку: *першыя паўгадзіны ён адпачываў; прайшлі цяжкія паўкіламетра; гэтыя паўрубля мяне не выручаць.* Выказнік стаіць у адзіночным ліку (асабовая форма дзеяслова цяперашняга або будучага часу, форма прошлага часу ніякага роду або форма дзеепрыметніка ніякага роду), калі пры словах *паўгода, паўгадзіны* і падобных няма азначэння: *пройдзе паўгода; засталося паўгадзіны да пачатку ўрока; пройдзена паўкіламетра; прачытана паўкнігі.* Калі пры гэтых словах ёсць азначэнні, выказнік мае форму множнага ліку: *першыя паўгода аказаліся не такімі лёгкімі; апошнія паўкіламетра пройдзены.* Гэтыя словы вядуць сябе не як адно слова, а набліжаюцца да сінтаксічных спалучэнняў тыпу *два, тры гады; дзве, тры гадзіны* і г. д.

### *Катэгорыя склону*

§ 135. Катэгорыя склону — гэта словазмяняльная катэгорыя назоўніка, якая паказвае на адносіны назоўніка да іншага слова ў словазлучэнні або сказе. У беларускай мове катэгорыя склону прадстаўлена шасцю радамі флексій у адзіночным ліку і шасцю радамі флексій у множным ліку.

## *Скланенне назоўнікаў*

§ 136. Змяненне слова па склонах, а таксама клас слоў, аб'яднаных агульнасцю словазмянення, называецца скланеннем.

У залежнасці ад сістэмы флексій у адзіночным ліку кожнага асобнага назоўніка, а таксама граматычнага роду назоўнікі размяркоўваюцца па трох класах (скланеннях): першае, другое і трэцяе скланенні.

Парадак скланенняў не мае істотнага значэння, і таму ў розных лінгвістычных працах няма строга вызначанай паслядоўнасці.

Да першага скланення адносяцца:

1) назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам у назоўным склоне адзіночнага ліку: *дом, лес, поплаў, стол; рог, кажух, спісак; нож, чытач; агонь, каваль, край; Іван, Лукаш, Алесь,* назоўнікі тыпу *Паўло, Пятро, Дняпро,* а таксама назоўнікі на *-а* з ацэначнымі суфіксамі *-іск-а (-ыск-а), -ішч-а: агніска, вятрыска, даміска, галасішча, дамішча, халадзішча* і пад.;

2) назоўнікі ніякага роду, якія ў назоўным склоне адзіночнага ліку заканчваюцца на *-о(-ё), -а, -е: акно, вядро, галлё, жыццё; мора, рэчышча, сена, насенне, поле, шчасце,* а таксама 5 назоўнікаў на *-мя: бярэмя, вымя, полымя, семя, цемя.*

Да другога скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з канчаткам *-а (-я)* у назоўным склоне адзіночнага ліку: *галава, дача, нага, рэчка, сцяна, шаша; зямля, сесія.*

Да трэцяга скланення адносяцца назоўнікі жаночага роду з нулявым канчаткам і асновай на цвёрды, зацвярдзелы або мяккі зычны: *верф, кроў, свякроў; даль, нацыянальнасць, радасць, соль; ноч, туш.*

§ 137. Некаторымі асаблівасцямі пры скланенні ў адзіночным ліку вызначаюцца асабовыя назоўнікі мужчынскага роду на *-а (-я): бацька, мужчына, прамоўца, старшыня* і пад. і назоўнікі агульнага роду: *задавака, плакса, ціхоня.*

Вылучаюцца сваімі асаблівасцямі ў множным ліку назоўнікі мужчынскага роду з суфіксам *-анін (-янін): віцяблянін, мінчанін;* назоўнікі *сусед, чорт,* а таксама назоўнікі ніякага роду *вока, вуха, калена, неба.*

Невялікая частка назоўнікаў у сувязі з асаблівасцямі некаторых склонавых форм не ўключаецца ні ў адзін з тыпаў скланення. Гэта так званыя рознаскланяльныя назоўнікі ніякага роду, што называюць маладых істот тыпу *ваўчаня(ё), кураня(ё), цяля(ё), свінчо (разм.),* а таксама назоўнікі *дзіця, немаўля, хлапчаня(ё), дзяўчо,* 3 назоўнікі на *-мя: імя, племя, стрэмя* і назоўнік *маці.*

Асобную групу складаюць назоўнікі, зыходныя формы якіх падобныя на прыналежныя прыметнікі: *кабельтаў, швартоў; Іваноў, Раманаў, Фамін; Грышына, Собалева.*

Па ад'ектыўнаму скланенню змяняюцца субстантываваныя прыметнікі *(ляснічы, хворы; прыёмная, сталовая; марожанае, насякомае; зернавыя).*

§ 138. Так званае нулявое скланенне ўтвараюць нязменныя назоўнікі. Сюды адносяцца:

1) значная колькасць назоўнікаў іншамоўнага паходжання, якія заканчваюцца на галосны (таксама ўласныя геаграфічныя назвы, імёны і прозвішчы): *дэндзі, пані, парцье, аташэ, дэпо, паліто, какаду, кенгуру, Сочы, Чылі, Дадэ;*

2) іншамоўныя назоўнікі жаночага роду з асновай на зычны (у тым ліку імёны і прозвішчы): *мадам, міс, місіс, Элен, Зэгерс;*

3) жаночыя прозвішчы, якія ўтварыліся ад агульных назоўнікаў

ніякага роду (*Шыла, Сукала*) або ад назоўнікаў, род якіх выразна не выступае (*Бандарэнка, Бірыла, Валошанка, Глебка*), а таксама жаночыя прозвішчы, якія заканчваюцца на зычны (*Лаўрэль, Лобач, Лявончык, Рамановіч, Шыцік*);

4) уласна беларускія і іншамоўныя прозвішчы асоб мужчынскага і жаночага полу на націскное *-о*: *Вітко, Гурло, Крамко, Ралько; Гуно, Дзюкло*;

5) прозвішчы на *-ых (-іх)*: *Баранавых, Мялкіх, Сядых*;

6) словы, якія складаюцца з часткі *паў-* і роднага склону адзіночнага ліку назоўніка: *паўбутэлькі, паўвярсты, паўгода, паўкіламетра, паўлімона, паўнеба, паўяблыка, паў-Мінска*;

7) абрэвіятуры:

а) якія ўтвораны шляхам спалучэння пачатковай часткі аднаго назоўніка з формай ускоснага склону другога: *кампалка, камроты*;

б) якія складаюцца з пачатковай часткі слова і з пачатковых гукаў і канчаюцца на галосны: *аблана, гарана, райана, райфа*;

в) «ініцыяльныя» літарныя: *БССР* [бэ-эс-эс-эр], *ВЛКСМ* [вэ-эл-ка-эс-эм], *АТК* [а-тэ-ка] — аддзел тэхнічнага кантролю, *МТЗ* [эм-тэ-зэ] — Мінскі трактарны завод, *ЦКБ* [цэ-ка-бэ] — цэнтральнае канструктарскае бюро, *СКБ* [эс-ка-бэ] — спецыяльнае канструктарскае бюро, *СП* [эс-пэ] — Саюз пісьменнікаў, *АТС* [ а-тэ-эс] — аўтаматычная тэлефонная станцыя, *БДУ* [бэ-дэ-у] — Беларускі дзяржаўны універсітэт, *БВА* [бэ-вэ-а] — Беларуская ваенная акруга, *БПІ* [бэ-пэ-і] — Беларускі політэхнічны інстытут, *ЦДСА* [цэ-дэ-са] — Цэнтральны Дом Савецкай Арміі.

г) «ініцыяльныя» гукавыя, якія заканчваюцца на галосны: *ДАІ* [даі] — дзяржаўная аўтамабільная інспекцыя, *АСУ* [асу] — аўтаматычная справачная ўстаноўка, *БелСЭ* [белсэ] — Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, *ФІФА* [фіфа́] — Міжнародная федэрацыя футбола, Federation Internationale de Football Association, FIFA.

д) «ініцыяльныя» гукавыя, якія ўтвараюць склад, заканчваюцца на зычны і адносяцца да жаночага роду: *ГЭС* [гэс] — гідраэлектрычная станцыя, *ААН* [аан] — Арганізацыя Аб'яднаных Нацый.

Заўвага 1. Некаторыя «ініцыяльныя» гукавыя абрэвіятуры з апорным назоўнікам жаночага роду могуць скланяцца: *БАМ — Паехаў працаваць на БАМ; Працаваў на будаўніцтве БАМа; Будаўніцтва на БАМе вялося апераджальнымі тэмпамі; ВАК* (Вышэйшая атэстацыйная камісія) — *Адбылося пасяджэнне ВАКа; ВАКам было зацверджана некалькі дысертацый; ЖЭК — Спраўку аб складзе сям'і можна атрымаць у ЖЭКу*. Такія абрэвіятуры скланяюцца, як назоўнікі мужчынскага роду з цвёрдай асновай.

Заўвага 2. Рэгулярна скланяюцца гукавыя абрэвіятуры, якія пішуцца малымі літарамі: *загс — загса, загсу, загсам, у загсе; дот — дота, доту, дотам, у доце; дзот — дзота, дзоту, дзотам, у дзоце; нэп—нэпа, нэпу, нэпам, аб нэпе,* а таксама «ініцыяльныя» гукавыя, якія шырока ўжываюцца ў гутарковай мове: *ЦУМ—ЦУМа, ЦУМу, ЦУМам, у ЦУМе; МАЗ — МАЗа, МАЗу, МАЗам, на МАЗе.*

§ 139. Пры скланенні назоўнікі адрозніваюцца канчаткамі толькі ў адзіночным ліку. У множным ліку назоўнікі маюць агульную сістэму склонавых канчаткаў. І толькі ў родным і творным склонах у частцы назоўнікаў назіраюцца адрозненні, якія залежаць ад граматычнага роду назоўніка і тыпу асновы.

## Першае скланенне

§ 140. Агульная схема склонавых канчаткаў назоўнікаў адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду:

| Склон | Мужчынскі род | Ніякі род |
|---|---|---|
| Н. | ∅ | *-о(-ё), -а, -е* |
| Р. | *-а(-я), -у(-ю)* | *-а(-я)* |
| Д. | *-у(-ю)* | |
| В. | як Н. або Р. | як Н. |
| Т. | *-ом(-ём), -ам, -ем* | |
| М. | *-е, -у(-ю), -ы(-і)* | |

Заўвага 1. Тут і далей канчаткі ў табліцы падаюцца ў арфаграфічным напісанні.

Заўвага 2. Нулявы канчатак абазначан ∅.

### *Скланенне назоўнікаў мужчынскага роду*

§ 141. Склонавыя формы назоўнікаў мужчынскага роду залежаць як ад семантыкі назоўнікаў, так і ад фанетыка-марфалагічных прымет. Да семантычных прымет, якія ўплываюць на склонавыя формы гэтых назоўнікаў, адносяцца:

1) паняцце асабовасці;
2) паняцце адушаўлёнасці — неадушаўлёнасці;
3) паняцце канкрэтнасці — абстрактнасці;
4) паняцце адзінкавасці — зборнасці.

Да фанетыка-марфалагічных прымет належыць характар канцавога зычнага асновы і характар націску. У залежнасці ад якасці зычнага выдзяляюцца наступныя тыпы асноў:

1) аснова на цвёрды зычны;
2) аснова на мяккі зычны і *й;*
3) аснова на *ж, ш, дж, ч, р, ц;*
4) аснова на *г, к, х.*

## Скланенне асабовых назоўнікаў мужчынскага роду

### § 142. Сістэма канчаткаў:

| Склон | Аснова | | | |
|---|---|---|---|---|
| | на цвёрды зычны | на *ж, ш, ч, дж, р, ц* | на *г, к, х* | на мяккі зычны |
| Н. | ∅ | | | |
| Р. | *-а* | | | *-я* |
| Д. | *-у* | | | *-ю* |
| В. | як Р. | | | |
| Т. | *-ам, -ом* | | | *-ем, -ём* |
| М. | *-е* | *-у* | | *-ю* |

### § 143. Узор скланення

Аснова на цвёрды зычны

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. *брат* | *апякун* | *лесавод* | *рыбалоў* | *Іван* |
| Р. *брат-а* | *апекун-а* | *лесавод-а* | *рыбалов-а* | *Іван-а* |
| Д. *брат-у* | *апекун-у* | *лесавод-у* | *рыбалов-у* | *Іван-у* |
| В. *брат-а* | *апекун-а* | *лесавод-а* | *рыбалов-а* | *Іван-а* |
| Т. *брат-ам* | *апекун-ом* | *лесавод-ам* | *рыбалов-ам* | *Іван-ам* |
| М. *(аб) брац-е* | *апекун-е* | *лесаводз-е* | *рыбалов-е* | *Іван-е* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. Перад канчаткам *-е* ў месным склоне адбываецца пазіцыйнае змякчэнне цвёрдых зычных.

2. Назоўнікі *дзед, прадзед* у месным склоне маюць варыянтныя канчаткі *-е* і *-у*: *пры дзедзе, аб прадзедзе* і *пры дзеду, аб прадзеду.*

Заўвага. Адпаведна з Правапісам беларускай мовы (1934) і Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі (1959) асабовыя назоўнікі мужчынскага роду з асновай на цвёрды зычны, а таксама ўласныя імёны і прозвішчы з такой жа асновай павінны ўжывацца ў месным склоне з канчаткам *-е*. Аднак даволі шырока распаўсюджаныя ў беларускіх гаворках формы з канчаткам *-у* пранікалі ў пісьмовую беларускую мову, што прыводзіла да дублетнасці (гл.: Дыялекталагічны атлас беларускай мовы.— Мн., 1963, карта № 79; Жыдовіч М. А. Назоўнік у беларускай мове: Адзіночны лік.— Мн., 1969, ч. 1, с. 104).

Улічыўшы, з аднаго боку, значнае пашырэнне канчатка *-у* ў месным склоне асабовых назоўнікаў з асновай на цвёрды зычны і, з другога боку, імкнучыся уніфікаваць формы меснага склону асабовых назоўнікаў, некаторыя мовазнаўцы прапанавалі ў якасці літаратурнай нормы форму на *-у (-ю)* для асабовых назоўнікаў незалежна ад якасці апошняга зычнага асновы, за выключэннем уласных імён і прозвішч, у якіх канчаткі *-у (-ю)* ці *-е* дыферэнцыруюцца ў залежнасці ад апошняга зычнага асновы (гл.: Граматыка беларускай мовы.— Мн., 1962, ч. 1, с. 53—54). Такім чынам, пытанне аб уніфікацыі меснага склону адзіночнага ліку асабовых назоўнікаў не было вырашана да канца, і ў моўнай практыцы назіралася і назіраецца ў нашы дні ўжыванне дублетных форм на *-у* і *-е*, напрыклад: *На маім ласуну-сабачку* (Э. Агняцвет); *аб добрым сем'яніну* (Настаўніцкая газета, 1968); *аб выдатным камуністу* (Там жа); *Бабка Наста не спала, гаруючы аб Панасе і аб дзеду Талашу* (Я. Колас); *баладу аб Іване ды Мар'і* (Полымя, 1972); *аб выдатным сыне* (Настаўніцкая газета, 1968); *Што яна знайшла ў гэтым Громе?* (А. Чарнышэвіч); *аб народным артысце* (Вячэрні Мінск, 1969); *Чытаць вершы аб Леніне* (Піянер Беларусі, 1980).

Аснова на *ж, ш, ч, дж, р, ц*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. *муж* | *чытач* | *выхадзец* | *Рыгор* | *Талаш* |
| Р. *муж-а* | *чытач-а* | *выхадц-а* | *Рыгор-а* | *Талаш-а* |
| Д. *муж-у* | *чытач-у* | *выхадц-у* | *Рыгор-у* | *Талаш-у* |
| В. *муж-а* | *чытач-а* | *выхадц-а* | *Рыгор-а* | *Талаш-а* |
| Т. *муж-ам* | *чытач-ом* | *выхадц-ам* | *Рыгор-ам* | *Талаш-ом* |
| М. (аб) *муж-у* | *чытач-у* | *выхадц-у* | *Рыгор-у* | *Талаш-у* |

Аснова на *г, к, х*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. *геолаг* | *будаўнік* | *пастух* | *Алег* | *Краўчук* |
| Р. *геолаг-а* | *будаўнік-а* | *пастух-а* | *Алег-а* | *Краўчук-а* |
| Д. *геолаг-у* | *будаўнік-у* | *пастух-у* | *Алег-у* | *Краўчук-у* |
| В. *геолаг-а* | *будаўнік-а* | *пастух-а* | *Алег-а* | *Краўчук-а* |
| Т. *геолаг-ам* | *будаўнік-ом* | *пастух-ом* | *Алег-ам* | *Краўчук-ом* |
| М. (аб) *геолаг-у* | *будаўнік-у* | *пастух-у* | *Алег-у* | *Краўчук-у* |

Аснова на мяккі зычны і *й*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. *вучань* | *каваль* | *герой* | *Мікалай* | *Лаўрэль* |
| Р. *вучн-я* | *кавал-я* | *геро-я* | *Мікала-я* | *Лаўрэл-я* |
| Д. *вучн-ю* | *кавал-ю* | *геро-ю* | *Мікала-ю* | *Лаўрэл-ю* |
| В. *вучн-я* | *кавал-я* | *геро-я* | *Мікала-я* | *Лаўрэл-я* |
| Т. *вучн-ем* | *кавал-ём* | *геро-ем* | *Мікала-ем* | *Лаўрэл-ем* |
| М. (аб) *вучн-ю* | *кавал-ю* | *геро-ю* | *Мікала-ю* | *Лаўрэл-ю* |

Заўвага. Назоўнікі з націскным канчаткам *-о* ў назоўным склоне адзіночнага ліку тыпу *Пятро* ва ўскосных склонах маюць такія ж канчаткі, як назоўнікі з нулявым канчаткам: *Пятр-о, Пятр-а, Пятр-у, Пятр-а, Пятр-ом, (аб) Пятр-у.*

## Скланенне неасабовых назоўнікаў

§ 144. Сістэма канчаткаў:

| Склон | Аснова | | | |
|---|---|---|---|---|
| | на цвёрды зычны | на *ж, ш, ч, дж, р, ц* | на *г, к, х* | на мяккі зычны |
| Н. | ∅ | | | |
| Р. | *-а, -у* | | | *-я, -ю* |
| Д. | *-у* | | | *-ю* |
| В. | як Н. або Р. | | | |
| Т. | *-ам, -ом* | | | *-ем, -ём* |
| М. | *-е* | *-ы* | *-у, -е* | *-і* |

## § 145. Узор скланення

| Склон | Семантыка | Аснова | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | на цвёрды зычны | на *ж, ш, ч, дж, р, ц* | на *г, к, х* | на мяккі зычны |
| Н. | канкрэтныя | *слон* | *стрыж* | *насарог* | *мядзведзь* |
| Р. | | *слан-а* | *стрыж-а* | *насарог-а* | *мядзведз-я* |
| Д. | | *слан-у* | *стрыж-у* | *насарог-у* | *мядзведз-ю* |
| В. | | *слан-а* | *стрыж-а* | *насарог-а* | *мядзведз-я* |
| Т. | | *слан-ом* | *стрыж-ом* | *насарог-ам* | *мядзведз-ем* |
| М. | | *(аб) слан-е* | *стрыж-ы* | *насарог-у* | *мядзведз-і* |
| Н. | | *сом* | *зубр* | *вожык* | *салавей* |
| Р. | | *сом-а* | *зубр-а* | *вожык-а* | *салаў-я* |
| Д. | | *сом-у* | *зубр-у* | *вожык-у* | *салаў-ю* |
| В. | | *сом-а* | *зубр-а* | *вожык-а* | *салаў-я* |
| Т. | | *сом-ам* | *зубр-ам* | *вожык-ам* | *салаў-ём* |
| М. | | *(аб) сом-е* | *зубр-ы* | *вожык-у* | *салаў-і* |
| Н. | | *стол* | *нож* | *пірог* | *рубель* |
| Р. | | *стал-а* | *наж-а* | *пірaг-а* | *рубл-я* |
| Д. | | *стал-у* | *наж-у* | *пірaг-у* | *рубл-ю* |
| В. | | *стол* | *нож* | *пірог* | *рубель* |
| Т. | | *стал-ом* | *наж-ом* | *пірaг-ом* | *рубл-ём* |
| М. | | *(аб) стал-е* | *наж-ы* | *пірaг-у* | *рубл-і* |
| Н. | | *часопіс* | *палец* | *стог* | *трамвай* |
| Р. | | *часопіс-а* | *пальц-а* | *стог-а* | *трамва-я* |
| Д. | | *часопіс-у* | *пальц-у* | *стог-у* | *трамва-ю* |
| В. | | *часопіс* | *палец* | *стог* | *трамвай* |
| Т. | | *часопіс-ам* | *пальц-ам* | *стог-ам* | *трамва-ем* |
| М. | | *(аб) часопіс-е* | *пальц-ы* | *стоз-е* | *трамва-і* |
| Н. | | *сустаў* | *кош* | *замок* | *дзень* |
| Р. | | *сустав-а* | *каш-а* | *замк-а* | *дн-я* |
| Д. | | *сустав-у* | *каш-у* | *замк-у* | *дн-ю* |
| В. | | *сустаў* | *кош* | *замок* | *дзень* |
| Т. | | *сустав-ам* | *каш-ом* | *замк-ом* | *дн-ём* |
| М. | | *(аб) сустав-е* | *каш-ы* | *замк-у* | *дн-і* |
| Н. | абстрактныя | *узрост* | *масаж* | *смех* | *боль* |
| Р. | | *узрост-у* | *масаж-у* | *смех-у* | *бол-ю* |
| Д. | | *узрост-у* | *масаж-у* | *смех-у* | *бол-ю* |
| В. | | *узрост* | *масаж* | *смех* | *боль* |
| Т. | | *узрост-ам* | *масаж-ам* | *смех-ам* | *бол-ем* |
| М. | | *(аб) узросц-е* | *масаж-ы* | *смех-у* | *бол-і* |
| Н. | | *шум* | *прастор* | *подзвіг* | *сухавей* |
| Р. | | *шум-у* | *прастор-у* | *подзвіг-у* | *сухаве-ю* |
| Д. | | *шум-у* | *прастор-у* | *подзвіг-у* | *сухаве-ю* |
| В. | | *шум* | *прастор* | *подзвіг* | *сухавей* |
| Т. | | *шум-ам* | *прастор-ам* | *подзвіг-ам* | *сухаве-ем* |
| М. | | *(аб) шум-е* | *прастор-ы* | *подзвіг-у* | *сухаве-і* |

| Склон | Семантыка | Аснова: на цвёрды зычны | Аснова: на *ж, ш, ч, дж, р, ц* | Аснова: на *г, к, х* | Аснова: на мяккі зычны |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | зборныя | *лес* | *гушчар* | *лазняк* | *гай* |
| Р. | | *лес-у* | *гушчар-у* | *лазняк-у* | *га-ю* |
| Д. | | *лес-у* | *гушчар-у* | *лазняк-у* | *га-ю* |
| В. | | *лес* | *гушчар* | *лазняк* | *гай* |
| Т. | | *лес-ам* | *гушчар-ом* | *лазняк-ом* | *га-ем* |
| М. | | *(аб) лес-е* | *гушчар-ы* | *лазняк-у* | *га-і* |
| Н. | | *калектыў* | *хвошч* | *мох* | *хмель* |
| Р. | | *калектыв-у* | *хвашч-у* | *мох-у* | *хмел-ю* |
| Д. | | *калектыв-у* | *хвашч-у* | *мох-у* | *хмел-ю* |
| В. | | *калектыў* | *хвошч* | *мох* | *хмель* |
| Т. | | *калектыв-ам* | *хвашч-ом* | *мох-ам* | *хмел-ем* |
| М. | | *(аб) калектыв-е* | *хвашч-ы* | *мох-у* | *хмел-і* |
| Н. | рэчыўныя | *мёд* | *кулеш* | *снег* | *ячмень* |
| Р. | | *мёд-у* | *куляш-у* | *снег-у* | *ячмен-ю* |
| Д. | | *мёд-у* | *куляш-у* | *снег-у* | *ячмен-ю* |
| В. | | *мёд* | *кулеш* | *снег* | *ячмень* |
| Т. | | *мёд-ам* | *куляш-ом* | *снег-ам* | *ячмен-ем* |
| М. | | *(аб) мёдз-е* | *куляш-ы* | *снез-е* | *ячмен-і* |
| Н. | | *торф* | *перац* | *цынк* | *дзёгаць* |
| Р. | | *торф-у* | *перц-у* | *цынк-у* | *дзёгц-ю* |
| Д. | | *торф-у* | *перц-у* | *цынк-у* | *дзёгц-ю* |
| В. | | *торф* | *перац* | *цынк* | *дзёгаць* |
| Т. | | *торф-ам* | *перц-ам* | *цынк-ам* | *дзёгц-ем* |
| М. | | *(аб) торф-е* | *перц-ы* | *цынк-у* | *дзёгц-і* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. Назоўнікі з ацэначнымі суфіксамі *-іск-а (-ыск-а), -ішч-а (-ышч-а)* у назоўным і вінавальным склонах маюць канчатак *-а: агніска, вятрыска, даміска, дамішча, насішча.*

2. Назоўнікі з суфіксам *-ішч-а (-ышч-а)* у родным, давальным, творным і месным склонах маюць такія ж канчаткі, як і назоўнікі на адпаведны зычны з чыстай асновай: Р. *дамішча, шчупачышча;* Д. *дамішчу, шчупачышчу;* Т. *дамішчам, шчупачышчам;* М. *(аб) дамішчы, шчупачышчы.*

3. Назоўнікі з суфіксам *-іск-а (-ыск-а)* у родным склоне маюць канчатак *-і: вятрыскі, даміскі.* У давальным, творным і месным склонах маюць канчаткі, як і назоўнікі з чыстай асновай на *к:* Д. *вятрыску, даміску;* Т. *вятрыскам, даміскам;* М. *(аб) вятрыску, даміску.*

## Асаблівасці канчаткаў неасабовых назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне

§ 146. Толькі канчатак *-а (-я)* маюць назоўнікі, якія абазначаюць жывых істот: *акуня, аленя, ваўка, вужа, дразда, зайца, пеўня, салаўя, сома* і г. д.

Назоўнікі, якія абазначаюць неадушаўлёныя прадметы, ужываюцца з канчаткам *-а (-я)* або *-у (-ю)*.

Канчатак *-а (-я)* маюць назоўнікі, якія абазначаюць:

а) канкрэтныя прадметы рэчаіснасці, што паддаюцца лічэнню, або іх часткі: *агурка, айсберга, бурака, вулея, гадзінніка, гаража, дома, камбайна, каўняра, коміна, кургана, млына, пня, руля, рычага, стала, стога, тралейбуса, хлява, франтона, чахла, шатра, яблыка* і г. д.;

б) органы і часткі цела чалавека, жывёлы: *зуба, ілба, капыта, носа, падбародка, пальца, рога, рота, хваста, языка.* Але *твару;*

в) меры даўжыні, плошчы, вагі, аб'ёму, акрэсленага часу, а таксама назвы месяцаў, дзён тыдня, грашовых і іншых адзінак: *кіламетра, метра, сантыметра; ара, гектара; грама, кілаграма, пуда, цэнтнера; літра; года, месяца, семестра, тыдня; сакавіка, снежня; аўторка, панядзелка, чацвярга; рубля, франка; вольта, герца; дзесятка, мільёна, пятака, чырвонца* і г. д. Але *веку, ранку, абеду; без году тыдзень, з году ў год;*

г) навуковыя ці тэхнічныя тэрміны або канкрэтныя паняцці: *абзаца, аксюмарана, алфавіта, апострафа, вадэвіля, вугла, дыялога, інтэграла, катода, катэта, каэфіцыента, квадрата, круга, куба, мадрыгала, мерыдыяна, назоўніка, параметра, прыметніка, ромба, санета, сінуса, сказа, суфікса, сюжэта, твора, трохвугольніка* і г. д.;

д) грамадскія арганізацыі, прадпрыемствы, установы, вайсковыя падраздзяленні: *агітпункта, камітэта, кааператыва, камсамола, прафсаюза; завода, калгаса, камбіната, саўгаса, трэста; інстытута, клуба; гарнізона, дывізіёна, палка, узвода, штаба* і г. д.;

е) агульныя і ўласныя назвы населеных пунктаў і мясцовасцей, геаграфічныя і астранамічныя паняцці: *горада, пасёлка, раёна, райцэнтра, хутара, Ленінграда, Лондана, Магілёва, Мінска, Полацка, Рыма, Алжыра, В'етнама; акіяна, вострава, кантынента, мыса, ручая, узгорка, фіёрда, Алтая, Буга, Крыма, Нёмана, Кузбаса, Урала; Марса, Месяца, Сатурна* і г. д.;

ж) назвы танцаў, народных і спартыўных гульняў, картачных гульняў: *вальса, кракавяка, паланеза, крыжачка, тустэпа, факстрота, чардаша; балета, танца; баскетбола, бейсбола, бокса, валейбола, марафона, тэніса, футбола, хакея; брыджа, пас'янса, покера, прэферанса* і г. д.

Канчатак *-а* маюць таксама назоўнікі з ацэначным суфіксам *-ішч-а (-ышч-а): дамішча, халадзішча.*

Канчатак *-у (-ю)* маюць:

1. Абстрактныя назоўнікі, якія абазначаюць:

а) абстрактна-разумовыя паняцці, адцягненыя якасці, прыметы і пад.: *абавязку, азарту, аўтарытэту, блакіту, болю, вопыту, гераізму, гіпнозу, гневу, гумару, густу, задору, запавету, ідэалу, інстынкту, інтэлекту, кампрамісу, кантрасту, клопату, колеру, крызісу, лёсу, матыву, настрою, нораву, нюансу, нябыту, патрыятызму, поспеху, прагрэсу, прынцыпу, розуму, румянцу, спрыту, страху, таленту, характару* і інш.;

б) дзеянні, працэсы, стан, розныя адчуванні, пачуцці: *абеду, аб'езду, ад'езду, адпачынку, бою, вываду, гоману, даходу, загаду, замесу, запалу, зачыну, звароту, кашлю, крыку, лёту, лямантy, маршу, масажу, медазбору, мотапрабегу, набору, навару, нагрэву, накіду, намалоту, нападу, паваротy, падагрэву, падвозу, пад'ёму, памолу, пачыну, перакосу, пералёту, перапісу, разліку, старту, штурму, шуму; апетыту, голаду, жалю, смутку, сну, сораму, спакою* і інш.;

в) напрамкі ў прасторы, месца, а таксама неакрэсленыя прамежкі часу: *абрысу, абшару, берагу, верху, выгану, долу, зеніту, інтэрвалу, космасу, краю, краявіду, кроку, ландшафту, лесастэпу, логу, лугу, мар-*

*шруту, масіву, моманту, нахілу, нізу, прастору, прасцягу, разлогу, рэльефу, свету, стыку, стэпу, сусвету, сухадолу, схілу, узлеску, узмежку, фарватэру, фармату.*

Калі гэтыя назоўнікі маюць суфікс *-ок*, тады ў родным склоне ўжываецца канчатак *-а: вяршок — вяршка, лужок — лужка;*

г) грамадскія фармацыі, сацыяльна-палітычныя плыні, навуковыя тэорыі: *капіталізму, камунізму; апартунізму, атэізму, гуманізму, дарвінізму, інтэрнацыяналізму, пацыфізму, рамантызму, рэалізму* і г. д.;

д) розныя захворванні: *апендыцыту, бранхіту, вогніку, гаймарыту, грыпу, дальтанізму, інфаркту, ішыясу, коклюшу, паралічу, плеўрыту, поліартрыту, поліяміэліту, радыкуліту, рахіту, рэўматызму, стаўбняку, тыфу, яшчуру* і інш.;

е) з'явы прыроды, стыхійныя бедствы: *агню, весту, ветравею, ветру, ветрыку, віхру, галалёду, граду, грому, дажджу, досвітку, змроку, інею, норду, самуму, сіверу, світанку, смерчу, урагану, холаду* і інш.;

ж) розныя падзеі ў грамадскім жыцці: *кірмашу, фестывалю, фэсту.*

2. Рэчыўныя назоўнікі, якія абазначаюць розныя рэчывы, масу, матэрыялы, хімічныя элементы і злучэнні, тканіны, некаторыя віды ежы, лякарствы і пад.: *алюмінію, асфальту, бензіну, вадароду, воску, гіпсу, глею, жвіру, здору, кактэйлю, кампосту, квасу (кваску), кефіру, кіслароду, клею, крухмалу, лёду, маргарыну, металу, мёду (мядку), натрыю, нашатыру, парафіну, парашку, перцу, пластыліну, пластыру, попелу, пораху, пылу (пылку), пяску, радону, раствору, рафінаду, рысу, салідолу, сіласу, сіропу, снегу (сняжку), соладу, сталініту, стэарыну, сульфату, сургучу, сурыку, сырцу, тварагу (тваражку), тлушчу, цынку, цэменту; бастону, крэпдэшыну, паркалю, шавіёту, шоўку, шыфону; біфштэксу, гуляшу, рамштэксу, ростбіфу, супу, халадніку, шашлыку; кальцэксу, пеніцыліну, пірамідону, цытрамону.* А л е *аўса, бітка, хлеба.*

3. Назоўнікі са зборным значэннем: *актыву, асартыменту, аўтатранспарту, багажу, грузу, інвентару, кансіліуму, ліставу, літражу, люду, метражу, натоўпу, посуду, рою, рэпертуару, танажу, тыражу, тэкстылю, утылю, фальклору, флоту, фуражу; агрэсту, арэшніку, асінніку, асоту, бору, бэзу, бярэзніку, верасу (вераску), вішняку, гушчару, дубняку, зябру, кукалю, лесу, лопуху, малачаю, павою, палыну, плюшчу, ракітніку, рэвеню, саду, сасонніку, сіўцу, сланечніку, чабору (чабарку)* і інш.

Назоўнікі з суфіксам *-ок- (барок, гаёк, лясок, садок* і пад.) ужываюцца з канчаткам *-а: барка, гайка, ляска, садка.*

§ 147. Аднак у пісьмовай практыцы нашага часу назіраюцца выпадкі адхіленняў ад літаратурнай нормы: некаторыя словы, якія па семантыцы ўключаюцца ў адну з прыведзеных вышэй груп, могуць ужывацца то з канчаткам *-а*, то з канчаткам *-у*. Да ліку такіх назоўнікаў адносяцца: *агарод, актыў, арыгінал, астрог, баскетбол, бокс, валейбол, газ, ганак, ход, граніт, жанр, лабірынт, маладняк, малюнак, павільён, парашок, пастамент, п'едэстал, плот, сеанс, сезон, старт, статак, тэкст, тэніс, флот, фонд, фронт, футбол, хакей, хор, шпіталь, экіпаж* і некаторыя іншыя.

Залежыць гэта ад таго, разумеецца прадметнасць, абазначаная назоўнікам, як нейкае канкрэтнае паняцце з акрэсленай формай, памерам, як асобная адзінка ці як сукупнасць прадметаў, рэчаў, як выражэнне якасцей, уласцівасцей, дзеянняў, стану, як нейкае адцягненае паняцце. На выбар таго ці іншага канчатка можа ўплываць таксама аналогія або дыялектная мова.

Так, назоўнікі *арыгінал, лабірынт, малюнак, п'едэстал, твор* адзначаюцца часам з канчаткам *-у*, відаць, таму, што яны ўжываюцца ў пераносным значэнні і могуць усведамляцца як пэўныя абстрактныя па-

няцці: *прыступкі алімпійскага п'едэсталу, тэкст блізкі да арыгіналу,*
*выхад з лабірынту, дакладнасць знешняга малюнку, падзеі новага тво-*
*ру.* Нормай для гэтых назоўнікаў з'яўляецца канчатак *-а: арыгінала,*
*лабірынта, малюнка, п'едэстала, твора.*

Назоўнікі *статак, табун, экіпаж,* якія па сваёй семантыцы набліжа-
юцца да зборных назоўнікаў, сустракаюцца з канчаткам *-у,* што з'яў-
ляецца парушэннем нормы: *корм для статку* (Я. Ермаловіч); *паміж*
*цэлага людскога табуну* (С. Баранавых); *яшчэ адно сведчанне гібе-*
*лі экіпажу* (У. Шыцік).

Сустракаюцца варыянтныя формы ў родным склоне назоўнікаў з
часавым значэннем: *афішы новага сезону* (трэба: *сезона); пасля пер-*
*шага сеансу* (трэба: *сеанса); дзеці ва ўзросце да году* (трэба: *года).*

Відаць, пад уплывам дыялектнай мовы ўжываюцца з канчаткам *-у*
назоўнікі *калідор, ганак, плот, роў: ішоў міма плоту; паназіраць*
*толькі з-за плоту* (Родная прырода, 1980); *каля старшынёвага плоту*
(Полымя, 1972); *з першай ступені ганку* (Піянер Беларусі, 1969);
*прарвацца да калідору* (Полымя, 1969); *рову таго не відаць*
(Вячэрні Мінск, 1975).

Па аналогіі з формай роднага склону на *-у* назоўніка *провад* су-
стракаецца канчатак *-у* ў слове *водаправод: пракладка водаправоду*
(трэба: *водаправода,* таксама *нафтаправода, газаправода).*

Адсутнічае адзінае напісанне канчаткаў роднага склону ў назоўні-
ках, якія абазначаюць розныя спартыўныя тэрміны і гульні: *бокса* і
*боксу, валейбола* і *валейболу, турніра* і *турніру, тэніса* і *тэнісу, чэмпія-*
*ната* і *чэмпіянату, хакея* і *хакею, футбола* і *футболу.* Нормай для гэтых
і падобных назоўнікаў у родным склоне з'яўляецца канчатак *-а.*

Узнікаюць цяжкасці і пры выбары канчатка роднага склону для
назоўнікаў *актыў, флот, фонд, фронт, хор* і пад. Калі гэтыя назоўнікі
абазначаюць прадметнасць як сукупнасць чаго-н., яны павінны мець
канчатак *-у: сход актыву прадпрыемства; маракі нашага флоту; гадоў-*
*ля племяннога маладняку; з кніжнага фонду; пісьмы з фронту; удзель-*
*нікі хору.* Калі ж яны з'яўляюцца назвамі канкрэтных адзінак, тады
звычайна ўжываецца канчатак *-а: галоўнакамандуючы Першага Бе-*
*ларускага фронта; удзельнікі рускага народнага хора імя Пятніцкага;*
*маракі Балтыйскага флота.*

З канчаткам *-а* трэба ўжываць таксама назоўнікі, якія абазнача-
юць рэчыва, хімічны элемент, у тых выпадках, калі яны з'яўляюцца
назвамі прадпрыемства, арганізацыі, калектыву, уваходзяць у склад
уласнай геаграфічнай назвы: *работнікі Мінгаза; хлопцы з магілёўскага*
*«Лаўсана»; хакеісты «Крышталя»; для Цэнтральнага Батанічнага сада*
*АН БССР; прыехаў з Краснаярскага края.* А л е: *уцечка газу, валокны*
*лаўсану, шклянка з крышталю, у канцы саду, вызваленне нашага краю.*

Прыклады парушэння граматычнай нормы: *у канцы сада* (З. Бя-
дуля); *у глыбі сада стаяла панская пасада* (Я. Колас); *У гэтых па-*
*мяшканнях ужо цяпер даглядаюцца першыя групы маладняка*
(Полымя, 1978); *павярнуў галаву да хвойніка* (Б. Сачанка).

§ 148. У залежнасці ад семантыкі, якую набывае слова ў канкрэт-
ным кантэксце, некаторыя назоўнікі маюць паралельныя канчаткі
*-а (-я)* і *-у (ю).*

**Да іх ліку можна аднесці наступныя:**

*агрэгат* — *-а* 'некалькі разнатыпных машын, аб'яднаных у адно цэлае'
*агрэгат* — *-у* 'сумесь мінералаў'

| | | |
|---|---|---|
| *адбой* | *-я* | 'маркіровачны малаток' |
| | *-ю* | 'гукавы сігнал, які апавяшчае аб заканчэнні чаго-н.', 'перапынак у працы, дзеянні' |
| *апарат* | *-а* | 'прыбор, прыстасаванне' |
| | *-у* | 'сукупнасць органаў, якія выконваюць пэўную функцыю ў арганізме', 'сукупнасць устаноў' |
| *бялок* | *(лк)-а* | 'частка яйца' |
| | *(лк)-у* | 'складанае арганічнае рэчыва' |
| *выхад* | *-а* | 'дзверы, вароты' |
| | *-у* | 'дзеянне паводле дзеяслова *выйсці—выходзіць*' |
| *гардэроб* | *-а* | 'шафа для адзення', 'месца ў грамадскім будынку для захоўвання верхняга адзення' |
| | *-у* | 'усё адзенне аднаго чалавека' |
| *гук* | *-а* | 'лінгвістычны тэрмін' |
| | *-у* | 'ваганні паветра, якія мы ўспрымаем слыхам' |
| *дагавор* | *-а* | 'дакумент' |
| | *-у* | 'дзеянне паводле дзеяслова *дагаварыцца*' |
| *дазор* | *-а* | 'невялікі атрад, які пасылаюць для аховы ці разведкі' |
| | *-у* | 'абход для агляду, разведкі' |
| *дом* | *-а* | 'будынак' |
| | *-у* | 'радня, родныя мясціны' або ў словазлучэннях, якія па значэнню набліжаюцца да прыслоўя: *атрымаць з дому пасылку, адбіцца ад дому, даўно з дому* і пад. |
| *завод* | *-а* | 'прамысловае прадпрыемства', 'спецыялізаваная гаспадарка па развядзенню пародзістых коней', 'прыстасаванне ў механізме, якое прыводзіць яго ў дзеянне' |
| | *-у* | 'дзеянне паводле дзеяслова *заводзіць—завесці*', 'асобая, адборная парода свойскай жывёлы' |
| *загад* | *-а* | 'дакумент' |
| | *-у* | 'дзеянне паводле дзеяслова *загадваць—загадаць*' |
| *закон* | *-а* | 'дэкрэт, пастанова' |
| | *-у* | 'агульнапрынятыя правілы, звычаі' |

*з'езд*
- -*а* 'форма грамадскай дзейнасці'
- -*у* 'дзеянне паводле дзеяслова *з'язджацца — з'ехацца, з'язджаць—з'ехаць*'

*інструмент*
- -*а* 'усякая прылада для выканання пэўнай работы'
- -*у* 'сукупнасць прылад для пэўнай работы'

*камень*
- -*я* 'абломак цвёрдай горнай пароды; кусок каштоўнага мінералу, ювелірна апрацаваны'
- -*ю* 'цвёрдая горная парода ў выглядзе суцэльнай масы'

*каранцін*
- -*а* 'санітарны пункт'
- -*у* 'часовая ізаляцыя хворых'

*курс*
- -*а* 'сістэматычны выклад якой-небудзь навукі'
- -*у* 'напрамак руху'

*лістапад*
- -*а* 'назва месяца'
- -*у* 'ападанне лісця восенню; час ападання лісця'

*лом*
- -*а* 'прылада'
- -*у* 'ломаныя або прыдатныя толькі для перапрацоўкі прадметы (часцей за ўсё металічныя)'

*народ*
- -*а* у іменных спалучэннях: *перамога народа, радасць народа, дасягненні савецкага народа*
- -*у* у зборным значэнні: *многа (мала) народу, народу сабралася*

*пад'езд*
- -*а* 'уваход у будынак'
- -*у* 'дзеянне паводле дзеяслова *пад'язджаць—пад'ехаць*'

*папірус*
- -*а* 'трапічная расліна', 'рукапіс на матэрыяле з гэтай расліны'
- -*у* 'матэрыял для пісьма, які вырабляўся з гэтай расліны'

*парашок*
- (*шк*)-*а* 'лекавае рэчыва пэўнай дазіроўкі ў раздробненым выглядзе'
- (*шк*)-*у* 'расцёртае на дробныя частачкі цвёрдае рэчыва'

*пейзаж*
- -*а* 'малюнак краявіду', 'адзін з жанраў мастацкага жывапісу'
- -*у* 'агульны выгляд мясцовасці; краявід'

| | | |
|---|---|---|
| *перавод* | *-а* | 'грашовае адпраўленне праз банк, па пошце, тэлеграфе', 'бланк для такога адпраўлення' |
| | *-у* | 'дзеянне паводле дзеяслова *пераводзіць—перавесці* |
| *пераезд* | *-а* | 'месца, дзе можна пераехаць цераз што-небудзь' |
| | *-у* | 'дзеянне паводле дзеяслова *пераехаць—пераязджаць*' |
| *пераход* | *-а* | 'месца, па якому можна перайсці' |
| | *-у* | 'дзеянне паводле дзеяслова *перайсці—пераходзіць*' |
| *пропуск* | *-а* | 'дакумент на права ўваходу, уезду куды-н.' |
| | *-у* | 'дзеянне паводле дзеяслова *прапускаць—прапусціць*', 'адсутнасць, выключэнне чаго-н.', 'няяўка на заняткі' |
| *раз'езд* | *-а* | 'невялікае кавалерыйскае падраздзяленне, якое пасылаюць на разведку', 'чыгуначны раз'езд' |
| | *-у* | 'дзеянне паводле дзеяслова *раз'ехацца*' |
| *рахунак* | *(нк)-а* | 'дакумент, дзе вызначана сума грошай, якая павінна быць заплачана за што-небудзь' |
| | *(нк)-у* | 'фінансавыя аперацыі' |
| *стан* | *-а* | 'стаянка, лагер' |
| | *-у* | 'фігура (чалавека)', 'войска, ваюючыя бакі', 'граматычны тэрмін' |
| *суд* | *-а* | 'установа' |
| | *-у* | 'думка, вывад' |
| *талент* | *-а* | 'таленавіты чалавек' |
| | *-у* | 'прыродныя здольнасці' |
| *узвод* | *-а* | 'вайсковае падраздзяленне', 'частка затвора' |
| | *-у* | 'дзеянне паводле дзеяслова *узводзіць — узвесці*' |

Заўвага. Пералік такіх назоўнікаў можна прадоўжыць, і таму ў кожным асобным выпадку трэба звяртацца да слоўніка.

У залежнасці ад значэння ў родным склоне ўжываецца канчатак *-а(-я)* або *-у(-ю)* у назоўніках, якія з'яўляюцца назвамі дрэў (*баабаб, бук, вяз, граб, дуб, клён, ясень* і інш.). Калі гэтыя назоўнікі абазначаюць канкрэтныя асобныя дрэвы, ужываецца канчатак *-а(-я)*, калі ж яны абазначаюць драўніну, г. зн. маюць значэнне рэчыўнасці, або маюць значэнне зборнасці, тады ўжываецца канчатак *-у(-ю)*: *у галінах старога вяза, галіны дуба* і *лясы з дубу, грабу, стол з ясеню.*

Некаторыя назвы раслін таксама могуць мець у родным склоне канчаткі *-а(-я)* і *-у(-ю)*. Залежыць гэта ад таго, ідзе гутарка аб адной расліне ці аб сукупнасці гэтых раслін: *сарваць кветку люціка, рамонка* і *на лузе многа люціку, рамонку.*

### Асаблівасці канчаткаў неасабовых назоўнікаў мужчынскага роду ў месным склоне

§ 149. У месным склоне неасабовыя назоўнікі мужчынскага роду ў залежнасці ад апошняга зычнага асновы маюць канчаткі *-е, -ы, -і, -у.*

Канчатак *-е* характэрны для ўсіх назоўнікаў з цвёрдай асновай і можа быць як пад націскам, так і не пад націскам: *у воцаце, на дубе, у лесе, на мосце, у раёне, у спісе, на сходзе, на флоце, у хляве.*

Заўвага 1. Назоўнік *пост* у значэннях 'месца, з якога можна назіраць за кім-, чым-н. ці ахоўваць каго-н., што-н.' і 'адказная пасада' мае канчатак *-у: Салдат стаяў на пасту; на высокім пасту дэпутата.*

Заўвага 2. У мастацкай літаратуры і гутарковай мове пад уплывам форм на *-у* назоўнікаў, якія ўваходзяць у склад устойлівых зваротаў і канструкцый з прыназоўнікамі *у, на, па* (*у ладу, на ляту, на віду, па ходу*), адзначаецца канчатак *-у* ў іншых аднаскладовых назоўніках: *сустрэча на м а с т у дружбы* (Звязда, 1969); *на л б у напісана* (А. Асіпенка); *у трэцім к у т у, што супроць абразоў* (М. Зарэцкі); *Які ты ў б ы т у, Такі і на справе* (У. Корбан). Аднак такія формы з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы.

Канчатак *-е* (не пад націскам) маюць таксама некаторыя ўласна беларускія назоўнікі на *г, х,* якія чаргуюцца з *з, с: у астрозе, на беразе, на версе, у гаросе, у кажусе, на лузе, на нарозе, на начлезе, на паверсе, на парозе, на плузе, на розе* (каровы), *у снезе, на стозе, на струзе* і некаторыя іншыя.

Канчатак *-у* маюць:

а) уласна беларускія і запазычаныя назоўнікі з асновай на *к: на агурку, у банку, на блоку, у бярэзніку, у заапарку, на медзяку, у мядоўніку, у пяску, у рукзаку, на ручніку, у садку* і г. д.;

б) уласна беларускія назоўнікі з асновай на *г, х,* якія абазначаюць адцягненыя паняцці, дзеянне, якасць: *у абсягу, агрэху, аўтапрабегу, ачагу, бегу, брэху, верху, выбуху, вывіху, выдыху, граху, дзяржстраху, доўгу, духу, дыху, жаху, забегу, залогу, замаху, збегу, звіху, зруху, маху, мігу, набегу, настрыгу, нюху, падлогу, паху, перабегу, перамаху, перапалоху, подзвігу, подыху, позеху, поспеху, пострáху, прабегу, прапрапалогу, прасцягу, праху, промаху, разбегу, разлогу, размаху, руху, слыху, смеху, спалоху, спеху, шляху, шолаху, шораху, уздыху, уздрыгу, узмаху, чыху, шагу* і інш.;

в) частка ўласна беларускіх канкрэтных назоўнікаў з асновай на *г, х: на абуху, аднарогу, арэху, берлагу, біцюгу, быльнягу, васьміногу, вертлюгу, вожагу, глогу, жэраху, казярогу, катаху, катуху, каўчэгу, логу, лопуху, мозгу, моху, мурагу, мяху, насарогу, пасагу, пірагу, пологу, пораху, посаху, прадмагу, прарэху, пругу, пуху, рагу* (вуліцы), *рычагу, сельмагу, сычугу, тальмаху, тварагу, трыбуху, трысцягу, універмагу, чартапалоху;*

г) назоўнікі іншамоўнага паходжання з асновай на *г, х: на абшлагу, айсбергу, альцінгу, антрапафагу, аншлагу, арангутангу, архіпелагу, аэрапагу, бактэрыяфагу, блюмінгу, браўнінгу, брыгу, брэмсбергу, бульдогу, бумерангу, бундэстагу, вэрлаху, гмаху, гонгу, грогу, гросбуху, даху, догу, допінгу, дыптыху, дыфтонгу, дыялогу, дэміургу, дэмпінгу, жэмчугу, зігзагу, каталогу, кверцлагу, клірынгу, краху, крэкінгу, ландтагу, ланцугу, лемінгу, лозунгу, маналогу, манафтонгу, мітынгу, моргу,*

*наслегу, некралогу, паліфтонгу, пеленгу, пінг-понгу, пудынгу, пфенігу, радыёпеленгу, ральгангу, рангу, ратангу, рынгу, рыслінгу, рэйхстагу, салінгу, саркафагу, сапрафагу, слябінгу, смокінгу, снайпінгу, спінінгу, стэрлінгу, трыфтонгу, трэнінгу, трэпангу, фартуху, фартынгу, флангу, цугу, цэху, цюбінгу, шаху* (шахм.), *шлангу, шліху, штрыху, шылінгу, шэзлонгу, энергацэху, эпілогу, эргу;*

д) назоўнікі ва ўстойлівых зваротах, часцей за ўсё з прыназоўнікамі *на, па, у: на бягу, быць на віду, на ляту, на раду напісана, па ходу выказвання, не астацца ў даўгу, жыць у ладу, у хаду* і пад.;

е) назвы гарадоў, рэк, якія маюць аснову на *г, х: у Брайншвейгу, Вініпегу, Гамбургу, Ганконгу, Данцыгу, Капетдагу, Лейпцыгу, Люксембургу, Меконгу, Пітсбургу, Страсбургу, Харогу, Цюрыху; у Арэнбургу, Выбаргу, Таганрогу, Краменчугу, Пецярбургу; на Бугу, на Гангу.* А л е *у Крывым Розе.*

Канчатак *-ы* маюць назоўнікі з асновай на шыпячыя зычныя, *р* і *ц: у бары, аб вужы, у гушчары, на даждэкы, на нажы, на пальцы, на пляцы, на явары* і г. д.

Некаторыя назоўнікі гэтай групы сустракаюцца з канчаткам *-у*, аднак гэта з'яўляецца парушэннем нормы.

Канчатак *-і* маюць назоўнікі, аснова якіх заканчваецца на мяккі зычны і *й: у агні, на біўні, на кані, у кашалі, на корані, аб стылі, у тунелі, у цяні, у чэрвені, на ячмені, у гаі, аб маі, у музеі* і г. д.

З а ў в а г а. У пісьмовай практыцы сустракаецца ўжыванне канчатка *-ю*, што з'яўляецца парушэннем літаратурнай нормы: *у гаю, у цяню.* Але ў вершаваных творах парушэнні літаратурнай нормы выкліканы патрабаваннямі рыфмы: *Аб табе, сваім д н ю І аб Беларусі Я гадаю і сню, Мілая Маруся* (Я. Колас); *Пшэбора зараз па парадку Скідае вопратку сваю, Найперад зняў канфедэратку, Як сведку польскасці ў к р а ю* (Я. Колас); *У вясновым х м е л ю бор* (Э. Агняцвет).

§ 150. У некаторых назоўніках вар'іраванне канчаткаў *е(-э), -і (-ы)* і *-у(-ю)* залежыць ад семантыкі слова.

*двор* — *дварэ* у звароце са значэннем 'не ў хаце', 'на адкрытым паветры', 'у прыродзе'
*двор* — *двары* 'месца каля будынкаў'

*рог* — *рагу* 'вугал'
*рог* — *розе* 'рог (жывёлы)'

### *Скланенне назоўнікаў ніякага роду*

§ 151. Сістэма канчаткаў:

| Склон | А с н о в а | | | |
|---|---|---|---|---|
| | на цвёрды зычны | на *ж, ш, ч, дж, р, ц* | на *г, к, х* | на мяккі зычны |
| Н. | *-а, -о* | | | *-е, -ё* |
| Р. | *-а* | | | *-я* |
| Д. | *-у* | | | *-ю* |
| В. | як Н. | | | |
| Т. | *-ам, -ом* | | | *-ем, -ём* |
| М. | *-е* | *-ы* | *-у* | *-і* |

## § 152. Узор скланення назоўнікаў ніякага роду

| Склон | Аснова: на цвёрды зычны | на *ж, ш, ч, дж, р, ц* | на *к, х* | на мяккі зычны |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *долат-а* | *збожж-а* | *воблак-а* | *пол-е* |
| Р. | *долат-а* | *збожж-а* | *воблак-а* | *пол-я* |
| Д. | *долат-у* | *збожж-у* | *воблак-у* | *пол-ю* |
| В. | *долат-а* | *збожж-а* | *воблак-а* | *пол-е* |
| Т. | *долат-ам* | *збожж-ам* | *воблак-ам* | *пол-ем* |
| М. | *(аб) долац-е* | *збожж-ы* | *воблак-у* | *пол-і* |
| Н. | *зарыв-а* | *вучылішч-а* | *зярнятк-а* | *адценн-е* |
| Р. | *зарыв-а* | *вучылішч-а* | *зярнятк-а* | *адценн-я* |
| Д. | *зарыв-у* | *вучылішч-у* | *зярнятк-у* | *адценн-ю* |
| В. | *зарыв-а* | *вучылішч-а* | *зярнятк-а* | *адценн-е* |
| Т. | *зарыв-ам* | *вучылішч-ам* | *зярнятк-ам* | *адценн-ем* |
| М. | *(аб) зарыв-е* | *вучылішч-ы* | *зярнятк-у* | *адценн-і* |
| Н. | *гнязд-о* | *рабр-о* | *ачк-о* | *касс-ё* |
| Р. | *гнязд-а* | *рабр-а* | *ачк-а* | *касс-я* |
| Д. | *гнязд-у* | *рабр-у* | *ачк-у* | *касс-ю* |
| В. | *гнязд-о* | *рабр-о* | *ачк-о* | *касс-ё* |
| Т. | *гнязд-ом* | *рабр-ом* | *ачк-ом* | *касс-ём* |
| М. | *(аб) гняздз-е* | *рабр-ы* | *ачк-у* | *касс-і* |
| Н. | *акн-о* | *сэрц-а* | *рэх-а* | *нагор'-е* |
| Р. | *акн-а* | *сэрц-а* | *рэх-а* | *нагор'-я* |
| Д. | *акн-у* | *сэрц-у* | *рэх-у* | *нагор'-ю* |
| В. | *акн-о* | *сэрц-а* | *рэх-а* | *нагор'-е* |
| Т. | *акн-ом* | *сэрц-ам* | *рэх-ам* | *нагор'-ем* |
| М. | *(аб) акн-е* | *сэрц-ы* | *рэх-у* | *нагор'-і* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. Назоўнікі *вядро* і *малако* ў месным склоне адзіночнага ліку могуць мець варыянтны канчатак *-э: у вядрэ, у малацэ.* [Вера:] — *Каму патрэбна чужая бяда, лішні клопат?* [Коля:] — *Ты апяклася на малацэ! Ты думаеш, што я жыў як у бога за плячыма, што я не бачыў асмаленага воўка?* (У. Дамашэвіч).

2. Тапонімы, якія маюць форму ніякага роду, скланяюцца па мадэлі агульных назоўнікаў з адпаведнымі асновамі: Н. *Адамова, Жодзіна, Бережно, Заполле, Селішча;* Р. *Адамова, Жодзіна, Бережна, Заполля, Селішча;* Д. *Адамову, Жодзіну, Бережну, Заполлю, Селішчу;* В. *Адамова, Жодзіна, Бережно, Заполле, Селішча;* Т. *Адамовам, Жодзінам, Бережном, Заполлем, Селішчам;* М. *(у) Адамове, Жодзіне, Бережне, Заполлі, Селішчы.*

3. Тапонімы з суфіксам *-ін-а(-ын-а), -ін-о(-ын-о), -ов-а(-ав-а), -ёв-а(-ев-а)* пад уплывам прозвішч тыпу *Савін, Баранаў, Кісялёў* у творным склоне сустракаюцца з канчаткам *-ым: за Даўгінавым, за Сцепанёвым.* Але такія формы з'яўляюцца адхіленнем ад нормы.

## Другое скланенне

### § 153. Сістэма канчаткаў:

| Склон | Аснова на цвёрды зычны | на *ж, ш, ч дж, р, ц* | на *г, к, х* | на мяккі зычны |
|---|---|---|---|---|
| Н. | | *-а* | | *-я* |
| Р. | | *-ы* | *-і* | |
| Д. | *-е* | *-ы* | *-ы, -е, -э* | *-і* |
| В. | | *-у* | | *-ю* |
| Т. | | *-ой(-ою)*<br>*-ай(-аю)* | | *-ёй(-ёю)*<br>*-яй(-яю)* |
| М. | *-е* | *-ы* | *-ы, -е, -э* | *-і* |

### § 154. Узор скланення

| Склон | Аснова на цвёрды зычны | на *ж, ш, ч, дж, р, ц* | на *г, к, х* | на мяккі зычны |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *палат-а* | *афіш-а* | *кніг-а* | *грэбл-я* |
| Р. | *палат-ы* | *афіш-ы* | *кніг-і* | *грэбл-і* |
| Д. | *палац-е* | *афіш-ы* | *кніз-е* | *грэбл-і* |
| В. | *палат-у* | *афіш-у* | *кніг-у* | *грэбл-ю* |
| Т. | *палат-ай (-аю)* | *афіш-ай (-аю)* | *кніг-ай (-аю)* | *грэбл-яй (-яю)* |
| М. | *(аб) палац-е* | *афіш-ы* | *кніз-е* | *грэбл-і* |
| Н. | *рыб-а* | *паліц-а* | *лодк-а* | *дын-я* |
| Р. | *рыб-ы* | *паліц-ы* | *лодк-і* | *дын-і* |
| Д. | *рыб-е* | *паліц-ы* | *лодц-ы* | *дын-і* |
| В. | *рыб-у* | *паліц-у* | *лодк-у* | *дын-ю* |
| Т. | *рыб-ай (-аю)* | *паліц-ай (-аю)* | *лодк-ай (-аю)* | *дын-яй (-яю)* |
| М. | *(аб) рыб-е* | *паліц-ы* | *лодц-ы* | *дын-і* |
| Н. | *трав-а* | *мяж-а* | *дачк-а* | *ліні-я* |
| Р. | *трав-ы* | *мяж-ы* | *дачк-і* | *ліні-і* |
| Д. | *трав-е* | *мяж-ы* | *дачц-э* | *ліні-і* |
| В. | *трав-у* | *мяж-у* | *дачк-у* | *ліні-ю* |
| Т. | *трав-ой (-ою)* | *мяж-ой (-ою)* | *дачк-ой (-ою)* | *ліні-яй (-яю)* |
| М. | *(аб) трав-е* | *мяж-ы* | *дачц-э* | *ліні-і* |
| Н. | *сцян-а* | *гар-а* | *эпох-а* | *жня-я* |
| Р. | *сцян-ы* | *гар-ы* | *эпох-і* | *жня-і* |
| Д. | *сцян-е* | *гар-ы* | *эпос-е* | *жня-і* |
| В. | *сцян-у* | *гар-у* | *эпох-у* | *жня-ю* |
| Т. | *сцян-ой (-ою)* | *гар-ой (-ою)* | *эпох-ай (-аю)* | *жня-ёй (-ёю)* |
| М. | *(аб) сцян-е* | *гар-ы* | *эпос-е* | *жня-і* |

Каментарыі да парадыгмы.

У давальным і месным склонах канчаткі залежаць ад якасці зычнага асновы або месца націску:

канчатак -*е* маюць назоўнікі з асновай на цвёрды зычны і *г, х* (пры абавязковым чаргаванні *г—з, х—с*): *сцяне, хаце, кнізе, страсе* і г. д.;

канчатак -*э* маюць назоўнікі з асновай на *к* і націскам на канчатку (пры абавязковым чаргаванні *к—ц*): *дачка—дачцэ, лука—луцэ, мука—муцэ, рака—рацэ, траска—трасцэ, шчака—шчацэ;*

канчатак -*і* маюць назоўнікі з асновай на мяккі зычны і *j*: *зямлі, студні, хвалі, лініі, хвоі;*

канчатак -*ы* маюць назоўнікі з асновай на няпарныя цвёрдыя *ж, ш, ч, дж, р, ц*, а таксама з асновай на *к* і ненацiскным канчаткам (пры абавязковым чаргаванні *к—ц*): *мяжы, шашы, дачы, хмары, паліцы, гутарцы, лыжцы.*

## Трэцяе скланенне

### § 155. Сістэма канчаткаў:

| Склон | Аснова | | | |
|---|---|---|---|---|
| | на мяккі зычны | на губны зычны | на *ж, ш, ч* | на *р, ц* |
| Н. | ∅ | | | |
| Р. | -*і* | | -*ы* | |
| Д. | -*і* | | -*ы* | |
| В. | ∅ | | | |
| Т. | -*ю* | | -*у* | |
| М. | -*і* | | -*ы* | |

### § 156. Узор скланення

Аснова на мяккі зычны

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *прыстань* | *дэталь* | *аповесць* |
| Р. | *прыстан-і* | *дэтал-і* | *аповесц-і* |
| Д. | *прыстан-і* | *дэтал-і* | *аповесц-і* |
| В. | *прыстан-ь* | *дэталь* | *аповесць* |
| Т. | *прыстанн-ю* | *дэталл-ю* | *аповесц-ю* |
| М. | *(аб) прыстан-і* | *дэтал-і* | *аповесц-і* |

Аснова на шыпячы

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *флеш* | *шчолач* | *бездараж* |
| Р. | *флеш-ы* | *шчолач-ы* | *бездараж-ы* |
| Д. | *флеш-ы* | *шчолач-ы* | *бездараж-ы* |
| В. | *флеш* | *шчолач* | *бездараж* |
| Т. | *флешш-у* | *шчолачч-у* | *бездаражж-у* |
| М. | *(аб) флеш-ы* | *шчолач-ы* | *бездараж-ы* |

Аснова на *б, ў, ф*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *глыб* | *любоў* | *верф* |
| Р. | *глыб-і* | *любов-і (любв-і)* | *верф-і* |
| Д. | *глыб-і* | *любов-і (любв-і)* | *верф-і* |
| В. | *глыб* | *любоў* | *верф* |
| Т. | *глыб'ю* | *любоў-ю* | *верф'-ю* |
| М. | *(аб) глыб-і* | *любов-і (любв-і)* | *верф-і* |

Аснова на *р*

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *шыр* | *Сібір* |
| Р. | *шыр-ы* | *Сібір-ы* |
| Д. | *шыр-ы* | *Сібір-ы* |
| В. | *шыр* | *Сібір* |
| Т. | *шыр'-ю* | *Сібір'-ю* |
| М. | *(аб)шыр-ы* | *Сібір-ы* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. Форма вінавальнага склону супадае з формай назоўнага склону незалежна ад адушаўлёнасці ці неадушаўлёнасці назоўніка: *бачу лань, мыш, рысь* і *чытаю аповесць, бачу асець.*

2. У творным склоне апошні зычны (апрача губных і *р*), калі ён знаходзіцца пасля галоснага, падаўжаецца: *залежжу, меддзю, Прыпяццю, соллю, мышшу, ноччу.* Падаўжэння не адбываецца ў тых выпадках, калі аснова назоўніка заканчваецца збегам зычных: *аповесцю, радасцю, чвэрцю.*

Губныя зычныя і *р* не падаўжаюцца і пасля іх захоўваецца гук *j*: *глыб'ю* [*глыбйу*], *кроўю* [*кроўйу*], *шыр'ю* [*шырйу*].

3. Назоўнік *моц* у творным склоне мае канчатак *-ай: моцай.* Аднак у пісьмовай практыцы форма творнага склону амаль не ўжываецца.

4. У назоўніках *кроў* і *свякроў* у родным, давальным і месным склонах адбываецца чаргаванне галосных *о—ы: кроў—крыві, свякроў—свекрыві.*

5. Уласнае імя *Любоў* у адрозненне ад агульнага *любоў*, якое ў родным, давальным і месным склонах мае форму і з беглым галосным, захоўвае *о* ва ўсіх склонавых формах: Р. Д. М. *любві,* Т *любоўю* і Р. Д. М. *Любові,* Т. *Любоўю.*

6. У мове мастацкай літаратуры і перыядычнага друку назоўнікі *гразь, кроў,* радзей *далонь, сенажаць* і некаторыя іншыя могуць ужывацца з канчаткамі *-ёй(-ёю), -яй(-яю),* якія характэрны назоўнікам другога скланення: *закідаў яе г р а з ё ю* (Б. Сачанка); *заляпаных г р а з ё ю* (Маладосць, 1972); *К р ы в ё ю аблівалася сэрца* (Э. Агняцвет); *захлынацца к р ы в ё ю* (А. Карпюк); *заліты к р ы в ё ю* (Піянер Беларусі, 1972); *правёў д а л о н я й па галаве* (А. Асіпенка); *Шоў я полем, с е н а ж а ц я й, Шоў гарою і далінай, А тут кветкі не спагнаці* (Я. Купала); *Свежай к р ы в ё ю вайчынай след адзінокі гарыць* (М. Танк); *Валодзя працягнуў сябру руку. Той усміхнуўся і пляснуў сваёй д а л о н я й па Валодзевай* (Л. Арабей).

Аднак такія формы нельга лічыць нарматыўнымі.

## Скланенне назоўнікаў мужчынскага роду на *-а* (*-я*)

§ 157. Сістэма канчаткаў:

| Склон | Аснова | | | |
|---|---|---|---|---|
| | на цвёрды зычны | на *ж, ш, ч, р, ц* | на *г, к, х* | на мяккі зычны |
| Н. | *-а* | | | *-я* |
| Р. | *-ы* | | *-і* | |
| Д. | *-у, -е* | *-у* | | *-ю, -і* |
| В. | *-у* | | | *-ю* |
| Т. | *-ам, -ой (-ою)* | | | *-ем, -ёй (-ёю)* |
| М. | *-е* | *-у* | | *-ю, -і* |

§ 158. Узор скланення

Аснова на цвёрды зычны

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *мужчын-а* | *ваявод-а* | *старшын-а* | *Мікол-а* |
| Р. | *мужчын-ы* | *ваявод-ы* | *старшын-ы* | *Мікол-ы* |
| Д. | *мужчын-у* | *ваявод-у* | *старшын-е* | *Мікол-у* |
| В. | *мужчын-у* | *ваявод-у* | *старшын-у* | *Мікол-у* |
| Т. | *мужчын-ам* | *ваявод-ам* | *старшын-ой (ою)* | *Мікол-ам* |
| М. | *(аб) мужчын-е* | *ваяводз-е* | *старшын-е* | *Мікол-е* |

Аснова на мяккі зычны

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *цесл-я* | *дзядул-я* | *старшын-я* | *Вас-я* |
| Р. | *цесл-і* | *дзядул-і* | *старшын-і* | *Вас-і* |
| Д. | *цесл-ю* | *дзядул-ю* | *старшын-і* | *Вас-ю* |
| В. | *цесл-ю* | *дзядул-ю* | *старшын-ю* | *Вас-ю* |
| Т. | *цесл-ем* | *дзядул-ем* | *старшын-ёй (ёю)* | *Вас-ем* |
| М. | *(аб) цесл-ю* | *дзядул-ю* | *старшын-і* | *Вас-ю* |

Аснова на *ж, ш, ч, р, ц*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *рыкш-а* | *майстр-а* | *прамоўц-а* | *Грыш-а* |
| Р. | *рыкш-ы* | *майстр-ы* | *прамоўц-ы* | *Грыш-ы* |
| Д. | *рыкш-у* | *майстр-у* | *прамоўц-у* | *Грыш-у* |
| В. | *рыкш-у* | *майстр-у* | *прамоўц-у* | *Грыш-у* |
| Т. | *рыкш-ам* | *майстр-ам* | *прамоўц-ам* | *Грыш-ам* |
| М. | *(аб) рыкш-у* | *майстр-у* | *прамоўц-у* | *Грыш-у* |

Аснова на *г, к, х*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *юнг-а* | *дзядзьк-а* | *слуг-а* | *Янк-а* |
| Р. | *юнг-і* | *дзядзьк-і* | *слуг-і* | *Янк-і* |
| Д. | *юнг-у* | *дзядзьк-у* | *слуг-у* | *Янк-у* |
| В. | *юнг-у* | *дзядзьк-у* | *слуг-у* | *Янк-у* |
| Т. | *юнг-ам* | *дзядзьк-ам* | *слуг-ой (-ою)* | *Янк-ам* |
| М. | *(аб) юнг-у* | *дзядзьк-у* | *слуг-у* | *Янк-у* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. Назоўнікі мужчынскага роду на *-а(-я)* з націскам на аснове ў давальным, творным і месным склонах маюць тыя ж канчаткі, што і асабовыя назоўнікі мужчынскага роду з нулявым канчаткам.

2. Назоўнікі з націскам на канчатку і асновай на цвёрды зычны ў давальным і месным склонах маюць канчатак *-е: тамадзе, мурзе;* назоўнікі з асновай на заднеязычны — канчатак *-у: слугу;* назоўнікі з мяккай асновай — канчатак *-і: старшыні, суддзі.*

## Скланенне назоўнікаў агульнага роду на *-а (-я)*

§ 159. Як назоўнікі мужчынскага роду на *-а(-я)* з адпаведным тыпам асновы і месцам націску, змяняюцца назоўнікі т. зв. агульнага роду, калі яны абазначаюць асоб мужчынскага полу. Калі гэтыя назоўнікі абазначаюць асоб жаночага полу, яны змяняюцца, як назоўнікі жаночага роду на *-а(-я)*.

§ 160. Сістэма канчаткаў:

| Склон | Род | Аснова: Націск на аснове: на цвёрды зычны | на *ж, ш, ч, дж, р, ц* | на *г, к, х* | на мяккі зычны | Націск на канчатку: на цвёрды зычны | на *ж, ш, ч, дж, р, ц* | на *г, к, х* | на мяккі зычны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | м / ж | *-а* | | | *-я* | *-а* | | | *-я* |
| Р. | м / ж | *-ы* | | | *-і* | *-ы* | | | *-і* |
| Д. | м | *-у* | | | *-ю* | *-е* | *-ы* | *-у* | *-ю* |
| | ж | *-е* | *-ы* | *-е, -ы* | *-і* | | | *-е* | *-і* |
| В. | м / ж | *-у* | | | *-ю* | *-у* | | | *-ю* |
| Т. | м | *-ам* | | | *-ем* | *-ой(-ою)* | | | *-ёй(-ёю)* |
| | ж | *-ай(-аю)* | | | *-ей(-ею)* | | | | |
| М. | м | *-е* | *-у* | | *-ю* | *-е* | *-ы* | *-у* | *-ю* |
| | ж | | *-ы* | *-е, -ы* | *-і* | | | | *-і* |

Заўвага 1. Назоўнікі агульнага роду на *г, х* і з націскам на аснове, якія абазначаюць асоб жаночага полу, у давальным і месным склонах маюць канчатак *-е* (з абавязковым чаргаваннем *г—з, х—с*): *туляга — туляз-е, чысцёха — чысцёс-е;* назоўнікі на *к* — канчатак *-ы* (пры абавязковым чаргаванні *к—ц*): *задавака—задавац-ы.*

Заўвага 2. Назоўнікі *хвалько, гняўко, нямко* скланяюцца толькі ў тым выпадку, калі абазначаюць асобу мужчынскага полу: Н. *такі хвалько,* Р., В. *такога хвалька,* Д. *такому хвальку,* Т. *такім хвальком,* М. (аб) *такім хвальку.* Калі ж гэтыя назоўнікі абазначаюць асобу жаночага полу, то яны не скланяюцца: Н. *такая хвалько,* Р., Д. *такой хвалько,* В. *такую хвалько* і г. д.

## § 161. Узор скланення

### Націск на канчатку

Мужчынскі і жаночы род

Н. *сірат-а*
Р. *сірат-ы*
Д. *сірац-е*
В. *сірат-у*
Т. *сірат-ой (-ою)*
М. *(аб) сірац-е*

### Націск на аснове

Мужчынскі род

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. *плакс-а* | *лістанош-а* | *туляг-а* | *задавак-а* | *ціхон-я* |
| Р. *плакс-ы* | *лістанош-ы* | *туляг-і* | *задавак-і* | *ціхон-і* |
| Д. *плакс-у* | *лістанош-у* | *туляг-у* | *задавак-у* | *ціхон-ю* |
| В. *плакс-у* | *лістанош-у* | *туляг-у* | *задавак-у* | *ціхон-ю* |
| Т. *плакс-ам* | *лістанош-ам* | *туляг-ам* | *задавак-ам* | *ціхон-ем* |
| М. *(аб) плакс-е* | *лістанош-у* | *туляг-у* | *задавак-у* | *ціхон-ю* |

Жаночы род

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. *плакс-а* | *лістанош-а* | *туляг-а* | *задавак-а* | *ціхон-я* |
| Р. *плакс-ы* | *лістанош-ы* | *туляг-і* | *задавак-і* | *ціхон-і* |
| Д. *плакс-е* | *лістанош-ы* | *туляз-е* | *задавац-ы* | *ціхон-і* |
| В. *плакс-у* | *лістанош-у* | *туляг-у* | *задавак-у* | *ціхон-ю* |
| Т. *плакс-ай* | *лістанош-ай* | *туляг-ай* | *задавак-ай* | *ціхон-яй* |
| М. *(аб) плакс-е* | *лістанош-ы* | *туляз-е* | *задавац-ы* | *ціхон-і* |

## МНОЖНЫ ЛІК

§ 162. У залежнасці ад таго, супадаюць ці адрозніваюцца па фанемнаму складу асновы адзіночнага і множнага ліку, назоўнікі ў множным ліку дзеляцца на дзве групы: 1) назоўнікі, у якіх формы множнага ліку ўтвараюцца ад той жа асновы, што і ў адзіночным ліку; 2) назоўнікі, у якіх формы множнага ліку ўтвараюцца ад відазмененай асновы адзіночнага ліку.

## § 163. Агульная схема канчаткаў назоўнікаў усіх тыпаў скланення:

| Склон | Назоўнікі мужчынскага роду з чыстай асновай, назоўнікі ніякага роду | Назоўнікі жаночага і мужчынскага роду на *-а(-я)* | Назоўнікі жаночага роду з чыстай асновай |
|---|---|---|---|
| Н. | *-ы, -і* | | |
| Р. | *-аў(-яў), -оў(-ёў), ∅* | *∅́, -аў(-яў)* | *-ей(-эй), -яў(-аў)* |
| Д. | *-ам(-ям)* | | |
| В. | як Н. або Р. | | |
| Т. | *-амі(-ямі), -мі* | | |
| М. | *-ах(-ях)* | | |

## Скланенне назоўнікаў, якія ўтвараюць формы адзіночнага і множнага ліку ад адной і той жа асновы

§ 164. Арфаграфічна канчаткі адрозніваюцца ва ўсіх склонах у залежнасці ад якасці канцавога зычнага асновы і месца націску. Адрозненне скланенняў праяўляецца ў асноўным толькі ў родным склоне.

### Першае скланенне

§ 165. Узор скланення

Мужчынскі род

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. *брат-ы* | *наж-ы* | *матор-ы* | *вучн-і* | *гуртк-і* |
| Р. *брат-оў* | *наж-оў* | *матор-аў* | *вучн-яў* | *гуртк-оў* |
| Д. *брат-ам* | *наж-ам* | *матор-ам* | *вучн-ям* | *гуртк-ам* |
| В. *брат-оў* | *наж-ы* | *матор-ы* | *вучн-яў* | *гуртк-і* |
| Т. *брат-амі* | *наж-амі* | *матор-амі* | *вучн-ямі* | *гуртк-амі* |
| М. *(аб) брат-ах* | *наж-ах* | *матор-ах* | *вучн-ях* | *гуртк-ах* |

Ніякі род

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. *долат-ы* | *дрэв-ы* | *узвышш-ы* | *пал-і* | *воблак-і* |
| Р. *долат-аў* | *дрэў* | *узвышш-аў* | *пал-ёў* | *воблак-аў* |
| Д. *долат-ам* | *дрэв-ам* | *узвышш-ам* | *пал-ям* | *воблак-ам* |
| В. *долат-ы* | *дрэв-ы* | *узвышш-ы* | *пал-і* | *воблак-і* |
| Т. *долат-амі* | *дрэв-амі* | *узвышш-амі* | *пал-ямі* | *воблак-амі* |
| М. *(аб) долат-ах* | *дрэв-ах* | *узвышш-ах* | *пал-ях* | *воблак-ах* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. Большасць назоўнікаў мужчынскага роду ў родным склоне мае канчаткі *-аў(-яў), -оў(-ёў)*. Аб ужыванні форм з нулявым канчаткам гл. § 166.

2. Назоўнікі мужчынскага роду *госць, конь, лапаць, локаць* пры ўказанні на зборнасць у родным склоне маюць канчатак *-ей: гасцей, коней, лапцей, лакцей;* у колькасна-іменных спалучэннях пры абазначэнні раздзельнай множнасці ўжываецца канчатак *-ёў(-яў): пяць канёў, некалькі лапцяў, локцяў.*

3. Назоўнік *дзень* у родным склоне мае форму *дзён: некалькі дзён.*

4. Назоўнікі ніякага роду ў родным склоне маюць канчаткі *-аў(-яў), -оў(-ёў)* або нулявы канчатак.

5. У творным склоне для назоўніка *конь* дапускаюцца варыянтныя канчаткі *-мі* і *-ямі: коньмі* і *конямі.*

6. Назоўнік *пан* у множным ліку мае формы: *паны, паноў, панам* і г. д. Пры звароце да некалькіх асоб ужываецца форма *панове.*

7. Асабовыя назоўнікі ў некаторых выразах у вінавальным склоне маюць форму, якая супадае з формай назоўнага склону: *пайсці ў салдаты, выбраць у дэпутаты, пайсці ў настаўнікі.*

### Формы роднага склону назоўнікаў мужчынскага роду

§ 166. У пісьмовай практыцы нашага часу з нулявым канчаткам у родным склоне ўжываюцца:

а) назоўнікі, якія з'яўляюцца назвамі электрычных і магнітных адзінак вымярэння *(ампер, ват, вольт, гаус, кілават, кулон, максвел,*

*мікрон, ом, рэнтген* і некаторыя іншыя): *магутныя выпраміцелі, разлічаныя на сотні і тысячы а м п е р* (Беларусь, 1956); *сотні в а т* (Вячэрні Мінск, 1969); *трыста тысяч к і л а в а т* (Маладосць, 1969); *энергаблок на 300 тысяч к і л а в а т* (Звязда, 1971); *некалькі м і к р о н* (Вячэрні Мінск, 1969). Такія формы праніклі ў пісьмовую практыку з прафесійнай мовы і, відаць, павінны атрымаць права літаратурнай нормы;

б) некаторыя назоўнікі, якія абазначаюць парныя прадметы (*валёнкі — валёнак, капыты — капыт, пагоны — пагон, рогі — рог, туфлі — туфель*): *гордых р о г* (П. Панчанка); у прыказцы: *Ведаў бог, што не даў свінні р о г; стукаючы абцасікамі т у ф е л ь* (М. Даніленка); *пара замест ч а р а в і к заказаў хромавыя боты* (С. Александровіч); *пара ботаў, пара ч а р а в і к* (Я. Маўр); *цокат к а п ы т* (А. Александровіч); *толькі срэбрам мільгалі падковы к а п ы т* (М. Лынькоў); *абівае дзеркачом са сваіх в а л ё н а к снег* (В. Адамчык); *маміных в а л ё н а к* (Я. Брыль);

в) некаторыя назоўнікі, якія абазначаюць асобу па прыналежнасці да пэўнай нацыянальнай групы (*башкіры — башкір, мадзьяры — мадзьяр, манголы — мангол, румыны — румын, туркі — турак, туркмены — туркмен, цыганы — цыган*), а таксама назоўнікі *салдат* і *партызан*: *нібы сагналі са ўсяго свету ц ы г а н* (М. Машара); *двух ц ы г а н* (К. Чорны); *вайсковыя злучэнні м а д з ь я р* (М. Пятніцкі); *батальёны т у р а к палажыў* (М. Лынькоў); *на радзіме шаснаццаці п а р т ы з а н* (ЛіМ, 1970); *былых франтавікоў, п а р т ы з а н* (Полымя, 1971); *некалькі п а р т ы з а н* (Звязда, 1972); *не раз чуў ад с а л д а т-б е л а р у с а ў* (Полымя, 1969); *250 с а л д а т і афіцэраў* (Звязда, 1969); *перад батальёнам с а л д а т* (ЛіМ, 1972).

Функцыяніраванне гэтых назоўнікаў з нулявым канчаткам падтрымліваецца аналагічнымі формамі назоўнікаў з суфіксамі *-анін* (*-янін*): *грамадзянін — грамадзян, мінчанін — мінчан.*

З а ў в а г а 1. Назоўнікі *гектар, кілаграм, грам,* а таксама назоўнікі, што з'яўляюцца назвамі фруктаў, агародніны (*апельсін, баклажан, банан, гранат, мандарын, памідор* і некаторыя іншыя) у гутарковай мове ўсё больш шырока ўжываюцца ў родным склоне множнага ліку з нулявым канчаткам, аднак нарматыўнай гэта форма пакуль што не стала.

З а ў в а г а 2. З назоўнікаў, якія з'яўляюцца адзінкамі меры даўжыні, нулявы канчатак мае слова *аршын: квадрацік зямлі на шэсць а р ш ы н* (З. Бядуля); *а р ш ы н на трынаццаць у даўжыню* (П. Галавач); *колькі а р ш ы н* (К. Чорны).

З а ў в а г а 3. Дапускаецца ўжыванне формы роднага склону з нулявым канчаткам у назоўніку *раз* (у злучэнні з лічэбнікамі ці словамі з колькасным значэннем): *Гаспадыня колькі р а з уваходзіла пытацца* (К. Чорны); *Ён выстраліў некалькі р а з* (М. Лынькоў).

На ўжыванне паралельных форм з канчаткам *-оў* і з нулявым канчаткам назоўніка *год* уплываюць лексіка-семантычныя асаблівасці слоў, з якімі гэты назоўнік спалучаецца, а таксама парадак кампанентаў словазлучэння. Формы з нулявым канчаткам пераважаюць у словазлучэннях з колькаснымі лічэбнікамі або са словамі з колькасным значэннем: *няма сарака г о д* (ЛіМ, 1970); *тэрмін навучання павялічаны да 8 г о д* (БелСЭ, I); *некалькі г о д таму назад* (Беларусь, 1970); *шмат г о д прайшло* (Піянер Беларусі, 1980); *колькі г о д жывуць птушкі* (Работніца і сялянка, 1969).

Толькі з нулявым канчаткам форма роднага склону ўжываецца ў назвах прадпрыемстваў, калгасаў: *у калгасах «Сорак г о д Кастрычніка»* і *«Перамога»* (Звязда, 1972); *старшыня калгаса «12 г о д Кастрычніка»* (Там жа).

Формы з канчаткам *-оў* пераважаюць у словазлучэннях, калі за-

лежны кампанент выражаны прыметнікам: *з даваенных г а д о ў* (Работніца і сялянка, 1979); *прайшло некалькі пасляваенных г а д о ў* (Маладосць, 1969); *на працягу апошніх г а д о ў* (Звязда, 1978). Але ў такіх словазлучэннях, як *з малых г о д, чалавек сярэдніх г о д* і пад., дзе выраз набліжаецца да ўстойлівага злучэння, адзначаюцца і формы з нулявым канчаткам.

Толькі з канчаткам *-оў* ужываецца назоўнік *г о д* у спалучэнні з парадкавымі лічэбнікамі: *у творах 20-х г а д о ў* (Полымя, 1969); *на мяжы трыццатых г а д о ў* (Полымя, 1970); *аб нашых сучасніках, людзях 60-х г а д о ў* (Работніца і сялянка, 1970); *з канца 50-х г а д о ў* (БелСЭ, I).

### Формы роднага склону назоўнікаў ніякага роду

§ 167. Назоўнікі ніякага роду ў родным склоне могуць мець канчаткі *-аў(-яў), -оў(-еў)* або нулявы канчатак.

З канчаткамі *-аў(-яў), -оў(-ёў)* ужываюцца:

а) назоўнікі, аснова якіх заканчваецца збегам зычных *бл, пл, дл, зл, йл, кл, рл, льм, йм, рм, гн, дн, льн, рн, бр, тр, тц, нц, ўц, рц, льц, ств, цтв,* падоўжаным зычным, мяккім зычным ці *j*: *скрэбла — скрэблаў, сцябло — сцёблаў, сапло — соплаў, трапло — троплаў, дупло — дуплаў, кавадла — кавадлаў, жазло — жэзлаў, кайло — кайлаў, стойла — стойлаў, горла — горлаў, бяльмо — бельмаў, кляймо — клеймаў, ярмо — ёрмаў, сцягно — сцёгнаў, судна — суднаў, цапільна — цапільнаў, стырно — стырнаў, рабро — рэбраў, футра — футраў, балотца — балотцаў, паленца — паленцаў, сонца — сонцаў, дрэўца — дрэўцаў, слаўцо — слоўцаў, азярцо — азярцоў, сэрца — сэрцаў, шчупальца — шчупальцаў, ваяводства — ваяводстваў, земства — земстваў, княства — княстваў, лякарства — лякарстваў, мерапрыемства — мерапрыемстваў, абацтва — абацтваў, агенцтва — агенцтваў, брацтва — брацтваў; багацце — багаццяў, плацце — плаццяў, стагоддзе — стагоддзяў, вяселле — вяселляў, узвышша — узвышшаў, аблічча — абліччаў, падарожжа — падарожжаў, падножжа — падножжаў, ружжо — ружжаў; вусце — вусцяў, прадмесце — прадмесцяў, двукроп'е — двукроп'яў, кап'ё — коп'яў, узгор'е — узгор'яў, стажар'е — стажар'яў, зімоўе — зімоўяў, нізоўе — нізоўяў, пайшар'е — пайшар'яў, прыслоўе — прыслоўяў, сузор'е — сузор'яў;* аднаскладовыя назоўнікі *дно, шво: дноў, швоў;*

б) некаторыя двухскладовыя назоўнікі з асновай на адзін зычны і націскам на канчатку, якія ў формах множнага ліку перамяшчаецца на аснову: *брыво — бровы — броваў, звяно — звёны — звёнаў, крыло — крылы — крылаў, крысо — крысы — крысаў, лязо — лёзы — лёзаў, пяро — пёры — пёраў, сіло — сілы — сілаў;*

в) двухскладовыя назоўнікі з асновай на *л* і націскам на аснове, а таксама назоўнікі *веча, ложа* (у вінтоўцы), *мора, пуза, права, жыта: біла — білаў, джала — джалаў, дула — дулаў, кола — колаў, мяла — мялаў, рыла — рылаў, шыла — шылаў; вечаў, ложаў, мораў, пузаў, правоў, жытоў;* таксама *поле — палёў;*

г) трохскладовыя назоўнікі з асновай на *в*: *дзерава — дзераваў, зарыва — зарываў, каліва — каліваў, логава — логаваў, рэчыва — рэчываў, тулава — тулаваў;* а таксама назоўнік *воблака: воблакаў* і *аблокаў.*

З нулявым канчаткам ужываюцца:

а) трохскладовыя і з большай колькасцю складоў назоўнікі з асновай на адзін зычны (акрамя *в*): *балота — балот, бервяно — бярвён, верацяно — верацён, возера — азёр, забрала — забрал, зубіла — зубіл,*

*кадзіла — кадзіл, карыта — карыт, лякала — лякал, матавіла — матавіл, павека — павек, палена — пален, памяло — памёл, пудзіла — пудзіл, рэшата — рэшат;*

б) некаторыя двухскладовыя назоўнікі з асновай на адзін зычны: *блюда — блюд, века — век, віно — він, дзіва — дзіў, дрэва — дрэў, сіта — сіт, сяло — сёл, цела — цел.*

Аднак гэтыя назоўнікі ў пісьмовай практыцы сустракаюцца часам з канчаткам *-аў: Цьмяна чарнелі паблізу абрысы дрэваў* (І. Мележ); *Сцяжыначка лясная Віецца паміж дрэваў* (М. Аўрамчык); *столькі дзіваў паказвае* (Х. Жычка); *колькі дзіваў усякіх пабачыш* (А. Якімовіч).

Паралельныя формы з канчаткам *-аў* і з нулявым канчаткам маюць:

а) назоўнікі, аснова якіх заканчваецца збегам зычных *зд, сц, шч: гняздо — гнёзд* і *гнёздаў, месца — месц* і *месцаў, вогнішча — вогнішч* і *вогнішчаў, вучылішча — вучылішч* і *вучылішчаў, кнігасховішча — кнігасховішч* і *кнігасховішчаў, полчышча — полчышч* і *полчышчаў, прозвішча — прозвішч* і *прозвішчаў, рэчышча — рэчышч* і *рэчышчаў, урочышча — урочышч* і *ўрочышчаў.* А л е толькі *войска — войск;*

б) назоўнікі са збегам зычных *тн, мн, кн, сьм, сл, др* у канцы асновы, калі цаміж імі паяўляецца беглы галосны: *палатно — палоцен* і *палотнаў, гумно — гумен* і *гумнаў, акно — вокан* і *вокнаў, валакно — валокан* і *валокнаў, пісьмо — пісем* і *пісьмаў, вясло — вёсел* і *вёслаў, крэсла — крэсел* і *крэслаў, масла — масел* і *маслаў, русла — русел* і *руслаў, чысло — чысел* і *чыслаў, бядро — бёдзер* і *бёдраў, вядро — вёдзер* і *вёдраў, ядро — ядзер* і *ядраў.* Перавага павінна аддавацца формам з нулявым канчаткам.

## Другое скланенне

### § 168. Узор скланення

Жаночы род

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. *школ-ы* | *сосн-ы* | *ліні-і* | *ног-і* | *лодк-і* |
| Р. *школ* | *сосен (сосн-аў)* | *ліній* | *ног* | *лодак* |
| Д. *школ-ам* | *сосн-ам* | *ліні-ям* | *наг-ам* | *лодк-ам* |
| В. *школ-ы* | *сосн-ы* | *ліні-і* | *ног-і* | *лодк-і* |
| Т. *школ-амі* | *сосн-амі* | *ліні-ямі* | *наг-амі* | *лодк-амі* |
| М. *(аб) школ-ах* | *сосн-ах* | *ліні-ях* | *наг-ах* | *лодк-ах* |

К а м е н т а р ы і д а п а р а д ы г м ы.

1. У родным склоне адзначаюцца формы з канчаткам *-аў(-яў)* і з нулявым канчаткам. Выбар аднаго з канчаткаў залежыць ад структуры спалучэнняў канцавых зычных асновы (гл. § 169).

2. Ад назоўнікаў жаночага роду *свіння, пападдзя, ладдзя*, форма роднага склону ўтвараецца ад асновы без падваення зычных з нулявым канчаткам: *ладзей, пападзей, свіней.*

3. Канчатак *-ей(-эй)* маюць у родным склоне назоўнікі жаночага роду *каланча, ступня: каланчэй, ступней.*

### Формы роднага склону

§ 169. З нулявым канчаткам ужываюцца ўсе трохскладовыя, шматскладовыя і большасць двухскладовых назоўнікаў з асновай на адзін зычны:

а) з асновай на цвёрды зычны: *аса — вос, база — баз, бяроза — бяроз, галава — галоў, група — груп, дата — дат, дзюна — дзюн, заява — заяў, зіма — зім, змена — змен, зона — зон, з'ява — з'яў, капа — коп, карова — кароў, крона — крон, лаза — лоз, лапа — лап, ліпа — ліп, мінута — мінут, мова — моў, мэта —мэт, ніва — ніў, нота — нот, палата — палат, перспектыва — перспектыў, хата — хат, яма — ям;*

б) з асновай на мяккі зычны: *алея — алей, дыня — дынь, жменя — жмень, ідэя — ідэй, каляя — калей, куля — куль, міля — міль, падзея — падзей, фея — фей, шляя — шлей, шыя — шый;*

в) з асновай на *ж, ш, ч, ц, р: вежа — веж, гара — гор, груша — груш, калгасніца — калгасніц, літара — літар, мяжа — меж, паліца — паліц, тысяча — тысяч, фізкультурніца — фізкультурніц;*

г) з асновай на *г, к, х: дарога — дарог, драга — драг, дуга — дуг, кніга — кніг, крыга — крыг, нага — ног, тога — тог, фіга — фіг, шляга — шляг; бака — бак, дэка — дэк, піка — пік, лука — лук, рака — рэк, рука — рук; блыха — блох, вяха — вех, лёха — лёх, паха — пах, саха — сох, страха — стрэх;*

д) назоўнікі на *-ія(-ыя): гвардыя — гвардый, катэгорыя — катэгорый, копія — копій, лінія — ліній, мумія — мумій, партыя — партый, прафесія — прафесій, прэмія — прэмій, сесія — сесій, студыя — студый.*

З нулявым канчаткам ужываюцца таксама назоўнікі з асновай на збег зычных, апошні з якіх *к* (прычым паміж *к* і папярэднім зычным заўсёды паяўляецца беглы галосны): *булка — булак, бутэлька — бутэлек, галоўка — галовак, думка — думак, завязка — завязак, зорка — зорак, казка — казак, касілка — касілак, каска — касак, кніжка — кніжак, лыжка — лыжак, птушка — птушак, суседка — суседак, талерка — талерак, хустка — хустак* і г. д.

Канчатак *-аў (-яў)* маюць назоўнікі са збегам зычных або з падоўжаным зычным у канцы асновы: *зб, сьб (прызба — прызбаў, просьба — просьбаў); зв (адозва — адозваў, язва — язваў); кв (кроква — крокваў); йв (айва — айваў); гв (харугва — харугваў); тв (бітва — бітваў, малітва — малітваў); зг (розга — розгаў); лд, льд (фалда — фалдаў, шыльда — шыльдаў); бз (кобза — кобзаў); гл (кегля — кегляў); кл (сакля — сакляў); бл (скобля — скобляў); жл (выжла — выжлаў); тл (бутля — бутляў); зм, см (спазма — спазмаў, пасма — пасмаў); йм (абойма — абоймаў); дм, дзьм (выдма — выдмаў, ведзьма — ведзьмаў); хн (паверхня — паверхняў); ўн (вазоўня — вазоўняў, грыўня — грыўняў, ёўня — ёўняў, лядоўня — лядоўняў, князёўна — князёўнаў); зн (лазня — лазняў, кузня — кузняў); гн (багна — багнаў); йн (бойня — бойняў); йр (кайра — кайраў); тн (галубятня — галубятняў); тр (андатра — андатраў); сц (госця — госцяў); шц (мышца — мышцаў); йш (гейша — гейшаў); ндр (саламандра — саламандраў); ўдр (коўдра — коўдраў); ўбн (доўбня — доўбняў); штв (ліштва — ліштваў); стр (люстра — люстраў); йстр (кайстра — кайстраў); нн (бонна — боннаў, ванна — ваннаў, донна — доннаў, ілгуння — ілгунняў, мадонна — мадоннаў, панна — паннаў); лл (келля — келляў, ткалля — ткалляў); цц (свацця — сваццяў).*

З канчаткам *-яў* ужываецца некалькі двухскладовых назоўнікаў на адзін зычны (мяккі або *j*): *доля — доляў, паля — паляў, пядзя — пядзяў, роля — роляў, цаля — цаляў, шаля — шаляў; лея — леяў, рэя — рэяў.* У моўнай практыцы адзначаны выпадкі ўжывання назоўнікаў *пядзя, роля, цаля* з канчаткам *-ей*, што з'яўляецца адхіленнем ад нормы: *Сказалі: — На гэтай пасадзе трэба мець розуму на сем п я д з е й* (Г. Кляўко), *Усяго за сваё багатае сцэнічнае жыццё акцёр сыграў звыш 160 р о л е й* (Мінская праўда, 1974).

Для некаторых назоўнікаў дапускаецца ўжыванне форм з нулявым канчаткам і з канчаткам *-аў(-яў)*.

Да іх ліку адносяцца назоўнікі, аснова якіх заканчваецца збегам зычных, лёгкіх для вымаўлення, або калі паміж зычнымі паяўляецца беглы галосны: *нд* (*веранда — веранд* і *верандаў*, *вінда — вінд* і *віндаў*, *гірлянда — гірлянд* і *гірляндаў*, *каманда — команд* і *камандаў*, *легенда — легенд* і *легендаў*, *секунда — секунд* і *секундаў*); *рд* (*алебарда — алебард* і *алебардаў*, *арда — орд* і *ордаў*, *кукарда — кукард* і *кукардаў*, *мансарда — мансард* і *мансардаў*, *хорда — хорд* і *хордаў*); *льт* (*дэльта — дэльт* і *дэльтаў*, *катапульта — катапульт* і *катапультаў*); *нт* (*дамінанта — дамінант* і *дамінантаў*, *рэнта — рэнт* і *рэнтаў*); *рт* (*аорта — аорт* і *аортаў*, *карта — карт* і *картаў*, *кварта — кварт* і *квартаў*, *нарта — нарт* і *нартаў*, *парта — парт* і *партаў*, *сцірта — сцірт* і *сціртаў*); *ст* (*каста — каст* і *кастаў*, *мангуста — мангуст* і *мангустаў*, *нявеста — нявест* і *нявестаў*); *фт* (*кофта — кофт* і *кофтаў*, *муфта — муфт* і *муфтаў*); *хт* (*бухта — бухт* і *бухтаў*, *піхта — піхт* і *піхтаў*, *плахта — плахт* і *плахтаў*, *шахта — шахт* і *шахтаў*, *яхта — яхт* і *яхтаў*); *лб* (*колба — колб* і *колбаў*); *льб* (*стрэльба — стрэльб* і *стрэльбаў*); *мб* (*бомба — бомб* і *бомбаў*, *дамба — дамб* і *дамбаў*, *клумба — клумб* і *клумбаў*, *катакомба — катакомб* і *катакомбаў*, *пломба — пломб* і *пломбаў*); *рб* (*вярба — верб* і *вербаў*, *корба — корб* і *корбаў*, *торба — торб* і *торбаў*, *фарба — фарб* і *фарбаў*); *лп* (*малпа — малп* і *малпаў*); *мп* (*лямпа — лямп* і *лямпаў*, *помпа — помп* і *помпаў*, *рампа — рамп* і *рампаў*); *льм* (*пальма — пальм* і *пальмаў*); *рм* (*казарма — казарм* і *казармаў*, *норма — норм* і *нормаў*, *платформа — платформ* і *платформаў*, *рэформа — рэформ* і *рэформаў*, *ферма — ферм* і *фермаў*); *рн* (*каверна — каверн* і *кавернаў*, *сарна — сарн* і *сарнаў*, *таверна — таверн* і *тавернаў*, *урна — урн* і *урнаў*, *цыстэрна — цыстэрн* і *цыстэрнаў*); *льз* (*гільза — гільз* і *гільзаў*); *нз* (*лінза — лінз* і *лінзаў*, *фанза — фанз* і *фанзаў*); *рз* (*каверза — каверз* і *каверзаў*); *кс* (*букса—букс* і *буксаў*, *клякса — клякс* і *кляксаў*, *кукса — кукс* і *куксаў*); *нг* (*стронга — стронг* і *стронгаў*, *шарэнга — шарэнг* і *шарэнгаў*, *штанга — штанг* і *штангаў*); *рг* (*качарга — качэрг* і *качэргаў*, *скарга — скарг* і *скаргаў*, *чарга — чэрг* і *чэргаў*); *льх* (*вольха — вольх* і *вольхаў*); *рф* (*арфа — арф* і *арфаў*); *мф* (*німфа — німф* і *німфаў*); *шч* (*пашча — пашч* і *пашчаў*, *пушча — пушч* і *пушчаў*, *цёшча — цёшч* і *цёшчаў*); *йб* (*лайба — лайб* і *лайбаў*, *шайба — шайб* і *шайбаў*); *йм* (*абойма — абойм* і *абоймаў*, *пойма — пойм* і *поймаў*, *пройма — пройм* і *проймаў*); *йн* (*вайна — войн* і *войнаў*, *тайна — тайн* і *тайнаў*); *йт* (*флейта — флейт* і *флейтаў*); *рст* (*вярста — вёрст* і *вёрстаў*); *рн'* (*аўчарня — аўчарань* і *аўчарняў*, *бандарня — бандарань* і *бандарняў*, *вянглярня — вянглярань* і *вянглярняў*, *ганчарня — ганчарань* і *ганчарняў*, *гарбарня — гарбарань* і *гарбарняў*, *губерня — губерань* і *губерняў*, *дзягцярня — дзягцярань* і *дзягцярняў*, *кнігарня — кнігарань* і *кнігарняў*, *майстэрня — майстэрань* і *майстэрняў*, *такарня — такарань* і *такарняў*); *шн'* (*вішня — вішань* і *вішняў*, *канюшня — канюшань* і *канюшняў*, *крушня — крушань* і *крушняў*, *чарэшня — чарэшань* і *чарэшняў*); *жн'* (*таможня — таможань* і *таможняў*); *хн'* (*кухня — кухань* і *кухняў*); *тн'* (*сотня — соцень* і *сотняў*, *лютня — люцень* і *лютняў*); *сн'* — (*песня — песень* і *песняў*); *сн* (*вясна — вёсен* і *вёснаў*, *дзясна — дзёсен* і *дзёснаў*, *сасна — сосен* і *соснаў*); *зн* (*баразна — баразён* і *барознаў*); *бл'* (*аглобля — аглабель* і *аглобляў*, *грэбля — грэбель* і *грэбляў*, *шабля — шабель* і *шабляў*); *пл'* (*капля — капель* і *капляў*, *кропля — кропель* і *кропляў*); *мл'* (*зямля — зямель* і *земляў*); *фл'* (*вафля — вафель* і *вафляў*, *кафля — кафель* і *кафляў*); *мй* (*сям'я — сямей* і *сем'яў*); *стр* (*сястра — сясцёр* і *сёстраў*).

## Трэцяе скланенне

### § 170. Узор скланення

Аснова на мяккі зычны

| | | |
|---|---|---|
| Н. *сенажац-і* | *магчымасц-і* | *гус-і* |
| Р. *сенажац-ей* | *магчымасц-ей* | *гус-ей* |
| Д. *сенажац-ям* | *магчымасц-ям* | *гус-ям* |
| В. *сенажац-і* | *магчымасц-і* | *гус-ей* |
| Т. *сенажац-ямі* | *магчымасц-ямі* | *гус-ямі* |
| М. *(аб) сенажац-ях* | *магчымасц-ях* | *гус-ях* |

Аснова на губны зычны

| | |
|---|---|
| Н. *глыб-і* | *верф-і* |
| Р. *глыб-ей* | *верф-ей* |
| Д. *глыб-ям* | *верф-ям* |
| В. *глыб-і* | *верф-і* |
| Т. *глыб-ямі* | *верф-ямі* |
| М. *(аб) глыб-ях* | *верф-ях* |

Аснова на шыпячыя

| | |
|---|---|
| Н. *ноч-ы* | *флеш-ы* |
| Р. *нач-эй* | *флеш-аў* |
| Д. *нач-ам* | *флеш-ам* |
| В. *ноч-ы* | *флеш-ы* |
| Т. *нач-амі* | *флеш-амі* |
| М. *(аб) нач-ах* | *флеш-ах* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. У родным склоне асноўным з'яўляецца канчатак *-ей(-эй)*.

Частка назоўнікаў можа мець варыянтны канчатак *-яў*; некалькі назоўнікаў маюць канчатак *-яў(-аў)*.

2. У творным склоне пасля мяккіх зычных і губных — канчатак *-ямі*, пасля шыпячых зычных — канчатак *-амі*: *клець — клецямі, верф — верфямі, рэч — рэчамі*.

3. Назоўнік *косць* у творным склоне мае варыянтныя канчаткі *-ямі* і *-мі*: *касцямі* і *касцьмі*.

4. У творным склоне з канчаткам *-мі* ў мове мастацкай літаратуры сустракаюцца назоўнікі *ніць, далонь*: *ніцьмі, далоньмі*.

### Формы роднага склону

§ 171. Канчатак *-ей* можа быць націскным або ненаціскным. Ненаціскны канчатак маюць:

а) назоўнікі з асновай, якая заканчваецца збегам зычных: *адлегласць — адлегласцей, акалічнасць — акалічнасцей, аповесць — аповесцей, асаблівасць — асаблівасцей, ацёчнасць — ацёчнасцей, борць — борцей, ведамасць — ведамасцей, верф — верфей, водарасць — водарасцей, запазычанасць — запазычанасцей, каштоўнасць — каштоўнасцей, кісць — кісцей, лопасць — лопасцей, магчымасць — магчымасцей, мажлівасць — мажлівасцей, меншасць — меншасцей, мясцовасць — мяс-

*цовасцей, народнасць — народнасцей, нацыянальнасць — нацыянальнасцей, недакладнасць — недакладнасцей, няспраўнасць — няспраўнасцей, няяснасць — няяснасцей, паперць — паперцей, плоскасць — плоскасцей, поласць — поласцей, радасць — радасцей, хуткасць — хуткасцей, цяжкасць — цяжкасцей, чэцверць — чэцверцей* і г. д.;

б) усе двухскладовыя і шматскладовыя назоўнікі з асновай на адзін зычны і большасць аднаскладовых назоўнікаў: *аброць — аброцей, арцель — арцелей, бандэроль — бандэролей; быль — былей, вертыкаль — вертыкалей, віяланчэль — віяланчэлей, водмель — водмелей, вось — восей, гавань — гаваней, гартань — гартаней, гаць — гацей, грань — граней, дробязь — дробязей, завадзь — завадзей, завязь — завязей, загарадзь — загарадзей, кадзь — кадзей, кладзь — кладзей, лань — ланей, магістраль — магістралей, мадэль — мадэлей, мазь — мазей, мель — мелей, папараць — папарацей, педаль — педалей, плынь — плыней, покуць — покуцей, прывязь — прывязей, прыстань — прыстаней, раць — рацей, рысь — рысей, сенажаць — сенажацей, скронь — скроней, соль — солей, сувязь — сувязей, сумесь — сумесей, трэль — трэлей, цэль — цэлей.*

Для назоўнікаў гэтай групы дапускаецца таксама канчатак *-яў: аброцяў, арцеляў, бандэроляў, граняў, плыняў, скроняў* і г. д.

З націскным канчаткам *-ей* ужываюцца:

а) некалькі аднаскладовых назоўнікаў з асновай на мяккі зычны: *гусь — гусей, косць — касцей, масць — масцей, ніць — ніцей, смерць — смярцей, страсць — страсцей, часць — часцей;*

б) складаныя назоўнікі з другой часткай *часць: мотачасць — мотачасцей, авіячасць — авіячасцей* і г. д.;

в) двухскладовы назоўнік *вобласць: абласцей;*

г) назоўнікі *кроў, свякроў: крывей, свекрывей.*

Назоўнікі *ноч, мыш, печ* маюць канчатак *-эй: начэй, мышэй, пячэй.*

З канчаткам *-аў(-яў)* ужываюцца назоўнікі *рэч, флеш, шчолач, даль: рэчаў, флешаў, шчолачаў, даляў.*

## Назоўнікі мужчынскага роду на *-а(-я)* і назоўнікі агульнага роду

### § 172. Узор скланення

**Мужчынскі род**

Аснова на цвёрды зычны і *ц*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *мужчын-ы* | *стараст-ы* | *знаўц-ы* |
| Р. | *мужчын* | *стараст (-аў)* | *знаўц-аў* |
| Д. | *мужчын-ам* | *стараст-ам* | *знаўц-ам* |
| В. | *мужчын* | *стараст (-аў)* | *знаўц-аў* |
| Т. | *мужчын-амі* | *стараст-амі* | *знаўц-амі* |
| М. | *(аб) мужчын-ах* | *стараст-ах* | *знаўц-ах* |

Аснова на *г, к*

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *юнг-і* | *ваяк-і* |
| Р. | *юнг-аў* | *ваяк* |
| Д. | *юнг-ам* | *ваяк-ам* |
| В. | *юнг-аў* | *ваяк* |
| Т. | *юнг-амі* | *ваяк-амі* |
| М. | *(аб)юнг-ах* | *ваяк-ах* |

Аснова на мяккі зычны

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *старшын-і* | *суддз-і* |
| Р. | *старшынь* | *суддз-яў* |
| Д. | *старшын-ям* | *суддз-ям* |
| В. | *старшынь* | *суддз-яў* |
| Т. | *старшын-ямі* | *суддз-ямі* |
| М. | *(аб) старшын-ях* | *суддз-ях* |

Агульны род

Аснова на цвёрдыя, шыпячыя зычныя, *р* і *ц*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *плакс-ы* | *сарвігалов-ы* | *лістанош-ы* | *скнар-ы* | *тупіц-ы* |
| Р. | *плакс (-аў)* | *сарвігалоў* | *лістанош* | *скнар* | *тупіц* |
| Д. | *плакс-ам* | *сарвігалов-ам* | *лістанош-ам* | *скнар-ам* | *тупіц-ам* |
| В. | *плакс (-аў)* | *сарвігалоў* | *лістанош* | *скнар* | *тупіц* |
| Т. | *плакс-амі* | *сарвігалов-амі* | *лістанош-амі* | *скнар-амі* | *тупіц-амі* |
| М. | *(аб) плакс-ах* | *сарвігалов-ах* | *лістанош-ах* | *скнар-ах* | *тупіц-ах* |

Аснова на *г, к*

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *туляг-і* | *задавак-і* |
| Р. | *туляг* | *задавак* |
| Д. | *туляг-ам* | *задавак-ам* |
| В. | *туляг* | *задавак* |
| Т. | *туляг-амі* | *задавак-амі* |
| М. | *(аб) туляг-ах* | *задавак-ах* |

Аснова на мяккі зычны

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *пустамел-і* | *сон-і* |
| Р. | *пустамель* | *сонь* |
| Д. | *пустамел-ям* | *сон-ям* |
| В. | *пустамель* | *сонь* |
| Т. | *пустамел-ямі* | *сон-ямі* |
| М. | *(аб) пустамел-ях* | *сон-ях* |

Каментарыі да парадыгмы.

У родным склоне назоўнікі мужчынскага роду на *-а(-я)* і назоўнікі агульнага роду маюць нулявы канчатак або канчатак *-аў(-яў)*, ужыванне якіх вызначаецца тымі ж крытэрыямі, што і ў назоўніках жаночага роду другога скланення (гл. § 169).

## Множналікавыя назоўнікі

§ 173. Множналікавыя назоўнікі ўтвараюць склонавыя формы па такіх жа ўзорах, як назоўнікі першага, другога і трэцяга скланенняў.

### § 174. Узор скланення

Аснова на цвёрдыя, шыпячыя зычныя, *р* і *ц*

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *абставін-ы* | *вусн-ы* | *клешч-ы* | *манеўр-ы* | *пяльц-ы* |
| Р. | *абставін* | *вусн-аў* | *клешч-аў* | *манеўр-аў* | *пяльц-аў* |
| Д. | *абставін-ам* | *вусн-ам* | *клешч-ам* | *манеўр-ам* | *пяльц-ам* |
| В. | *абставін-ы* | *вусн-ы* | *клешч-ы* | *манеўр-ы* | *пяльц-ы* |
| Т. | *абставін-амі* | *вусн-амі* | *клешч-амі* | *манеўр-амі* | *пяльц-амі* |
| М. | *(аб) абставін-ах* | *вусн-ах* | *клешч-ах* | *манеўр-ах* | *пяльц-ах* |

Аснова на мяккі зычны

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *цугл-і* | *сен-і* |
| Р. | *цугл-яў* | *сен-ей* |
| Д. | *цугл-ям* | *сен-ям* |
| В. | *цугл-і* | *сен-і* |
| Т. | *цугл-ямі* | *сен-ямі* |
| М. | *(аб) цугл-ях* | *сен-ях* |

Аснова на *г, к*

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *абцуг-і* | *ападк-і* |
| Р. | *абцуг-оў* | *ападк-аў* |
| Д. | *абцуг-ам* | *ападк-ам* |
| В. | *абцуг-і* | *ападк-і* |
| Т. | *абцуг-амі* | *ападк-амі* |
| М. | *(аб) абцуг-ах* | *ападк-ах* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. У творным склоне выступае канчатак *-амі(-ямі): ведамі, канікуламі, крупамі, шахматамі, джунглямі* і г. д.

Некаторыя назоўнікі побач з канчаткам *-амі(-ямі)* могуць ужывацца з канчаткамі *-ыма* і *-мі:*

а) назоўнікі *грошы, дзверы: грашамі* і *грашыма, грашмі, дзвярамі* і *дзвярыма, дзвярмі.* Формы на *-амі, -ыма* шырока прадстаўлены ў розных стылях пісьмовай мовы і ў гутарковай мове і павінны лічыцца нарматыўнымі. Формы на *-мі* выходзяць за межы літаратурнай нормы;

б) для назоўнікаў *грудзі, сані* характэрны формы на *-ямі* і *-мі: грудзямі — грудзьмі, санямі — саньмі;*

в) назоўнік *людзі* ў якасці нарматыўнага мае канчатак *-мі: людзьмі.* Форма *людзямі,* якая сустракаецца ў мове мастацкай літаратуры і ў гутарковай мове, з'яўляецца адступленнем ад нормы.

## Формы роднага склону

§ 175. У родным склоне множналікавыя назоўнікі маюць канчаткі *-аў(-яў), -оў(-ёў), -ей(-эй)* або формы з нулявым канчаткам. Выбар аднаго з канчаткаў вызначаецца характарам канцавога зычнага асновы, часткова яе марфалагічнай будовай або семантыкай, месцам націску ў зыходнай форме.

З канчаткам *-аў* ужываюцца:

а) большасць назоўнікаў са збегам зычных у канцы асновы: *алімentaў, апладысментаў, курантаў; вастрагубцаў, пласкагубцаў; кранцаў, шканцаў; клешчаў, мошчаў, прыгаршчаў; стансаў, фінансаў; аб'едкаў, абмалоткаў, абножкаў, ападкаў, задворкаў, заняткаў, нападкаў, недаедкаў, недачоскаў, падмосткаў, падонкаў, пазадкаў, палітзаняткаў, пацяробкаў, пачаскаў, усходкаў;*

б) усе назоўнікі на адзін зычны *к* у аснове: *грошыкаў, дрыжыкаў, лекаў, падтропікаў, плечыкаў, прысмакаў, скокаў, субтропікаў, таракаў, трусікаў, уцёкаў, флякаў, хітрыкаў, ходзікаў, шчыпчыкаў;*

в) аддзеяслоўныя назоўнікі з асновай на адзін зычны: *аковаў, ад-кладаў, ведаў, водведаў, выбараў, выкрутасаў, давыбараў, залётаў, збораў, провадаў, перавыбараў, перагавораў, родаў, сходаў, усходаў;*

г) складаныя назоўнікі з асновай на адзін зычны: *боепрыпасаў, вогнепрыпасаў, маладажонаў, партузносаў, радыётавараў, спорттавараў;*

д) іншамоўныя назоўнікі з асновай на адзін зычны: *аналаў, дэбатаў, кулуараў, мемуараў, пенатаў, шхераў, палімераў, дэзідэратаў.*

З канчаткам *-яў* ужываюцца ўсе назоўнікі з асновай на мяккі зычны або *й*: *гуляў, караляў, пачуляў, пікуляў, тэфтэляў, шаляў; восцяў, гусляў, джунгляў, крэсцяў, тройняў, цугляў, ясляў; абояў, памыяў, хімікаліяў.* Але *вакацый.*

З канчаткам *-оў* ужываюцца назоўнікі, якія ў назоўным склоне маюць націскны канчатак: *абцугі — абцугоў, азы — азоў, бацькі — бацькоў, брыжы — брыжоў, вайчкі — вайчкоў, гарадкі — гарадкоў, духі — духоў, трусы — трусоў, ціскі — ціскоў, шамкі — шамкоў, штаны — штаноў.*

З нулявым канчаткам ужываюцца:

а) частка назоўнікаў з асновай на адзін зычны; у прыватнасці ўсе назоўнікі з суфіксамі *-ін-ы(-ын-ы), -іц-ы*: *абставіны — абставін, апоўзіны — апоўзін, агледзіны — агледзін, адведзіны — адведзін, акцябрыны — акцябрын, драбіны — драбін, жамерыны — жамерын, запоіны — запоін, заручыны — заручын, зносіны — зносін, імяніны — імянін, паводзіны — паводзін, радзіны — радзін, саладзіны — саладзін, сарачыны — сарачын, уводзіны — уводзін, уваходзіны — уваходзін, хрэсьбіны — хрэсьбін; весніцы — весніц, нагавіцы — нагавіц, нажніцы — нажніц,* а таксама: *вароты—варот, дровы—дроў, кайданы—кайдан, канікулы — канікул, краты — крат, крупы — круп, нары — нар, шахматы — шахмат* і некаторыя іншыя;

б) геаграфічныя назвы на *-ічы, -яны*: *Асіповічы — Асіповіч, Баранавічы — Баранавіч, Кругляны — Круглян;*

в) назоўнікі са збегам зычных у канцы асновы пры паяўленні беглага галоснага паміж імі. Гэта часцей за ўсё словы з апошнім *к* у аснове: *апілкі — апілак, вілкі — вілак, выжымкі — выжымак, высадкі — высадак, вячоркі — вячорак, дажынкі — дажынак, зёлкі — зёлак, могілкі — могілак, начоўкі — начовак, памінкі — памінак, раскопкі — раскопак, санкі — санак, суткі — сутак* і пад., а таксама: *граблі — грабель, каноплі — канапель* і інш.

Канчатак *-ей(-эй)* маюць назоўнікі *гоні, грудзі, людзі, сані, сені, дрожджы, дзверы*: *гоней, грудзей, людзей, саней* (таксама *аэрасаней, аўтасаней*), *сяней, драждэй, дзвярэй.*

Канчатак *-ай* мае назоўнік *грошы*: *грошай.*

## Скланенне назоўнікаў, якія ўтвараюць формы множнага ліку ад відазмененай асновы адзіночнага ліку

§ 176. Утварэнне склонавых форм множнага ліку можа суправаджацца пэўнымі зменамі ў аснове: чаргаванне канцавых зычных асновы, замена адной фіналі другой, з'яўленне нарашчэння, адсутнасць суфікса, утварэнне форм адзіночнага і множнага ліку ад розных асноў.

### Скланенне асабовых назоўнікаў мужчынскага роду з суфіксамі *-анін(-янін), -ын*

### § 177. Узор скланення

Адзіночны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *грамадзянін* | *мінчанін* | *балгарын* |
| Р. | *грамадзянін-а* | *мінчанін-а* | *балгарын-а* |
| Д. | *грамадзянін-у* | *мінчанін-у* | *балгарын-у* |
| В. | *грамадзянін-а* | *мінчанін-а* | *балгарын-а* |
| Т. | *грамадзянін-ам* | *мінчанін-ам* | *балгарын-ам* |
| М. | *(аб) грамадзянін-е* | *мінчанін-е* | *балгарын-е* |

Множны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *грамадзян-е* | *мінчан-е* | *балгар-ы* |
| Р. | *грамадзян* | *мінчан* | *балгар* |
| Д. | *грамадзян-ам* | *мінчан-ам* | *балгар-ам* |
| В. | *грамадзян* | *мінчан* | *балгар* |
| Т. | *грамадзян-амі* | *мінчан-амі* | *балгар-амі* |
| М. | *(аб) грамадзян-ах* | *мінчан-ах* | *балгар-ах* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. Назоўнікі на *-анін (-янін)* і *-ын*, акрамя назоўніка *сем'янін*, утвараюць формы множнага ліку ад асновы адзіночнага ліку з усячэннем фіналі *-ін(-ын)*.

2. Назоўнікі на *-анін(-янін)* у назоўным склоне множнага ліку маюць канчатак *-е*, назоўнікі на *-ын* — канчатак *-ы: армяне, гамяльчане, славяне, сяляне; балгары, баяры, татары.*

3. У спалучэннях з лічэбнікамі гэтыя назоўнікі ўтвараюць формы множнага ліку з захаваннем фіналі *-ін(-ын): два, тры, чатыры балгарыны, мінчаніны, селяніны.* У спалучэннях са зборнымі лічэбнікамі ўжываюцца формы без фіналі *-ін(-ын): двое, трое балгар, мінчан, сялян.*

## § 178. Скланенне назоўнікаў *сусед, чорт, калена*

Адзіночны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *сусед* | *чорт* | *кален-а* |
| Р. | *сусед-а* | *чорт-а* | *кален-а* |
| Д. | *сусед-у* | *чорт-у* | *кален-у* |
| В. | *сусед-а* | *чорт-а* | *кален-а* |
| Т. | *сусед-ам* | *чорт-ам* | *кален-ам* |
| М. | *(аб) суседз-е* | *чорц-е* | *кален-е* |

Множны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *суседз-і* | *чэрц-і* | *кален-і* |
| Р. | *суседз-яў (-ей)* | *чэрц-яў (чарц-ей)* | *кален-яў (-ей)* |
| Д. | *суседз-ям* | *чэрц-ям* | *кален-ям* |
| В. | *суседз-яў (-ей)* | *чэрц-яў (чарц-ей)* | *кален-і* |
| Т. | *суседз-ямі* | *чэрц-ямі* | *кален-ямі* |
| М. | *(аб) суседз-ях* | *чэрц-ях* | *кален-ях* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. У адзіночным ліку назоўнікі *сусед, чорт* і *калена* скланяюцца як назоўнікі першага скланення з асновай на цвёрды зычны.

2. Формы множнага ліку гэтыя назоўнікі ўтвараюць ад асновы на мяккі зычны, прычым у слове *чорт* адбываецца чаргаванне галосных *о—э.*

3. У родным склоне акрамя канчатка *-яў* допускаецца варыянтны канчатак *-ей.*

4. Пры абазначэнні раздзельнай множнасці склонавыя формы множнага ліку ўтвараюцца ад асновы на цвёрды зычны: Н. *суседы, чарты, калены*; Р. *суседаў, чартоў, кален;* Д. *суседам, чартам, каленам;* В. *суседаў, чартоў, калены;* Т. *суседамі, чартамі, каленамі;* М. *(аб) суседах, чартах, каленах.*

5. Назоўнік *калена* ў значэнні 'музыкальны матыў', 'фігура ў танцах' утварае формы множнага ліку толькі ад асновы на цвёрды зычны.

## § 179. Скланенне назоўнікаў *вока, вуха, плячо*

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| Н. *вок-а* | *вух-а* | *пляч-о* |
| Р. *вок-а* | *вух-а* | *пляч-а* |
| Д. *вок-у* | *вух-у* | *пляч-у* |
| В. *вок-а* | *вух-а* | *пляч-о* |
| Т. *вок-ам* | *вух-ам* | *пляч-ом* |
| М. (*аб*) *вок-у* | *вух-у* | *пляч-ы* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| Н. *воч-ы* | *вуш-ы* | *плеч-ы* |
| Р. *вач-эй* | *вуш-эй* | *пляч-эй* |
| Д. *вач-ам* | *вуш-ам* | *пляч-ам* |
| В. *воч-ы* | *вуш-ы* | *плеч-ы* |
| Т. *вач-амі* (*-ыма*) | *вуш-амі* (*-ыма*) | *пляч-амі* (*-ыма*) |
| М. (*аб*) *вач-ах* | *вуш-ах* | *пляч-ах* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. Назоўнікі *вока* і *вуха* ўтвараюць формы множнага ліку ад асноў *воч-* і *вуш-*.

2. У спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры, абодва* ўжываюцца формы *вокі, вухі.*

3. У творным склоне множнага ліку назоўнікі *вока, вуха* і *плячо* ўжываюцца з канчаткам *-амі,* які замацаваўся ў якасці літаратурнай нормы. У мове мастацкай літаратуры і перыядычнага друку пад уплывам размоўнага стылю і народных гаворак шырока ўжываюцца формы з канчаткам *-ыма: вачыма, вушыма, плячыма.* Паралелізм ва ўжыванні канчаткаў *-амі* і *-ыма* ў мове мастацкай літаратуры, а таксама тэндэнцыі да пашырэння апошняга ва ўсіх пісьмовых стылях дае падставу меркаваць, што абедзве формы можна лічыць варыянтамі літаратурнай нормы.

4. У месным склоне множнага ліку назоўнікі *вока, вуха* маюць канчатак *-ах.* У мове мастацкай літаратуры і ў размоўным стылі ўжываюцца формы *у ваччу, у вушшу,* якія ўзыходзяць да старых форм роднага і меснага склонаў парнага ліку: *у вушшу Аксінні* (А. Кулакоўскі); *Наталля ў ваччу яе прачытала падзяку* (К. Чорны). Гэтыя формы па значэнню набліжаюцца да прыслоўя, і калі яны не маюць пры сабе дапаўнення ў родным склоне, то, згодна з Правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, пішуцца злітна: *Уваччу заблісkалі іскаркі смяшлівасці* (Я. Колас); *Нешта глуха дзынкнула ўвушшу* (М. Стральцоў).

### Скланенне назоўнікаў тыпу *цяля*

## § 180. Узор скланення

Адзіночны лік

| | |
|---|---|
| Н. *цял-я* | *куран-я* |
| Р. *цял-яц-і* | *куран-яц-і* |
| Д. *цял-яц-і* | *куран-яц-і* |
| В. *цял-я* | *куран-я* |
| Т. *цял-ём* | *куран-ём* |
| М. (*аб*) *цял-яц-і* | *куран-яц-і* |

Множны лік

| | |
|---|---|
| Н. *цял-ят-ы* | *куран-ят-ы* |
| Р. *цял-ят* | *куран-ят* |
| Д. *цял-ят-ам* | *куран-ят-ам* |
| В. *цял-ят* | *куран-ят* |
| Т. *цял-ят-амі* | *куран-ят-амі* |
| М. *(аб) цял-ят-ах* | *куран-ят-ах* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. У назоўным склоне адзіночнага ліку назоўнікі, якія абазначаюць маладых істот, акрамя канчатка *-я*, могуць мець варыянтны канчатак *-ё: куранё, парасё, цялё.*

2. У родным, давальным і месным склонах адзіночнага ліку назоўнікі гэтай групы набываюць устаўку *-яц-* і маюць канчатак *-і.*

У творным склоне ўстаўка *-яц-(-ац-)* утрачваецца і ўжываецца канчатак *-ём(-ом).*

3. Назоўнік *дзіця* ў якасці літаратурнай нормы мае ненаціскны канчатак *-ем: дзіцем.* Форма *дзіцём,* якая сустракаецца ў моўнай практыцы, выходзіць за межы літаратурнай нормы.

4. Ва ўсіх склонах множнага ліку назоўнікі тыпу *цяля* (апрача *дзіця*) маюць устаўку *-ят- (цял-ят-ы, парас-ят-ы)* і адпаведныя канчаткі.

5. Назоўнік *дзіця* скланяецца ў множным ліку без устаўкі і мае наступныя формы: Н. *дзеці;* Р. і В. *дзяцей;* Д. *дзецям;* Т. *дзецьмі* (форма *дзецямі* не з'яўляецца нарматыўнай); М. *(аб) дзецях.*

6. Назоўнік *хлапчо (разм.)* утварае формы множнага ліку ад асновы *хлапчанят-:* Н. *хлапчаняты;* Р. *хлапчанят;* Д. *хлапчанятам* і г. д.

7. Назоўнікі *свінчо* і *дзяўч-о (-а)* не маюць форм множнага ліку.

## Скланенне назоўнікаў на *-мя*

### § 181. Узор скланення

| Адзіночны лік | | | Множны лік | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. *ім-я* | *плем-я* | | *імён-ы* | *(ім-і)* | *плямён-ы* |
| Р. *ім-я (імен-і)* | *плем-я* | *(племен-і)* | *імён* | *(ім-яў)* | *плямён* |
| Д. *ім-ю (імен-і)* | *плем-ю* | *(племен-і)* | *імён-ам* | *(ім-ям)* | *плямён-ам* |
| В. *ім-я* | *плем-я* | | *імён-ы* | *(ім-і)* | *плямён-ы* |
| Т. *ім-ем (імен-ем)* | *плем-ем* | *(племен-ем)* | *імён-амі* | *(ім-ямі)* | *плямён-амі* |
| М. *(аб) ім-і (імен-і)* | *плем-і* | *(племен-і)* | *імён-ах* | | *плямён-ах* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. Назоўнікі *імя, племя* і *стрэмя* ва ўскосных склонах адзіночнага ліку (акрамя вінавальнага склону) могуць мець формы з устаўкай *-ен-* або без яе.

2. У множным ліку назоўнікі *імя* і *стрэмя* могуць мець формы з устаўкай *-ен-* або без яе, а назоўнік *племя* мае формы толькі з устаўкай *-ен-.*

3. Назоўнікі *бярэмя, вымя, полымя, семя, цемя* скланяюцца без устаўкі *-ен-* па ўзору назоўніка ніякага роду *поле.*

### § 182. Скланенне назоўніка *маці*

Ва ўскосных склонах адзіночнага ліку, акрамя вінавальнага, і ва ўсіх склонах множнага ліку назоўнік *маці* атрымлівае ўстаўку *-ер-:*

| Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|
| Н. *мац-і* | *мацер-ы* |
| Р. *мацер-ы* | *мацяр-эй* |
| Д. *мацер-ы* | *мацяр-ам* |
| В. *мац-і* | *мацяр-эй* |
| Т. *мацер-ай* | *мацяр-амі* |
| М. (аб) *мацер-ы* | *мацяр-ах* |

Заўвага. Назоўнік *маці* можа ўжывацца без устаўкі *-ер-* і ва ўсіх склонах адзіночнага і множнага ліку мець форму, якая супадае з формай назоўнага склону.

§ 183. Назоўнік *дзяўчына* формы множнага ліку ўтварае ад асновы на *-ат-*, г. зн. фіналь *-ын-а* замяняецца на фіналь *-ат-ы*: Н. *дзяўчаты;* Р. *дзяўчат;* Д. *дзяўчатам;* В. *дзяўчат;* Т. *дзяўчатамі;* М. (аб) *дзяўчатах.*

§ 184. Ад усечанай асновы ўтвараюцца формы множнага ліку назоўніка *курыца:* Н. *кур-ы;* Р. *кур-эй;* Д. *кур-ам;* В. *кур-эй;* Т. *кур-амі;* М. (аб) *кур-ах.*

§ 185. Запазычанае з рускай мовы слова *акцябронак* у адзіночным ліку змяняецца як назоўнікі першага скланення мужчынскага роду з асновай на *к;* у множным ліку мае форму *акцябраты* і адпаведна ва ўскосных склонах — *акцябрат, акцябратам, акцябрат, акцябратамі,* (аб) *акцябратах.*

§ 186. Назоўнік *неба* можа атрымліваць устаўку *-ёс-* і мець наступныя словаформы: Н., В. *нябёсы;* Р. *нябёс;* Д. *нябёсам;* Т. *нябёсамі;* М. (аб) *нябёсах.* Формы *неба* і *нябёсы* супрацьпастаўлення па ліку не выражаюць, і слова *нябёсы* выступае як самастойнае з тым жа значэннем, што і *неба.*

## Скланенне некаторых прозвішч

§ 187. Прозвішчы, якія ўзыходзяць да назваў прадметаў жаночага роду з асновай на *г, к, х* і ненаціскным канчаткам *-а,* набываюць скланявыя канчаткі ў залежнасці ад полу асобы. Калі гэта прозвішча жанчыны, яно скланяецца як агульныя назоўнікі жаночага роду з адпаведнай асновай: Н. *Сарока, Саладуха, Кніга;* Р. *Сарокі, Саладухі, Кнігі;* Д. *Сароцы, Саладусе, Кнізе;* В. *Сароку, Саладуху, Кнігу;* Т. *Сарокай, Саладухай, Кнігай;* М. (аб) *Сароцы, Саладусе, Кнізе.*

Калі гэта прозвішча мужчыны, яно скланяецца як назоўнікі мужчынскага роду на *-а* з адпаведнай асновай: Н. *Сарока, Саладуха, Кніга;* Р. *Сарокі, Саладухі, Кнігі;* Д. *Сароку, Саладуху, Кнігу;* В. *Сароку, Саладуху, Кнігу;* Т. *Сарокам, Саладухам, Кнігам;* М. (аб) *Сароку, Саладуху, Кнігу.*

§ 188. Калі прозвішчамі з'яўляюцца назвы прадметаў жаночага роду на *-а,* акрамя прозвішч на ненаціскное *-га, -ка, -ха,* яны скланяюцца незалежна ад полу асобы, як агульныя назоўнікі жаночага роду з адпаведным тыпам асновы: Н. *Бульба, Пушча, Кропля, Крапіва;* Р. *Бульбы, Пушчы, Кроплі, Крапівы;* Д. *Бульбе, Пушчы, Кроплі, Крапіве;* В. *Бульбу, Пушчу, Кроплю, Крапіву;* Т. *Бульбай, Пушчай, Кропляй, Крапівой;* М. (аб) *Бульбе, Пушчы, Кроплі, Крапіве.*

§ 189. Прозвішчы, якія не суадносяцца з назвамі прадметаў, скланяюцца ў тым выпадку, калі яны адносяцца да мужчыны: Н. *Карызна, Машара, Бядуля, Глебка, Янчанка, Бандарэнка;* Р. *Карызны, Машары, Бядулі, Глебкі, Янчанкі, Бандарэнкі;* Д. *Карызну, Машару, Бядулю, Глебку, Янчанку, Бандарэнку;* В. *Карызну, Машару, Глебку, Янчанку,*

*Бандарэнку;* Т. *Карызнам, Машарам, Бядулём, Глебкам, Янчанкам, Бандарэнкам;* М. *(аб) Карызну, Машару, Бядулю, Глебку, Янчанку, Бандарэнку.* Не скланяюцца такія прозвішчы, калі яны адносяцца да жанчыны: Н. *Галіна Янчанка;* Р. *(у) Галіны Янчанка;* Д. *Галіне Янчанка;* В. *Галіну Янчанка;* Т. *(з) Галінай Янчанка;* М. *(аб) Галіне Янчанка.*

§ 190. Не скланяюцца прозвішчы, якія заканчваюцца на *-ко:* Н. *Павел Ралько, Іван Крамко, Ніна Крыўко;* Р. *Паўла Ралько, Івана Крамко, Ніны Крыўко;* Д. *Паўлу Ралько, Івану Крамко, Ніне Крыўко* і г. д.

§ 191. Мужчынскія прозвішчы на *-аў, -еў, -оў (-ёў), -ін (-ын),* жаночыя прозвішчы на *-ав (-а), -ев (-а), -ов (-а), -ёв (-а) -ін (-а), -ын (-а),* а таксама агульныя назоўнікі тыпу *кабельтаў, швартоў,* змяняюцца па так званаму змешанаму тыпу скланення, г. зн. маюць некаторыя склонавыя формы назоўнікаў мужчынскага або жаночага роду і некаторыя склонавыя формы прыметнікаў:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. *Данілаў* | *Кавалёў* | *Фамін* | *кабельтаў* |
| Р. *Данілав-а* | *Кавалёв-а* | *Фамін-а* | *кабельтав-а* |
| Д. *Данілав-у* | *Кавалёв-у* | *Фамін-у* | *кабельтав-у* |
| В. *Данілав-а* | *Кавалёв-а* | *Фамін-а* | *кабельтаў* |
| Т. *Данілав-ым* | *Кавалёв-ым* | *Фамін-ым* | *кабельтав-ым* |
| М. *(аб) Данілав-е* | *Кавалёв-е* | *Фамін-е* | *кабельтав-е* |

| | |
|---|---|
| Н. *Сакалов-а* | *Грышын-а* |
| Р. *Сакалов-ай* | *Грышын-ай* |
| Д. *Сакалов-ай* | *Грышын-ай* |
| В. *Сакалов-у* | *Грышын-у* |
| Т. *Сакалов-ай* | *Грышын-ай* |
| М. *(аб) Сакалов-ай* | *Грышын-ай* |

### Ад'ектыўнае скланенне назоўнікаў

§ 192. Па ад'ектыўнаму скланенню змяняюцца назоўнікі, якія маюць канчаткі прыметнікаў. Большая частка гэтых назоўнікаў — субстантываваныя прыметнікі і дзеепрыметнікі. Прыналежнасць гэтых назоўнікаў да адушаўлёных або неадушаўлёных выражаецца марфалагічна: у множным ліку і ў назоўніках мужчынскага роду адзіночнага ліку адушаўлёных назоўнікаў форма вінавальнага склону супадае з формай роднага склону, а ў неадушаўлёных назоўніках — з формай назоўнага склону.

§ 193. Узор скланення

Адзіночны лік

| Мужчынскі род | | Жаночы род |
|---|---|---|
| Н. *выхадн-ы* | *рабоч-ы* | *сталов-ая* |
| Р. *выхадн-ога* | *рабоч-ага* | *сталов-ай* |
| Д. *выхадн-ому* | *рабоч-аму* | *сталов-ай* |
| В. *выхадн-ы* | *рабоч-ага* | *сталов-ую* |
| Т. *выхадн-ым* | *рабоч-ым* | *сталов-ай* |
| М. *(аб) выхадн-ым* | *рабоч-ым* | *сталов-ай* |

### Ніякі род

Н. *насяком-ае*
Р. *насяком-ага*
Д. *насяком-аму*
В. *насяком-ае*
Т. *насяком-ым*
М. *(аб) насяком-ым*

### Множны лік

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *выхадн-ыя* | *рабоч-ыя* | *сталов-ыя* | *насяком-ыя* |
| Р. | *выхадн-ых* | *рабоч-ых* | *сталов-ых* | *насяком-ых* |
| Д. | *выхадн-ым* | *рабоч-ым* | *сталов-ым* | *насяком-ым* |
| В. | *выхадн-ыя* | *рабоч-ых* | *сталов-ыя* | *насяком-ых* |
| Т. | *выхадн-ымі* | *рабоч-ымі* | *сталое-ымі* | *насяком-ымі* |
| М. | *(аб) выхадн-ых* | *рабоч-ых* | *сталое-ых* | *насяком-ых* |

# ПРЫМЕТНІК

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 194. Прыметнік — часціна мовы, якая абазначае прымету прадмета і выражае гэта значэнне ў марфалагічных катэгорыях роду, ліку і склону.

Да прыметніка як часціны мовы адносяцца самыя разнастайныя ў семантычных адносінах групы слоў, для якіх назва якасці або ўласцівасці з'яўляецца іх лексічным значэннем (*белы, вясёлы, горкі, дужы, мудры, просты, роўны, сіні, смелы, тоўсты, худы, цвёрды, ясны*). Да прыметнікаў адносяцца таксама некаторыя нязменныя запазычаныя словы, якія называюць прымету (*бардо, беж, дэкальтэ, максімум, мінімум, нета*); сваю прыналежнасць да прыметнікаў яны выяўляюць толькі сінтаксічна, у спалучэнні з назоўнікам (*колер беж, праграма-максімум, праграма-мінімум*).

Марфалагічныя катэгорыі роду, ліку і склону прыметніка выяўляюцца сінтаксічна і паўтараюць марфалагічныя значэнні катэгорый назоўнікаў, да якіх дапасуюцца прыметнікі і з якімі ўтвараюць азначальныя словазлучэнні.

Катэгорыя роду прыметніка ўказвае на тое, што прымета ўласціва прадмету (асобе або з'яве), які выражаны назоўнікам мужчынскага, жаночага або ніякага роду (*прыгожы хлопец, прыгожая дзяўчына, прыгожае дзіця*). Катэгорыя роду прадстаўлена радам форм мужчынскага, жаночага і ніякага роду.

Форма роду ў прыметніках можа выконваць семантычную функцыю, указваючы на пол асобы, у тых выпадках, калі прыметнікі спалучаюцца з назоўнікамі агульнага роду (*вялікі плакса і вялікая плакса, круглы сірата і круглая сірата*), з нескланяльнымі назоўнікамі (*вядомы і вядомая канферансье*) або ўжываюцца пры асабовых і зваротным займенніках (*ты вельмі малады, ты вельмі маладая*).

Заўвага. Форм усіх трох родаў не маюць тыя прыметнікі, якія абазначаюць прыметы або якасці, уласцівыя асобам жаночага полу або жывёлам-самкам. Гэтыя прыметнікі маюць толькі форму жаночага роду (*замужняя, цяжарная; паросная, цельная*).

Катэгорыя ліку прыметнікаў указвае на тое, што прымета ўласціва прадмету (асобе або з'яве), які выражаны назоўнікам у форме адзіночнага або множнага ліку (*добры сусед, добрыя суседзі*). Катэгорыя ліку прыметнікаў прадстаўлена склонавымі формамі адзіночнага (мужчынскага, жаночага і ніякага роду) і множнага ліку.

Катэгорыя склону прыметнікаў указвае на тое, што прымета ўласціва прадмету (асобе або з'яве), які выражаны назоўнікам у форме таго або іншага склону (*малады чалавек, маладога чалавека, маладому чалавеку, маладога чалавека, маладым чалавекам, аб маладым чалавеку*). Катэгорыя склону прыметнікаў прадстаўлена формамі шасці склонаў, кожная з якіх указвае на тое, што даная форма прыметніка з'яўляецца азначэннем да назоўніка ў адпаведным склоне.

У тым выпадку, калі прыметнік спалучаецца з нескланяльным назоўнікам, яго склонавыя формы выражаюць значэнні склонаў гэтага назоўніка (*не мець добрага паліто, купіць добрае паліто; узяць білет у асобнае купэ, ехаць у асобным купэ*).

Частка прыметнікаў мае марфалагічную катэгорыю ступені параўнання (*добры — лепшы, малады — маладзейшы*) і можа ўжывацца ў поўнай і кароткай форме (*чысты — чыст; гатовы — гатоў; рады — рад*).

У цеснай сувязі са значэннем прыметніка як часціны мовы знаходзіцца яго сінтаксічнае ўжыванне. У сказе прыметнік выконвае функцыю азначэння, дапасуючыся да назоўніка або субстантываваных часцін мовы ў родзе, ліку і склоне: *Наш край н а р а ч а н с к і, край с і н і х азёраў, ты сёння красой в е с н а в о ю цвіцеш, як наша радзіма* (М. Танк); *Чытай ды пахадзі па свеце і штосьці н о в а е скажы* (П. Броўка); *Абапіраючыся на с у к а в а т у ю палку, Янка Купала ідзе, быццам з пагулянкі,— с п а к о й н ы, м у д р ы, задаволены тым, што ўбачыў, пачуў ад людзей, тых людзей, у якіх ц у д о ў н а е сёння і яшчэ л е п ш а е заўтра* (Б. Сачанка).

Прыметнік можа выконваць таксама функцыю іменнага выказніка: *Надвор'е было ц у д о ў н а е, і хлопцы высыпалі на двор* (А. Карпюк); *Потым Алесь пазнаў таварыша і крыкнуў сам, таксама радасна:— Бутрым! Дык гэта ты?! Дык ты ж ы в ы?!* (Я. Брыль).

Характар прыметы і граматычныя асаблівасці прыметнікаў з'яўляюцца асновай для іх падзелу на два лексіка-граматычныя разрады — прыметнікі якасныя і адносныя.

### *Якасныя прыметнікі*

§ 195. Якасныя прыметнікі абазначаюць прыметы, якасці жывых істот, прадметаў, з'яў, якія могуць праяўляцца ў большай або меншай ступені: *разумны — разумнейшы, прыгожы — прыгажэйшы, малы — меншы.*

Якасныя прыметнікі называюць такія якасці і ўласцівасці, якія непасрэдна ўспрымаюцца органамі пачуццяў, прыметы па колеру, па фізічных уласцівасцях, прасторавыя і часавыя прыметы, якасці характару і разумовых здольнасцей: *жоўты, зялёны, светлы, цёмны; гарачы, горкі, гучны, кіслы, круглы, лёгкі, салодкі, халодны, цяжкі; вузкі, доўгі, кароткі, шырокі; глухі, добры, разумны, сляпы; важны, карысны, памяркоўны, шкодны.*

Абазначаючы якасць, што можа характарызавацца рознай ступенню інтэнсіўнасці, якасныя прыметнікі ўтвараюць формы вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання: *прыгажэйшы, найпрыгажэйшы, меншы, найменшы; больш (менш) лясісты, найбольш (найменш) лясісты, самы лясісты.*

Некаторыя якасныя прыметнікі маюць кароткую форму: *весел, гатоў, здароў, рад, повен.*

Якасныя прыметнікі характарызуюцца большай словаўтваральнай актыўнасцю, чым адносныя. Ад большасці якасных прыметнікаў утвараюцца другія якасныя прыметнікі, якія абазначаюць адценні і ступені якасці, што выяўляюцца ў прадмеце без параўнання з іншымі прадметамі (*беленькі, бялюткі, белаваты, бялявы, велічэзны, велізарны, страшэнны*), назоўнікі, якія абазначаюць абстрактныя паняцці (*весялосць, маладосць, смеласць, вастрыня, глыбіня, чысціня, нізіна, сівізна, чырвань*), і якасныя прыслоўі (*весела, добра, крута, хітра*).

Якасныя прыметнікі могуць мець як вытворную, так і невытворную аснову: *галасісты, гучны, працавіты, радасны; дужы, зялёны, малады, сіні.*

### *Адносныя прыметнікі*

§ 196. Адносныя прыметнікі абазначаюць прымету прадмета праз яго адносіны да другога прадмета або прыметы: адносіны прадмета да матэрыялу, з якога ён зроблены (*залаты гадзіннік, жалезны сундук*), да рэчыва, з якога ён складаецца (*пясчаная глеба, снежная гурба*), да часу існавання (*сучасны твор, леташні ўраджай, вячэрні змрок*), да месца знаходжання (*нарачанскія азёры, лясны край, полацкая нафта*), да прызначэння (*вучэбны корпус, піянерскі пакой*), да дзеяння (*лічыльная машына, драбільная ўстаноўка*) і інш.

Прымета, якую называюць адносныя прыметнікі, не можа праяўляцца ў большай або меншай ступені.

Адносныя прыметнікі маюць толькі вытворную аснову; яны ўтвораны ад розных часцін мовы: назоўнікаў (*бацькаў, верхні, летні, пясчаны, шкляны*), дзеясловаў (*вымяральны, лічыльны, навучальны, прывітальны, чытальны*), прыслоўяў (*сённяшні, учарашні, цяперашні*).

Сярод адносных выдзяляюцца прыметнікі, якія паказваюць на індывідуальную прыналежнасць прадмета асобе або жывой істоце (*бацькаў касцюм, матчына хустка, Аленчын ліст, Васеў гадзіннік, баброва хатка, ластаўчына гняздо*). Гэта — прыналежныя прыметнікі.

§ 197. Сэнсавыя адрозненні паміж якаснымі і адноснымі прыметнікамі не з'яўляюцца пастаяннымі: адносныя прыметнікі могуць набываць якасныя значэнні, захоўваючы пры гэтым сваё першаснае значэнне. Так, пры пераносным ужыванні названая адносным прыметнікам прымета пачынае абазначаць уласцівасць прадмета без яго адносін да другога прадмета, і адносны прыметнік набывае значэнне якаснага: *Ён да таго цынічны, гэты Гайдач, што бярэ ў залог срэбныя і залатыя рэчы* (З. Бядуля); *Па небе хмарка залатая на сівер з поўдзеня плыла і ўздых палёў, жаданкі гаю ў сабе хмурыначка нясла* (Я. Колас); *Шпак вартуе агароды і вішнёвы наш садок* (М. Чарот); *Як заўсёды, яна* [Ганна] *цярпела гэтае біццё моўчкі — толькі вішнёвыя вочы гарэлі ўпартым, нядобрым агнём* (І. Мележ); *Раней чым сабе, дзед накладваў мне ежу ў алавяную місачку* (З. Бядуля); *Цяжкія алавяныя хмары заваляклі даляглядз і сеюць-сеюць, як на частае сіта, дробны асенні дождж, хоць на двары яшчэ і не восень, а толькі ліпень, калі сама павінна быць гарачыня* (Р. Сабаленка).

### *Ступені параўнання якасных прыметнікаў*

§ 198. Пераважная большасць якасных прыметнікаў утварае формы вышэйшай і найвышэйшай ступеней параўнання.

Формы вышэйшай ступені параўнання якасных прыметнікаў паказваюць, што якасць уласціва данаму прадмету ў большай або меншай (у параўнанні з іншым прадметам) ступені: *Яны былі вельмі падобныя адна на адну, «канапляначка» і матка. У абедзвюх на тварах быў добры, лагодны выраз, толькі ў Хадоські ён быў больш ясны, чысцейшы. І давер'я было больш у яе вачах, і каса была гусцейшая* (І. Мележ); *Як цуд чужы вачэй ні цешыў, душа шаптала мне сама: ёсць край цяплейшы, багацейшы, але раднейшага няма* (Г. Бураўкін).

Формы найвышэйшай ступені параўнання якасных прыметнікаў паказваюць, што якасць уласціва данаму прадмету ў найбольшай або

найменшай (у параўнанні з іншым прадметам) ступені: *Усё праходзіць, быццам дождж няроўны,— і боль, і злосць, і дробная брыда, а застаецца важны і галоўны і самы светлы талент — дабрата* (С. Грахоўскі); *Маладосць — краса людзей, жыцця найлепшы час* (Я. Непачаловіч).

У залежнасці ад спосабу ўтварэння ў сучаснай беларускай мове адрозніваюцца простыя (сінтэтычныя) і складаныя (аналітычныя) формы ступеней параўнання прыметнікаў.

§ 199. Простыя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараюцца пры дапамозе суфікса *-ейш- (-эйш-)*, якія разам з канчаткам далучаецца да асновы прыметніка: *зялёны — зелянейшы, прыгожы — прыгажэйшы*. Пры гэтым назіраюцца такія фанетычныя змены, як чаргаванне зычных утваральнай асновы *г—ж, к—ч, х—ш, д—дз', т—ц'* (*дарагі — даражэйшы, горкі — гарчэйшы, ціхі — цішэйшы, малады — маладзейшы, густы — гусцейшы*) і выпадзенне суфіксаў *-к-, -ок-*, пры якім адбываецца чаргаванне цвёрдых і мяккіх зычных кораня, а таксама чаргаванне зычных *з—ж, с—ш* (*глыбокі — глыбейшы, рэдкі — радзейшы, салодкі — саладзейшы; блізкі — бліжэйшы, нізкі — ніжэйшы, высокі — вышэйшы*). Аднак у беларускай мове існуе значная група прыметнікаў, у якіх суфікс *-к-* не выпадае, а суфіксальны зычны *к* чаргуецца з *ч*: *звонкі — званчэйшы, мелкі — мяльчэйшы, шпаркі — шпарчэйшы, яркі — ярчэйшы*.

Некалькі прыметнікаў утвараюць простую форму вышэйшай ступені пры дапамозе суфікса *-ш-*, які далучаецца да суплетыўнай асновы (*вялікі — большы, добры — лепшы, дрэнны — горшы, малы — меншы*): *Цяпер дом будзе ўпісвацца ў межы горада, і горад пашырэе, стане большы на адзін дом* (Маладосць, 1970); *На свеце лепшага кутка няма, чым той куток, дзе маці нарадзіла* (Н. Гілевіч); *Хлопцы запэўнялі, што мая скрыпка не горшая за Багданаву, што іграе нават галасней і скакаць пад яе лягчэй: проста аж самі ногі ідуць* (А. Кулакоўскі); *Цяпер* [Кастусь] *адпрасіўся ў майстра і вось прыехаў паглядзець на меншага брата* (Полымя, 1971).

Ад прыметнікаў *малады* і *стары* пры абазначэнні ўзросту форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца пры дапамозе суфікса *-ейш- (-эйш-)*: *маладзейшы, старэйшы*; ужыванне форм *малодшы, старшы* з'яўляецца адхіленнем ад літаратурнай нормы: [Галіна] *азірнулася і ўгледзела юнака, нават маладзейшага за яе* (І. Пташнікаў); *Бутрым старэйшы за Алеся ажно на тры гады* (Я. Брыль).

Заўвага 1. Прыметнікі *малодшы, старшы* ў тэрміналагічных спалучэннях пры абазначэнні афіцыйных пасад і званняў не маюць значэння вышэйшай ступені параўнання (*малодшы сяржант, малодшы навуковы супрацоўнік, старшы лейтэнант, старшы рэдактар*).

Заўвага 2. Прыметнік *малодшы* ўжываецца ў значэнні 'больш позні паводле часу свайго з'яўлення' (*малодшы брат, малодшая сястра, малодшае пакаленне*); у процілеглым значэнні замацаваўся прыметнік *старэйшы* (*старэйшы брат, старэйшая сястра, старэйшае пакаленне*): *На поўначы, за полем, была суседняя, найбліжэйшая вёска, адкуль наша мама, дзе жыве яе малодшы брат, дзядзька Алесь* (Я. Брыль); *Старэйшы сын* [Яркіна], *Уладзік, загінуў пры спробе ўзарваць чыгуначны мост* (Я. Брыль). Абодва гэтыя прыметнікі ў даным выпадку не маюць значэння вышэйшай ступені параўнання.

Заўвага 3. Нязменныя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў з суфіксам *-ей (-эй, -ай)* не характэрны для сучаснай беларускай літаратурнай мовы; яны сустракаюцца пераважна ў творах мастацкай літаратуры: *А мы ў адзінстве ўсёй крывёю, мацней не знаем пачуцця — мы заўжды, партыя, з табою, і больш няма для нас жыцця!* (П. Броўка); *Быў ён* [чырвонаармеец] *высокага росту, але ніжэй за Чубара* (І. Чыгрынаў).

§ 200. Складаныя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараюцца шляхам спалучэння з прыметнікам прыслоўяў *больш (болей), менш (меней), куды больш (менш), яшчэ больш (менш): Баі на правабярэжжы Дняпра з кожным днём станавіліся ўсё больш моцнымі* (І. Мележ); *Багушэвіч куды больш будзённы за свайго папярэдніка* (І. Навуменка); *Другая думка з'явілася ў яго* [Баляслава], *менш важная* (К. Чорны).

У мастацкай літаратуры сустракаюцца складаныя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў, утвораныя шляхам спалучэння прыслоўя *куды* з простай формай вышэйшай ступені; такія ўтварэнні не выходзяць за межы нарматыўных: *Калі ты ўдала дзень пачнеш, прыйдзе радок прывабны, першы, ты сам па-новаму жывеш, здаецца дзень куды ярчэйшы* (П. Броўка); *І самі паравозы рабіліся куды прыгажэйшымі* (М. Лынькоў).

§ 201. Назвы прадметаў, у параўнанні з якімі вызначаецца ступень якасці, выражаюцца назоўнікам (займеннікам) у форме вінавальнага склону з прыназоўнікам *за: Стары адчуў, што ён мацнейшы за Коха* (І. Мележ); *Сястра настолькі старэйшая за мяне, што я прывык з маленства слухацца яе, амаль як маці* (Я. Брыль).

Пры формах вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў могуць ужывацца параўнальныя звароты са злучнікамі *чым, як: Зблізку паненка была прыгажэйшая, чым я сабе ўяўляў* (А. Карпюк); *Алесю яшчэ з таго часу, калі быў вучнем, здавалася, што ў свеце няма прыгажэйшага почырку, як у іхняга настаўніка* (П. Броўка).

Заўвага 1. Ужыванне пры формах вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў залежнага слова — назоўніка або займенніка — у форме роднага склону з прыназоўнікам *ад* або без прыназоўніка (*старэйшы ад яе, старэйшы яе*) з'яўляецца парушэннем літаратурнай нормы.

Заўвага 2. Прыметнікі з суфіксам *-ейш (-эйш)*, якія страцілі значэнне вышэйшай ступені параўнання або выражаюць безадносна высокую якасць прадмета, ужываюцца заўсёды без залежных слоў: *Да яго вярнуўся ранейшы настрой, і ён у гэты вечар канчаткова вырашыў пасватаць Алену* (Р. Сабаленка); *На Доўгіх парадзеў туман і пацягнуўся да лесу; сталі добра відаць стагі і кусты на сушэйшых месцах* (І. Пташнікаў).

§ 202. Простыя формы найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараюцца шляхам далучэння прыстаўкі *най-* да простых форм вышэйшай ступені параўнання: *Яго* [Чарняхоўскага] *нецярплівасць, якая расла дзень ада дня, па меры таго, як набліжалася наступленне, цяпер дайшла да сваёй найвышэйшай мяжы* (І. Мележ); *Кажуць, наймацнейшае каханне ў жанчын першае, а ў мужчын — апошняе* (У. Карпаў).

Ад прыметніка *вялікі* ўтвараюцца дзве формы найвышэйшай ступені параўнання: *найбольшы* і *найвялікшы*, прычым форма *найвялікшы* ўтвараецца шляхам далучэння прыстаўкі *най-* і суфікса *-ш-* да асновы прыметніка *вялікі* (формы *вялікшы* ў сучаснай беларускай мове няма). Ужыванне гэтых форм звязана са значэннем прыметніка *вялікі:* калі гэты прыметнік ужываецца са значэннем 'выдатны; геніяльны, таленавіты', форма найвышэйшай ступені параўнання — *найвялікшы;* калі ж гэты прыметнік ужываецца ў іншых значэннях, форма найвышэйшай ступені параўнання — *найбольшы: Далучэнне да Расіі было адной з найвялікшых прагрэсіўных падзей у гісторыі беларускага народа, хоць яно не прынесла яму ні сацыяльнага, ні нацыянальнага вызвалення* (Полымя, 1972); *Першаступеннае значэнне для беларускай літаратуры мела засваенне ёю прынцыпаў крытычнага рэалізму, які атрымаў сваё найбольшае развіццё ў рускай літаратуры* (Полымя, 1972).

Заўвага. У мове мастацкіх твораў зрэдку сустракаюцца прыклады ўтварэння простай формы найвышэйшай ступені параўнання шляхам далучэння прыстаўкі *най-* да якасных прыметнікаў без суфіксаў *-ейш-(-эйш-)*, *-ш-*: *Нібы з каўша ён* [паэт] *сыпле вершы, а ў іх адзіны толькі звон, што і наймудры, і найлепшы, і ўсім парадзіць — толькі ён* (П. Броўка).

§ 203. Складаныя формы найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў утвараюцца:

1. Шляхам спалучэння займенніка *самы* з якасным прыметнікам (або з простай формай вышэйшай або найвышэйшай ступеней параўнання прыметнікаў, калі трэба падкрэсліць асабліва значэнне найвышэйшай ступені якасці): *У парадак дня кожнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН Савецкі Саюз імкнецца ўключыць самыя важныя, самыя актуальныя праблемы, якія хвалююць чалавецтва* (Звязда, 1972); *І гэты ціхі, далікатны чалавек адзін з лепшых камандзіраў гармат. Думаю нават, што — самы лепшы ў батарэі* (І. Мележ); *Няхай жа вечна ў сэрцах б'юць крыніцы таго шчасця, што і ў самых найшчаслівейшых дапытае слёз!* (Н. Гілевіч).

Заўвага. Формы найвышэйшай ступені параўнання *самы стары і самы старэйшы* адрозніваюцца сэнсам, параўн.: *Корань лічыўся самым старым салдатам у роце* (В. Быкаў); *Ты ж цяпер самы старэйшы ў сям'і* (І. Мележ); *Самы старэйшы ў брыгадзе — Шырокі. Ён брыгадзір* (Маладосць, 1970).

2. Шляхам спалучэння прыслоўяў *найбольш, найменш* з якасным прыметнікам: *Тут было найбольш страшнае месца дарогі...* (Я. Колас); *Мабыць, найбольш гаваркі, вясёлы і спрытны на словы быў сёння Віктар* (М. Зарэцкі).

§ 204. Пры формах найвышэйшай ступені параўнання прыметнікаў залежныя назоўнікі (або займеннікі) ужываюцца ў формах роднага склону з прыназоўнікамі *з, сярод*, вінавальнага склону з прыназоўнікам *за* або меснага склону з прыназоўнікамі *на, у*: *Нас фашыстаў арда не зламала, не спаліў нас пякельны касцёр — ты* [Расія] *краіну маю ўратавала, найвярнейшая з верных сясцёр* (П. Панчанка); *Самых смелых сярод вас прасім слухаць гэты сказ* (В. Вітка); *У гэтай маўклівасці было адзінае для ўсіх іх пачуцце — ялікае і наймацнейшае за ўсё, што асталося цяпер у іх жыцці. Гэта была нянавісць...* (К. Чорны); *Яму хацелася хутчэй убачыць тое месца, якое здаецца наймілейшым на свеце* (А. Якімовіч); *Нам пройдзеных дарог не перамераць і нанава нікому не прайсці. Я іх прайшоў і навучыўся верыць у праўду, найвышэйшую ў жыцці* (С. Грахоўскі).

Заўвага. Не маюць пры сабе залежных назоўнікаў (або займеннікаў) прыметнікі ў форме найвышэйшай ступені параўнання, якія выражаюць безадносна самую высокую меру якасці: *Мы ў будучыню ідзём дарогай найяснейшай* (А. Звонак); *Нашы людзі, самыя адданыя салдаты партыі і самыя верныя сыны народа, прабіраліся ў варожы стан, каб дапамагчы Радзіме, каб мацней і надзейней рыхтавала яна перамогу* (М. Лужанін); *Ёсць нешта незвычайнае і невыказнае ў тым хваляванні, з якім ты набліжаешся да помнікаў народнай славы — да мясцін, звязаных з найбольш вядомымі, найбольш любімымі імёнамі* (Я. Брыль).

§ 205. Утварэнне форм ступеней параўнання не характарызуецца рэгулярнасцю і не з'яўляецца адметнай рысай усіх якасных прыметнікаў. У беларускай мове выдзяляецца група якасных прыметнікаў, утварэнне форм ступеней параўнання ад якіх абмяжоўваецца іх структурай або семантыкай.

Непаслядоўна ўтвараюць ступені параўнання суфіксальныя прыметнікі. Толькі складаныя формы ступеней параўнання маюць прыметнікі,

утвораныя ад дзеяслоўных асноў пры дапамозе суфікса *-л-* (*бывалы, вялы, заядлы, зразумелы, пажылы, хрыплы, чулы*); прыметнікі з суфіксамі дзеепрыметнікаў (*балючы, бліскучы, вядомы, дрыжачы, любімы*); прыметнікі, утвораныя ад іменных і дзеяслоўных асноў пры дапамозе суфіксаў *-н-, -льн-, -альн-, -яльн-, -ів-, -лів-* (*дымны, марозны, праліўны, слушны; максімальны, назіральны, натуральны, спрыяльны; абразлівы, дажджлівы, дакучлівы, клапатлівы, смяшлівы, урадлівы*); прыметнікі, утвораныя ад запазычаных назоўнікаў пры дапамозе суфікса *-ічн-* (*-ычн-*) (*арыстакратычны, гераічны, іранічны, камічны, рэалістычны, флегматычны, эластычны*); многія прыметнікі з суфіксамі *-ат-, -аст-, -іт-, -авіт-* (*віхрасты, махнаты, мурзаты, сярдзіты, таленавіты, хваравіты*); пераважная большасць прыметнікаў з суфіксам *-к-* (*гаваркі, гнуткі, колкі, ліпкі, слізкі*) і інш.

Не ўтвараюць форм ступеней параўнання некаторыя суфіксальныя прыметнікі (з суфіксам непаўнаты якасці *-ават-* (*-яват-*), з суфіксамі *-н-, -айн-* (*-ойн-*), *-ав-* (*-ов*) і інш.): *зеленаваты, белаваты, стараваты, законны, пераможны, вандроўны, каляровы, нізавы, радавы.*

Абмежавана ўтварэнне форм ступеней параўнання ад прыметнікаў з суфіксамі ацэнкі, складаных прыметнікаў, а таксама прыметнікаў, утвораных прэфіксальным і прэфіксальна-суфіксальным спосабам: прыметнікі гэтыя або ўтвараюць складаныя формы ступеней параўнання (*бездапаможны, бесклапотны, бязлітасны, неабсяжны, дзівосны, вялізны, маленькі, старэнькі, высакародны, паўнаводны, самабытны, старадаўні*), або зусім не ўтвараюць іх (*беспрабудны, няспынны, няўхільны, жоўценькі, паўнюткі, беланогі, кругалобы, лапавухі, светла-ружовы, цёмна-сіні, яснавокі*).

На здольнасць якасных прыметнікаў утвараць формы ступеней параўнання аказвае ўплыў і іх семантыка. Формы ступеней параўнання не ўтвараюць якасныя прыметнікі, якія называюць прыметы колькасна нязменныя, не здольныя праяўляцца ў большай або меншай ступені: *босы, глухі, голы, жанаты, жывы, замужняя, крывы, лысы, мёртвы, сляпы, халасты.*

Не ўтвараюць форм ступеней параўнання ўсе прыметнікі, якія абазначаюць масці жывёл (*буланы, вараны, гняды*), а таксама прыметнікі, якія абазначаюць колер прадметаў праз іх адносіны да іншых прадметаў (*бронзавы, васільковы, вішнёвы, кафейны, крэмавы, мышасты*).

§ 206. Некаторыя якасныя прыметнікі ўтвараюць формы, якія абазначаюць тую або іншую ступень якасці (высокую, нізкую або вельмі высокую, вельмі нізкую), што выяўляецца ў прадмеце без параўнання з іншымі прадметамі, а таксама формы, якія выражаюць непаўнату якасці.

Такія формы ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў з павелічальна-ўзмацняльным (*-ізн-, -ізман-, -ізарн-, -эзн-, -энн-* (*-енн-*), *-эрн-, -эразн-, -озн-*) або памяншальна-ласкальным (*-еньк-, -эньк-* (*-аньк-*), *-енечк-, -явеньк-, -аваценьк, -ічк-, -утк-* (*-ютк-*), *-усеньк-* (*-юсеньк-*), *-юпасеньк-*) значэннем, суфікса *-ават-* (*-яват-*), які выражае непаўнату якасці, а таксама шляхам паўтарэння слоў: *Вялі загадкавы гоман казачныя ў прадночным змроку* *в е л і з а р н ы я* *хвоі, яліны* (М. Лынькоў); *Мясціна была* *н і з к а в а т а я,* *па абодва бакі рос аер, пракідаліся лазовыя кусты* (М. Лобан); *Песня была нават трошкі* *с у м н а в а т а я,* *і гэты смутак нечым няўлоўным кранаў Лорыну душу* (Р. Сабаленка); *На* *ж о ў т а й-ж о ў т а й* *пожні, на* *ш э р а й-ш э р а й* *грэблі, на* *с і н я й-с і н я й* *руні, на* *ц ё м н а й-ц ё м н а й* *пушчы лёг* *б е л ы-б е л ы* *снег* (М. Танк).

§ 207. Апрача поўных форм, некаторыя якасныя прыметнікі маюць і асобыя кароткія формы. Поўная форма з'яўляецца асноўнай формай як найбольш часта ўжывальная: у сучаснай беларускай літаратурнай мове яна выконвае не толькі атрыбутыўную, але і прэдыкатыўную функцыю: *Н е м і г а т л і в а е, а г р о м н і с т а е вока месяца вісела над скутым цішынёй полем, над ч о р н ы м валам лесу, над б а р в о- в ы м гарызонтам* (А. Адамовіч); *А маладосць бывае толькі адна. І шчасце таму, у каго яна была ч ы с т а й, б а г а т а й, п р ы г о- ж а й. Аднак жа праўда і тое, што ш ч а с л і в ы і той, хто ў сталасці сваёй ад душы дапамагае жыць прыгожа маладым* (Я. Брыль).

Кароткія формы адрозніваюцца ад поўных сваёй сінтаксічнай функцыяй: яны выступаюць у сказе толькі ў ролі выказніка. Паралельна з кароткімі формамі ў ролі выказніка ўжываюцца і поўныя формы гэтых жа прыметнікаў, што сведчыць аб іх прадуктыўнасці: *У ляскаце гусеніц, у дужым лёце машын час плёўся на дзіва павольна, нібы г а- т о ў зусім спыніцца* (І. Мележ); *Выжлятнікаў пад злосную руку гато- вы быў накінуцца на Джвучку* (І. Пташнікаў); *Каспар маўчаў, але ва ўсім быў з г о д з е н з Лайзанам* (П. Броўка); *Алесь зразумеў, што яна* [Агнешка] *з г о д н а я з ім* (П. Броўка).

Кароткія формы прыметнікаў з'яўляюцца нескланяльнымі, яны змяняюцца толькі па родах і ліках. Кароткія формы прыметнікаў маюць наступныя канчаткі: у адзіночным ліку форма мужчынскага роду мае нулявы канчатак, жаночага і ніякага — канчатак *-а;* у множным ліку формы мужчынскага, жаночага і ніякага роду маюць канчатак *-ы (-і).*

Найбольш пашыранымі ў беларускай мове з'яўляюцца кароткія формы прыметнікаў жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку і таксама формы множнага ліку: *Мне ўсё д о р а г а тут, л ю б а, р о д н а, п р ы г о ж а — гэта поле ў душы, гэта неба ў вачах, і лясы, і кусты, і трысцё па-над Сожам, і ў пажарах бяроз лістападаўскі шлях* (П. Броўка); *Ночка-чараўніца! Як ты ц і х а, м і л а!* (Я. Колас).

Кароткія формы прыметнікаў мужчынскага роду ўжываюцца значна радзей, чым формы жаночага і ніякага роду: іх утварэнне абмежавана характарам канцавога зычнага асновы. Яны ўтвараюцца пераважна ад невытворных прыметнікаў, аснова якіх заканчваецца адным зычным *(гож, люб, міл),* і ад вытворных прыметнікаў з суфіксам *-к- (блізак, вузак, нізак).* Не ўтвараюць кароткай формы ў мужчынскім родзе прыметнікі, аснова якіх заканчваецца зычным *в* або на «зычны+н» (в ы к л ю ч э н н е: *гатовы — гатоў, здаровы — здароў, бедны — бедзен, відны — відзён, згодны — згодзен* і некаторыя іншыя).

Утварэнне кароткіх форм прыметнікаў абмежавана не толькі марфалагічнай структурай, але і лексічным значэннем асновы. У пераважнай большасці кароткія формы ўтвараюцца ад прыметнікаў, якія называюць знешнія прыметы і якасці асобы або фізічныя ўласцівасці, прасторавыя прыметы: *багат, бедзен, гож, міл, прыгож; горак, лёгак, свецел, цёмен, ясен; блізак, далёк, нізак, высок, вузак, шырок.* Кароткія формы прыметнікаў у адрозненне ад поўных абазначаюць прымету як якасны стан; гэта прымета звязваецца з пэўным часам і не з'яўляецца пастаяннай (параўн.: *я весел* і *я весёлы).*

Кароткія формы не з'яўляюцца прадуктыўнай катэгорыяй у сучаснай беларускай літаратурнай мове: іх утварэнне абмежавана лексічным значэннем і марфалагічнай структурай прыметнікаў; яны страцілі склонавыя формы; іх роля ў сказе абмежавана прэдыкатыўнай функцыяй. Прычым, у ролі выказніка кароткія формы прыметнікаў часцей

за ўсё ўжываюцца ў паэтычных творах, у фразеалагічных словазлучэннях, у прыказках і прымаўках: *О, як мне срэбны супакой зямлі маёй бясконца л ю б і д о р а г* (А. Зарыцкі); *Першыя громы! Сэрцу вы м і л ы, л ю б мне ваш смех паміж гор, м і л майму сэрцу гоман далёкі, водгук вясёлы і шум* (Я. Колас); *Кожны кулік на сваім балоце в я л і к. Той калгас б а г а т, у якім лад. Патуль пі ды еж, пакуль ты с в е ж. Дзе стары куст, там двор не п у с т. С л а в е н бубен за гарамі* (Ф. Янкоўскі).

З а ў в а г а. Ад кароткіх форм прыметнікаў трэба адрозніваць сцягнутыя, або ўсечаныя, формы, якія сустракаюцца ў паэтычных творах. Па-першае, сцягнутыя формы маюць не толькі якасныя, але і адносныя прыметнікі, па-другое, у сказе гэтыя формы выконваюць функцыю азначэння. Сцяжэнне канчаткаў поўных форм прыметнікаў назіраецца ў назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку жаночага і ніякага роду і ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку: *Не, няпраўда! Быць не можа, каб не грэла ц ё п л а сонца* (Я. Колас); *Пэўна, марыць аб каханні сэрца палкае д з я в о ч а* (Я. Колас); *А д з я в о ч у красу, нібы тую расу, піў цагляны падвал цёмнай ночы* (Я. Купала); *З плеч спадаюць яс косы, нібы сонца косы, і іскрацца, як на сонцы б р ы л ь я н ц і с т ы росы* (Я. Купала); *Так у цяжкай тэй рабоце траціць дні д з я в о ч ы* (Я. Купала).

## *С к л а н е н н е п р ы м е т н і к а ў*

§ 208. У сучаснай беларускай мове змяняюцца па склонах (г. зн. скланяюцца) толькі поўныя прыметнікі. Кожны прыметнік змяняецца па ліках (г. зн. утварае формы адзіночнага і множнага ліку), а ў адзіночным ліку — па родах (г. зн. утварае формы мужчынскага, ніякага і жаночага роду).

У адзіночным ліку склонавыя канчаткі прыметнікаў залежаць ад месца націску: адну групу складаюць прыметнікі з націскам на аснове (*новы, сіні*), другую — з націскам на канчатку (*малады, сухі*). На склонавыя канчаткі прыметнікаў аказвае ўплыў таксама характар канцавога зычнага асновы, таму выдзяляюцца тры разнавіднасці асноў прыметнікаў: 1) аснова на цвёрды зычны (*малады, новы*); 2) аснова на мяккі зычны (*сіні, вячэрні*); 3) аснова на зычныя *г, к, х* (*строгі, жорсткі, сухі*).

Прыметнікі мужчынскага і ніякага роду маюць аднолькавыя канчаткі ва ўсіх склонах, апрача назоўнага і вінавальнага.

У множным ліку склонавыя канчаткі прыметнікаў адрозніваюцца ў залежнасці ад характару канцавога зычнага асновы.

## Скланенне якасных і адносных прыметнікаў

### § 209. Узор скланення

### А с н о в а н а ц в ё р д ы з ы ч н ы

А д з і н о ч н ы л і к

| | Мужчынскі род | | Ніякі род | | Жаночы род | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *нов-ы* | *малад-ы* | *нов-ае* | *малад-ое* | *нов-ая* | *малад-ая* |
| Р. | | *нов-ага* | *малад-ога* | | *нов-ай (-ае)* | *малад-ой (-ое)* |
| Д. | | *нов-аму* | *малад-ому* | | *нов-ай* | *малад-ой* |
| В. | *нов-ы* і *нов-ага* | *малад-ы* і *малад-ога* | *нов-ае* | *малад-ое* | *нов-ую* | *малад-ую* |
| Т. | | *нов-ым* | *малад-ым* | | *нов-ай (-аю)* | *малад-ой (-ою)* |
| М. (аб) | | *нов-ым* | *малад-ым* | | *нов-ай* | *малад-ой* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *нов-ыя* | *малад-ыя* |
| Р. | *нов-ых* | *малад-ых* |
| Д. | *нов-ым* | *малад-ым* |
| В. | *нов-ыя*<br>і<br>*нов-ых* | *малад-ыя*<br>і<br>*малад-ых* |
| Т. | *нов-ымі* | *малад-ымі* |
| М. | (*аб*) *нов-ых* | *малад-ых* |

## Аснова на мяккі зычны

Адзіночны лік

| | Мужчынскі род | | Ніякі род | | Жаночы род | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Н. | *сін-і* | *вячэрн-і* | *сін-яе* | *вячэрн-яе* | *сін-яя* | *вячэрн-яя* |
| Р. | | *сін-яга* | *вячэрн-яга* | | *сін-яй* (*-яе*) | *вячэрн-яй* (*-яе*) |
| Д. | | *сін-яму* | *вячэрн-яму* | | *сін-яй* | *вячэрн-яй* |
| В. | *сін-і*<br>і<br>*сін-яга* | *вячэрн-і*<br>і<br>*вячэрн-яга* | *сін-яе* | *вячэрн-яе* | *сін-юю* | *вячэрн-юю* |
| Т. | | *сін-ім* | *вячэрн-ім* | | *сін-яй* (*-яю*) | *вячэрн-яй*(*-яю*) |
| М. | (*аб*) | *сін-ім* | *вячэрн-ім* | | *сін-яй* | *вячэрн-яй* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *сін-ія* | *вячэрн-ія* |
| Р. | *сін-іх* | *вячэрн-іх* |
| Д. | *сін-ім* | *вячэрн-ім* |
| В. | *сін-ія*<br>і<br>*сін-іх* | *вячэрн-ія*<br>і<br>*вячэрн-іх* |
| Т. | *сін-імі* | *вячэрн-імі* |
| М. | (*аб*) *сін-іх* | *вячэрн-іх* |

## Аснова на *г*, *к*, *х*

Адзіночны лік

| | Мужчынскі род | Ніякі род | Жаночы род |
|---|---|---|---|
| Н. | *строг-і*<br>*жорстк-і*<br>*сух-і* | *строг-ае*<br>*жорстк-ае*<br>*сух-ое* | *строг-ая*<br>*жорстк-ая*<br>*сух-ая* |
| Р. | *строг-ага*<br>*жорстк-ага*<br>*сух-ога* | | *строг-ай* (*-ае*)<br>*жорстк-ай* (*-ае*)<br>*сух-ой* (*-ое*) |
| Д. | *строг-аму*<br>*жорстк-аму*<br>*сух-ому* | | *строг-ай*<br>*жорстк-ай*<br>*сух-ой* |
| В. | *строг-і*<br>*жорстк-і*<br>*сух-і*<br>і<br>*строг-ага*<br>*жорстк-ага*<br>*сух-ога* | *строг-ае*<br>*жорстк-ае*<br>*сух-ое* | *строг-ую*<br>*жорстк-ую*<br>*сух-ую* |

| | | |
|---|---|---|
| Т. | *строг-ім* | *строг-ай (-аю)* |
| | *жорстк-ім* | *жорстк-ай (-аю)* |
| | *сух-ім* | *сух-ой (-ою)* |
| М. (*аб*) | *строг-ім* | *строг-ай* |
| | *жорстк-ім* | *жорстк-ай* |
| | *сух-ім* | *сух-ой* |

Множны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *строг-ія* | *жорстк-ія* | *сух-ія* |
| Р. | *строг-іх* | *жорстк-іх* | *сух-іх* |
| Д. | *строг-ім* | *жорстк-ім* | *сух-ім* |
| В. | *строг-ія* | *жорстк-ія* | *сух-ія* |
| | і | і | і |
| | *строг-іх* | *жорстк-іх* | *сух-іх* |
| Т. | *строг-імі* | *жорстк-імі* | *сух-імі* |
| М. (*аб*) | *строг-іх* | *жорстк-іх* | *сух-іх* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. У прыметніках з асновай на цвёрды зычны і на *г, к, х* у адзіночным ліку адрозніваюцца націскныя і ненаціскныя канчаткі ў наступных склонах: у прыметніках мужчынскага роду — у родным і давальным (*-ога, -ому* і *-ага, -аму*), ніякага роду — у назоўным, родным і давальным (*-ое, -ога, -ому* і *-ае, -ага, -аму*), жаночага роду — у родным, давальным, творным і месных склонах (*-ой (-ое), -ой, -ой (-ою), -ой* і *-ай (-ае), -ай, -ай (-аю), -ай*). Ва ўсіх астатніх склонах націскныя і ненаціскныя канчаткі не адрозніваюцца.

Прыметнікі з асновай на мяккі зычны маюць заўсёды толькі ненаціскныя канчаткі.

2. Формы вінавальнага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду і вінавальнага склону множнага ліку супадаюць з формамі назоўнага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду і назоўнага склону множнага ліку ў тых выпадках, калі прыметнік дапасуецца да неадушаўлёнага назоўніка, або з формамі роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага і ніякага роду і роднага склону множнага ліку ў тых выпадках, калі прыметнік дапасуецца да адушаўлёнага назоўніка.

3. Прыметнікі з асновай на *г, к, х* маюць канчаткі або як прыметнікі з асновай на цвёрды зычны: жаночага роду — ва ўсіх склонах, ніякага роду — у назоўным, родным і давальных склонах, мужчынскага роду — у родным і давальным склонах, або як прыметнікі з асновай на мяккі зычны мужчынскага роду — у назоўным, творным і месным склонах, ніякага роду — у творным і месным склонах.

4. У родным склоне адзіночнага ліку прыметнікі жаночага роду маюць варыянтныя канчаткі *-ай, -ой, -яй* і *-ае, -ое, -яе.* Канчаткі *-ай, -ой, -яй* лічацца асноўнымі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове; канчаткі *-ае, -ое, -яе* ўжываюцца ў мове мастацкіх твораў, дзе яны выконваюць пэўныя стылістычныя функцыі: *У мамы быў калісьці голас, была калісьці маладосць, і часта песня яе шла адтуль, ад маладое і бяздумнае радасці* (Я. Брыль); *На беразе Сожа, ля роднае хаты,— курган невысокі — магіла салдата* (П. Броўка); *Не трэба спяшацца нейкі валун на курган анямелы ўзваліць, покуль зямля стваральнае не кончыла працы* (М. Танк).

5. Усе прыметнікі жаночага роду ў творным склоне адзіночнага лі-

ку маюць таксама варыянтныя канчаткі *-ай, -ой, -яй* і *-аю, -ою, -яю.* Хоць канчаткі *-ай, -ой, -яй* больш пашыраны ў сучаснай беларускай літаратурнай мове, з'яўляюцца асноўнымі, канчаткі *-аю, -ою -яю* таксама ўжываюцца даволі часта, асабліва ў паэтычных творах: *Яна* [Ніна] *прыкмячала ўсё, што рабілася вакол, хоць збоку здавалася спакойнаю і нават бесклапотнаю* (І. Мележ); *Я ў гэту ноч ліпнёвую іду сцяжынкай вузкаю, сцяжынкаю жытнёваю, зямлёю беларускаю* (Н. Гілевіч).

## Скланенне прыналежных прыметнікаў

### § 210. Узор скланення

Адзіночны лік

| | Мужчынскі род | | Ніякі род | Жаночы род |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *дзядзькаў цётчын* | | *дзядзькав-а цётчын-а* | *дзядзькав-а цётчын-а* |
| Р. | | *дзядзькав-ага цётчын-ага* | | *дзядзькав-ай цётчын-ай* |
| Д. | | *дзядзькав-аму цётчын-аму* | | *дзядзькав-ай цётчын-ай* |
| В. | *дзядзькаў цётчын* | і *дзядзькав-ага цётчын-ага* | *дзядзькав-а цётчын-а* | *дзядзькав-у цётчын-у* |
| Т. | | *дзядзькав-ым цётчын-ым* | | *дзядзькав-ай цётчын-ай* |
| М. *(аб)* | | *дзядзькав-ым цётчын-ым* | | *дзядзькав-ай цётчын-ай* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *дзядзькав-ы* | *цётчын-ы* |
| Р. | *дзядзькав-ых* | *цётчын-ых* |
| Д. | *дзядзькав-ым* | *цётчын-ым* |
| В. | *дзядзькав-ы* і *дзядзькав-ых* | *цётчын-ы* *цётчын-ых* |
| Т. | *дзядзькав-ымі* | *цётчын-ымі* |
| М. *(аб)* | *дзядзькав-ых* | *цётчын-ых* |

Каментарыі да парадыгмы.

1. Прыналежныя прыметнікі ў сучаснай беларускай літаратурнай мове скланяюцца ў асноўным, як поўныя якасныя і адносныя прыметнікі з асновай на цвёрды зычны.

2. Прыметнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду ў назоўным склоне адзіночнага ліку маюць кароткую форму: у мужчынскім родзе — нулявы канчатак, у жаночым і ніякім родзе — канчатак *-а.*

3. У вінавальным склоне адзіночнага ліку прыметнікі жаночага роду заўсёды маюць кароткую форму (канчатак *-у*), а прыметнікі мужчынскага і ніякага роду маюць кароткую форму, якая супадае з формай назоўнага склону (адпаведна нулявы канчатак і канчатак *-а)* у тых выпадках, калі яны дапасуюцца да неадушаўлёных назоўнікаў.

4. У назоўным склоне множнага ліку (а таксама ў вінавальным,

калі прыналежныя прыметнікі дапасуюцца да неадушаўлёных назоўнікаў) яны таксама маюць кароткую форму (канчатак *-ы*).

5. Прыналежныя прыметнікі тыпу *чалавечы, мядзведжы, салаўіны, мурашыны*, якія абазначаюць групавую прыналежнасць, ва ўсіх склонах адзіночнага і множнага ліку маюць канчаткі поўных прыметнікаў (*салаўін-ы, салаўін-ага, салаўін-аму, салаўін-ы, салаўін-ым, (аб) салаўін-ым; салаўін-ыя, салаўін-ых, салаўін-ым, салаўін-ыя, салаўін-ымі, (аб) салаўін-ых*).

З а ў в а г а. У мове мастацкай літаратуры, а таксама ў размоўным стылі назіраюцца выпадкі ўжывання прыналежных прыметнікаў у назоўным і вінавальным склонах адзіночнага і множнага ліку з канчаткамі поўных прыметнікаў: у адзіночным ліку мужчынскага роду — з канчаткам *-ы (бацькавы касцюм)*, жаночага роду — з канчаткам *-ая* ў назоўным склоне і *-ую* ў вінавальным (*братавая хата, братавую хату*), ніякага роду — з канчаткам *-ае* (*бацькавае паліто*); у множным ліку — з канчаткам *-ыя* (*братавыя дзеці, бацькавыя парады*). Такія формы прыналежных прыметнікаў ва ўказаных склонах з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы.

# ЛІЧЭБНІК

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 211. Лічэбнік — часціна мовы, якая абазначае абстрактныя лікі, колькасць, сукупнасць ці парадак прадметаў пры лічэнні: *тры, сем, дзесяць, сорак; тры дубы, сем студэнтаў, дзесяць чалавек, сорак рублёў, двое сяброў, пяцёра дзяцей; дзве трэція плошчы, тры чацвёртыя адзінкі; першы клас, другі месяц, дваццаты дзень.*

Значэнне лічэбніка як часціны мовы ў наш час расшыраецца: да вядомых уласцівасцей лічэбніка абазначаць абстрактны лік *(два* плюс *пяць)*, колькасць *(шэсць урокаў)*, парадак размяшчэння пры лічэнні *(трэці дом, дом тры)* далучаецца новая ўласцівасць — выражаць якасна-адрознівальную прымету *(ТУ-104, Апалон-10, футбол-84)*.

У параўнанні з назоўнікамі і прыметнікамі лічэбнікі характарызуюцца большай абстрактнасцю значэння, здольнасцю выражаць чыстыя назвы колькасці і выступаць у натуральным радзе лікаў.

Лічэбнікі пераважна ўжываюцца з назвамі прадметаў, асоб, указваючы на дакладную іх колькасць ці пэўную частку: *у класе дваццаць восем вучняў, адна трэцяя частка вучняў — выдатнікі.* Са значэннем абстрактнага ліку лічэбнікі выкарыстоўваюцца ў матэматыцы: *тры + + сем = дзесяць, дзесяць дзеліцца на пяць і два без астатку.* Як чыстыя назвы колькасці яны маюць адпаведныя графічныя (лічбавыя) абазначэнні: $8+5=13$, $2<4$ у *2* разы.

Паводле структуры ўсе лічэбнікі дзеляцца на простыя, якія маюць адзін корань *(тры, чатыры, тысяча)*; складаныя, у якіх дзве асновы *(пяцьдзесят, дзевяноста, семсот)*; састаўныя, утвараныя спалучэннем простых ці складаных лічэбнікаў *(дваццаць пяць, трыста семдзесят, чатыры восьмыя, дзевяць цэлых і пяць дзесятых, тысяча дзевяцьсот восемдзесят чацвёрты)*.

У залежнасці ад значэння і граматычных прымет сярод лічэбнікаў выдзяляюцца:

а) колькасныя *(адзін, два, тры, пяць, дваццаць, некалькі, многа, мала, дзве сотыя, адна пятая)*;

б) зборныя *(двое, трое, чацвёра, пяцёра, шасцёра, сямёра, васьмёра, дзевяцера, дзесяцера)*;

в) парадкавыя *(першы, другі, чатырнаццаты, дваццаць шосты, тысяча дзевяцьсот сорак пяты)*.

Граматычныя прыметы лічэбніка як часціны мовы найбольш выразна праяўляюцца ў колькасных лічэбніках.

У марфалагічных адносінах лічэбнікі, якія абазначаюць абстрактны лік ці колькасць прадметаў: а) не маюць катэгорыі ліку, за выключэннем *адзін — адны, тысяча — тысячы, мільён — мільёны;* б) у большасці з іх адсутнічае катэгорыя роду, акрамя *адзін — адна — адно; два — дзве.*

Адсутнасць граматычнага значэння роду і ліку рэзка адрознівае лічэбнікі як ад назоўнікаў тыпу *пара, тройка, чацвёрка, пяток, дзесятак, сотня* і г. д., так і ад прыметнікаў.

Для лічэбнікаў, што абазначаюць парадак аднародных прадметаў пры лічэнні, характэрны марфалагічныя ўласцівасці прыметнікаў (катэгорыя роду, ліку і склону).

Лічэбнікі непаслядоўна абазначаюць адушаўлёнасць ці неадушаўлёнасць тых назоўнікаў, з якімі яны спалучаюцца. З колькасных лічэбнікаў на адушаўлёнасць указваюць толькі *адзін, два, тры, чатыры.*

У адносінах да катэгорыі склону (скланенне) усе лічэбнікі раздзяляюцца на скланяльныя і нескланяльныя. Не скланяюцца словы *мала, нямала* і *шмат,* усе астатнія лічэбнікі скланяюцца. Катэгорыя склону ў лічэбнікаў — гэта словазмяняльная марфалагічная катэгорыя, прадстаўленая шасцю радамі склонавых форм, якія па флексіях супадаюць са склонавымі формамі назоўнікаў ці прыметнікаў.

Змяняючыся па склонах, як і назоўнікі, лічэбнікі паводле тыпаў скланення ў многім адрозніваюцца ад іх. У сучаснай мове налічваецца больш дзесяці тыпаў скланення лічэбнікаў. У працэсе развіцця беларускай мовы наглядаецца тэндэнцыя да іх уніфікацыі. Так, ёсць падабенства ў скланенні лічэбнікаў *два, тры, чатыры; пяць — дзесяць; адзінаццаць — дваццаць; трыццаць; пяцьдзесят — восемдзесят.* У сучасным скланенні лічэбнікаў усё мацней адчуваецца імкненне супрацьпаставіць назоўны склон ускосным склонам (скланенне лічэбнікаў *сорак, сто;* кіраванне большай часткі лічэбнікаў назоўнікамі ў назоўным склоне і дапасаванне да іх ва ўскосных склонах і г. д.).

Цікавыя і прыватныя асаблівасці скланення лічэбнікаў. Так, лічэбнікі *адзін, адна, адно* скланяюцца, як займеннік *гэты.*

У сінтаксічных адносінах лічэбнікі, што абазначаюць пэўны лік:

а) спалучаюцца толькі з назоўнікамі: *Д в а ц ц а ц ь гарачых дзён мы смаглі ў паходзе ад спёкі* (М. Хведаровіч); *Нарэшце пісьмо прыйшло: як выявілася, нейкія с т о кіламетраў яно ішло п я ц ь дзён* (І. Шамякін); *Машыны спыніліся, і далей уніз пайшлі танкі — т р ы грукатлівыя сталёвыя аграмадзіны* (В. Быкаў);

б) у назоўным і вінавальным склонах разам з назоўнікамі ўтвараюць сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні, якія выконваюць у сказе функцыю дзейніка ці дапаўнення: *Д в а с н е г і р ы, д з в е к р о п е л ь к і з а р ы — на мокрую галінку вольхі ўпалі* (Н. Мацяш); *Сонца пазалаціла т р ы в я л і з н ы я д у б ы, што стаялі тут жа, на ўскрайку поля* (М. Лынькоў); *М і л ь ё н ы, м і л ь я р д ы х а л о д н ы х в я с ё л а к убралі снягоў абрусы* (Я. Колас);

в) не могуць азначацца прыметнікамі або займеннікамі, што звязана з адсутнасцю ў лічэбнікаў катэгорыі роду і ліку. Нельга сказаць *тая* ці *гэта пяць, другая* ці *другія пяць.* Праўда, можна сказаць *другія пяць рублёў,* але тут *другія* адносіцца не да *пяць,* а да колькасна-іменнага спалучэння *пяць рублёў.* Магчымасць самастойна спалучацца з прыметнікамі ці займеннікамі лічэбнікі набываюць толькі шляхам субстантывацыі, напрыклад: *Усіх т р а і х адправілі* (г. зн. людзей); *На сваіх на д в а і х* (г. зн. пяшком).

Колькасныя лічэбнікі ў сказе выступаюць у функцыі:

а) дзейніка (*П я ц ь не дзеліцца на два без астатку*);

б) выказніка (*Шэсць на восем — с о р а к в о с е м*);

в) дапаўнення (*З д з е с я ц і а д н а г о выберуць*);

г) акалічнасці (*Дамоў прыходжу ў с е м*).

Лічэбнікі, якія абазначаюць парадак прадметаў пры лічэнні, у сказе звычайна выконваюць функцыю азначэнняў: *Шпарка мчыцца цераз поле т р э ц і эскадрон* (П. Трус); *Была суровая восень д з е в я т н а ц ц а т а г а года* (П. Галавач); *Гэта быў с о р а к п е р ш ы палаючы год* (П. Панчанка).

Як правіла, лічэбнікі займаюць прэпазіцыйнае становішча ў адносінах да назоўнікаў (*сорак чалавек, трыццаць тон*). Іншы парадак слоў (*чалавек сорак, тон трыццаць*) змяняе сэнс словазлучэння: яно набывае значэнне прыблізнай колькасці.

Спецыфічнай асаблівасцю словаўтварэння ў сістэме лічэбнікаў з'яўляецца выкарыстанне вельмі абмежаванай колькасці невытворных асноў колькасных (усяго 16: *адзін, два, тры, чатыры, пяць, шэсць, сем, восем, дзевяць, дзесяць, паўтара, сорак, сто, тысяча, мільён, мільярд*) і парадкавых (*першы, другі*) лічэбнікаў, шляхам камбінацыі якіх можна выражаць усе неабходныя лікавыя велічыні.

Роля лічэбнікаў у агульнай сістэме словаўтварэння даволі абмежаваная. Ад асноў лічэбнікаў утвараюцца нешматлікія назоўнікі тыпу *двойня, тройня, траяк, тройка, чацвёрка, пятак, пяцёрка, пяцярня, шасцярня,* некаторыя складаныя назоўнікі і прыметнікі (*пяцітонка, дзесяцітонка, дзевяціпавярховы, сторублёвы*), невялікая група прыслоўяў (*двойчы, тройчы*).

Не ўсякае слова, што выражае колькасць, уваходзіць у разрад лічэбнікаў. Да лічэбнікаў адносяцца тыя словы, якія абазначаюць колькасць ці парадак і не маюць іншых значэнняў. Параўн., напрыклад, *пяць* і *пяцёрка, дзесяць* і *дзесятка, сто* і *сотня*. Першыя словы ў гэтых парах выражаюць толькі колькасць, другія таксама маюць значэнне колькасці, але значэнне колькасці ў іх ускладняецца наяўнасцю іншых значэнняў. Так, *«пяцёрка»* мае значэнні: 'адзнака паспяховасці' («выдатна»), 'група з пяці асоб', 'грашовы знак ці сума ў пяць рублёў', 'назва розных відаў транспарту, якія нумаруюцца лічбай 5'. Для слоў *пяцёрка, дзесятка, сотня* характэрны, як і для назоўнікаў, граматычныя прыметы роду (жаночы), ліку (*сотня — сотні*). Пры іх могуць быць дапасаваныя азначэнні (*яўная пяцёрка, цэлая сотня*). Такія назоўнікі называюцца лікавымі.

Адрозненне паміж лічэбнікамі і лікавымі назоўнікамі заключаецца ў наступным:

1) лічэбнікі могуць быць графічна абазначаны лічбамі: *дзесяць сшыткаў — 10 сшыткаў,* лікавыя назоўнікі — не (толькі: *дзесятак сшыткаў*);

2) лічэбнікі з'яўляюцца абстрактнымі паняццямі колькасці, лікавыя ж назоўнікі маюць чыста прадметнае значэнне. З лікавых назоўнікаў абстрактнае значэнне мае толькі *адзінка;*

3) лічэбнікі — адзіныя абазначэнні колькасці, лікавыя назоўнікі маюць неасноўнае, паралельнае абазначэнне адназначных лічэбнікаў: *пяць — пяцёрка, дзесяць — дзесятак;*

4) лічэбнікі ў адрозненне ад лікавых назоўнікаў могуць уваходзіць у структуру састаўнога лічэбніка.

## КОЛЬКАСНЫЯ ЛІЧЭБНІКІ

§ 212. К о л ь к а с н ы я лічэбнікі абазначаюць абстрактныя лікі, колькасць цэлых адзінак ці частак цэлага, указваюць на колькасць прадметаў пры лічэнні: *шэсць, дваццаць, сто, сем дзесятых, пяцьдзесят турыстаў, шмат начэй.* Гэта асноўная, найбольш тыповая група лічэбнікаў.

У адпаведнасці са значэннем і граматычнай спецыфікай колькасныя лічэбнікі раздзяляюцца на 3 падгрупы — пэўнаколькасныя, няпэўнаколькасныя і дробавыя лічэбнікі.

### *Пэўнакалькасныя лічэбнікі*

§ 213. Пэўнакалькасныя лічэбнікі абазначаюць колькасць пэўнага ліку цэлых адзінак ці аднародных прадметаў: *два, дзесяць, сто; пяць дамоў, сорак бібліятэк, мільён жыхароў.*

Паводле саставу пэўнакалькасныя лічэбнікі нешматлікія: іх асноўны лексічны фонд налічвае ўсяго 36 слоў. Гэта лічэбнікі ад 1 да 10 (дзесяць слоў), ад 11 да 19 (дзевяць слоў), дзесяткі — 20, 30 і г. д. да ста (восем слоў) і, нарэшце, сотні — ад 100 да 900 (9 слоў). Аднак шляхам розных спалучэнняў можна абазначыць вялікую колькасць лікаў і выразіць самыя разнастайныя колькасныя паняцці.

Паводле граматычных асаблівасцей сярод пэўнакалькасных лічэбнікаў вылучаюцца *адзін, два, тысяча, мільён, мільярд.* Лічэбнік *адзін* мае формы ўсіх трох родаў, якія залежаць ад роду назоўнікаў, што з ім спалучаюцца: *адзін год, адна вясна, адно лета.* Яму ўласцівы формы адзіночнага і множнага ліку: *адзін трактар, адны абцугі.* У якасці колькаснага паказчыка форма *адны* выступае толькі пры множналікавых (*адны сані, адны нажніцы*) і парных назоўніках (*адны боты,* г. зн. адна пара ботаў). Ва ўсіх астатніх выпадках *адны* набывае значэнне іншых часцін мовы.

Родавыя адрозненні мае і лічэбнік *два: два* — для мужчынскага і ніякага, *дзве* — для жаночага роду (*два сыны, два акны, дзве сяброўкі*). Лічэбнікі *два, дзве* захоўваюць родавыя адрозненні ва ўсіх склонах: *двух сыноў, дзвюх сябровак; двум сынам, дзвюм сяброўкам; двума сынамі, дзвюма сяброўкамі* і інш.

Своеасаблівасць лічэбнікаў *тысяча, мільён, мільярд* заключаецца ў тым, што яны як бы сумяшчаюць у сабе значэнні назоўнікаў і колькасных лічэбнікаў. Так, *тысяча, мільён, мільярд* маюць катэгорыі роду і ліку (*тысяча — тысячы, мільён — мільёны, мільярд — мільярды*); пры гэтых словах могуць быць азначэнні, якія дапасуюцца да іх у родзе, ліку і склоне (*кожная тысяча рублёў, увесь мільён*).

Аднак *тысяча, мільён, мільярд* — лічэбнікі.

Аб прыналежнасці іх да лічэбнікаў і адрозненні ад назоўнікаў тыпу *дзесятак, сотня* (і тым больш ад іншых назоўнікаў) сведчыць наступнае:

1. Узятыя асобна, *тысяча, мільён* і *мільярд* маюць чыста лікавае значэнне. З'яўляючыся лічэбнікамі, гэтыя словы графічна ідэнтычныя лічбам, што абазначаюць тую ж самую колькасць, і таму на пісьме свабодна могуць імі замяняцца: *тысяча кніг — 1000 кніг, мільён чалавек — 1 000 000 чалавек, мільярд рублёў — 1 000 000 000 рублёў.*

У лікавых жа назоўнікаў, калі яны ўжываюцца асобна ад назваў прадметаў, якія падвяргаюцца лічэнню, выразна выступае не лікавае, а прадметнае значэнне: *Учора ён растраціў апошнюю с о т н ю. Прыехалі на т р о й ц ы.*

Калі спалучэнні тыпу *дзесятак яек, сотня чалавек* перадаць у выглядзе *10 яек, 100 чалавек,* то іх трэба было б чытаць як *дзесяць яек, сто чалавек.* Спалучэнні ж тыпу *цэлы дзесятак яек* з дапамогай лічбаў увогуле нельга выразіць.

2. Словы *тысяча, мільён* і *мільярд* неабходныя ў сістэме абазначэння колькасці прадметаў і паняццяў, якія можна лічыць. Без іх састаўныя лічэбнікі для выражэння вялікай колькасці былі б зусім немагчымыя (*дзесяць мільярдаў трыста пяцьдзесят мільёнаў семсот пяць тысяч сорак тры кіламетры*).

У адрозненне ад лічэбнікаў *тысяча, мільён* і *мільярд* лікавыя назоўнікі (*тройка, сотня*) не ўваходзяць у састаў такіх спалучэнняў.

3. Словы *тысяча, мільён* і *мільярд* могуць азначаць з колькаснага боку любыя назоўнікі, якія з'яўляюцца назвамі прадметаў, здольных падвяргацца лічэнню: *тысяча транзістараў, тысяча рублёў, тысяча салдат, тысяча ракетаносцаў, тысяча трактароў* і г. д.

Лікавыя ж назоўнікі спалучаюцца толькі з пэўнымі словамі. Па сутнасці, лексічныя сувязі ў лікавых назоўнікаў фразеалагічна звязаныя (*тройка коней, дзесятак яек*).

4. *Тысяча, мільён, мільярд* у якасці лічэбнікаў выступаюць у мове як асноўныя і адзіныя назвы лікаў, у той час як нешматлікія назоўнікі заўсёды з'яўляюцца дадатковымі і неасноўнымі, яны суіснуюць побач з адпаведнымі лічэбнікамі (*сотня — сто, дзесятак — дзесяць, пяток — пяць*).

5. *Тысяча, мільён, мільярд,* як і ўсе астатнія пэўнаколькасныя лічэбнікі, маюць адпаведныя парадкавыя лічэбнікі, што не характэрна для лікавых назоўнікаў.

6. У адрозненне ад лікавых назоўнікаў словы *тысяча, мільён* і *мільярд* ніколі не азначаюцца якаснымі прыметнікамі.

7. Спалучаючыся з назоўнікамі, *тысяча, мільён, мільярд* утвараюць такое ж сінтаксічна непадзельнае колькасна-іменнае спалучэнне, як і астатнія лічэбнікі.

Такім чынам, колькасныя лічэбнікі *тысяча, мільён, мільярд* і іншыя абазначэнні вялікіх велічынь, захоўваючы фармальныя прыметы назоўнікаў (прыналежнасць да пэўнага роду, формы ліку, асаблівасці скланення), застаюцца ў сістэме лічэбнікаў, паколькі яны могуць служыць колькасным азначэннем любых прадметных назоўнікаў (*тысяча чалавек, мільён тон хлеба, мільярд рублёў*), маюць суадносныя парадкавыя лічэбнікі (*тысячны, мільённы, мільярдны*), выступаюць у натуральным радзе лікаў пры абазначэнні абстрактнай колькасці.

§ 214. Сінтаксічныя сувязі пэўнаколькасных лічэбнікаў з назоўнікамі неаднолькавыя.

Лічэбнік *адзін* дапасуецца да назоўнікаў у родзе, ліку і склоне: *адзін чалавек, адна жанчына, адно дзіця, адны лыжы; аднаму чалавеку, адной жанчыне, аднаму дзіцяці, адным лыжам.*

Пры лічэбніках *два (дзве), тры, чатыры* назоўнікі ўжываюцца ў форме назоўнага склону множнага ліку (*два сталы, дзве бярозы, тры дубы, чатыры будынкі*) і ў форме роднага склону адзіночнага ліку з націскам на канчатку (*дзве нагі, чатыры рукі*). Тып сінтаксічнай сувязі паміж лічэбнікамі *два (дзве), тры, чатыры* і назоўнікамі множнага ліку назоўнага склону — дапасаванне; у словазлучэннях гэтых лічэбнікаў з назоўнікамі адзіночнага ліку роднага склону — кіраванне. Ва ўскосных склонах лічэбнікі *два (дзве), тры, чатыры* дапасуюцца да назоўнікаў: *двух сталоў, чатырох будынкаў; двум сталам, чатыром будынкам; дзвюх рук, дзвюм рукам* і інш.

Усе астатнія лічэбнікі (*пяць, шэсць* і г. д.), за выключэннем састаўных, якія заканчваюцца на *адзін, два, тры, чатыры,* у назоўным і вінавальным склонах патрабуюць назоўнікаў у форме роднага склону множнага ліку: *пяць вагонаў, восем машын, дзесяць двароў, дваццаць пасёлкаў.* Тып сінтаксічнай сувязі паміж кампанентамі такіх словазлучэнняў — кіраванне. Колькасна-іменныя спалучэнні з назоўнікамі ў родным склоне множнага ліку ў сказе выступаюць як адзін член сказа: *Пяць мінула заснежаных зім, столькі сама і сонечных летаў* (Н. Гілевіч); *Птушкі ляцяць з выраю тысячы кіламетраў* (П. Хадкевіч); *Праз крокаў пяцьсот паўстала перад імі сцяна лесу* (К. Чорны).

Ва ўскосных склонах (акрамя вінавальнага) лічэбнікі, пачынаючы

з *пяці*, дапасуюцца да назоўнікаў: *пяці гарадоў, пяці гарадам, пяццю гарадамі, (аб) пяці гарадах; васьмі заводаў, васьмі заводам, васьмю заводамі, (аб) васьмі заводах.*

Лічэбнікі *тысяча, мільён, мільярд* заўсёды кіруюць родным склонам множнага ліку назоўнікаў, утвараючы з імі сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні ва ўсіх склонах: *мільён рублёў, мільёна рублёў, мільёну рублёў* і г. д.

У сучаснай літаратурнай мове, найчасцей у мове газет, пад уплывам прафесійнай мовы і часткова афіцыйна-дзелавой замацоўваецца ўжыванне лічэбнікаў, сінтаксічна слаба звязаных з назоўнікамі ці ўвогуле сінтаксічна ізаляваных, што сведчыць аб развіцці аналітызму ў сучаснай беларускай мове. Такое ўжыванне лічэбнікаў распаўсюджана сярод назваў марак розных машын і прыбораў *(ГАЗ-69, Салют-7)*, выставак *(ЭКСПО-82)*, пры абазначэнні тэмпературы *(+10, —4)*, нумароў дамоў *(праспект Партызанскі, 145)*, паштовых аддзяленняў *(Р-64)*, тэлефонаў *(45-60-54)*.

Прыметнікі ці іншыя атрыбутыўныя словы, якія адносяцца да колькасна-іменных спалучэнняў з лічэбнікамі *два (дзве), тры, чатыры*, выступаюць пераважна ў форме назоўнага склону: *Два ротныя камандзіры дапаўнялі застольную бяседу* (Я. Колас); *Дзве цёмныя постаці з'явіліся на вуліцы* (К. Чорны); *Нібы тры адвечныя вартаўніцы, шушукалася тройца зграбных стромкіх хвоек* (З. Бядуля); *Перад дзвярыма стала чатыры конныя паліцыянты на чале з пшадоўнікам* (П. Пестрак); *Першага верасня школьны званок паклікаў малых у тры новыя школы* (І. Мележ.)

Форму назоўнага склону множнага ліку звычайна маюць і субстантываваныя прыметнікі і дзеепрыметнікі ў спалучэннях з лічэбнікамі *два, тры, чатыры: Трапілі на вочы два забітыя, што ляжалі ля дзвярэй* (А. Кулакоўскі); *Соцкі і два дзесяцкія стаялі на дварэ, чакаючы начальства* (Я. Колас).

Калі ж колькасна-іменнае спалучэнне абазначае недакладны лік прадметаў або мае экспрэсіўнае ўзмацняльна-якаснае адценне, то атрыбутыўнае слова пры ім можа выступаць у форме роднага склону. У такіх выпадках яно займае прэпазіцыйнае становішча ў адносінах да колькасна-іменнага спалучэння: *Праз якіх тыдні два ты будзеш зусім спраўны* (К. Крапіва); *Сход зацягнуўся на цэлых тры гадзіны* (Ц. Гартны).

Форму роднага склону звычайна маюць і такія азначэнні, якія адносяцца да непадзельных колькасна-іменных спалучэнняў з іншымі лічэбнікамі, пачынаючы з *пяці: Праз якіх-небудзь пяць хвілін яны былі ўжо вялікімі сябрамі* (І. Мележ); *Маладая хвойка мела ўжо добрых гадоў дваццаць* (Я. Колас).

Постпазіцыйнае колькасна-іменнае спалучэнне ў сказах такога тыпу таксама абазначае прыблізную колькасць чаго-небудзь.

Калі ж колькасна-іменнае спалучэнне выражае дакладны лік, азначэнні пры ім ужываюцца, як правіла, у форме назоўна-вінавальнага склону: *Нягледзячы на свае дваццаць пяць гадоў, ён ужо зусім лысы* (З. Бядуля); *Верхнія шэсць «нумароў» спецыяльна для «інтэлігентных гасцей»* (З. Бядуля).

Пераважна ў гэтай жа форме выступаюць прыметнікі ці займеннікі пры сінтаксічна непадзельных колькасна-іменных спалучэннях з няпэўнаколькаснымі лічэбнікамі ў якасці састаўных кампанентаў: *Надзея расказвала ўсё шапаткам аб перажытым, убачаным апошнія некалькі дзён* (М. Лынькоў).

### *Няпэўнакалькасныя лічэбнікі*

§ 215. Няпэўнакалькасныя лічэбнікі, як падказвае назва, абазначаюць няпэўную колькасць. Да іх адносяцца: *некалькі, многа, нямнога, мала, колькі, столькі, гэтулькі, шмат.* Са значэннем, блізкім да слова *многа,* у гутарковай мове могуць ужывацца словы *безліч, процьма, поўна, багата* і інш.: *багата вішань, процьма грошай, безліч здарэнняў, поўна народу.*

Значэнне няпэўнакалькасных могуць набываць некаторыя пэўнакалькасныя лічэбнікі: *Я яму сто раз гаварыў адно і тое ж; У яе для адказу знойдзецца тысяча прычын.*

Падобна колькасным лічэбнікам *пяць* і вышэй, няпэўнакалькасныя лічэбнікі спалучаюцца з назоўнікамі ў родным склоне множнага ліку з тымі асаблівасцямі лексікалізацыі словазлучэнняў, якія ўласцівы лічэбнікам: *некалькі чалавек, некалькі вучняў,* параўн.: *пяць чалавек, дзесяць вучняў.* У назоўна-вінавальным склоне няпэўнакалькасныя лічэбнікі, як і пэўнакалькасныя, утвараюць разам з назоўнікамі сінтаксічна непадзельныя словазлучэнні: *Некалькі чалавек у парусінавых спяцоўках і форменных фуражках стаялі ля ўвахода* (Т. Хадкевіч); *Астап паспеў тут шапнуць Пілiпчыку некалькі слоў* (М. Лынькоў); *Наша з музаю вяселле шмат гадоў гуло-грымела* (Н. Гілевіч); *Зямля Беларусі! Тваімі шляхамі вярнулася ворагаў мала дамоў* (П. Броўка)); *Прасядзелі колькі часу ў насцярожанай цішыні* (І. Чыгрынаў); *Хутка прынеслі ўвесь багаж з-пад вываратня: дзесяць парашутаў, некалькі чамаданаў* (М. Лынькоў).

У спалучэннях з назоўнікамі ўскосных склонаў няпэўнакалькасныя лічэбнікі выступаюць у форме прыметнікаў, дапасаваных да назоўнікаў: *некальнім творам, некалькім супрацоўнікам, некалькімі творамі, некалькімі супрацоўнікамі* і інш.

Няпэўнакалькасныя лічэбнікі спалучаюцца з назвамі прадметаў, якія паддаюцца лічэнню *(столькі машын, некалькі вагонаў):* за выключэннем лічэбніка *некалькі,* яны могуць уступаць у сінтаксічную сувязь з абстрактнымі і рэчыўнымі назоўнікамі *(колькі радасці, столькі шчасця, гэтулькі хвалявання, многа непрыемнасцей, шмат хлеба, многа цукру).*

Выражаючы вельмі агульную і няпэўную колькасць, словы *некалькі, многа, нямнога* і падобныя з'яўляюцца лічэбнікамі ў тым выпадку, калі яны ўступаюць у сінтаксічную сувязь з назоўнікамі ў родным склоне. У спалучэннях з дзеясловамі гэтыя словы — прыслоўі: *мала ведаць, многа працаваць, столькі пісаць.*

### *Дробавыя лічэбнікі*

§ 216. У адрозненне ад пэўнакалькасных дробавыя лічэбнікі абазначаюць не цэлыя лікі, а дробавую частку адзінкі і змешаную колькасць: *адна шостая, тры цэлыя шэсць дзесятых, дзевяць і адна сотая.*

У сістэму дробавых абазначэнняў з мовы матэматыкі прыйшло таксама слова *нуль,* якое ўваходзіць у спалучэнні з дробавымі лічэбнікамі *(нуль цэлых і тры дзесятыя, нуль цэлых і сем сотых).*

Характэрнай асаблівасцю дробавых лічэбнікаў з'яўляецца іх здольнасць спалучацца не толькі з прадметнымі, але і з рэчыўнымі і зборнымі назоўнікамі, што не ўласціва іншым лічэбнікам: *дзве трэція насельніцтва, адна пятая даходаў.*

Паводле структуры дробавыя лічэбнікі састаўныя, у іх колькасць

частак (лічнік) выражаецца пэўнакалькасным, а назвы частак (назоўнік) — парадкавым лічэбнікам[1]. Лічэбнік *адна* дапасуецца да парадкавага лічэбніка жаночага роду *(адна пятая), два, тры, чатыры* дапасуюцца да парадкавых лічэбнікаў множнага ліку назоўнага склону: *дзве сёмыя, тры восьмыя, чатыры дзесятыя.* У назоўным склоне дробавых лічэбнікаў, якія ў лічніку маюць словы *два, тры, чатыры,* побач з формамі тыпу *тры шостыя* сустракаюцца і формы тыпу *тры шостых.*

Лічэбнікі ад *пяці* і вышэй у назоўным і вінавальным склонах кіруюць родным склонам множнага ліку парадкавых лічэбнікаў, а ў астатніх — дапасуюцца да іх: *пяць дзесятых, пяці дзесятым, пяццю дзесятымі, (аб) пяці дзесятых.*

Назоўнікі пры дробавых лічэбніках ставяцца ў родным склоне адзіночнага ці множнага ліку. Форма ліку назоўнікаў залежыць ад іх значэння. Заўсёды ў адзіночным ліку ўжываюцца зборныя і рэчыўныя назоўнікі: *адна чацвёртая кіслароду, дзве трэція масла, тры пятыя моладзі;* заўсёды ў множным ліку ставяцца множналікавыя назоўнікі: *адна другая драждэй, кансерваў.*

У форме адзіночнага ліку назоўнікі пры дробавых лічэбніках ужываюцца тады, калі ўказваецца на частку адзінкі, у множным — пры ўказанні на частку сукупнасці, мноства прадметаў: *дзве трэція кнігі* і *дзве трэція кніг, пяць шостых забудовы* і *пяць шостых забудоў.* Назвы адзінак вымярэння (*метр, працэнт, секунда* і інш.) пры дробавых лічэбніках ставяцца ў адзіночным ліку (*дзве трэція секунды, сем цэлых і пяць сотых кілаграма*). Тып сінтаксічнай сувязі паміж дробавымі лічэбнікамі і назоўнікамі — кіраванне.

Асобна стаяць сярод дробавых лічэбнікаў словы *пайтара, пайтары.* Па значэнню іх можна ахарактарызаваць як колькасна-дробавыя: яны абазначаюць колькасць, што складаецца з цэлага і яго палавіны.

Усе астатнія абазначэнні з падобнай семантыкай нагадваюць сабой свабоднае спалучэнне колькасных лічэбнікаў з дробавымі пры дапамозе слова *цэлых* (*сем і восем дзесятых мінуты, пяць і тры чацвёртыя вядра* ці *сем цэлых восем дзесятых мінуты, пяць цэлых тры чацвёртыя вядра*).

Лічэбнік *пайтара (пайтары)* для абазначэння колькасці можа ўжывацца толькі пры назоўніках, што служаць назвай прадметаў, якія можна адначасова лічыць як у цэлых, так і дробавых адзінках. Гэта правіла парушаецца ў каламбурным фразеалагічным звароце *пайтара чалавека.*

Лічэбнік *пайтара* мае родавыя адрозненні ў назоўным і вінавальным склонах — *пайтара, пайтары* — і спалучаецца з формай роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў па спосабу кіравання. *Пайтара* кіруе назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду, *пайтары* — жаночага: *пайтара кілаграма, пайтара вядра, пайтары тоны, пайтары гадзіны.*

Састаўному пэўнаколькаснаму лічэбніку *сто пяцьдзесят* сінанімічны складаны па структуры дробавы лічэбнік *пайтараста,* які не мае граматычных катэгорый роду і ліку: П ы т л я в а н ы. *Што ў гэтым каравai, я ўжо і сам не знаю: сямі палёў пшанічка, сямі крыніц вадзічка, дзесяці карой масла ды яец п а й т а р а с т а* (К. Крапіва); П е р а г у д. *Ад таго месца, дзе ты застанешся, да нямецкага бліндa-*

---

[1] Значэнне субстантываваных парадкавых лічэбнікаў у саставе дробавых спецыфічнае: *трэцяя, сотая, пятая, дзесятая* ў спалучэннях тыпу *адна трэцяя, дзве сотыя, тры пятыя, адна дзесятая* не маюць у сваім значэнні адцення парадкавасці — яны абазначаюць адпаведна толькі трэцюю, сотую, пятую, дзесятую і г. д. частку цэлага (параўн. чыста парадкавае значэнне лічэбнікаў у спалучэннях *трэцяе дзіця, соты гектар, пяты клас*).

*жа метраў* п *а ў т а р а с т а* (К. Крапіва); *На буланцы сядзіць Янка, П а ў т а р а с т а рублёў санкі...* (З. Бядуля)

Слова *пайтараста* ўжываецца з назоўнікамі ўсіх трох родаў у форме роднага склону множнага ліку (*пайтараста рублёў, пайтараста хат, пайтараста дрэў*).

Лічэбнікі, што абазначаюць цэлыя і дробавыя лікі, шырока выкарыстоўваюцца ў навуковым, афіцыйна-дзелавым стылях. Няпэўнакольkасныя лічэбнікі ў асноўным характэрны для мастацкага, публіцыстычнага і размоўнага стыляў.

## ЗБОРНЫЯ ЛІЧЭБНІКІ

§ 217. З б о р н ы я лічэбнікі *двое, трое, чацвёра, пяцёра, шасцёра, сямёра, васьмёра, дзевяцера, дзесяцера* абазначаюць пэўную колькасць прадметаў як сукупнасць, як адно цэлае: *Д в о е ці т р о е сяброў, шчырасць павольнай размовы, вецер з лугоў і бароў, сіні дымок сасновы* (П. Панчанка); *Пераезд сціх. За лініяй чыгункі ў траншэі стаілася яго ч а ц в ё р а абаронцаў* (В. Быкаў); *Атрымалі мы в а с ь м ё р а коней з воінскай часці* (К. Крапіва).

Лічэбнікі, утвораныя ад слоў звыш *дзесяці*, сустракаюцца рэдка.

Зборныя лічэбнікі не маюць роду і ліку. Сваёй сінтаксічнай сувяззю з назоўнікамі яны не адрозніваюцца ад большасці пэўнакольkасных лічэбнікаў: у назоўным і вінавальным склонах кіруюць родным склонам множнага ліку назоўнікаў (*двое дзвярэй, трое дзяцей*), а ў астатніх склонах дапасуюцца да іх (*дваіх дзвярэй, траіх дзяцей, дваім дзвярам, траім дзецям* і інш.).

Выдзяленне зборных лічэбнікаў у асобную групу праводзіцца не толькі па прынцыпу своеасаблівасці іх марфалагічных прымет: адсутнасць катэгорыі роду і ліку, адрозненне паміж формамі назоўнага і ўскосных склонаў і г. д. Паводле значэння гэтыя лічэбнікі больш прадметныя, чым колькасныя, у выніку чаго яны лёгка субстантывуюцца (*С я м ё р а аднаго не чакаюць; Іх было т р о е*).

Ад колькасных лічэбнікаў зборныя адрозніваюцца і асаблівасцямі ўжывання. Яны спалучаюцца з больш абмежаванай колькасцю імён і выступаюць у адных выпадках як варыянты спалучэнняў колькасных лічэбнікаў з назоўнікамі, у іншых — як адзіны колькасны паказчык.

Як паралельныя колькасным зборныя лічэбнікі ўжываюцца:

а) з назвамі асоб мужчынскага полу (*двое студэнтаў — два студэнты, чацвёра сяброў — чатыры сябры*);

б) з назвамі маладых істот (*двое цялятак — два цялятkі, трое ягнятак — тры ягняткі*);

в) з множналікавымі назоўнікамі (*пяцёра сутак — пяць сутак*)[2], за выключэннем лічэбнікаў *двое, трое, чацвёра*, дзе паралельная форма з колькасным лічэбнікам у назоўным склоне немагчыма;

г) з субстантываванымі прыметнікамі (*двое ваенных — два ваенных, трое штацкіх — тры штацкіх*).

Зборныя лічэбнікі ўжываюцца пры лічэнні прадметаў парамі, пры ўказанні ж на адзінкавыя прадметы выкарыстоўваюцца колькасныя

---

[2] Паколькі няма састаўных зборных лічэбнікаў, такія спалучэнні як *семдзесят трое сутак, сто сорак трое нажніц* не адпавядаюць нормам літаратурнай мовы. Для таго каб перадаць змест гэтых спалучэнняў, робяць сінанімічныя замены, напрыклад: *Абарона горада працягвалася восемдзесят два дні* (замест *сутак*), ужываюць звароты *на працягу, у колькасці (на працягу сямідзесяці сутак, прададзены санкі ў колькасці пяцісот сарака трох)*, ці, калі дазваляе кантэкст, дадаюць слова *штука* (*прададзена пяцьсот сорак тры штукі санак*).

лічэбнікі (*трое чаравікаў*, але *тры чаравікі; чацвёра ботаў*, але *чатыры пары ботаў, чатыры боты*).

Зборныя лічэбнікі не суадносяцца з колькаснымі ва ўжыванні пры назоўніках *дзеці, людзі (двое дзяцей, трое людзей)*.

Толькі зборныя лічэбнікі ўжываюцца з асабовымі займеннікамі (*Нас было сямёра; Напісалі нам двaім*).

Да зборных адносяцца таксама лічэбнікі *абодва* (мужчынскага і ніякага роду), *абедзве* (жаночага роду): *абодва сыны, абедзве дачкі*. Паводле семантыкі гэтыя словы бліжэй да займеннікаў, чым да лічэбнікаў, таму што абазначаюць 'і той і гэты', 'і тое і гэта', 'і тая і гэтая'. Акрамя семантыкі, ад зборных лічэбнікаў іх адрознівае: наяўнасць родавых форм ва ўсіх склонах; здольнасць спалучацца з назоўнікамі ўсіх трох родаў; немагчымасць уступаць у сінтаксічную сувязь з множналікавымі назоўнікамі.

Такім чынам, *абодва, абедзве* маюць змешаны займеннікава-колькасны характар. І тым не менш іх нельга выключаць з саставу лічэбнікаў.

Для абазначэння асоб і мужчынскага, і жаночага полу ўжываецца зборны лічэбнік *абое*: *Сымон бярэ яе за руку і абое нікнуць у цемры* (Я. Купала); *Не лёгкі шлях прайшлі абое* [Марына і Даніла] (Я. Колас).

Сфера выкарыстання зборных лічэбнікаў — пераважна мастацкі, публіцыстычны і размоўны стылі.

## ПАРАДКАВЫЯ ЛІЧЭБНІКІ

§ 218. Парадкавыя лічэбнікі абазначаюць парадак аднародных прадметаў пры лічэнні: *Дваццаць чацвёрты год я чытаю Панчанку, упарта лічу, што ён усё яшчэ як след не ацэнены і ў нас, і за межамі Беларусі* (Я. Брыль); *Улетку сорак першага ён зноў наведаўся б дамоў, але грымнула вайна, і ў першы ж дзень яе Аляксей пайшоў на фронт* (Т. Хадкевіч); *Кароткая стрэча на сотай вярсце* (А. Куляшоў).

Як прыметнікі, парадкавыя лічэбнікі маюць катэгорыю роду, ліку, склону і дапасуюцца да назоўнікаў: *чацвёрты дзень, чацвёртае акно, чацвёртая школа, сёмы клас, сёмыя класы, сёмых класаў*. У парадкавых лічэбнікаў і прыметнікаў адзіная сістэма скланення (*другога — новага, другому — новаму, другім — новым* і інш.). Парадкавыя лічэбнікі могуць набываць якаснае значэнне, звычайна ў фразеалагізмах (*іграць першую скрыпку, на другім плане, у трэція рукі, дзесятая вада на кісялі*).

Аднак у карысць іх прыналежнасці да лічэбнікаў, а не да прыметнікаў сведчаць наступныя факты:

1. Усе яны семантычна звязаны з колькаснымі лічэбнікамі: захоўваюць выразнае значэнне парадку размяшчэння прадметаў пры лічэнні. Блізкасць да колькасных лічэбнікаў у парадкавых асабліва відавочная пры ўжыванні іх у якасці элемента састаўных лічэбнікаў (*на семдзесят шостым годзе жыцця, у тысяча дзевяцьсот восемдзесят другім годзе*). Калі пры лічэнні прадметаў ад 1 да 20 парадкавыя лічэбнікі ва ўжыванні не адрозніваюцца ад прыметнікаў, то пры далейшым лічэнні яны аказваюцца звязанымі з колькаснымі лічэбнікамі. Напрыклад, у спалучэннях *сорак першы год, дзвесце сорак сёмая старонка, трыста дваццаць пяты дзень* парадкавае значэнне выражаецца толькі апошнім лічэбнікам, паколькі ўсе астатнія словы маюць форму колькасных лічэбнікаў.

2. Парадкавыя лічэбнікі, як і колькасныя, спалучаюцца толькі з канкрэтнымі назоўнікамі: *першы пункт, другі горад, дваццаты аўтобус,* у той час як прыметнікі могуць азначаць любы назоўнік, у тым ліку і абстрактны (*вядомы вучоны, цудоўны чалавек, шчаслівае жыццё, прыемная размова*). У спалучэнні з абстрактнымі назоўнікамі лічэбнікі *першы, другі, трэці* могуць набываць значэнне якасных прыметнікаў (*першы, другі сорт, першае каханне*).

3. У адрозненне ад прыметнікаў парадкавыя лічэбнікі, як і колькасныя, маюць графічныя (лічбамі) абазначэнні: *1984 год, 10-ы клас.*

4. Састаўныя парадкавыя лічэбнікі паводле структуры рэзка адрозніваюцца ад прыметнікаў. Яны нагадваюць сабой рад не звязаных паміж сабой назваў і пішуцца асобна; складаныя ж прыметнікі, у тым ліку і ўтвораныя ад састаўных лічэбнікаў, пішуцца злітна (*стомільённы трактар, сямідзесяціпяцігадовы юбілей*).

Стылістычнай асаблівасцю парадкавых лічэбнікаў з'яўляецца функцыяніраванне іх у саставе дробавых у навуковым, афіцыйна-дзелавым стылях. З якасна-парадкавым ці якасным значэннем парадкавыя лічэбнікі шырока ўжываюцца ў размоўным, мастацкім і публіцыстычным стылях. Шматлікія семантыка-стылістычныя і экспрэсіўна-эмацыянальныя адценні маюць лічэбнікі *першы, першая, першае.*

## Скланенне лічэбнікаў

§ 219. Паводле асаблівасцей скланення выдзяляецца некалькі груп лічэбнікаў. Гэтыя групы найбольш разнастайныя сярод простых колькасных лічэбнікаў.

1. Лічэбнікі *адзін, адна, адно* скланяюцца, як поўныя прыметнікі з асновай на *г, к, х* тыпу *ціхі* або як займеннікі *гэты, гэта,* і толькі ў назоўна-вінавальным склоне маюць нячленную (іменную) форму. Лічэбнік *адны* скланяецца, як прыметнікі ў множным ліку.

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | Мужчынскі род | Ніякі род | Жаночы род | |
| Н. | *адзін* | *адно* | *адна* | *адны* |
| Р. | *аднаго* | | *адной(-ае)* | *адных* |
| Д. | *аднаму* | | *адной* | *адным* |
| В. | як Н. або Р. | | *адну* | як Н. обо Р. |
| Т. | *адным* | | *адной(-ою)* | *аднымі* |
| М. | *(аб) адным* | | *адной* | *адных* |

У лічэбніках *адзін, адно* націск ва ўскосных склонах падае на апошні склад.

Лічэбнік *адна* ў родным і творным склонах мае дзве варыянтныя формы — *адной, аднае; адной, адною.*

2. Лічэбнікі *два (дзве), тры, чатыры* ў родным, давальным і месным склонах маюць канчаткі, падобныя на канчаткі прыметнікаў множнага ліку, але адрозныя ад апошніх галоснымі гукамі *у, о.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *два* | *дзве* | *тры* | *чатыры* |
| Р. | *двух* | *дзвюх* | *трох* | *чатырох* |
| Д. | *двум* | *дзвюм* | *тром* | *чатыром* |
| В. | як Н. або Р. | | | |
| Т. | *двума* | *дзвюма* | *трыма* | *чатырма* |
| М. | *(аб) двух* | *дзвюх* | *трох* | *чатырох* |

У творным склоне гэтых лічэбнікаў захавалася форма парнага ліку.

Форма вінавальнага склону лічэбнікаў *два (дзве), тры, чатыры* залежыць ад таго, дапасуюцца яны да адушаўлёных ці неадушаўлёных назоўнікаў: *бачу тры машыны,* а л е *бачу трох студэнтак; купіў чатыры хусткі,* а л е *купіў чатырох парасят.*

Аднак у сучаснай мове допускаюцца выключэнні з агульнага правіла спалучэння лічэбнікаў *два, тры, чатыры* з назоўнікамі ў вінавальным склоне:

а) калі яны ўжываюцца пры назоўніках, што абазначаюць назвы жывёл (*Саўгас мае с т о д з в е к а р о в ы; Злавілі ч а т ы р ы р ы б к і*);

б) пры асабовых назоўніках, пераважна ў састаўных лічэбніках (*Інстытут прыняў с т о ч а т ы р ы а б і т у р ы е н т ы*);

в) пры назоўніку *«істота»* (*Дзеці з цікавасцю разглядалі т р ы жывыя і с т о т ы*).

3. Простыя лічэбнікі *пяць — дзесяць* і складаныя *адзінаццаць — дваццаць, трыццаць* скланяюцца, як назоўнікі трэцяга скланення (*сенажаць*).

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *восем* | *шаснаццаць* |
| Р. | *васьмі* | *шаснаццаці* |
| Д. | *васьмі* | *шаснаццаці* |
| В. | *восем* | *шаснаццаць* |
| Т. | *васьмю* | *шаснаццаццю* |
| М. | *(аб) васьмі* | *шаснаццаці* |

У форме творнага склону гэтых лічэбнікаў гук *ц* у інтэрвакальным становішчы падаўжаецца: *дваццаццю, трыццаццю, васемнаццаццю,* а л е *шасцю.*

У лічэбніках *адзіна́ццаць — дзевятна́ццаць* ва ўсіх склонах націск падае на склад *на.* Астатнія лічэбнікі гэтай групы ва ўскосных склонах маюць націск на канчатку.

4. Лічэбнікі *сорак, сто* пры скланенні маюць толькі дзве формы: для назоўнага і вінавальнага — *сорак, сто,* для астатніх склонаў — *сарака, ста.* Лічэбнік *дзевяноста* захоўвае сваю зыходную форму ва ўсіх склонах.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *сорак* | *дзевяноста* | *сто* |
| Р. | *сарака* | *дзевяноста* | *ста* |
| Д. | *сарака* | *дзевяноста* | *ста* |
| В. | *сорак* | *дзевяноста* | *сто* |
| Т. | *сарака* | *дзевяноста* | *ста* |
| М. | *(аб) сарака* | *дзевяноста* | *ста* |

5. Лічэбнікі *мільён, мільярд* скланяюцца, як назоўнікі 1-га скланення (*дом*); *тысяча* — як назоўнікі 2-га скланення (*задача*).

Адзіночны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *тысяча* | *мільён* | *мільярд* |
| Р. | *тысячы* | *мільёна* | *мільярда* |
| Д. | *тысячы* | *мільёну* | *мільярду* |
| В. | *тысячу* | *мільён* | *мільярд* |
| Т. | *тысячай (тысяччу)* | *мільёнам* | *мільярдам* |
| М. | *(аб) тысячы* | *мільёне* | *мільярдзе* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| Н. *тысячы* | *мільёны* | *мільярды* |
| Р. *тысяч* | *мільёнаў* | *мільярдаў* |
| Д. *тысячам* | *мільёнам* | *мільярдам* |
| В. *тысячы* | *мільёны* | *мільярды* |
| Т. *тысячамі* | *мільёнамі* | *мільярдамі* |
| М. *(аб) тысячах* | *мільёнах* | *мільярдах* |

Лічэбнік *тысяча* ў творным склоне мае варыянтныя формы — *тысячай* і *тысяччу*.

6. У складаных лічэбніках ад *пяцідзесяці* да *васьмідзесяці* пры скланенні змяняюцца абедзве часткі.

| | |
|---|---|
| Н. *пяцьдзесят* | *восемдзесят* |
| Р. *пяцідзесяці* | *васьмідзесяці* |
| Д. *пяцідзесяці* | *васьмідзесяці* |
| В. *пяцьдзесят* | *восемдзесят* |
| Т. *пяццюдзесяццю* | *васьмюдзесяццю* |
| М. *(аб) пяцідзесяці* | *васьмідзесяці* |

Ва ўскосных склонах (акрамя вінавальнага) націск у гэтых лічэбніках падае на канчатак першай часткі: *шасцідзесяці, сямюдзесяццю.*

Абедзве часткі змяняюцца і ў складаных лічэбніках ад *двухсот* да *дзевяцісот*.

| | |
|---|---|
| Н. *дзвесце* | *семсот* |
| Р. *двухсот* | *сямісот* |
| Д. *двумстам* | *сямістам* |
| В. *дзвесце* | *семсот* |
| Т. *двумастамі* | *сямюстамі* |
| М. *(аб) двухстах* | *сямістах* |

У лічэбніках *дзвесце — дзевяцьсот* ва ўскосных склонах націск падае на другую частку: *трохсóт, чатыромстáм, пяццюстáмі, (аб) васьмістáх.*

7. Пры скланенні састаўных лічэбнікаў кожнае слова змяняецца так, як адпаведны просты лічэбнік.

Н. *сто дваццаць пяць*
Р. *ста дваццаці пяці*
Д. *ста дваццаці пяці*
В. *сто дваццаць пяць*
Т. *ста дваццаццю пяццю*
М. *(аб) ста дваццаці пяці*

8. Няпэўнаколькасныя лічэбнікі *колькі, некалькі, столькі, гэтулькі* скланяюцца, як прыметнікі ў множным ліку.

| | |
|---|---|
| Н. *некалькі* | *столькі* |
| Р. *некалькіх* | *стлолькіх* |
| Д. *некалькім* | *стольк ім* |
| В. як Н. або Р. | |
| Т. *некалькімі* | *столькімі* |
| М. *(аб)некалькіх* | *столькіх* |

Такое скланенне як літаратурная норма часта парушаецца ў размоўным стылі.

9. Зборныя лічэбнікі *двое, трое* скланяюцца, як займеннікі *мае, тваε, свае; чацвёра* — як колькасны лічэбнік *адны.*

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. | *двое* | *трое* | *чацвёра* |
| Р. | *дваіх* | *траіх* | *чацвярых* |
| Д. | *дваім* | *траім* | *чацвярым* |
| В. | як Н. або Р. | | |
| Т. | *дваімі* | *траімі* | *чацвярыма* |
| М. | *(аб) дваіх* | *траіх* | *чацвярых* |

Ва ўсіх формах, акрамя зыходнай, націск ставіцца на канчатку. Пры скланенні лічэбнікаў *абодва, абедзве* першая частка іх *(або-, абе-)* застаецца нязменнай, другая змяняецца, як лічэбнікі *два, дзве.*

| | | |
|---|---|---|
| Н. | *абодва* | *абедзве* |
| Р. | *абодвух* | *абедзвюх* |
| Д. | *абодвум* | *абедзвюм* |
| В. | як Н. або Р. | |
| Т. | *абодвума* | *абедзвюма* |
| М. | *(аб) абодвух* | *абедзвюх* |

Націск у лічэбніках *абодва, абедзве* ва ўсіх склонах на другім складзе: *абодвух, абéдзвюх; абодвума, абéдзвюма.*

Лічэбнік *абое* скланяецца так:

Н. *абое*
Р. *абаіх*
Д. *абаім*
В. *абаіх*
Т. *абаімі*
М. *(аб) абаіх*

10. Пры скланенні дробавых лічэбнікаў змяняюцца дзве часткі: лічнік — як колькасны лічэбнік, назоўнік — як парадкавы:

Н. *тры пятыя гектара*
Р. *трох пятых гектара*
Д. *тром пятым гектара*
В. *тры пятыя гектара*
Т. *трыма пятымі гектара*
М. *(аб) трох пятых гектара*

Пры скланенні лічэбнікаў, якія абазначаюць змешаны лік, змяняюцца ўсе часткі.

Н. *сорак пяць цэлых шэсць дзесятых*
Р. *сарака пяці цэлых шасці дзесятых*
Д. *сарака пяці цэлым шасці дзесятым*
В. *сорак пяць цэлых шэсць дзесятых*
Т. *сарака пяццю цэлымі шасцю дзесятымі*
М. *(аб) сарака пяці цэлых шасці дзесятых*

Лічэбнікі *пайтара* ў спалучэнні з назоўнікамі мужчынскага і ніякага роду і *пайтары* з назоўнікамі жаночага роду ва ўсіх склонах маюць

аднолькавую форму *пайтара*, *пайтары* і захоўваюць родавыя адрозненні.

Назоўнік пры лічэбніках *пайтара*, *пайтары* ўжываецца ў адзіночным ліку (*пайтара рубля*), а ва ўскосных склонах (за выключэннем вінавальнага і роднага) прымае форму множнага ліку.

| | |
|---|---|
| Н. *пайтара кілаграма* | *пайтары тоны* |
| Р. *пайтара кілаграма* | *пайтары тоны* |
| Д. *пайтара кілаграмам* | *пайтары тонам* |
| В. *пайтара кілаграма* | *пайтары тоны* |
| Т. *пайтара кілаграмамі* | *пайтары тонамі* |
| М. (*аб*) *пайтара кілаграмах* | *пайтары тонах* |

Аднолькавую форму ва ўсіх склонах захоўвае і лічэбнік *пайтараста*.

Н. *пайтараста рублёў*
Р. *пайтараста рублёў*
Д. *пайтараста рублям*
В. *пайтараста рублёў*
Т. *пайтараста рублямі*
М. (*аб*) *пайтараста рублях*

11. Парадкавыя лічэбнікі скланяюцца, як прыметнікі з адпаведнай асновай.

Адзіночны лік

Мужчынскі род

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. *першы* | *другі* | *трэці* | *чацвёрты* |
| Р. *першага* | *другога* | *трэцяга* | *чацвёртага* |
| Д. *першаму* | *другому* | *трэцяму* | *чацвёртаму* |
| В. | як Н. або Р. | | |
| Т. *першым* | *другім* | *трэцім* | *чацвёртым* |
| М. (*аб*) *першым* | *другім* | *трэцім* | *чацвёртым* |

Жаночы род

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. *першая* | *другая* | *трэцяя* | *чацвёртая* |
| Р. *першай* | *другой* | *трэцяй* | *чацвёртай* |
| Д. *першай* | *другой* | *трэцяй* | *чацвёртай* |
| В. *першую* | *другую* | *трэцюю* | *чацвёртую* |
| Т. *першай* | *другой* | *трэцяй* | *чацвёртай* |
| М. (*аб*) *першай* | *другой* | *трэцяй* | *чацвёртай* |

Ніякі род

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. *першае* | *другое* | *трэцяе* | *чацвёртае* |
| Р. *першага* | *другога* | *трэцяга* | *чацвёртага* |
| Д. *першаму* | *другому* | *трэцяму* | *чацвёртаму* |
| В. *першае* | *другое* | *трэцяе* | *чацвёртае* |
| Т. *першым* | *другім* | *трэцім* | *чацвёртым* |
| М. (*аб*) *першым* | *другім* | *трэцім* | *чацвёртым* |

Множны лік

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *першыя* | *другія* | *трэція* | *чацвёртыя* |
| Р. | *першых* | *другіх* | *трэціх* | *чацвёртых* |
| Д. | *першым* | *другім* | *трэцім* | *чацвёртым* |
| В. | | як Н. обо Р. | | |
| Т. | *першымі* | *другімі* | *трэцімі* | *чацвёртымі* |
| М. | (*аб*) *першых* | *другіх* | *трэціх* | *чацвёртых* |

У састаўных парадкавых лічэбніках змяняецца толькі апошняе слова.

Н. *тысяча дзевяцьсот сорак першы*
Р. *тысяча дзевяцьсот сорак першага*
Д. *тысяча дзевяцьсот сорак першаму*
В. *тысяча дзевяцьсот сорак першы*
Т. *тысяча дзевяцьсот сорак першым*
М. (*аб*) *тысяча дзевяцьсот сорак першым*

Толькі апошняя частка змяняецца і ў парадкавых лічэбніках на *-тысячны, -мільённы, -мільярдны: двухмільённы, двухмільённага, двухмільённаму, двухмільённы (-ага), двухмільённым, (аб) двухмільённым.*

Ва ўсіх склонах парадкавыя лічэбнікі, акрамя лічэбніка *другі* (*другога, другому*), маюць націск на аснове: *восьмы, адзіна́ццаты, чатырна́ццаты, дваццάты, восьмага, адзіна́ццатага, чатырна́ццатага, дваццάтага; восьмаму, адзіна́ццатаму, чатырна́ццатаму, дваццάтаму* і г. д.

## ЗАЙМЕННІК

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 220. Займеннік — часціна мовы, якая ўказвае на прадметы, прыметы прадметаў ці колькасць, не называючы іх, а таксама служыць для выражэння запытання пра іх. У самім тэрміне як бы сумяшчаюцца два аспекты значэння займеннікаў: лексічны — не называючы паняццяў, абагульнена ўказваць на іх, і функцыянальны — здольнасць замяняць імя: *Перамога Савецкае ўлады над буржуазіяй і поўнае яе замацаванне радавала і радуе мяне, як кожнага савецкага чалавека, які пераконаны ў тым, што толькі шляхам дыктатуры пралетарыяту, пры цесным саюзе з працоўным сялянствам, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі мы прыйдзем да сацыялізму* (Я. Колас); *Нічога не даў мне ў спадчыну бацька — Ніводнай адзнакі, ніводнае плямы. Затое і ўдаўся, як камень, трывалы, і чыстыя рукі, як вока, шаную, і з песняю тою, што маці спявала, устаю і кладуся, і днюю й начую* (М. Лужанін); *Радзіма! Нямала ты зведала болю... Зладзеі-чужынцы цябе рабавалі, скарыць жа цябе не ўдавалася ім* (П. Броўка); *Народу не старэць, ён твой, гісторыя, тварэц, ідзе камуністычны век сустрэць* (Я. Пушча); *Чужое зямлі нам не трэба... Мы хочам, каб мірнае неба не знала пажару вайны* (А. Бачыла); *Нічога не збіраю, не таю, не берагу на чорны дзень і свята, а ўсё, што ёсць, да кроплі аддаю і тым шчаслівы і багаты* (С. Грахоўскі); *Зноў для кожнай травінкі я свой на мілай бацькоўскай зямлі* (Г. Бураўкін).

Паколькі займеннікаў у мове ў параўнанні з імёнамі-назвамі мала, то і лексічнае значэнне іх, як слоў-заменнікаў, вельмі шырокае. Напрыклад, займеннікі *хто, што* могуць быць ужыты ў адносінах да любога назоўніка; такая ж універсальнасць характэрна і для займеннікаў *ён, гэты, увесь* і інш. Значэнні займеннікаў канкрэтызуюцца толькі ў кантэксце. Узятыя самі па сабе, яны вельмі абстрактныя, таму што заключаюць у сабе толькі агульнае ўказанне на прадметы ці іх уласцівасці. Гэта своеасаблівасць значэнняў займеннікаў адбіваецца і на нормах іх ужывання. Яны пераважна ўжываюцца ўслед за імёнамі і з'яўляюцца іх эквівалентамі: *На вуліцах Парыжа надзвычай вялікі рух. Паражае мноства машын. Імі загружаны ўсе вуліцы і плошчы. Яны рухаюцца няспынна трыма, чатырма калонамі. Іх так многа, што робіцца ўражанне, нібы іх больш, чым пешаходаў* (Я. Колас); *Паэт не раз быў у нашай краіне і меў тут многа шчырых сяброў. Незадоўга перад смерцю ён напісаў «Элегію Маскве» — гораду, які м захапляўся і любіў* (Чырвоная змена, 1982); *Васілька праз сілу ўсміхнуўся, і ўсмешка яго была жаласная, вялая* (М. Лынькоў); *К ночы ўзнімаўся вецер, і ад яго прыглушаных павеваў прыглушана і сярдзіта шумелі дрэвы, абтрасаючы на зямлю пажоўклыя лісты* (А. Асіпенка).

У выніку абстрактнасці, абагульненасці значэння займеннікі грама-

тычна не спалучаюцца з азначэннямі, таму азначэнні, што адносяцца да займеннікаў, заўсёды адасабляюцца: *Я н а, р а с ч у л е н а я і с у- п а к о е н а я, прытулілася да яго пляча і сцішылася* (К. Крапіва); *Р а з в а ж н ы, г о р д ы, п р а ц а в і т ы, ён перамог усе пакуты* (У. Дубоўка); *П а х м у р ы з т в а р у, з р э д к а й у с м е ш к а й, с і в а в а л о с ы, х у д а р л я в ы, ён рабіў на людзей уражанне чала- века суровага і валявога, які прайшоў нялёгкі шлях у жыцці* (Т. Хад- кевіч); *П а-л е т н я м у ў ч ы с т ы м п а л а т н я н ы м к а с ц ю м е, у п р о с ц е н ь к а й к а ш у л і з р а с ш п і л е н ы м к а ў н я р о м, з а г а р э л ы, ён выглядае значна маладзейшым, больш вясёлым і словаахотлівым* (І. Шамякін).

У граматычных адносінах займеннікі не вызначаюцца аднастай- насцю: *хто, што,* напрыклад, не маюць катэгорыі роду і ліку; родавых адрозненняў не маюць таксама займеннікі *я, ты, мы, вы,* а займеннік *сябе,* акрамя гэтага,— і формы назоўнага склону.

У сказе займеннікі выступаюць у ролі дзейніка: *Ён смела вітае радзімы зару* (А. Звонак); выказніка: *Цяперашнія дзеці не т о е, што* (А. Чарнышэвіч); азначэння: *Украіна! Табе вораг н і я к і не страшан* (Я. Купала); дапаўнення: *Н а м Леніным паказаны пуціны* (Я. Колас); акалічнасці: *Пісаць вучыўся с а м* (Я. Колас).

Лексічнае значэнне і асаблівасці змянення займеннікаў залежаць ад суадносін іх з іншымі часцінамі мовы — назоўнікамі, прыметнікамі, лічэбнікамі. У сувязі з гэтымі суадносінамі выдзяляюцца:

1) займеннікі-назоўнікі (абагульнена-прадметныя): *я, ты, мы, вы, ён, яно, яны, яна, сябе, хто, што, ніхто, нішто, нехта, нешта, хто-не- будзь, што-небудзь* і інш. З назоўнікамі іх збліжае агульнае значэнне прадметнасці і наяўнасць граматычных катэгорый (род, лік, скланенне);

2) займеннікі-прыметнікі (абагульнена-якасныя): *мой, твой, свой, ваш, наш, гэты, той, самы, увесь усякі, кожны, такі, які, каторы, які- небудзь* і інш. З прыметнікамі іх збліжае тое, што яны ўказваюць на прыметы прадметаў і маюць аналагічныя марфалагічныя асаблівасці;

3) займеннікі-лічэбнікі (абагульнена-колькасныя): *колькі, столькі, гэтулькі.* У пытальных сказах *колькі* выражае запытанне пра коль- касць прадметаў, у сказах тыпу *У 5 «А» класе было с о р а к вучняў, с т о л ь к і ж вучняў было ў 5 «Б» класе столькі* ўказвае на колькасць асоб. Функцыю займенніка-лічэбніка ў сказах такога тыпу можа вы- конваць і слова *гэтулькі.*

Займеннікі маюць свае адрозненні ад суадносных з імі часцін мовы. Такіх адрозненняў больш за ўсё ў займеннікаў-назоўнікаў. Гэтыя зай- меннікі, як правіла, не маюць пры сабе неадасобленых дапасаваных азначэнняў; азначацца здольны некаторыя займеннікі і то абмежавана. Так, асабовыя займеннікі могуць мець пры сабе азначальныя займен- нікі *сам, увесь, (я сам, ты сам, усе вы)*; суправаджацца займеннікамі могуць пытальныя займеннікі *хто?, што? (хто такі?, што такое?)*; пры займенніках *усё, нешта, штосьці, нічога* магчымыя субстантываваныя прыметнікі (*усё жывое, нешта загадкавае, штосьці незразумелае, нічо- га дрэннага*).

Звычайна займеннікі-назоўнікі не ўжываюцца са значэннем роднага прыналежнасці: гэту ролю выконваюць адпаведныя прыналежныя зай- меннікі (*кніга брата,* але *мая кніга; пакой сястры,* але *ваш па- кой*). Толькі займеннік 3-яй асобы, які не мае адпаведнага прыналеж- нага, ужываецца з такім значэннем: *яго кніга, яе пакой;* пры гэтым займеннік стаіць пераважна перад назоўнікам, у той час як родны склон назоўніка абавязкова постпазіцыйны (*кніга Вінаградава, яго кніга; аповесць Васілевіч, яе аповесць*).

Усе займеннікі-назоўнікі, утвораныя ад пытальных *хто? — што?*, маюць суадносныя формы для абазначэння адушаўлёных і неадушаўлёных прадметаў: *нехта — нешта; хто-небудзь — што-небудзь; ніхто — нішто*. Пры гэтым размежаванне паміж адушаўлёнасцю і неадушаўлёнасцю ў іх праяўляецца ва ўсіх склонах, у той час як для назоўнікаў гэта характэрна толькі ў вінавальным склоне.

У адпаведнасці з лексічным значэннем займеннікі традыцыйна падзяляюцца на 9 разрадаў:

1) асабовыя: *я, мы, ты, вы, ён, яна, яно, яны;*
2) зваротны: *сябе;*
3) прыналежныя: *мой, наш, твой, ваш, свой;*
4) указальныя: *гэты, той, такі, гэтакі, столькі, гэтулькі;*
5) азначальныя: *сам, самы, увесь, усякі, кожны, іншы;*
6) пытальныя: *хто?, што?, які?, каторы?, чый?, колькі?;*
7) адносныя: *хто, што, які, каторы, чый, колькі;*
8) адмоўныя: *ніхто, нішто, ніякі, нічый;*
9) няпэўныя: *нехта, нешта, некаторы, нейкі, нечы (нейчы), хтосьці, штосьці, якісьці, чыйсьці, хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь, абы-што, абы-хто, абы-які, абы-чый.*

## *Асабовыя займеннікі*

§ 221. **Асабовыя** займеннікі выражаюць адносіны асобы да таго, хто гаворыць: займеннік 1-ай асобы *я* абазначае таго, хто гаворыць; займеннік 2-ой асобы *ты* — асобу, да якой непасрэдна звяртаецца той, хто гаворыць: *Не лічыў я, колькі гімнасцёрак за гады ваенныя знасіў* (А. Пысін); *Ты ў такім шчаслівым узросце, калі сэрца не знае злосці, калі ўсё яшчэ наперадзе — і дарогі, і масты, калі ўсё на тым беразе, а на гэтым — толькі ты* (А. Вярцінскі); *Я так хацела б, каб і мне здагадліва агеньчык нечае душы спагадлівай выратавальна ў вочы зазірнуў* (Н. Мацяш); *Ты не гніся, брат, ніколі траўкаю пахілай* (Я. Колас).

Асабовым займеннікам *я, ты* не ўласціва катэгорыя роду; род выказніка залежыць ад полу асобы, якая імі абазначаецца: *я прыйшла, ты прыйшоў, я зразумела, ты зразумеў.*

Займеннік 1-ай асобы множнага ліку *мы* звычайна абазначае групу асоб, у якую ўваходзіць і той, хто гаворыць: *Дружна працуем мы грамадою* (Я. Купала); *Мы, не памятаю ўжо, колькі чалавек з нашай разведкі, заехалі вунь туды, у тое зялёнае бязмежжа, рассядлалі і пусцілі коней, а самі паснулі ў цяньку* (Я. Брыль).

Займеннік *мы* можа мець разнастайныя сэнсавыя і стылістычныя адценні: ужываецца з абагульнена-асабовым значэннем (*Мы ніколі не забудзем імёны тых, хто загінуў у барацьбе за вызваленне Радзімы*); у публіцыстычнай і навуковай літаратуры выступае ў значэнні аўтарскага *я* (*Мы назвалі толькі асноўныя напрамкі рэалізацыі Харчовай праграмы ў рэспубліцы* (Звязда, 1982)); у размоўным стылі сінанімічны *ты* пры звароце з ласкай, спагадай да каго-небудзь (*Маеўскі пяшчотна пагладзіў яе руку. «Ну, вось і слёзы... Куды ж нам да партызан са слязамі?»* (І. Шамякін)).

Займеннік *вы* абазначае групу асоб, да якой звяртаюцца: *Мае сябры! Вы палі гэтак рана, але, як зоры, свеціце для нас* (П. Прыходзька); *Сябры паважаныя, як вы маглі задаць мне такое пытанне?* (А. Куляшоў).

Пры звароце да адной асобы *вы* ўжываецца як форма ветлівасці, можа мець абагульнена-асабовае значэнне, г. зн. указваць на любую

асобу: *У гэтыя жудасныя мінуты шаленства чорнай сусветнай рэакцыі Вы, дарагі Аляксей Максімавіч, узнялі свой магутны голас, голас баяна і прарока новага жыцця...* (Я. Колас); *Праходзячы з залы ў залу і сузіраючы творы вялікіх мастакоў, вы, нарэшце, пачынаеце стамляцца ад мноства ўражанняў* (К. Крапіва).

Займеннікі *я, мы, ты, вы* — уласна-асабовыя: *Я з горада еду дамоў на спачын* (П. Глебка); *Будзь і ты, сынок, свядомы, нам на радасць падрастай* (П. Глебка); *Мы збудавалі горад новага* (І. Шамякін); *Паслухаць вас, усе вы хваты* (Я. Колас).

Займеннікі *ён, яна, яно, яны* — асабова-ўказальныя. Гэтыя займеннікі ўказваюць на асобу адсутную, на таго, хто не ўдзельнічае у размове, а таксама на прадметы: *Праз рэдкія кусты і бярозкі прылеску мы ўбачылі луг. Ён рассцілаўся шырока ўбакі і наперад* (Я. Брыль); *Яму на развітанне яна вянок сплята* (А. Куляшоў); *Яны дзівіліся яе маладому спрыту* (В. Вітка).

У адрозненне ад займеннікаў *я, ты* займеннік *ён* мае катэгорыю роду *(ён, яна, яно)* і ліку *(ён — яны)*. З уласна-асабовымі займеннікамі *я, ты* асабова-ўказальныя займеннікі *ён, яна, яно, яны* аб'ядноўваюцца ўдзелам ва ўтварэнні аналітычнай формы асобы дзеясловаў у прошлым часе і ўмоўным ладзе: *я гаварыў* — 1-ая, *ты гаварыў* — 2-ая, *ён гаварыў* — 3-яя асоба; *я прачытаў бы, ты прачытаў бы, ён прачытаў бы.*

### *Зваротны займеннік*

§ 222. Зваротны займеннік *сябе* ўказвае, што аб'ектам дзеяння з'яўляецца сам суб'ект, вытворца дзеяння: *Ад сябе самога не схаваешся, ад сябе самога не ўцячэш* (П. Панчанка); *Бачыць самога сябе з вялікай адлегласці бывае вельмі прыемна, бо бачыш не проста сябе, а сябе найлепшага, без памылак-грахоў і балючых дакораў сумлення* (Я. Брыль); *Ты ўзышла на ганак новай школы, ты гэтым дзецям блізкая, свая і ўжо сябе не лічыш навасёлам, бо тут твой дом і тут твая сям'я* (С. Грахоўскі).

Асноўная асаблівасць зваротнага займенніка заключаецца ў тым, што ён не мае назоўнага склону. Зваротны займеннік, акрамя таго, не мае родавых форм, яму не ўласціва і катэгорыя ліку. Пры гэтым пры пасрэдніцтве роду таго суб'екта, да якога ён адносіцца, можа азначацца словамі ў форме ўсіх родаў і лікаў.

У адрозненне ад рада індаеўрапейскіх моў, у якіх зваротны займеннік адносіцца толькі да трэцяй асобы, у славянскіх мовах, у тым ліку і ў беларускай, ён у аднолькавай меры адносіцца да ўсіх трох асоб: *Я даў сабе слова зрабіць гэту работу сёння; Ты можаш дазваляць сабе гэта; Ён прывык даваць сабе палёгку.* Акрамя таго, займеннік *сябе,* не змяняючыся па ліках, можа ўказваць і на адну, і на некалькіх асоб: *Ён запрашаў да сябе; Яны запрашалі да сябе.*

Зваротны займеннік *сябе* ў сказе заўсёды выступае ў сінтаксічнай функцыі дапаўнення: *І ў тон адзін з зямлёю я пяю, і кожны міг сябе я пазнаю часцінкай злітаю вялікага сусвету* (Я. Колас); *Ах, соня якая я! Дагэтуль спаць! — дакарала яна сябе* (І. Шамякін); *Вось так і жыў Сымон Латушка, адзін, не звязаны нічым, сабе сам пан, сабе сам служка, ды ліха сталася і з ім* (Я. Колас); *Не хвалі сам сябе, няхай людзі пахваляць цябе* (Прыказка); *Покі служаць ногі, можна бегчы ўсюды, ад сябе ж самога не ўцячэш нікуды* (Я. Колас); *Кастусь і сам стараўся гнаць ад сябе думкі аб нядаўнім мінулым* (К. Чорны).

Форма давальнага склону *сабе* можа ўжывацца ў ролі часціцы, якая надае дзеянню адценне стыхійнага праяўлення, працякання яго без перашкод: *Няхай сабе жарты, няхай смех — а не хочацца, каб перад жанчынаю апраставалосіцца* (Я. Скрыган); *Мужчына смяецца, а Паўлюк сабе толькі маўчыць, хоць бы што* (Я. Брыль).

Займеннік *сябе* ўступае ў цесныя лексічныя сувязі з азначальным займеннікам *сам*, утвараючы фразеалагічныя спалучэнні: *сам з сабою, сам над сабой, над самім сабой.*

У моўнай практыцы ўзнікаюць цяжкасці пры ўжыванні займенніка *сябе* ў выпадках, калі ў сказе ёсць два асабовыя назоўнікі, з кожным з якіх можа суадносіцца гэты займеннік. Напрыклад: *Настаўніца сказала вучню аднесці кнігі да сябе.* Як правіла, *сябе* адносіцца да суб'екта дзеяння. Аднак даволі часта (як і ў папярэднім прыкладзе) узнікае сэнсавая няяснасць з-за гэтага займенніка. У такіх выпадках трэба перабудаваць сказ так, каб *сябе* выразна суадносілася з суб'ектам дзеяння (*Настаўніца сказала вучню, каб ён аднёс кнігі да сябе*).

### *Прыналежныя займеннікі*

§ 223. Прыналежныя займеннікі ўказваюць на прыналежнасць прадмета адной з трох асоб: *мой, наш* — 1-ай; *твой, ваш* — 2-ой асобе; *свой* на аснове адносін да суб'екта — адной з трох асоб (*Мы выконваем сваю работу. Вы выконваеце сваю работу. Яны выконваюць сваю работу*)[1].

Функцыю адсутнага прыналежнага займенніка 3-яй асобы выконвае родны склон асабовага займенніка *ён* (*яна, яно, яны*). Выступаючы ў ролі недапасаванага азначэння, займеннікі *яго, яе, іх* могуць займаць як прэпазіцыйнае (часцей), так і постпазіцыйнае становішча ў адносінах да назоўніка: *Засмучэнне і боль адбіліся на яе твары* (Я. Колас); *Няспрытна варушыліся яго зняважаныя пальцы* (У. Караткевіч); *Кожны іх крок, кожны рух і вымаўленне слова чуліся ў кватэры настаўніка* (Я. Колас); *Сілачом стаіць дуб разложысты і здалёк відаць пышны верх яго* (Я. Колас); *З вачэй яе струменіліся хвалі глыбокай і празрыстай сінявы* (П. Панчанка); *Лісты іх пра паходы штурмавыя спакойна не давалі нам заснуць* (П. Панчанка).

Прыналежныя займеннікі *мой, наш, твой, ваш, свой* граматычна характарызуюцца наяўнасцю форм роду, ліку і склону, як поўныя прыметнікі: *мой, мая, маё, мае; майго, маёй, маіх; наш, наша, нашы; нашага, нашай, нашых* і г. д.

Займеннікі *мой, наш, твой, ваш* — асабова-прыналежныя, *свой* — зваротна-прыналежны: *Добры дзень, наш друг зялёны, абаронца мой! Мыюць сонцам свае кроны вязы, ясені і клёны дружнай грамадой* (Я. Непачаловіч); *Вывад мой і маё настаўленне ў двух*

---

[1] Між іншым, у падобных канструкцыях для 1-ай і 2-ой асобы могуць ужывацца і займеннікі *мой, твой, ваш, наш.* Магчымасць сінанімічнай узаемазамяняльнасці прыналежных займеннікаў 1-ай і 2-ой асобы і займенніка *свой* узнікае тады, калі ў сказе гаворыцца пра тое, што належыць (ці ўласціва) суб'екту дзеяння. Параўн.: *Я думаю аб сваёй (аб маёй) рабоце — Ты думаеш аб сваёй (аб тваёй) рабоце — Ён думае аб сваёй рабоце.* Калі ў апошнім сказе ўжыць *аб яго рабоце*, зменіцца сэнс (*аб яго рабоце* — значыць 'аб рабоце каго-небудзь іншага'). У сучаснай беларускай мове ў падобных выпадках перавага аддаецца займенніку *свой.*

Разам з тым заўважаюцца і некаторыя сэнсавыя адценні пры ўжыванні *мой, твой, наш, ваш,* з аднаго боку, і *свой* — з другога. Пры жаданні падкрэсліць асабісты ўдзел у якім-небудзь дзеянні, а таксама з мэтай узмацніць эмацыянальнасць выказвання выкарыстоўваюць прыналежныя займеннікі 1-ай і 2-ой асобы.

*радках я хачу перадаць: пераломіш па дубчыку венік, цэлы венік — ніяк не зламаць* (А. Бялевіч); *Як звонка гучыць н а ш а родная мова, як пераліваецца яна ўсімі адценнямі, нібы тая лясная крыніца* (Р. Барадулін); *Рэвалюцыя — пачатак касманаўтыкі, н а ш а й славы, н а ш ы х сіл* (П. Панчанка); *Хоць я ніколі не знайду с в а і х слядоў і хісткай кладкі, а ўсё ж лячу к с в а й м у гнязду, к с в а й м у адзінаму пачатку!* (С. Грахоўскі); *У асмужанай красе т в о й бачу, вясень, воблік* (П. Панчанка); *В а ш ы песні далёка гучаць* (З. Бядуля).

### Указальныя займеннікі

§ 224. У к а з а л ь н ы я займеннікі *гэты, той, такі, гэтакі,* у пэўных кантэкстуальных умовах — *столькі, гэтулькі* ўказваюць на прадметы, прыметы прадметаў ці іх колькасць: *Я з т а г о пакалення, над калыскай чыёй з першых дзён, з першых год клапатліва схіляўся з усмешкаю Ленін* (П. Панчанка); *Т о й домік нізкі нехта любіў, з т ы м домікам звязаны нечы лёс* (А. Вярцінскі); *І які харошы, шырокі, прывабны і поўны хвалявання быў свет ад т ы х кніжак — простых, напісаных моваю, самаю блізкаю сэрцу* (Я. Скрыган); *Т а к і я росныя раніцы бываюць толькі ў жніўні* (Б. Мікуліч); *Ноч была г э т к а я ж цёмная, як і ўчора* (Я. Колас); — *Блакіціна нябесная! — крычыць Шарэйка.— Колькі неба над лугам, с т о л ь к і і лугу!...* (Я. Брыль).

Асноўнай умовай, якая забяспечвае пэўнасць значэння ўказальных займеннікаў, служыць жэст: *Ідзіце ў т о й пакой* (паказ рукой); *Звярніцеся да т о й жанчыны* (ківок галавой); *Хлопчык т а к о г а росту* (рост указваецца прыпадыманнем рукі). Такое выкарыстанне ўказальных займеннікаў тыпова для вуснай мовы. У пісьмовай мове пэўнасць іх канкрэтнага значэння забяспечваецца кантэкстам: *«гэты»* ўказвае на блізкі або наогул вядомы прадмет, *«той»* — на аддалены прадмет ці такі, які ўжо быў названы: *Г э т ы час, і г э т ы свет, і квятлівы водар г э т ы — усё ацэньвае паэт, як вясновыя прыкметы* (А. Куляшоў); *І г э т ы гром, і нашы галасы напевам гучным над зямлёй дрыжаць* (П. Панчанка); *А вунь т о й лес сінее* (Беларусь, 1983); *Але на т ы м беразе бязлесны луг* (І. Шамякін).

Значэнне займенніка *той* нярэдка раскрываецца дададым сказам: *Т о й яснасць вока і думкі зберажэ, каму ў жыцці зазнаць прыпала многа* (А. Звонак); *Падбіраю і збіраю ў сваім радзімым краі па зярнятку т ы я словы, што кладуцца ў асновы не старых, а песень новых* (Я. Пушча); *У т у ю крыніцу, з якой піў ваду, гразёю не кіну, хоць можа, лепшую з часам знайду свайму сыну; да т а е сцежкі, дзе жыццё сустрэў, не прапушчу хмары* (К. Кірэенка).

У спалучэнні з *самы, жа* займеннік *той* мае значэнне 'іменна той, такі ж, ранейшы, а не які-небудзь іншы': *той самы вучань, той жа студэнт, той самы год, тая ж вясна.*

Займеннік *гэта,* які ўжываецца толькі ў ніякім родзе, нярэдка ўказвае на з'явы, падзеі, сутнасць якіх раскрываецца цэлымі сказамі ці іх групамі: *Дзяцінства і юнацтва Пташнікава падобныя ў нечым асноўным на дзяцінства і юнацтва тых, хто разам з ім у другой палавіне 50-х гадоў пачаў свой шлях у літаратуру. Г э т а — дзяцінства ў акупаванай вёсцы, а з ім блакада, пажары, уцёкі ад карнікаў, людскія слёзы, няшчасці, страх і вялікая нянавісць, неадольная прага свабоды. Г э т а — жыццё у нейкай асабліва натуральнай неўсвядомленай еднасці з прыродай, з лесам* (Полымя, 1982).

Займеннік *гэта* можа ўжывацца абстрактна, абагульнена ўказва-

ючы на месца, час, прычыну, вынік і інш., і выступаць у якасці дзейніка ў канструкцыях тыпу: *Г э т а было ў Мінску; Г э т а здарылася ўчора. Гэта* можа выконваць функцыю звязкі пры іменным выказніку: *Камуністы — г э т а Леніна салдаты, воляй партыі з'яднаныя рады* (А. Куляшоў); *Хіба жадаць мірнага жыцця — г э т а злачынства?* (Я. Маўр).

Займеннік *такі* ўказвае на тоеснасць якасці двух прадметаў *(У яго т а к і ж касцюм, як і ў мяне)*, на розныя прыметы, што ўдакладняюцца даданым сказам: *Скласць эпапею павінны т а к у ю, якую чэлюскінцы далі для свету, і одамі ўславіць наяўнасць жывую — бяссмертных герояў Саюза Саветаў* (Я. Купала); *Наш сказ аб т а к і м салоўку, які спявае не толькі ўвесну, а нават узімку* (З. Бядуля).

У спалучэннях з прыметнікамі займеннік *такі* ўказвае на большую ступень якой-небудзь якасці, набліжаючыся па значэнню да ўзмацняльнай часціцы *(Ён т а к і добры)*. У форме ніякага роду субстантываваны займеннік *такі* можа мець значэнне 'нешта асаблівае' *(Што ж тут т а к о г а?)*.

### Азначальныя займеннікі

§ 225. А з н а ч а л ь н ы я займеннікі *увесь, усякі, сам, самы, кожны, іншы, любы* маюць абагульнена-якаснае ці выдзяляльнае значэнне: *Зямля мая! На к о ж н ы м кіламетры — журба і боль гранёных абеліскаў...* (Н. Мацяш); *Людзі хочуць, каб званні і славу не давалі нікому дарма... Людзі маюць на гэта права, ім дала яго праўда с а м а* (Г. Бураўкін); *У с а м і м тоне яго просьбы гучаў боль чалавечай душы* (Я. Колас); *К о ж н ы год аздобай новай здзіўляе яблыня людзей* (П. Панчанка); *Над нівай вясёлыя птушкі і н ш ы я песні запелі* (Я. Купала); *К о ж н ы пісьменнік, якія б ён ні стварыў эпапеі, паэмы, драмы, апавяданні, вершы, усё жыцце піша адну-адзіную кнігу, у якой гаворыць чытачу сваё, толькі сваё запаветнае слова* (Я. Брыль).

Граматычна азначальныя займеннікі характарызуюцца наяўнасцю форм роду, ліку і склону.

Азначальныя займеннікі *самы* і *сам* збліжаюцца агульнай марфалагічнай структурай: яны нагадваюць сабой членную (поўную) і нячленную (кароткую) форму з адной і той жа невытворнай асновай.

Паводле ж асаблівасцей значэння і ўжывання займеннікі *самы* і *сам* адрозніваюцца паміж сабой.

Асноўнае прызначэнне займенніка *сам (сама, само, самі)* — указваць на асобу ці прадмет, якія ўтвараюць дзеянне самастойна, без чыёй-небудзь дапамогі ці ўдзелу: *Працоўны с а м закон тут піша і с а м свой ладзіць дабрабыт* (Я. Колас); *С а м Пракоп пісаць не ўмее* (Я. Колас); *Але слёзы, гарачыя слёзы нянавісці і жалю, с а м і каціліся з яго вачэй* (Я. Брыль).

У некаторых выпадках *сам, сама, само* па значэнню набліжаюцца да прыслоўяў *(Вучань рашыў задачу с а м)* ці нават да часціцы *(На занятках прысутнічаў с а м дырэктар)*.

Займеннік *самы* мае выдзяляльна-ўзмацняльнае значэнне, ён указвае на крайнюю мяжу распаўсюджання дзеяння, з'явы або праяўлення якасці ў прасторы ці часе: *Расправіў плечы, нібы волат, пад неба с а м а е завод* (П. Броўка); *Ад с а м а е раніцы рэспубліканцы маўчалі* (Э. Самуйлёнак); *Б'юцца ветры шалёныя люта, гнуцца дрэвы да с а м а й зямлі* (М. Машара); *Над калгаснаю пасекай з с а м а г а рання распагодзіўся неба прастор сінюваты* (М. Танк).

Займеннік *самы* ўжываецца для ўтварэння найвышэйшай ступені

параўнання якасных прыметнікаў: *самы дарагі, самы чалавечны, самы шчыры, самы разумны.*

У спалучэнні *на самай справе* займеннік *самы* служыць для пацвярджэння пэўнай думкі, набываючы значэнне мадальнага слова.

Займеннік *увесь* (*уся, усё, усе*) мае значэнні паўнаты, зборнасці, цэласнасці: *Ленінскі запавет абляцеў увесь свет* (Прыказка); *У нас усе бары і ельнікі — музеі славы несмяротнай* (Н. Гілевіч); *У парыве пяшчоты, спачування, што ў момант залілі яе ўсю, не помнячы нічога, ні аб чым не думаючы, нібы падхопленая хваляй, кінулася Ганна да Васіля* (І. Мележ).

Займеннікі *ўвесь, усё, усе* могуць ужывацца без назоўніка, субстантывавацца: *І хоць не ўсё паўторыцца на свеце, я веру ў гэты лес, я веру ў сад, дзе чысціню вясны нясуць суквецці праз кожны свой барвовы лістапад* (А. Пысін); *Вялікае нараджэнне вялікіх падзей захапіла ўсіх і ўсё* (Ц. Гартны).

Форма ніякага роду займенніка *ўсё* можа ўжывацца ў значэнні ўзмацняльнай часціцы: *Каса станавілася ўсё цяжэйшая, рукі наліваліся ўтомаю* (І. Мележ); *Прайшоў некаторы час, звер усё яшчэ быў жывы* (Я. Маўр).

*Усякі, кожны* і *любы* — сінанімічныя паводле значэння. Яны выдзяляюць аднародныя прадметы з ліку многіх (*кожны з нас, усякі з нас, любы з нас*). Аднак гэтыя займеннікі маюць сэнсавыя адценні. *Усякі* выступае з больш агульным значэннем 'любы з многіх' ці са значэннем 'розны', 'разнастайны': *Усякіх там жывёлін у тым садзе ёсць даволі* (К. Крапіва); *У сяле ўсякія чуткі, усякая гутарка, што вядзецца патайна, без усякіх сведак, скора робіцца агульнай абладай* (Я. Колас).

*Кожны* выражае значэнне раздзельнасці, г. зн. абазначае 'любы з многіх паасобку': *Прытоеная цішыня чутка вартавала кожны гук, кожны нясмелы шолах* (Я. Колас); *Кожнае слова было ўзважана і біла па сэрцы цяжкім абухам* (Я. Колас); *Я — у кожным пажары, я — полымя брат, я — у кожным удары жалезных лапат* (М. Танк).

Займеннік *кожны* ўжываецца пераважна ў адзіночным ліку; форму множнага ліку гэты займеннік набывае тады, калі абазначае перыядычнасць якіх-небудзь з'яў або роўныя інтэрвалы паміж прадметамі (*кожныя суткі, кожныя шэсць кіламетраў*), а таксама пры ўказанні на пэўную колькасць (*кожныя сем чалавек*).

Займеннік *усякі* свабодна выкарыстоўваецца ў множным ліку, асабліва калі ўказвае на розныя (ці разнастайныя) прадметы, з'явы, працэсы: *усякія думкі, усякія галасы, усякія здарэнні.*

### Пытальныя займеннікі

§ 226. Пытальныя займеннікі *хто?, што?, які?, каторы?, чый?, колькі?* выражаюць імкненне таго, хто гаворыць, высветліць што-небудзь невядомае; катэгорыя пытальнасці, акрамя займеннікаў, выражаецца пры дапамозе інтанацыі і часціц (*ці, няўжо, хіба*). Пытальныя займеннікі служаць для выражэння запытання пра асобу, прадмет (*хто? што?*), прымету (*які?*), прыналежнасць (*чый?*), парадак прадметаў пры лічэнні (*каторы?*), колькасць (*колькі?*): *Хто сказаў — вада без паху, хто сказаў — вада без смаку? Той, відаць, не смяг у спёку і ад смагі ў суш не млеў* (Я. Сіпакоў); *Што гэта звініць, Хатынь? Што значыць яны, твае званы?* (А. Вярцінскі); *У чыёй жа хаце песні не змаўкаюць?* (Я. Купала); *Якая цяпер гадзіна?* (М. Лынькоў);

*Колькі табе год?;* — *Каторы агрэгат пойдзе першы?* (І. Дуброўскі).

Займеннікі *хто?, што?* (і вытворныя ад іх) не змяняюцца па ліках і патрабуюць пастаноўкі залежных слоў у адзіночным ліку, пры гэтым з *хто* ў мужчынскім родзе, з *што* — у ніякім: *Хто даў табе на гэта права? Што прымусіла цябе так зрабіць?*

Састаўны выказнік са звязкай *быць* можа быць дапасаваны да гэтых слоў і ў множным ліку (*Хто былі першыя людзі на зямлі?*).

Займеннікі *які?, чый?, каторы?* маюць формы роду, ліку і склону, як прыметнікі: *Якую ты дэталь штампуеш?* (К. Крапіва); *Чыя гэта пасада? Хто тут жыве?* — *запытаў настаўнік* (Я. Колас); Ліпавец. *Гляньце, яшчэ адзін ідзе.* *Каторы гэта?* Мелех. *Ні то чацвёрты, ні то пяты* (П. Глебка).

Займеннік *які* мае больш шырокія межы спалучальнасці з іншымі словамі, чым *каторы*. Практычна *які* ўжываецца з любым прадметным словам, а *каторы* — з даволі абмежаванай колькасцю слоў (звычайна яны абазначаюць адрэзкі часу, напрыклад: *Каторы ўжо год, як ты не быў дома? Каторы год сыну?*). Калі ж трэба запытаць пра год нараджэння ці смерці, выкарыстоўваюць займеннік *які: У якім годзе нарадзіўся Кандрат Крапіва? У якім годзе памёр Купала?*

### Адносныя займеннікі

§ 227. Адносныя займеннікі *хто, што, які, каторы, чый* указваюць на аднесенасць даданага сказа да пэўнага слова галоўнага сказа: *Вораг мне, хто атамнаю бомбай хоча ўсё жывое разбурыць* (П. Броўка); *Дзень наш сённяшні — прасторы, зорны шлях прасторнай былі, тая казка, аб каторай людзі толькі цьмяна снілі* (Я. Колас); *Я не імкнуся тых дагнаць, чый недалёкі шлях у моры* (М. Танк); *Балотам снежным праз сасоннік, які смаловым пахам вабіць, прастор балот зімою соннай люблю санямі разухабіць* (М. Чарот); *Не ўсё аднолькавага крою, што намі створана ў жыцці* (А. Звонак).

Адносныя займеннікі знешне супадаюць з пытальнымі і гістарычна паходзяць ад іх. Яны характарызуюцца тымі ж граматычнымі асаблівасцямі, што і пытальныя. У структуры даданага сказа адносныя займеннікі выступаюць у якасці яго членаў — як галоўных, так і даданых: *Ты ўся цяпер перада мною, мая Радзіма, што праклала шлях да міру, да свабоды і да зор* (А. Зарыцкі); *Чалавек, які згубіў сумленне, у вачах людзей — не чалавек* (Я. Непачаловіч); *У садах, што летась пасадзілі, буйна спеюць белыя налівы* (А. Бачыла); *Хто сэрцам маладым вясну не стрэне, не ўмеў дагэтуль той вясною даражыць* (У. Хадыка); *Бясследна не знікаюць тыя людзі, што усё жыццё на лоўны рост ідуць* (С. Грахоўскі); *Алесь хадзіў каля крынічкі, што з лесу тут жа выцякала і дужкай хату агібала* (Я. Колас); ... *Я асабліва з вялікай радасцю пакідаў еўрапейскія сталіцы, каб хутчэй убачыць сваю Савецкую краіну, якая мае ўсе магчымасці ісці ўпэўненым, цвёрдым крокам уперад і перад якой расчынены ясныя далі сапраўднага чалавечага шчасця і радасці* (Я. Колас); *Які госць, такое і частаванне. Якая птушка, такое і гняздзечка* (Прыказкі); *Тады ён думаў зусім расквітацца з усімі гэтымі справамі і зноў стаць тым, кім быў змалку* (К. Чорны).

Адносны займеннік *каторы* ў адрозненне ад пытальнага не ўказвае на парадак прадметаў, ён суадносіць змест залежнай часткі складанага сказа з пэўным словам галоўнай часткі, указваючы на асобу ці

прадмет: *Яны (ворагі) не пяройдуць мяжы, на* к а т о р а й *сурова пацстане Мадрыд* (Я. Колас); *Цякла тут з лесу невялічка травой зарошчая крынічка, абодва берагі* к а т о р а й *лазняк, ракітнік абступалі* (Я. Колас).

Сярод адносных займеннікаў ёсць сінанімічная пара *каторы — які;* апошні ўносіць у дадзеную частку складанага сказа дадатковае адценне параўнання: *Мы радуемся поспехам,* к а т о р ы х *дасягнуў наш народ.— Мы радуемся поспехам,* я к і х *дасягнуў наш народ.*

### *Адмоўныя займеннікі*

§ 228. А д м о ў н ы я займеннікі *ніхто, нішто, ніякі, нічый, некага, нечага* ўказваюць на поўную адсутнасць прадмета як суб'екта ці аб'екта дзеяння (*Н і х т о не верыць; Н і к о г а не хвалюе*), якасці або прыметы прадмета (*У яе няма н і я к а г а пачуцця меры*).

Адмоўныя займеннікі ўтварыліся ад пытальных пры дапамозе прыстаўкі *ні-*. Ужываюцца яны ў адмоўных сказах, у якіх пры выказніку ёсць часціца *не* або слова *няма: Нявідны не цешыў сябе* н і я к і м і *ілюзіямі* (Я. Колас); Н і я к а я *іншая птушка, нават праслаўлены салавей, не можа параўнацца ў спевах з лясным жаваранкам* (Я. Колас); Н і я к а й *няма пераправы!* (Я. Колас); *А для салдат, чые навек закрыты вейкі, няма ўжо дат,* н і я к і х *дат* (П. Панчанка); Н і х т о *з нас не мае права дый не зможа стварыць для сябе нейкі ціхі аазіс, нейкае сховішча, куды не прыйдуць трывогі часу.* Н і х т о *не мае права хавацца ад абавязку барацьбы са злом* (Я. Брыль).

Субстантываваныя займеннікі *ніхто* і *нішто* выступаюць адпаведна ў значэннях: 'нікчэмны чалавек' і 'нязначная рэч' (*Ён для іх* н і х т о; *У параўнанні з жыццём гэта было* н і ш т о).

Займеннікі *некага, нечага* не маюць формы назоўнага склону. Сфера іх ужывання — аднасастаўныя сказы з інфінітывам у ролі галоўнага члена: *І* н е к а г а *ёй выпраўляці, і* н е к а г а *ёй сустракаці, адно — галасіць засталося і ў горы няўгойным гарэць* (П. Панчанка); *Жыць весела, ды есці* н е ч а г а (Прыказка).

Такія займеннікі не характэрны для беларускай мовы. Ёй больш уласцівыя спалучэнні *няма каго, няма чаго.*

### *Няпэўныя займеннікі*

§ 229. Н я п э ў н ы я займеннікі *нехта, нешта, хто-небудзь, што-небудзь, нейкі, чый-небудзь, некаторы* і іншыя ўказваюць на невядомыя асобы, прадметы, няпэўныя прыметы: *Рабіць* ш т о с ь ц і *добрае таму, хто ўжо ніколі табе не падзякуе,— гэта і сумна, і радасна палаасабліваму* (Я. Брыль); *Можа, свет і любім мы за тое, што ў стрыечнай блізкасці жывём.* Ш т о с ь ц і *свойскае і* ш т о с ь *людское ў гэтых дрэў, камення і жывёл* (А. Пысін); *Няясныя вобразы ўсплывалі самі сабою, аб* ч ы м с ь ц і *казалі і клікалі невядома куды, а на сэрцы аставалася адчуванне ўтраты* ч а г о с ь *далёкага, чаго ўжо не вернеш ніколі* (Я. Колас).

Значэнне няпэўных займеннікаў не раскрываецца, не канкрэтызуецца ў кантэксце. Няпэўныя займеннікі вызначаюцца разнастайнасцю сінанімічных адносін: *нехта, хто-небудзь; нешта, што-небудзь; нейкі, некаторы.*

Адны з іх выступаюць у якасці азначэнняў пры прадметных назоўніках (*нейкі чалавек, некаторыя таварышы*), другія — абазначаюць саміх асоб ці прадметы (*Нехта мудра сказаў; Нешта мяне непакоіць*).

Няпэўныя займеннікі *нехта, нейкі,* ужытыя пры назве асобы, могуць уносіць у сказ адценне непавагі ці абыякавасці: *Тут у нас ёсць нехта Шаблюк,.. старэйшы настаўнік* (І. Шамякін); *Ён, напэўна, і не ведае, што ў горадзе пражывае нейкі Чарскі* (К. Крапіва).

Няпэўныя займеннікі ўтвараюцца ад пытальна-адносных пры дапамозе прыставак *не-, абы-* і постфіксаў *-сьці, -небудзь: хтосьці, штосьці, чыйсьці, якісьці, хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь, абы-хто, абы-што, абы-які, абы-чый.*

Займеннікі з постфіксам *-небудзь* адрозніваюцца ад займеннікаў з постфіксам *-сьці* тым, што да значэння няпэўнасці ў першых далучаецца адценне выдзялення: *Сцяпан заўсёды шукаў што-небудзь незвычайнае ў жыцці* (М. Гарэцкі); *Падарожнікі выбіралі якую-небудзь прыдатную мясціну і спыняліся на адпачынак* (М. Зарэцкі); *Вецер сухі ў траве штосьці шукае* (М. Калачынскі); *З лесу даносяцца якіясьці таемныя гукі* (К. Чорны).

Указанне на няпэўнасць асобы ў займенніках з прыстаўкай *абы-* нярэдка можа спалучацца з адмоўнай характарыстыкай гэтай асобы ці прадмета: *Яна гаварыла неяк разгублена, абы-што* (Я. Брыль); *Цяпер трэба было як-небудзь павініцца перад людзьмі, паказаць, што яна не абы-хто, што яна шануе сваю славу, людзей і людскія звычаі* (І. Мележ).

Да няпэўных адносяцца таксама складаныя займеннікі *сёй-той, сякі-такі, хто-ніхто, што-нішто,* спалучэнні тыпу *не хто іншы, як; не што іншае, як* і пад.: *Пра сёе-тое мы ўжо чулі* (З. Бядуля); *Хто-ніхто ўжо працаваў на полі* (К. Чорны); *Людзі прыслухоўваліся і, відаць, што-нішто ўхапілі з нашай размовы* (А. Асіпенка); *Трэба навесці сякі-такі парадак* (Я. Колас).

Спалучэнні *не хто іншы, як; не што іншае, як* і падобныя паводле значэння і ўжывання адрозніваюцца ад астатніх няпэўных займеннікаў тым, што яны звычайна канкрэтызуюцца ў кантэксце: *Гэта мог зрабіць не хто іншы, як вы; Гэта было не што іншае, як здрада.*

У размоўным стылі ў функцыі няпэўных могуць быць выкарыстаны пытальныя займеннікі *хто, што, які, колькі,* калі яны не выражаюць пытання: *Калі хто пацікавіцца, адкажыце, што ўсё добра; Спатрэбіцца што — звяртайцеся да мяне; Колькі часу прайшло, невядома.*

### Скланенне займеннікаў

§ 230. Асабовыя займеннікі *я, мы, ты, вы* пры скланенні маюць суплетыўныя асновы ва ўскосных склонах. Аналагічна займенніку *ты* скланяецца зваротны займеннік *сябе.*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. *я* | *мы* | *ты* | *вы* | — |
| Р. *мяне* | *нас* | *цябе* | *вас* | *сябе* |
| Д. *мне* | *нам* | *табе* | *вам* | *сабе* |
| В. *мяне* | *нас* | *цябе* | *вас* | *сябе* |
| Т. *мной (-ою)* | *намі* | *табой (-ою)* | *вамі* | *сабой (-ою)* |
| М. *(аба) мне* | *(аб) нас* | *табе* | *вас* | *сабе* |

Займеннікі *мы, вы* ў родным, вінавальным і месным склонах маюць своеасаблівы канчатак *-ас: н-ас, в-ас.*

У творным склоне адзіночнага ліку займеннікі *я, ты, сябе* ўжываюцца з варыянтнымі канчаткамі: *мной* і *мною, табой* і *табою, сабой* і *сабою.*

Асабова-ўказальныя займеннікі *ён, яна, яно, яны* пры скланенні таксама маюць суплетыўныя асновы для ўскосных склонаў.

| | Адзіночны лік | | Множны лік |
|---|---|---|---|
| | Мужчынскі і ніякі род | Жаночы род | |
| Н. | *ён яно* | *яна* | *яны* |
| Р. | *яго* | *яе* | *іх* |
| Д. | *яму* | *ёй* | *ім* |
| В. | *яго* | *яе* | *іх* |
| Т. | *ім* | *ёй (ёю)* | *імі* |
| М. | *(аб) ім* | *ёй* | *іх* |

Асновай ускосных склонаў гэтых займеннікаў з'яўляецца адзін гук -*j*: *ён — j-аго, j-аму; яна — j-яе, j-ой; я-но — j-аго, j-аму; яны — j-іх, j-ім.*

Займеннікі ўказальныя (*гэты, той, такі*), прыналежныя (*мой, твой, свой, наш, ваш*), азначальныя (*кожны, іншы, усякі*), пытальныя і адносныя (*які, каторы*) і ўтвораныя ад іх адмоўныя і няпэўныя скланяюцца падобна прыметнікам з цвёрдай, мяккай асновай ці з асновай на *г, к, х* тыпу *цвёрды, сіні, дарагі.*

Адзіночны лік

Мужчынскі і ніякі род

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *гэты гэта* | *мой маё* | *усякі усякае* | *які якое* |
| Р. | *гэтага* | *майго* | *усякага* | *якога* |
| Д. | *гэтаму* | *майму* | *усякаму* | *якому* |
| В. | як Н. ці Р. | | | |
| Т. | *гэтым* | *маім* | *усякім* | *якім* |
| М. | *(аб) гэтым* | *маім* | *усякім* | *якім* |

Жаночы род

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *гэта* | *мая* | *усякая* | *якая* |
| Р. | *гэтай (-ае)* | *маёй (мае)* | *усякай (-ае)* | *якой* |
| Д. | *гэтай* | *маёй* | *усякай* | *якой* |
| В. | *гэту (-ую)* | *маю* | *усякую* | *якую* |
| Т. | *гэтай (-аю)* | *маёй (-ёю)* | *усякай (-аю)* | *якой (-ою)* |
| М. | *(аб) гэтай* | *маёй* | *усякай* | *якой* |

Множны лік

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. | *гэтыя* | *мае* | *усякія* | *якія* |
| Р. | *гэтых* | *маіх* | *усякіх* | *якіх* |
| Д. | *гэтым* | *маім* | *усякім* | *якім* |
| В. | як Н. або Р. | | | |
| Т. | *гэтымі* | *маімі* | *усякімі* | *якімі* |
| М. | *(аб) гэтых* | *маіх* | *усякіх* | *якіх* |

Агульнай асаблівасцю скланення займеннікаў *мой, твой свой, наш, ваш, чый, той увесь* з'яўляецца тое, што канчаткі поўных прыметнікаў яны маюць толькі ва ўскосных склонах: *майго, нашага, усяго; майму, нашаму, усяму; маім, нашым, усім.*

Займеннікі *такі, гэты, які, ніякі, каторы, кожны, усякі* паводле скланення поўнасцю супадаюць з прыметнікамі, г. зн. маюць аднолькавыя з імі канчаткі ва ўсіх склонах (і ва ўскосных, і ў назоўным): *такі, кожны; такога, кожнага; такому, кожнаму; такім, кожным.*

Займеннікі жаночага роду *мая, твая, свая, наша, ваша, гэта, тая, такая, кожная, ніякая* ў родным склоне адзіночнага ліку побач з асноўнай формай *маёй, тваёй, сваёй і пад.* маюць менш ужывальную форму *мае, твае, свае, кожнае, ніякае* і інш., якая сустракаецца пераважна ў мастацкіх творах: *Сцёпка тут вылажыў праграму свае работы* (Я. Колас); *Не сцярпеў Кандрат такое крыўды* (Я. Колас); *На варце нашае краіны сталі дружна верныя сыны* (П. Глебка).

У творным склоне займеннікі жаночага роду ўжываюцца з варыянтнымі канчаткамі: *-ой* і *-ою, -ёй* і *-ёю, -ай* і *-аю* (*такой — такою, сваёй — сваёю, гэтай — гэтаю*).

Трэба адрозніваць скланенне азначальных займеннікаў *самы, сам. Самы* скланяецца па тыпу прыметнікаў з цвёрдай асновай, прычым націск захоўваецца на аснове, *сам* скланяецца падобна прыметнікам з асновай на *г, к, х* (націск ва ўсіх формах на канчатку). У назоўным склоне адзіночнага і множнага ліку *сам* мае іменныя формы (*сам, сама, само, самі*), у астатніх — займенныя.

| Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|
| Мужчынскі і ніякі род | | Жаночы род | |
| Н. *сам* | *само* | *сама* | *самі* |
| Р. *самога* | | *самой* | *саміх* |
| Д. *самому* | | *самой* | *самім* |
| В. *самога* | *само* | *самую (-у)* | як Н. або Р. |
| Т. *самім* | | *самой (-ою)* | *самімі* |
| М. (*аб*) *самім* | | *самой* | *саміх* |
| Н. *самы* | *самае* | *самая* | *самыя* |
| Р. *самага* | | *самай (-ае)* | *самых* |
| Д. *самаму* | | *самай* | *самым* |
| В. як Н. або Р. | | *самую* | як Н. або Р. |
| Т. *самым* | | *самай (-аю)* | *самымі* |
| М. (*аб*) *самым* | | *самай* | *самых* |

Займеннік жаночага роду *сама* ў вінавальным і творным склонах мае дзве формы: *самую* і *саму, самой* і *самою*; варыянтныя формы ў родным і творным склонах мае займеннік *самая — самай* і *самае; самай* і *самаю*.

Пытальна-адносныя займеннікі *хто, што,* няпэўныя займеннікі *нехта, нешта* і адмоўныя займеннікі *ніхто, нішто* скланяюцца, як указальны займеннік *той*. Гэтыя займеннікі маюць суплетыўныя формы.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Н. *хто* | *што* | *нехта* | *нешта* | *ніхто* | *нішто* |
| Р. *каго* | *чаго* | *некага* | *нечага* | *нікога* | *нічога* |
| Д. *каму* | *чаму* | *некаму* | *нечаму* | *нікому* | *нічому* |
| В. *каго* | *што* | *некага* | *нешта* | *нікога* | *нішто* |
| Т. *кім* | *чым* | *некім* | *нечым* | *нікім* | *нічым* |
| М. (*аб*) *кім* | *чым* | *некім* | *нечым* | *ні аб кім* | *ні аб чым* |

У адмоўных займенніках *ніхто, нішто* пры скланенні націск падае на першы галосны канчатка: *нікога, нічога, нікому, нічому;* параўн.: *каго, чаго, каму́, чаму́.*

Калі пры адмоўных займенніках ва ўскосных склонах ужываецца прыназоўнік, ён ставіцца пасля адмоўнай часціцы *ні,* прычым націск у займенніках тады можа падаць на розныя склады: *ні на кога,* і *ні на*

10. Зак. 1161

*каго, ні да чога* і *ні да чаго, ні за я́кія грошы* і *ні за якія грошы.* Для літаратурнай мовы больш характэрныя формы тыпу *ні за кога, ні да чога, ні за я́кія.*

Няпэўныя займеннікі *хтосьці, штосьці, якісьці, чыйсьці, хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь, чый-небудзь, абы-хто, абы-што, абы-які, абы-чый* скланяюцца, як пытальна-адносныя займеннікі *хто, што, які, чый.*

Няпэўныя займеннікі *сёй-той, такі-сякі* скланяюцца, як указальныя займеннікі, а няпэўныя займеннікі *хто-ніхто, што-нішто, які-ніякі, чый-нічый* — як адпаведныя пытальна-адносныя і адмоўныя займеннікі. Пры скланенні змяняюцца абедзве часткі гэтых займеннікаў.

Ва ўскосных склонах пытальных, а таксама адмоўных займеннікаў з прыстаўкай *ні-*, няпэўных займеннікаў з прыстаўкай *не-* і постфіксам *-небудзь* выдзяляюцца асновы *к-, ч-* і канчаткі, падобныя на канчаткі поўных прыметнікаў мужчынскага роду ў адзіночным ліку: *каго, нікога, некага, каго-небудзь; каму, нікому, некаму, каму-небудзь; кім, нікім, некім, кім-небудзь.*

## ДЗЕЯСЛОЎ

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 231. Дзеяслоў — часціна мовы, якая абазначае дзеянне або стан і выражае іх у марфалагічных катэгорыях трывання, стану, пераходнасці — непераходнасці, зваротнасці — незваротнасці, ладу, часу і асобы. Дзеяслоў мае таксама катэгорыю ліку, а ў прошлым часе і ва ўмоўным ладзе — катэгорыю роду.

У сучаснай беларускай мове дзеяслоў мае два класы форм: спрагальныя формы і неспрагальныя формы. Спрагальнымі з'яўляюцца асабовыя формы, якія змяняюцца па асобах, часах, ладах, ліках (а ў прошлым часе і ўмоўным ладзе — і па родах). Да неспрагальных форм адносяцца: неазначальная форма дзеяслова (інфінітыў), дзеепрыметнік, дзеепрыслоўе.

Асноўная сінтаксічная функцыя дзеяслова ў сказе — функцыя выказніка: *Ранішні туман развеяўся, і ў бляклa-сінім зімовым небе ззяла белае сонца* (Я. Радкевіч); *Спатрэбіўся нейкі час, каб зразумець, што ён* [Судакоў] *стаіць каля электрастанцыі перад цаглянымі збудаваннямі і што дзверы аднаго шырока расчынены* (Я. Радкевіч). Дзеепрыметнік і інфінітыў могуць выступаць у ролі дзейніка, азначэння, дапаўнення, акалічнасці: *І вось гэтым летам, калі ў галаве Лабановіча спелі розныя праекты палепшыць людское жыццё, падняў ён раз пытанне аб грэблі сярод настаўнікаў свайго сяла* (Я. Колас); *Любіць Сцяпан пасядзець на прызбе, пасмактаць люльку* (К. Крапіва); *Як выцягнутае срэбнае вужышча з дзесяткамі, сотнямі, тысячамі прыгожа акругленых кален-нартоў, павіваецца, бы пасмейваецца на сонцы, стары наравісты Нёман у высокіх берагах, атуленых лозамі і пахучымі травамі-зеллем* (Я. Колас).

### ІНФІНІТЫЎ

§ 232. Інфінітыў (неазначальная форма дзеяслова) толькі называе дзеянне або стан прадмета, асобы, але не ўказвае на дзеючую асобу. Як і ўсе дзеяслоўныя формы, інфінітыў мае катэгорыю трывання і стану (*мыць — памыць — памыцца*), але не змяняецца па асобах і ліках, не мае форм ладу і часу. Інфінітыў мае спецыяльныя суфіксы *-ць*, *-ці* і *-чы*, якія звычайна далучаюцца да асновы прошлага часу.

Пераважная большасць дзеясловаў мае суфікс *-ць*, які далучаецца да асновы на галосны: *пісаць, трымаць, калоць, даганяць, бялець, ляцець, стукнуць, мыць, саліць* і г. д. Гэта прадуктыўны суфікс, толькі пры яго дапамозе ўтвараюцца новыя дзеясловы: *глісіраваць* 'слізгаць па вадзе', *катапульціраваць, пеpакадзіраваць, перапраграміраваць, расстыкавацца, стыкавацца, судзействаваць, трансплантаваць* і інш.

Непрадуктыўны суфікс *-ці* далучаецца да асновы, якая заканчваецца зычным гукам. Такіх дзеясловаў у беларускай мове мала: *везці, вярзці,*

*грызці, грэбці, дзерці, дзяўбці, жэрці, лезці, мерці, несці, паўзці, перці, распасцерці, расці, раўці, сапці, скрэбці, скубці, трэсці, храпці, церці, чаўпці* і вытворныя ад іх.

Заўвага 1. У вершах для захавання рыфмы або рытму дапускаецца ўжыванне некаторых дзеясловаў на *-ці*, якія маюць націск на корані, з суфіксам *-ць* (*несць, везць, лезць* і некаторыя іншыя): *А хто гэта іх, не адзін мільён, крыўду н е с ц ь наўчыў, разбудзіў іх сон?* (Я. Купала). І наадварот, інфінітывы з асновай на галосны могуць мець суфікс *-ці* (*трымаці, ткаці, браці, хадзіці* і інш.): *Бегла поле і другое, узбегла і на трэце, ды ўжо сілы не хапае далей так л я ц е ц і* (Я. Купала); *Шойку, золата, атласу б р а ц і, колькі хваце, кутасамі залатымі труну а б ч а п а ц і* (Там жа); *Сяду я і буду т к а ц і на новенькім на варштаце* (А. Гурло); *Будзіць свёкар і свякруха-маці, будзіць залувіца,— за гару ў студзёную крыніцу на дасвеццi чысту ваду б р а ц і* (В. Вітка). Але прыведзеныя вышэй формы інфінітыва ў сучаснай беларускай літаратурнай мове (не паэтычнай) лічацца парушэннем нормы.

Заўвага 2. У дзеясловах *брысці, весці, гнесці, гусці, класці, красці, месці, пасці, плесці, прасці, сесці, цвісці* с паявіўся ў выніку гістарычных чаргаванняў зубных зычных *д і т* асновы перад суфіксам *-ці* (*класці — клад-ти*, параўн. *клад-у; весці — вед-ти*, параўн. *вяд-у; месці — мет-ти*, параўн. *мят-у*). У гэтых дзеясловах з пункту погляду сучаснай мовы можна выдзяляць суфікс *-сці*. Таму па аналогіі з формамі тыпу *месці, прасці* паяўляюцца формы на *-сці* ад дзеясловаў з асновай на іншыя зычныя: *грабсці, дзяўбсці, раўсці, сапсці, скрабсці, скубсці, чаўпсці, храпсці*: *Улез аднойчы злодзей у камору — і ну г р а б с ц і без сораму й разбору ўсё, што трапіць пад руку* (У. Корбан); *Цяплынь д з я ў б с ц і на лёдзе пачала адлітымі са срэбра малаткамі* (М. Калачынскі).

Аднак ужыванне гэтых дзеясловаў з суфіксам *-сці* ў інфінітыве з'яўляецца адступленнем ад літаратурнай нормы.

Літаратурнай нормай дапускаецца толькі ўжыванне варыянтных форм інфінітыва *плысці* і *плыць, гнісці* і *гніць*. Абодва варыянты засведчаны ў мове мастацкай літаратуры: *Усё роўна трэба будзе п л ы с ц і да берагу* (Полымя, 1972); *П л ы с ц і па канале* (Б. Сачанка); *Можна п л ы ц ь і п л ы ц ь* (Маладосць, 1972); *І вось прыйшло збавенне. Досыць г н і с ц і ў зямлі сырой* (Л. Дайнека); *Бярвенне пачало ўжо гніць, кара пакрылася зялёным мохам* (Я. Брыль). Але перавага аддаецца формам *плысці, гнісці*.

Суфікс *-чы*, які ўзнік у выніку фанетычных змен канцавых зычных *г, к* асновы перад суфіксам інфінітыва *-ти*, мае невялікая колькасць дзеясловаў: *бегчы, берагчы, валачы, легчы, магчы, прэгчы, пячы, секчы* (*сячы*), *стрыгчы, сцерагчы, таўчы, урачы, цячы*.

У дзеясловах з асновай на заднеязычны *к* суфікс *-чы*, як правіла, пад націскам. Толькі форма *секчы*, якая ўжываецца побач з *сячы*, захоўвае перад суфіксам зычны *к* і націск перамяшчаецца на корань. Формы ж тыпу *пекчы, цекчы*, якія часам сустракаюцца ў пісьмовай практыцы і ў гутарковай мове, з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы. Напрыклад: *Практыканты вучыліся п е к ч ы хлеб* (Вячэрні Мінск, 1969).

## МАРФАЛАГІЧНЫЯ КАТЭГОРЫІ ДЗЕЯСЛОВА

### *Катэгорыя трывання*

§ 233. Дзеянне, працэс, якія абазначаны дзеясловам, могуць быць абмежаваны пачаткам, канцом, вынікам або не мець такога абмежавання. Дзеясловы, у якіх заключана ўказанне на абмежаванне дзеяння, яго вынік, прынята называць дзеясловамі закончанага трывання: *прачытаць, прыйсці, стукнуць, насыпаць*. Дзеясловы, якія не маюць указання на вынік дзеяння, закончанасць, мяжу, а толькі абазначаюць працягласць, працяканне, паўтаральнасць дзеяння, называюцца дзеясловамі незакончанага трывання: *хадзіць, размахваць, ехаць, адкрываць, пастукваць* і пад.

У залежнасці ад трывання дзеясловы маюць розныя па складу парадыгмы: дзеясловы закончанага трывання — формы будучага простага часу і дзеепрыметнікі прошлага часу; дзеясловы незакончанага тры-

вання — формы цяперашняга і будучага складанага часу і дзеепрыметнікі цяперашняга і прошлага часу:




§ 234. Дзеясловы закончанага і незакончанага трывання, лексічнае значэнне якіх супадае, утвараюць трывальныя пары. Такія дзеясловы адрозніваюцца толькі граматычна, г. зн. дэрывацыйныя (утваральныя) сродкі змяняюць толькі граматычнае, трывальнае значэнне дзеяслова, не закранаючы яго лексічнага значэння: *аддаваць — аддаць, рашаць — рашыць, пісаць — напісаць, мыць — вымыць, паласкаць — выпаласкаць, вячэраць — павячэраць, чытаць — прачытаць, спісваць — спісаць* і г. д.

Заўвага. Адзначаюцца выпадкі, калі дзеясловы закончанага і незакончанага трывання трывальных пар не складаюць, паколькі іх лексічнае значэнне неідэнтычнае: *чытаць — перачытаць* 'прачытаць яшчэ раз', 'прачытаць усё'; *пісаць — распісаць* 'перанесці на карткі, лісты', 'размалёўваць', 'расказаць аб чым-небудзь'; *трымаць — вытрымаць* 'перанесці выпрабаванне'.

## Спосабы ўтварэння трывальных пар

§ 235. Найбольш частым сродкам утварэння трывальных пар з'яўляюцца прыстаўкі і суфіксы. Дзеясловы закончанага трывання ўтвараюцца ад беспрыставачных дзеясловаў пры дапамозе прыставак і ў некаторых выпадках пры дапамозе суфікса *-ну-*. Дзеясловы незакончанага трывання ўтвараюцца ад прыставачных дзеясловаў пры дапамозе суфіксаў. Невялікая колькасць дзеясловаў трывальныя пары ўтварае шляхам чаргавання галосных або зычных гукаў у корані, шляхам пераходу націску, ад суплетыўных асноў.

§ 236. У беларускай мове пры дапамозе прыставак *а- (аб-), ад-, з- (с-, са-), за-, вы-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, раз-, у-, уз-* утвараюцца дзеясловы закончанага трывання ад дзеясловаў незакончанага трывання. Адны прыстаўкі з'яўляюцца прадуктыўнымі (*а-, аб-, ад-, з-, с-, са-, на-, па-*), іншыя могуць утвараць трывальную пару толькі ад абмежаванай колькасці дзеясловаў (*за-, вы-, пра-, раз-, у-, уз-, пры-, пера-, пад-*). Напрыклад: *пусцець—апусцець, слепнуць—аслепнуць, сядлаць—асядлаць, рваць — адарваць, рэзаць — адрэзаць, цвісці — адцвісці,варыць — зварыць, касіць — скасіць, млець — самлець, тайчы — стайчы, хаваць — схаваць, крухмаліць — накрухмаліць, маляваць — намаляваць, церці — нацерці, вастрыць — павастрыць, даіць — падаіць, радаваць — парадаваць, сівець — пасівець, стагнаць — застагнаць, мыць — вымыць, рваць — вырваць, дыктаваць — прадыктаваць, сігналіць — прасігналіць, спяваць — праспяваць, чытаць — прачытаць, нумараваць — пранумараваць, будзіць—разбудзіць, дзяліць — раздзяліць, драбіць — раздрабіць, трывожыць — растрывожыць, вязнуць — увязнуць, камплектаваць — укамплектаваць, парадкаваць — упарадкаваць, пільнаваць — упільнаваць, несці — прынесці, зімаваць — перазімаваць.*

§ 237. Пры дапамозе суфіксаў утвараюцца дзеясловы закончанага трывання ад дзеясловаў незакончанага трывання і дзеясловы незакончанага трывання ад прыставачных дзеясловаў закончанага трывання.

1. Ад дзеясловаў незакончанага трывання з суфіксам *-а-* ўтвараюцца дзеясловы закончанага трывання пры дапамозе суфікса *-ну-*, якія часта

надае дзеясловам значэнне аднакратнасці дзеяння, яго імгненнасці: *булькаць — булькнуць, грукаць — грукнуць, дзьмухаць — дзьмухнуць, калупаць — калупнуць, ківаць — кіўнуць, крычаць — крыкнуць, лізаць — лізнуць, маргаць — маргнуць, махаць — махнуць, ныраць — нырнуць, рэзаць — рэзнуць, стукаць — стукнуць, фыркаць — фыркнуць, чмыхаць — чмыхнуць, яўкаць — яўкнуць.* А таксама *калоць — кальнуць, паліць — пальнуць, пароць — парнуць.*

У некаторых дзеясловах у злучэннях *ск, зг, ст, рт, пт* другі зычны перад суфіксам *-ну-* выпадае, напрыклад: *бліскаць — бліснуць, лускаць — луснуць, пляскаць — пляснуць, бразгаць — бразнуць, свістаць — свіснуць, звяртаць — звярнуць, шаптаць — шапнуць.*

У часткі дзеясловаў закончанага трывання з суфіксам *-ну-*, утвораных ад прыставачных дзеясловаў незакончанага трывання з суфіксам *-а-*, якія абазначаюць стан прадмета, значэнне аднакратнасці, імгненнасці дзеяння адсутнічае: *адмакаць — адмокнуць, вымярзаць — вымерзнуць, высыхаць — высахнуць, задыхацца — задыхнуцца, навісаць — навіснуць, наліпаць — наліпнуць, пракісаць — пракіснуць, раскісаць — раскіснуць* і г. д.

У некаторых дзеясловах замест суфікса *-ну-* ўжываецца яго варыянт *-ану- (-яну-)*, які надае дзеясловам адценне хуткага, энергічнага дзеяння: *сцёбнуць — сцебануць, кусцуць — кусануць, хапнуць — хапануць, дрыгнуць — дрыгануць, сыпнуць—сыпануць, скокнуць—скакануць* і інш.

Для часткі дзеясловаў утварэнні з суфіксам *-ану- (-яну-)* з'яўляюцца адзіна магчымымі: *сігаць — сігануць, сказаць — сказануць (прастам.), скрабаць — скрабануць, слізгаць — слізгануць, таўхаць — таўхануць, чыркаць — чыркануць, чэрпаць — чарпануць, шыбаць—шыбануць* і інш.

Па аналогіі з такімі дзеясловамі суфіксы *-ну-, -ану- (-яну-)* паяўляюцца ў дзеясловах, якія ў інфінітыве не маюць суфікса *-а-*, напрыклад: *грэбці — грабянуць, круціць — крутнуць, крутануць, лупіць — лупянуць, трэсці — трасянуць* і інш.

2. Значная частка трывальных пар утвараецца шляхам чаргавання суфіксаў *-і- (-ы-)* і *-я- (-а-)*: *адступіць — адступаць, выдзеліць — выдзяляць, заўважыць — заўважаць, паскорыць — паскараць.*

Суадносныя трывальныя пары ўтвараюць дзеясловы закончанага трывання на *-чы, -ці* і дзеясловы незакончанага трывання з суфіксам *-а-*: *абсячы — абсякаць, адрачыся — адракацца, дапамагчы — дапамагаць, выцерці — выціраць, накласці — накладаць, растрэсці — растрасаць.*

Суфікс *-ва-* выкарыстоўваецца для ўтварэння дзеясловаў незакончанага трывання ад прыставачных дзеясловаў:

а) з суфіксам *-а-*: *абматаць — абмотваць, аваладаць — авалодваць, замазаць — замазваць, звязаць — звязваць, намуляць—намульваць, разрэзаць — разрэзваць, расказаць — расказваць* і г. д.;

б) з суфіксам *-і-(-ы-)*: *адмарозіць — адмарожваць, высадзіць — высаджваць, заквасіць—заквашваць, запрасіць—запрошваць, наладзіць—наладжваць, падсініць — падсіньваць* і г. д.;

в) з суфіксам *-е-(-э-)*: *пераадолець — пераадольваць, захварэць — захворваць* і г. д.;

г) на *-чы, -ці*: *накласці — накладваць, наскрэбці — наскрэбваць, наскубці — наскубваць;*

д) на *-аро-, -ало-*: *падпароць — падпорваць, дапалоць — даполваць, намалоць — намолваць;*

е) з суфіксам *-ну-*, якія абазначаюць аднакратнае дзеянне: *абмахнуцца — абмахвацца, выкінуць — выкідваць, выцягнуць — выцягваць, закінуць — закідваць, спаласнуць — спалосквацъ* і г. д.

Дзеясловы, якія ў закончаным трыванні перад суфіксамі *-і-, -а-* мелі

*j*, захоўваюць яго і перад суфіксам *-ва-*: *адкроіць — адкройваць, засеяць — засейваць, навеяць — навейваць, падвоіць — падвойваць, удастоіць — удастойваць.*

Варыянт суфікса *-ва-* суфікс *-іва- (-ыва-)* выкарыстоўваецца пры ўтварэнні незакончанага трывання ад дзеясловаў:

а) на *-і- (-ы-)*: *адпіць — адпіваць, абвугліць — абвугліваць, вылавіць — вылоўліваць;*

б) якія перад суфіксам *-і-* маюць губныя *б, м, п, в*, што чаргуюцца з *бл, мл, пл, ўл*: *зарубіць — зарубліваць, прыгубіць — прыгубліваць, скарміць — скормліваць, абумовіць — абумоўліваць.*

Пры дапамозе суфікса *-оўва-* ўтвараецца незакончанае трыванне ад невялікай колькасці прыставачных дзеясловаў на *-а-*: *аб'яднаць — аб'ядноўваць, падслухаць — падслухоўваць, парайнаць—парайноўваць, выкарыстаць — выкарыстоўваць* і інш.

Суфікс *-ёўва-*, які з'яўляецца таксама паказчыкам незакончанага трывання, прадстаўляе сабой кантамінацыю словаўтваральнага суфікса *-яв-* і трывальнага *-ва-*: *абгабляваць — абгаблёўваць, абсталяваць — абсталёўваць, размаляваць — размалёўваць* і г. д.

§ 238. Ад большасці дзеясловаў закончанага трывання формы незакончанага трывання ўтвараюцца пры дапамозе аднаго з вышэй пералічаных суфіксаў. Аднак ёсць выпадкі, калі ад аднаго і таго ж дзеяслова форма незакончанага трывання ўтвараецца пры дапамозе двух суфіксаў, напрыклад *-а-* і *-ва- (-іва-, -ыва-)* або *-оўва*:

*абляпіць* — *абляпляць* / *аблепліваць*

*адшчапіць* — *адшчапляць* / *адшчэпліваць*

*аскрэбці* — *аскрабаць* / *аскрэбваць*

*атрымаць* — *атрымліваць* / *атрымоўваць*

*атрэсці* — *атрасаць* / *атрэсваць*

*запрасіць* — *запрашаць* / *запрошваць*

*накласці* — *накладаць* / *накладваць*

*падлічыць* — *падлічаць* / *падлічваць*

*падслухаць* — *падслухваць* / *падслухоўваць*

Формы незакончанага трывання з суфіксам *-а- (-я-)* лічацца кніжнымі, формы з суфіксамі *-ва- (-іва, -ыва-), -оўва-* пераважаюць у гутарковай мове.

У сучаснай беларускай літаратурнай мове назіраецца тэндэнцыя да пашырэння формы з суфіксам *-ва-*: *Але егер па-ранейшаму звычна адмерваў крок за крокам* (Родная прырода, 1974); *І міжволі гледзячы на старажытную птушку, суцішваешся* (Там жа); *У сярэднім адзін легкавы аўтамабіль выкідвае за гадзіну каля трох кубічных метраў вугляроду* (Там жа); *Сам усеўся верхам на страсе і акрэбвае, абівае гліну з цаглін* (П. Місько); *Нават калі хто з нас парушаў дысцыпліну ці не вывучваў урока,* [настаўнікі] *не спяшаліся караць, ставіць двойкі* (Б. Сачанка).

Пры ўтварэнні форм незакончанага трывання пры дапамозе суфіксаў *-а- (-я-), -ва- (-іва-, -ыва-), -оўва- (-ёўва-)* у аснове дзеяслова можа адбывацца ўзнаўленне этымалагічных галосных *е, э, о,* якія аказваюцца пад націскам: *выразаць — вырэзваць* (параўн. *рэзаць*), *вытрасці — вытрэсваць* (параўн. *трэсці*), *забяліць—забельваць* (параўн. *беліць, бель*), *залячыць — залечваць* (параўн. *лечыць*), *умяшацца — умешвацца* (параўн. *мешань*). Этымалагічнае *е* пад націскам можа пераходзіць у *ё*: *выхлебаць — выхлёбваць, выдзеўбаць — выдзёўбваць* і інш.; *абзваніць— абзвоньваць* (параўн. *звон, звоніць*), *абламаць — абломваць* (параўн. *ломіць*), *выканаць — выконваць* (параўн. *выконвае*), *падсаліць — падсольваць* (параўн. *соль, соліць*) і інш.

У дзеясловах незакончанага трывання, якія ўтвораны ад дзеясловаў закончанага трывання з асновай на *і*, а таксама ад некаторых дзеясловаў з асновай на *е, а,* адбываюцца чаргаванні зычных:

*дз — дж:*
*забрудзіць — забруджваць, загарадзіць — загароджваць, наладзіць — наладжваць, падгледзець — падгледжваць, прадугледзець — прадугледжваць;*

*с — ш:*
*вынасіць — выношваць, выпрасіць — выпрошваць, замясіць — замешваць;*

*ц — ч:*
*завярцець — заверчваць, затраціць — затрачваць, расплаціцца — расплачвацца;*

*сц — шч:*
*вырасціць — вырошчваць, намасціць — намошчваць.*

Губныя зычныя чаргуюцца са спалучэннямі 'губны + *л*': *атрымаць — атрымліваць, адтапіць — адтопліваць, улавіць — улоўліваць* і г. д.

У некаторых дзеясловах са звязанай асновай адбываюцца чаргаванні *-а- (-я-)* і *-ім- (-ым-)* або *-ін- (-ын-)*: *падняць — паднімаць, разняць — разнімаць, абмяць — абмінаць, зажаць — зажынаць.*

§ 239. Ёсць невялікая колькасць дзеясловаў, якія ўтвараюць трывальныя пары толькі шляхам чаргавання ў аснове.

Нуль гука чаргуецца з *і, ы*: *адаслаць — адсылаць, забраць — забіраць, назваць — называць, падаслаць — падсцілаць, сабраць — сабіраць* і інш.

Трывальныя пары могуць утварацца пры дапамозе пераходу націску: *адкідаць — адкідáць, адмéраць — адмярáць, вы́клікаць — выклікáць, вы́мераць — вымярáць, вы́разаць — выразáць, накідаць — накідáць, раскідаць — раскідáць, рассы́паць — рассыпáць.*

Нязначная колькасць трывальных пар утвараецца суплетыўным шляхам: *аблажыць — абкладваць, легчы—класціся, сказаць—гаварыць, узяць — браць, увайсці — уваходзіць, шукаць — знайсці.*

### Двухтрывальныя дзеясловы

§ 240. У частцы дзеясловаў трывальнае значэнне спецыяльнымі паказчыкамі не выражана. Такія дзеясловы могуць быць ужыты як у значэнні закончанага, так і ў значэнні незакончанага трывання. Гэта так званыя двухтрывальныя дзеясловы. У пераважнай большасці яны ўтвораны ад запазычаных асноў пры дапамозе суфіксаў *-ава-* (*-ява-*), *-ізава-* (*-ызава-*), *-ірава-*: *адрасаваць, арандаваць, рапартаваць, сіласаваць, тытулаваць; актывізаваць, вітамінізаваць, вулканізаваць; гафрыраваць, матываваць, прэміраваць* і шмат іншых, а таксама: *абяцаць, азімізаваць, ваенізаваць, даследаваць, дараваць, даравацца, жаніць, прапанаваць, раніць* і інш.

Значэнне закончанасці або незакончанасці дзеяння ўстанаўліваецца з кантэксту і пры дапамозе суседніх дзеясловаў, якія маюць фармальнае выражэнне трывання: *Вы толькі к а н с т а т у е ц е факты, і то ледзь паспяваеце* (У. Шахавец); *Яе* [эпідэмію] *трэба спыніць, л і к в і д а в а ц ь* (А. Маўзон); *Давайце б л а к і р у е м гэтую Воўчую граду і зробім там усё, як належыць* (М. Паслядовіч); *У паўзмроку Мацуту цяжка было а р ы е н т а в а ц ц а ў мясцовасці* (В. Вольскі); *Ведаеце, нядаўна нашу вуліцу а с ф а л ь т а в а л і, дык ён цэлы дзень усё наглядаў* (Р. Няхай); *У пісьме было некалькі ўказанняў: не аслабляць работы на зімні час.., не заседжвацца залішне ў лясах, а к т ы в і з а в а ц ь баявую работу* (М. Лынькоў); *Калгасы працягваюць с п е ц ы я л і з а в а ц ь свае сады на вытворчасці абрыкосаў* (Звязда, 1959). Часам кантэкст не дае магчымасці вызначыць трыванне дзеяслова, тады трывальнае значэнне нейтралізуецца, напрыклад: *Ніяк н е р э а г а в а ў ён на жарт* (І. Шамякін); *Чуткі аб дзейнасці партызан а к т ы в і з а в а л і народ* (Там жа); *Кожны па-свойму р э а г а в а ў на яго адважны ўчынак* (З. Бядуля).

У спалучэнні з фазавымі дзеясловамі *пачаць, кончыць, стаць* разглядаемыя дзеясловы маюць толькі значэнне незакончанага трывання: *пачну рэагаваць, пачаў авансаваць, кончыў авансаваць, стаў рэагаваць.*

§ 241. Некаторыя двухтрывальныя дзеясловы могуць утвараць трывальную пару пры дапамозе 1) прыставак *за-, з-, а-, ад-, пра-* і некаторых іншых: *арандаваць — заарандаваць, асфальтаваць — заасфальтаваць, блакіраваць — заблакіраваць, інфармаваць—праінфармаваць, камандзіраваць — адкамандзіраваць, ліквідаваць — зліквідаваць, характарызаваць — ахарактарызаваць* і інш.; 2) суфіксаў: *прапанаваць — прапаноўваць, рэалізаваць — рэалізоўваць.*

Відаць, гэты працэс у жывой мове працягваецца, таму што ў пісьмовай мове адзначаны трывальныя пары дзеясловаў, якія ў Беларуска-рускім слоўніку (1962) і ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы падаюцца толькі як двухтрывальныя: *Напэўна Арлоў не зразумеў гумару і ніяк н е а д р э а г а в а ў* (У. Федасеенка) — у БРС і ТСБМ *рэагаваць* зак. і незак.; *сам л і к в і д о ў в а ў непаладкі* (П. Кавалёў); *Будзем л і к в і д о ў в а ц ь непісьменнасць, вывучаць тэхніку* (Х. Жычка) — у БРС і ТСБМ *ліквідаваць* зак. і незак.; *Узнімайся народ, м а б і л і з о ў в а ў сябе на выкананне грандыёзных задач* (Работніца і сялянка, 1969); *Небяспека м а б і л і з о ў в а л а душэўныя сілы, прымушала дзейнічаць* (У. Шыцік) — у БРС і ТСБМ *мабілізаваць* зак. і незак.

### Аднатрывальныя дзеясловы

§ 242. Некаторыя дзеясловы не ўтвараюць трывальных пар, г. зн. існуюць дзеясловы толькі закончанага або толькі незакончанага трывання. Гэта залежыць або ад лексічнага значэння дзеясловаў, або ад іх структурных асаблівасцей. Такія дзеясловы называюцца аднатрывальнымі.

Дзеясловаў закончанага трывання, якія не маюць адпаведных дзеясловаў незакончанага трывання з тым жа лексічным значэннем, у беларускай мове нямнога. Значэнне закончанасці ў аднатрывальных дзеясловах звязана з часавай мяжой дзеяння, яго вынікам. Звычайна такія дзеясловы маюць значэнне імгненнага дзеяння ці працэсу і выключаюць паняцце працягласці, напрыклад: *абнародаваць, адкаснуцца, грымнуць, спатрэбіцца, страпянуцца, расплакацца, рвануцца, рынуць, рынуцца, сурочыць, хлынуць* і некаторыя іншыя.

Некаторыя дзеясловы маюць значэнне цэласнасці працэсу: *нагулящца, наглядзецца, пабегаць, павойкаць* і інш.

Дзеясловы, якія абазначаюць пастаяннасць, бесперапыннасць дзеяння або маюць дадатковае значэнне мнагакратнасці, перапынку ў дзеянні, бываюць толькі незакончанага трывання, напрыклад: *дзейнічаць, залежаць, супрацоўнічаць, удзельнічаць, загадваць* (кіраваць), *недамагаць, нездаровіцца, адсутнічаць, пераважаць, падразумяваць, прадбачыць, прадчуваць, папярэднічаць, праследаваць, прысутнічаць, расхаджваць, адпавядаць, спаборнічаць, каштаваць* (мець цану), *заляцацца, чаргавацца, ганарыцца, галадаць, дзівыцца, замінаць, аднеквацца, пагладжваць, пашчыпваць, падпяваць, перастуквацца, прытупваць, разгульваць* і некаторыя іншыя.

Не ўтвараюць форм закончанага трывання дзеясловы, якія выконваюць функцыю звязкі: *быць, даводзіцца, значыць, з'яўляцца, лічыцца,* а таксама мадальныя дзеясловы: *жадаць, спадзявацца, хацець, хацецца.*

### Пераходныя і непераходныя дзеясловы

§ 243. Усе дзеясловы ў залежнасці ад адносін дзеяння да аб'екта падзяляюцца на пераходныя і непераходныя. Пераходнымі называюцца дзеясловы, якія выражаюць дзеянне, што непасрэдна або ўскосна пераходзіць на другі прадмет: *пабудаваць дом, чытаць кнігу, правесці дыспут, з'есці хлеба, кіраваць гуртком.*

Дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, што непасрэдна пераходзіць на другі прадмет, называюцца прама-пераходнымі. Такія дзеясловы звычайна кіруюць вінавальным склонам назоўніка без прыназоўніка. У сказе дзейнік пры такім дзеяслове абазначае суб'ект дзеяння, а назоўнік у вінавальным склоне — аб'ект таго ж дзеяння: *Хлопчык адчыніў дзверы; Маці рыхтавала вячэру; Вучань пісаў сачыненне.*

Некаторыя дзеясловы ў якасці прамога аб'екта могуць мець пры сабе назоўнік у родным склоне. Гэта залежыць ад марфалагічных якасцей або словаўтваральнай структуры дзеяслова.

Напрыклад, дзеясловы *хацець, прагнуць, жадаць, клянчыць, канькаць* і пад., якія абазначаюць жаданне, просьбу, патрабуюць ад назоўніка формы роднага склону: *хацець вады, жадаць міру;* беспрыставачныя дзеясловы *купляць, збіраць* кіруюць вінавальным склонам (*купляць ягады, збіраць ягады*), а прыставачныя *накупляць, назбіраць* патрабуюць формы роднага склону (*накупляць ягад, назбіраць ягад*).

Родны склон ужываецца і тады, калі ў якасці аб'екта выступае толькі частка прадмета (*выпіць вады, прыслаць яблыкаў, папрасіць хлеба, пазычыць грошай, дастаць мёду, адрэзаць сала, з'есці супу* і г. д.) або калі пры дзеяслове ёсць адмоўе *не* (*не прачытаў кнігі, не прынёс малака, не даслухаў лекцыі*).

Калі пры дзеяслове ёсць адмоўе *не,* назоўнік можа часам ужывацца і ў форме вінавальнага склону: *не прачытаў кнігу, не даслухаў лекцыю; Не папусціць у крыўду славу, славу ды свабоду* (Я. Купала).

Форма роднага склону назоўніка ў значэнні прамога аб'екта ўжываецца і пры дзеясловах *даць, браць, прасіць* і пад., калі маецца на ўвазе,

што прадмет, прылада бярэцца, даецца, просіцца на нейкі час, а не назаўсёды: *дай нажа, папрасіў карандаша, узяў на дзень веласіпеда.*

§ 244. Дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, што ўскосна пераходзіць на прадмет, называюцца ў с к о с н а-п е р а х о д н ы м і. Пры такіх дзеясловах аб'ект дзеяння выражаецца назоўнікамі ва ўскосных склонах з прыназоўнікамі або без прыназоўнікаў, апрача вінавальнага склону без прыназоўніка: *махаць рукамі, гуляць у шахматы, сябраваць з таварышам.*

§ 245. Н е п е р а х о д н ы м і называюцца дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, не накіраванае на аб'ект. Гэтыя дзеясловы абазначаюць стан асобы ці прадмета, пастаянную яго характарыстыку, якасць, прадстаўленую як дзеянне: *бялець, вянуць, маладзець, дырэктарстваваць, настаўнічаць, старшынстваваць.*

Катэгорыя пераходнасці — непераходнасці ўласціва асабовым формам дзеяслова, інфінітыву, дзеепрыметнікам і дзеепрыслоўям: *чытаю кнігу, чытаюць кнігу, чытаць кнігу, чытаючы кнігу, прачытаўшы кнігу.*

Катэгорыя пераходнасці — непераходнасці не мае спецыяльнага марфалагічнага выражэння, калі не лічыць постфікса *-ся,* прыбаўленне якога да пераходнага дзеяслова пераводзіць яго ў непераходны: *пераглядаць — пераглядацца, раздаваць — раздавацца.*

Але ёсць выпадкі, калі зваротны дзеяслоў можа мець пры сабе прамое дапаўненне, напрыклад: *І як гэта ён рукавіцы з а б ы ў с я?* (Я. Брыль); *З а б ы ў с я дарогу на свой парог* (У. Паўлаў).

Дабаўленне прыставак да некаторых непераходных дзеясловаў змяняе іх лексічнае значэнне і пераводзіць у разрад пераходных: *бегчы — ababегчы знаёмых, ваяваць — заваяваць давер'е, жыць — пераҗыць вайну, ісці — абысці лужыну, ляжаць — адлежаць руку, плысці — пераплысці рэчку, працаваць — запрацаваць адпачынак, сядзець — адсядзець нагу, хадзіць — пераходзіць дарогу.*

§ 246. Абсалютнай мяжы паміж пераходнымі і непераходнымі дзеясловамі няма. У сувязі з семантыкай адзін і той жа дзеяслоў можа быць пераходным або непераходным. Так, дзеясловы *вабіць, зарабляць, пісаць, радаваць, чытаць* і іншыя ў залежнасці ад семантыкі могуць выступаць як пераходныя або непераходныя. Калі пры дзеясловах, якія могуць быць пераходнымі, аб'ект адсутнічае і нават не можа падразумявацца, тады дзеясловы страчваюць значэнне пераходнасці і абазначаюць пастаянную прымету дзеючай асобы ці прадмета: *пець песню — умець пець, чытаць кнігу — ён ужо ўмее чытаць, пісаць пісьмо — ён навучыўся пісаць* і г. д. У такіх выпадках увага канцэнтруецца на самім працэсе, які абстрагуецца ад аб'екта.

### *Зваротныя і незваротныя дзеясловы*

§ 247. У залежнасці ад адносін дзеяння, выражанага дзеясловам, да суб'екта дзеясловы падзяляюцца на зваротныя і незваротныя. З в а р о т н ы я дзеясловы абазначаюць дзеянні, працэсы, якія накіраваны на сам суб'ект і сканцэнтраваны ў самім суб'екце. Зваротныя дзеясловы ўтвараюцца пры дапамозе постфікса *-ся,* які далучаецца да дзеяслоўнай формы. Калі постфікс *-ся* далучаецца да інфінітыва на *-ць* або да форм 3-яй асобы адзіночнага ці множнага ліку, то ён пераходзіць у *-ца: мыць — мыцца, мые — мыецца, мыюць — мыюцца.* У астатніх выпадках захоўваецца *-ся: мыю — мыюся, мыеш — мыешся, мыем — мыемся, мыеце — мыецеся, мыў — мыўся, мыла — мылася, мылі — мыліся, мый — мыйся, мыйце — мыйцеся, мыючы — мыючыся.*

Форма 3-яй асобы адзіночнага ліку ад зваротных дзеясловаў закончанага трывання *ўдацца, прыдацца, здацца, прыесціся, наесціся* канчаецца на *-ца: здасца, наесца, прыдасца, прыесца, удасца*.

Зваротныя дзеясловы могуць часам мець постфікс *-сь: А чаго ж, чаго з а х а ц е л а с ь ім, пагарджаным век, ім, сляпым, глухім? — Людзьмі звацца* (Я. Купала); *Каб не г н у л і с ь, як цяпер* (Я. Колас). Такія формы ўжываліся раней і зрэдку ўжываюцца цяпер у вершаваных творах для захавання рыфмы або рытму верша і не з'яўляюцца ў наш час літаратурнай нормай.

Асноўная колькасць зваротных дзеясловаў утвараецца ад прамапераходных: *прычасаць — прычасацца, вымыць — вымыцца, убачыць — убачыцца, запісаць — запісацца* і г. д. Зваротныя дзеясловы могуць утварацца і ад некаторых непераходных дзеясловаў. Такія дзеясловы набываюць дадатковыя адценні значэння або новыя значэнні ў параўнанні з адпаведным непераходным незваротным дзеясловам. Далучэнне постфікса *-ся* да непераходнага дзеяслова можа прыдаваць дзеяслову адценне інтэнсіўнасці, сканцэнтраванасці дзеяння: *грукаць — грукацца, званіць — званіцца, стукаць — стукацца*. Напрыклад: *Але рука ўжо сама г р у к а е ў дзверы* (Р. Сабаленка); *Г р у к а ў с я снежань касцяною нагою* (П. Броўка); *Вясна ўжо г р у к а е ц ц а ў нашы дзверы — гэта вядома* (А. Кулакоўскі); *С т у к а л а с я, с т у к а л а с я яна ў дзверы, пакуль нехта адчыніў* (З. Бядуля).

У некаторых выпадках постфікс *-ся* толькі фармалізуе значэнне непераходнасці: *блукаць — блукацца, бялець — бялецца, выветраць — выветрацца, глядзець — глядзецца, зачырванець — зачырванецца, злаваць — злавацца, змеркнуць — змеркнуцца, карыстаць — карыстацца, прагаладаць — прагаладацца, пытаць — пытацца, сінець — сінецца, спяшаць — спяшацца, струменіць — струменіцца, цямнець — цямнецца, чарнець — чарнецца, чырванець — чырванецца* і інш. *Дзень а б я ц а ў быць пагодным* (А. Асіпенка); *Другі раз а б я ц а ў с я ён прыйсці з гітарай* (Я. Колас); *Зачытаецца і з а б у д з е пра ўсё на свеце* (А. Пальчэўскі); *А праз нейкі час з а б ы ў с я на сваю згоду* (А. Якімовіч); *А там, дзе сон, на цёмным небасхіле, б я л е е ў шэрані аснежаны Эльбрус...* (П. Трус); *Снег б я л е е ц ц а ў вышынях, на гары, на стромкай скале* (Я. Купала); *Мы сярод лета па лесе б л у к а е м — рэха пужаем* (М. Рудкоўскі); *Тысячамі б л у к а л і с я па дарозе сяляне* (З. Бядуля); *У прасветы паміж хмарамі г л я д з я ц ц а зоркі* (Звязда, 1973).

Шэраг дзеясловаў з постфіксам *-ся* мае безасабовае значэнне: *думаць — думацца, дыхаць — дыхацца, ікаць — ікацца, працаваць — працавацца, спаць — спацца, спяваць — спявацца, стаяць — стаяцца, сядзець — сядзецца*.

Усе гэтыя дзеясловы выражаюць духоўны або фізічны стан чалавека, які ён перажывае незалежна ад сваёй волі. Многія з іх часцей ужываюцца з адмоўнай часціцай *не*.

Непераходныя дзеясловы закончанага трывання ў злучэнні з постфіксам *-ся* і прыстаўкай *ад-* маюць значэнне спынення дзеяння: *адаспацца, адваявацца, адвітацца, ад'ехацца, адраіцца, адслужыцца, адступіцца, адсядзецца* і інш.

Непераходныя дзеясловы з прыстаўкай *вы-, да-, на-* і некаторымі іншымі пры далучэнні постфікса *-ся* маюць значэнне інтэнсіўнага дасягнення выніку для самога суб'екта: *вылежацца, выплакацца, выседзецца, выспацца, дазваніцца, дасядзецца, дастукацца, датанцавацца, набегацца, накрычацца, намерзнуцца, наплакацца, напрацавацца, насядзецца*.

З прыстаўкамі *за-, у-* непераходныя дзеясловы з постфіксам *-ся* ма-

юць значэнне інтэнсіўнасці, напружанасці дзеяння: *забегацца, заслухацца, засядзецца, удумацца, услухацца.*

У злучэнні з прыстаўкай *раз-* і постфіксам *-ся* непераходныя дзеясловы маюць значэнне дзеяння, якое працякае з асаблівай інтэнсіўнасцю: *развішчацца, разгаварыцца, разгуляцца, раздурэцца, разраўціся, раскрычацца.*

Ёсць група зваротных дзеясловаў, якія не маюць суадносных незваротных дзеясловаў. Яны абазначаюць замкнутасць, засяроджанасць дзеяння ў самім вытворцы дзеяння: *баяцца, ганарыцца, здарыцца, змагацца, змяркацца, ленавацца, надзеяцца, нездаровіцца, прачнуцца, смяяцца, старацца, сумнявацца.*

### Катэгорыя стану

§ 248. Граматычная катэгорыя стану выражае адносіны паміж дзеяннем і суб'ектам дзеяння, а таксама паміж дзеяннем і аб'ектам дзеяння. Дзеянне можа быць актыўна накіравана на які-небудзь прадмет або асобу (г. зн. на аб'ект дзеяння): *пішу пісьмо, збіраю ягады, люблю сястру.* Дзеясловы, якія абазначаюць такое дзеянне, з'яўляюцца прамапераходнымі і адносяцца да незалежнага стану. У сказе пры дзеяслове незалежнага стану суб'ект з'яўляецца дзейнікам: *Лабановіч апусціў акно і ўдыхаў празрыстае паветра, ачышчанае навальніцаю* (Я. Колас).

Да залежнага стану адносяцца дзеясловы, утвораныя ад прамапераходных дзеясловаў шляхам далучэння постфікса *-ся.* Дзеясловы залежнага стану абазначаюць дзеянне, утворанае граматычным аб'ектам і накіраванае на граматычны суб'ект.

Такім чынам, у залежных канструкцыях асоба або прадмет, якія выступаюць у ролі дзейніка, самі не ўтвараюць дзеяння, а толькі падвяргаюцца ўздзеянню з боку актыўнага ўтваральніка дзеяння: *Песня выконваецца самадзейным артыстам; Ашчэ з зечара неба з паўднёвага боку засценьвалася дымнаю павалокаю лёгкіх воблакаў* (Я. Колас).

Як відаць з прыкладаў, словы, якія абазначаюць рэальнага ўтваральніка дзеяння, маюць форму творнага склону. У такіх канструкцыях значэнне залежнасці праяўляецца вельмі выразна. Пры адсутнасці творнага склону значэнне залежнасці аслабляецца або зусім ліквідуецца: *Навіны ж аб ганусанскіх падзеях перадаваліся з хаты ў хату і глыбока захаплялі ўсіх і хвалявалі* (Я. Колас); *Па радыё перадавалася новая песня; Прамтаварныя магазіны адкрываюцца ў дзесяць гадзін; Дзверы адкрываюцца лёгка.*

Часцей за ўсё ў залежных канструкцыях ужываюцца формы 3-яй асобы дзеясловаў незаконачанага трывання. Значэнне залежнасці ў закончаным трыванні выражаецца ў асноўным формамі дзеепрыметнікаў: *Але Троцкі разумеў, што «рэкамендацыі» яго Леніным будуць адхілены* (І. Шамякін).

### Катэгорыя ладу

§ 249. Катэгорыя ладу выражае адносіны дзеяння да рэчаіснасці. Дзеянне можа ўспрымацца як рэальнае, г. зн. як дзеянне, якое сапраўды адбываецца, адбывалася ці будзе адбывацца (абвесны лад), як дзеянне пажаданае, да якога заклікае гаворачая асоба (загадны лад) або як магчымае (умоўны лад).

## Абвесны лад

§ 250. Катэгарыяльным значэннем дзеяслова абвеснага ладу з'яўляецца значэнне рэальнасці, г. зн. той, хто гаворыць, сцвярджае або адмаўляе дзеянне ў момант гутаркі, у прошлым ці ў будучым часе. Формы абвеснага ладу спецыяльных паказчыкаў ладу не маюць. Функцыю марфалагічнага паказчыка абвеснага ладу выконваюць формы часу. Абвеснаму ладу ўласцівы таксама формы асобы і ліку: *Лабановіч з настаўніцаю ўваходзяць у дворык, дзе лепіцца некалькі заняпалых старасвецкіх хатак, заходзяць збоку і спыняюцца* на ганачку (Я. Колас); *Мужчыны доўга яшчэ не разыходзіліся з вартоўні. Сядзелі, курылі і ўсё абмяркоўвалі, абмяркоўвалі, як яно тое сталася і па чыёй віне, што сям'я ўся да чалавека загінула ў Пакрашах...* (Б. Сачанка); *Яна лепей сама загіне, а Івана выратуе з бяды* (М. Лупсякоў).

## Загадны лад

§ 251. Загадны лад дзеясловаў выражае пабуджэнне да выканання дзеяння (просьбу, загад, пажаданне і інш.). Пабуджэнне заўсёды накіравана гаворачай асобай да іншай асобы (а таксама да неадушаўлёнага прадмета, калі ён усведамляецца як жывая істота), таму загадны лад не ўтварае формы 1-ай асобы адзіночнага ліку. Сістэма форм загаднага ладу складаецца з 5 форм: дзвюх простых форм 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку і формы, якая абазначае сумеснае дзеянне, і дзвюх складаных форм 3-яй асобы адзіночнага і множнага ліку. Форма 2-ой асобы адзіночнага ліку выражае пабуджэнне да дзеяння, накіраванае да адной асобы; форма 2-ой асобы множнага ліку выражае пабуджэнне, накіраванае да некалькіх асоб; формы сумеснага дзеяння выражаюць пабуджэнне, якое накіравана да некалькіх асоб, уключаючы гаворачую асобу; формы 3-яй асобы выражаюць пабуджэнне, якое накіравана да асобы (асоб), якая не з'яўляецца субяседнікам.

Формы 2-ой асобы адзіночнага ліку ўтвараюцца ад асновы цяперашняга часу пры дапамозе канчатка *-і (-ы)* або маюць форму на зычны.

Пры дапамозе націскнога канчатка *-і (-ы)* форма загаднага ладу ўтвараецца ад дзеясловаў, у аснове цяперашняга часу якіх адсутнічае *-j-* і якія ў 1-ай асобе адзіночнага ліку маюць націскны канчатак: *валаку — валачы, грабу — грабі, дзяру — дзяры, жыву — жыві, імшу — імшы, ірву — ірві, лаўлю — лаві, люблю — любі, ляжу — ляжы, мачу — мачы, палю — палі, памагу — памажы, пляту — пляцi, свішчу — свішчы, скрыплю — скрыпі, тайку — таўчы, тру — тры.*

Заўвага. Пры ўтварэнні форм загаднага ладу ад дзеясловаў на *-чы* адбываецца чаргаванне зычных *г—ж, к—ч*: *бегчы — бягу — бяжы; запрэгчы — запрагу — запражы; таўчы — тайку — таўчы.*

Націскны канчатак *-і* маюць таксама формы загаднага ладу ад дзеясловаў з інфінітывамі на *-іць*, якія ў аснове цяперашняга часу заканчваюцца на *-j-* і ў аснове 1-ай асобы адзіночнага ліку маюць націскны канчатак: *гаю — гаі, гнаю — гнаі, даю — даі, дваю—дваі, паю—паі, слаю—слаі, таю — таі, траю — траі.*

Формы без канчатка тыпу *дой, падой, напой,* якія сустракаюцца ў творах мастацкай літаратуры, з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы: *Напой крынічнаю вадою* (П. Глебка); *Дык, татка, яго і дойце, калі ён для вас такі дойны* (Я. Купала).

Дзеясловы *біць, віць, ліць, піць* утвараюць формы *бі, ві, лі, пі.* Формы

*бій, вій, лій, пій,* якія сустракаюцца ў гутарковай мове, выходзяць за межы літаратурнай мовы.

Ненаціскны канчатак *-і (-ы)* маюць дзеясловы са збегам зычных у аснове і ненаціскным канчаткам у 1-ай асобе адзіночнага ліку: *горблю — горбі, дрэйфлю — дрэйфі, енчу — енчы, кончу — кончы, маслю — маслі, мерзну — мерзні, моршчу — моршчы, няньчу — няньчы, охру — охры, перчу — перчы, помню — помні, порчу — порці, сохну — сохні.*

У размоўным стылі для некаторых дзеясловаў са збегам зычных у аснове магчымы варыянтныя формы без канчатка *-і (-ы): горб, енч, морш, няньч, чысць.*

Ненаціскны канчатак маюць таксама формы загаднага ладу ад дзеясловаў з прыстаўкай *вы-: нясі, прынясі,* а л е *вынесі; пішы, напішы,* а л е *выпішы; бяры, набяры,* а л е *выберы; жыві, пражыві,* а л е *выжыві* і г. д. У размоўным стылі могуць ужывацца і формы без канчатка, напрыклад: *вынесь, выпіш* і некаторыя іншыя.

Форма загаднага ладу 2-ой асобы адзіночнага ліку можа ўтварацца без канчатка.

Дзеясловы, аснова цяперашняга часу якіх заканчваецца на зычны мяккі, *j*, шыпячы або *р*, маюць форму загаднага ладу на гэты ж зычны: *вудзяць — вудзь, гацяць — гаць, гладзяць — гладзь, касмацяць — касмаць, квасяць — квась, ладзяць — ладзь, лазяць — лазь, параць — пар, павесяць — павесь, прымусяць — прымусь, трацяць — траць, цэляць — цэль, клеяць — клей, чытаюць — чытай, плачуць — плач, рэжуць — рэж, цешаць — цеш, жмураць — жмур.*

Некаторыя дзеясловы, аснова цяперашняга часу якіх заканчваецца на цвёрды зычны, маюць форму загаднага ладу на мяккі зычны: *будуць — будзь, глянуць — глянь, кінуць — кінь, раздзенуць — раздзень, стануць — стань, сядуць — сядзь.*

Дзеясловы з чаргаваннем зычных *б'—бл', п'—пл', в'—ўл'* толькі ў 1-ай асобе адзіночнага ліку ў загадным ладзе маюць цвёрды зычны: *паслабіць — паслаблю — паслаб, прыгалубіць — прыгалублю — прыгалуб, кваліцца — кваплюся — квапся; плавіць — плаўлю — плаў; ставіць — стаўлю — стаў.*

Дзеясловы *баяцца, смяяцца,* а таксама дзеясловы *жаваць, злаваць, каваць, кляваць, пляваць, псаваць, снаваць, цкаваць* і некаторыя іншыя, аснова цяперашняга часу якіх заканчваецца на *j* і якія ў 1-ай асобе адзіночнага ліку маюць націскны канчатак, загадны лад утвараюць без канчатка *-і: баяцца — бойся, смяюцца — смейся, жуюць — жуй, куюць — куй, снуюць — снуй, цкуюць — цкуй* і г. д.

§ 252. Некаторыя дзеясловы ўтвараюць формы загаднага ладу ад асновы, якая адрозніваецца ад асновы цяперашняга часу. Сюды адносяцца: 1) дзеясловы з асновай цяперашняга часу на *aj: уставаць — устаюць — уставай; прызнаваць — прызнаюць — прызнавай; даваць — даюць — давай; надзяваць — надзяюць — надзявай; спадзявацца — спадзяюцца — спадзявайся;* 2) дзеяслоў *даць*, у якога форма загаднага ладу ўтвараецца ад асновы на *aj*, што супадае з асновай цяперашняга часу дзеясловаў тыпу *даваць (даваць — даj-у): дай;* 3) дзеяслоў *есці* (аснова цяперашняга часу *яд-*) у загадным ладзе мае форму *еш.*

§ 253. Формы 2-ой асобы множнага ліку ўтвараюцца ад формы загаднага ладу адзіночнага ліку шляхам дабаўлення постфікса *-це: брый — брыйце, вынесі — вынесіце, выпішы — выпішыце, ганяй — ганяйце, даі — даіце, дай — дайце, еш — ешце, жуй — жуйце, жыві — жывіце, лаві — лавіце, лі — ліце, ляжы — ляжыце, моршчы — моршчыце, мый — мыйце, пі — піце, раздавай — раздавайце, свісні — свісніце, сохні — сохніце, сядзь — сядзьце, таўчы — таўчыце, чытай — чытайце.*

У зваротных дзеясловах постфікс *-це* стаіць перад афіксам *-ся*: *кладзіся — кладзіцеся, мыйся — мыйцеся, распішыся — распішыцеся.*

У мове мастацкай літаратуры пад уплывам народных гаворак сустракаюцца формы загаднага ладу на *-еце (-эце)*, але яны кваліфікуюцца як адступленне ад літаратурнай нормы: *Г л я д з е ц е, колькі гонім мы вады* (Я. Колас).

§ 254. Формы сумеснага дзеяння — гэта формы множнага ліку. Яны выражаюць пабуджэнне, якое адносіцца да дзвюх і больш асоб: да субяседніка або некалькіх субяседнікаў і да самой гаворачай асобы. Формы сумеснага дзеяння могуць быць сінтэтычнымі (простымі) або аналітычнымі (складанымі).

Сінтэтычныя формы:

1) могуць утварацца ад асновы цяперашняга часу пры дапамозе канчатка *-ем (-эм)* ад дзеясловаў, якія ў 1-ай асобе адзіночнага ліку маюць націскны канчатак: *лаўлю — ловяць — лавем!, цягну — цягнуць — цягнем!, жыву — жывуць — жывем!* У дзеясловах з асновай на *г, к* пры ўтварэнні загаднай формы адбываецца чаргаванне *г — ж, к — ч*: *валаку — валакуць — валачэм! запрагу — запрагуць — запражэм! — Х а д з е м лепш адгэтуль, галубкі,— пачуліся шэпты Грыпіны* (Я. Колас); *З а з і р н е м хоць бы ў калгас імя Гастэлы Мінскага раёна* (Полымя, 1974);

2) могуць супадаць з формамі будучага простага часу (у дзеясловах закончанага трывання: *прысядзем!, засяваем!, выйдзем!, запомнім!, закончым!, пачысцім!*) і формамі цяперашняга часу (у дзеясловах незакончанага трывання і дзеясловах аднанакіраванага дзеяння: *едзем!, ляцім!, бяжым!, спім!, сядзім!*).

У мове мастацкай літаратуры ўжываюцца формы сумеснага дзеяння, якія ўтвараюцца шляхам далучэння канчатка *-ма* да формы загаднага ладу 2-ой асобы адзіночнага ліку на зычны або *j*: *гляньма!, рэжма!, станьма!, чытайма, хавайма!* Напрыклад: *Скажу я: «Разам п л а ч м а, браце мой!»* (Э. Агняцвет).

Ад дзеясловаў *біць, віць, ліць, піць* у гутарковай мове ўжываюцца формы *бійма, війма, лійма, пійма.*

Для выражэння ветлівага запрашэння да сумеснага дзеяння ў мове мастацкай літаратуры часам сустракаецца форма з постфіксам *-це*: *Ну, х а д з е м ц е ў дом* (У. Караткевіч); *Х а д з е м ц е адсюль,— прапанавала Марыя Хведараўна,— няхай не трывожыцца хлопчык* (А. Марціновіч).

Аналітычная форма сумеснага дзеяння ўтвараецца шляхам злучэння часціцы *давай (давайце)* або зрэдку *дай (дайце)* з інфінітывам спрагальнага дзеяслова незакончанага трывання, напрыклад: *давай (давайце) пісаць, давай (давайце) працаваць* і г. д. Могуць ужывацца і такія формы, як *давай (давайце) будзем пісаць, давай (давайце) будзем чытаць.* Аналітычная форма можа ўтварацца таксама шляхам злучэння часціцы *давай (давайце)* з формай 1-ай асобы множнага ліку дзеясловаў закончанага трывання, напрыклад: *давай (давайце) напішам, давай (давайце) паслухаем* і г. д. *Д а в а й ц е ж з р о б і м падарожжа на некаторыя прадпрыемствы, у калгасы, саўгасы, пагутарым з людзьмі...* (Полымя, 1974); *Д а в а й ц е п р ы в я д з ё м яшчэ некалькі лічбаў, удумаемся ў іх* (Там жа).

Аналітычная форма можа ўтварацца шляхам злучэння дзеяслоўнай формы *хадзем* (якая часткова страціла лексічнае значэнне) з інфінітывам:—*Ой, Алеся, паміраю, есці хочацца, х а д з е м а б е д а ц ь* (А. Васілевіч); *Х а д з е м г у л я ц ь* (Э. Агняцвет).

У адрозненне ад форм 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку загад-

нага ладу, пры якіх можа быць дзейнік, выражаны асабовым займеннікам *ты* або *вы*, пры формах сумеснага дзеяння дзейнік-займеннік *мы* звычайна адсутнічае. Аднак у стылістычна афарбаваных тэкстах дапускаецца ўжыванне займенніка *мы* пасля выказніка: *Давай напішам мы пісьмо; Давай сходзім мы ў кіно.*

§ 255. Пабуджэнне можа адносіцца да 3-яй асобы адзіночнага і множнага ліку і выражацца спалучэннем часціцы *няхай (хай)* з формамі цяперашняга і будучага простага часу 3-яй асобы адзіночнага або множнага ліку абвеснага ладу, якія ў гэтых злучэннях не маюць часавага значэння: *няхай (хай) піша, прачытае, зробіць; няхай (хай) пішуць, прачытаюць, зробяць* і г. д. *Няхай думкі мае пабягуць чарадой* (Я. Колас); *Збегай у агарод і наламі капуснага лісту. Укінем у кошык, і няхай ядуць* (М. Скрыпка); *Няхай прыязджае — пара планаваць будаўніцтва* (Я. Брыль).

§ 256. Ад некаторых дзеясловаў формы загаднага ладу не ўтвараюцца. Гэта звязана з лексічным значэннем дзеяслова. Не ўжываюцца формы загаднага ладу ад дзеясловаў, якія абазначаюць немэтанакіраванае дзеянне або стан: *каштаваць* (мець цану), *важыць* (мець вагу), *выглядаць* (мець выгляд), *значыць* (мець значэнне, сэнс), і некаторых іншых. Не ўжываецца форма загаднага ладу ад дзеясловаў *магчы, хацець, балець* 'выклікаць адчуванне фізічнага болю'. Звычайна не ўжываюцца формы загаднага ладу ад дзеясловаў, якія называюць дзеянні неадушаўлёных прадметаў: *булькаць, набліжацца, цячы, умяшчаць* і інш., а таксама ад безасабовых дзеясловаў: *парыць, марозіць, світаць* і пад.

## Умоўны лад

§ 257. Формы умоўнага ладу дзеясловаў абазначаюць дзеянне, якое можа адбыцца толькі пры пэўных умовах. Формы ўмоўнага ладу— аналітычныя. Яны ўтвараюцца шляхам далучэння да простых форм прошлага часу часціцы *бы (б)*, якая з'яўляецца граматычным паказчыкам умоўнага ладу: *чытаў бы, прынёс бы, напісаў бы, зрабілі б, купіла б.* Умоўны лад не мае форм часу і асобы, але мае формы трох родаў (*ён сказаў бы* — мужчынскі род, *яна (яно) сказала б* — жаночы і ніякі род) і формы ліку (*ён сказаў бы* — адзіночны лік, *яны схадзілі б* — множны лік). Часціца *бы* ўжываецца пасля дзеяслоўнай формы мужчынскага роду ці слоў, якія канчаюцца на зычны гук, а яе варыянт *б* — пасля дзеяслоўных форм жаночага і ніякага роду, форм множнага ліку, зваротных дзеясловаў, а таксама пасля іншых слоў, якія заканчваюцца на галосны гук: *Кожнага чалавека ў нашай краіне, дзе б ён ні жыў, чакае столькі цікавых і захапляючых спраў* (Маладосць, 1973); *Цябе, зямля, ў адзенні новым, хацеў бы к сэрцу прыгарнуць* (Я. Колас); *Ён, Алік, абавязкова памог бы неспрактыкаванаму спецыялісту* (Ул. Дадзіёмаў).

Ужыванне часціцы *бы* пасля слоў, якія заканчваюцца галосным гукам, з'яўляецца парушэннем літаратурнай нормы.

## *Катэгорыя часу*

§ 258. Катэгорыя часу дзеяслова выражае адносіны дзеяння да моманту гутаркі. У сучаснай беларускай мове дзеяслоў мае тры формы часу: цяперашняга, прошлага і будучага.

Катэгорыя часу дзеяслова цесна звязана з катэгорыяй трывання. Дзеясловы незакончанага трывання ў абвесным ладзе маюць формы

часу — цяперашняга, прошлага і будучага складанага (*пішу, пісаў, буду пісаць*); дзеясловы закончанага трывання маюць дзве формы часу — прошлага і будучага простага (*напісаў, напішу*). Марфалагічная катэгорыя часу ўласціва толькі формам абвеснага ладу і формам дзеепрыметніка. Загадны і ўмоўны лад форм часу не маюць.

### Цяперашні час

§ 259. Формы цяперашняга часу абазначаюць дзеянне, якое адбываецца ў момант гутаркі. У сістэму форм цяперашняга часу ўваходзіць тры асабовыя формы адзіночнага ліку і тры асабовыя формы множнага ліку. Паказчыкам асобы і ліку з'яўляюцца канчаткі, якія адначасова з'яўляюцца паказчыкам часавага значэння словаформы, у даным выпадку цяперашняга часу.

### Прошлы час

§ 260. Дзеясловы прошлага часу абазначаюць дзеянне, якое адбывалася ці адбылося да моманту гутаркі. Формы прошлага часу ўтвараюцца ад асновы інфінітыва пры дапамозе суфікса *-л- (-ў-): рабі-ў, рабі-л-а; чыта-ў, чыта-л-а; глядзе-ў, глядзе-л-а*. У формах прошлага часу няма фармальнага паказчыка асобы. Значэнне асобы перадаецца злучэннем формы прошлага часу з асабовымі займеннікамі: *я чытаў, ты чытаў, ён чытаў*. Значэнне трэцяй асобы перадаецца таксама спалучэннем з назоўнікам-дзейнікам: *бацька чытаў*. У адзіночным ліку формы прошлага часу маюць паказчык роду, а іменна канчаткі: нулявы — у форме мужчынскага роду, *-а* — у форме жаночага роду і *-а, -о* — у форме ніякага роду (*вёў, пісаў; вяла, пісала; вяло, пісала*). У множным ліку — канчатак *-і* (*вялі, пісалі, чыталі*).

У формах мужчынскага роду, утвораных ад інфінітыўнай асновы на галосны, суфікс *-л-* пераходзіць у *-ў-: чыта-ць — чыта-ў, піса-ць — піса-ў, насі-ць — насі-ў, рабі-ць — рабі-ў, глядзе-ць — глядзе-ў, жы-ць — жы-ў* і г. д.

Суфікс *-л- (-ў-)* маюць у формах прошлага часу мужчынскага роду таксама дзеясловы, інфінітыў якіх заканчваецца на *-сці*, а апошнім зычным асновы цяперашняга часу з'яўляецца гук *д* або *т*. Асаблівасцю ўтварэння форм прошлага часу ад гэтых дзеясловаў з'яўляецца тое, што зычны *с* інфінітыўнай асновы ўсякаецца і суфікс *-л-* далучаецца непасрэдна да галоснага асновы і пераходзіць у *ў: весці — вёў, гусці — гуў, класці — клаў, месці — мёў, плесці — плёў, прасці — праў, сесці — сеў, упасці — упаў, цвісці — цвіў*, а таксама *клясці — кляў, плысці — плыў*.

У дзеясловах на *-ці* з папярэднім зычным, які захоўваецца і ў аснове цяперашняга часу, форма прошлага часу мужчынскага роду ўтвараецца без суфікса *-л-: везці — вёз* (але *везла, везлі*), *грызці — грыз* (але *грызла, грызлі*), *несці — нёс* (але *несла, неслі*), *скрэбці — скроб* (але *скрэбла, скрэблі*), *трэсці — трос* (але *трэсла, трэслі*), *церці — цёр* (але *церла, церлі*) і г. д.

У дзеясловах на *-чы* формы прошлага часу мужчынскага роду таксама ўтвараюцца без суфікса *-л-*, г. зн. маюць нулявы суфікс. Прычым, калі перад суфіксам *-чы* ў інфінітыве ёсць галосны або гук *ў*, то аснова прошлага часу супадае з асновай цяперашняга часу: *валачы — валок* (але *валакла, валаклі*), *пячы — пёк* (але *пякла, пякло, пяклі*), *таўчы — тоўк* (але *таўкла, таўкло, таўклі*), *цячы — цёк* (але *цякла, цякло, цяклі*). У тым выпадку, калі ў інфінітыве перад суфіксам *-чы* ёсць

зычны *г*, то ён захоўваецца ў формах прошлага часу: *магчы — мог, легчы — лёг, сцерагчы — сцярог, стрыгчы — стрыг, запрэгчы—запрог* і г. д.

§ 261. У сучаснай беларускай мове, акрамя простых форм прошлага часу, ужываюцца часам складаныя формы. Аднак яны бытуюць у асноўным у гутарковай вуснай мове і ў мове мастацкай літаратуры і выходзяць за межы літаратурнай нормы. Яны складаюцца з формы прошлага часу дзеяслова *быць* і формы прошлага часу поўназнамянальнага дзеяслова: *быў пайшоў, была пайшла, было пайшло, былі пайшлі*. Складаныя формы прошлага часу абазначаюць у асноўным даўно мінулае дзеянне: ... *Іван прыгадаў, як аднойчы ён быў тут наехаў на вострую жалязяку і распароў шыну* (Маладосць, 1974); *Адна была не вытрывала, уцякаць сабралася* (Маладосць, 1973).

Даўно мінулае дзеянне, якое паўтаралася некалькі (многа) разоў, перадаецца пры дапамозе мадальнай часціцы *бывала* і асабовых форм поўназнамянальнага дзеяслова: *Пойдзем гэта мы, бывала, касіць золакам, да сняданку* (П. Ткачоў); *Рост высокі, стан павабны, ўся, як цень, павейна, як ідзе яна, бывала,— набок каралейна!* (Я. Купала).

## Будучы час

§ 262. Будучы час выражае дзеянне, якое будзе адбывацца ці адбудзецца пасля моманту гутаркі. Будучы час можа быць просты (*запішу, нарву, устану*) і складаны (*буду пісаць, буду рваць, буду ўставаць*). Парадыгма будучага простага часу супадае з парадыгмай цяперашняга часу з тым толькі адрозненнем, што формы будучага простага ўтвараюцца ад дзеясловаў закончанага трывання, г. зн. адрозніваюцца ад форм цяперашняга часу прыстаўкамі або суфіксамі, якія служаць для ўтварэння форм закончанага трывання.

| Асоба | Цяперашні час | | Будучы час | |
|---|---|---|---|---|
| | Адзіночны лік | | | |
| 1 | *піш-у* | *стука-ю* | *на-піш-у* | *стук-н-у* |
| 2 | *піш-аш* | *стука-еш* | *на-піш-аш* | *стук-н-еш* |
| 3 | *піш-а* | *стук-ае* | *на-піш-а* | *стук-н-е* |
| | Множны лік | | | |
| 1 | *піш-ам* | *стука-ем* | *на-піш-ам* | *стук-н-ем* |
| 2 | *піш-аце* | *стука-еце* | *на-піш-аце* | *стук-н-еце* |
| 3 | *піш-уць* | *стука-юць* | *на-піш-уць* | *стук-н-уць* |

Формы будучага складанага часу ўтвараюцца ад асабовай формы дзеяслова *быць* і інфінітыва спрагальнага дзеяслова незакончанага трывання.

| Асоба | Адзіночны лік | Множны лік |
|---|---|---|
| 1 | *буду пісаць* | *будзем пісаць* |
| 2 | *будзеш пісаць* | *будзеце пісаць* |
| 3 | *будзе пісаць* | *будуць пісаць* |

Заўвага. Дзеясловы незакончанага трывання *магчы* і *хацець* форм будучага складанага часу не ўтвараюць.

Звычайна асабовыя формы дапаможнага дзеяслова *быць* знаходзяцца непасрэдна перад інфінітывам. Аднак у мове мастацкай літаратуры ў стылістычных мэтах дапаможны дзеяслоў можа знаходзіцца і пасля

інфінітыва, а таксама пры адным дапаможным дзеяслове можа быць некалькі інфінітываў: *Ты, матуля-Зямля, усюды будзеш для нас самай яркаю зоркай свяціцца* (Н. Гілевіч); *Будзеш летам ты хадзіць на плыты, на згоны!* (Я. Колас); *Жыць будзеце вы ў паленнях* (Я. Колас); *Будуць ветры за вугламі выць, і плакаць, і стагнаць* (Я. Колас).

### Катэгорыя асобы

§ 263. Марфалагічная катэгорыя асобы ўказвае на адносіны дзеяння, абазначанага дзеясловам, і суб'екта да гаворачай асобы. Дзеяслоў мае формы трох асоб адзіночнага і множнага ліку. Формы асобы выражаюць адносіны дзеяння да таго, хто гаворыць (формы 1-ай асобы), да субяседніка (формы 2-ой асобы) або да таго, пра каго ідзе размова, а таксама да неадушаўлёнага прадмета (формы 3-яй асобы): *іду, чытаю, ідзём, чытаем, ідзеш, чытаеш, ідзяце, чытаеце, ідзе, чытае, ідуць, чытаюць*. Формы 3-яй асобы могуць таксама выражаць дзеянне, якое адбываецца само па сабе, без дзеючай асобы або прадмета. Такія дзеясловы называюцца безасабовымі. У сказах з безасабовымі дзеясловамі не можа быць дзейніка: *Ад балота патыхала прохаладдзю і сырасцю* (Я. Колас); *Пачынала святлець* (Я. Колас).

§ 264. Асабовыя формы могуць утварацца ад любога дзеяслова. Але ў моўнай практыцы ад некаторых дзеясловаў не ўжываюцца формы 1-ай і 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку. Гэта звязана з лексічным значэннем дзеясловаў, якое сумяшчаецца з уяўленнем аб 1-ай або 2-ой асобе як утваральніку дзеяння. Да ліку такіх дзеясловаў адносяцца: *цяліцца, парасіцца, зелянець, цячы, таяць, кіпець, прыгарэць, ржавець, яснець, мутнець, несціся* (аб птушках), *бляяць* і шмат іншых. Але ад гэтых дзеясловаў магчыма метафарычнае ўжыванне форм 1-ай і 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку: *Чаго ты кіпіш? Без цябе разбяруцца, хто вінаваты* (А. Бажко); *Кіплю, як русла вадаспаду I рэчкай бурнаю плыву* (К. Буйло).

Не ўжываюцца таксама формы 1-ай і 2-ой асобы адзіночнага ліку ад дзеясловаў, лексічнае значэнне якіх несумяшчальнае з уяўленнем аб адзінкавым дзеячу, напрыклад: *збегчыся, канцэнтравацца, згуртавацца, пападаць, павыходзіць, набегчы, папярэднічаць* і некаторыя іншыя.

§ 265. Асабовыя формы загаднага ладу — гэта формы 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку і формы сумеснага дзеяння. Формы загаднага ладу 2-ой асобы адзіночнага і множнага ліку бываюць толькі сінтэтычныя. Формы сумеснага дзеяння могуць быць сінтэтычнымі або суплетыўнымі.

### Катэгорыя ліку

§ 266. Марфалагічная катэгорыя ліку выражае адносіны дзеяння да аднаго або некалькіх суб'ектаў. Дзеяслоўныя формы могуць выражаць суаднесенасць дзеяння з адным яго ўтваральнікам (адзіночны лік) або суаднесенасць дзеяння больш чым з адным утваральнікам (множны лік). Утваральнікам дзеяння можа быць асоба (формы 1-ай, 2-ой і 3-яй асобы адзіночнага і множнага ліку), а таксама прадмет (формы 3-яй асобы адзіночнага і множнага ліку).

У асабовых формах цяперашняга часу і загаднага ладу паказчыкам ліку з'яўляюцца асабовыя канчаткі: *чыта-ю, чыта-еш, чыта-е* і *чыта-ем, чыта-еце, чыта-юць; чыта-й!* і *чытай-це!* У прошлым часе і ўмоўным ладзе значэнне адзіночнага ліку выражаецца родавымі флексіямі: нулявой *-а* і *-о: чытаў, чытал-а, нясл-о*. Значэнне множнага ліку выражаецца флексіяй *-і: чытал-і*.

## *Катэгорыя роду*

§ 267. Марфалагічная катэгорыя роду дзеяслова выражае адносіны дзеяння да прадмета, абазначанага назоўнікам мужчынскага, жаночага або ніякага роду, а таксама адносіны дзеяння да асоб мужчынскага або жаночага полу. Катэгорыя роду праяўляецца ў прошлым часе і формах умоўнага ладу.

Марфалагічнае значэнне роду выражаецца флексіямі: значэнне мужчынскага роду — нулявой флексіяй, жаночага роду — флексіяй *-а*, ніякага роду — флексіямі *-а, -о: бацька пісаў, сястра пісал-а, дзіця плакал-а, дрэва расл-о, бацька чытаў бы, сястра пісал-а б, дзіця плакал-а б, дрэва расл-о б.* У множным ліку дзеясловы не маюць родавых адрозненняў.

Форма ніякага роду адрозніваецца ад форм мужчынскага і жаночага роду тым, што яна можа абазначаць дзеянне як безасабовае: *Сцямнела; Не знайшлося ні адной кніжкі.*

## *Спражэнне*

§ 268. Спражэнне — гэта змяненне дзеяслова па асобах, часах, ладах, ліках, а ў прошлым часе і ўмоўным ладзе — і па родах.

У сістэму форм дзеяслова ўваходзяць: 1) спрагальныя формы, якія заключаюць у сабе значэнне асобы, часу, ліку, ладу, роду; 2) неспрагальныя формы — дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі, у якіх сумяшчаецца значэнне дзеяння са значэннем азначальнасці (у дзеепрыметніках) і акалічнасці (у дзеепрыслоўях); 3) інфінітыў — форма, якая толькі называе дзеянне.

У словазмяненні дзеяслова важнае месца займае змяненне дзеяслоўнай асновы. Выдзяляецца дзве формаўтваральныя асновы — аснова інфінітыва і аснова цяперашняга часу.

Аснова інфінітыва супадае з асновай прошлага часу, і таму замест «аснова інфінітыва» можа ўжывацца паняцце «аснова прошлага часу». Асновай інфінітыва лічыцца частка дзеяслоўнай асновы без інфінітыўных суфіксаў *-ць, -ці, -чы.*

Ад асновы інфінітыва ўтвараюцца формы прошлага часу, дзеепрыметнікі прошлага часу, дзеепрыслоўі закончанага трывання ад адпаведных дзеясловаў закончанага трывання: *чыта-ць, чыта-ў, чытал-а, чытал-і, чыта-ўшы; прачыта-ць, прачыта-ў, прачыта-л-а, прачыта-л-і, прачыта-ўшы; нес-ці, нёс, нёс-шы; занес-ці, занёс, занёс-шы.*

Аснова цяперашняга часу выдзяляецца шляхам адсячэння канчатка ў форме 3-яй асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу абвеснага ладу.

Ад асновы цяперашняга часу ўтвараюцца ўсе асабовыя формы цяперашняга (будучага простага) часу, формы загаднага ладу, дзеепрыметнікі цяперашняга часу і дзеепрыслоўі незакончанага трывання ад адпаведных дзеясловаў незакончанага трывання: *ід-уць — ід-у, ідз-еш, ідз-е, ідз-і; піш-уць — піш-у, піш-аш, піш-а, піш-ы; сцел-юць — сцял-ю, сцел-еш, сцел-е, сцял-і.*

У выпадках, калі канчаткі *-юць, -яць* знаходзяцца пасля галосных і літары *ю, я* абазначаюць спалучэнні *j* з галоснымі *у, а, j* адносіцца да асновы: *чытаюць — чытаj-уць, бялеюць — бялеj-уць.*

У залежнасці ад сістэмы флексій у асабовых формах адзіночнага і множнага ліку цяперашняга і будучага простага часу амаль усе дзеясловы дзеляцца на два спражэнні: першае і другое.

I II

| Першае спражэнне | | Другое спражэнне |
|---|---|---|
| | **Адзіночны лік** | |
| 1 ас. | *-у(-ю)* | *-у(-ю)* |
| 2 ас. | *-еш(-эш, -аш)* | *-іш(-ыш)* |
| 3 ас. | *-е(-э, -а)* | *-іць(-ыць)* |
| | **Множны лік** | |
| 1 ас. | *-ём(-ем, -ом,-ам)* | *-ім (-ым)* |
| 2 ас. | *-еце(-яце, -аце)* | *-іце (-ыце)* |
| 3 ас. | *-уць(-юць)* | *-аць(-яць)* |

Вызначыць спражэнне дзеяслова лягчэй за ўсё ў тых выпадках, калі націск падае на канчатак.

| Першае спражэнне | Другое спражэнне |
|---|---|
| *таўчэш, п'еш* | *маўчыш, глядзіш* |
| *таўчэ, п'е* | *маўчыць, глядзіць* |
| *таўчом, п'ём* | *маўчым, глядзім* |
| *таўкуць, п'юць* | *маўчаць, глядзяць* |

Прыналежнасць дзеясловаў з ненацікнымі асабовымі канчаткамі да першага ці другога спражэння вызначаецца па інфінітыву:

дзеясловы з інфінітывам на *-іць (-ыць)* (за выключэннем аднаскладовых дзеясловаў тыпу *біць, брыць, віць, выць, крыць, ліць, мыць, ныць, рыць, шыць*, якія адносяцца да першага спражэння), а таксама дзеясловы на *-аць* тыпу *гнаць* і на *-ець* тыпу *цярпець* адносяцца да другога спражэння; да першага спражэння адносяцца ўсе астатнія дзеясловы.

Заўвага. Прыставачныя дзеясловы адносяцца да таго ж спражэння, што і адпаведныя беспрыставачныя.

## КЛАСЫ ДЗЕЯСЛОВАЎ

§ 269. Класы дзеясловаў — гэта групы дзеясловаў, якія адносяцца да аднаго і таго ж спражэння і характарызуюцца тоеснымі фармальнымі суадносінамі асноў інфінітыва і цяперашняга часу. У лінгвістычнай літаратуры прынята адрозніваць прадуктыўныя і непрадуктыўныя класы. Калі мадэль формазмянення характэрна для вялікай групы дзеясловаў, якая з'яўляецца адкрытай, таму што яна можа пастаянна папаўняцца новымі дзеясловамі, тады дзеясловы гэтай мадэлі ўваходзяць у прадуктыўны клас. Калі ж мадэль формазмянення ахоплівае лексічную групу дзеясловаў, якая з'яўляецца закрытай, таму што па тыпу дзеясловаў гэтай групы новыя дзеясловы не ўтвараюцца, тады гэта мадэль уваходзіць у адзін з непрадуктыўных класаў.

### *Прадуктыўныя класы*

§ 270. У залежнасці ад характару суадносін асновы інфінітыва і асновы цяперашняга часу вылучаюцца чатыры прадуктыўныя класы.

### Першы прадуктыўны клас

§ 271. Першы прадуктыўны клас аб'ядноўвае два падкласы.

Да падкласа А належаць дзеясловы з суадносінамі ў асновах *а — aj*: *чыт-а-ць — чыт-aj-уць* (чытаюць), *мян-я-ць — мян-яj-уць* (мяняюць).

Гэта вялікая і разнастайная па семантыцы група дзеясловаў, якія маюць свае структурныя асаблівасці. Сюды ўваходзяць дзеясловы на *-аць (-яць), -оўваць, -нічаць, -ічаць, -каць,* матываваныя назоўнікамі, прыметнікамі, дзеясловамі, выклічнікамі: *абедаць, ахаць, грукаць, гукаць, пятляць, сядлаць, чыркаць, залівацъ; ахарактарызоўваць, забінтоўваць; гаспадарнічаць, сталярнічаць, арыгінальнічаць, важнічаць, скрытнічаць; войкаць, гайкаць, мяўкаць* і інш., а таксама нематываваныя дзеясловы: *гуляць, дбаць, ззяць, знаць, ківаць, кусаць, ламаць, мяняць, мяшаць, падаць, страляць, хаваць, чапаць, чхаць* і інш.

Да падкласа Б належаць дзеясловы з суадносінамі ў асновах *э, е — эj, еj: гр-э-ць — гр-эj-уць* (грэюць), *цямн-е-ць — цямн-еj-уць* (цямнеюць). Сюды ўваходзяць дзеясловы на *-ець (-эць)* і *-янець (-анець),* матываваныя назоўнікамі або прыметнікамі: *багацець, бляднець, вадзянець, дубянець, карчанець, касцянець, мацнець, мякчэць, слупянець, умець, цямнець.*

Да нематываваных дзеясловаў адносяцца: *гавець, грэць, дранцвець, ірдзець, калець, карпець, карэць, квітнець, карцець (разм.), млець, пець, прэць, пятрэць (прастам.), спець, тлець.*

Усе дзеясловы першага прадуктыўнага класа адносяцца да першага спражэння. Аснова форм цяперашняга (будучага простага) часу заканчваецца на *j*. Аснова форм прошлага часу заканчваецца на галосны. Запіс у парадыгме арфаграфічны.

## § 272. Узор парадыгмы

**Цяперашні час**

Адзіночны лік

| | Падклас А | Падклас Б | |
|---|---|---|---|
| 1 ас. | *чыта-ю* | *грэ-ю* | *занядужа-ю* |
| 2 ас. | *чыта-еш* | *грэ-еш* | *занядужа-еш* |
| 3 ас. | *чыта-е* | *грэ-е* | *занядужа-е* |

Множны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 ас. | *чыта-ем* | *грэ-ем* | *занядужа-ем* |
| 2 ас. | *чыта-еце* | *грэ-еце* | *занядужа-еце* |
| 3 ас. | *чыта-юць* | *грэ-юць* | *занядужа-юць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | Падклас А | Падклас Б | |
|---|---|---|---|
| м.р. | *чыта-ў* | *грэ-ў* | *занядужа-ў* |
| ж.р. | *чыта-л-а* | *грэ-л-а* | *занядужа-л-а* |
| н.р. | *чыта-л-а* | *грэ-л-а* | *занядужа-л-а* |

Множны лік

*чыта-л-і* *грэ-л-і* *занядужа-л-і*

### Другі прадуктыўны клас

§ 273. Да другога прадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы з суадносінамі ў асновах *ну — н: стук-ну-ць* — (яны) *стук-н-уць, ірва-ну-ць* — (яны) *ірва-н-уць.* У другі прадуктыўны клас уваходзяць

матываваныя дзеясловы на *-нуць* і *-ануць*, якія ўтвараюцца ад дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе суфікса *-ну-* і яго варыянта *-ану-* і маюць значэнне аднаактнасці дзеяння: *зяваць—зяўнуць, лізаць—лізнуць, скрыпець — скрыпнуць, уздыхаць — уздыхнуць, ірваць — ірвануць, круціць — крутануць, рэзаць — разануць, трэсці — трасануць* і інш., а таксама рад нематываваных дзеясловаў, многія з якіх не маюць значэння аднаактнасці: *апрануць, вярнуць, гарнуць, гнуць, кануць, мінуць, рынуць, сунуць, тхнуць, ціснуць, цягнуць* і некаторыя іншыя.

§ 274. Усе дзеясловы другога прадуктыўнага класа адносяцца да першага спражэння. Формы цяперашняга часу маюць у канцы асновы цвёрды зычны *н* — у формах 1-ай асобы адзіночнага ліку і 3-яй асобы множнага ліку і мяккі зычны *н'* — у формах 2-ой і 3-яй асобы адзіночнага ліку і 1-ай і 2-ой асобы множнага ліку. Аснова форм прошлага часу мае ў канцы спалучэнне *ну*.

## § 275. Узор парадыгмы

**Цяперашні (будучы) час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *стукн-у* | *ціcн-у* |
| 2 ас. | *стукн-еш* | *ціcн-еш* |
| 3 ас. | *стукн-е* | *ціcн-е* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *стукн-ем* | *ціcн-ем* |
| 2 ас. | *стукн-еце* | *ціcн-еце* |
| 3 ас. | *стукн-уць* | *ціcн-уць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| м.р. | *стукну-ў* | *ціcну-ў* |
| ж.р. | *стукну-л-а* | *ціcну-л-а* |
| н.р. | *стукну-л-а* | *ціcну-л-а* |

Множны лік

*стукну-л-і* *ціcну-л-і*

## Трэці прадуктыўны клас

§ 276. Да трэцяга прадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы з суадносінамі ў асновах *ава (ява)* — *уј*: *гарт-ава-ць — гарт-уј-уць* (гартуюць), *мал-ява-ць — мал'-уј-уць* (малююць). У гэты клас уключаюцца дзеясловы на *-аваць (-яваць)*, апрача дзеяслова *сумнявацца*, якія адносяцца да падкласа А першага прадуктыўнага класа.

Дзеясловы трэцяга прадуктыўнага класа ўтвараюцца ў асноўным ад славянскіх асноў назоўнікаў і якасных прыметнікаў пры дапамозе суфікса *-ава- (-ява-)*: *дзень — дняваць, жарт — жартаваць, злы — злаваць, ноч — начаваць, мілы — мілаваць, свята — святкаваць, сум — сумаваць, хваля — хваляваць*. Адзначаецца гэты суфікс і ў дзеясловах, якія ўтвараюцца ад неславянскіх каранёў: *арандаваць, атакаваць, ганд-*

*лявацъ, інтрыгавацъ, камандавацъ, рэкамендавацъ, рэканструявацъ, салютавацъ, тралявацъ, тэлеграфавацъ, фатаграфавацъ, штурмавацъ* і інш. Суфікс *-ава-* (*-ява-*) можа быць часткай складаных суфіксаў *-ствава-*: *аратарстваваць, дырэктарстваваць, лідэрстваваць, п'янстваваць, царстваваць; -ірава-: дырыжыраваць, зандзіраваць, мініраваць, манціраваць; -ізава: дэталізаваць, інвентарызаваць, калектывізаваць.*

У трэці клас уключаецца некалькі дзеясловаў з невытворнай асновай: *жаваць, каваць, кляваць* (пра рыбу), *пляваць, снаваць, соваць, цкаваць.*

§ 277. Усе дзеясловы трэцяга класа адносяцца да першага спражэння. Аснова цяперашняга часу заканчваецца на *уj*. Аснова прошлага часу канчаецца на *ава.*

## § 278. Узор парадыгмы

**Цяперашні час**

Адзіночны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 ас. | *атаку-ю* | *дэталізу-ю* | *плю-ю* |
| 2 ас. | *атаку-еш* | *дэталізу-еш* | *плю-еш* |
| 3 ас. | *атаку-е* | *дэталізу-е* | *плю-е* |

Множны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 ас. | *атаку-ем* | *дэталізу-ем* | *плю-ём* |
| 2 ас. | *атаку-еце* | *дэталізу-еце* | *плю-яце* |
| 3 ас. | *атаку-юць* | *дэталізу-юць* | *плю-юць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| м.р. | *атакава-ў* | *дэталізава-ў* | *пљава-ў* |
| ж.р. | *атакава-л-а* | *дэталізава-л-а* | *пљава-л-а* |
| н.р. | *атакава-л-а* | *дэталізава-л-а* | *пљава-л-а* |

Множны лік

*атакава-л-і* *дэталізава-л-і* *пљава-л-і*

## Чацвёрты прадуктыўны клас

§ 279. Да чацвёртага прадуктыўнага класа належаць дзеясловы з суадносінамі ў асновах *і* (*ы*) — *нуль гука: помн-і-ць — помн'-аць* (помняць), *важ-ы-ць — важ-аць.* Гэта дзеясловы, матываваныя назоўнікамі, прыметнікамі і лічэбнікамі: *бяліць, дваіць, касіць, клеіць, мыліць, сініць, траіць,* а таксама нематываваныя дзеясловы, акрамя *біць, віць, ліць, піць, брыць, шыць,* якія размяркоўваюцца па непрадуктыўных класах.

§ 280. Усе дзеясловы чацвёртага класа адносяцца да другога спражэння. Аснова цяперашняга часу заканчваецца на мяккі зычны, шыпячы або *р.* Аснова прошлага часу заканчваецца на галосны.

Для дзеясловаў гэтага класа характэрна чаргаванне канцавых мяккіх губных і зубных зычных асновы з губным + *л'* або з шыпячым у 1-ай асобе адзіночнага ліку цяперашняга (будучага простага)

часу і ў формах дзеепрыметнікаў залежнага стану прошлага часу: *б — бл' — церабіць — цераблю, цярэбіш... цярэблены; п — пл' — ляпіць — ляплю, лепіш... леплены; м — мл'— карміць — кармлю, корміш...кормлены; в — ўл' (вл') — ставіць — стаўлю, ставіш... стаўлены; ф — фл' — графіць — графлю, графіш... графлёны; з — ж — вазіць — важу, возіш... вожаны; с — ш — насіць — нашу, носіш... ношаны; ц—ч — заахвоціць— заахвочу, заахвоціш... заахвочаны; дз—дж — хадзіць — хаджу, ходзіш... хаджаны.*

## § 281. Узор парадыгмы

**Цяперашні (будучы) час**

Адзіночны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 ас. | *лялл-ю* | *важ-у* | *пушч-у* |
| 2 ас. | *леп-іш* | *воз-іш* | *пусц-іш* |
| 3 ас. | *леп-іць* | *воз-іць* | *пусц-іць* |

Множны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 ас. | *леп-ім* | *воз-ім* | *пусц-ім* |
| 2 ас. | *леп-іце* | *воз-іце* | *пусц-іце* |
| 3 ас. | *леп-яць* | *воз-яць* | *пусц-яць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| м.р. | *ляпі-ў* | *вазі-ў* | *пусці-ў* |
| ж.р. | *ляпі-л-а* | *вазі-л-а* | *пусці-л-а* |
| н.р. | *ляпі-л-а* | *вазі-л-а* | *пусці-л-а* |

Множны лік

*ляпі-л-і* *вазі-л-і* *пусці-л-і*

### Узаемадзеянне прадуктыўных класаў

§ 282. Пры формазмяненні адбываецца ўзаемадзеянне дзеясловаў розных прадуктыўных класаў, якое прыводзіць да пераразмеркавання некаторых дзеяслоўных лексем унутры прадуктыўных класаў.

1. Дзеясловы *уладзець, валадзець, халадзець* (на дварэ), якія адносіліся да трэцяга прадуктыўнага класа і мелі адпаведна формы *уладзею, валадзею, халадзее*, перайшлі ў першы прадуктыўны клас і маюць формы *уладаць, валодаць, халадаць*. Параўн.: *Каб у час, тваю ўзняўшы рацьь, быць ля стырна крутых падзей — і крыкнуць усёй зямлі — устань і кроўным правам* *в а л а д з е й!* (У. Хадыка); *Ім увесь час* *в а л о д а ў* *узвышаны і неастываючы настрой* (Ц. Гартны).

2. Дзеясловы першага прадуктыўнага класа на *а* (*дужацца, апрыкраць, занядужаць, выкрасаць, красаць, мераць, муляць* і некаторыя іншыя) замест *дужайся, апрыкраць, занядужаю, выкрасаю, мераю, мераеш, мерае, мераюць, муляе* ўтвараюць формы па мадэлі дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа: *дужыйся, апрыкрыць, занядужу, выкрашу, меру, мерыш, мерыць,* (яны) *мераць, муліць* і г. д. Асабліва ўзаемадзеянне гэтых класаў праяўляецца ў інфінітыве і формах прошлага часу: *Клалі ў зямлю дробненькі гной, па аднаму, кожны на сваёй занядбанай палосцы* *д у ж ы й с я,* *сам гаспадар і раскірэка конь гойкалі*

*на ўсё поле і не маглі яе* а д у ж а ц ь... (В. Каваль); *Выбраў зацішнае месца... наклаў у люльку тытуну,* в ы к р а с і ў *агню, закурыў* (Я. Колас); *Сонцаву ў першы ж дзень страявая* а п р ы к р ы л а (І. Мележ); *Ды* а п р ы к р ы л а *ўсё* (К. Крапіва); *Пажывуць год,* а п р ы к р ы ц ь *жыццё — разлучаюцца,* м у ч а ц ь *адзін аднаго* (В. Каваль); — *З а н я д у ж ы л а нешта, сынок... Неяк аслабела дый годзе* (А. Чарнышэвіч); *Тая ж, вядома, пасля цяжкіх страт зусім* з а н я д у ж ы л а (П. Кавалёў); *Няўклюдны цвік балюча* м у л і ц ь *пятку* (А. Пысін); *Ні кпін абразлівых, ні слоў, што вушы* м у л я ц ь (П. Панчанка); *Сяргей ехаў на возе. Ляжаў на спіне і ўвесь час адчуваў, як* м у л і л а *жэрдка* (У. Чыгрынаў); *Вось трапілі некаторыя хваінкі за каўнер,* м у л я ц ь *шыю* (М. Лынькоў); *Што нам жураўліны вырай,— З зор іскраў больш не* к р э с і ц ь (Я. Пушча); *У вайну тата з губы і цэры «*к р э с і ў*» агонь* (І. Пташнікаў).

Прыведзеныя вышэй формы выходзяць за межы літаратурнай мовы і з'яўляюцца адступленнямі ад нормы. Параўн. правільнае ўжыванне: *дужайся, выкрасаў, апрыкрала, апрыкрае, занядужала, муляе, муляюць, муляла, не красае, красаў. Абрыцкі рапарты прымае, хто чуў глушца, якія токі, адлегласць* м е р а е *на крокі* (Я. Колас); *Узляцелі* д у ж а ц ц а *роем у палі з першай снежнай сцюжыцай лісце-матылі* (А. Куляшоў); *А ў небе тым часам ужо* д у ж а е ц ц а *сонца з густой замессю хмар* (В. Быкаў).

3. Пад уплывам дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа зрэдку ў дзеясловах першага прадуктыўнага класа суфікс *-ва-* можа чаргавацца з *-уj-*. Напрыклад: *Глянеш — сэрца* з а х в а т у е... *Колькі шчэ трэба нам сілы* (М. Чарот). Трэба: *захватвае.* У гутарковай мове ўжываюцца формы тыпу *нагадуе, нагадуюць, загадуе, загадуюць, распытуе, распытуюць,* якія з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы.

4. Адбываецца ўзаемадзеянне паміж дзеясловамі падкласа Б першага прадуктыўнага класа і чацвёртага класа. Дзеясловы *дурэць* 'забаўляцца, сваволіць', *зардзецца, заружавецца, заружавець, саромецца, тлець* могуць атрымліваць канчаткі, якія характэрны для дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа: *Ты жыцця, брат, не здалееш, як ты* н і д у р ы ш, *ні шалееш* (Я. Колас); *Хлопец,* н е д у р ы, *выходзь* (І. Навуменка); *Ёй зрабілася сорамна, шчокі* з а р у ж о в і л і с я (Ул. Шахавец); З а р у ж о в і ў с я *бруснічнік* (П. Броўка); *Твар яе* з а р у ж о в і ў с я, *Што знайсці за прычыну?* (П. Броўка); *Заясней,* з а р д з і с я, *у славе неразвеўна, Нібы дзіва тое — У казцы каралеўна* (Я. Купала); *Як будуць салодка пахнуць ліпы, як зіхатліва* з а р д з і ц ц а *сонечны захад, халадком дыхне паветра* (М. Вышынскі); *Сказаць хацела нешта, ды, мусіць, бацькі* з а с а р о м і л а с я (Я. Колас); *Рыбкін густа пачырванеў і апусціў вочы, але не словы ўдзячнасці* з а с а р о м і л і *яго* (А. Шашкоў); *Сёння матчынай мовы, а заўтра* з а с а р о м і ш с я *маці самой?* (Н. Гілевіч); *Нібы ёсць нейкая прычына* С а р о м і ц ц а *ўласных рук* (А. Пысін); *Мікіта трохі* с а р о м і ў с я, *і прамова яго была не зусім гладкай* (Я. Колас); *Яны..* н е с а р о м я ц ц а *адзін аднаго* (А. Зарэцкі); *А каганец, Як бы губка, толькі* т л і ц ц а (Ф. Багушэвіч); *Зоркі роднай у сэрцы мне іскрынка* т л і ц ь (Я. Купала).

Прыведзеныя вышэй формы з'яўляюцца адступленнем ад літаратурнай нормы. Параўн. правільныя формы: *Ну, Ігнат, глядзі, брат, Не* д у р э й, *вучыся* (Я. Колас); *Яны* д у р э л і *да таго часу, пакуль маці не прыкрыкнула* (М. Даніленка); *Край неба над зямлёю пачаў* р у ж а в е ц ь (Маладосць, 1974), а таксама *зардзейся, зардзеецца, засаромецца, тлеецца, тлее.*

5. Адзначаюцца выпадкі ўздзеяння дзеясловаў другога прадуктыў-

нага класа на чацвёрты. Напрыклад, замест літаратурнай інфінітыўнай формы *спыніцца* і адпаведных асабовых форм *спынюся, спыніўся* сустракаюцца формы тыпу *спынуся, спынуўся,* якія выходзяць за межы літаратурнай нормы: *Там-сям гэтым пахваліўся I с а п с у ў паперы: С а м с п ы н у ў с я ў халоднай За ... свабоду веры* (Я. Купала).

### *Непрадуктыўныя класы*

§ 283. Дзеясловы, якія па суадносінах асновы інфінітыва і асновы цяперашняга часу не ўключаюцца ні ў адзін з чатырох пералічаных вышэй класаў, складаюць групы непрадуктыўных класаў. Некаторыя дзеясловы наогул адрозніваюцца індывідуальнымі формаўтваральнымі асаблівасцямі. Непрадуктыўныя класы дзеясловаў адчуваюць на сабе ўплыў прадуктыўных тыпаў і пераходзяць у сістэму прадуктыўных дзеясловаў, некаторыя маюць дублетныя формы непрадуктыўных і прадуктыўных класаў.

### **Першы непрадуктыўны клас**

§ 284. Д а п е р ш а г а н е п р а д у к т ы ў н а г а класа належаць дзеясловы з суадносінамі ў асновах *а — нуль гука: каз-а-ць — каж-уць, вej-а-ць* (веяць) — *вej-уць* (веюць), *рв-а-ць — рв-уць.*

Па характару канцавога зычнага асновы цяперашняга часу і па наяўнасці або адсутнасці чаргавання ў асновах дзеясловы гэтага класа дзеляцца на тры падкласы.

П а д к л а с А ўключае дзеясловы з чаргаваннем апошніх зычных асноў інфінітыва і цяперашняга часу ва ўсіх асабовых формах. Адзначаюцца наступныя чаргаванні:

*з — ж (казаць — кажу, кажаш... кажуць);*
*с — ш (пісаць — пішу, пішаш... пішуць);*
*т — ч (шаптаць — шапчу, шэпчаш... шэпчуць);*
*п — пл' (сыпаць — сыплю, сыплеш... сыплюць);*
*м — мл' (драмаць — драмлю, дрэмлеш... дрэмлюць).*

З а ў в а г а. Толькі ў дзеясловах *лгаць* і *ткаць* чаргаванне *г, к* з шыпячымі адсутнічае ў 1-ай асобе адзіночнага і 3-яй асобе множнага ліку: *лгаць — лгу, лжэш, лжэ, лжом, лжаце, лгуць; ткаць — тку, тчэш, тчэ, тчом, тчаце, ткуць.*

У дзеясловах *слаць* і *прыслаць* адзначаюцца нерэгулярныя чаргаванні: *слаць — сцялю, сцелеш... сцелюць; прыслаць — прышлю, прышлеш... прышлюць.*

Чаргаванне цвёрдых зычных з мяккімі або зацвярдзелымі зычнымі:
*л — л' (слаць — шлю, шлеш... шлюць);*
*н—н' (стагнаць — стагну, стогнеш... стогнуць);*
*в — в' (рваць — рву, рвеш... рвуць);*
*с — с' (ссаць — ссу, ссеш... ссуць);*
*д — дж (ждаць — жду, жджэш... ждуць);*
*р* цвёрды — *р* зацвярдзелы *(араць — ару, арэш... аруць).*

Чаргуюцца таксама спалучэнні зычных:
*ск — шч (пляскаць — пляшчу, плешчаш... плешчуць);*
*ст — шч (хвастаць — хвашчу, хвошчаш... хвошчуць).*

Некаторыя дзеясловы гэтай групы з асновай на *к, х,* а таксама на *ск* і *ст* падвяргаюцца ўплыву з боку дзеясловаў першага прадуктыўнага класа. Да ліку такіх дзеясловаў трэба аднесці *калыхаць, клікаць, паласкаць, пляскаць, скакаць, смыкаць, хвастаць* і некаторыя іншыя.

У выніку ўзаемадзеяння гэтых дзеясловаў з дзеясловамі першага прадуктыўнага класа тыпу *чытаць, гартаць, макаць* пералічаныя вышэй дзеясловы могуць мець паралельныя асабовыя формы:

*калыхаць* — *калышу, калышаш, калыша ... калышуць* / *калыхаю, калыхаеш, калыхае ... калыхаюць*

*клікаць* — *клічу, клічаш, кліча ... клічуць* / *клікаю, клікаеш, клікае ... клікаюць*

*смыкаць* — *смычу, смычаш, смыча ... смычуць* / *смыкаю, смыкаеш, смыкае ... смыкаюць*

*паласкаць* — *палашчу, палошчаш, палошча ... палошчуць* / *паласкаю, паласкаеш, паласкае ... паласкаюць*

*пляскаць* — *пляшчу, плешчаш, плешча ... плешчуць* / *пляскаю, пляскаеш, пляскае ... пляскаюць*

*хваставаць* — *хвашчу, хвошчаш, хвошча ... хвошчуць* / *хвастаю, хвастаеш, хвастае ... хвастаюць*

Для дзеяслова *смыкаць* у якасці літаратурнай нормы замацаваліся варыянтныя формы *смычу, смычаш, смыча...* і *смыкаю, смыкаеш, смыкае.*

Для дзеясловаў *калыхаць, клікаць, паласкаць, пляскаць, хвастаць* у якасці літаратурнай нормы замацаваліся формы, утвораныя па мадэлі першага непрадуктыўнага класа: *калышу, клічу, палашчу, пляшчу, хвашчу.* Формы *калыхаю, клікаю, паласкаю, пляскаю, хвастаю,* якія ўтвараюцца па мадэлі дзеясловаў першага прадуктыўнага класа, сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры: *Імкне ручаінамі празрыстая вада, калыхае ў сабе срэбнае цельца маленькай вясёлай міроны* (Ул. Караткевіч); *На Цэнтральную плошчу ўступілі першыя калоны ўсіх пяці раёнаў горада. Над імі калыхаюцца пераходныя Чырвоныя Сцягі Савета Міністраў БССР і Белсаўпрофа* (Звязда, 1969); *Я толькі кліч клікаю і разношу гэтую весць усім чыста ад хаты да хаты* (Я. Купала).

Дзеясловы першага прадуктыўнага класа аказваюць уплыў на дзеясловы першага непрадуктыўнага класа з канцавымі зычнымі *м* і *п* у аснове:

*драмаць* — *драмлю, дрэмлеш, дрэмле...дрэмлюць* / *драмаю, драмаеш, драмае...драмаюць*

*кляпаць* — *кляпаю, кляпаеш, кляпае...кляпаюць* / *кляплю, клеплеш, клепле...клеплюць*

*шчыпаць* — *шчыплю, шчыплеш, шчыпле...шчыплюць* / *шчыпаю, шчыпаеш, шчыпае...шчыпаюць*

Для дзеясловаў *кляпаць* і *шчыпаць* у якасці літаратурнай нормы выступаюць паралельныя формы: *кляпаю* і *кляплю... кляпаюць* і *клеплюць, шчыпаю* і *шчыплю... шчыпаюць* і *шчыплюць*.

Для дзеяслова *драмаць* нормай лічацца формы *драмлю, дрэмлеш... дрэмлюць*.

§ 285. Падклас Б уключае дзеясловы, у якіх аснова цяперашняга часу заканчваецца на *j*, а аснова інфінітыва — на *ja*: *веja-ць* (веяць) — *веj-уць* (веюць). Сюды адносяцца дзеясловы *баяць, бляяць, веяць, каяцца, лаяць, пяяць, сеяць, смяяцца*.

§ 286. Падклас В уключае дзеясловы, у якіх наглядаецца чаргаванне галосных *е*(*я*), *а* ў аснове цяперашняга часу з адсутнасцю галоснага ў аснове інфінітыва. Сюды ўключаецца некалькі дзеясловаў: *бра-ць — бяр-уць*, *дра-ць — дзяр-уць*, *зва-ць — зав-уць*, *пра-ць — пяр-уць*.

### § 287. Узор парадыгмы

**Цяперашні час**

Адзіночны лік

| | Падклас А | | | | | Падклас Б | Падклас В |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | *піш-у* | *калыш-у* | *сыпл-ю* | *рву* | *ар-у* | *ве-ю* | *бяр-у* |
| 2 ас. | *піш-аш* | *калыш-аш* | *сыпл-еш* | *рв-еш* | *ар-эш* | *ве-еш* | *бяр-эш* |
| 3 ас. | *піш-а* | *калыш-а* | *сыпл-е* | *рв-е* | *ар-э* | *ве-е* | *бяр-э* |

Множны лік

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | *піш-ам* | *калыш-ам* | *сыпл-ем* | *рв-ём* | *ар-ом* | *ве-ем* | *бяр-ом* |
| 2 ас. | *піш-аце* | *калыш-аце* | *сыпл-еце* | *рв-яце* | *ар-аце* | *ве-еце* | *бер-аце* |
| 3 ас. | *піш-уць* | *калыш-уць* | *сыпл-юць* | *рв-уць* | *ар-уць* | *ве-юць* | *бяр-уць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| м. р. | *піса-ў* | *калыха-ў* | *сыпа-ў* | *рва-ў* | *ара-ў* | *вея-ў* | *бра-ў* |
| ж. р. | *піса-л-а* | *калыха-л-а* | *сыпа-л-а* | *рва-л-а* | *ара-л-а* | *вея-л-а* | *бра-л-а* |
| н. р. | *піса-л-а* | *калыха-л-а* | *сыпа-л-а* | *рва-л-а* | *ара-л-а* | *вея-л-а* | *бра-л-а* |

Множны лік

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| *піса-л-і* | *калыха-л-і* | *сыпа-л-і* | *рва-л-і* | *ара-л-і* | *вея-л-і* | *бра-л-і* |

## Другі непрадуктыўны клас

§ 288. Да другога непрадуктыўнага класа належаць дзеясловы з суадносінамі ў асновах *а — нуль гука, е*(*э*) *— нуль гука: ляжа-ць* — (яны) *ляж-аць, сядз-е-ць — сядз-яць*. У залежнасці ад якасці апошняга галоснага асновы інфінітыва дзеясловы другога класа дзеляцца на два падкласы.

Да падкласа А адносяцца дзеясловы з асновай інфінітыва на *а* і асновай цяперашняга часу на зычны: *майча-ць — майч-у, майч-ыш... майч-аць*. Большасць дзеясловаў гэтага падкласа мае ў аснове цяперашняга часу шыпячыя *ж* (*дж*), *ч*; *бліщчаць, бражджаць, бурчаць, верашчаць, вішчаць, гучаць, дрыжаць, журчаць, імчаць, крычаць, ляжаць, майчаць, пішчаць, тарчаць* (*тырчаць*), *трашчаць, цурчаць*, а таксама дзеясловы *ламаць* (з чаргаваннем *м—мл'* у аснове цяперашняга часу: *ламлю, ломіш... ломяць*), *спаць* (з чаргаваннем *п—пл'* у аснове цяперашняга часу: *сплю, спіш... спяць*), *гнаць* (з паяўленнем беглага

галоснага ў аснове цяперашняга часу: *ганю, гоніш... гоняць)* і дзеясловы з асновай на *j* у аснове цяперашняга часу: *баяцца, стаяць.*

Да падкласа Б адносяцца дзеясловы з асновай інфінітыва на *е* і асновай цяперашняга часу на зычны: *шуме-ць — шум-яць, глядзе-ць—глядз-яць.* Сюды адносяцца дзеясловы: *бліскацець, бразгацець, вісець, вярцець, глядзець, грукацець, грымець, гудзець, дрыгацець, дудзець, дымець, звінець, зіхацець, карцець, кіпець, лапацець, ліпець, ляцець, мігцець, мільгацець, ненавідзець, рупець, рыпець, свіцецца, свярбець, сіпець, скрыпець, слізгацець, смылець, смярдзець, сядзець, тарахцець, трымцець, храбусцець, хрусцець, хрыпець, цьмець, цярпець, шалясцець, шамацець, шапацець, шаргацець, шумець, шчымець, шыпець,* а таксама *імжэць, кішэць, сврчэць, сквірчэць, цурчэць* і *гарэць, курэць.*

У дзеясловах гэтага падкласа з мяккім зычным у аснове ў 1-ай асобе адзіночнага ліку і формах дзеепрыметніка залежнага стану прошлага часу маюць месца чаргаванні: *с—ш (вісець—вішу, вісіш... вісяць; падвешаны); дз'—дж (глядзець — гляджу, глядзіш... глядзяць; пад-гледжаны); ц'—ч (вярцець — вярчу, верціш... верцяць; заверчаны); м—мл' (шумець—шумлю, шуміш, шуміць... шумяць); п—пл' (шыпець — шыплю, шыпіш, шыпіць... шыпяць); сц'—шч (храбусцець — храбушчу, храбусціш, храбусціць... храбусцяць).*

Заўвага. Ад дзеяслова *ляцець* (і прыставачных утварэнняў) у мове мастацкай літаратуры і размоўным стылі ўжываюцца часам формы *ляту* (1-ая асоба адзіночнага ліку) і *лятуць* (3-яя асоба множнага ліку), напрыклад: *Іскры лятуць да світання ў цемру і снег, як жывыя чмялі* (Ул. Караткевіч); — *Дзеці — яны вырастаюць і лятуць, у іх свой клопат, яны свае гнёзды ўюць* (А. Марціновіч). Гэтыя формы, магчыма, паявіліся па аналогіі з асабовымі формамі дзеяслова *лятаць* і з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы.

Літаратурнай нормай трэба лічыць формы *лячу, ляціш, ляціць, ляцім, леціце, ляцяць.*

Некаторыя дзеясловы другога непрадуктыўнага класа падвяргаюцца ўплыву дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа. Гэты ўплыў найбольш яскрава выяўляецца ў формах прошлага часу прыставачных дзеясловаў, у якіх наглядаецца замена націскных суфіксальных галосных ненаціскнымі, напрыклад: *Пасека аж белая ад іх,— нібы гэта не сійцы, а ржышча выгарала, адлежылася пад сонцам, вымакла, як канаплі ў вадзе, а цяпер зноў узнялося шчоткай* (І. Пташнікаў); *Яна змоўчыла троху* (А. Зарэцкі); *Недзе грукнуў дзяцел. Змоўчыў, мабыць выскачыла рысь* (П. Броўка); *Сядзіць ён ціхутка, адасоблена, пільна ў зоркае неба ўгледзіўся* (Я. Крупенька); *Загледзіліся на настаўніцу* (Я. Брыль); *Ён загледзіў яе і выйшаў з хаты* (В. Маеўскі). Формы *адлежылася, змоўчыла, змоўчыў, угледзіўся* і падобныя павінны кваліфікавацца як парушэнне літаратурнай нормы. Ад дзеясловаў *адлежацца, змоўчаць, угледзецца, загледзець* нарматыўнымі з'яўляюцца формы *адлежалася, змоўчала, змоўчаў, угледзеўся, загледзеў.*

Усе дзеясловы другога непрадуктыўнага класа належаць да другога спражэння.

## § 289. Узор парадыгмы

### Цяперашні час

Адзіночны лік

| | Падклас А | | Падклас Б | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | *маўч-у* | *ста-ю* | *глядж-у* | *скрыпл-ю* | *гар-у* |
| 2 ас. | *маўч-ыш* | *ста-іш* | *глядз-іш* | *скрып-іш* | *гар-ыш* |
| 3 ас. | *маўч-ыць* | *ста-іць* | *глядз-іць* | *скрып-іць* | *гар-ыць* |

Множны лік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | *майч-ым* | *ста-ім* | *глядз-ім* | *скрып-ім* | *гар-ым* |
| 2 ас. | *майч-ыце* | *ста-іце* | *гледз-іце* | *скрып-іце* | *гар-ыце* |
| 3 ас. | *майч-аць* | *ста-яць* | *глядз-яць* | *скрып-яць* | *гар-аць* |

Прошлы час

Адзіночны лік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| м. р. | *майча-ў* | *стая-ў* | *глядзе-ў* | *скрыпе-ў* | *гарэ-ў* |
| ж. р. | *майча-л-а* | *стая-л-а* | *глядзе-л-а* | *скрыпе-л-а* | *гарэ-л-а* |
| н. р. | *майча-л-а* | *стая-л-а* | *глядзе-л-а* | *скрыпе-л-а* | *гарэ-л-а* |

Множны лік

*майча-л-і* *стая-л-і* *глядзе-л-і* *скрыпе-л-і* *гарэ-л-і*

## Трэці непрадуктыўны клас

§ 290. Да трэцяга непрадуктыўнага класа належаць дзеясловы з суадносінамі ў асновах *ну—н: мок-ну-ць* — (яны) *мок-н-уць, жойк-ну-ць* — (яны) *жойк-н-уць*. У формах прошлага часу гэтыя дзеясловы страчваюць суфікс *-ну-*.

Сюды адносяцца беспрыставачныя дзеясловы, якія абазначаюць стан: *блякнуць, бракнуць, віснуць, вытхнуцца, вязнуць, гаснуць, гінуць, глухнуць, горкнуць, гразнуць, грузнуць, гуснуць, дохнуць, друзнуць, дрыхнуць, жойкнуць, жухнуць, затхнуцца, зызнуць, зябнуць, кіснуць, крэпнуць, ліпнуць, мерзнуць, меркнуць, мокнуць, моўкнуць, мякнуць, нікнуць, пахнуць, прагнуць, пухнуць, сіпнуць, слабнуць, слепнуць, смагнуць, сохнуць, стынуць, тухнуць, тхнуць, уваскрэснуць, хрыпнуць, ціхнуць, цягнуць, чахнуць, чэзнуць*, а таксама дзеясловы, якія на сучасным этапе лічацца невытворнымі або маюць звязаную аснову: *абрыднуць, абрызгнуць, заскарузнуць, захраснуць, пазбегнуць, прасякнуць, спасцігнуць, спрахнуць; адвергнуць, вывергнуць, звергнуць, падвергнуць, увергнуць; абвыкнуць, адвыкнуць, звыкнуць, прывыкнуць; набухнуць, разбухнуць; набракнуць, разбракнуць; дасягнуць, перасягнуць*. Толькі прыставачныя дзеясловы *адвергнуць, падвергнуць, дасягнуць, перасягнуць, спасцігнуць* і некаторыя іншыя абазначаюць дзеянне.

Дзеясловы трэцяга непрадуктыўнага класа адчуваюць на сабе значны ўплыў дзеясловаў другога прадуктыўнага класа, што абумоўлена падабенствам структуры і суадносін асноў інфінітыва і цяперашняга часу. Уплыў заключаецца ў тым, што многія беспрыставачныя дзеясловы трэцяга непрадуктыўнага класа ў формах прошлага часу мужчынскага роду могуць захоўваць суфікс *-ну-*, напрыклад: *блякнуў, віснуў, вязнуў, вянуў, горкнуў, жойкнуў, ліпнуў, пахнуў, прагнуў, сіпнуў* і інш.

У формах жаночага і ніякага роду і ў формах множнага ліку прошлага часу, а таксама ў прыставачных дзеясловах уплыў другога прадуктыўнага класа значна меншы. Тут як літаратурная норма ў асноўным выступаюць формы без суфікса *-ну-: вя́ла, вя́лі, завяў, завялі; гасла, гаслі, пагас, згаслі; глухла, глухлі, аглух, заглухлі; гразла, гразлі, заграз, загразлі; зябла, зяблі, азяб, азяблі* і г. д.

Але ад прыставачных утварэнняў дзеясловаў *гінуць, цягнуць, прагнуць*, а таксама *дасягнуць, вытхнуцца, затхнуцца* ўсе формы прошла-

га часу ў літаратурнай мове павінны ўжывацца з суфіксам *-ну-: загінуў, загінула, загінулі; прыцягнуў, прыцягнула, прыцягнулі; запрагнуў, запрагнула, запрагнулі; дасягнуў, дасягнула, дасягнулі; вытхнуўся, вытхнулася, вытхнуліся; затхнуўся, затхнулася, затхнуліся.* Формы гэтых дзеясловаў без суфікса *-ну- (прыцяг, выцяг, выцягла, запраг, запрагла, дасяг, дасяглі, вытхлася, затхлася)* з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы.

Большасць дзеясловаў трэцяга непрадуктыўнага класа, у якіх у сучаснай мове прыстаўка не выдзяляецца, у прошлым часе маюць форму мужчынскага роду з суфіксам *-ну-: уракнуць — уракнуў, прасякнуць — прасякнуў, абвергнуць — абвергнуў, пазбегнуць — пазбегнуў, абрыднуць — абрыднуў, абрызгнуць — абрызгнуў, заскарузнуць — заскарузнуў.*

Для дзеясловаў *абвыкнуць, адвыкнуць, прывыкнуць, набракнуць, набухнуць, захраснуць, спрахнуць, спасцігнуць* літаратурнымі лічацца формы без суфікса *-ну-: абвык, адвык, прывык, набрак, набух, захрас, спрах, спасціг.*

Формы жаночага роду і формы множнага ліку ўсіх гэтых дзеясловаў утвараюцца пераважна без суфікса *-ну-: уракла, уараклі; прасякла, прасяклі; абвергла, абверглі; пазбегла, пазбеглі; набракла, набраклі; спрахла, спрахлі; спасцігла, спасціглі* і інш.

Усе дзеясловы трэцяга непрадуктыўнага класа адносяцца да першага спражэння. Формы цяперашняга часу ўсіх дзеясловаў гэтага класа маюць цвёрды зычны *-н-* у формах 1-ай асобы адзіночнага ліку і 3-яй асобы множнага ліку і мяккі зычны *-н'-* у формах 2-ой і 3-яй асобы адзіночнага ліку і 1-ай і 2-ой асобы множнага ліку.

### § 291. Узор парадыгмы

**Цяперашні (будучы) час**

Адзіночны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 ас. | *мерзн-у* | *прывыкн-у* | *мокн-у* |
| 2 ас. | *мерзн-еш* | *прывыкн-еш* | *мокн-еш* |
| 3 ас. | *мерзн-е* | *прывыкн-е* | *мокн-е* |

Множны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 ас. | *мерзн-ем* | *прывыкн-ем* | *мокн-ем* |
| 2 ас. | *мерзн-еце* | *прывыкн-еце* | *мокн-еце* |
| 3 ас. | *мерзн-уць* | *прывыкн-уць* | *мокн-уць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | | |
|---|---|---|---|
| м.р. | *мёрз* | *прывык* | *мок* |
| ж.р. | *мерз-л-а* | *прывык-л-а* | *мок-л-а* |
| н.р. | *мерз-л-а* | *прывык-л-а* | *мок-л-а* |

Множны лік

*мерз-л-і* *прывык-л-і* *мок-л-і*

### Чацвёрты непрадуктыўны клас

§ 292. Да чацвёртага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы, інфінітыў якіх заканчваецца на *-ці, -сці: вез-ці, дзяўб-ці, кла-сці, цер-ці.* У залежнасці ад характару апошняга зычнага асновы

дзеясловы чацвёртага непрадуктыўнага класа дзеляцца на тры падкласы.

Падклас А аб'ядноўвае дзеясловы на *-ці*, у якіх аснова інфінітыва і аснова цяперашняга часу супадаюць. Апошні зычны асновы: *з* (*вез-ці — вяз-уць, вярз-ці — вярз-уць, грыз-ці — грыз-уць, лез-ці — лез-уць, паўз-ці — паўз-уць*); *с* (*нес-ці — няс-уць, трэс-ці — трас-уць*); *б* (*дзяўб-ці — дзяўб-уць, скарб-ці — скраб-уць, скуб-ці—скуб-уць, грэб-ці — граб-уць*); *п* (*сап-ці — сап-уць, храп-ці — храп-уць, чаўп-ці — чаўп-уць*); *р* (*дзер-ці — дзяр-уць, жэр-ці — жар-уць*); *в*, які чаргуецца з *ў* (*раў-ці — рав-уць*). Апошні зычны асновы з'яўляецца апошнім гукам у формах прошлага часу мужчынскага роду: *вёз, нёс, дзёўб, соп, дзёр, жор* і г. д.

Заўвага. Пад уплывам дзеясловаў на *-сці* тыпу *брысці, плесці, месці* ў некаторых дзеясловах на *-ці* з папярэднім губным перад *-ці* паяўляецца *с*: *грабсці, дзяўбсці, скрабсці, храпсці, чаўпсці, раўсці*. Аднак гэтыя формы лічацца дыялектнымі.

Падклас Б аб'ядноўвае дзеясловы на *-сці*, у якіх аснова цяперашняга часу заканчваецца на *д* або *т*: *класці — клад-уць, мес-ці — мят-уць*. У гэты падклас адносяцца дзеясловы *брысці, весці, гнесці, гусці, класці, красці, месці, пасці, плесці, прасці, сесці, цвісці*. Формы прошлага часу ўтвараюцца шляхам далучэння суфікса *-л-* да асновы інфінітыва: *кла-сці — кла-ў, кла-л-а; пле-сці — плё-ў, пля-л-а*.

У падклас В уваходзяць дзеясловы *мерці, перці, церці, распасцерці*. У аснове цяперашняга часу гэтых дзеясловаў выпадае беглы галосны *е*: *перці — пру, прэш, прэ... пруць; распасцерці — распастру, распастрэш, распастрэ... распаструць; церці — тру, трэш, трэ... труць*. У формах прошлага часу, а таксама ў дзеепрыметніках залежнага стану прошлага часу і дзеепрыслоўях гук *е* ўзнаўляецца: *перці — пру... пруць, пёр, перла... запёрты, запёршы; церці—тру... труць, цёр, церла... пацёрты, пацёршы*.

Да чацвёртага непрадуктыўнага класа адносяцца таксама дзеясловы *расці* і *клясці*, але яны маюць некаторыя асаблівасці пры формаўтварэнні.

Дзеяслоў *расці* ўтварае формы цяперашняга часу ад асновы *раст-*: *раст-у, расц-еш... раст-уць*, а формы прошлага часу ўтвараюцца ад асновы *рос-(рас-)*: *рос, рас-л-а, рас-л-о, рас-л-і*.

Дзеяслоў *клясці* ўтварае формы цяперашняга часу ад асновы *клян-*: *клян-у, клян-еш, клян-е... клян-уць*, а формы прошлага часу ад асновы *кля-*: *кля-ў, кля-л-а, кля-л-о, кля-л-і*.

Усе дзеясловы чацвёртага непрадуктыўнага класа адносяцца да першага спражэння. Асновы форм цяперашняга часу маюць у канцы цвёрды зычны (у 1-ай асобе адзіночнага ліку і 3-яй асобе множнага ліку) і мяккі зычны (у 2-ой і 3-яй асобе адзіночнага ліку і 1-ай і 2-ой асобе множнага ліку), акрамя дзеясловаў з асновай на *р*.

## § 293. Узор парадыгмы

**Цяперашні час**

Адзіночны лік

| | Падклас А | | Падклас Б | | Падклас В |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | *няс-у* | *дзяўб-у* | *клад-у* | *мят-у* | *тр-у* |
| 2 ас. | *няс-еш* | *дзяўб-еш* | *кладз-еш* | *мяц-еш* | *тр-эш* |
| 3 ас. | *няс-е* | *дзяўб-е* | *кладз-е* | *мяц-е* | *тр-э* |

Множны лік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | *няс-ём* | *дзяўб-ём* | *кладз-ём* | *мяц-ём* | *тр-ом* |
| 2 ас. | *нес-яце* | *дзеўб-яце* | *кладз-яце* | *мец-яце* | *тр-аце* |
| 3 ас. | *няс-уць* | *дзяўб-уць* | *клад-уць* | *мят-уць* | *тр-уць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| м.р. | *нёс* | *дзёўб* | *кла-ў* | *мё-ў* | *цёр* |
| ж.р. | *нес-л-а* | *дзяўб-л-а* | *кла-л-а* | *мя-л-а* | *цер-л-а* |
| н.р. | *нес-л-а* | *дзяўб-л-о* | *кла-л-а* | *мя-л-о* | *цер-л-а* |

Множны лік

*нес-л-і* *дзяўб-л-і* *кла-л-і* *мя-л-і* *цер-л-і*

## Пяты непрадуктыўны клас

§ 294. Да пятага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы, інфінітыў якіх заканчваецца на *-чы(-ч)*, а аснова цяперашняга часу — на заднеязычныя *г, к*, якія чаргуюцца з *ж, ч: тау-чы — тауk-у, таўч-эш; бераг-чы — бераг-у, бераж-эш.* Аснова прошлага часу заканчваецца на *г* або *к: бярог, бераг-л-а, тоўк, таўк-л-а.*

У пяты непрадуктыўны клас уваходзяць беспрыставачныя дзеясловы: *валачы, берагчы, легчы, магчы, прэгчы* 'смажыць', *пячы, сячы* (і *секчы*), *стрыгчы, сцерагчы, таўчы, цячы*, а таксама дзеясловы са звязанымі асновамі: *адпрэгчы, выпрагчы, запрэгчы, падпрэгчы, перапрэгчы, прыпрэгчы, распрэгчы; адрачыся, вырачыся, зрачыся, урачы, урачыся.*

Заўвага. Ад дзеяслова *магчы* не ўтвараецца форма загаднага ладу.

Усе деясловы пятага непрадуктыўнага класа адносяцца да першага спражэння.

§ 295. Узор парадыгмы

**Цяперашні час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *стрыг-у* | *таўк-у* |
| 2 ас. | *стрыж-эш* | *таўч-эш* |
| 3 ас. | *стрыж-э* | *таўч-э* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *стрыж-ом* | *таўч-ом* |
| 2 ас. | *стрыж-аце* | *таўч-аце* |
| 3 ас. | *стрыг-уць* | *таўк-уць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| м.р. | *стрыг* | *тоўк* |
| ж.р. | *стрыг-л-а* | *таўк-л-а* |
| н.р. | *стрыг-л-а* | *таўк-л-о* |

Множны лік

*стрыг-л-і* *таўк-л-і*

### Шосты непрадуктыўны клас

§ 296. Да шостага непрадуктыўнага класа належаць дзеясловы з суадносінамі ў асновах *а(я)* — насавы зычны: *жа-ць—жн-у, мя-ць — мн-у, абня-ць — абнім-у.*

У залежнасці ад таго, якім насавым заканчваецца аснова цяперашняга часу, дзеясловы гэтага класа падзяляюцца на два падкласы.

Падклас А аб'ядноўвае дзеясловы з асновай цяперашняга часу на зычны *н: жаць, мяць, пяць, цяць* і прыставачныя ад іх, а таксама дзеясловы са звязанай асновай: *зачаць, пачаць, распачаць, усчаць.*

У падклас Б уваходзяць дзеясловы з асновай цяперашняга часу на зычны *м: зня-ць — знім-уць.* Гэта дзеясловы са звязанай асновай *-ня-: абняць, адняць, выняць, даняць, заняць, зняць, наняць, падняць, пераняць, паняць, праняць, прыняць, разняць, успрыняць, узняць* і некаторыя іншыя, а таксама дзеяслоў *узяць.*

У залежнасці ад утварэння форм цяперашняга часу дзеясловы падкласа Б дзеляцца на тры групы.

1. Дзеясловы з прыстаўкай на галосны, у якіх адбываецца чаргаванне асноў *-ня-* — *-йм-: да-ня-ць — да-йм-у, до-йм-еш... до-йм-уць; за-ня-ць — за-йм-у, зо-йм-еш... зо-йм-уць; пера-ня-ць — пера-йм-у, пяро-йм-еш... пяро-йм-уць* і г. д.

2. Дзеясловы з прыстаўкай на зычны і з чаргаваннем асноў *-ня-* — *-нім-: аб-ня-ць— аб-нім-у, аб-нім-еш... аб-нім-уць; ад-ня-ць — ад-нім-у, ад-нім-еш... ад-нім-уць; з-ня-ць — з-нім-у, з-нім-еш... з-нім-уць; пад-ня-ць — пад-нім-у, пад-нім-еш... пад-нім-уць; раз-ня-ць — раз-нім-у, раз-нім-еш... раз-нім-уць; уз-ня-ць — уз-нім-у, уз-нім-еш... уз-нім-уць.*

Дзеясловы, за выключэннем тых, прыстаўка якіх канчаецца на *д*, могуць мець варыянтныя формы з менай *н* на *д*: *з-дым-у, раз-дым-у, уз-дым-у.* Ад дзеясловаў з прыстаўкамі *ад-, пад-* адзначаюцца формы *ад-ым-у, пад-ым-у.* Аднак гэтыя формы ўжываюцца радзей.

3. Дзеясловы *выняць, прыняць, успрыняць* характарызуюцца чаргаваннем асноў *-ня-* — *-м-: вы-ня-ць — вы-м-у, вы-м-еш... вы-м-уць; пры-ня-ць — пры-м-у, пры-м-еш... пры-м-уць; успры-ня-ць — успры-м-у, успры-м-еш... успры-м-уць.*

Заўвага. Формы *выйму, выйме, выну, выне, вынуў, вынімі,* якія сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры і гутарковай мове, з'яўляюцца адступленнем ад літаратурнай нормы:— *Бо што спісана пяром, не выйме і сякера* (Я. Купала); *Але ж такія ў пана скуткі, што мусіць вынуць з іх гвазды* (Я. Колас); *І медалі выне са скрыні, унуку пакажа* (М. Лынькоў); *Тады хоць сэрца вынімі* (Н. Гілевіч); *Андрэй вынуў з зубоў люльку* (Я. Колас); *Афіцэр... вынуў з кішэні нейкую паперу* (М. Лынькоў).

Дзеясловы шостага непрадуктыўнага класа адносяцца да першага спражэння. Асновы форм цяперашняга часу маюць у канцы цвёрды зычны *н* або *м* у 1-ай асобе адзіночнага ліку і 3-яй асобе множнага ліку і мяккі зычны *н'* або *м'* у 2-ой і 3-яй асобе адзіночнага ліку і 1-ай і 2-ой асобе множнага ліку.

## § 297. Узор парадыгмы

**Цяперашні (будучы) час**

Адзіночны лік

| | Падклас А | | | Падклас Б | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | *жн-у* | *мн-у* | *пачн-у* | *займ-у* | *аднім-у* | *вым-у* |
| 2 ас. | *жн-еш* | *мн-еш* | *пачн-еш* | *зойм-еш* | *аднім-еш* | *вым-еш* |
| 3 ас. | *жн-е* | *мн-е* | *пачн-е* | *зойм-е* | *аднім-е* | *вым-е* |

Множны лік

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | *жн-ём* | *мн-ём* | *пачн-ём* | *зойм-ем* | *аднім-ем* | *вым-ем* |
| 2 ас. | *жн-яце* | *мн-яце* | *пачн-яце* | *зойм-еце* | *аднім-еце* | *вым-еце* |
| 3 ас. | *жн-уць* | *мн-уць* | *пачн-уць* | *зойм-уць* | *аднім-уць* | *вым-уць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| м.р. | *жа-ў* | *мя-ў* | *пача-ў* | *заня-ў* | *адня-ў* | *выня-ў* |
| ж.р. | *жа-л-а* | *мя-л-а* | *пача-л-а* | *заня-л-а* | *адня-л-а* | *выня-л-а* |
| н.р. | *жа-л-а* | *мя-л-а* | *пача-л-о* | *заня-л-о* | *адня-л-о* | *выня-л-а* |

Множны лік

*жа-л-і* *мя-л-і* *пача-л-і* *заня-л-і* *адня-л-і* *выня-л-і*

Дзеяслоў *узяць* мае наступныя формы: *вазьму, возьмеш, возьме, возьмем, возьмеце, возьмуць; узяў, узяла, узяло, узялі, вазьмі, вазьміце; узяўшы, узяты.*

## Сёмы непрадуктыўны клас

§ 298. Да сёмага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы, якія ў аснове інфінітыва маюць поўнагалоссе *-оло-*, *-оро-*: *калоць, малоць, палоць; бароцца, пароць*. Поўнагалоссе адсутнічае ў формах цяперашняга часу і захоўваецца ў формах прошлага часу і дзеепрыметніках прошлага часу залежнага стану: *палоць — палю, полеш, поле... полюць, палоў, палола, палолі, полаты; пароць — пару, пораш, пора... поруць, пароў, парола, паролі, пораты.* У аснове прошлага часу і аснове цяперашняга часу адбываецца чаргаванне *л — л'*: *кало-л-а — кол-юць, пало-л-а — пол-юць.* У дзеяслове *малоць* адбываецца чаргаванне галосных *а — е: мало-л-а — мелюць.*

Дзеясловы сёмага непрадуктыўнага класа спрагаюцца па першаму спражэнню.

### § 299. Узор парадыгмы

**Цяперашні час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *пал-ю* | *пар-у* |
| 2 ас. | *пол-еш* | *пор-аш* |
| 3 ас. | *пол-е* | *пор-а* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *пол-ем* | *пор-ам* |
| 2 ас. | *пол-еце* | *пор-аце* |
| 3 ас. | *пол-юць* | *пор-уць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| м.р. | *пало-ў* | *паро-ў* |
| ж.р. | *пало-л-а* | *паро-л-а* |
| н.р. | *пало-л-а* | *паро-л-а* |

Множны лік

*пало-л-і* *паро-л-і*

Пад уплывам дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа тыпу *насіць, клеіць* дзеясловы разглядаемай групы ў формах цяперашняга часу (пераважна ў формах 3-яй асобы адзіночнага ліку) часам ужываюцца з канчаткамі *-іць (-ыць), -яць (-аць): ён поліць, коліць, порыць; яны поляць, коляць, пораць.* Такія формы сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры, у гутарковай мове, аднак яны не з'яўляюцца нарматыўнымі: *Ён к о л і ц ь вачыма цемру, ды нічога не бачыць* (З. Бядуля); *Думкі к о л я ц ь мазгі Антона, нібы іголкі* (З. Бядуля); *М е л і ц ь гром над полем хмары, дождж густы, сцюдзёны сыпіць* (М. Танк); *І дорацьі ў вочы п о р а ц ь* (Прыказка).

## Восьмы непрадуктыўны клас

§ 300. Да восьмага непрадуктыўнага класа належаць дзеясловы з суадносінамі ў асновах *ва — j: да-ва-ць — да-j-уць* (даюць).

У гэты клас уваходзяць дзеясловы *даваць, дзяваць, ставаць* і ўсе прыставачныя ўтварэнні ад іх (*выдаваць, надаваць, раздаваць; падзяваць, падзявацца; уставаць, прыставаць* і інш.), а таксама дзеясловы са звязанымі асновамі: *адзяваць, пераадзяваць, раздзявацца, раздзяваць; спадзявацца; дазнавацца, пазнаваць, прызнавацца, прызнаваць; адтаваць, падтаваць, пратаваць, раставаць.*

Дзеясловы восьмага непрадуктыўнага класа адносяцца да першага спражэння.

### § 301. Узор парадыгмы

**Цяперашні час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *да-ю* | *уста-ю* |
| 2 ас. | *да-еш* | *уста-еш* |
| 3 ас. | *да-е* | *уста-е* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *да-ём* | *уста-ём* |
| 2 ас. | *да-яце* | *уста-яце* |
| 3 ас. | *да-юць* | *уста-юць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| м.р. | *дава-ў* | *устава-ў* |
| ж.р. | *дава-л-а* | *устава-л-а* |
| н.р. | *дава-л-а* | *устава-л-а* |

Множны лік

*дава-л-і* *устава-л-і*

Дзеясловы *адзяваць* (і прыставачныя) і *спадзявацца* пад уплывам дзеясловаў першага прадуктыўнага класа ў цяперашнім часе захоўваюць суфікс *-ва-: І хваёваю ігліцай А д з я в а е ц ц а лета звон* (Я. Янішчыц); *Песні-думкі а д з я в а ю з руты-мяты я вяночкам* (А. Гурло);

*Жыццё* **надзявае** *сявеньку* (Я. Колас); **Надзявае** *луг сарочку, шоўкам вышытую ў кветкі* (М. Хведаровіч); *Ён хавае кніжку зноў у скрыню, павольна* **раздзяваецца**, *разбуваецца...* (Р. Мурашка); **Спадзяваюся** *менш і лягчэй пераношу няўдачы* (П. Панчанка); *Усё мяркуецца, усё на нешта* **спадзяваецца** (А. Рыбак).

Асабовыя формы з суфіксам *-ва-* ад дзеяслова *адзяваць* (і прыставачных) замацаваліся ў якасці літаратурнай нормы; ад дзеяслова *спадзявацца* формы з суфіксам *-ва-* з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы.

Форма загаднага ладу *спадзейся* ад дзеяслова *спадзявацца*, якая сустракаецца ў гутарковай мове, выходзіць за межы літаратурнай нормы. Формы загаднага ладу дзеясловы гэтага класа ўтвараюць з суфіксам *-ва-: адзявай, уставай, прызнавайся, спадзявайся* і г. д.

### Дзевяты непрадуктыўны клас

§ 302. Да **дзевятага непрадуктыўнага** класа адносяцца аднаскладовыя дзеясловы з суадносінамі ў асновах — *і* — *j*: *бі-ць — бj-уць (б'юць)*. У гэты клас уваходзяць дзеясловы *біць, віць, ліць, піць*. У формах прошлага часу і формах загаднага ладу *і* захоўваецца: *бі, ві, лі, пі*.

Дзеясловы дзевятага непрадуктыўнага класа спрагаюцца па першаму спражэнню.

§ 303. Узор парадыгмы

**Цяперашні час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *б'-ю* | *ль-ю* |
| 2 ас. | *б'-еш* | *ль-еш* |
| 3 ас. | *б'-е* | *ль-е* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *б'-ём* | *ль-ём* |
| 2 ас. | *б'-яце* | *ль-яце* |
| 3 ас. | *б'-юць* | *ль-юць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| м.р. | *бі-ў* | *лі-ў* |
| ж.р. | *бі-л-а* | *лі-л-а* |
| н.р. | *бі-л-а* | *лі-л-о* |

Множны лік

*бі-л-і* *лі-л-і*

У мове мастацкай літаратуры сустракаецца ўжыванне асабовых форм дзеясловаў *ліць* і *віць* без чаргавання *і* — *j*: **Ліюць** *слёзы з усялякай прычыны* (Маладосць, 1974); *Чаму, мая дзяўчыначка,* **ліеш** *гарачы слёзкі?* (З. Бядуля); *А яна* **ліецца** *ды праз сенажаці і з дзявочых вуснаў і з цымбальных струн* (У. Дубоўка); *Узыходзіць месяц круглы, срабрысты,* **ліе** *таямнічае святло на садкі, поўныя спелых ві-*

*шань і сліў* (І. Навуменка); *Спрытны хмель на дах палез па сценах, свой зялёны дрот в і е ў спіралі* (Г. Кляўко); *Нават птушкі н е в і ю ц ь гнёздаў на абгарэўшых дрэвах* (Полымя, 1952). Аднак такія формы выходзяць за межы літаратурнай мовы.

### Дзесяты непрадуктыўны клас

§ 304. Да дзесятага непрадуктыўнага класа належаць дзеясловы з суадносінамі ў асновах *ы(і) — ыј(іј): бры-ць — брыј-уць* (брыюць). Гэта аднаскладовыя дзеясловы: *брыць, выць, крыць, мыць, ныць, рыць, шыць* і *гніць*.

§ 305. Узор парадыгмы

**Цяперашні час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *мы-ю* | *бры-ю* |
| 2 ас. | *мы-еш* | *бры-еш* |
| 3 ас. | *мы-е* | *бры-е* |

Множны лік

| | | |
|---|---|---|
| 1 ас. | *мы-ем* | *бры-ем* |
| 2 ас. | *мы-еце* | *бры-еце* |
| 3 ас. | *мы-юць* | *бры-юць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | |
|---|---|---|
| м.р. | *мы-ў* | *бры-ў* |
| ж.р. | *мы-л-а* | *бры-л-а* |
| н.р. | *мы-л-а* | *бры-л-а* |

Множны лік

*мы-л-і* *бры-л-і*

### Адзінаццаты непрадуктыўны клас

§ 306. Да адзінаццатага непрадуктыўнага класа адносяцца дзеясловы з інфінітыўнай асновай на галосны, які ў аснове цяперашняга часу ўскладняецца зычным. У залежнасці ад апошняга зычнага асновы цяперашняга часу выдзяляюцца тры падкласы.

Падклас А ўключае дзеясловы з асновай інфінітыва на *у*, які ў аснове цяперашняга часу ўскладняецца зычным *ј: дуць, чуць* (і ўсе прыставачныя ад іх), а таксама дзеясловы *абуць, разуць: ду-ць — ду(ј)-уць* (дуюць); *абу-ць — абу(ј)-уць* (абуюць).

Падклас Б складаюць дзеясловы з асновай інфінітыва на галосны, які ў аснове цяперашняга часу ўскладняецца зычным *в*. У гэту групу ўключаюцца дзеясловы *жыць, плысці (плыць), слыць*, прыставачныя ўтварэнні ад іх *(жы-ць—жыв-уць, плы-ць—плыв-уць, слы-ць — слыв-уць)*, а таксама складаны дзеяслоў *злоўжыць*.

Падклас В уключае дзеясловы з інфінітыўнай асновай на галосныя *е(э), а*, якія ў аснове цяперашняга часу ўскладняюцца зычным *н*.

Сюды ўваходзяць дзеясловы *дзець — дзен-у, стрэць — стрэн-у, стаць — стан-у* і прыставачныя ўтварэнні ад іх: *падзець, сустрэць, дастаць* і інш., а таксама некалькі дзеясловаў са звязанай асновай: *адзець — адзен-у, адзецца — адзен-уся, надзець — надзен-у, раздзець — раздзен-у, уздзець — уздзен-у* і г. д.

Усе дзеясловы адзінаццатага непрадуктыўнага класа адносяцца да першага спражэння. Асновы форм цяперашняга часу дзеясловаў падкласа Б і В маюць у канцы цвёрды зычны (у 1-ай асобе адзіночнага ліку і 3-яй асобе множнага ліку) або мяккі зычны (у 2-ой і 3-яй асобе адзіночнага ліку і 1-ай і 2-ой асобе множнага ліку). Асновы форм прошлага часу заканчваюцца на галосны.

### § 307. Узор парадыгмы

Адзіночны лік

| | Падклас А | Падклас Б | Падклас В | |
|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | *ду-ю* | *плыв-у* | *стан-у* | *дзен-у* |
| 2 ас. | *ду-еш* | *плыв-еш* | *стан-еш* | *дзен-еш* |
| 3 ас. | *ду-е* | *плыв-е* | *стан-е* | *дзен-е* |

Множны лік

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1 ас. | *ду-ем* | *плыв-ём* | *стан-ем* | *дзен-ем* |
| 2 ас. | *ду-еце* | *плыв-яце* | *стан-еце* | *дзен-еце* |
| 3 ас. | *ду-юць* | *плыв-уць* | *стан-уць* | *дзен-уць* |

**Прошлы час**

Адзіночны лік

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| м.р. | *ду-ў* | *плы-ў* | *ста-ў* | *дзе-ў* |
| ж.р. | *ду-л-а* | *плы-л-а* | *ста-л-а* | *дзе-л-а* |
| н.р. | *ду-л-а* | *плы-л-о* | *ста-л-а* | *дзе-л-а* |

Множны лік

*ду-л-і* *плы-л-і* *ста-л-і* *дзе-л-і*

## Узаемадзеянне паміж дзеясловамі непрадуктыўных класаў

§ 308. 1. Пад уплывам дзеясловаў падкласа Б другога непрадуктыўнага класа тыпу *кішэць, свірчэць, сквірчэць, імжэць* некаторыя дзеясловы падкласа А з асновай на шыпячы замест галоснага *а* ў аснове інфінітыва і формах прошлага часу ўжываюцца з галосным *э*. Да ліку такіх дзеясловаў адносяцца: *верашчаць, дрыжаць, крычаць, журчаць, трашчаць, тырчаць, блішчаць, пішчаць* і некаторыя іншыя, якія могуць мець формы *дрыжэць, дрыжэў, дрыжэла, дрыжэлі; блішчэць, блішчэў, блішчэла, блішчэлі* і г. д. Напрыклад: *За вушамі п і ш ч э л а* (Маладосць, 1973); *Знямогся ён і з а в і ш ч э ў, няйначай на дапамогу кліча* (А. Вольскі). Прычым такія формы распаўсюджаны даволі шырока як у мове мастацкіх твораў, так і ў публіцыстыцы: *Упершыню гэтыя гістарычныя словы Леніна п р а г у ч э л і ў Маскве* (Работніца і сялянка, 1969); *Г у ч э л і песні, смех* (Піянер Беларусі, 1978).

Аднак літаратурнай нормай трэба лічыць формы з галосным *а*: *Па-*

*блізу ад гэтых мясцін* г у ч а л а *ў дні няволі і змагання сардэчнае, сціплае і дасціпнае слова паэта Міхася Васілька* (Маладосць, 1973); *У гонар дружбы* п р а г у ч а ў *салют* (Піянер Беларусі, 1980).

2. Пад уплывам дзеясловаў дзесятага непрадуктыўнага класа дзеяслоў *стынуць* (трэці непрадуктыўны клас) у інфінітыве атрымлівае форму *стыць*, якая замацавалася ў якасці літаратурнай нормы: *Быццам білет пад сцюдзёнай вадою Сэрцу юнацкаму* с т ы ц ь *не давай* (А. Куляшоў); *Згорбілася на спіне паддзейка, і ён пачуў, што ў яго мокрыя плечы: пачынаюць* с т ы ц ь (І. Пташнікаў); *А ў руках — басаножкі: Незнарок іх зняла, Каб адчуць, як патрошкі Сцежка* с т ы ц ь *пачала* (Н. Гілевіч). Адпаведна і формы прошлага часу не маюць суфікса *-ну-*: С т ы л і *ногі і рукі, а са стрэх капала* (І. Мележ); С т ы л а *неба — спакойнае, строгае, Як вялікае сіняе цуда* (А. Лойка); *Прайшоў ён праз полымя боек у жоўтыя дні лістапада, Гадзінамі* с т ы ў *на марозе, схаваны між гурб снегавых* (П. Броўка).

Аднак сустракаюцца і формы *стынуць*: *Якімка адчуў, што ў яго пачалі* с т ы н у ц ь *калені* (Я. Курто).

### *Дзеясловы з індывідуальнымі асаблівасцямі формаўтварэння*

§ 309. У беларускай мове ёсць дзеясловы, якія маюць своеасаблівыя суадносіны асновы інфінітыва і асновы цяперашняга часу і індывідуальнае формаўтварэнне. Гэта дзеясловы *есці, надаесці, даць, быць, забыць, збыць, дабыць, ісці, ехаць, мець, хацець, бегчы.*

1. Дзеясловы *есці, надаесці, даць* у формах адзіночнага ліку маюць асабовыя канчаткі: 1-ая ас.— *-м*, 2-ая ас.— *-сі*, 3-яя ас.— *-сць*, якія далучаюцца да галоснага асновы: *е-м, я-сі, е-сць; надае-м, надая-сі, надае-сць; да-м, да-сі, да-сць*. У множным ліку ў 1-ай асобе гэтыя дзеясловы маюць канчатак другога спражэння *-ім*, які далучаецца да асновы на *д*: *ядз-ім, надаядз-ім, дадз-ім*, а ў 3-яй асобе — канчатак першага спражэння *-уць*: *яд-уць, надаяд-уць, дад-уць*. Формы 2-ой асобы множнага ліку ўтвараюцца пры дапамозе канчатка *-сце*, які далучаецца непасрэдна да асновы на галосны: *я-сце, надая-сце, да-сце.*

Формы прошлага часу: *е-ў, е-л-а, е-л-і; нада-е-ў, нада-е-л-а, нада-е-л-і; да-ў, да-л-а, да-л-о, да-л-і.*

З а ў в а г а. Формы 1-ай асобы множнага ліку *дамо* і *ямо* ад дзеясловаў *даць* і *есці* сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры і гутарковай мове, але іх патрэбна лічыць адступленнем ад літаратурнай нормы.

2. Ад дзеяслова *быць (набыць, збыць, забыць* і інш.) формы прошлага часу ўтвараюцца ад асновы *бы- (набы-, збы-, забы-)*, напрыклад: *быў, была, было, былі, быўшы;* формы будучага часу — ад асновы *буд- (набуд-, збуд-, забуд-)*, напрыклад: *буду, будзеш, будзе, будзем, будзеце, будуць*. Формы загаднага ладу: *будзь!, будзьце!, набудзь!, набудзьце!* і г. д.

У цяперашнім часе дзеяслоў *быць* мае для ўсіх асоб адну форму — *ёсць.*

3. Ад дзеяслова *ехаць* формы цяперашняга часу і загаднага ладу ўтвараюцца ад асновы *ед-*: *еду, едзеш, едзе, едзем, едзеце, едуць, едучы, едзь!, едзьце!*, формы прошлага часу — ад асновы *еха-*: *ехаў, ехала, ехалі, ехаўшы.*

4. Дзеяслоў *ісці* (а таксама *выйсці, найсці*) формы цяперашняга часу і загаднага ладу ўтварае ад асновы *ід- (найд-* або *нойд-)*: *іду (выйду, найду), ідзеш (выйдзеш, нойдзеш), ідзе (выйдзе, нойдзе), ідзём*

*(выйдзем, нойдзем)*, *ідзяце (выйдзеце, нойдзеце)*, *ідуць (выйдуць, нойдуць)*; *ідучы, ідзі!, ідзіце! (выйдзі!, выйдзіце!, найдзі!, найдзіце!)*. Формы прошлага часу ўтвараюцца ад асновы *іш-* *(йш-)* (у форме мужчынскага роду *ішо-(йшо-))*: *ішоў (выйшаў, найшоў)*, *ішла (выйшла, найшла)*, *ішло (выйшла, найшло)*, *ішоўшы (выйшаўшы, найшоўшы)*.

5. Дзеяслоў *мець* утварае формы цяперашняга часу і загаднага ладу ад асновы *маj-*: *маю, маеш, мае, маем, маеце, маюць, маючы, май!, майце!* Формы прошлага часу ўтвараюцца ад асновы *ме-*: *меў, мела, мелі, меўшы*.

6. Дзеяслоў *бегчы* ўсе асабовыя формы цяперашняга часу, апрача формы 3-яй асобы множнага ліку, утварае па другому спражэнню: *бяг-у, бяж-ыш, бяж-ыць, бяж-ым, беж-ыце*. Форма 3-яй асобы множнага ліку мае канчатак *-уць*, як у дзеясловах першага спражэння: *бяг-уць*. Формы прошлага часу: *бег, бегла, беглі*; формы загаднага ладу: *бяжы!, бяжыце!*

### *Атрыбутыўныя формы дзеяслова*

§ 310. Атрыбутыўныя формы дзеяслова — дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі. Дзеепрыметнікі сумяшчаюць у сабе значэнне дзеяслова і прыметніка, дзеепрыслоўі — значэнне дзеяслова і прыслоўя.

Дзеепрыметнікі і дзеепрыслоўі, як і спрагальныя формы дзеяслова, утвараюцца ад асновы цяперашняга або прошлага часу. Дзеепрыметнікі змяняюцца па ад'ектыўнаму скланенню. Дзеепрыслоўі форм змянення не маюць.

## ДЗЕЕПРЫМЕТНІК

§ 311. Дзеепрыметнік — атрыбутыўная форма дзеяслова, што абазначае дзеянне як прымету або ўласцівасць прадмета (асобы), якая праяўляецца ў часе.

Для дзеепрыметніка характэрны асноўныя марфалагічныя катэгорыі дзеяслова (катэгорыя стану, трывання, часу) і прыметніка (катэгорыя роду, ліку, склону). Дзеепрыметнікі залежнага стану ўтвараюць кароткія формы.

У сказе дзеепрыметнікі выконваюць ролю азначэння або выказніка: *Пасажыраў у вагоне было не так многа. Лабановіч прымасціўся на лаўцы каля акна і пазіраў на ўсё новыя і новыя малюнкі, напісаныя шчодраю прыродаю на кожным кавалачку зямлі, а таксама змайстраваныя рукамі чалавека* (Я. Колас); *І вось нядаўна Лабановіч разам з Янкам усутыч падыходзілі да зачараваўшага яго дрэва* (Я. Колас); *Сцежкі кветкамі абсаджаны, Дрэвы ў шэпце ціхім туляцца. Шэры дом, з каменняў кладзены, Цераз мур навіс над вуліцай* (К. Буйло); *Зімой увесь гэты ўзгорак быў укрыты тоўстым пластом снегу* (М. Лупсякоў).

Адрозніваюцца чатыры формы дзеепрыметнікаў: дзве формы незалежнага стану цяперашняга і прошлага часу і дзве формы залежнага стану цяперашняга і прошлага часу. Дзеепрыметнікі незалежнага стану абазначаюць прымету, уласцівасць з агульным значэннем 'які ўтварае дзеянне'. Дзеепрыметнікі залежнага стану абазначаюць прымету, уласцівасць з агульным значэннем 'які падвяргаецца дзеянню, з'яўляецца вынікам дзеяння'.

Утварэнне дзеепрыметнікаў залежыць ад трывання дзеяслова і яго пераходнасці — непераходнасці. Так, ад дзеясловаў закончанага трывання нельга ўтварыць дзеепрыметнікі цяперашняга часу, а ад непера-

ходных дзеясловаў не ўтвараюцца дзеепрыметнікі залежнага стану. Чатыры формы дзеепрыметнікаў утвараюцца ад пераходных дзеясловаў незакончанага трывання: *чытаць* (кнігу) — *чытаючы, чытаемы, чытаўшы, чытаны*. Ад пераходных дзеясловаў закончанага трывання ўтвараюцца толькі дзве формы прошлага часу: *прачытаць* (кнігу) — *прачытаўшы, прачытаны*.

Ад непераходных дзеясловаў утвараюцца толькі дзеепрыметнікі незалежнага стану. Ад непераходных дзеясловаў незакончанага трывання ўтвараюцца дзве формы дзеепрыметнікаў — цяперашняга і прошлага часу (*адпачываць—адпачываючы, адпачываўшы*). Ад непераходных дзеясловаў закончанага трывання ўтвараецца толькі форма дзеепрыметніка прошлага часу (*адпачыць — адпачыўшы*). Ад непераходных зваротных дзеясловаў утварэнне дзеепрыметнікаў абмежавана.

### Дзеепрыметнікі незалежнага стану

§ 312. Дзеепрыметнікі незалежнага стану ўтвараюцца ад незваротных пераходных і непераходных дзеясловаў. Яны маюць формы цяперашняга і прошлага часу.

§ 313. Дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу ўтвараюцца ад асноў цяперашняга часу дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе суфіксаў *-уч-(-юч-)* (ад дзеясловаў першага спражэння) і *-ач-(-яч-)* (ад дзеясловаў другога спражэння) і канчаткаў прыметнікаў мужчынскага, жаночага або ніякага роду адзіночнага ліку або канчаткаў множнага ліку: *піш-уч-ы (-ая, -ае, -ыя), хвалю-юч-ы (-ая, -ае, -ыя); бач-ач-ы (-ая, -ае, -ыя), корм-яч-ы (-ая, -ае, -ыя).*

Дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу ў літаратурнай мове ўжываюцца не так часта. Больш пашыраны яны ў мове навуковага і публіцыстычнага стыляў, што выклікана імкненнем да скарачэння аб'ёму сказаў: *Ён ахвотна пачаў паказваць нам цікавячыя нас рэчы* (Чырвоная змена, 1969); *Прэзідэнт Кахтан аш-Шаабі і суправаджаючыя яго асобы* (Чырвоная змена, 1969); *Трывожна ад прадстаячага развітання са школай адчувалі сябе васьмікласнікі* (Піянер Беларусі, 1969); *Касыя промні заходзячага сонца* (Маладосць, 1969); *Мастацтва кожнай гістарычнай эпохі стварае адпаведныя тыпы эстэтычных герояў, у якіх абагульняюцца ўяўленні пэўных класаў, гістарычных груп, увасабляючых лепшыя маральныя, эстэтычныя, гераічныя ідэалы свайго часу* (Весці АН БССР, 1973).

Дзеепрыметнікі цяперашняга часу з часціцай *-ся* ўжываюцца вельмі рэдка, іх трэба лічыць парушэннем літаратурнай нормы: *З году ў год расце гандаль з развіваючыміся краінамі* (Магілёўская праўда, 1969); *Трактары з самаразгружаючыміся цялежкамі* (Там жа); *Лічыць хутка рухаючыяся прадметы* (Вячэрні Мінск, 1970); *Гэта зграбны, вельмі дэкаратыўны суцелючыйся мнагалетнік* (Беларусь, 1969); *Але свецячыхся кропак мы бачым ля планеты шмат* (Піянер Беларусі, 1969). У прыведзеных сказах дзеепрыметнікі неабходна замяніць словазлучэннямі ці прыметнікавымі ўтварэннямі: *краіны, якія сталі на шлях развіцця.., трактары з самаразгрузнымі цялежкамі.., прадметы, якія хутка рухаюцца.., народы, якія змагаюцца...* і г. д.

§ 314. Дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу ўтвараюцца ад асновы прошлага часу дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання пры дапамозе суфіксаў *-ш-* і *-ўш-* і канчаткаў прыметнікаў. Суфікс *-ш-* далучаецца да асновы на зычны: *нес-л-а — нёс-ш-ы (-ая, -ае, -ыя), пяк-л-а — пёк-ш-ы (-ая, -ае, -ыя), вырас-л-а — вырас-ш-ы*

*(-ая, -ае, -ыя)* і г. д. Суфікс *-ўш-* далучаецца да асновы на галосны: *майча-л-а — майча-ўш-ы (-ая, -ае, -ыя), прыеха-л-а — прыеха-ўш-ы (-ая, -ае, -ыя).*

§ 315. У сучаснай моўнай практыцы значна пашырылася ўжыванне дзеепрыметнікаў незалежнага стану прошлага часу з суфіксам *-л-*. Яны ўтвараюцца:

1) ад прыставачных дзеясловаў закончанага трывання першага прадуктыўнага класа на *-эць (-ець)*, якія ў аснове цяперашняга (будучага простага) часу маюць пасля *э(е) j*, і некаторых дзеясловаў другога непрадуктыўнага класа, аснова якіх у будучым простым часе заканчваецца на зычны: *пацямнець — пацямнее — пацямнелы, закарчанець — закарчанее — закарчанелы, заінець — заінее — заінелы, пачырванець — пачырванее — пачырванелы, уцалець — уцалее — уцалелы, збялець — збялее — збялелы, абамлець — абамлее — абамлелы, парыжэць — парыжэе — парыжэлы, загарэць — загарыць — загарэлы, заімжэць — заімжыць — заімжэлы, задымець — задыміць — задымелы;*

2) ад многіх прыставачных дзеясловаў з суфіксам *-ну-* трэцяга непрадуктыўнага класа: *пагаснуць — пагаслы, завянуць — завялы, азябнуць — азяблы, аслепнуць — аслеплы, згоркнуць — згорклы, засохнуць — засохлы, намокнуць — намоклы, зблякнуць — збляклы, зжоўкнуць — зжоўклы;*

3) ад некаторых дзеясловаў чацвёртага і пятага непрадуктыўнага класа: *зарасці — зарослы, прарасці — прарослы, зляжаць — зляжалы.*

Дзеепрыметнікі з суфіксамі *-ўш-* і *-ш-* больш характэрны для пісьмовай мовы. Дзеепрыметнікі з суфіксам *-л-* ужываюцца шырока як прэдыкатыўныя азначэнні і ў пісьмовай і ў вуснай мове.

### Дзеепрыметнікі залежнага стану

§ 316. Дзеепрыметнікі залежнага стану ўтвараюцца ад пераходных дзеясловаў і маюць формы цяперашняга і прошлага часу.

§ 317. Дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу ўтвараюцца ад асновы цяперашняга часу пераходных дзеясловаў незакончанага трывання пры дапамозе суфіксаў *-ем-* (ад дзеясловаў першага спражэння) і *-ім-* (ад дзеясловаў другога спражэння) і канчаткаў прыметнікаў: *чыта-ем-ы (-ая, -ае, -ыя), люб-ім-ы (-ая, -ае, -ыя).*

У сучаснай беларускай літаратурнай мове гэтыя дзеепрыметнікі ўжываюцца рэдка. Часцей яны сустракаюцца ў мове навуковага стылю, у мове газет і часопісаў: *Прадстаўляемыя работы разам з дакументамі накіроўваць па адрасу* (Звязда, 1979); *Нежаданне разабрацца ў змесце праводзімых заняткаў* (Звязда, 1969); *Забеспячэнцы і збытавікі скарацілі запасы нарміруемых сродкаў* (Вячэрні Мінск, 1969); *Гэта знаходзіць адлюстраванне ў прымаемых імі сацыялістычных абавязацельствах* (Звязда, 1972); *Публікуемыя намі дакументы падсвечваюць успаміны мемуарыста новымі дэталямі, якія не знайшлі свайго адлюстравання ў тэксце яго ўспамінаў* (Весці АН БССР, серыя грамадскіх навук, 1983).

§ 318. Утварэнне дзеепрыметнікаў цяперашняга часу залежнага стану абмяжоўваецца трывальным значэннем дзеяслова. Амаль паслядоўна гэтыя дзеепрыметнікі ўтвараюцца:

1) ад прыставачных дзеясловаў незакончанага трывання на *-аць (-яць), -ываць (-іваць)* першага прадуктыўнага класа: *ствараць — ствараемы, прадстаўляць — прадстаўляемы, затрымліваць — затрымліваемы;*

2) ад беспрыставачных дзеясловаў на *-аваць*: *арганізаваць — арганізуемы, ліквідаваць — ліквідуемы;*

3) ад некаторых прыставачных і беспрыставачных дзеясловаў на *-іць* чацвёртага прадуктыўнага класа: *увозіць — увозімы, праводзіць — праводзімы* і некаторых іншых;

4) ад дзеясловаў восьмага непрадуктыўнага класа дзеепрыметнікі залежнага стану ўтвараюцца ад асновы тыпу *дава(j)*, якая адрозніваецца ад асновы цяперашняга часу *даj-уць*: *даваемы, пазнаваемы.*

Не ўтвараюцца дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу ад наступных дзеясловаў незакончанага трывання:

1) ад дзеясловаў на *-чы* (*пячы, сячы, берагчы, сцерагчы* і пад.);

2) ад дзеясловаў на *-ці* і *-сці* (*плесці, несці, церці, месці, прасці, класці* і г. д.);

3) ад аднаскладовых дзеясловаў *біць, віць, гнуць, грэць, жаць, ліць, мыць, мяць, ссаць, ткаць* і г. д.;

4) ад дзеясловаў *даіць, жаваць, каваць, калоць, карміць, касіць, крухмаліць, лізаць, ляпіць, лячыць, мазаць, мыліць, паіць, палоць, пісаць, рэзаць, садзіць, ставіць, сушыць, сыпаць, таптаць, цягнуць, чесаць, чысціць, штукатурыць* і некаторых іншых.

Дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу могуць утварацца ад некаторых непераходных дзеясловаў, якія кіруюць ускосным склонам з аб'ектным значэннем: *кіраваць — кіруемы, камандаваць — камандуемы.*

§ 319. Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу ўтвараюцца ад пераходных дзеясловаў закончанага трывання пры дапамозе суфіксаў *-н-, -ен-, -ан- (-ян-)* або *-т-* і адпаведных канчаткаў прыметнікаў. Суфікс *-н-* далучаецца да асновы прошлага часу на *а (я)*: *прачыта-л-а — прачыта-н-ы (-ая, -ае, -ыя), расказа-л-а — расказа-н-ы (-ая, -ае, -ыя), намалява-л-а — намалява-н-ы (-ая, -ае, -ыя), пасея-л-а — пасея-н-ы (-ая, -ае, -ыя).*

Суфіксы *-ен-, -ан- (-ян-)* далучаюцца да асноў прошлага часу на зычны.

Ад асноў прошлага часу ўтвараюцца дзеепрыметнікі залежнага стану ад дзеясловаў пятага непрадуктыўнага класа. Пры гэтым адбываюцца чаргаванні канцавых зычных: *к—ч, г—ж, б—б', с—с', з—з'*: *натаўчы — натоўк — натоўч-ан-ы, настрыгчы — настрыг — настрыж-ан-ы, падгрэбці — падгроб — падгрэб-ен-ы, прынесці — прынёс — прынес-ен-ы, завезці — завёз — завез-ен-ы.*

Ад асноў цяперашняга часу ўтвараюцца дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу:

1) ад дзеясловаў падкласа Б чацвёртага непрадуктыўнага класа з асновай цяперашняга часу на *т, д*, якія пры ўтварэнні дзеепрыметнікаў чаргуюцца з мяккім *ц', дз'*: *падмесці — падмят-уць — падмец-ен-ы, накласці — наклад-уць — накладз-ен-ы;*

2) ад дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа. Пры ўтварэнні дзеепрыметнікаў маюць месца тыя ж чаргаванні, што і пры ўтварэнні дзеясловаў 1-ай асобы адзіночнага ліку цяперашняга часу: *навоз-яць — наваж-у — навож-ан-ы, замес-яць — замяш-у — замеш-ан-ы, зробяць — зрабл-ю — зробл-ен-ы.*

Чаргаванні адсутнічаюць у дзеясловах на *-ыць* (*ачалавечыць — ачалавеч-у — ачалавеч-ан-ы, настрашыць — настраш-у — настраш-ан-ы*) і дзеясловах, якія ў аснове цяперашняга часу канчаюцца на *j* (*наклеіць — наклеj-у — наклеj-эн-ы, абнадзеіць — абнадзеj-у — абнадзеj-эн-ы*).

Пры дапамозе суфікса *-т-* утвараюцца дзеепрыметнікі залежнага

стану прошлага часу ад асноў прошлага часу на галосныя ад наступных груп дзеясловаў:

1) ад дзеясловаў другога прадуктыўнага і трэцяга непрадуктыўнага класа: *прыцісну-ў — прыцісну-т-ы, кіну-ў — кіну-т-ы, абвергну-ў — абвергну-т-ы, прасякну-ў — прасякну-т-ы;*

2) ад дзеясловаў чацвёртага непрадуктыўнага класа (падклас В) з асновай прошлага часу на *р: цёр — цёр-т-ы;*

3) ад дзеясловаў сёмага непрадуктыўнага класа з асновай прошлага часу на *о: раскало-ў — раскола-т-ы, распаро-ў — распора-т-ы;*

4) ад дзеясловаў шостага, дзесятага, адзінаццатага класаў, якія ў інфінітыве маюць аднаскладовую аснову на галосны (апрача *браць, гнаць, даць, драць, зваць, знаць): жаў — жа-т-ы, мя-ў — мя-т-ы, зня-ў — зня-т-ы; разлі-ў — разлі-т-ы; бры-ў — бры-т-ы, кры-ў — кры-т-ы, шы-ў — шы-т-ы, чу-ў — чу-т-ы, ду-ў — ду-т-ы; адзе-ў — адзе-т-ы, пражы-ў — пражы-т-ы;*

5) ад дзеясловаў *дабыць, забыць, распяць: дабы-т-ы, забы-т-ы, распя-т-ы.*

Заўвага. Ад некаторых дзеясловаў у пісьмовай мове ўжываюцца варыянтныя формы дзеепрыметнікаў залежнага стану з суфіксам *-т-* або з суфіксам *-н-*, напрыклад: *абгорнуты — абгорнены, апрануты — апранены, націснуты — націснены, падцягнуты — падцягнены* і некаторыя іншыя.

§ 320. Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу ўтвараюцца не ад усіх пераходных дзеясловаў. Яны не ўтвараюцца ад наступных дзеясловаў незакончанага трывання:

1) ад дзеясловаў з суфіксамі *-іва-, -ва-: назубліваць, дапытваць, перапісваць, размазваць;*

2) ад дзеясловаў са значэннем накіраванасці дзеяння не ў адзін бок: *вазіць, вадзіць, насіць* і адпаведных ім прэфіксальных дзеясловаў: *прывозіць, заводзіць, уносіць;*

3) ад дзеясловаў восьмага непрадуктыўнага класа: *даваць, раздаваць, надаваць, пазнаваць, адставаць.*

Не ўтвараюцца дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу і ад некаторых пераходных дзеясловаў законачанага трывання:

1) ад дзеясловаў з націскам на *-áць (-я́ць)*, утвораных пры дапамозе прыстаўкі ад прыставачных дзеясловаў незаконачанага трывання: *паскідаць, паздымаць;*

2) ад дзеясловаў з суфіксам *-ану-: рвануць, крутануць;*

3) ад некаторых дзеясловаў другога спражэння на *-ець: абляцець, выцерпець, прахрыпець;*

4) ад некаторых дзеясловаў з націскным суфіксам *-ну-: лізнуць, мазнуць, кальнуць;*

5) ад некаторых дзеясловаў з націскам на *-áць (-я́ць): пачакаць, застаць.*

§ 321. Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу ў сказе выконваюць ролю азначэння або іменнай часткі састаўнога выказніка. Яны маюць дзве формы: поўную і кароткую.

У ролі азначэння выступаюць толькі поўныя формы дзеепрыметнікаў: *Ад іх* [слупкоў] *на травяны бераг пэракінуты гладкія, адпаліраваныя хлапечымі пяткамі сасновыя дошкі* (Піянер Беларусі, 1973); *Сцэны з іх удзелам, адзначаныя высокім, душэўным запалам, глыбокай зацікаўленасцю справай, дзеля якой яны жывуць і працуюць, гучаць як выяўленне асабістых клопатаў за ўсё, што адбываецца навакол* (Звязда, 1974); *Здаецца, тачыў ён адцягнуты клін, каб*

*цемру тугую расціснуць* (Ю. Свірка); *Выбраліся на бераг ледзь жывыя, аблепленыя тванню, дрыжачыя ад холаду* (Я. Маўр).

У ролі выказніка дзеепрыметнікі ўжываюцца ў поўнай і кароткай форме. Дзеепрыметнікі жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку, а таксама дзеепрыметнікі множнага ліку ўжываюцца ў кароткай форме, напрыклад: *Зямля ў вінаградніках была дбайна прапалата* (Э. Самуйлёнак); *Сасёнка была парэзана на доўгія кавалкі, і сябры пачалі класці іх на воз* (П. Пестрак); *Тут уся зямля нашым духам прасякнута* (А. Кулакоўскі); *Святло вузкаю істужкаю падала на яго праз аконца, што высечана было ў адным бервяне ў сцяне* (К. Чорны); *Нарады на працу назаўтра былі складзены, штодзённая кароткая нарада брыгадзіраў і членаў праўлення праведзена* (А. Васілевіч); *Падаконнікі былі густа застаўлены вазонамі, і вокны затулены імі, нібы фіранкамі з раслін і кветак* (З. Бядуля); *Многія пачыны салігорцаў былі ўхвалены ЦК ЛКСМ Беларусі* (Маладосць, 1973).

У мове мастацкай літаратуры ў ролі выказніка сустракаюцца поўныя формы залежных дзеепрыметнікаў жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку і формы множнага ліку: *Маму мы сяк-так улагодзім. Ды і яна будзе занятая сваімі справамі* (Я. Маўр); *Яна была заўсёды чым-небудзь незадаволеная* (А. Чарнышэвіч); *Сталы былі непрыбраныя* (П. Броўка); *Дзверы ў сенях былі адамкнёныя* (У. Дамашэвіч).

Дзеепрыметнікі мужчынскага роду ў ролі выказніка ўжываюцца пераважна ў поўнай форме: *Хутарок быў пабудаваны нядаўна на арандаванай скарбовай зямлі* (Я. Колас); *Ён заўсёды быў модна апрануты* (М. Машара); *Я не апошні і не першы быў зачараваны вясной* (П. Глебка); *Белы пясок пабліз вады быў затканы зялёнымі верасамі* (П. Броўка); *У калгасе пабудаваны буйны адкормачны комплекс* (Звязда, 1973); *На заводзе «Мазыркабель» распачаты выраб новага ўзору кабелю павышанай вільгацеўстойлівасці* (Звязда, 1973); *У снежні мінулага года быў здадзены ў эксплуатацыю пяты энергаблок* (Беларусь, 1973).

У ролі выказніка сустракаецца ўжыванне і кароткай формы дзеепрыметніка мужчынскага роду, асабліва ў мове перыядычнага друку: *У Магілёве ўзнят флаг адкрыцця летняга спартыўнага сезона па веласіпеднаму спорту* (Магілёўская праўда, 1973); *Палац адкрыт у гонар 10-годдзя маладога горада* (Піянер Беларусі, 1973); *Пяці выразбам нашага ардэнаноснага прадпрыемства прысуджан дзяржаўны Знак якасці* (Работніца і сялянка, 1974); *Букрэем і дзедам Талашом пры жывым удзеле паўстанцаў-партызан маршрут паходу быў вызначан загадзя* (Я. Колас); *Корпус электрастанцыі быў ужо закончан* (К. Чорны).

## ДЗЕЕПРЫСЛОЎЕ

§ 322. Дзеепрыслоўе — нязменная дзеяслоўная форма, якая абазначае дадатковае ў адносінах да дзеяслова-выказніка дзеянне, паясняе асноўнае дзеянне.

У дзеепрыслоўі спалучаюцца прыметы дзеяслова і прыслоўя.

Як і дзеяслоў, дзеепрыслоўе мае катэгорыю трывання і стану. З прыслоўем дзеепрыслоўе збліжаецца адсутнасцю форм словазмянення і здольнасцю прымыкаць да дзеяслова.

Дзеепрыслоўі ўтвараюцца пры дапамозе спецыяльных суфіксаў ад

асноў дзеясловаў цяперашняга або прошлага часу. У залежнасці ад трывання дзеяслова, ад якога ўтвараюцца дзеепрыслоўі, яны могуць быць закончанага або незакончанага трывання.

Дзеепрыслоўі незакончанага трывання часцей за ўсё абазначаюць дзеянне, якое адбываецца адначасова з дзеяннем дзеяслова-выказніка: *Д а с т а ю ч ы з жалезнай скрынкі прашнураваную і змацаваную пячаткамі кнігу, камісар уздыхнуў* (І. Шамякін).

Дзеепрыслоўі закончанага трывання звычайна абазначаюць дзеянне, якое папярэднічае дзеянню дзеяслова-выказніка: *Заўсёды, кожную раніцу, т р а п і ў ш ы на заводскі двор, ён* [Міхал Мікітавіч] *пачынае ажываць, быццам хтосьці нябачны ўлівае ў яго душу добрую порцыю цудадзейнага лякарства* (М. Лупсякоў).

§ 323. У сказе дзеепрыслоўе выконвае сінтаксічную функцыю акалічнасцей спосабу дзеяння, прычыны, часу, мэты і інш.: *То з л і в а ю ч ы с я з мрокам, то в ы с т у п а ю ч ы з яго, постаць невядомага чалавека пасоўвалася ў дзедаў бок* (Я. Колас); *Увесь час п а д г а н я ю ч ы каня, порстка выехаў ён* [Васіль] *на сонечную шыр лугу* (І. Мележ); *Бабка Наста не спала, г а р у ю ч ы аб Панасе і аб дзеду Талашу* (Я. Колас); *Адна толькі гаспадыня разрывалася на часткі, ч а с т у ю ч ы гасцей* (Я. Колас); *Мужчыны рассунуліся, д а ю ч ы яму* [Андруху] *месца* (Б. Сачанка).

Дзеепрыслоўе можа выконваць у сказе функцыю дадатковага выказніка: *Лес сустрэў яго неспакойным гулам, і Янук доўга стаяў на лясной сцяжынцы, с л у х а ю ч ы* (М. Лупсякоў).

§ 324. Дзеепрыслоўі незакончанага трывання ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў *-учы (-ючы), -ачы (-ячы)*, якія далучаюцца да асновы цяперашняга часу дзеясловаў незакончанага трывання. Суфікс *-учы (-ючы)* маюць дзеепрыслоўі, утвораныя ад дзеясловаў першага спражэння: *чытаць — чытаюць — чытаючы; пісаць — пішуць — пішучы; таўчы — таўкуць — таўкучы; браць — бяруць — беручы; мыць — мыюць — мыючы; ліць — льюць — льючы.*

Ад дзеясловаў другога спражэння дзеепрыслоўі ўтвараюцца пры дапамозе суфікса *-ачы (-ячы): вадзіць — водзяць — водзячы; жмурыцца — жмурацца — жмурачыся; насіць — носяць — носячы; сачыць — сочаць — сочачы; паіць — пояць — поячы; помніць — помняць — помнячы.*

Ад некаторых дзеясловаў другога непрадуктыўнага класа ўтвараюцца дзеепрыслоўі пры дапамозе суфікса *-учы (-ючы): бурчаць — бурчаць — бурчучы; вісець — вісяць — вісючы; звінець — звіняць — звінючы; кішэць — кішаць — кішучы; спаць — спяць — сплючы; хрыпець — хрыпяць — хрыпучы (хрыплючы).*

§ 325. Дзеепрыслоўі закончанага трывання ўтвараюцца ад асновы прошлага часу дзеясловаў закончанага трывання пры дапамозе суфіксаў *-ўшы* і *-шы.*

Суфікс *-ўшы* далучаецца да дзеяслоўнай асновы, якая заканчваецца на галосны: *выпіць — віпі-ў — выпі-ўшы; збудаваць — збудава-ў — збудава-ўшы; напісаць — напіса-ў — напіса-ўшы; памыць — памы-ў — памы-ўшы.*

Суфікс *-шы* далучаецца да дзеяслоўнай асновы, якая заканчваецца на зычны: *абтрэсці — абтрос — абтрос-шы; нацерці — нацёр — нацёр-шы; памагчы — памог — памог-шы; прынесці — прынёс — прынёс-шы.*

У моўнай практыцы сустракаюцца дзеепрыслоўі з суфіксамі *-ўшы, -шы,* утвораныя ад дзеясловаў незакончанага трывання, напрыклад: *бегчы — бегшы, быць — быўшы, мець — меўшы, касіць — касіўшы* і інш. Аднак такія формы з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы.

# ПРЫСЛОЎЕ

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 326. П р ы с л о ў е — гэта часціна мовы, якая абазначае працэсуальную прымету дзеяння, прадмета ці іншай непрацэсуальнай прыметы — якасці або ўласцівасці.

Найбольш яркай марфалагічнай рысай прыслоўя з'яўляецца адсутнасць форм скланення і спражэння. Па словаўтваральнай структуры прыслоўі падзяляюцца на н е м а т ы в а в а н ы я (невытворныя: *дзе, сюды* і інш.) і м а т ы в а в а н ы я, якія не страцілі семантычнай суадноснасці з усімі паўназначнымі часцінамі мовы (*скраю, ціха, утрое, бегма, па-свойму*).

У залежнасці ад таго, называе прыслоўе прымету ці толькі ўказвае на яе, прыслоўі падзяляюцца на з н а м я н а л ь н ы я і з а й м е н н і к а в ы я. Знамянальныя прыслоўі — гэта лексічна самастойныя словы, напрыклад: *дома, поплеч, заўтра, здалёк, двойчы* і інш. Займеннікавыя прыслоўі, як нематываваныя, так і матываваныя, звязаны сваім паходжаннем з усімі разрадамі займеннікаў. Да займеннікавых прыслоўяў адносяцца: *па-мойму, па-твойму, па-свойму, тут, там, туды, таму, тады, усюды, заўсёды, куды, адкуль, калі, дзесьці, куды-небудзь, нідзе, нікуды, некалі* і інш.

Важнай марфалагічнай адзнакай прыслоўя з'яўляецца наяўнасць формазмянення, якое ўласціва вялікай групе прыслоўяў, словаўтваральна звязаных з прыметнікамі. Адпрыметнікавыя прыслоўі з якасным значэннем могуць мець формы ступеней параўнання: *далёка — далей, рана — раней* і інш.

У сказе прыслоўі звычайна адносяцца да дзеяслова, прыметніка ці прыслоўя: *прыйшоў позна, добра знаёмы, аднойчы вечарам.* Зрэдку прыслоўе можа адносіцца да назоўніка: *абход звечара, дом насупраць, дарога дахаты.*

Асноўнымі сінтаксічнымі функцыямі прыслоўя ў сказе з'яўляюцца функцыя акалічнасці (калі прыслоўе адносіцца да дзеяслова: *хутка ехаць*) і функцыя азначэння (калі прыслоўе адносіцца да назоўніка: *вёска злева*). У сучаснай мове ў ролі азначэння прыслоўе выступае ўсё ж даволі рэдка. Пры ўмове субстантывацыі прыслоўі могуць быць у сказе дзейнікам або дапаўненнем, напрыклад: *Прыйдзе светлае з а ў т р а. Не дакучай сваімі «ч а м у».* Асобныя прыслоўі могуць ужывацца ў якасці прызвязачнага кампанента іменнага састаўнога выказніка, напрыклад: *сястра з а м у ж а м.*

## АСНОЎНЫЯ РАЗРАДЫ ПРЫСЛОЎЯЎ ПА ЗНАЧЭННЮ

§ 327. Па значэнню прыслоўі дзеляцца на дзве вялікія групы. Да першай адносяцца прыслоўі а к а л і ч н а с н ы я. Яны паказваюць на розныя акалічнасці, пры якіх адбываецца дзеянне. Да другой групы адносяцца прыслоўі я к а с н ы я, якія характарызуюць дзеянне або пры-

мету з боку якасці. Звычайна вылучаецца і трэцяя, прамежкавая група я к а с н а-а к а л і ч н а с н ы х прыслоўяў, у якіх значэнне якаснай характарыстыкі спалучаецца з акалічнаснымі значэннямі характару і спосабу дзеяння, параўнання або сумеснасці.

### *Акалічнасныя прыслоўі*

§ 328. Да акалічнасных адносяцца прыслоўі са значэннем месца, часу, прычыны і мэты.

П р ы с л о ў і м е с ц а ўказваюць на месца, дзе адбываецца дзеянне ці працэс *(блізка, высока, дзесьці, кругом, пасярэдзіне, побач, уваччу)*; на кірунак дзеяння, у прыватнасці на кірунак руху *(далоў, дахаты, сюды; адгэтуль, здалёк, знізу)*; на пэўную мяжу дзеяння, у прыватнасці руху *(даверху, знізу, пагэтуль)*. Гэтыя прыслоўі адказваюць на пытанні *дзе? куды? адкуль? дакуль?* ('да якога месца').

П р ы с л о ў і ч а с у ўказваюць на час, калі адбываецца дзеянне або як доўга яно працягваецца *(вечарам, даўно, зімой, увосень; вечна, надоўга)*; на час, з якога пачынаецца дзеянне *(зранку, спачатку, спрадвеку)*; на час, да якога працягваецца дзеянне *(давеку, павек)*. Прыслоўі часу адказваюць на пытанні *калі? як доўга? з якога часу? да якога часу?*

Значэнне прыслоўяў часу могуць набываць некаторыя прыслоўі месца: *там, тут, уперад, дагэтуль, дасюль* і інш. Напрыклад: *Не можа быць: будзе які-небудзь парадак, а т а м вайна гэта скончыцца* (Я. Колас); *А мяне д а г э т у л ь людзі часта ўспамінаюць* (Я. Колас).

П р ы с л о ў і п р ы ч ы н ы ўказваюць, па якой прычыне або на якой падставе адбываецца дзеянне *(завошта, нашто, спрасоння, сторапу, чамусьці)*. Яны адказваюць на пытанні *чаму? па якой прычыне?*

П р ы с л о ў і м э т ы ўказваюць, дзеля чаго, з якой мэтай адбываецца дзеянне *(знарок, назло, напаказ, нарокам, неспраста, сумыслу)*. Такіх прыслоўяў у сучаснай беларускай мове мала. Значэнне мэты звычайна суправаджаецца пабочнымі адценнямі прычыны або спосабу дзеяння, напрыклад: *І мы замоўклі н а з н а р о к* (А. Астрэйка).

З а ў в а г а. Лексічны састаў акалічнасных прыслоўяў размяркоўваецца па названых чатырох разрадах вельмі нераўнамерна. Больш за ўсё прыслоўяў месца, некалькі менш прыслоўяў часу і зусім мала прыслоўяў прычыны і мэты. Значэнні прычыны і мэты перадаюцца ў мове іншымі сродкамі: інфінітывам, дзеепрыслоўем, даданымі часткамі складаназалежнага сказа і інш.

Усе акалічнасныя прыслоўі ў сказе, як правіла, адносяцца да дзеяслова і выконваюць ролю адпаведных акалічнасцей.

### *Якасныя прыслоўі*

§ 329. Гэта група прыслоўяў з'яўляецца найбольш багатай з лексічнага боку, да таго ж якасныя прыслоўі вельмі лёгка і хутка папаўняюцца новымі ўтварэннямі ад якасных прыметнікаў.

Да якасных прыслоўяў адносяцца: *аддана, асцярожна, балюча, бегла, боязна, бурна, бязвольна, важна, весела, вытрымана, глуха, глыбакадумна, горача, гучна, дамавіта, дэманстрацыйна, жорстка, ідэйна, інакш, засаб, звонка, зелена, крылата, навотліў, нагатове, нараўне, недарэчна, неяк, нязручна, няўцям, партыйна, па-свойму, проста, пышна, радасна, рэльефна, сарамліва, святочна, сіне, смела, тэатральна, увачавідкі, упустую, урачыста, фармальна, хораша, цвёрда, чароўна, шчодра, эфектна, юрыдычна, якасна* і інш. Гэтыя прыслоўі адказваюць на пы-

танне *як?* і выконваюць ролю акалічнасці спосабу дзеяння. У сказе яны адносяцца як да дзеясловаў, так і да прыметнікаў, прыслоўяў ці слоў катэгорыі стану (прэдыкатываў): *Молада, хораша, звонка спявай гарманіст* (Я. Брыль); *Дык за справу, таварышы, за адзіна справядлівую нашу рабоча-сялянскую справу, справу нашага вызвалення, за бязлітасную класавую вайну з панамі* (Я. Колас); *Сюжэт апавядання «Астап» пабудаваны кампазіцыйна проста і стройна* (У. Агіевіч); *Было няёмка смяяцца з таго, што дзеду пячэцца, аднак ужо было і весела, і неяк нечакана цёпла* (Я. Брыль).

Акрамя прыслоўяў з уласна якасным значэннем, сюды ўключаюцца і колькасныя прыслоўі, якія абазначаюць колькасць дзеяння (*вельмі, выключна, дужа, занадта, удвойчы, утройчы, багата; амаль, больш-менш, крыху, прыблізна, чуць*), ступень інтэнсіўнасці дзеяння або яго мяжу (*даастатку, дапайна, дарэшты, насуха, удосталь*), а таксама меру якасці той або іншай прыметы (*мала, многа, зусім, спрэс, цалкам*): *вельмі можа быць, дужа прыемна, утройчы пабольшыліся, дарэшты змаляваць, удосталь нагуляцца, спрэс высах, зусім зялёны* і інш.

Колькасныя прыслоўі ў сказе звычайна выконваюць ролю акалічнасці меры і ступені і адносяцца часцей да прыметнікаў або да якасных прыслоўяў. Значэнне меры могуць набываць пераносна і іншыя прыслоўі: *высока, глыбока, далёка, дайно, шырока* і г. д. Напрыклад: *Змест гэтай паэзіі глыбока інтэрнацыянальны* (К. Чорны); *Ён бачыць перад сабой тое ...што ён ацаніў высока і за што мог узнагародзіць* (К. Чорны).

### *Якасна-акалічнасныя прыслоўі*

§ 330. Да якасна-акалічнасных адносяцца прыслоўі спосабу дзеяння, параўнання і сумеснасці.

У прыслоўях спосабу дзеяння якасная характарыстыка дзеяння суправаджаецца ўказаннем на характар ці спосаб яго ўтварэння: *бягом, моўчкі, навыварат, пехатой, раптам, уброд, цішком*: *Ён* [Сымон] *у той пакой бягом!* (Я. Колас); *А дзядзька моўчкі стаў збірацца* (Я. Колас); *За днямі дні праходзяць цугам* (П. Панчанка).

У прыслоўях параўнання якасная характарыстыка дзеяння даецца шляхам параўнання ці прыпадабнення: *віхрам, кулём, роем, цуркам; па-брацку, па-ранейшаму, па-салдацку, па-суседску*: *І вось наш дзядзька едзе зайцам* (Я. Колас); *Лес быў ужо голы, па-восеньску пануры і маўклівы* (І. Шамякін).

У прыслоўях са значэннем сумеснасці якасная характарыстыка дзеяння спалучаецца з указаннем на сумеснасць: *удваіх, утраіх, утрох, гуртам, оптам*: *Селі з ёю мы пад яблыню ўдваіх* (Я. Купала); *І равуць каровы, гуртам ідучы* (П. Броўка).

Усе якасна-акалічнасныя прыслоўі адказваюць на пытанні *як? якім чынам?* і ў сказе адносяцца пераважна да дзеяслова. Асноўная сінтаксічная функцыя іх — акалічнасць спосабу дзеяння.

## ФОРМАЎТВАРЭННЕ ПРЫСЛОЎЯЎ

§ 331. Якасныя адпрыметнікавыя прыслоўі маюць формы ступеней параўнання — звычайную і вышэйшую.

Формы вышэйшай ступені параўнання ўтвараюцца як сінтэтычным, так і аналітычным шляхам.

1. Сінтэтычная (простая) форма вышэйшай ступені параўнання мае суфікс *-ей (-эй, -ай)*, які далучаецца да ўтваральнай асновы якаснага адпрыметнікавага прыслоўя (гэта аснова звычайна супадае з асновай

таго якаснага прыметніка, ад якога ўтворана прыслоўе): *актыўн-а — актыўн-ей* (параўн.: прыметнік *актыўн-ы*), *ахвотн-а — ахвотн-ей* (параўн.: прыметнік *ахвотн-ы*). Фактычна адбываецца замена прыслоўнага суфікса *-а (-о)* суфіксам *-ей (-эй, -ай)*. Перад суфіксам *-ей (-эй, -ай)* зычныя *г, к, х* чаргуюцца з *ж, ч, ш*: *дараг-а — дараж-эй, дарож-ай; лёгк-а — лягч-эй; ціх-а — ціш-эй.*

У некаторых прыслоўях вышэйшай ступені параўнання суфікс можа далучацца непасрэдна да кораня: *блізка — бліжэй, высока — вышэй, гладка — гладзей, глыбока — глыбей, далёка — далей, каратка — карацей, нізка — ніжэй, рэдка — радзей, цяжка — цяжэй, шырока — шырэй* і некаторыя іншыя. У гэтых выпадках утваральная аснова прыслоўя не супадае з асновай адпаведнага матывуючага прыметніка (параўн.: *блізк-і, высок-і, шырок-і* і г. д.) — тут «выпадае» суфікс *-к- (-ёк-, -ок-)*. Аднак у выніку працэсу выроўнівання асноў у сучаснай мове паяўляюцца і формы, дзе суфікс *-к- (-ёк-, -ок-)* захоўваецца, чаргуючыся з *-ч- (-яч-, -ач-)*: *глыбачэй, радчэй, шырачэй* і пад. Праўда, формы гэтыя не літаратурныя, акрамя хіба прыслоўя *гладчэй*, якое шырока ўжываецца ў мове мастацкай літаратуры. Напрыклад: *Адзеты ён* [хлапчук] *быў не то што лепш за тых дзяўчатак, з якімі бесперапынна зачэпаўся, але на ім усё ляжала нейк г л а д ч э й, спрытней, дасціпней* (К. Чорны).

Прыслоўі *мала, многа, добра, дрэнна* форму вышэйшай ступені параўнання ўтвараюць суплетыўным шляхам: *менш (меней), больш (болей), лепш (лепей), горш (горай)*. Выроўніванне асноў наглядаецца нават у суплетыўных утварэннях, але выпадкі гэтыя чыста аказіянальныя. Параўн. прыклад ужывання формы *мнажэй* (замест *больш*) у дзіцячай мове: *«Колькі жыта?» — «Мяшок або яшчэ м н а ж э й».— «Ды не мнажэй, а трэба казаць больш»,— зноў папраўляе Ніна* (Я. Брыль).

Формы з суфіксам *-ш* у сучаснай літаратурнай мове ўжываюцца часцей, чым з суфіксам *-ей (-ай)*.

Простыя формы вышэйшай ступені параўнання ўтвараюцца амаль ад усіх якасных прыслоўяў, суадносных з якаснымі прыметнікамі.

2. Аналітычная (складаная) форма вышэйшай ступені параўнання ўтвараецца шляхам спалучэння прыслоўяў звычайнай ступені са словамі *больш (болей), менш (меней)*: *больш агніста, больш заўзята, болей яскрава, менш спакойна, менш ярка, меней праўдзіва* і інш.

Складаныя формы вышэйшай ступені параўнання могуць утварацца ад усіх якасных прыслоўяў, аднак практычна яны ўжываюцца толькі ад тых прыслоўяў, ад якіх немагчыма ўтварэнне сінтэтычных форм.

Форма вышэйшай ступені параўнання прыслоўяў мае значэнне параўнання (кампаратыва) толькі тады, калі ў сказе (або ў больш шырокім кантэксце) названы прадмет, з прыметай якога параўноўваецца выражаная прыслоўем прымета якасці або дзеяння. Напрыклад: *Д а ў ж э й за іншых сваіх суседзяў араў сваю палосу Верамейчык* (К. Крапіва); *І зух жа гэты ляснік! І па ўсім відаць было, што ён стаяў в ы ш э й усіх хлопцаў у сяле* (Я. Колас).

Калі ж прадмет параўнання не названы, тады форма ступені параўнання мае значэнне высокай якасці, безадносна да параўнання. Напрыклад: *Падбадзёраны першым поспехам, Сонцаў пачаў гаварыць в а л ь н е й і ц і к а в е й* (І. Мележ); *А покуль вас зусім не зморыць сон, раскажаце мне б о л е й падрабязна* (П. Глебка).

# НЕПАЎНАЗНАЧНЫЯ СЛОВЫ

§ 332. Назвы прадметаў, прымет, з'яў, працэсаў складаюць групу паўназначных, ці знамянальных, часцін мовы. Сувязь паўназначных слоў у словазлучэнні і сказе ажыццяўляецца рознымі сродкамі: формамі паўназначных слоў, парадкам іх у сінтаксічнай канструкцыі, інтанацыяй і, нарэшце, спецыяльнымі словамі, якія звычайна не маюць яскрава выражанага лексічнага значэння і таму называюцца непаўназначнымі. Такія словы ўжываюцца толькі разам з паўназначнымі, у спалучэнні з імі. Непаўназначныя словы, як правіла, не маюць самастойнага націску і аб'ядноўваюцца ў адну акцэнталагічную адзінку з суседнім паўназначным словам (*памятаць пра сяброў, прачытаў бы раман*), не выступаюць у ролі членаў сказа.

У групу непаўназначных уключаюцца прыназоўнікі, злучнікі, звязкі і часціцы. Усе гэтыя часціны мовы, за выключэннем звязкі, нязменныя. Пераважная большасць непаўназначных слоў паходзіць ад слоў паўназначных.

У маўленні непаўназначныя словы вызначаюцца высокай частотнасцю: прыблізна кожнае чацвёртае або нават трэцяе слова ў любым тэксце — гэта непаўназначнае.

Непаўназначныя словы падзяляюцца на два разрады: да першага адносяцца прыназоўнікі, злучнікі і звязкі, а да другога — часціцы.

Агульнай рысай, якая аб'ядноўвае прыназоўнікі, злучнікі і звязкі з'яўляецца тое, што ўсе яны ўжываюцца ў мове для сувязі дзвюх або некалькіх моўных адзінак і аб'яднання іх у адно больш буйное сінтаксічнае цэлае. Прыназоўнік звязвае галоўнае слова з залежным, аб'ядноўваючы іх у словазлучэнне. Злучальны злучнік звязвае члены сказа, аднатыпныя сузалежныя сказы або прэдыкатыўныя адзінкі ў такія аб'яднанні, як рад аднародных членаў сказа, складаную даданую ці галоўную частку ў складаназалежным сказе, складаназлучаны сказ. Падпарадкавальны злучнік звязвае састаўныя часткі складанага сказа, аб'ядноўваючы іх у складаназалежны сказ. Нарэшце, звязка — гэта сродак сувязі дзейніка і выказніка, аб'яднання іх у прэдыкатыўнае спалучэнне, якое з'яўляецца асновай простага сказа.

## ПРЫНАЗОЎНІКІ

§ 333. Прыназоўнікі — гэта непаўназначныя словы, з дапамогай якіх выражаюцца адносіны паміж галоўным і залежным словамі ў словазлучэнні з апасродкаванай падпарадкавальнай сувяззю.

Галоўным словам у такіх словазлучэннях звычайна выступае дзеяслоў, радзей — назоўнік, прыметнік, прыслоўе, безасабова-прэдыкатыўнае слова або нават непадзельнае (фразеалагічнае) спалучэнне, а залежным — толькі назоўнік (ці любая субстантываваная часціна мовы) або займеннік: *ехаць у лес, язда ў лес, праездам у лес, дарога ў лес,*

*смутна без прычыны, цікавы для слухачоў, цікавы для ўсіх, хадзіць да позняга, кінуць вокам на хату, вастрыць зубы на дубок.*

У адпаведнасці з паходжаннем усе прыназоўнікі дзеляцца на невытворныя і вытворныя. Да невытворных адносяцца: *а, аб, ад, без, да, для, дзеля, з, за, к, каля, ля, між, на, над, па, пад, перад, пра, праз, пры, у, цераз.* Гэтыя прыназоўнікі страцілі жывую сувязь з тымі словамі, ад якіх яны некалі ўтварыліся.

У сінхронным плане да невытворных трэба адносіць і былы складаны прыназоўнік *паўз* (з прычыны адсутнасці асобнага прыназоўніка *уз* у сучаснай літаратурнай мове), і былыя прыслоўныя прыназоўнікі *акрамя, апрача, бліз, замест, звыш, наконт, накшталт, паводле, сярод,* суадноснасць якіх з прыслоўямі цяпер можа быць устаноўлена толькі гістарычна.

Вытворныя прыназоўнікі захоўваюць непасрэдную сувязь са словамі, якія адносяцца да розных знамянальных часцін мовы. На гэтай аснове вылучаюцца прыназоўнікі адпрыслоўныя: *абапал, блізка, вакол, воддаль, збоку, зверху, ззаду, злева, міма, наабапал, наверсе, наверх, наводдаль, навокал, наперад, наперадзе, насустрач, насупраць, непадалёку, паабапал, паперад, паперадзе, пасля, пасярод, пасярэдзіне, паўзверх, побач, побліз, поплеч, поруч, скраю, скрозь, спадыспаду, спераду, супраць, узамен, уздоўж, уперад, уперадзе, упоперак, услед, усцяж* і інш.; адпрыметнікавыя: *адносна, адпаведна, згодна, паралельна, прапарцыянальна, раўналежна* і інш.; адназоўнікавыя: *шляхам, кшталтам (устар.);* аддзеяслоўныя: *выключаючы, дзякуючы, канчаючы, уключаючы* і інш. (усе яны суадносны з дзеепрыслоўямі).

Многія прыназоўнікі захоўваюць сувязь са склонавымі формамі назоўнікаў і ўтварыліся ў выніку злучэння простага прыназоўніка з назоўнікам ва ўскосным склоне: *за кошт, з боку, з ліку, з мэтай, з дапамогай, з прычыны, з цягам, з часу, на аснове, на манер, на працягу, на чале, па шляху, пры дапамозе, у адносінах, у адрас, у выніку, у гонар, у імя, у ліку, у мэтах, у сілу, у справе, у сэнсе, у час, у часе, у часы* і інш. Такія вытворныя прыназоўнікі ў сваю чаргу могуць спалучацца з невытворнымі: *на чале з, па шляху да, у адказ на, у адносінах да, у адпаведнасці з, у адрозненне ад, у кірунку да, у параўнанні з, у саюзе з, у сувязі з* і інш.

У выніку спалучэння прыслоўя з невытворнымі прыназоўнікамі ў сучаснай мове склаліся наступныя прыслоўна-прыназоўнікавыя канструкцыі, якія таксама ўжываюцца ў функцыі прыназоўнікаў: *адначасова з, асобна ад, збоку ад, нараўне з, побач з, поплеч з, поруч з, разам з, следам за, сумесна з, услед за* і інш.

Функцыю прыназоўнікаў выконваюць і некаторыя дзеепрыслоўі ў спалучэнні з невытворнымі прыназоўнікамі: *нягледзячы на, гледзячы па, пачынаючы ад, пачынаючы з* і інш.

Шляхам словаскладання ўтварыліся складаныя прыназоўнікі: *з-за, з-над, па-над, з-пад, па-за, паміж, з-па-над, з-па-за* і інш.

Некаторыя прыназоўнікі існуюць у сучаснай мове ў двух ці больш варыянтах, напрыклад: *у — ў, ва, ува; з — са; аб — аба; к — ка; над — нада; пад — пада; перад — прад, перада, прада; акрамя — акром; апрача — апроч* і інш.

§ 334. Прыназоўнікі ўжываюцца з адным або некалькімі склонамі залежных назоўнікаў.

Аднасклонавае кіраванне ўласціва большасці прыназоўнікаў. Так, толькі роднага склону патрабуюць пасля сябе прыназоўнікі *ад, без, да, дзеля, для, ля, каля, з-за, з-над, з-пад, з-па-за, з-па-над, паміма,*

*акрамя, апрача, бліз, замест, звыш, наконт, накшталт, паводле, сярод*, а таксама большасць адпрыслоўных прыназоўнікаў, прыслоўна-прыназоўнікавых канструкцый і спалучэнняў простых прыназоўнікаў са скланавымі формамі назоўнікаў (*абапал, блізка, вакол, воддаль, паводдаль* і інш.; *асобна ад, збоку ад, за выключэннем, за кошт, з часу, на аснове, у адносінах да, у адрозненне ад* і інш.).

Д а в а л ь н а г а склону патрабуюць *к, адпаведна, згодна, паралельна, прапарцыянальна, раўналежна, наперакор, насустрач, насуперак, удагон, услед* і інш.

В і н а в а л ь н а г а склону патрабуюць *пра, праз, цераз, у адказ на, нягледзячы на.*

З формай т в о р н а г а склону ўжываюцца *па-за, згодна з, поплеч з, поруч з, разам з, следам за, на чале з, у сувязі з* і інш.

Асобныя прыназоўнікі могуць спалучацца з формамі двух ці нават трох склонаў.

Так, прыназоўнікі *аб, на* і *пра* патрабуюць вінавальнага і меснага, *над, пад* і *перад* — вінавальнага і творнага, а *паўз* і *скрозь* — роднага і вінавальнага склонаў. Прыназоўнік *паміж* ужываецца з родным і творным, а прыназоўнік *упоперак* — з родным і давальным склонамі.

Прыназоўнікі *з, за* і *між* ужываюцца з формамі роднага, вінавальнага і меснага, прыназоўнік *па* — з формамі давальнага, вінавальнага і меснага, а прыназоўнік *у* — з формамі роднага, вінавальнага і меснага склонаў.

Аднак двухсклонавае або трохсклонавае кіраванне пералічаных прыназоўнікаў для сучаснай мовы не заўсёды з'яўляецца нормай. Ужыванне *над, перад* і *пры* з вінавальным кваліфікуецца як дыялектызм або архаізм, хоць прыклады такога кіравання і сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры: *У краўцовага Ігната барада — нібы лапата, нібы тое памяло,— н а д усё, браткі, сяло* (К. Крапіва); *Я прыйду на неба незайманым, чыстым стану п р а д божыя вочы* (У. Караткевіч); *А тады надзенеш шапку з цэшкаю, шаблю п р ы бок прычэпіш* (К. Крапіва).

Літаратурнай нормай лічыцца ўжыванне з прыназоўнікамі *над* і *перад* формы творнага склону, а з прыназоўнікам *пры* — формы меснага склону: *Вечар н а д вёскаю шэры, цені ў зялёным лісці* (М. Танк); *Цягнік прыпыніўся на хвіліну на невялікай станцыі, апошняй п е р а д горадам* (М. Лынькоў); *П р ы лесе, пад горкай бруіцца крыніца* (П. Броўка).

Нельга прызнаць літаратурнай нормай і ўжыванне прыназоўнікаў *паўз* і *скрозь* з родным, *упоперак* — з давальным, *між* — з вінавальным і *за* — з родным склонам, хоць прыклады такога ўжывання таксама сустракаюцца ў мове мастацкай літаратуры: *Неяк ішла п а ў з ларка з папяросамі, глянула: тая! Яна, чарнакосая* (П. Панчанка); *С к р о з ь прагалін лясоў былі хмаркі відны, ў сінім небе іх нікла руно* (Я. Колас); *«Наперадзе падлодка»,— сказаў другі. «Прайшла ў п о п е р а к нашаму курсу»* (Э. Самуйлёнак); *Праязджаў м і ж іх палосу, але нікога не прыкмеціў* (Ц. Гартны); *Блага нам было, вельмі блага з а прыгону* («Дзядзька Антон...», ананімная гутарка XIX ст.).

Літаратурнай нормай лічыцца ўжыванне прыназоўнікаў *паўз* і *скрозь* з вінавальным, *упоперак* — з родным, *між* — з родным і месным, *за* — з вінавальным і месным склонамі: *слупкі паўз дарогу, ісці скрозь лес, перабегчы ўпоперак вуліцы, дарога між дубоў* і *дарога між дубамі, сесці за стол, сядзець за сталом.*

Устойлівае неаднасклонавае кіраванне, такім чынам, захоўвае толькі невялікая група прыназоўнікаў: двухсклонавае — *аб, за, між, паміж, на* і *пад*, а трохсклонавае — *з, па* і *у*. Напрыклад: *стукнуць аб камень* —

*марыць аб вясне; прадаць за рубель — садок за хатай; між лета і зімы — між летам і зімой; возера паміж балот — гутарка паміж сябрамі; пакласці на стол — ляжыць на стале; лезці пад стол — жалуды пад дубам; скаціцца з гары — велічынёй з гару — ехаць з сябрамі; фільм па Талстому — вада па пояс — хадзіць па лесе; гасцяваць у сястры — зайсці ў хату — пабыць у хаце.*

Неаднасклонавае кіраванне прыназоўнікаў у сучаснай беларускай мове мае розны характар. У адных выпадках яно звязана з яскравым сэнсавым адрозненнем спалучэнняў, напрыклад: *кара з дуба — велічынёй з дуб, бяроза з дубам; зайшоў на пошту па пісьмо — атрымаў пяцёрку па пісьму — вадзіў карандашом па пісьме; пакласці на воз — ляжыць на возе* і г. д. У другіх выпадках такое адрозненне адсутнічае: адны і тыя ж сінтаксічныя адносіны могуць выражацца рознымі склонавымі формамі з адным і тым жа прыназоўнікам. Ствараюцца сінтаксічныя сінонімы, і ў такіх сінанімічных парах адна з канструкцый звычайна лічыцца нормай, а другая — устарэлым ці дыялектным варыянтам, неасвоеным запазычаннем ці інш.

Устарэлымі ці дыялектнымі лічацца, у прыватнасці, спалучэнні *аб* з вінавальным у канструкцыях з дзеясловамі мовы і думкі: *гутарка аб тое, забыўся аб ратунак, пытаць аб долю*. Літаратурнай нормай тут лічыцца форма меснага склону: *гутарка аб тым, забыўся аб ратунку, пытаць аб долі.*

З прыназоўнікам *між* у мове мастацкай літаратуры, асабліва ў канструкцыях з прасторавым значэннем, пераважае форма роднага склону. Аднак у дзелавым, афіцыйным і навуковым стылях паступова становіцца нормай ужыванне з гэтым прыназоўнікам формы творнага склону.

З прыназоўнікам *паміж* перавага аддаецца форме творнага склону, хоць і форма роднага не лічыцца адхіленнем ад нормы.

Ужыванне прыназоўніка *па* з формамі давальнага (у адзіночным ліку) і меснага склонаў у канструкцыях з прасторавымі адносінамі і з некаторымі разнавіднасцямі часавых і аб'ектных адносін таксама стварае сінтаксічныя сінонімы. Пры гэтым формы давальнага склону ўспрымаюцца як русізм ці дыялектызм: *ісці па шырокаму полю; жалі жыта па сонейку, будзем жаць па месяцу*, г. зн. *пры святле месяца* (нар. песня); *не пайду па дажджу* (В. Вітка); *сум па дому* (З. Бядуля); *па званочку твайму здагадайся* (В. Вітка) і г. д.

Вядома, гэта не значыць, што ў беларускай мове ўсе канструкцыі, у якіх *па* спалучаецца з формай давальнага, лёгка могуць быць заменены адпаведнымі спалучэннямі з месным. Ёсць рад сінтаксічных адносін, у першую чаргу абмежавальных, прычынных і паасобных адценняў часавых, для выражэння якіх форма давальнага склону (у адзіночным ліку) з прыназоўнікам *па* замацавалася як трывалая норма: *урок па пісьму, дождж прайшоў як па заказу, прыбыў па вашаму загаду, рабілі па даўняму звычаю, фільм па Горкаму, капуста па вядру, гурбы па мядзведзю, сказаць па сакрэту, зганьбіць па злому намеру, не знаходзіць адрасу па цэламу месяцу* і некаторыя іншыя.

§ 335. Прыназоўнікі ўжываюцца для выражэння наступных сінтаксічных адносін:

1) прасторавых: *адысці ад горада, вяртацца са школы, прыехаць у вёску, глядзець праз акно, стаяць каля дарогі, абедаць у сталоўцы, дубы наабапал рэчкі* і інш.;

2) часавых: *працаваць з раніцы да вечара, прыехаць перад экзаменам, вярнуліся пасля перамогі, спатканне ў час работы* і інш.;

3) аб'ектных, куды ўключаюцца ўласна-аб'ектныя: *дагляд за хворым, трымаць за руку, стукаць у акно, змагацца супраць ворага,*

*абавязак перад народам;* к а м і т а т ы ў н ы я: *сябраваць з дзяўчынай, вядро з вадой, ісці побач з возам;* а б л я т ы ў н ы я: *пазбавіцца ад небяспекі, маляваць без прыкрас, знікнуць з вачэй;* л і м і т а т ы ў н ы я: *заданне па нарыхтоўцы збожжа, падыходзіць па чарзе, майстар на выдумкі, апошні з краю, адзін з лесарубаў;* і н с т р у м е н т а л ь н ы я: *напаіць з гладыша, лічыць на пальцах, гаварыць па радыё;* д э л і б е р а т ы ў н ы я: *марыць аб свабодзе, вучэнне аб рэвалюцыі, распытваць пра службу, верыць у перамогу, працаваць над перакладам, журыцца па Айчыне;* з а м я ш ч а л ь н а с ц і: *працаваць за брыгадзіра, купіць за грошы, аддаць пад заклад* і інш.;

4) п е р а х о д у з а д н а г о с т а н у ў д р у г і: *развеяць у прах, перацерці на муку, высахнуць у палку* і інш.;

5) м е р ы і с т у п е н і: *радасць без меры, вядомы да драбніц, багатыр на ўсю акругу, гразь па вушы* і інш.;

6) а т р ы б у т ы ў н ы х, куды ўключаюцца я к а с н ы я: *чалавек без хітрыкаў, дом за нумарам дваццаць чатыры, салат пад маянэзам* і інш., а таксама к о л ь к а с н ы я: *лічыць да сарака, дом на тры паверхі, вагою да васьмі кілаграмаў* і інш.;

7) р а з м е р к а в а л ь н ы х: *падзяліць на роўныя часткі, перабіраць па каліву* і інш.;

8) п р ы н а л е ж н а с ц і: *ключы ад хаты, дзяжурны пры штабе* і інш.;

9) г е н е т ы ч н ы х: *след ад калёс, страва з мукі, бутэлька з-пад малака* і інш.;

10) п а р а ў н а л ь н ы х: *мацнейшы за камень, зярняты з фасоліну, гарбузы па вядру, мора ў параўнанні з возерам* і інш.;

11) с п о с а б у д з е я н н я: *пісаць з вялікай літары, слухаць з увагай, сказаць на развітанне, рабіць па справядлівасці* і інш.;

12) п р ы ч ы н н ы х: *пацямнець ад вільгаці, стаміцца з дарогі, не з'явіцца па невядомай прычыне, не мець адпачынку за работаю* і інш.;

13) м э т а в ы х: *рыхтавацца да экзаменаў, пячэнне да чаю, заараць пад жыта, хадзіць па маліну, пайсці ў грыбы* і інш.;

14) п р ы б л і з н а с ц і: *пачакаць з хвілінку, атрымаў каля ста рублёў* і інш.

## ЗЛУЧНІКІ

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 336. З л у ч н і к і — гэта непаўназначныя словы, якія ўжываюцца для сувязі сінтаксічных адзінак (членаў сказа, частак складанага сказа, самастойных сказаў) і паказваюць на сэнсава-граматычныя адносіны паміж імі: *Дождж усё яшчэ не пераставаў,* а л е *ў адным месцы хмары як бы расступіліся, і адтуль ужо выглядала неба — блакітнае і вельмі свежае* (Б. Сачанка).

Злучнікі не маюць граматычных катэгорый, форм словазмянення, а таксама свайго лексічнага значэння, а толькі функцыянальнае — паказваюць на адносіны паміж сінтаксічнымі кампанентамі.

### РАЗРАДЫ ЗЛУЧНІКАЎ

§ 337. Разрады злучнікаў вылучаюцца з улікам іх паходжання, саставу, ужывання і функцыянальнага значэння.

Паводле паходжання злучнікі падзяляюцца на невытворныя (першапачатковыя) і вытворныя.

Н е в ы т в о р н ы я злучнікі — гэта даўнія словы, якія не суадносяц-

ца ў сінхронным плане з іншымі часцінамі мовы і ўспрымаюцца як першапачатковыя: *а, але, бо, ды, і, каб* і інш.

Вытворныя злучнікі — гэта пазнейшыя словы, утвораныя ад іншых часцін мовы. Пры пераходзе ў злучнікі словы іншых часцін мовы страчваюць сваё ранейшае значэнне і набываюць новае — функцыянальнае значэнне адносін. Разрад вытворных злучнікаў складаюць тыя, што ўтвораны ад: а) займеннікаў: *што, таму;* б) прыслоўяў: *як, калі;* в) часціц: *ці, жа, быццам, нібы;* г) дзеясловаў: *хоць* (ад *хацець*), *хай;* д) назоўнікаў: *раз;* е) спалучэння розных часцін мовы (паўназначных і службовых): *затое (за+тое), затым (за+тым), таму што, для таго што, тым часам як, нягледзячы на тое што, з прычыны таго што.*

Паводле саставу злучнікі падзяляюцца на простыя і састаўныя.

Да простых належаць аднаслоўныя злучнікі: *а, або, ды, і, каб, бо, але, што, каб, калі* і інш. Простыя злучнікі, як правіла, выкарыстоўваюцца ў розных стылях мовы і з'яўляюцца шматфункцыянальнымі. Напрыклад, злучнік *каб* выкарыстоўваецца з мэтавым, умоўным і тлумачальным (з адценнем пажадання) функцыянальнымі значэннямі.

Састаўныя злучнікі — гэта спалучэнні двух ці больш слоў, якія складаюць функцыянальна-сэнсавае адзінства і выкарыстоўваюцца ў ролі аднаго слова. Састаўныя злучнікі звычайна складаюцца з адноснага слова (займенніка ці займеннікавага прыслоўя) або былога назоўніка з прыназоўнікам і простага злучніка: *таму што, пасля таго як, тым часам як, з прычыны таго што, для таго каб, у той час як* і інш. Састаўныя злучнікі выкарыстоўваюцца ў кніжных стылях мовы і з'яўляюцца аднафункцыянальнымі. Напрыклад, злучнік *для таго каб* мае мэтавае, *з прычыны таго што* — прычыннае функцыянальныя значэнні.

Паводле ўжывання злучнікі падзяляюцца на адзіночныя, паўторныя і парныя.

Адзіночныя злучнікі не паўтараюцца пры аднатыпных сінтаксічных кампанентах (аднародных членах сказа, састаўных частак складанага сказа): *Іскрыцца пад молатам сталь, а молат не бій так калісь* (Я. Купала); *Не кідай хлеба, каб ён цябе не кінуў* (М. Танк). Толькі адзіночнымі выступаюць злучнікі *а, але, ды* (са значэннем *але*).

Паўторныя злучнікі ўжываюцца пры кожным сінтаксічным кампаненце (паўтараюцца): *І сонца праменні, і сцюжу марозаў, і радасць уцехі, і горкія слёзы дзялілі вы, разам у жыцці ідучы* (П. Броўка); *Каб шумела аб шчасці на полі калоссе, каб квітнела ў нас моладзь, як раніцай кветкі, каб не плакалі з гора ні маткі, ні дзеткі, каб расла і мацнела год ад году Радзіма,— сцяг за мір барацьбы мы высока падымем* (К. Буйло). Толькі паўторнымі выступаюць злучнікі *то...то, ці то...ці то, не то...не то, ні...ні.* Іншыя злучнікі пры іх паўтарэнні таксама з'яўляюцца паўторнымі.

Парныя злучнікі — гэта расчлянёныя састаўныя злучнікі, адна частка якіх адносіцца да аднаго сінтаксічнага кампанента, а другая да другога, наступнага: *калі...то, хоць...але, не толькі...але. Калі добра ўзарэш, то і ўраджай збярэш; Гора хоць мучыць, ды жыць вучыць* (Прыказкі).

Паводле функцыянальнага значэння злучнікі падзяляюцца на злучальныя і падпарадкавальныя.

Злучальныя злучнікі служаць для сувязі сінтаксічна раўнапраўных кампанентаў — аднародных членаў сказа, састаўных частак складаназлучанага сказа і аднародных сузалежных частак складаназалежнага сказа. Злучальныя злучнікі з улікам адносін, якія выражаюцца з дапамогай іх, падзяляюцца на чатыры групы: 1) спалучальныя злуч-

нікі: *і, ды, ні...ні, як...так і;* 2) супастаўляльныя злучнікі: *а, але, ды* (са значэннем *але*), *аднак, жа, затое, а то, не толькі...але;* 3) пералічальна-размеркавальныя: *або, або...або, альбо...альбо, ці, ці...ці, не то...не то, ці то...ці то;* 4) далучальныя: *ды і (дый), нават, прытым.* У функцыі далучальных могуць выкарыстоўвацца і ўсе іншыя злучальныя злучнікі, калі яны звязваюць сінтаксічныя адзінкі з дадатковай інфармацыяй, не прадугледжанай першай адзінкай.

Падпарадкавальныя злучнікі служаць для сувязі сінтаксічна нераўнапраўных кампанентаў — звязваюць дадаую частку з галоўнай. Як правіла, яны амаль не выкарыстоўваюцца ў простым сказе, за выключэннем злучнікаў *як, нібы, быццам, каб,* якія звязваюць звароты са значэннем параўнання і мэты з асноўнай структурай сказа: *Гаварыў, нібы казань казаў; Прыйшоў, каб пабачыць нас.* Падпарадкавальныя злучнікі ўваходзяць у склад дададай часткі і паказваюць на розныя сэнсавыя яе адносіны з галоўнай. З улікам гэтых адносін—функцыянальных значэнняў — падпарадкавальныя злучнікі падзяляюцца на групы: 1) прычынныя: *бо, таму што, паколькі, адтаго што, затым што;* 2) часавыя: *калі, як, пакуль, тым часам як, пасля таго як, як толькі;* 3) умоўныя: *калі, калі б, каб, як, як бы, абы, раз;* 4) мэтавыя: *каб для таго каб, з тым каб; абы;* 5) уступальныя: *хоць, хоць бы, хай, няхай, нягледзячы на тое што;* 6) параўнальныя: *як, чым, што, то, дык.* Гэтым т. зв. семантычным злучнікам супрацьстаяць асемантычныя тлумачальныя злучнікі, якія не выражаюць функцыянальных адносін, а служаць толькі для сувязі дададай часткі з галоўнай, калі дададая частка раскрывае той ці іншы кампанент галоўнай, тлумачыць яго. Да тлумачальных адносяцца злучнікі *што, як, чым.*

§ 338. Да злучнікаў не могуць быць аднесены т. зв. злучальныя словы — адносныя займеннікі і займеннікавыя прыслоўі, якія, звязваючы дададыя часткі з галоўнымі [як злучнікі], разам з тым захоўваюць марфалагічныя прыметы знамянальных часцін мовы і ў сказе выконваюць ролю членаў сказа. Такія злучальныя словы трэба разглядаць як амонімы да адпаведных злучнікаў: *што, як, чым, калі.* Сярод злучальных слоў ёсць і неаманімічныя са злучнікамі: *хто, які, каторы, чый, дзе, куды, адкуль, колькі.*

## ЗВЯЗКІ

§ 339. Звязкі — гэта непаўназначныя словы дзеяслоўнага паходжання, якія ўжываюцца для выражэння граматычных значэнняў (часу і ладу) састаўнога выказніка.

У залежнасці ад ступені страты лексічнага значэння вылучаюцца тры тыпы звязак:

1. Абстрактныя (або незнамянальныя) звязкі — формы дзеяслова *быць: ёсць, быў, будзе, будуць* і г. д. *Вечар быў цёплы.*

2. Паўабстрактныя (або паўзнамянальныя) звязкі — формы дзеясловаў *стаць, станавіцца, лічыцца, здавацца, рабіцца, з'яўляцца, бываць, называцца* і інш. *Вёска становіцца прыгажэйшай.*

3. Знамянальныя звязкі — формы дзеясловаў руху або стану: *хадзіць, стаяць, сядзець, вярнуцца, жыць* і інш. *Хлапец вярнуўся ўзрадаваны.*

## ЧАСЦІЦЫ

§ 340. **Часціцы** — гэта непаўназначныя словы, якія выражаюць дадатковыя сэнсавыя, мадальна-валявыя або эмацыянальна-экспрэсіўныя адценні значэння слоў, словазлучэнняў ці сказаў.

Часціцы звычайна не выкарыстоўваюцца для сувязі сінтаксічных адзінак і аб'яднання іх у адно цэлае, а толькі мадыфікуюць значэнне якой-небудзь моўнай адзінкі.

§ 341. У адпаведнасці з тым, у якім кірунку — сэнсавым, мадальна-валявым ці эмацыянальна-экспрэсіўным — ідзе мадыфікацыя значэння кампанентаў выказвання, часціцы падзяляюцца на тры групы.

I. Часціцы, якія выражаюць розныя сэнсавыя адценні значэнняў. Сюды адносяцца:

1. Указальныя часціцы: *вось, вунь, гэта* і іх размоўныя варыянты: *во, ось, от, унь* і інш. Указальныя часціцы адносяцца як да асобных слоў, так і да ўсяго сказа: *Вось і палянка, і самі баравікі* (А. Вялюгін); *І вось, як чысты ліст паперы, ляжыць перад вачамі новы год* (А. Вялюгін).

2. Азначальна-ўдакладняльныя часціцы: *якраз, іменна, менавіта, акурат, проста, чыста, амаль, прыблізна, сапраўды.* Яны адносяцца пераважна да слоў і размяшчаюцца ў прэпазіцыі: *З тае пары другога хамута не патрабуе Конь ніколі болей: свайго яму якраз да-солі, хамут стаў— проста любата!* (К. Крапіва).

3. Вылучальна-абмежавальныя часціцы: *толькі, хоць, хаця, выключна.* Яны таксама адносяцца да асобных слоў, падкрэсліваючы іх важнасць у камунікацыі: *Ні славы, ні скарбаў я не хачу, мне б толькі прайсці непрыкметна, зямлю сваю пад нагамі адчуць, надыхацца родным паветрам* (П. Панчанка).

II. Часціцы, якія выражаюць мадальныя і мадальна-валявыя адценні. У гэту групу ўваходзяць:

1. Сцвярджальныя часціцы: *так, але,* размоўныя і дыялектныя *ага, угу* і інш. *Так, з гасцінца ў Вуглы паварочвае машына* (Я. Брыль).

2. Адмоўныя часціцы: *не, ні, ані.* У мове фактычна маюцца два амонімы часціцы *не.* Першая з іх ужываецца для адмаўлення ўсяго выказвання і з'яўляецца антонімам сцвярджальных часціц *так, але: Не, браток, мы яшчэ папрацуем, мы яшчэ пазмагаемся — разам і з аднагодкамі, і з маладымі* (Я. Брыль).

Заўвага. Такія сцвярджальныя ці адмоўныя часціцы — гэта самастойныя сінтаксічныя адзінкі, словы-сказы, і ўключэнне іх у разрад часціц — справа ўмоўная.

Другая часціца *не,* аманімічная слову-сказу, ужываецца для адмаўлення любога члена сказа: *Не раз ішла яна* [група] *па зямлі, вызваленай ад захопнікаў партызанамі* (Я. Брыль); *Большасць індыйскага насельніцтва мяса не спажывае* (М. Лынькоў).

Часціца *ні* мае адмоўнае значэнне ў пабуджальных сказах: *Ні кроку назад!,* а таксама ў безасабовых сказах пры дапаўненні ў форме роднага склону: *На небе ні хмурынкі.* У сказах з адмоўем *не* часціца *ні* ўзмацняе адмоўе. Напрыклад: *Ні песень нашае радзімы, ні казак не пачуеш ты* (П. Глебка).

3. Пытальныя часціцы: *ці, хіба, няўжо, а, ну, што за* і інш. *Ці доўга цярпець яшчэ будзем?* (М. Лынькоў).

4. Мадальна-валявыя часціцы: *бы(б), няхай(хай), ну, ану, на, дай, бадай, давай* і інш. *Хай паслухаюць летам уранку, як спяваюць прасторы зямлі...* (П. Глебка).

5. П а р а ў н а л ь н ы я часціцы: *быццам, нібы, як быццам* і інш. *Сэрца Міхала Тварыцкага быццам упала кудысьці ўніз. Душа яго на гэты кароткі момант я к б ы зусім спустошылася...* (К. Чорны).

6. Часціцы, якія выражаюць а д н о с і н ы д а в е р а г о д н а с ц і в ы к а з в а н н я: *наўрад, наўрад ці, бадай, бадай што* і інш. *Н а ў р а д ці можна было што пачуць у гэтым шуме.*

III. Часціцы, якія выражаюць эмацыянальныя і экспрэсіўныя адценні. У гэту групу ўваходзяць:

1. У з м а ц н я л ь н ы я часціцы: *нават, і, так, дык, ды, ужо, ж, ні, аж, усё, сабе* і інш.

2. К л і ч н ы я часціцы: *вось, бач, і, як, калі, што за, куды* і інш. *І кепска ж ездзіць у халады, ды па дрэннай дарозе!* (М. Лынькоў); *Як хітра, мудра збудавана! Як чыста, хораша прыбрана!* (Я. Колас).

Узмацняльная часціца *ж (жа)* мае адценне атаясамлівання: *той жа* (г. зн. той самы, аб якім раней ішла гутарка). Трацячы сваё першапачатковае значэнне і набываючы значэнне супастаўляльнасці, гэта часціца можа ўжывацца ў функцыі злучніка: *Я хлеба ў багатых прасіў і маліў, яны ж мне каменні давалі* (М. Багдановіч).

Для надання мове больш яркай і моцнай экспрэсіі ўжываюцца састаўныя часціцы *дык вось, вось ужо, куды там, абы толькі* і шмат іншых.

§ 342. Большасць часціц у сучаснай мове не мае пастаяннага, фіксіраванага месца ў сказе. Часціцы *аж, ажно, бы (б), было, вось, вунь, ды, дык, нават, ужо, хіба* і іншыя могуць займаць любое становішча, звычайна перад тым словам, якое гаворачая асоба мае намер вылучыць.

У пачатку сказа размяшчаюцца часціцы *што за, ну,* сцвярджальная *так* і адмоўная (у ролі слова-сказа) *не,* у большасці выпадкаў — *няхай (хай)* і *бадай.*

Перад словам, да якога адносяцца, размяшчаюцца і часціцы *проста, не, ні, ці, амаль, толькі* і інш. У постпазіцыі — *жа(ж), такі, сабе* і інш.

Прымацаванасць часціцы да таго слова, значэнне якога яна мадыфікуе, з цягам часу прыводзіць да таго, што часціца можа страціць сваю самастойнасць і ператварыцца ў афікс: у прыстаўку або постфікс. Так утварыліся сучасныя *абы-, -небудзь, -сь, -сьці.* Двайную функцыю выконваюць *не, ні, ані*: яны могуць быць або асобнымі словамі — часціцамі (*не прыяцель, а вораг; ні ў якім разе; не было нікога ані*), або часткамі слова—прыстаўкамі (*непрыяцель, ніякі, анікога*). Часціцы *бы (б), бадай, няхай, хай* яшчэ не сталі формаўтваральнымі афіксамі. Мадальнае значэнне ірэальнасці, пажадальнасці або імператыўнасці, якое яны надаюць сінтаксічнай адзінцы, не замыкаецца вузкімі рамкамі дзеяслова. Гэтыя часціцы могуць выражаць названыя значэнні і ў недзеяслоўных канструкцыях: *Дожджыку б сёння! Няхай хоць пажар! Бадай яму ліха!*

§ 343. Сваім паходжаннем часціцы звязаны з самастойнымі часцінамі мовы і з выклічнікамі. Часціцы, якія толькі этымалагічна можна ўзвесці да іншых часцін мовы, з пункту погляду сучаснай мовы лічацца невытворнымі. Гэта *а, і, вунь, вось, ж (жа), але, не, ні, хіба, нават, дык, ды, аж,* а таксама *хоць, хаця, бы (б), няхай, хай.*

Усе ж іншыя простыя часціцы не парываюць сувязей са знаменальнымі словамі. Так, аманімічнымі з займеннікамі з'яўляюцца часціцы *гэта, усё, сабе, то;* з прыслоўямі — *проста, якраз, чыста, амаль, прыблізна, сапраўды, так, ужо, як, калі, куды;* з асобнымі дзеяслоўнымі формамі — *дай, давай, бач* і інш. Аманімічнымі з выклічнікамі з'яўляюцца часціцы *ну, ага* і інш.

Складаныя часціцы *бадай, быццам, нібыта* маюць у сваім саставе дзеяслоўныя корані *(даць, быць)*.

Састаўныя часціцы *(дык вось, абы толькі, як быццам, быццам бы, як быццам бы* і пад.) утварыліся шляхам камбінацыі дзвюх ці больш простых часціц.

§ 344. Вылучальна-абмежавальныя, мадальна-валявыя і асабліва параўнальныя часціцы маюць тэндэнцыю быць дапаможнымі сродкамі выражэння розных сінтаксічных адносін. У складаназлучаных і складаназалежных сказах часціцы *ж (жа)*, паўторнае *ні*, часціцы *толькі, хоць, хаця, выключна, ці, што за, няхай, хай, быццам, нібы, як быццам, быццам бы, бы* (у значэнні 'быццам'), *інакай, інакш, адно, дык* і іншыя, выступаюць або як дадатковыя сродкі сувязі частак складанага сказа (калі гэтыя часткі звязаны злучнікамі), або нават як асноўныя сродкі сувязі, прымаючы на сябе ролю злучнікаў.

## ВЫКЛІЧНІКІ

### АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 345. Выклічнікі — гэта словы, якія выражаюць пачуцці і волевыяўленні чалавека, яго рэакцыю на з'явы рэчаіснасці ці мову субяседніка: *ах, ох, эх, ой, алё, гайда, каравул, ура, стоп, ого, бацюхны; апсік, кыш, цып-цып.*

Выклічнікі ў адрозненне ад паўназначных слоў не называюць пачуццяў і волевыяўленняў, яны служаць толькі іх сігналамі — нерасчлянёным іх выражэннем; параўн.: *Ох!* і *Баліць!* Значэнне выклічніка раскрываецца ў кантэксце. Для канкрэтызацыі семантыкі выклічнікаў важнае значэнне мае інтанацыя (адценні ў тэмбры, адрозненні ў даўжыні і вышыні галосных гукаў і інш.). Так, адны і тыя выклічнікі ў рознай моўнай сітуацыі, пры рознай інтанацыі могуць выражаць розныя, нават супрацьлеглыя эмоцыі; напрыклад, выклічнікі *ах, эх, ой, а, о* — радасць, захапленне ці смутак, незадавальненне; параўн.: *Ой, як тут прыгожа!* (радасць, захапленне) і *Ой, як непрыемна гэта бачыць!* (незадавальненне).

У сістэме часцін мовы выклічнікі займаюць асобнае месца: выклічнікі не адносяцца да паўназначных часцін мовы, бо не маюць намінатыўнага значэння і ў сказе не выконваюць ролі яго членаў; не ўключаюцца выклічнікі і ў групу службовых часцін мовы, паколькі яны не выконваюць у мове службовай ролі: не паказваюць на сувязь сінтаксічных адзінак (як злучнікі) ці на залежнасць адной з іх ад іншай (як прыназоўнікі). Разам з тым выклічнікі маюць і агульныя рысы са службовымі часцінамі мовы: яны нязменныя, марфемна непадзельныя, ім не ўласцівы марфалагічныя катэгорыі.

Выклічнікі займаюць у сказе асаблівую пазіцыю: звычайна яны выступаюць як ізаляваныя ў структуры сказа кампаненты, не маюць сінтаксічнай сувязі з іншымі словамі і не выконваюць ролі членаў сказа; праўда, як эквіваленты выказвання выклічнікі могуць выступаць у ролі непадзельнага (нерасчлянёнага) сказа: *Ой, пачатку няма, ой, канца не відаць шыр-красе агняцветаў і фарбаў* (З. Бядуля); *Але колькі працы для гэтага трэба! О-хо-хо!* (І. Шамякін); *Ну і ну! Такой смехаты ніхто ў нашым сяле не бачыў* (П. Місько).

### РАЗРАДЫ ВЫКЛІЧНІКАЎ

§ 346. Выклічнікі падзяляюцца на разрады з улікам іх семантыкі, структуры і паходжання.

Паводле семантыкі выклічнікі падзяляюцца на тры разрады: 1) эмацыянальныя, 2) волевыяўленчыя і 3) выклічнікі этыкету.

Эмацыянальныя выклічнікі выражаюць пачуцці і эмацыянальную ацэнку навакольнай рэчаіснасці: а) станоўчую ацэнку, згоду, адабрэнне, задавальненне, радасць, захапленне, зачараванасць: *брава, біс, слава богу, ура, ах, ох, эх, ух;* б) адмоўную ацэнку, незадавальненне, насмешку, асуджэнне, зневажанне, недавер, жаль, гора, смутак,

боль: *ай-яй-яй, божа мой, барані бог (божа), вот табе на, госпадзі, на табе, тфу, эх, я табе, я цябе.* Эмацыянальныя выклічнікі могуць мець як адно пэўнае эмацыянальнае значэнне (адназначныя спецыялізаваныя выклічнікі), так і розныя значэнні (мнагазначныя выклічнікі). Сярод адназначных спецыялізаваных выклічнікаў найбольш тых, што выражаюць адмоўныя эмоцыі; дадатныя эмоцыі выражаюць толькі асобныя спецыялізаваныя выклічнікі *(брава, біс, слава богу, ура* і некаторыя іншыя). Мнагазначнымі з'яўляюцца выклічнікі *а, ага, ай, ах, бацюхны, божа мой, госпадзі, жах, з глузду з'ехаць, матухны, ого.* Яны могуць перадаваць і дадатныя, і адмоўныя эмоцыі.

Волевыяўленчыя выклічнікі служаць для выражэння валявых імкненняў асобы ў адносінах да чалавека, жывых істот. Гэта можа быць: а) просьба, загад спыніць ці пачаць дзеянне: *гайда, стоп, марш;* б) патрабаванне цішыні, увагі: *алё (ало), эй, цсш, ша;* в) просьба ратунку: *каравул;* г) падкліканне ці адгон жывёлін: *апсік, гыля, кось-кось, кыш* і інш.

Выклічнікі этыкету служаць для выражэння прывітання, развітання, пажадання, падзякі, прабачэння, ветлівага звароту: *добры дзень, дзень добры (дзяндобры), добры вечар, дабранач, бывай (це), да пабачэння, прывет* (разм.), *прывітанне, здароў* (разм.), *дзякуй, даруйце, выбачай (це), прабач (це), усяго добрага, усяго найлепшага.* Выклічнікі этыкету яшчэ захоўваюць цесную сувязь са словамі паўназначных часцін мовы, ад якіх яны паходзяць.

Паводле структуры выклічнікі падзяляюцца на невытворныя (першапачатковыя) і вытворныя.

Невытворныя выклічнікі — гэта даўнія словы, якія не суадносяцца з іншымі часцінамі мовы, яны складаюцца з аднаго гука (галоснага ці зычнага) або са спалучэння гукаў: *а, о, э, ага, агу, ай, ах, но, ну, ого, ой, ох, тпру, тфу, ух, ха, эй, эх;* ■ таксама з паўтарэння гукавога комплексу: *ай-яй-яй, о-го-го, у-ха-ха.*

Вытворныя выклічнікі — гэта пазнейшыя словы, якія ўтвораны ад паўназначных слоў у выніку страты імі свайго лексічнага значэння і набыцця здольнасці выражаць нерасчлянёна пачуцці і волевыяўленні асобы, яе рэакцыю на мову субяседніка ці навакольную рэчаіснасць. Пераходзячы ў выклічнік, паўназначнае слова можа дэфармаваць і сваю форму *(цішэй (цішай)→цсш, ша).* У разрад вытворных уключаюцца выклічнікі, якія ўтварыліся ад: а) назоўнікаў: *бацюхны, божа, госпадзі, долюхна, жах, матухны, прывет;* б) дзеясловаў: *дзякуй, будзе, годзе, кусі, падумаеш, выбачай (це), прабач (це);* в) прыслоўяў: *далоў, прэч, ціха, цішэй (цішай), цсш, ша* (ад *цішэй, цішай);* г) займеннікаў і займеннікавых часціц: *вот, вось, вон, то-та;* д) спалучэння слоў розных часцін мовы: *я табе, я цябе, каб цябе, ну так, ну і ну;* е) фразеалагічных зваротаў: *божа мой, д'ябал яго вазьмі, не дай божа (бог), крый бог, слава богу, от табе на, што за ліха, што за чорт (д'ябал), як бы не так.* Частка выклічнікаў запазычана з іншых моў: *алё (ало), баста, біс, брава, гайда, каравул, марш, стоп, ура, шабаш.*

§ 347. Ад выклічнікаў трэба адрозніваць гукапераймання (гукапераймальныя словы). Гукапераймальныя словы служаць для перадачы гучання жывых істот, з'яў прыроды, прадметаў: *гаў-гаў, рох-рох, му-у, ква-ква, шах-шах, бух, тра-та-та.* Звычайна гукапераймання складаюцца з паўтарэння гукаў ці гукавых комплексаў; афармляюцца яны як простая мова: *«Дра-дра»,— горла драў драч гарласты ў хмызняку і зязюля кукавала: «Куку-куку»* (А. Дзеружынскі); *«Г-гух»,— глуха гупнула ўніз цэлая гурба снегу* (П. Місько).

# СЛОВАЎТВАРЭННЕ

## АСНОЎНЫЯ ПАНЯЦЦІ

§ 348. Словаўтварэнне — гэта раздзел навукі аб мове, у якім вывучаецца словаўтваральная структура вытворных слоў і магчымыя шляхі і сродкі ўтварэння новых слоў, апісваецца сістэма словаўтварэння — сукупнасць словаўтваральных тыпаў і словаўтваральных гнёзд, існуючых у мове на пэўным сінхронным зрэзе. Тэрмінам «словаўтварэнне» абазначаецца таксама сам працэс утварэння новых слоў. У Беларускай граматыцы (раздзел «Словаўтварэнне») даецца характарыстыка сучаснай (сінхроннай) словаўтваральнай структуры слоў, аб'яднаных у словаўтваральныя тыпы, што ўваходзяць у адпаведныя спосабы словаўтварэння.

Галоўным аб'ектам аналізу ў словаўтварэнні з'яўляецца вытворнае слова — слова, утворанае ад аднакаранёвага з ім з дапамогай таго ці іншага словаўтваральнага сродку (прэфікса, суфікса, постфікса, інтэрфікса і інш.), які носіць назву — фармант. Вытворнае слова, такім чынам, заўсёды павінна мець сваё ўтваральнае, да асновы якога далучаецца фармант. Так, для слова *рыбак* утваральным з'яўляецца слова *рыба (рыб-ак)*, для слова *Брэстчына* — *Брэст*, для *калгасны* — *калгас* і г. д.

Утваральнай базай для вытворнага слова можа быць не толькі асобнае слова, але і словазлучэнне ці іменна-прыназоўнікавае спалучэнне: *жалеза* і *бетон* — *жалезабетон, Беларуская Савецкая Энцыклапедыя* — *БелСЭ, без вусоў* — *бязвусы*.

Вытворнае і ўтваральнае словы звязаны паміж сабой адносінамі вытворнасці, г. зн. вытворнае слова з'яўляецца другасным, залежным ад утваральнага, на базе якога яно ўзнікла. Утваральнае слова выступае як больш простае ў адносінах да вытворнага як семантычна, так і па колькасці марфем; а вытворнае слова — як больш складанае ў гэтых адносінах. Так, вытворнае слова *дубняк* у аснове мае дзве марфемы *(дуб-няк)*, а ўтваральнае *дуб* — адну, і семантычна *дубняк* больш складанае: гэта назва не дрэва *«дуб»*, а сукупнасці дрэў з назвай *«дуб»*. Такім чынам, у пары слоў, аб'яднаных адносінамі вытворнасці, вытворным лічыцца слова, аснова якога мае большую колькасць марфем і больш багатую семантычную структуру.

Калі словы, звязаныя адносінамі вытворнасці, маюць у асновах аднолькавую колькасць марфем, то вытворным лічыцца слова, якое мае большую семантычную складанасць, значэнне якога выводзіцца са значэння першага: *ніз-к(і)* — *ніз-ін(а)* 'нізкае месца', *скак-ун* — *скак-ух(а)* 'жанчына-скакун', *урадз-і(ць)* — *урадж-ай* 'тое, што ўрадзіла, уродзіць'.

У парах слоў, якія маюць аднолькавае значэнне, але адрозніваюцца як часціны мовы, вытворным лічыцца слова, якое мае дадатковае марфалагічнае значэнне (як часціны мовы). Напрыклад, у парах *хадзіць* — *хадзьба, чырвоны* — *чырвань* другое слова не толькі абазначае

дзеянне ці прымету, але і мае дадатковае значэнне прадметнасці, уласцівае назоўніку.

У парах слоў, дзе адно стылістычна нейтральнае, а другое — стылістычна афарбаванае, вытворным з'яўляецца апошняе, бо ад яго не можа быць утворана нейтральнае слова: *транзістар (разм.)*← *транзістарны; тэатрал* (разм.) ← *тэатральны; псіх* (разм.) ← *псіхічны.*

Вытворнае слова ў сваю чаргу можа быць утваральным для наступнага слова, а наступнае—для новага, як у прыкладах *касіць — скасіць — скошваць —паскошваць; вада — водны — воднік.* Такі рад аднакаранёвых слоў, што знаходзяцца ў адносінах паслядоўнай вытворнасці, прынята называць словаўтваральным ланцужком, а сукупнасць іх — словаўтваральным гняздом. У словаўтваральным гняздзе (ланцужку) базавым выступае невытворнае слова, якое з'яўляецца вяршыняй гнязда (ланцужка). Прыклад словаўтваральнага гнязда:

*касіць* —
- *скасіць — скошваць — скошванне*
- *выкасіць — выкошваць — выкошванне*
- *накасіць — накошваць — накошванне*

Вытворнае слова матэрыяльна адрозніваецца ад утваральнага тым, што яно ўключае ў свой склад не толькі аснову апошняга, але і словаўтваральны фармант, г. зн. вытворнае слова з боку словаўтваральнай структуры распадаецца на дзве часткі: 1) утваральную аснову і 2) фармант. У т в а р а л ь н а я а с н о в а — гэта частка вытворнага слова, агульная з асновай утваральнага слова: *малацьб-(а)— малацьб-іт.* Яна можа супадаць з часткай вытворнага слова без фарманта *(соль — сальніца).* Не супадае яна тады, калі пры ўтварэнні новага слова ў аснове ўтваральнага слова адбываецца адсячэнне яе канцавой часткі — фіналі *(скрып-к(а) — скрып-ач)* або нарашчэнне гэтай асновы *(лі-(ць) — ліў-ень).*

Вытворнае слова можа мець адносіны вытворнасці не з адным, а з некалькімі словамі ў роўнай ступені. Напрыклад, слова *няветлівасць* суадносіцца як з утваральным прыметнікам *няветлівы (няветліў-асць),* так і з назоўнікам *ветлівасць (ня-ветлівасць).* У такім выпадку яно можа разглядацца як утворанае двума спосабамі словаўтварэння.

Словы, якія ўтвораны ад утваральных адной часціны мовы з дапамогай аднаго і таго ж фарманта і маюць тое ж словаўтваральнае значэнне, складаюць адзін словаўтваральны тып. Так, словы *веялка, маталка, мешалка, мясілка* ўтвораны ад дзеясловаў *(веяць, матаць, мяшаць, мясіць)* з дапамогай суфікса *-лк-а* і маюць словаўтваральнае значэнне 'прылада для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам'. Яны і складаюць адзін словаўтваральны тып. Такім чынам, с л о в а ў т в а р а л ь н ы т ы п — гэта схема пабудовы слоў пэўнай часціны мовы, якія супадаюць у словаўтваральных адносінах: маюць у якасці ўтваральных словы той самай часціны мовы і агульны для іх фармант, тоесны па семантыцы і форме. Фармантам звычайна выступае афікс (пры афіксальным словаўтварэнні), але ім можа быць і іншы сродак, напрыклад парадак размяшчэння частак слова і наяўнасць агульнага націску пры спосабе зрашчэння *(глыбокапаважаны).* Падрабязна гэта пытанне разглядаецца пры характарыстыцы спосабаў словаўтварэння.

Фармант з'яўляецца носьбітам словаўтваральнага значэння. С л о в а ў т в а р а л ь н а е з н а ч э н н е — гэта тое агульнае значэнне, якое аб'ядноўвае вытворныя словы ў адзін словаўтваральны тып, адрознівае іх ад сваіх утваральных. Так, словы *ласіна, каніна, кабаніна, свініна*

адрозніваюцца ад сваіх утваральных *лось, конь, кабан, свіння* тым, што яны абазначаюць не адпаведных жывёлін, а маюць значэнне 'мяса як страва'.

Словаўтваральны тып як схема пабудовы вытворных слоў можа быць узорам для ўзнікнення новых слоў. Такі словаўтваральны тып з'яўляецца прадуктыўным, напрыклад названы вышэй тып аддзеяслоўных назоўнікаў з суфіксам *-лк-а* і значэннем 'прылада працы'. Тып, паводле якога новыя словы не ўтвараюцца, называецца непрадуктыўным. Сюды можна аднесці адпрыметнікавыя ўтварэнні з суфіксам *-адзь (-ядзь)* са значэннем апрадмечанай прыметы: *роўнядзь, мокрадзь.*

Ступень прадуктыўнасці тыпу можа быць неаднолькавай: ёсць высокапрадуктыўныя, прадуктыўныя і малапрадуктыўныя тыпы. Пры высокай прадуктыўнасці тыпу рад яго ўтварэнняў надзвычай актыўна папаўняецца новымі словамі, напрыклад тып аддзеяслоўных назоўнікаў на *-нне* (*прызямленне, інструктаванне, акумуліраванне*), тып адсубстантыўных назоўнікаў з суфіксамі *-ік, -ок* з памяншальна-ласкальным значэннем (*столік, домік, месячык, грудок*). Малапрадуктыўныя тыпы маюць нязначную ступень актыўнасці ў папаўненні разраду ўтварэнняў, напрыклад аддзеяслоўныя дэрываты з суфіксам *-ач* са значэннем 'асоба — выканаўца дзеяння' ці 'прылада дзеяння' (*слухач, глядач, капач*). Тыпы, паводле якіх актыўна папаўняюцца рады ўтварэнняў, адносяцца да прадуктыўных, напрыклад тып аддзеяслоўных утварэнняў з суфіксамі *-нік, -льнік, -чык/-шчык* і інш. Прадуктыўныя тыпы як бы займаюць сярэдняе становішча паміж высокапрадуктыўнымі і малапрадуктыўнымі.

Рад словаўтваральных тыпаў з адным і тым жа відам фарманта (*суфікс, прэфікс* і г. д.) аб'ядноўваецца ў больш буйную адзінку словаўтваральнай сістэмы — с п о с а б  с л о в а ў т в а р э н н я.

У сінхронным словаўтварэнні базай для ўтварэння новага слова можа быць як адно слова, так і больш (два паўназначныя словы, намінатыўнае словазлучэнне). У сувязі з гэтым усе спосабы словаўтварэння можна падзяліць на дзве групы: 1) спосабы ўтварэння слоў з адной утваральнай асновай; 2) спосабы ўтварэння слоў, якія маюць у якасці словаўтваральнай базы больш як адно паўназначнае слова.

Вытворныя словы з адной утваральнай асновай утвараюцца наступнымі спосабамі словаўтварэння: суфіксальным, нульсуфіксальным, прэфіксальным, прэфіксальна-суфіксальным, прэфіксальна-нульсуфіксальным, постфіксальным, прэфіксальна-постфіксальным, суфіксальна-постфіксальным, шляхам транспазіцыі — субстантывацыі прыметнікаў і дзеепрыметнікаў і ад'ектывацыі дзеепрыметнікаў.

С у ф і к с а л ь н ы спосаб — гэта далучэнне да ўтваральнай асновы фарманта-суфікса (у нязменных словах: *бегчы — бег-ма, высокі — высок-а*) або суфікса і канчатка (у зменных словах: *жаць — жн-(-уць) — жн-ів-о, мяце-ліц-а*).

Н у л ь с у ф і к с а л ь н ы спосаб — гэта далучэнне да ўтваральнай асновы фарманта — нулявога суфікса (разам з канчаткам), які мае тое ж словаўтваральнае значэнне, што і матэрыяльна выражаны: *хадзіць — хад-а* і *хадзь-б-а, скакаць — скокі.* Нульсуфіксальны спосаб — гэта разнавіднасць суфіксацыі, т. зв. нулявая суфіксацыя. Пры суфіксацыі фармант (суфікс+флексія) адначасова з'яўляецца паказчыкам роду і ліку назоўнікаў, таму пры апісанні суфіксальных словаўтваральных тыпаў назоўнікаў паказваецца ўвесь фармант, а ў іншых выпадках — толькі суфікс.

П р э ф і к с а л ь н ы спосаб — гэта ўтварэнне новага слова з дапамогай фарманта-прэфікса, які далучаецца да цэлага слова (а не да

асновы) і не змяняе часціны мовы, яе словазмяняльнага класа (род, лік іменных часцін мовы, клас дзеяслова): *анты-фашыст, супер-танкер, пра-баба, не-высокі, на-касіць, вы-ехаць.*

Прэфіксальна-суфіксальны спосаб — гэта адначасовае далучэнне да ўтваральнай асновы прэфікса і суфікса (разам з канчаткам): *зім-(а) — за-зім-ак, за-мор-ск-і, за-зямл-і-ць, па-бацькоўск-у.*

Прэфіксальна-нульсуфіксальны спосаб — гэта далучэнне да ўтваральнай асновы прэфікса і нулявога суфікса (разам з канчаткам): *вус — бяз-вус-ы, крыло — бяс-крыл-ы* (параўн. *бяс-крой-н-ы,* дзе суфікс *-н-).*

Постфіксальны спосаб — гэта далучэнне постфікса да цэлага слова (а не да асновы); пры гэтым новае слова захоўвае тыя ж формы роду, ліку, склону, класа дзеяслова, што і яго ўтваральнае: *хто — хто-сьці, што —што-небудзь (кагосьці, чаго-небудзь), сабраць — сабрац-ца (збяру — збяру-ся).*

Суфіксальна-постфіксальны спосаб — гэта адначасовае далучэнне да ўтваральнага слова (а не да асновы) суфікса і постфікса: *брат-а-цца, від-е-цца, калас-і-цца.*

Прэфіксальна-постфіксальны спосаб — гэта далучэнне да цэлага слова (а не да асновы) прэфікса і постфікса: *хадзіць — на-хадзіц-ца, бегчы — раз-бегчы-ся, піць—на-піц-ца (п'ю — на-п'ю-ся).*

Субстантывацыя прыметнікаў і дзеепрыметнікаў — гэта пераход прыметнікаў і дзеепрыметнікаў у назоўнікі. Субстантываваныя прыметнікі і дзеепрыметнікі звычайна маюць адну (радзей — дзве) форму роду або толькі форму множнага ліку: *вартавы, марожанае, цяпло, камандзіровачныя, жаўталістыя.* Фармантам тут выступае сістэма флексій вытворнага слова, абмежаваная формай аднаго (радзей — двух) роду ці толькі множнага ліку.

Ад'ектывацыя дзеепрыметнікаў — гэта пераход дзеепрыметнікаў у прыметнікі (*рашаючы, рухомы*).

Да спосабаў утварэння новых слоў, якія маюць у якасці словаўтваральнай базы больш як адно паўназначнае слова, належаць складанне, суфіксальна-складаны і нульсуфіксальна-складаны спосабы, зрашчэнне і абрэвіяцыя.

Пры складанні (без удзелу суфіксацыі, г. зн. чыстым складанні) адбываецца аб'яднанне двух слоў у адно, пры гэтым апорны кампанент (апошні ў слове) роўны цэламу слову, а папярэдні з'яўляецца чыстай асновай, якая далучаецца да апорнага кампанента з дапамогай інтэрфікса (у тым ліку і нулявога): *глуханямы, жалезабетон, цар-звон.* Фармантам пры гэтым спосабе выступае, акрамя інтэрфікса, адзіны асноўны націск і замацаваны парадак кампанентаў.

Суфіксальна-складаны спосаб — гэта аб'яднанне ў складанае слова двух слоў з дапамогай інтэрфікса і суфіксацыі: *байкапісец, сіласпрэзка, сыраварня.*

Нульсуфіксальна-складаны спосаб — гэта аб'яднанне двух слоў у адно складанае слова з дапамогай інтэрфікса і нулявога суфікса (у апорным кампаненце): *пустамеля, кнігаюша, хлебароб.*

Пры суфіксальна-складаным і нульсуфіксальна-складаным спосабах фармантам выступае не толькі суфікс (матэрыяльна выражаны ці нулявы), але і адзіны асноўны націск і замацаваны парадак кампанентаў. Таму гэтыя два спосабы разглядаюцца як змешаныя — сумяшчаюць асаблівасці як складання, так і суфіксацыі.

Зрашчэнне — гэта зліццё кампанентаў словазлучэння ў адно цэлае (лексікалізацыя словазлучэння): *глыбока паважаны — глыбокапаважаны, свежапафарбаваны, вечназялёны.* Фармантам выступае адзі-

ны галоўны націск на апорным кампаненце і замацаваны парадак кампанентаў (падпарадкаваны кампанент на першым месцы).

А б р э в і я ц ы я — гэта ўтварэнне абрэвіятур (складана-скарочаных слоў) шляхам аб'яднання ўсечаных частак асноў некалькіх слоў або ўсечанай часткі і цэлага слова, што ўваходзяць у намінатыўнае словазлучэнне: *БелАЗ — Бел-(арускі) А-(ўтамабільны) З-(авод), медсястра— мед-(ыцынская) сястра.* Гэтым спосабам утвараюцца толькі назоўнікі (гл. § 624). Фармантам выступае адзіны асноўны націск і сістэма флексій (пры скланяльным назоўніку), а таксама адвольнае ўсячэнне частак слоў.

Акрамя разгледжаных спосабаў зрэдку выкарыстоўваюцца таксама такія змешаныя спосабы, як прэфіксальна-суфіксальна-постфіксальны *(брахаць — ад-брэх-ва-цца),* прэфіксальна-суфіксальна-складаны *(на-паў-абарот-а).*

Утварэнне новых слоў часта суправаджаецца марфаналагічнымі з'явамі — чаргаваннем, менай націску, усячэннем і нарашчэннем асновы ўтваральнага слова, сумяшчэннем марфем (гл. раздзел «Марфаналогія»).

Пры апісанні ўтварэння слоў адпаведных часцін мовы за аснову класіфікацыі прымаецца спосаб утварэння, а ўнутры яго — фармант. Вытворныя ад розных часцін мовы з адным фармантам разглядаюцца ў адным месцы. Пры аналізе вытворных назоўнікаў фарманты аб'ядноўваюцца ў групы паводле агульнасці таго ці іншага структурнага элемента ў іх саставе.

## МАРФЕМІКА

§ 349. Слова складаецца не толькі з фанем і складоў, якія непасрэдна не звязаны з яго значэннем, але і з такіх структурных частак, якія маюць пэўнае значэнне — лексічнае ці граматычнае. Напрыклад, слова *ночка* складаецца з трох значымых частак: 1) *ноч-,* яна выражае асноўнае значэнне гэтага слова 'частка сутак ад вечара да ранку'; 2) *-к-* — значэнне ласкальнасці; 3) *-а* — граматычныя значэнні роду (жаночага), ліку (адзіночнага), склону (назоўнага).

Значымыя часткі слова называюцца м а р ф е м а м і, а раздзел мовазнаўства, у якім яны вывучаюцца, — м а р ф е м і к а й. Тэрмін «марфеміка» выкарыстоўваецца таксама для абазначэння сукупнасці марфем. Марфема можа складацца як з адной фанемы (у разгледжаным выпадку: *-к-*, *-а*), так і са спалучэння фанем *(ноч-),* але ў любым выпадку яна выступае як мінімальны структурны кампанент (частка) слова, які нельга падзяліць на больш дробныя часткі, якія мелі б значэнне.

Марфемы вывучаюцца таксама ў марфалогіі, словаўтварэнні і марфаналогіі. У марфалогіі разглядаецца састаў марфем кожнай часціны мовы і іх граматычныя значэнні ў розных формах слоў; у словаўтварэнні — роля і значэнне марфем пры ўтварэнні новых слоў; у марфаналогіі — заканамернасці спалучэння марфем у слове. У марфеміцы перш за ўсё вызначаецца статус марфемы, даецца класіфікацыя марфем, разглядаюцца прынцыпы іх вылучэння і ідэнтыфікацыі.

Марфемы вылучаюцца ў слове шляхам двайнога супастаўлення: а) з роднаснымі словамі і б) з аднаструктурнымі (аднатыпнымі па структуры) словамі. Напрыклад, у слове *жаўток* вылучаюцца марфемы *жаўт-* і *-ок* на той падставе, што першая марфема паўтараецца ў аднакаранёвых словах *жоўты, жоўцъ, прожаўцъ,* а другая — у структурна аднатыпным слове *бялок (бялок* і *жаўток* яйца).

Марфемы могуць вар'іравацца, відазмяняцца ў словах, як у разгледжаных прыкладах: *жоўт-, жоўц'-, жаўт-, жаўц'-.* Для абазначэння кан-

крэтнай рэалізацыі той ці іншай марфемы выкарыстоўваюцца тэрміны «варыянт марфемы», «морф». Так, у разгледжаным прыкладзе каранёвая марфема мае чатыры варыянты (рэалізуецца ў чатырох морфах): *жоўт-, жоўц'-, жаўт-* і *жаўц'-*. Да адной і той жа марфемы адносяцца варыянты, якія маюць аднолькавае (тоеснае) значэнне і блізкае (варыянтнае) фармальнае аблічча — фанемны састаў. Варыянты фанем часцей за ўсё ўзнікаюць у выніку чаргавання гукаў (гістарычных і пазіцыйных), напрыклад: *рук-а* і *руч-к-а, раб-і-ць* і *рабл'-у, кас-і-ць* і *каш-у, кос-ім, страл-ок* і *страл-к-а*.

Паводле ролі ў словаўтварэнні марфемы падзяляюцца на: 1) каранёвыя і 2) некаранёвыя, або службовыя. Каранёвая марфема (корань слова) — гэта галоўная (абавязковая) частка слова, якая заключае ў сабе асноўны элемент лексічнага значэння слова. Службовыя марфемы — неабавязковыя, у адных словах яны ёсць, у іншых іх можа не быць, параўн.: *бел-еньк-і* і *бел-ы, ляс-ок* і *лес;* яны выконваюць службовую ролю ў слове: удакладняюць, вар'іруюць значэнне кораня, служаць для выражэння граматычных значэнняў слова. Службовыя марфемы ўключаюць у свой склад канчатак і афіксы.

Афіксы ўваходзяць у састаў асновы, «прымацаваны» да каранёвай марфемы непасрэдна або праз другія афіксы. А с н о в а — гэта частка слова без флексіі (канчатка), у ёй заключана індывідуальнае лексічнае значэнне слова (у корані — агульнае значэнне родных слоў). Аснова бывае простая (з адным коранем) і складаная (два корані і больш). Ф л е к с і я — гэта службовая зменная марфема, якая не ўваходзіць у аснову слова і ўтварае марфалагічную форму слова (выражае марфалагічныя значэнні роду, ліку, склону, асобы) і звязвае яго з іншымі словамі ў словазлучэнні ці сказе: *пісьм-о, пісьм-а, пісьм-у, пісьм-ом; нов-ы, нов-ая, нов-ае, нов-ыя; чыта-ем нов-ыя пісьм-ы.*

Да флексійных марфем адносяцца таксама паказчыкі інфінітыва *-ць, -ці, -чы* (пасля *г*): *піса-ць, нес-ці, маг-чы.*

Афіксы падзяляюцца на прэфікс, суфікс, постфікс, інтэрфікс у залежнасці ад іх месца ў адносінах да кораня: п р э ф і к с — марфема, якая стаіць перад коранем: *вы-ехаць, пра-дзед;* с у ф і к с — марфема, якая займае пазіцыю пасля кораня перад флексіяй: *клад-к-а, сцен-к-а, сель-ск-і;* п о с т ф і к с — марфема, якая ўваходзіць у састаў перарывістай асновы і займае пазіцыю пасля флексіі: *-ся, -ца, -цца (спяшал-і-ся, браць — бра-цца, бярэ-цца), -сьці, -сь (хто-сьці, хто-сь), -небудзь (што-небудзь, каго-небудзь)*; і н т э р ф і к с — марфема, якая стаіць паміж простымі асновамі ў саставе складанага слова і паказвае на сувязь гэтых асноў і іх значэнняў у саставе складанага слова: *-і-, -а-, -о-, -е-, -я-, -ух-, -ох- (пяц-і-павярховы, атам-а-ход, час-о-піс, земл-е-ўпарадкаванне, земл-я-роб, дв-ух-тыднёвы, тр-ох-павярховы).*

Каранёвая марфема адрозніваецца ад афіксальнай тым, што яна можа быць свабоднай, г.зн. матэрыяльна можа поўнасцю супадаць з асновай, у той час як афіксы поўнасцю ніколі не супадаюць з асновай. Яны бываюць толькі звязанымі, існуюць толькі ў спалучэнні з коранем. Калі афіксальная марфема набывае свабоднае ўжыванне, яна ператвараецца ў каранёвую, напрыклад: архаізмы, дыялектызмы і іншыя «ізмы».

Афіксы паводле іх ролі ў мове падзяляюцца на словаўтваральныя і формаўтваральныя. Словаўтваральныя афіксы служаць для ўтварэння слоў з новым лексічным значэннем: *стал-яр, руч-н-ы, сін-як.* Формаўтваральныя афіксы ўтвараюць словы з новым граматычным значэннем: *мацн-ейш-ы, прыгаж-эй, піса-л-і.*

Флексіі выступаюць толькі як словазмяняльныя марфемы, інтэрфіксы — толькі як словаўтваральныя; астатнія афіксы звычайна выконва-

юць словаўтваральную функцыю, аднак у асобных выпадках з іх дапамогай утвараюцца словы не з новым лексічным, а толькі з новым граматычным значэннем (формаўтваральным). Як формаўтваральныя выступаюць наступныя суфіксы: суфіксы ступеней параўнання прыметнікаў і прыслоўяў (*высокі — выш-эйшы, далёкі — дал-ей*), прошлага часу дзеясловаў (*нес-л-і*), дзеепрыметнікаў і дзеепрыслоўяў (*пасіве-л-ы, спатка-ўшы*), прэфікс *най-* у формах найвышэйшай ступені прыметнікаў і прыслоўяў (*най-лепшы, най-даражэй*). Постфікс *-ся(-ца, -цца)* можа выконваць як формаўтваральную (*забыць — забыцца*), так і словаўтваральную функцыю (*хадзіць — на-хадзі-цца*). Словаўтваральныя афіксы, іх дэрывацыйныя (словаўтваральныя) значэнні разглядаюцца ў раздзеле «Словаўтварэнне», словазмяняльныя і формаўтваральныя (марфемы) — у «Марфалогіі». Афіксы, якія ўтвараюць словы толькі з новым граматычным значэннем, уваходзяць у аснову словазмянення (*касіл-і*). але не ўключаюцца ў аснову формаўтварэння (*касі-л-і*).

Акрамя матэрыяльна (з дапамогай фанем) выражаных, ёсць і матэрыяльна не выражаныя (нулявыя) марфемы — флексіі, суфіксы, інтэрфіксы. Яны абазначаюцца знакам ø і выяўляюцца пры параўнанні з матэрыяльна выражанымі марфемамі (*колас-ø, колас-а, колас-у* і г. д.), часам выступаюць як варыянтныя да матэрыяльна выражаных: 1) *азёр-аў* і *азёр-ø*; 2) *бяз-лес-н-ы* і *бяз-лес-ы*; 3) *Валг-а-град* і *Ленін-град*.

Афіксы могуць быць сінанімічныя (*вайч-ых-а* і *вайч-ыц-а, гарб-ун* і *гарб-ач*) і антанімічныя (*пры-ехаць* і *ад'-ехаць*). Флексіі звычайна маюць некалькі значэнняў: *рук-а* (жан. р., Н. скл., адз. л.), могуць быць аманімічнымі: *дом — дом-а* і *сцян-а*.

Некаторыя асновы (корані) аднаго і таго ж слова могуць не мець фанемнай блізкасці: *браць — узяць, добры — лепшы, многа — больш, дрэнны — горшы, я — мяне;* яны носяць назву — суплетыўныя.

### МАРФАНАЛОГІЯ

§ 350. У марфаналогіі разглядаецца фанемная структура марфем, заканамернасці спалучэння фанем на стыку марфем (чаргаванне фанем), а таксама абумоўленыя гэтымі заканамернасцямі з'явы скарачэння і нарашчэння ўтваральнай асновы, інакш кажучы, пытанні марфемнай фаналогіі — марфаналогіі.

Марфемы звычайна складаюцца з дзвюх і больш фанем (радзей — з адной фанемы). На стыку марфем (часцей за ўсё асновы і суфікса) адбываюцца марфаналагічныя пераўтварэнні — вар'іраванне марфем, звязанае з заканамернасцямі спалучальнасці фанем. Да такога вар'іравання фанемнага складу марфем адносяцца: 1) чаргаванне фанем на стыку марфем, напрыклад заднеязычных асновы з шыпячымі перад фармантам -яня: *воўк — ваўчаня;* парна-цвёрдых — з мяккімі зычнымі: *голуб — галубяня;* парна-мяккіх — з цвёрдымі зычнымі асновы перад суфіксам: *страляць — стралок, хадзіць — хадок;* 2) скарачэнне (усячэнне) марфемы за кошт апошняй зычнай ці галоснай фанемы ці іх спалучэнняў у складзе ўтваральнай асновы (адсякаемая канцавая частка асновы носіць назву — фіналь: *касі-(ць) — кас-ец, скрыпк-(а) — скрып-ач, глыбок-(і) — глыб-іня;* 3) нарашчэнне ўтваральнай асновы за кошт зычнай фанемы: *кофе — кафей-ны, лі-(ць) — ліў-ень*.

Акрамя таго, магчыма сумяшчэнне часткі ўтваральнай асновы і фарманта, як у выпадку *кажан — кажаня,* дзе суфікс *-ан-* у фарманце *-ан-я* (*-ян-я*) накладваецца на частку ўтваральнай асновы *-ан-*. Такім чынам,

у слове *кажаня* ('дзіцяня кажана') спалучэнне *-ан-* сумяшчае ў сабе і частку асновы, і суфікс *-ан-* (параўн. з гэтым суфіксам слова *зайч-аня*).

Чаргаванне зычных фанем парна-цвёрдых з мяккімі і наадварот адбываецца перад нулявым суфіксам пры нульсуфіксальным спосабе словаўтварэння: *бел-(ы) — бель, выходз-і-(ць) — выхад.* У межах кораня чаргуюцца таксама галосныя *е — о: несці — ноша; і — а: выбіраць — выбар; о—у: сохнуць — сухі* і інш.

Вар'іраванне марфем адбываецца не толькі пры словаўтварэнні, але і пры формаўтварэнні: *сух-(і) — суш-эйшы; дорага — дараж-эй, лёгкі — лёг-енькі; глыбокі — глыб-ейшы, вузкі — вуз-ейшы.*

Вар'іравацца могуць не толькі марфемы, але і часткі асноў, якія супадаюць з марфемамі паводле фанемнага саставу, т. зв. субморфы: *канец — канца — конч-ык, агурок — агуроч-нік.* Вар'іраванне марфем часта залежыць ад мены націску, якая суправаджае працэс словаўтварэння ці служыць сродкам выражэння граматычнага значэння: *кветка — квітнець.*

Чаргаванне фанем у складзе марфемы пры яе вар'іраванні складае фанемны рад, які носіць назву — м а р ф а н е м а (марфалагічная фанема). Напрыклад, у варыянтах каранёвай марфемы *нага — нозі — ножак — назе* адзначаецца чаргаванне зычных *г—г'— ж—з'* у сярэдзіне слова, яны і складаюць марфанему.

## СЛОВАЎТВАРЭННЕ НАЗОЎНІКАЎ

§ 351. Для словаўтварэння назоўнікаў уласцівы наступныя спосабы: суфіксальны, нульсуфіксальны, прэфіксальны, прэфіксальна-суфіксальны, прэфіксальна-нульсуфіксальны, складанне, суфіксальна-складаны, абрэвіяцыя, субстантывацыя. Найбольш пашыраныя — суфіксацыя і складанне.

### *Суфіксальныя назоўнікі*

#### Суфіксы назоўнікаў мужчынскага роду

Суфіксы са структурным элементам *-ж-*

§ 352. Суфікс *-аж (-яж)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і назоўнікаў.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі маюць значэнне адцягненай працэсуальнай прыметы: сумяшчаюць значэнне дзеяння, выражанага ўтваральным дзеясловам, са значэннем назоўніка як часціны мовы. Утваральныя — запазычаныя дзеясловы з суфіксам *-ырава- (-ірава-)*, які ў вытворных словах адсутнічае: *дубліраваць — дубляж, інструктаж, мантаж, масаж, пілатаж, сабатаж.*

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя, акрамя *л'*, чаргуюцца з цвёрдымі: *трэніраваць — трэнаж, сабаціраваць — сабатаж.*

Адасоблена паводле структуры слова *продаж* (ад *прадаць*), у якім можна вылучыць як суфікс *-аж* (з накладаннем фарманта на галосную ўтваральнай асновы), так і суфікс *-ж*. Адрозніваецца яно і націскам і ўтворана ад незапазычанага дзеяслова.

Слова *фіксаж* мае прадметнае значэнне (рэчыва).

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, у астатніх — на флексіі.

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

А д н а з о ў н і к а в ы я назоўнікі складаюць тры тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем рэчыва ці сукупнасці прадметаў, якія ха-

рактарызуюцца адносінамі да з'явы, асобы, матэрыялу, названых утваральным словам: *сена — сянаж, кардон — карданаж* (вырабы з кардону), *трыкатаж, тыпаж, эстампаж, этыкетаж.*

Перад суфіксам ва ўтваральнай аснове адсякаецца фіналь *-к-* (*этыкетка — этыкетаж*); адбываецца нарашчэнне асновы на галосную за кошт зычнай *т: трыко — трыкатаж.*

Націск нязменны на суфіксе, а ў словах *сянаж* і *тыпаж* — у пачатковай форме на суфіксе, а ва ўскосных склонах — на флексіі.

Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі.

2. Назоўнікі са значэннем занятку асобы, названай утваральным назоўнікам: *арбітр — арбітраж, бракёр — бракераж, падхалімаж шпіянаж.*

Націск нязменны на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

3. Назоўнікі са значэннем абстрактнай прыметы, у аснове якой ляжыць паняцце адзінкі вымярэння, названай утваральным словам: *кіламетр — кіламетраж, лістаж, літраж, танаж.* Адасоблена слова *персанаж* (ад *персона*).

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, у астатніх — на флексіі.

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжнай мове (тэрміналогія).

§ 353. Суфікс *-еж.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і абазначаюць дзеянне паводле ўтваральнага слова, сумяшчаючы яго са значэннем назоўніка як часціны мовы: *грабіць — грабеж, капеж, крадзеж, плацеж.*

Асобныя словы могуць набываць канкрэтна-прадметныя значэнні: *капеж:* 1) 'каплі дажджу або талага снегу, якія падаюць са стрэх'; 2)'ніжні край страхі, адкуль капае вада'; 3) 'месца падзення капель са стрэх'.

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, ва ўскосных склонах — на канчатку (*плацёж, плацяжў*).

Перад суфіксам фінальная галосная асновы інфінітыва адсякаецца: *капаць — капеж.*

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове (*лупеж, валеж*).

§ 354. Суфікс *-ёж.* З гэтым суфіксам у літаратурнай мове вядомы асобныя словы, якія не складаюць аднаго словаўтваральнага тыпу: *чарцёж (чарціць), карцёж (карты).*

## Суфіксы са структурным элементам *-з-*

§ 355. Суфікс *-ізм (-анізм).* Назоўнікі з суфіксам *-ізм* (у асобных словах на *-сія, -цыя* суфікс *-анізм*) утвараюцца ад дзеясловаў, назоўнікаў і прыметнікаў.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць ідэйныя і палітычныя кірункі, схільнасці паводле дзеяння, названага ўтваральным словам: *адазваць (адзавуць) — адзавізм, прызямляцца (перан.) — прызямлізм, ухіліцца — ухілізм.*

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

Адназоўнікавыя назоўнікі абазначаюць навуковыя і грамадска-палітычныя кірункі, сістэмы, а таксама якасці і схільнасці, звязаныя з дзеяннем, названым утваральным словам. З улікам семантыкі і характару ўтваральных слоў вылучаецца тры семантычныя тыпы.

1. Назоўнікі, утвораныя ад уласных назоўнікаў (прозвішчаў); яны абазначаюць навуковыя і палітычныя кірункі і сістэмы: *Дарвін — дарвінізм, Ленін — ленінізм, Маркс — марксізм, Троцкі — трацкізм.*

2. Назоўнікі, утвораныя ад агульных назоўнікаў — назваў асоб; яны абазначаюць якасці, схільнасці, кірункі, сістэмы, прадстаўніком якіх з'яўляецца названая асоба: *артыст — артыстызм, аскетызм, бандытызм, гераізм, лібералізм, паразітызм, феадалізм, царызм.*

3. Назоўнікі, утвораныя ад неадушаўлёных назоўнікаў — назваў прадметаў, з'яў; яны абазначаюць схільнасці, захворванні, а таксама кірункі і сістэмы, сферу дзейнасці паводле таго, што названа ўтваральным словам: *тэрарызм, алкагалізм, сімвалізм, рэваншызм, цэнтрызм.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя (акрамя *д, т*) чаргуюцца з мяккімі: *сімвал — сімвалізм,* а таксама *к — ц: скептык — скептыцызм.* Адсякаюцца фіналі ўтваральных асноў: *-ік (бальшавік — бальшавізм), -ар (кансерватар — кансерватызм).* У асобных словах на *-сія, -цыя* выступае нарошчаны суфікс *-анізм (абстракцы(ja) — абстракцыянізм, экспансія — экспансіянізм).*

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў кніжнай мове.

А д п р ы м е т н і к а в ы я назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем 'элемент мовы як носьбіт прыметы, названай утваральным словам': *аказіянальны — аказіяналізм, архаізм, беларусізм, бытавізм, вульгарызм, гістарызм, лацінізм.*

2. Назоўнікі, якія называюць грамадска-палітычныя, навуковыя і эстэтычныя катэгорыі, сістэмы, якасці, схільнасці, якім уласціва прымета, названая ўтваральным словам: *бытавы — бытавізм, гуманізм, ідэалізм, лірызм, рэалізм.*

Некаторыя ўтварэнні выступаюць як сінонімы словазлучэнняў назоўнікаў з утваральным прыметнікам: *дыялектызм — дыялектнае слова, абсалютызм — абсалютная манархія.*

Пры ўтварэнні гэтых назоўнікаў адсякаюцца канцавыя часткі ўтваральных асноў: *-к- (беларускі — беларусізм), -н- (вульгарны — вульгарызм), -ск- (канцылярскі — канцылярызм), -ічн- (-ычн-) (гістарычны — гістарызм), -істычн- (ідэалістычны — ідэалізм).*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя (акрамя *д, т*) чаргуюцца з мяккімі: *рускі — русізм, германскі — германізм,* а л е *савецкі* (з *савецкі*) *— саветызм, абсалютызм.*

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў навуковай і грамадска-палітычнай тэрміналогіі.

## Суфіксы са структурным элементам *-й-*

§ 356. Суфікс *-ай.* З гэтым суфіксам вядомы асобныя словы, утвораныя ад д з е я с л о в а ў: *звычай (звыкацца, звыкаць, звыкнуць), ураджай (урадзіць), аратай (араць);* ад н а з о ў н і к а ў: *малачай (малако).*

Слова *аратай* можа разглядацца і як дублетнае ўтварэнне ад *араты.*

Перад суфіксам чаргуюцца *к—ч, дз—дж, ц'—т.*

Націск на суфіксе або на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

§ 357. Суфікс *-ей.* З гэтым суфіксам ад прыметнікаў утвораны словы, якія называюць асоб паводле ўласцівай ім прыметы: *багацей, кашчэй.* Назоўнік *грамацей* утвораны ад *грамата* 'ўменне чытаць і пісаць'. Перад суфіксам фіналь *-ав-* адсякаецца: *кашчавы — кашчэй.*

Чаргуюцца *т—ц': багаты — багацей.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 358. Суфікс -*ак*(-*як*). Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў, дзеясловаў і займеннікаў.

Адназоўнікавыя назоўнікі складаюць тры тыпы.

1. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем 'асоба мужчынскага полу', 'самец жывёлы, птушкі'. Утваральнымі выступаюць адпаведныя назвы асоб жаночага полу, самак жывёл (птушак): *ведзьма — вядзьмак, гусь — гусак.*

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія абазначаюць асоб па мясцовасці: *Сібір — сібірак, прусак, пярмяк, туляк.*

Тып непрадуктыўны.

3. Назоўнікі, якія абазначаюць асоб па аб'екту іх дзейнасці, занятку і інш.: *мора — марак, рыбак, дружбак.*

Тып малапрадуктыўны.

4. Назоўнікі, якія абазначаюць назвы прадметаў, рэчыва па іх адносінах да таго, што названа ўтваральным словам: *вецер — вятрак, вапняк, смаляк, мядзяк.*

Тып малапрадуктыўны.

Перад суфіксам чаргуюцца *л—л': Тула — туляк.*

Адсякаюцца фіналі: -*ij*- (*Прусія — прусак*), -*шч*- (*Польшча — паляк*), -*цыj*- (*Турцыя — турак*).

Ва ўсіх тыпах націск у пачатковай форме на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку, але *паля́к, паля́ка*, у асобных словах на корані (*ту́рак*).

Адпрыметнікавыя назоўнікі абазначаюць асоб, прадметы, рэчыва, для якіх характэрна прымета, названая ўтваральным словам: *бедны — бядняк, дабрак, дзівак, прастак* (і *прасцяк*), *сляпак, халасцяк, чужак; гніляк, кругляк, праснак, паражняк, таварняк.* Асобныя словы выступаюць сінонімамі да адэкватных словазлучэнняў назоўніка з прыметнікам: *таварняк — таварны поезд, брушняк — брушны тыф.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя (акрамя губных) чаргуюцца з мяккімі: *круглы — кругляк, халасты — халасцяк, чорны — чарняк.*

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, у астатніх — на канчатку.

Тып малапрадуктыўны.

Адлічэбнікавыя назоўнікі абазначаюць прадметы па іх колькаснай прымеце; утваральнымі выступаюць парадкавыя (зрэдку — зборныя) лічэбнікі: *першы — пяршак, трацяк* і *траяк, чацвяртак, пятак, шастак, сямак, васьмак, дзесятак.*

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, ва ўскосных склонах — на канчатку, але *дзеся́так, дзеся́тка.*

Тып непрадуктыўны.

Аддзеяслоўныя назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі з прадметным значэннем. Яны абазначаюць: прадметы, прызначаныя для дзеяння, названага ўтваральным словам (*дзяржаць — дзяржак, ляжак, разак, чарпак*), або прадметы — суб'екты дзеяння (*стаяк*), асоб — выканаўцаў дзеяння (*вазак, спявак*), прадметы (адушаўлёныя і неадушаўлёныя) як вынік адпаведнага дзеяння (*вырадак, пераростак, абломак, здымак, скрутак*).

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, ва ўскосных склонах — на флексіі.

Тып прадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем працэсуальнай прыметы: *абавязак, заробак, перапынак, прытулак, упадак, учынак.*

Націск нязменны на перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

Ад займенніка з дапамогай суфікса *-ак* утвораны назоўнік *сваяк (свај-ак)*.

§ 359. Суфікс *-нак*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і складаюць два непрадуктыўныя тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы; яны абазначаюць дзеянне паводле ўтваральнага дзеяслова, сумяшчаючы гэта значэнне са значэннем назоўніка як часціны мовы: *кіраваць — кірунак, пацалунак, разрахунак, рахунак, світанак.* Часам такія назоўнікі могуць набываць пераносныя значэнні: *кірунак* 'шлях развіцця, накіраванасць якога-н. дзеяння, з'явы і інш.'

2. Назоўнікі з канкрэтна-прадметным значэннем; яны не маюць значэння дзеяння, а абазначаюць прадметы як аб'ект ці вынік адпаведнага дзеяння: *дарыць — дарунак, ладунак, ласунак, малюнак, пакунак.*

Перад суфіксам чаргуюцца *ав—у: падараваць — падару(ју) — падарунак.*

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца, а л е *світанак, адпачы-нак.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

§ 360. Суфікс *-няк*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў і назоўнікаў.

А д п р ы м е т н і к а в ы я назоўнікі абазначаюць зборныя паняцці паводле прыметы, названай утваральным словам: *малады — маладняк, сушняк.*

У працэсе ўтварэння чаргуюцца зычныя *х' — ш: сухі — сушняк.*

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, ва ўскосных склонах — на канчатку.

Тып непрадуктыўны.

А д н а з о ў н і к а в ы я назоўнікі абазначаюць сукупнасць аднолькавых дрэў, раслін, названых утваральным словам: *бяроза — беразняк, вішняк, вярбняк, дубняк, лазняк, ліпняк.* У слове *вішняк* — накладанне фарманта *-няк* на каранёвы *н.*

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, ва ўскосных склонах — на канчатку.

Тып малапрадуктыўны.

§ 361. Суфікс *-чак.*

А д п р ы м е т н і к а в ы я назоўнікі з суфіксам *-чак* абазначаюць асоб паводле ўласцівай ім прыметы, якая названа ўтваральным словам: *вясёлы — весяльчак, смяльчак.* Чаргуюцца *л—л'.*

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, ва ўскосных склонах — на флексіі.

Тып непрадуктыўны.

§ 362. Суфікс *-ік.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў, прыметнікаў, лічэбнікаў і назоўнікаў.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі абазначаюць асоб і прадметы паводле дзеяння, названага ўтваральным словам: *ныць — ныцік, вабіць — вабік, каласаваць — каласавік (грыб), пішчаць — пішчык, лапіць — лапік, помніць — помнік, красаваць — красавік.* У слове *ныцік* утваральнай выступае форма інфінітыва цалкам.

Фінальная галосная ўтваральнай асновы перад суфіксам адсякаецца: *каласаваць — каласавік, пішчаць — пішчык.*

Парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *красаваць — красавік.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып мае некаторую прадуктыўнасць у гутарковай мове.

А д п р ы м е т н і к а в ы я назоўнікі абазначаюць канкрэтныя прадметы, з'явы, прастору, асоб як носьбітаў прыметы, названай утваральным словам: *махавы — махавік, паравік, дажджавік, рыжык, ранішнік* (ранішні мароз), *канаплянік, маркоўнік, вачнік, вушнік, дарожнік, кадравік, чыгуначнік.* Нярэдка ўтваральнай базай для назоўнікаў гэтага тыпу выступае сінанімічнае ці несінанімічнае словазлучэнне назоўніка з адпаведным прыметнікам: *дажджавы чарвяк — дажджавік, баравы грыб — баравік, бульбянае бацвінне — бульбянік, завочнае навучанне — завочнік.*

Зыходнымі выступаюць прыметнікі, утвораныя амаль усімі спосабамі словаўтварэння, з дапамогай розных суфіксаў (*-ав-, -ат-, -аст-, -н-* і інш.).

Націск нязменны на аснове (як ва ўтваральных словах) або зменны: у пачатковай форме — на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку (*газавік, -á, франтавік, -á*).

Тып высокапрадуктыўны, асабліва ў гутарковай мове.

А д л і ч э б н і к а в ы я назоўнікі абазначаюць прадметы, якія характарызуюцца колькасцю, названай утваральным словам — зборным лічэбнікам. Гэта назвы запрэжак з адпаведнай колькасцю коней ці мер вагі, аб'ёму і г. д. на адпаведную колькасць адзінак, а таксама прадметаў, якія складаюцца з колькасці частак, названых утваральным словам: *чацвёра — чацвярык, пяцярык, шасцярык, семярык, васьмярык* (усе — *уст.*).

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

А д н а з о ў н і к а в ы я назоўнікі называюць асоб па іх адносінах да таго, што абазначана ўтваральным словам: а) па адносінах да хваробы (*гіпертанія — гіпертонік, лунацік, падагрык, паралітык, рэўматык*); па адносінах да жанру літаратуры, мастацтва (*камедыя — комік, празаік, сатырык, трагік*); в) па прыналежнасці да мастацкага або ідэалагічнага кірунку (*рамантызм — рамантык, прагматык*); г) па схільнасцях характару, думак (*скептызм — скептык, фанатык, цынік*); д) па адносінах да галіны навукі, спецыяльнасці (*гісторыя — гісторык, хімік*). Базавымі для іх выступаюць у асноўным запазычаныя назоўнікі на *-ыя (-ія), -ызм (-ізм), -едыя, -ас* і інш., у вытворных словах гэтыя фіналі адсутнічаюць.

З а ў в а г а. Словы тыпу *батанік, крытык, матэматык, палітык* утвораны нульсуфіксальным спосабам, як і іншыя назвы асоб па спецыяльнасці: *анатомія—анатам, арнітолаг, артапед, астролаг, філолаг.*

Перад суфіксам чаргуюцца: *с'—т (ерась — ерэтык); з—т (склероз—склеротык); ч—т (параліч — паралітык)*, часам адбываецца нарашчэнне асновы: *астма — астматык.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны ў кніжнай мове.

§ 363. Суфікс *-нік*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў, прыметнікаў (дзеепрыметнікаў), назоўнікаў і лічэбнікаў.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі абазначаюць асобу ці прадмет, якія выконваюць дзеянне ці прызначаны для яго ажыццяўлення: *будаваць—будаўнік, жартаўнік, заступнік, кіраўнік; адборнік, адстойнік, акучнік, выпарнік, паглыбнік, разменнік.*

Націск на суфіксе або на корані.

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *паглыбіць — паглыбнік.*

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі.

Адпрыметнікавыя (аддзеепрыметнікавыя) назоўнікі абазначаюць прадметы — носьбіты прыметы, названай утваральным словам: *альховы — альхоўнік, гербоўнік, кедроўнік, маркоўнік, тутаўнік;* паводле працэсуальнай прыметы: *абраны — абраннік, выгнаннік.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных слсвах.

Тып малапрадуктыўны.

Адназоўнікавыя назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем сукупнасці аднародных дрэў, кустоў і раслін, названых утваральным словам: *алешына — алешнік, арэшнік, бярэзнік, ельнік, ракітнік, хвойнік; ажыннік, маліннік, бруснічнік, чарнічнік.* Сюды адносяцца і назоўнікі, якія абазначаюць сукупнасць сцяблоў раслін: *бурачнік, гарбузнік.*

Перад суфіксам чаргуюцца *ц — ч, к — ч: клубніцы — клубнічнік, бурак — бурачнік.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія называюць: а) асоб па іх адносінах да таго, што абазначана ўтваральным словам: *абутак — абутнік, грыбнік, дворнік дружыннік, лыжнік, разраднік;* б) памяшканні, ёмістасці, прызначаныя для таго, што названа ўтваральным словам: *авечка — авечнік, багажнік, кароўнік, качарэжнік, патроннік, салатнік, чайнік.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны.

Адлічэбнікавыя назоўнікі абазначаюць асоб ці прадметы, якія характарызуюцца прыметай па колькасці, названай утваральным словам — колькасным ці парадкавым лічэбнікам: *дзесяты — дзесятнік, семідзесятнік, сотнік* (ад *сто,* Р. скл. *сот*), *трыццацітысячнік.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып малапрадуктыўны.

§ 364. Суфікс *-льнік.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў. Яны абазначаюць асоб па дзеянню, названаму ўтваральным словам: *апавядаць — апавядальнік, выхавальнік, збіральнік, кідальнік, парушальнік, прадаўжальнік, стваральнік, сумяшчальнік, утаймавальнік, утрымальнік, шукальнік;* прадметы, прылады, рэчывы, прызначаныя для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам: *акісляць — акісляльнік, будзільнік, выключальнік, вымяральнік, выпаральнік, знішчальнік, маразільнік, паглынальнік, паскаральнік, разрыхляльнік, растваральнік, халадзільнік* і інш. Некаторыя назоўнікі суадносяцца як з дзеясловамі, так і з прыметнікамі ў складзе сінанімічнага словазлучэння: *ахаладжальнік — ахаладзіць* і *ахаладжальны апарат, арашальнік — арашаць* і *арашальны апарат, ачышчальнік — ачышчаць* і *ачышчальны апарат.* У апошнім выпадку такія назоўнікі на *-льнік* могуць разглядацца як утварэнні з суфіксам *-ік* (*ахаладжальн-ік*). Перад *-льнік* фінальная галосная інфінітыўнай асновы захоўваецца (*будзі-льнік*).

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып высокапрадуктыўны.

§ 365. Суфікс *-оўнік/-эўнік.* Назоўнікі з гэтымі суфіксамі ўтвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя назоўнікі абазначаюць: а) сукупнасць дрэў, кустоў, раслін ці асобныя прадметы па іх падабенству да таго, што названа ўтваральным словам: *ляшчына — ляшчэўнік* (з адсячэннем *-ын-*), *куст — кустоўнік, бульба — бульбоўнік, дзяды — дзядоўнік, піхтоўнік, герб — гербоўнік;* б) асоб паводле іх занятку, прафесіі і інш.: *бабёр — баброўнік, сад — садоўнік.*

Словы на *-оўнік* звычайна ўтвараюцца ад прыметнікаў на *-овы (-авы): бабовы — бабоўнік, макоўнік, палкавы* (камандзір) — *палкоўнік.*

Націск на суфіксе.

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 366. Суфікс *-атнік (-ятнік).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назваў жывёлін (птушак) і абазначаюць памяшканне, гадавальнік, прыстасаванне для жывёл (птушак), названых утваральным словам: *гусь — гусятнік, куратнік, лісятнік, маржатнік;* асоб ці жывёл (птушак) паводле аб'екта іх дзеяння: *ваўчатнік* (чалавек), *выжлятнік* (чалавек і сабака), *галубятнік* (чалавек і ястраб, сокал).

Слова *цялятнік* утворана з дапамогай суфікса *-нік* ад формы множнага ліку *цяляты.* Параўн. з гэтым жа суфіксам *мядзведнік* ('памяшканне для мядзведзяў у звярынцы або заалагічным садзе', 'чалавек, які палюе на мядзведзяў', 'павадыр дрэсіраванага мядзведзя').

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *голуб — галубятнік;* заднеязычныя з шыпячымі: воўк — ваўчатнік.

Націск на суфіксе (першым яго складзе).

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове: *казятнік* (Я. Сіпакоў).

§ 367. Суфікс *-чык/-шчык.* Назоўнікі з суфіксам *-чык* (пасля асноў на *д, т*), *-шчык* (пасля іншых зычных) утвораны ад назоўнікаў, дзеясловаў і прыметнікаў.

АднаЗоўнікавыя назоўнікі абазначаюць асоб паводле іх адносін да прадметаў і з'яў, названых утваральным словам: *апарат — апаратчык, арматуршчык, барабаншчык, броваршчык, вугальшчык, газетчык, зенітчык, канатчык, падводчык, пайшчык, паромшчык, пракатчык, ракетчык, табуншчык, трафарэтчык, тэкстыльшчык, фасоўшчык, экскаватаршчык.*

Утваральныя — назоўнікі невытворныя і суфіксальныя.

Перад суфіксам фіналі *-ак, -к* адсякаюцца: *фуганак — фуганшчык, зенітка — зенітчык.*

Націск звычайна на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць асобу ці прадметы, паводле дзеяння, названага ўтваральным словам: *аб'язджаць — аб'ездчык, адпраўшчык, выкладчык, даглядчык, зваршчык, змазчык, наводчык, наладчык, перавозчык, перакладчык, перакупшчык, перапісчык, разносчык, рэгуліроўшчык, рэзчык.* Некаторыя назоўнікі сумяшчаюць значэнне асобы і прадмета: *бамбардзіроўшчык, перадатчык, разліўшчык.*

Рад слоў адначасова суадносіцца і з дзеясловамі, і з назоўнікамі з суфіксамі *-к(а), -ч(а),* утворанымі ад дзеясловаў: *наладчык — наладзіць* і *наладка, зваршчык — зварыць* і *зварка, здабытчык — здабыць* і *здабыча.*

Пры ўтварэнні адсякаецца фінальная галосная інфінітыўнай асновы, а таксама *-ва-: даглядаць — даглядчык, перапісваць — перапісчык.*

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *разносіць — разносчык; дж — д: наладжваць — наладчык.*

Націск на перадсуфіксальным складзе, але *бунтаўшчык, пастаўшчык, выбаршчык.*

Тып прадуктыўны.

Адпрыметнікавыя назоўнікі абазначаюць асоб паводле іх адносін да прыметы, названай утваральным словам, ці прадмета, названага словазлучэннем, у склад якога ўваходзіць утваральны прыметнік: *па-*

*дзённы — падзёншчык, інструментальны — інструментальшчык, атамная бомба — атамшчык, камвольная фабрыка — камвольшчык.* Утваральнымі выступаюць прыметнікі з суфіксамі *-ав-*, *-н-*: *кубавы — кубаўшчык, вагавы — вагаўшчык, падзённы — падзёншчык.*

Фіналь утваральнай асновы *-н-* перад суфіксам *-чык/-шчык* адсякаецца: *ананімны — ананімшчык.*

Націск звычайна на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны ў тэрміналогіі.

§ 368. Суфікс *-льшчык.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў. Яны абазначаюць асоб — выканаўцаў дзеяння, названага ўтваральным словам: *баранаваць — баранавальшчык, бурыльшчык, вязальшчык, драбільшчык, лудзільшчык, насільшчык, свідравальшчык, церабільшчык, цыравальшчык, шліфавальшчык, шыфравальшчык.*

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы захоўваецца: *насіць — насільшчык, шліфаваць — шліфавальшчык.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 369. Суфікс *-ок.* Назоўнікі з суфіксам *-ок* (не пад націскам *-ак*), звычайна з беглым галосным, утвараюцца ад дзеясловаў і прыметнікаў.

Аддзеяслоўныя назоўнікі складаюць тры тыпы.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць асобу — утваральніка дзеяння: *іграць — ігрок, стралок, хадок, яздок;* прылады, прадметы — носьбіты працэсуальнай прыметы; месца, прызначанае для выканання адпаведнага дзеяння: *расці — расток, свісток, каток.*

Перад суфіксам фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца, у аднаскладовых асновах на галосную ў якасці ўтваральнай выступае ўся форма інфінітыва: *знаць — знаток.* Утваральнай можа выступаць і аснова цяперашняга або будучага часу: *есці — ядуць — ядок, сесці — сядуць — сядок.*

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *страляць — стралок.*

Націск у назоўніках на *-ок* у пачатковай форме на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку, у назоўніках на *-ак* — на перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем аб'екта або выніку дзеяння, названага ўтваральным словам: *абрубіць — абрубак, адбітак, адрэзак, віток, вывадак, дадатак, завіток, заробак, згустак, здабытак, злепак, злітак, набытак, перажытак, прыдатак;* некаторыя назоўнікі абазначаюць асоб: *вырадак, неданосак, недаростак, пераростак;* жывёл: *адкормак, падранак (паляўн.);* месца: *выселак, пасёлак.*

Перад суфіксам мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *зляпіць — злепак, набыць — набытак.*

Націск на аснове, у назоўніках з суфіксам *-ок* — на суфіксе (*віток, завіток, маток*).

Тып прадуктыўны ў гутарковым стылі.

3. Назоўнікі, якія абазначаюць асобны акт дзеяння, названага ўтваральным дзеясловам: *глытаць — глыток, ківок, мазок, рывок, скачок, штуршок.* Некаторыя назоўнікі гэтага тыпу паралельна абазначаюць прыладу дзеяння (*гудок, званок, свісток*) ці яго вынік (*плявок, маток*).

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *званіць — званок;* заднеязычныя — з шыпячымі: *скакаць — скачок, штурхаць — штуршок.*

15. Зак. 1161

Націск у пачатковай форме на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку (*скачок, -чка́*).

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.

Адпрыметнікавыя назоўнікі з суфіксам *-ок* называюць прадметы паводле характэрнай прыметы, абазначанай утваральным словам: *белы — бялок, жоўты — жаўток, малы — малёк, валены — валёнак.*

Тып непрадуктыўны.

§ 370. Суфікс *-чук*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем 'сын таго, хто названы ўтваральным словам': *каваль — кавальчук, пісарчук, слесарчук, цыганчук.*

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія абазначаюць асоб па месцу жыхарства: *Мінск — мінчук, Пінск — пінчук, Мазыр — мазырчук.*

Перад суфіксам фіналь утваральнай асновы *-ск* адсякаецца.

Націск у назоўным склоне — на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку.

Тып непрадуктыўны.

### Суфіксы са структурным элементам *-л-*

§ 371. Суфікс *-аль*. Назоўнікі з суфіксам *-аль* утвараюцца ад дзеясловаў, прыметнікаў і назоўнікаў.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць асоб паводле дзеяння, названага ўтваральным словам: *каваць — каваль, стругаль (разм.), стрыгаль (разм.), пэцкаль.*

У працэсе ўтварэння фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца.

Націск у пачатковай форме на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку.

Тып непрадуктыўны.

Адпрыметнікавыя назоўнікі абазначаюць асоб і жывёл паводле знешняй прыметы, названай утваральным словам; утваральнымі выступаюць вытворныя прыметнікі з суфіксам *-ат* (перад *-аль* ён адсякаецца): *брухаты — бругаль, насаль, рагаль.* Утварэнні суадносяцца таксама з назоўнікамі: *нос — насаль, рогі — рагаль.*

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, ва ўскосных склонах — на канчатку *(брухáль, -ля́)*.

Тып малапрадуктыўны.

Ад назоўнікаў утвораны адзінкавыя словы: *гонта — ганталь, рогі — рагаль* (і ад *рагаты*, гл. вышэй).

§ 372. Суфікс *-іл-а*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў; яны называюць асоб — носьбітаў прыметы, абазначанай утваральным словам: *здаровы — здаравіла, дурны — дурніла.* Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 373. Суфікс *-цель*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і абазначаюць асоб паводле іх дзейнасці, а таксама прылады дзеяння: *вызваляць — вызваліцель, выхавацель, крыўдзіцель, натхніцель, пакарыцель, правіцель, прымірыцель; аднавіцель, глушыцель, праявіцель.* Большасць назоўнікаў з гэтым суфіксам — запазычанні з рускай мовы.

Націск на перадапошнім складзе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 374. Суфікс *-ень (-ань)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя ўтварэнні з'яўляюцца назвамі прадметаў, якія характарызуюцца адносінамі да таго, што абазначана ўтваральным словам (гэта ў асноўным назвы месяцаў): *верас — верасень, жнівень, ліпень, снежань, чэрвень;* назвамі насякомых, рыб, хвароб: *галава — галавень, валасень.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *ліпа — ліпень;* заднеязычныя — з шыпячымі: *снег — снежань.*

Націск на корані, але *галавéнь.*

Тып непрадуктыўны.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць асоб паводле іх дзеяння: *зводзіць — зводзень, баламуцень, вучань, лежань, прыхадзень;* прадметы, з'явы як вынік дзеяння, названага ўтваральным словам: *выпаўзаць — выпаўзень, збіцень, заверцень, кіпень, кіпяцень, плавень, пролежань, апоўзень.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *выкапаць — выкапень.*

Націск на корані, зрэдку — на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове і навуковай тэрміналогіі.

§ 375. Суфікс *-ан (-ян)*. Назоўнікі з суфіксам *-ан (-ян-)* утвараюцца ад назоўнікаў, дзеясловаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць асоб са схільнасцямі да таго, што названа ўтваральным словам: *інтрыга — інтрыган, крыкан, палітыкан;* жывых істот па інтэнсіўнай цялеснай прымеце: *губы — губан, лабан, пузан.* Словы гэтага тыпу суадносяцца таксама з прыметнікамі: *гарласты — гарлан, крылаты — крылан.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць асобу або прадмет як суб'ект ці вынік дзеяння: *грубіць — грубіян, лузаць — лузан, стаяць — стаян.*

Тып непрадуктыўны.

Адпрыметнікавыя назоўнікі абазначаюць асоб і прадметы па інтэнсіўнай прымеце, названай утваральным словам: *буйны — буян, вялікі — велікан.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 376. Суфікс *-ант/-ент*. Назоўнікі з суфіксам *-ант/-ент (-янт/-энт)* утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя ўтварэнні з суфіксам *-ант* абазначаюць асоб паводле аб'екта іх дзейнасці або заняткаў: *акупацыя — акупант, дыверсант, дыспутант, дэбютант, камедыянт, практыкант, дысертант;* удзельнікаў таго, што названа ўтваральным словам: *дуэль — дуэлянт, канцэртант, экскурсант;* членаў калектыву: *аркестр — аркестрант, карпарант, сектант;* асоб паводле месца працы або вучобы: *курсы — курсант, лабарант.*

Утварэнне часткі назоўнікаў суправаджаецца адпадзеннем кампанентаў утваральнай асновы: *-ij (а)* *(экскурсія — экскурсант)*, *-ацыj (а)* *(акупацыя — акупант)*, *-аторыj (а)* *(лабараторыя — лабарант)*.

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі, за выключэннем *л: дыверсія — дыверсант, экскурсія — экскурсант,* але *дуэль — дуэлянт,* а таксама *ц—с: камерцыя — камерсант.*

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай тэрміналогіі.

Аддзеяслоўныя назоўнікі з суфіксамі *-ент (-энт)*, *-ант* абазначаюць асоб паводле дзеяння, названага ўтваральным словам: *адрасаваць — адрасант, апанент, кансультант, рэцэнзент, эмігрант*, а таксама прадметы і паняцці паводле працэсуальнай прыметы: *рэпрэзентаваць — рэпрэзентант, экспанаваць — экспанент* (назва асобы і ўстановы).

Перад суфіксамі адсякаюцца фіналі ўтваральных асноў: *-ірава- (абаніраваць — абанент), -ава- (прэтэндаваць — прэтэндэнт).*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 377. Суфікс *-ін (-ын)*. Назоўнікі з суфіксам *-ін (-ын)* утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Адзінкавыя адназоўнікавыя ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назвы жыхароў пэўнай краіны або прадстаўнікоў народа, названага ўтваральным словам: *Асеція — асецін, Грузія — грузін, Мардовія — мардвін.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

2. Назвы рэчываў, матэрыялаў: *ваніль — ванілін, радыкулін, сульфідзін, трамбін, туберкулін, вацін* і інш.

Пры ўтварэнні гэтых назоўнікаў ва ўтваральных асновах адсякаюцца канцавыя часткі: *-іт (радыкуліт — радыкулін), -ёз (туберкулёз — туберкулін).*

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

Адпрыметнікавыя назоўнікі з суфіксам *-ін* абазначаюць рэчывы паводле той прыметы, якая названа ўтваральным словам. Ва ўтваральнай аснове адсякаюцца канцавыя часткі *-ычн- (ахраматычны — ахрамацін, наркатычны — наркацін); -н- (стэрыльны — стэрылін).*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжнай мове.

§ 378. Суфікс *-ун*. Гэты суфікс утварае назоўнікі ад назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць асоб паводле пэўных адзнак і ўласцівасцей: *лес — лясун (разм.), пласт — пластун (ваен.), смех — смяхун, стоўб — стаўбун.*

Націск у пачатковай форме на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку *(стаўбу́н, -на́).*

Тып непрадуктыўны.

Адпрыметнікавыя назоўнікі абазначаюць асоб па характэрных для іх прыметах: *вясёлы — весялун, гладун, дзікун, ласун, прыгажун, слабун, сляпун, таўстун, хітрун.*

Націск у пачатковай форме на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку.

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць асоб паводле іх дзеяння або схільнасці да адпаведнага дзеяння: *балбатаць — балбатун, ілгун, капун, крыкун, лятун, свістун, фарсун, шаптун, шчабятун;* жывёл паводле характэрных для іх дзеянняў або стану: *грызці — грызун, паўзун, сысун, уюн, цвыркун;* прадметы і з'явы паводле іх уласцівасцей і прызначэння: *боўтаць — баўтун* (яйка), *зыбун, калун, плывун, шатун.*

Перад суфіксам фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца: *скакаць — скакун.* Утваральнай можа выступаць аснова цяперашняга часу *(плыць — плывуць — плывун, уецца — уюн).*

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *весяліць — весялун, фарсіць — фарсун;* шыпячыя — з заднеязычнымі: *дрыжэць — дрыгун, крычаць — крыкун; шч — ск: пішчаць — піскун; ў—в: раўці — равун.*

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.

§ 379. Суфіксы *-ан-ін (-ян-ін), -чан-ін.* Назоўнікі з суфіксамі *-ан-ін, -чан-ін* утвараюцца ад агульных і ўласных назоўнікаў. Звычайна яны абазначаюць жыхароў альбо ўраджэнцаў той ці іншай краіны, планеты, горада: *Англія — англічанін, Данія — датчанін, Зямля — зямлянін, Марс — марсіянін, Бабруйск — бабруйчанін, Барысаў — барысаўчанін, Гомель — гамяльчанін, Капыль — капылянін, Кіеў — кіяўлянін, Мазыр — мазыранін, Мінск — мінчанін, Парыж — парыжанін.*

Адзінкавыя ўтварэнні складаюць назоўнікі са значэннем 'член калектыву, групоўкі': *завод — завадчанін, катаржанін, прыхаджанін;* 'паслядоўнік рэлігійнага вучэння, звязанага з асобай, названай утваральным словам': *Лютар — лютаранін, Магамет — магаметанін, Хрыстос — хрысціянін.*

Суфікс *-ан-ін (-ян-ін)* выступае пасля парных мяккіх і цвёрдых зычных (апрача заднеязычных), а таксама пасля шыпячых і *j*: *варкуцянін, варшавянін, малдаванін,* у тым ліку і пасля спалучэнняў зычных: *валжанін, зямлянін.*

Суфікс *-чан-ін* ужываецца пасля губных і пярэднеязычных, а таксама пасля *л', р, у, к, ч*: *бабруйчанін, віцябчанін, гамяльчанін, зараччанін, растаўчанін, мінчанін; -аўчанін* — пасля спалучэнняў зычных: *брастаўчанін, гаркаўчанін.*

У асобных словах вылучаюцца суфіксы *-іцянін, -ічанін, -іян-ін: пскавіцянін, англічанін, марсіянін.*

Утварэнне назоўнікаў гэтага тыпу суправаджаецца адсячэннем часткі асновы ўтваральнага слова: *-ск (Мінск — мінчанін), -ецк (Данецк — данчанін), -іj (а) (Малдавія — малдаванін), -j- (Памор'е — памаранін), -ак (Навагрудак — навагрудчанін).*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *сяло — селянін;* заднеязычныя — з шыпячымі *(Волга — валжанін);* губныя — з''губнымі+л'' *(Рым — рымлянін, Кіеў — кіяўлянін).*

Націск звычайна на суфіксе, а л е *афінянін, ры́млянін.*

Тып прадуктыўны пры ўтварэнні назоўнікаў ад тапанімічных назваў.

### Суфіксы са структурным элементам *-р-*

§ 380. Суфікс *-ар (-яр).* Назоўнікі з суфіксам *-ар (-яр)* утвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні звычайна з'яўляюцца назвамі асоб паводле аб'екта ці прадукта іх дзейнасці: *бочка — бачкар, бляхар, камінар, пчаляр, пясняр, разбяр, свінар, сталяр, шкляр;* а таксама паводле месца дзейнасці: *аптэка — аптэкар, бібліятэкар, карчмар, млынар, паштар;* асобна стаяць словы *камунар* і *юбіляр* (з адсячэннем ва ўтваральнай аснове *-ей).*

Перад суфіксам чаргуюцца *л—л', н'—н: пчала — пчаляр, свіння — свінар.*

У пачатковай форме націск на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку, а л е *кулінáр, -ра.* У назоўніках *аптэкар, бібліятэкар, вінаградар, картатэкар, кухар* націск на перадапошнім складзе.

Тып прадуктыўны.

А д п р ы м е т н і к а в ы я назоўнікі абазначаюць прадметы ці з'явы

як носьбіты прымет, названых утваральным словам: *сухі — сухар, гушчар, цяжар.*

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі, а таксама *ст — шч: глухі — глухар, густы — гушчар.* У пачатковай форме націск на суфіксе, ва ўскосных склонах — на флексіі, а л е *цяжа́р, -ру.*

Тып непрадуктыўны.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі звычайна абазначаюць асобу — утваральніка адпаведнага дзеяння: *гандляваць — гандляр, даяр, друкар, званар, змагар, лекар, пекар.*

Перад суфіксам фінальная галосная асновы інфінітыва і суфікс *-ва-* адсякаюцца: *даіць — даяр, друкаваць — друкар.* Парна-мяккія чаргуюцца з цвёрдымі: *званіць — званар,* а таксама *ч—к: лячыць — лекар, тачыць — токар.*

У пачатковай форме націск звычайна на суфіксе, ва ўскосных склонах — на флексіі, а л е *ле́кар, -ра, пе́кар, -ра, пісар, -ра.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 381. Суфіксы *-ер (-эр), -анер (-янер).* Назоўнікі з гэтымі суфіксамі ўтвараюцца ад н а з о ў н і к а ў, у тым ліку слоў *мільёны, мільярды* са значэннем 'мільённы (мільярдны) набытак'. Суфікс *-анер (-янер)* далучаецца да асноў на *-ij-, -цыj-* (фіналь *-j-* адсякаецца): *місія — місіянер, акцыя — акцыянер.* Утварэнні абазначаюць асоб па іх адносінах да прадмета, па прыналежнасці да пэўнай сацыяльнай групы, арганізацыі, установы, паводле характэрнага занятку, дзейнасці і інш.: *мільянер, мільярдэр, акцыянер, апазіцыянер, калекцыянер, канцэсіянер, касцюмер, легіянер, міліцыянер, місіянер, пенсіянер, рэакцыянер, рэвалюцыянер, селекцыянер.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *касцюм — касцюмер, легіён — легіянер.*

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 382. Суфіксы *-ор (-ар)/-ёр (-ер).* Назоўнікі з суфіксамі *-ор/-ёр,* не пад націскам *-ар/-ер* утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні звычайна абазначаюць асоб паводле аб'екта або сферы дзейнасці: *бокс — баксёр, візіцёр, рэманцёр;* па адносінах да мастацкага жанру: *архітэктура — архітэктар, літаратар, скульптар;* паводле прылады ці аб'екта дзеяння: *камбайн — камбайнер, білецёр, ліфцёр, мушкецёр, рэквізітар, рэцэптар;* па схільнасці да пэўнага прадмета ці з'явы: *дактрына — дактрынёр, руцінёр, фразёр;* па месцы дзейнасці: *кіёск — кіяскёр, шахцёр;* па прыналежнасці да ўстановы: *сенат — сенатар.* Акрамя таго, словы гэтага тыпу могуць абазначаць прылады паводле іх працэсуальнай прыметы ці адносін да прадмета або рэчыва: *кампрэс — кампрэсар, танкер, трынажор.*

Пры ўтварэнні назоўнікаў адсякаецца канцавая частка ўтваральнай асновы: *-ij- (кампрэсія — кампрэсар), -ур- (скульптура — скульптар).*

Перад суфіксам чаргуюцца *н—н': руціна — руцінёр; с' — с: агрэсія — агрэсар; з' — з: дыфузія — дыфузор.*

Націск пераважна на суфіксе, радзей — на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай тэрміналогіі.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі абазначаюць асобу — суб'екта дзеяння: *гравіраваць — гравёр, дырыжор, інструктар, кантралёр, крэдытор, панікёр, рэвізор, рэжысёр, суфлёр, танцор.*

Перад суфіксам адсякаюцца фінальныя часткі ўтваральнай асновы *-ірава-, -ава- (дырыжыраваць — дырыжор, суфліраваць — суфлёр, крэдытаваць — крэдытор).*

У некаторых утварэннях перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *карэкціраваць — карэктар.*

Націск на суфіксе, за выключэннем слоў на *-тар, -сар,* у якіх націск — на перадсуфіксальным складзе: *інспе́ктар, інстру́ктар, канве́ртар, карэ́ктар, рэда́ктар, рэпраду́ктар,* а таксама *бала́стар, тра́лер, трэ́нер, ста́ртэр (спарт.* і *тэхн.).*

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 383. Суфікс *-ір (-ыр).* Пры дапамозе гэтага суфікса назоўнікі ўтвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць асоб паводле іх занятку, становішча ў калектыве, пасады і інш.: *банк — банкір, брыгадзір, камандзір, канваір, касір, фуражыр.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *банк — банкір, брыгада — брыгадзір.*

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

Адпрыметнікавыя назоўнікі маюць суфікс *-ыр* і словаўтваральнае значэнне «прадмет — носьбіт прыметы’: *багаты — багатыр, пустыр.*

У пачатковай форме націск на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку.

Тып непрадуктыўны.

## Суфіксы са структурным элементам *-т-*

§ 384. Суфікс *-ат (-ят).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя ўтварэнні складаюць тры тыпы.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць грамадскую ці палітычную сістэму, пасаду, установу, што пэўным чынам звязаны з асобай, названай утваральным словам: *каліф — каліфат, султанат, эмірат; дэканат, рэктарат.*

Націск на суфіксе.

Тып мае прадуктыўнасць у грамадска-палітычнай тэрміналогіі.

2. Назоўнікі са значэннем асобы па яе адносінах да краіны, палітычнай групоўкі, прадмета, з’явы: *Азія — азіят, канфедэрат, уніят, стыпендыянт, акселерат.*

Перад суфіксам адсякаецца фіналь утваральнай асновы *-ацыj-: канфедэрацыя — канфедэрат, акселерацыя — акселерат.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

3. Назоўнікі са значэннем хімічных злучэнняў з элементам, які названы ўтваральным словам: *алюміній — алюмінат, карбанат, нітрат, сульфат, фасфат, хларат, храмат* і інш.

Перад суфіксам адсякаюцца фіналі ўтваральнай асновы *-ij-, -ар: алюміній — алюмінат, фосфар — фасфат.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у хімічнай тэрміналогіі.

Аддзеяслоўныя назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы: *бразгаць — бразгат, візгат, грукат, плёскат, скрыгат, стукат, трэскат, тупат, цокат* і інш.

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып мае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

2. Назоўнікі са значэннем прадмета як аб'екта ці выніку дзеяння: *адрасаваць — адрасат, дэлегат, атэстат, фальсіфікат, экспанат, кандэнсат, фільтрат, камбінат, сіндыкат, рэферат, атэстат, дублікат, трактат.*

Перад суфіксам адсякаюцца фіналі ўтваральнай асновы *-ірава-*, *-ава-* (*дубліраваць — дублікат, атэставаць — атэстат*).

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *пастуліраваць — пастулат.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 385. Суфіксы *-атар* (*-ятар*), *-тар.* Назоўнікі з гэтымі суфіксамі ўтвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні называюць асоб, прылады, механізмы, памяшканні па іх адносінах да таго, што абазначана ўтваральным словам. Сюды адносяцца назвы асоб па сферы ці аб'екту дзейнасці: *авіяцыя — авіятар, навігатар, імператар, лектар, плантатар;* прыбораў або прылад для ажыццяўлення дзеяння, названага ўтваральным словам: *інгаляцыя — інгалятар, культыватар, радыёлакатар, ратататар, рэактар, рэпрадуктар, экскаватар.*

Фіналі ўтваральных асноў *-ацыj-*, *-цыj-*, *-ыj-* адсякаюцца (*інгаляцыя — інгалятар, плантацыя — плантатар, імперыя — імператар*).

Націск на перадапошнім складзе.

Прадуктыўнасць у тэхнічнай тэрміналогіі набывае тып на *-атар*, утвораны ад назоўнікаў на *-цыя.*

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі маюць агульнае значэнне 'прадмет — утваральнік дзеяння ці прызначаны для яго ажыццяўлення'. Сюды адносяцца назвы асоб паводле іх дзейнасці: *арандаваць — арандатар, імправізатар, інфарматар, каланізатар, ліквідатар, схематызатар, тарыфікатар, экзаменатар, эксперыментатар, эксплуататар;* назвы механізмаў, прыбораў, прылад, прызначаных для ажыццяўлення дзеяння, названага ўтваральным словам: *акумуліраваць — акумулятар, вентылятар, вібратар, кандэнсатар, рэзанатар;* памяшканні: *ізалятар, акліматызатар.*

Перад суфіксам адсякаюцца фіналі ўтваральнай асновы *-ірава-*, *-ава-* (*рэстаўрыраваць — рэстаўратар, агітаваць — агітатар*).

Рад утварэнняў з суфіксам *-атар* мае суадноснасць як з назоўнікамі, так і з дзеясловамі: *каланізатар — каланізацыя* і *каланізаваць, вентылятар — вентыляцыя* і *вентыліраваць.*

Націск на першым складзе суфікса.

Тып набывае прадуктыўнасць у навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 386. Суфікс *-іт* (*-ыт*). Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў н а з о ў н і к а ўтвараюцца назоўнікі, якія складаюць тры тыпы.

1. Назвы мінералаў, рэчываў, сплаваў, адным з важных кампанентаў якіх з'яўляюцца мінералы і рэчывы, названыя ўтваральным словам: *азбест — азбестыт, бетаніт, вальфраміт, кварцыт, фасфарыт, храміт;* назвы мінералаў і сплаваў паводле падабенства па форме, колеру да іншых мінералаў і рэчываў: *гранула — грануліт, лазурыт, магнетыт;* паводле месцазнаходжання ці месца здабычы: *Байкал — байкаліт, Балхаш — балхашыт, Жыгулі — жыгуліт, Керч — керчаніт, Хібіны — хібініт;* назвы, звязаныя з асабовым уласным імем: *Вераб'ёў — вераб'явіт, Кіраў — кіравіт.*

Перад суфіксам адбываецца адсячэнне фіналі ўтваральнай асновы *-ыj* (*-іj*) (*кальцый — кальцыніт, Абхазія — абхазіт*), а ў асобных выпадках — нарашчэнне ўтваральнай асновы за кошт *-н-*, *-ын-*, *-ан-* (*Бештау — бештауніт, слюда — слюдзініт, Керч — керчаніт*).

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі (*Хібіны — хібініт, слюда — слюдзініт*).

Націск на суфіксе.

Тып мае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

2. Назвы хвароб (запаленчых працэсаў) паводле хворага органа: *апендыкс — апендыцыт, бронхі — бранхіт, плеўра — плеўрыт, трахея — трахеіт;* сюды адносяцца і ўтварэнні са звязанымі асновамі: *неўрыт, стаматыт* (параўн.: *неўрапатолаг* і *стаматолаг*).

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў медыцынскай тэрміналогіі.

3. Назвы асобы паводле яе дзеяння, месцажыхарства ці прыналежнасці да грамадскай, палітычнай або рэлігійнай групоўкі: *варажбіт, бандыт, гусіт.* Утваральнымі служаць агульныя аддзеяслоўныя назоўнікі з суфіксам *-б (а)* ці бяссуфіксныя ўласныя назоўнікі (прозвішчы, тапонімы): *малаціць — малацьбіт, наём (найму) — найміт, Гус — гусіт, Адэса — адэсіт.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *варажба — варажбіт, Адэса — адэсіт.* У некаторых выпадках адбываецца ўзнаўленне дзеяслоўнай асновы з чаргаваннем *j — ў: сеj- — сяў-ба — сейбіт, насьба (разм.) — носьбіт.*

Націск на суфіксе, зрэдку — на корані (*се́йбіт, носьбіт*).

Тып непрадуктыўны.

§ 387. Суфікс *-іст (-ыст).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў і назоўнікаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні абазначаюць асоб па іх адносінах да аб'екта, па занятках або сферы дзейнасці: *баян — баяніст, бандурыст, вакаліст, гарманіст, гітарыст, журналіст, карыкатурыст, машыніст, паспартыст, танкіст, трактарыст, фалькларыст, цымбаліст;* па адносінах да грамадска-палітычнага, навуковага або рэлігійнага кірунку: *ідэал — ідэаліст, геадэзіст, камуніст, пацыфіст, рэфарміст, футурыст, эканаміст; Дарвін — дарвініст, Маркс — марксіст;* па дзеянню або схільнасці: *аферыст, байкатыст, гумарыст, скандаліст, шантажыст;* па прыналежнасці да грамадскай або навуковай установы, да групоўкі: *архівіст, гімназіст, ліцэіст, семінарыст, чэкіст, актывіст, кавалерыст, харыст;* паводле аб'екта вывучэння, званага імем уласным: *Балгарыя — балгарыст, Іран — іраніст, Кітай — кітаіст, Пушкін — пушкініст.*

Пры ўтварэнні назоўнікаў гэтага тыпу адсякаюцца фінальныя часткі ўтваральных асноў: *-ізм (білінгвізм — білінгвіст), -іj- (геадэзія — геадэзіст), -ык- (метадыка — метадыст),* а л е *клініка — клініцыст, механіка — механіцыст, мазаіка — мазаічыст,* а таксама канцавыя галосныя ўтваральных слоў (*самба — самбіст, марзэ — марзіст, чэка — чэкіст, таксі — таксіст*).

У асобных выпадках адбываецца нарашчэнне ўтваральнай асновы: *алгебра — алгебр-а-іст, Індыя — індыяніст.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *рэформа — рэфарміст, тэніс — тэнісіст,* у асобных словах *к—ц: клініка — клініцыст; к—ч: мазаіка — мазаічыст; г—ж: шпага — шпажыст.*

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны.

А д п р ы м е т н і к а в ы я ўтварэнні пашыраны ў тэрміналагічнай лексіцы. Яны называюць асоб паводле ўласцівасцей, поглядаў, сферы заняткаў. Утваральнымі выступаюць адносныя прыметнікі з суфіксамі *-н-, -льн-, -ачын-, -ічн-, -ск-* (фіналі *-н-, -ічн-, -ск-* перад суфіксам *-іст (-ыст)* адсякаюцца) або словазлучэнні з гэтымі прыметнікамі-азначэн-

нямі: *спецыяліст ← спецыяльны, акурацiст ← акуратны, архаiст ← архаiчны, батальны жывапiс — баталiст, германскае мовазнаўства — германiст, балгарскае мовазнаўства — балгарыст, фiгурнае катанне — фiгурыст.*

Нацiск на суфiксе.

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай тэрмiналогii.

### Суфiксы са структурным элементам *-ц-*

§ 388. Суфiкс *-ец (-эц, -ац)*. Назоўнiкi з гэтым суфiксам утвараюцца ад назоўнiкаў, прыметнiкаў i дзеясловаў.

Адназоўнiкавыя ўтварэннi маюць суфiкс *-ец* (у асобных словах *-iнец: пехацiнец*). Яны абазначаюць асоб па адносiнах да таго, што названа ўтваральным словам — аддзеяслоўным назоўнiкам на *-нне: акружэнне — акружэнец, вылучэнец, навучэнец, паўстанец, паражэнец, прымiрэнец.*

Перад суфiксам доўгi зычны сцягваецца.

Нацiск на тым складзе, што i ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.

Назоўнiкi, утвораныя ад прыметнiкаў i дзеепрыметнiкаў, маюць суфiкс *-ец* (*-ац* не пад нацiскам) i складаюць тры тыпы.

1. Назоўнiкi, якiя ўтвораны ад якасных прыметнiкаў i абазначаюць асоб i прадметы (адушаўлёныя i неадушаўлёныя) паводле характэрнай якасцi: *баязлiвы — баязлiвец, палахлiвец, шчаслiвец, мудрэц, храбрэц; сырэц, макрэц, сiвец, халадзец* (з адсячэннем *-н-*).

У двухскладовых асновах нацiск на суфiксе, у iншых — на аснове.

Тып малапрадуктыўны.

2. Назоўнiкi, якiя ўтвораны ад дзеепрыметнiкаў залежнага стану прошлага часу з суфiксам *-н- (-ан-, -ен-)* або аддзеяслоўных прыметнiкаў i абазначаюць асоб цi прадметы паводле працэсуальнай прыметы: *абадраны — абадранец, выхаванец, любiмец, пасланец; саджанец, сеянец.*

Нацiск на тым складзе, што i ва ўтваральных словах.

Тып малапрадуктыўны.

3. Назоўнiкi, утвораныя ад адносных прыметнiкаў з суфiксамi *-н-, -ск-, -iянск- (-ыянск-)*.

Утваральныя прыметнiкi для гэтых назоўнiкаў у сваю чаргу ўтвораны ад назоўнiкаў, таму словы данага тыпу ўскосна, апасродкавана, суадносяцца з назоўнiкамi: *алмаацiнец — алма-ацiнскi — Алма-Ата, абхаз — абхазскi — Абхазiя.*

Утварэннi гэтага тыпу абазначаюць асоб па iх адносiнах да ўстановы, прадпрыемства: *дэпо — дэповец, саўгасавец, студыец;* да супольнасцi людзей, народнасцi: *партыя — партыец, камсамолец, марыец;* да мясцовасцi, краiны: *Орша — аршанец, Сочы — сочынец, Нарач — нарачанец, Ялта — ялцiнец, Албанiя — албанец, Куба — кубiнец, Iспанiя — iспанец, Перу — перуанец;* да грамадскай плынi, вучэння, групоўкi: *ленiнец, мiчурынец, талстовец, кантыянец, дынамавец* i г. д.

Заўвага. Прымаючы пад увагу апасродкаваную матывацыю ўтварэнняў гэтага тыпу назоўнiкамi, асаблiва назвамi гарадоў, краiн, тэрыторый, а таксама супадзенне ўсечанай прыметнiкавай утваральнай асновы (без *-ск-*) з асновай назоўнiка, некаторыя аўтары адносяць словы гэтага падтыпу да адназоўнiкавых утварэнняў.

У працэсе ўтварэння фiналi ўтваральных асноў *-ск-* i *-н-* адсякаюцца: *партыйны — партыец, зэльвенскi — зэльвенец, кантыянскi — кантыя-*

*нец*. Такія назоўнікі суадносяцца не толькі з адносным прыметнікам, але і са словазлучэннем «назоўнік+прыметнік» (у ролі азначэння): *марафонскі бег — марафонец, мартэнаўская печ — мартэнавец, гвардзейская рота — гвардзеец*.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны.

Аддзеяслоўныя назоўнікі з суфіксам *-ец* звычайна абазначаюць асоб — выканаўцаў дзеяння: *выдаваць — выдавец, вынаходзец, грабец, касец, курэц*; а таксама прадметы паводле іх прызначэння ці як вынік дзеяння: *рэзаць — разец, рубец, свяцец (абл.)*.

Перад суфіксам фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца. Парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *спажываць — спажывец*.

Некаторыя словы ўтвораны ад асновы цяперашняга часу, часам з чаргаваннем *j — в: жаць — жн (уць) — жнец, кроj (аць) — кравец, шыць — шыj (уць) — шавец, дзьмухаj (уць) — дзьмухавец*.

Націск у пачатковай форме на суфіксе, ва ўскосных склонах — на флексіі *(разе́ц, -ца́, краве́ц, -ца́)*.

Тып малапрадуктыўны.

§ 389. Суфікс *-ц-а*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і абазначаюць асоб паводле іх дзеяння: *абараняць — абаронца, выканаўца, вынаходца, вытворца, дарадца, забойца, збаўца, знаўца, пераможца, прамоўца, прапойца*.

Перад суфіксам фінальная галосная асновы інфінітыва адсякаецца: *вынаходзіць — вынаходца*. У некаторых словах утваральнай выступае аснова цяперашняга (будучага) часу з чаргаваннем *j—в: выканаj (уць) — выканаўца*.

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны ў сучаснай літаратурнай мове. Некаторыя ўтварэнні выцясняюцца словамі з іншымі суфіксамі: *дарадчык, вынаходнік, знавец*.

§ 390. Суфікс *-лец*. Назоўнікі з суфіксам *-лец* утвараюцца ад дзеясловаў і абазначаюць асоб, якія характарызуюцца дзеяннем, названым утваральным словам: *жыць — жылец, кармілец, пагарэлец, пастаялец, сядзелец, тапелец*.

Канцавая галосная асновы інфінітыва захоўваецца; у слове *тапелец* чаргуюцца *і—е*.

Націск на перадсуфіксальным складзе, зрэдку на суфіксе *(жыле́ц)*.

Тып малапрадуктыўны.

§ 391. Суфікс *-цц-е (-цц-ё)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і абазначаюць апрадмечанае дзеянне: *адкрываць — адкрыццё, біццё, выццё, гніццё, гнуцце, забыццё, закрыццё, занятце, зліццё, знаццё, знятце, калаццё, крыццё, ліццё, мыццё, набыццё, ныццё, паднятце, пакрыццё, панятце, пачуцце* і *пачуццё, перакрыццё, ніццё, пражыццё, праклятце, прывіццё, прыкрыцце* і *прыкрыццё, прынятце, развіццё, разліццё, раскрыццё, распятце*.

Фінальная галосная перад суфіксам захоўваецца.

Асобныя ўтварэнні могуць набываць прадметнае значэнне: *ліццё* 'літыя металічныя вырабы', *распятце* 'крыж з распятай фігурай'. Часам гэтыя значэнні адрозніваюцца націскам: *пачуцце* і *пачуццё, прыкрыцце* і *прыкрыццё*.

Націск на суфіксе або перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 392. Суфікс *-ач (-яч)*. Назоўнікі з суфіксам *-ач (-яч)* утвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць асоб па аб'екту іх заняткаў ці па ўласцівасці або месцы працы: *бубен — бубнач (разм.), скрыпач, трубач, трукач, сілач*, а таксама па выразнай фізічнай прымеце: *барадач, вусач, гарбач, насач, трыбухач;* апошні разрад слоў дапускае і суадноснасць з прыметнікамі: *барадаты — барадач* (з адсячэннем фіналі *-ат-*, як і ў слове *багач*).

У пачатковай форме націск на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку *(трубáч, -чá)*.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

Адпрыметнікавыя назоўнікі абазначаюць асоб паводле прыметы, названай утваральным словам: *багаты — багач, лайкач, ліхач. махнач, ціхач.*

Перад суфіксам *-ач* фіналь утваральнай асновы *-ат-* адсякаецца: *махнаты — махнач, кудлаты — кудлач, багаты — багач.* Парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *лойкі — лайкач.*

У пачатковай форме націск на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку *(ліхáч, -чá).*

Тып прадуктыўны ў размоўным стылі.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць асоб ці жывёлін паводле дзеяння, названага ўтваральным словам: *глядзець — глядач. дзеяч, рвач, слухач, уцякач, ткач, чытач, драч, крумкач, туркач;* а таксама прадметы, прызначаныя для выканання адпаведнага дзеяння: *капаць — капач, пугач, сякач, тайкач, цягач, штурхач.* Словы з прадметным значэннем могуць ужывацца і ў дачыненні да асобы, пераважна як мянушкі: *капач, пугач, тайкач.*

Націск у пачатковай форме на суфіксе, але *дзéяч*, у астатніх — на канчатку *(тайкáч, -чá).* Канцавая галосная інфінітыўнай асновы перад суфіксам адсякаецца; чаргуюцца *ж—г: пужаць — пугач.*

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.

§ 393. Суфікс *-іч*. Назоўнікі з суфіксам *-іч* утвараюцца ад агульных і ўласных назоўнікаў і абазначаюць асобу — ураджэнца або жыхара адпаведнага горада: *Вязьма — вязьміч, Вятка — вяціч, Кастрама — кастраміч, Масква — масквіч, Омск — аміч, Томск — таміч,* а таксама асобу як члена сацыяльнай групоўкі: *дзедзіч (уст.), родзіч (уст.).*

Пры ўтварэнні слоў *вяціч (Вятка), аміч (Омск), таміч (Томск)* адсякаюцца фіналі ўтваральных слоў *-к-, -ск.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *Кастрама — кастраміч, Масква — масквіч.*

Націск пераважна на тым складзе, што і ва ўтваральных словах, у частцы слоў у пачатковай форме — на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку *(пскавíч, -чá, тамíч, -чá).*

Тып непрадуктыўны.

§ 394. Суфіксы *-іч (-ыч), -евіч (-эвіч), -овіч (-авіч).* Назоўнікі з гэтымі суфіксамі маюць значэнне 'сын таго, хто названы ўтваральным словам'. Асноўная маса гэтых назоўнікаў утворана ад асабовых назваў і з'яўляецца назвай па бацьку ад уласных мужчынскіх імён: *Аляксеевіч, Андрэевіч, Васільевіч, Гаўрылавіч, Дзям'янавіч, Захаравіч, Мікалаевіч, Нічыпаравіч, Нупрэевіч, Пятровіч, Рыгоравіч, Сяргеевіч, Сцяпанавіч, Цітавіч, Ягоравіч.* Невялікая частка слоў утворана ад агульных назоўнікаў: *кароль — каралевіч, княжыч, паніч, паповіч, царэвіч.*

Перад суфіксам *-іч* парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *Кузьма — Кузьміч, Сіла — Сіліч,* а таксама *з' — ж: князь — княжыч; ў — ўл: Якаў — Якаўлевіч.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах. Ва ўтварэннях з суфіксам *-іч* у пачатковай форме — на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку *(Ільі́ч, -ча́, Лукі́ч, -ча́, Фамі́ч, -ча́).*

Суфікс *-іч* выкарыстоўваецца ў імёнах па бацьку, утвораных ад уласных асабовых імён на *-а (-я): Кузьма — Кузьміч, Фама — Фаміч, Лука — Лукіч, Сава — Савіч, Сіла — Сіліч,* а ад імён на зычны — суфіксы *-овіч (-авіч), -евіч (-эвіч): Пётр — Пятровіч, Антон — Антонавіч, Васіль — Васільевіч.*

З гэтым жа суфіксам утвараюцца прозвішчы і ад асобных імён на *-а (-я): Даніла — Данілавіч, Мікіта — Мікітавіч, Ярома — Ерамеевіч.*

Тып мае прадуктыўнасць у антрапаніміі як адзіная мадэль утварэння імён па бацьку.

### Суфіксы са структурным элементам *-ш-*

§ 395. Суфікс *-аш (-яш).* Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвораны адзінкавыя словы ад асноў н а з о ў н і к а: *лёд — лядзяш (разм.),* сінонім да *лядзяк;* п р ы м е т н і к а: *пусты — пусташ* (ж. р.); д з е я с л о в а: *зводзіць — звадыяш (разм.),* сінонім да *зводнік.*

§ 396. Суфікс *-ыш (-іш).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў і дзеясловаў.

А д п р ы м е т н і к а в ы я назоўнікі абазначаюць асоб, жывёлін і прадметы паводле характэрнай прыметы, названай утваральным словам: *голы — галыш, каратыш, малыш, сляпыш, спарыш, гладыш, мякіш.*

Перад суфіксам фіналь утваральнай асновы *-к-* адсякаецца: *кароткі — каратыш, гладкі — гладыш, мяккі — мякіш.*

У пачатковай форме націск на суфіксе, ва ўскосных склонах — на канчатку *(глады́ш, -ша́, караты́ш, -ша́),* а л е *мя́кіш, -шу.*

Утварэнні са значэннем асобы *(галыш, каратыш, малыш)* характэрны для гутарковай мовы.

Тып непрадуктыўны.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назвы асоб і жывёл са значэннем выніку ці аб'екта дзеяння, названага ўтваральным словам: *выкарміць — выкармыш, падкідыш, прыёмыш.*

Тып непрадуктыўны.

2. Назвы неадушаўлёных прадметаў са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы: *выігрываць — выйгрыш, пройгрыш, укладыш, скавыш (разм.).*

Перад суфіксам фінальная галосная ўтваральнай асновы, а таксама *-ва-* адсякаюцца *(укладваць — укладыш, падкідваць — падкідыш).*

Націск на корані *(падкідыш, прыёмыш, укла́дыш)* ці на прэфіксе *(вы́йгрыш, вы́кідыш, розыгрыш, пройгрыш).*

Тып непрадуктыўны.

## Суфіксы назоўнікаў жаночага роду

### Суфіксы са структурным элементам *-б-*

§ 397. Суфіксы *-б-а, -об-а.* Назоўнікі з гэтымі суфіксамі ўтвараюцца ад д з е я с л о в а ў і складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы: *ба-*

*роцца — барацьба, варажба, вучоба, ганьба, дзяльба (разм.), дружба, жаніцьба, журба, касьба, малацьба, мальба, просьба, разьба, служба, стральба, хадзьба, хвароба.*

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

2. Назоўнікі са значэннем 'носьбіт працэсуальнай прыметы'. Яны абазначаюць прадметы паводле іх прызначэння (*страляць — стрэльба*) ці як вынік дзеяння (*сяліць — сяліба, рэзаць — разьба*).

Суфікс *-об-а* выступае толькі ў асобных словах (*вучоба, хвароба*), у астатніх — *-б-а.*

Перад суфіксам фінальная галосная асновы інфінітыва звычайна адсякаецца (*касі (ць) — касьба, вучы (цца) — вучоба*), а л е *сяліц-ца — сялі-ба.*

У некаторых выпадках у склад вытворнага слова ўваходзіць цалкам форма інфінітыва: *жаніць — жаніцьба, дзяліць — дзяліцьба, бароц-ца — барацьба.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *рэзаць — разьба, бароцца — барацьба.*

Націск часцей на канчатку (*журба́, касьба́*), *радзей* — на корані (*дру́жба, слу́жба*) або на суфіксе (*вучоба, хвароба*).

Тып непрадуктыўны.

## Суфіксы са структурным элементам *-в-*

§ 398. Суфікс *-в-а.* Словы з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні абазначаюць сукупнасць асоб, названых утваральным словам: *браты — братва, дзеці — дзятва.*

Гэтыя назоўнікі належаць да гутарковай мовы.

Націск на флексіі.

Тып непрадуктыўны.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы: *біцца — бітва, клятва, малітва.*

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем 'прадмет — носьбіт працэсуальнай прыметы'. Сюды адносяцца назоўнікі, якія абазначаюць прадмет як аб'ект дзеяння: *жраць — жратва (праст.);* прыладу дзеяння: *брыць — брытва;* вынік дзеяння: *драць — дратва.*

Звычайна суфікс далучаецца да формы інфінітыва.

Перад суфіксам чаргуюцца *ц'—т* (*драць — дратва*), *с'—т* (*клясціся — клятва*).

Націск на аснове, а л е *жратва́.*

Тып непрадуктыўны.

## Суфіксы са структурным элементам *-з-*

§ 399. Суфіксы *-ядзь, -эдзь.* З гэтымі суфіксамі ў літаратурнай мове вядомы два а д п р ы м е т н і к а в ы я назоўнікі: *роўнядзь і макрэдзь (разм.)* са значэннем прасторы і адцягненай прыметы.

§ 400. Суфікс *-азь (-язь).* З гэтым суфіксам у літаратурнай мове вядомы тры словы, утвораныя ад розных часцін мовы: *боязь (баяцца), ветразь (вецер, ветру), дробязь (дробны,* з адсячэннем *-н-).* Яны маюць рознае словаўтваральнае значэнне і не складаюць словаўтваральнага тыпу; назоўнік *ветразь* мужчынскага роду.

§ 401. Суфікс -*к-а*. Назоўнікі з суфіксам -*к-а* ўтвараюцца ад дзеясловаў, назоўнікаў, прыметнікаў (дзеепрыметнікаў) і лічэбнікаў.

Аддзеяслоўныя назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы: *абразаць—абрэзка, варка, замінка, зборка, кладка, ломка, наладка, пракладка, разгадка, ссыпка.* Такія словы нярэдка з'яўляюцца паралельнымі да ўтварэнняў на -*нне: абрэзваць — абрэзка* і *абрэзванне, фарміраваць — фарміроўка* і *фарміраванне.*

Тып прадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем 'прадмет — носьбіт працэсуальнай прыметы'. Сюды адносяцца назвы прадметаў, прызначаных для выканання дзеяння (*заколваць — заколка, засланка, застаўка, падпорка*) ці тых, што з'яўляюцца вынікам адпаведнага дзеяння: *настойваць —настойка, ношка, запіска, сечка.*

Канцавая галосная інфінітыўнай асновы, а таксама -*ну*, -*ва* адсякаюцца: *чытаць — чытка, успыхнуць — успышка, прыпісваць — прыпіска.*

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *чуць — чутка, рубіць — рубка;* заднеязычныя — з шыпячымі: *секчы — сечка, прабягаць — прабежка;* а таксама *с—ш: насіць — ношка.*

Націск на перадсуфіксальным складзе, радзей — на іншым складзе асновы.

Тып малапрадуктыўны.

Адназоўнікавыя ўтварэнні складаюць чатыры тыпы.

1. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем: а) асоба жаночага полу: *армянка, беларуска, грузінка, патрыётка, рэвалюцыянерка, салдатка, спартсменка;* б) жонка таго, хто названы ўтваральным словам: *салдатка, марачка;* в) самка жывёліны: *галубка, індычка, перапёлка, котка (абл.).*

У працэсе ўтварэння адсякаюцца фіналі ўтваральных асноў: -*ын* (*татарын — татарка*), -*ец* (*немец — немка*), -*ыј* (*пралетарый — пралетарка*).

Перад суфіксам заднеязычныя чаргуюцца з шыпячымі: *марак — марачка, чэх — чэшка.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып выяўляе прадуктыўнасць толькі пры ўтварэнні асоб жаночага полу.

2. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем падабенства. Яны называюць прадметы, падобныя знешнім выглядам ці па функцыі да тых, што названы ўтваральным словам: *шапка — шапачка* (у грыбоў), *шыйка* (у пасудзіне), *ножка, ручка* (у мэблі,) *сценка* (набор мэблі), *дарожка* (дывановая), *каронка* (зуба), *стрэлка* (на чыгунцы) і г. д.

Тып прадуктыўны, асабліва ў тэрміналагічнай лексіцы.

3. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем адзінкавасці. Яны абазначаюць адну частку аднароднай масы ці кавалачак матэрыялу, рэчыва: *суніцы — сунічка* (адна ягада), *карамелька, рабінка, паперка, шакаладка.*

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

4. Назоўнікі, якія з'яўляюцца гутарковымі або прастамоўнымі сінонімамі да ўтваральных назоўнікаў: *кніга — кніжка, мятла — мяцёлка, печ — печка, сталовая — сталоўка, табурэт — табурэтка.*

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.

Назоўнікі, утвораныя ад прыметнікаў і дзеепрыметні-

к а ў, абазначаюць розныя прадметы (адушаўлёныя ці неадушаўлёныя), з'явы, якія характарызуюцца прыметай, названай утваральным словам: *вадзяны — вадзянка, ватоўка, вясёлка, вятранка, зялёнка, зямлянка, калючка, лятучка, сінька, тушонка.*

Пэўная частка назоўнікаў гэтага тыпу ўтварылася ад азначальнага кампанента словазлучэння прыметніка і назоўніка: *аўсяныя крупы — аўсянка, насавая хустка — насоўка, бляшаная банка — бляшанка.*

Некаторыя назоўнікі суадносяцца з некалькімі словазлучэннямі і маюць некалькі значэнняў: *вячорка — «вячэрняя газета», «вячэрняя школа», «вячэрняя змена».*

Перад суфіксамі чаргуюцца *л'—л: камсамольскі — камсамолка;* заднеязычныя з шыпячымі: *адзінокі — адзіночка* (пра асобу); галосныя *э—о: вячэрні — вячорка.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны.

А д л і ч э б н і к а в ы я назоўнікі маюць значэнне 'прадмет, які характарызуецца колькасцю чаго-небудзь ці нумарам, названым утваральным словам': *адзінка, двойка, тройка, чацвёрка, пяцёрка, шасцёрка, сямёрка, васьмёрка, дзевятка, дзесятка, дваццатка, трыццатка, сотка.* Звычайна гэтыя словы з'яўляюцца назвамі школьных ацэнак, ігральных карт, грашовых знакаў, гармат і г. д.

Тып малапрадуктыўны.

§ 402. Суфікс *-лк-а (-олк-а).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і абазначаюць прылады, пасуду, памяшканне, прызначаныя для выканання адпаведнага дзеяння: *абганяць — абганялка, веялка, гушкалка, капалка, карчавалка, качалка, сеялка, скакалка, тачылка (разм.), чарпалка (разм.), чыталка, паілка, цадзілка;* а таксама прадмет — суб'ект дзеяння: *круцёлка, кацёлка, мігалка, снавалка.*

Канцавая галосная ўтваральнай асновы адсякаецца.

Націск звычайна на тым складзе, што ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны ў тэхнічнай тэрміналогіі і ў гутарковай мове.

§ 403. Суфікс *-анк-а (-янк-а).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў і лічэбнікаў .

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем 'прадмет, які характарызуецца адносінамі да таго, што названа ўтваральным словам'. Сюды адносяцца назвы птушак паводле месца іх гнездавання, харчу, матэрыялу, з якога яны робяць гняздо, і г. д.: *вольха — альшанка, беражанка* (ластаўка), *берасцянка, валасянка, канаплянка, крапіўянка, травянка, чарацянка;* назвы грыбоў: *балота — балацянка, ваўнянка;* фруктовых дрэў і іх пладоў, раслін: *смалянка* (плод грушы), *вадзянка, грушанка;* бытавых прадметаў: *вушы — вушанка, салянка.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *смала — смалянка, валасы — валасянка.*

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.

2. Назоўнікі, якія называюць асоб жаночага полу, што ўтвараюцца ад назваў асоб мужчынскага полу: *грэк — грачанка, карэянка, кітаянка, курдзянка, францужанка, чукчанка.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *вайна — ваўнянка, смала — смалянка;* заднеязычныя і свісцячыя з шыпячымі: *бераг — беражанка, француз — францужанка.*

Націск звычайна на суфіксе, рэдка — на перадсуфіксальным складзе *(францу́жанка).*

Тып малапрадуктыўны.

Аддзеяслоўныя ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы: *абяцаць — абяцанка, гулянка, лаянка, маўчанка, п'янка.*

Перад суфіксам фінальная галосная асновы інфінітыва адсякаецца, у слове *п'янка* выступае аснова цяперашняга часу: *піць — пj(уць) — п'янка.*

Націск на суфіксе, але *лáянка.*

Тып малапрадуктыўны, уласцівы гутарковай мове.

2. Назоўнікі са значэннем 'прадмет (адушаўлёны і неадушаўлёны) — суб'ект, аб'ект або вынік дзеяння, названага ўтваральным словам'. Сюды адносяцца назвы асоб: *служыць — служанка;* назвы рэчыва, страў: *трэсці — трасянка, мачанка;* назвы прыстасаванняў паводле іх прызначэння: *ляжаць — ляжанка, коўзанка, чытанка.*

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры.

Адпрыметнікавыя ўтварэнні абазначаюць асоб, якія характарызуюцца прыметай, названай утваральным словам: *белы — бялянка, смуглянка, халасцянка (разм.).*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *белы — бялянка, смуглы — смуглянка.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

З суфіксам *-анк-а* літаратурнай мове вядома адлічэбнікавае ўтварэнне: *траянка* (дэталь павозкі, ад *трое*).

§ 404. Суфікс *-арк-а (-ярк-а).*

Адназоўнікавыя ўтварэнні з гэтым суфіксам з'яўляюцца назвамі посуду, прызначанага для змяшчэння таго, што названа ўтваральным словам: *вапна — вапнярка, віно — вінярка (уст.), вуглярка.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

Ад дзеяслова *жаць (жнуць)* з дапамогай нарошчанага суфікса *-яярк-а* ўтвораны назоўнік *жняярка*; параўн. *жніварка (абл.)* ад аддзеяслоўнага назоўніка *жнівó.*

§ 405. Суфікс *-отк-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы (стану): *дрыжаць — дрыготка, пячы — пякотка.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем 'прадмет — суб'ект дзеяння': *бразгаць — бразготка, ляскотка, трашчотка.* У пераносным значэнні гэтыя словы могуць ужывацца для характарыстыкі асобы.

Перад суфіксам фінальная галосная асновы інфінітыва адсякаецца; у слове *прамакатка* яна захоўваецца (пры варыянце суфікса *-тк-а).*

Націск на суфіксе, у слове *прамакатка* — на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны. Утварэнні ўласцівы гутарковай мове.

§ 406. Суфікс *-ойк-а (-айк-а).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў, назоўнікаў, прыметнікаў і лічэбнікаў.

Аддзеяслоўныя ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы: *галадаць — галадойка, ікайка, чыхайка, шчыкайка (дыял.).*

У назоўніках з суфіксам *-айк-а* націск пераважна на першым складзе асновы, у назоўніках з суфіксам *-ойк-а* — на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем 'прадмет — носьбіт працэсуальнай прыметы'. Сюды адносяцца назвы прадметаў — суб'ектаў дзеяння ці прадметаў, з дапамогай якіх выконваецца дзеянне: *піць — пjэ — п'яўка, бліскаўка, калатоўка, нюхаўка (груб.*— пра нос), *пырскаўка.*

Канцавая галосная асновы інфінітыва адсякаецца; перад *-оўк-а* парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *калаціць — калатоўка.*

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

Націск на перадсуфіксальным складзе або (радзей) на суфіксе.

Адназоўнікавыя ўтварэнні складаюць чатыры тыпы.

1. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем жаночасці; утваральнымі выступаюць назвы асоб мужчынскага полу: *сябар — сяброўка, вучань — вучнёўка* (Я. Колас).

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем апрадмечанага дзеяння ці стану, звязанага з прадметам ці з'явай, названых утваральным словам: *жэрабя — жараб'ёўка, працэнты — працантоўка* (налічэнне працэнтаў), *метр — метроўка* (аб вымярэнні ў метрах).

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

3. Назоўнікі з прадметным значэннем. Яны абазначаюць ёмістасць, памяшканне паводле іх прызначэння: *селядзец — селядзёўка, ляснічы — лесніцоўка, вальцы — вальцоўка, старажоўка;* птушак паводле месца іх гнездавання: *бяроза — бярозаўка, малінаўка, чаратоўка.*

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

4. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем падабенства: *лаза — лазоўка* (сорт канюшыны), *нажоўка* (від пілы), *грушоўка* (від яблык, яблыні), *радоўка* (від грыбоў), *пляц — пляцоўка.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове і спецыяльнай тэрміналогіі.

Адпрыметнікавыя ўтварэнні з суфіксамі *-аўк-а (-яўк-а), -оўк-а* абазначаюць прадметы паводле той прыметы, якая названа ўтваральным словам: *спецыяльнае адзенне — спяцоўка* (з адсячэннем фіналі *-ыяльн-), малы — маляўка.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

Адлічэбнікаў утвораны назоўнікі: *саракоўка (разм.), семнастоўка (дыял.), пятнастоўка (дыял.)* з чаргаваннем *ц—ст.*

§ 407. Суфікс *-ушк-а (-юшк-а).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў, прыметнікаў, назоўнікаў і лічэбнікаў.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць прадметы, якія характарызуюцца дзеяннем, названым утваральным словам. Сюды адносяцца назвы жывых істот: *калоць — колюшка, несці — нясушка (разм.);* назвы прадметаў: *боўтаць — баўтушка, габлюшка, вітушка, вяртушка, кармушка, плывушка, раскладушка, хлапушка.*

Перад суфіксам канцавая галосная асновы інфінітыва адсякаецца, пры аднаскладовай аснове на галосны ў склад вытворнага слова ўваходзіць уся форма інфінітыва з чаргаваннем *ц'—т: віць — вітушка.*

Тып малапрадуктыўны.

Адпрыметнікавыя назоўнікі абазначаюць прадметы, якія характарызуюцца той прыметай, якая названа ўтваральным словам: *вясёлы — весялушка, гнілушка, жаўтушка, завітушка, цяплушка.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

Адназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць прадметы па адносі-

нах да таго, што названа ўтваральным словам: *амяла — амялушка, вясна — вяснушка.* Адасоблена слова *цялушка* (ад *цяля,* са значэннем 'самка').

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

Ад лічэбнікавай асновы ўтворана слова *васьмушка (устар.).*

§ 408. Суфікс *-ачк-а (-ячк-а).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і лічэбнікаў.

Аддзеяслоўныя ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем працэсу, дзеяння: *жаваць (разм. жваць) — жвачка, спаць — спячка.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі з прадметным значэннем. Яны абазначаюць прылады працы: *выбіваць — выбівачка, палівачка;* прадметы — суб'екты дзеяння: *балець — балячка.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

Ад асновы лічэбніка *паўтара* ўтвораны назоўнік *паўтарачка.*

## Суфіксы са структурным элементам *-л-*

§ 409. Суфікс *-лл-я (-л-я).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем 'асоба — выканаўца дзеяння': *прасці — пралля* і *праля (абл.), ткаць — ткалля.* Утваральнай выступае ўсечаная аснова інфінітыва, роўная аснове прошлага часу.

Націск на корані.

Тып непрадуктыўны, утварэнні ўласцівы гутарковай мове, больш пашыраны ў дыялектнай мове (*піскля, бегля* і інш.).

2. Назоўнікі са значэннем працэсуальнай прыметы: *будаваць — будоўля, гадоўля, лоўля, купля.*

Перад суфіксам канцавая галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца; чаргуюцца *а — о* і *в—ў: будаваць — будоўля, лавіць — лоўля.*

Тып непрадуктыўны.

§ 410. Суфікс *-оўл-я.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў і абазначаюць стан паводле прыметы, названай утваральным словам: *галодныя — галадоўля, дарагое — дарагоўля.*

Перад суфіксам фіналь *-н-* адсякаецца.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 411. Суфікс *-ель.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і складаюць два непрадуктыўныя тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем працэсу дзеяння (адцягненая працэсуальная прымета): *гібець — гібель, месці (мятуць) — мяцель.*

Націск на аснове або суфіксе.

2. Назоўнікі з прадметным значэннем. Яны абазначаюць утваральніка дзеяння: *круціць — круцель* ці прадмет як вынік дзеяння: *рубіць — рубель.* Утварэнні ўласцівы ў асноўным гутарковай мове. Выключэнне: *гібель, рубель.*

Націск на суфіксе, але *гібель.*

§ 412. Суфікс *-ул-я.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў і дзеясловаў.

Адпрыметнікавыя ўтварэнні абазначаюць жывых істот і прадметы паводле прыметы, названай утваральным словам: *крывы — крывуля* (пра чалавека, жывёліну, прадмет), *капрызны — капрызуля* (з адсячэннем *-н-*), *рагатая — рагуля* (з адсячэннем *-ат-*).

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове (*чарнуля, шчарбуля* і інш.).

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць прадметы, прызначаныя для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам: *хадзіць — хадуля (разм.)*, або жывых істот — выканаўцаў дзеяння: *фарсіць — фарсуля (разм.), бадаць — бадуля (разм.* — пра карову).

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *хадзіць — хадуля (разм.)*.

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове пад уплывам структуры эмацыянальна-ацэначных слоў.

### Суфіксы са структурным элементам *-н-*

§ 413. Суфікс *-нь*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем працэсуальнасці адцягненай прыметы: *вязаць — вязень, казаць — казань, плыць — плынь*.

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі з прадметным значэннем. Яны абазначаюць прадметы — суб'екты дзеяння або зборнае паняцце — вынік дзеяння: *кіпець — кіпень, рваць — рвань*.

Націск на першым складзе асновы.

Тып непрадуктыўны.

§ 414. Суфікс *-ень (-ань)*. З суфіксам *-ень* (пасля няпарных цвёрдых не пад націскам *-ань*) у літаратурнай мове вядомы адзінкавыя назоўнікі жаночага роду, утвораныя ад дзеяслова: *ступаць — ступень*; назоўніка: *кветкі — квецень* (з адсячэннем *-к-*); прыметніка: *сляпы — сляпень, шэры — шэрань*.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *ступаць — ступень*.

Націск на аснове, але *сляпéнь*.

Тып непрадуктыўны.

§ 415. Суфікс *-н-я*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў, назоўнікаў і лічэбнікаў.

Аддзеяслоўныя ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы, у асноўным з негатыўнай афарбоўкай і адценнем інтэнсіўнасці: *балбатаць — балбатня, брахня, валтузня, грызня, гульня, калатня, мазня, мітусня, траскатня*.

Перад суфіксам канцавая галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца, парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *валтузіцца — валтузня, калаціцца — калатня*.

Націск на канчатку.

Тып прадуктыўны ў размоўным стылі.

2. Назоўнікі з прадметным значэннем. Яны абазначаюць прыстасаванні, памяшканні для выканання адпаведнага дзеяння: *шаткаваць — шаткоўня, стайня, сушня, бойня* (ад *бі-ць*), *пільня*; прадметы як вынік дзеяння: *мазня, пожня*.

Перад суфіксам канцавая галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца: *вартаваць — вартоўня, мазаць — мазня.*

Націск на перадсуфіксальным складзе, а л е *мазня́.*

Тып непрадуктыўны.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем збудавання, дзе вырабляецца, знаходзіцца тое, што названа ўтваральным словам: *бондар — бандарня, ганчарня, дзягцярня́, друкарня, пякарня, слясарня, сталярня, сыраварня, цагельня.* Утваральнымі для іх выступаюць назвы асоб па спецыяльнасці з суфіксам *-ар.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем зборнасці: *салдат — салдатня, шафярня* (Я. Брыль), *валасня.* Звычайна словы маюць адценне ўніжальнасці. Семантычна ізаляваны словы *лыжня, яблыня (параўн.: яблык), яечня* (ад *яйцо,* з чаргаваннем *ц—ч).*

Тып непрадуктыўны.

А д л і ч э б н і к а в ы я назоўнікі называюць групу аднародных прадметаў у той колькасці, якая абазначана ўтваральным словам: *двойня, тройня, чацвярня, шасцярня́, семярня (абл.), сотня.* Утваральнымі выступаюць зборныя лічэбнікі і колькасны *сто* (Р. скл. *сот).*

Націск на канчатку, а л е *двойня, сотня.*

Тып непрадуктыўны.

§ 416. Суфікс *-арн-я (-ярн-я).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні абазначаюць збудаванне для змяшчэння або вырабу таго, што названа ўтваральным словам, ці прылады дзеяння: *кніга — кнігарня, кавярня (уст.).*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі *(труп— трупярня).*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі абазначаюць прылады дзеяння: *малаціць — малатарня, сеяць — сявярня* (ад *сеяць* з менай *j—в).*

Перад суфіксам канцавая галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца; чаргуюцца *ц'—т: малаціць — малатарня.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 417. Суфікс *-льн-я.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад д з е я с л о в а ў. Яны абазначаюць месца для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам: *бяліць — бялільня, днявальня, мачыльня, плавільня, прадзільня, пральня, радзільня (разм.), спальня, чытальня, шатравальня, шліфавальня.*

Канцавая галосная ўтваральнай асновы захоўваецца. Асобна стаіць слова *гаварыльня* са значэннем працэсу дзеяння.

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 418. Суфікс *-атн-я.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і назоўнікаў.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі абазначаюць адцягненую працэсуальную прымету паводле значэння ўтваральнага слова: *таўчыся — таўкатня, цвіркатня.*

Націск на канчатку.

Тып непрадуктыўны.

Заўвага. Многія назоўнікі на *-атн-я* не адносяцца да гэтага тыпу: яны ўтвораны ад дзеясловаў на *-аценъ/-атаць* пры дапамозе суфікса *-н-я* (*грукатаць — грукатня*) і ад назоўнікаў на *-ат* (*тупат — тупатня*).

Ад асновы н а з о ў н і к а ўтворана слова *галубятня*. Асобна стаіць слова *дрывотня* (суфікс *-отн-я*).

§ 419. Суфікс *-оўн-я*. Назоўнікі з суфіксам *-оўн-я* ўтвараюцца ад н а з о ў н і к а ў. Яны абазначаюць збудаванне, ёмістасць для таго, што названа ўтваральным словам: *воз — вазоўня, валоўня, ваўкаўня, жаароўня, лядоўня, малпоўня, саладоўня, шпакоўня*.

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 420. Суфіксы *-еўн-а (-эўн-а)/-оўн-а (-ёўн-а)*. Назоўнікі з гэтымі суфіксамі ўтвараюцца ад н а з о ў н і к а ў і складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем асобы жаночага полу. Утваральныя — назоўнікі мужчынскага роду са значэннем сацыяльнага паходжання: *кароль — каралеўна, цар — царэўна, князь — князёўна, бондар — бандароўна, поп — папоўна*.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія з'яўляюцца імёнамі па бацьку асоб жаночага полу, г. зн. маюць значэнне 'дачка таго, хто носіць імя, названае ўтваральным словам': *Сцяпан — Сцяпанаўна, Васіль — Васілеўна* (і *Васільеўна*), *Дзмітрый — Дзмітрыеўна*.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны як адзіны сродак назвы па бацьку.

§ 421. Суфіксы *-ічн-а, -інічн-а*. Назоўнікі з гэтымі суфіксамі з'яўляюцца жаночымі імёнамі па бацьку. Яны ўтвараюцца ад м у ж ч ы н с к і х і м ё н на *-а (-я)*: *Кузьма — Кузьмінічна, Лука — Лукінічна, Сава — Савічна, Мікіта — Мікіцічна* (і *Мікітаўна*).

Націск на суфіксе ці перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

§ 422. Суфікс *-авін-а*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем месца па адносінах да таго, што названа ўтваральным словам: *бок — бакавіна, баравіна, верхавіна, гарлавіна* (у сукенцы), *карпавіна, лугавіна, пупавіна*.

2. Назоўнікі са значэннем падабенства: *гарлавіна* (ракі, катла), *катлавіна* (ракі).

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

Ад асновы п р ы м е т н і к а ўтворана слова *сыравіна*.

§ 423. Суфікс *-ізн-а*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ў асноўным ад п р ы м е т н і к а ў і складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненай якасці: *белы — белізна, жаўцізна, круцізна, крывізна, навізна, рабізна, сівізна*.

Націск на канчатку.

Тып малапрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія абазначаюць зборнае паняцце: *гнілы — гнілізна, старызна, суравізна, сырызна*.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *гнілы — гнілізна, худы — худзізна*.

Націск пераважна на флексіі, радзей — на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

Ад асновы **н а з о ў н і к а** ўтворана слова *галавізна.*

§ 424. Суфікс *-ін-а (-ын-а).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў, дзеясловаў, прыметнікаў і лічэбнікаў.

**А д н а з о ў н і к а в ы я** ўтварэнні складаюць пяць тыпаў.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць прадметы па іх адносінах да таго, што названа ўтваральным словам. Сюды належаць назвы канкрэтных прадметаў, рэчыва, месца, прасторы: *пер'е — пярына, хамуціна, брушына, грудзіна.*

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

2. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем жаночасці: назвы асоб жаночага полу, жонкі асобы. Утваральныя — назвы асоб мужчынскага полу, а таксама ўласныя асабовыя імёны: *дзядзька — дзядзіна* (з адсячэннем *-к-),* *кузен — кузіна,* *сіньёр — сіньярына,* *Антон — Антаніна,* *Аляксандр — Александрына.*

Тып непрадуктыўны.

3. Назоўнікі са значэннем зборнасці: *госці — гасціна, сябрына, дружына.*

Тып непрадуктыўны.

4. Назоўнікі са значэннем адзінкавасці: *вольха — алешына, бульбіна, бярэзіна, валасіна, гарошына, жалезіна, пасудзіна, саломіна, травіна, цагліна, хварасціна, чараціна, шраціна, яліна, жывёліна.*

Тып прадуктыўны.

5. Назоўнікі са значэннем 'мяса жывёліны, названай утваральным словам': *асятрына, бараніна, каніна, ласіна, свініна, цюленіна.*

Тып прадуктыўны.

**А д д з е я с л о ў н ы я** назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем выніку або аб'екта дзеяння, названага ўтваральным словам: *выбіць — выбоіна, выжарына, драпіна, праломіна, разваліна, расколіна, упадзіна, уточына.*

Канцавая галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *драпаць — драпіна, упадаць — упадзіна.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай лексіцы і гутарковай мове.

2. Назоўнікі са значэннем працэсу дзеяння: *гасціць — гасціна (абл.), сябраваць — сябрына* (з адсячэннем *-ава-)* *(разм.).*

Тып непрадуктыўны.

**А д п р ы м е т н і к а в ы я** ўтварэнні абазначаюць зборнае паняцце ці прастору па прымеце, названай утваральным словам: *азіміна, зеляніна, садавіна, яравіна, навіна, раўніна, цаліна.*

Націск на суфіксе або канчатку.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *цэлы — цаліна.*

Тып прадуктыўны.

**А д л і ч э б н і к а в ы я** ўтварэнні абазначаюць прасторавае паняцце паводле колькасці, названай утваральным словам — парадкавым лічэбнікам у складзе словазлучэння: *трэцяя частка* (даходу, меры) — *траціна,* адпаведна *чацвярціна, васьміна, дзесяціна.*

Тып непрадуктыўны, утварэнні складаюць архаічны пласт лексікі.

§ 425. Суфікс *-анін-а (-янін-а).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад **д з е я с л о в а ў.** Яны абазначаюць адцягненую працэсуальную прымету: *блытаць — блытаніна, груканіна, мазаніна, мешаніна, мітусяніна, страляніна, таўканіна, трасяніна, тузаніна, цяганіна* (усе

*разм.*). Асобныя ўтварэнні адначасова абазначаюць вынік названага дзеяння: *мешаніна, пісаніна.*

Націск на суфіксе.

Тып мае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

Ад прыметніка *свежы* ўтворана слова *свежаніна.*

§ 426. Суфікс *-ацін-а (-яцін-а).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Adназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць мяса жывёліны, названай утваральным словам: *бык — бычаціна, гусяціна, зайчаціна, кураціна* (ад *куры*), *парасяціна, цяляціна.*

Перад суфіксам чаргуюцца *к—ч: бык — бычаціна; ц—ч: заяц — зайчаціна; л—л': казёл — казляціна.*

У словах *цяляціна, парасяціна, ягняціна* суфікс *-ін-а* (ад *цяляты, парасяты, ягняты*).

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны.

Адпрыметнікавыя ўтварэнні абазначаюць зборнае або рэчыўнае паняцце паводле прыметы, названай утваральным словам, звычайна з адмоўнай ацэнкай, неадабрэннем: *здохлы — здыхляціна, кісляціна, мярзляціна, трухляціна.* Часам такія ўтварэнні набываюць пераноснае асабовае значэнне (*здыхляціна, мярцвячына*).

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *кіслы — кісляціна, мёрзлы — мярзляціна.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры.

§ 427. Суфікс *-ін-я (-ын-я).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў, назоўнікаў і лічэбнікаў.

Адпрыметнікавыя назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць абстрактнае паняцце якасці прыметы: *быстры — быстрыня, вастрыня, велічыня, вышыня, гарачыня, глыбіня, гушчыня, далечыня, даўжыня, таўшчыня, цеплыня, цішыня, чысціня, шырыня.*

У некаторых словах суфікс далучаецца як да ўсечанай асновы (без *-ок-*), так і няўсечанай: *глыбокі — глыбіня* і *глыбачыня, высокі — вышыня* і *высачыня.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *глыбокі — глыбіня;* заднеязычныя — з шыпячымі: *вялікі — велічыня, доўгі — даўжыня, ціхі — цішыня,* а таксама *с—ш, ст—шч: высокі — вышыня, тоўсты — таўшчыня.*

Націск на канчатку.

Тып малапрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія маюць канкрэтнае значэнне: *пусты — пустыня, святыня, цвярдыня.*

Тып непрадуктыўны.

Адназоўнікавыя ўтварэнні маюць мадыфікацыйнае значэнне жаночасці. Яны абазначаюць асобу жаночага полу: *багіня, гераіня, графіня, княгіня, рабыня, шахіня.* Утваральныя — назвы асоб мужчынскага полу: *бог — багіня, гаспадар — гаспадыня* (з адсячэннем *-ар*).

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *граф — графіня,* а таксама *з—г: князь — княгіня.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

Ад лічэбніка *першы* ўтвораны назоўнік *першыня.*

§ 428. Суфікс *-шчын-а/-чын-а* (апошні пасля *д, т, ц*). Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў і дзеясловаў.

Адпрыметнікавыя ўтварэнні маюць значэнне 'прымета, названая ўтваральным словам як бытавая ці грамадская з'ява, ідэйны ці палітычны кірунак' (нярэдка з адметным адценнем): *будзёншчына, казёншчына, абломаўшчына.* Утваральнымі выступаюць прыметнікі простыя і з суфіксамі *-н-, -ск- (-цк-), -л-, -ав-: дарэмны — дарэмшчына, крымінальны — крымінальшчына, ваенны — ваеншчына, будзённы — будзёншчына, кампанейскі — кампанейшчына, салдацкі — салдатчына, мінулы — мінуўшчына, групавы — групаўшчына.*

Фіналі *-н-, -ск-* перад суфіксам у становішчы пасля зычнай адсякаюцца *(літаратурны — літаратуршчына, лакейскі — лакейшчына).*

Пры ўтварэнні чаргуюцца *ц—ч: турэцкі — Турэччына.* Утварэнні з суфіксамі *-шчын-а/-чын-а* могуць суадносіцца са словазлучэннямі, у якіх адзін з кампанентаў (прыметнік) выконвае ролю азначэння: *бульварная літаратура — бульваршчына, падзённая работа — падзёншчына,* адначасова з назоўнікамі, ад якіх у сваю чаргу ўтвораны прыметнікі. Утваральнымі ў апошнім выпадку выступаюць назвы неадушаўлёных прадметаў і з'яў: *канцылярыя — канцыляршчына, літаратуршчына, групаўшчына;* агульныя назвы асоб: *лакей — лакейшчына, папоўшчына;* прозвішчы гістарычных дзеячаў і літаратурных персанажаў: *Керанскі — кераншчына, Пілсудскі — пілсудчына, Гарлахвацкі — гарлахваччына, Манілаў — маніла ўшчына;* назвы арганізацый: *«Маладняк» — маладнякоўшчына.* Некаторыя ўтварэнні гэтага тыпу адначасова маюць і зборнае значэнне (групы асоб ці прадметаў): *ваеншчына, паліцэйшчына, пахабшчына,* а таксама служаць для абазначэння тэрыторыі, краіны *(Нямеччына, Турэччына).*

Перад суфіксам чаргуюцца *л, в—ў; групавы — групаўшчына, мінулы — мінуўшчына; ц—ч: нямецкі — нямеччына.*

Морф *-чын-а* выступае ў пазіцыі пасля зычнага *т (азіятчына, салдатчына),* у астатніх выпадках — *-шчын-а.*

Націск на аснове ў словах, утвораных ад прыметнікаў з нерухомым націскам (тут націск назоўнікаў супадае з націскам прыметнікаў: *казённы — казёншчына*), і на суфіксе ў словах, утвораных ад прыметнікаў з націскам на канчатку *(дармавы́ — дармаўшчы́на).*

Асобны высокапрадуктыўны тып складаюць неафіцыяльныя назвы абласцей, раёнаў. Яны суадносяцца непасрэдна з прыметнікамі з суфіксамі *-ск-, -енск-,* апасродкавана — з назоўнікамі — назвамі населеных пунктаў (гарадоў, цэнтраў вобласці, раёнаў): *Міншчына, Віцебшчына, Гомельшчына, Кармяншчына, Навагрудчына, Брэстчына.*

Фіналь *-ск-* у працэсе ўтварэння адсякаецца *(Зэльвенскі* (раён) — *Зэльвеншчына).*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць адцягненую працэсуальную прымету паводле ўтваральнага слова: *складваць — складчына (разм.), штурмаваць — штурмаўшчына.* Слова *складчына* мае дадатковае значэнне зборнага паняцця як выніку дзеяння.

Тып непрадуктыўны.

### Суфіксы са структурным элементам *-р-*

§ 429. Суфікс *-ур-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць назвы арганізацыі,

установы, якія складаюцца з асоб, названых утваральным словам: *рэгістратар — рэгістратура, пракуратура;* установы, якая ўзначальваецца асобай, названай утваральным словам: *камендант — камендатура, прафектура;* назвы асоб паводле іх службовага стану: *прафесар — прафесура, дацэнтура;* назвы асоб паводле іх грамадскага стану, дзейнасці: *аспірант — аспірантура, адвакатура, ад'юнктура.* Адасоблена слова *кандыдатура.*

Некаторыя назоўнікі гэтага тыпу маюць другаснае зборнае значэнне: *агентура, адвакатура, ардынатура, кліентура, прафесура.* Семантычна ізаляваны *абрэвіяцыя — абрэвіятура, рэцэпт — рэцэптура.*

У працэсе ўтварэння перад суфіксам фіналь утваральнай асновы *-ар* адпадае (*прафесар — прафесура*).

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў кніжнай мове, у спецыяльнай тэрміналогіі.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі абазначаюць адцягненае дзеянне, род заняткаў. Утваральнымі выступаюць дзеясловы з суфіксам *-ірава-*: *карэкціраваць — карэктура, рэжысура.*

У працэсе ўтварэння перад суфіксам фіналь *-ірава-* адсякаецца. Асобна стаіць слова *палітура,* утворанае пры дапамозе суфікса *-тур-а;* яно мае значэнне выніку дзеяння.

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі.

Тып непрадуктыўны.

З а ў в а г а. Пад уплывам прадуктыўнага адназоўнікавага тыпу слоў на *-ура* ўтварэнні разгледжанага тыпу суадносяцца таксама з назоўнікамі і, такім чынам, маюць двоякую суаднесенасць: адначасова і з дзеясловамі, і з назоўнікамі, *параўн. карэктура — праца карэктара і карэкціраванне.*

§ 430. Суфіксы *-ур-а, -атур-а.* Назоўнікі з гэтымі суфіксамі ўтвараюцца ад неасабовых назоўнікаў і прыметнікаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні маюць мадыфікацыйнае значэнне зборнасці (сукупнасць аднолькавых прадметаў ці з'яў): *апарат — апаратура, мускулатура, партытура* (морф *-тур-а*).

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

А д п р ы м е т н і к а в ы я ўтварэнні абазначаюць адцягненае паняцце паводле адзінкі вымярэння, названай прыметнікам — кампанентам словазлучэння: *квадратная адзінка — квадратура, кубічная адзінка — кубатура.* У працэсе ўтварэння перад суфіксам фіналі ўтваральнай асновы *-н-, -ічн-* адсякаюцца.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

### Суфіксы са структурным элементам *-с-*

§ 431. Суфікс *-эс-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад невытворных н а з о ў н і к а ў. Яны абазначаюць назвы асоб жаночага полу: *паэт — паэтэса, прынцэса, сцюардэса;* назвы жонкі паводле займаемага ў грамадстве становішча мужа: *барон — баранэса, вікантэса.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжнай мове.

§ 432. Суфікс *-ыс-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад невытворных і вытворных аддзеяслоўных н а з о ў н і к а ў і абазначаюць асобу жаночага полу: *абатыса, актрыса, дырэктрыса.*

У вытворным слове галосныя канцавога складу ўтваральнай асновы

*-а, о* адсутнічаюць: *акцёр (разм. актор) — актрыса, дырэктар — дырэктрыса.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

Суфіксы са структурным элементам *-т-*

§ 433. Суфікс *-от-а (-ат-а)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў, дзеясловаў, зрэдку ад назоўнікаў і лічэбнікаў.

Адпрыметнікавыя ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія маюць значэнне адцягненай прыметы, уласцівасці: *бедны — бедната, лянота, брудната, гарката, дабрата, кіслата, любата, мерзлата, прастата, пустата, сухата, цесната, чарната.* Некаторыя ўтварэнні маюць значэнне колькаснай прыметы: *глухі — глухата, паўната* (аб'ём абутку), *слепата, немата, густата.*

Асобныя назоўнікі гэтага тыпу маюць другасныя значэнні: зборнае (група людзей або аднародных прадметаў): *басота (разм.), галота (разм.), бедната, драбната;* месца, прасторы: *пустата;* рэчыва: *кіслата.*

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *глухі — глухата; ш—х: душны — духата.*

Націск пераважна на флексіі, радзей на суфіксе *(лянота, яснота).*

Тып малапрадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем 'прадмет — носьбіт прыметы'. Яны не суадносяцца з адпрыметнікавымі назоўнікамі са значэннем адцягненай прыметы, стану, а таму не могуць разглядацца як іх семантычныя варыянты. Да гэтага тыпу належаць словы са значэннем рэчыва: *мокры — макрота;* сукупнасці асоб: *пешы — пяхота.*

Перад суфіксам чаргуюцца *ш—х: пешы — пяхота.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

Аддзеяслоўныя ўтварэнні абазначаюць фізічны або фізіялагічны стан, рэдка — прыродныя з'явы: *драмаць — дрымота, ікота, ламота, пякота, ірвота, пяшчота, хлюпота (разм.), плюхота.*

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *ташніць — ташната,* а таксама *ч—к, сц—шч: пячы — пякота, пясціць — пяшчота.* Канцавая галосная ўтваральнай асновы адсякаецца.

Націск на суфіксе, зрэдку — на канчатку *(хрыпата́).*

Тып малапрадуктыўны.

Адназоўнікавыя ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем зборнасці. Яны абазначаюць сукупнасць аднародных прадметаў або асоб: *ліст — лістота, блазен — блазнота.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем стылістычнай мадыфікацыі. Гэта гутарковыя ці прастамоўныя сінонімы да ўтваральных слоў: *бяда — бядота, дзіва — дзівота, журба — журбота, сум — сумота, нуда — нудота.*

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

Ад лічэбніка *адзін* утвораны назоўнік *адзінота.*

Суфіксы са структурным элементам *-х-*

§ 434. Суфікс *-х-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў. Яны абазначаюць прадметы ці з'явы, якія характарызуюцца дзеяннем, названым утваральным словам: *абліваць — абліваха, апранаць — апранаха (разм.).*

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы захоўваецца.

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове (пад уплывам дыялектаў): *падціраха* 'прыбіральшчыца', *абкрываха* 'вялікая хустка'.

§ 435. Суфікс *-іх-а (-ых-а)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і назоўнікаў.

А д д з е я с л о ў н ы я ўтварэнні маюць значэнне 'прадмет — носьбіт працэсуальнай прыметы'. Гэта назвы раслін: *абляпіць — абляпіха, заразіць — заразіха;* насякомых: *скакаць — скачыха (абл.)*.

Фінальная галосная асновы інфінітыва перад суфіксам адсякаецца. Асобна стаіць слова *шуміха*, якое мае адцягненае працэсуальнае значэнне.

Чаргуюцца *к—ч: скакаць — скачыха.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

А д н а з о ў н і к а в ы я утварэнні складаюць тры семантычныя тыпы.

1. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем 'асоба жаночага полу'. Утваральнымі выступаюць агульныя і ўласныя назоўнікі са значэннем асобы мужчынскага полу: *кравец — краўчыха, майстар — майстрыха, повар — павaрыха, сторож — старажыха, ткач — ткачыха.*

2. Назоўнікі са значэннем 'жонка таго, хто названы ўтваральным словам': *каваль — каваліха, генерал — генераліха, ляснік — лесні́чыха, Лявон — Лявоніха, старшыня — старшыніха, Сымон — Сымоніха.*

3. Назоўнікі, якія абазначаюць самак жывёлін: *воўк — ваўчыха, зайчыха, сла    ніха, трусіха.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *слон — сланіха, Антон — Антоніха*, а таксама *ц—ч, к—ч: заяц — зайчыха, воўк — ваўчыха.*

Націск на суфіксе ў словах, утвораных ад аднаскладовых назоўнікаў (*зубр — зубрыха*), у астатніх — часцей за ўсё на тым складзе, што і ва ўтваральным слове (*мядзве́дзь — мядзве́дзіха*), а л е *за́яц — зайчы́ха* і інш.

Тып прадуктыўны ў гутарковым стылі.

§ 436. Суфікс *-ух-а (-юх-а)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў, прыметнікаў, назоўнікаў і лічэбнікаў.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць асоб і жывых істот паводле іх дзеяння: *балбатаць — балбатуха, вяртуха, рагатуха, фарсуха, шаптуха* (усе *разм.*); *грызці — грызуха, квактуха, сакатуха*, а таксама рэчывы, з'явы прыроды як вынік ці суб'ект названага дзеяння: *пацерці — пацяруха, завірыць — завіруха.*

Фінальная галосная ўтваральнай асновы адсякаецца: *фарсіць — фарсуха, вярцець — вяртуха.* Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі.

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове пры ўтварэнні назваў, якія характарызуюць асобу.

З а ў в а г а. Назвы асоб на *-уха* суадносяцца таксама з назоўнікамі — назвамі асоб мужчынскага полу (*крыкун — крыкуха*).

2. Назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы: *галадаць — галадуха, гаваруха, паказуха (праст.).*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у экспрэсіўнай мове.

А д п р ы м е т н і к а в ы я ўтварэнні абазначаюць асоб, рэчывы і з'явы паводле прыметы, названай утваральным словам: *вясёлы — вясялуха, маладуха, таўстуха, хітруха, медавуха (разм.), сівуха, жаўтуха (мед.), сінюха (бат., мед.)*.

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць пры ўтварэнні назваў асоб.

З а ў в а г а. Назвы асоб на *-уха* суадносяцца таксама з назоўнікамі са значэннем асобы мужчынскага полу (*хітрун — хітруха*).

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні абазначаюць прадметы паводле адносін да таго, што названа ўтваральным словам: *нос — насуха* (жывёліна), *сярпуха* і *свінуха* (расліны), *пладуха* (галіна з пладамі).

Тып непрадуктыўны.

Ад л і ч э б н і к а *сёмы* ўтворана слова *сёмуха.*

## Суфіксы са структурным элементам *-ц-*

§ 437. Суфікс *-іц-а (-ыц-а)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў і назоўнікаў.

А д п р ы м е т н і к а в ы я назоўнікі абазначаюць адушаўлёныя і неадушаўлёныя прадметы паводле прыметы, названай утваральным словам. Сюды адносяцца назвы асоб ці іх групы: *малады — маладзіца, модніца, няўдаліца, разумніца, нявінніца, вольніца (уст.), конніца;* назвы насякомых і птушак: *капусны — капусніца, сініца;* раслін: *аўсяны — аўсяніца, гарчыца, касцяніца, кісліца, чарніца;* частак цела чалавека, жывёлы, расліны: *паясны — паясніца, рагавіца, грыбніца;* назвы памяшканняў: *цёмны — цямніца, цяпліца, святліца;* хвароб: *грудны — грудніца, крапіўніца;* абстрактных паняццяў: *дробны — драбніца, таямніца, бяссоніца.* Некаторыя назоўнікі па семантыцы сінанімічныя са словазлучэннямі: *крапіўніца — крапіўная ліхаманка, рагавіца — рагавая абалонка.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *грыбны — грыбніца, светлы — святліца;* заднеязычныя — з шыпячымі: *горкі — гарчыца.*

Націск на суфіксе, радзей — на корані (*аўся́ніца, конніца, модніца, надкосніца*).

Тып малапрадуктыўны.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць прадметы, што характарызуюцца адносінамі да таго, што названа ўтваральным словам. Сюды належаць назвы раслін паводле іх падабенства да адпаведных прадметаў: *мята — мятліца, іглі́ца;* назвы прадметаў паводле іх прызначэння: *аканіца.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем жаночасці. Да іх адносяцца назвы асоб жаночага полу паводле якіх-небудзь уласцівых ім рыс ці займаемай пасады, назвы жонкі таго, хто названы ўтваральным словам: *работніца, ударніца, імператар — імператрыца, цар — царыца;* назвы самак жывёлін: *воўк — ваўчыца, львіца, мядзведзіца.*

Фіналь *-ык (-ік)* перад суфіксам адсякаецца (*дружыннік — дружынніца, шыфравальшчык — шыфравальшчыца*).

Перад суфіксам чаргуюцца *к—ч: воўк — ваўчыца; е — нуль гука: леў — львіца.*

Націск на суфіксе або перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны пры ўтварэнні назваў асоб мужчынскага полу на -*ык*-(-*ік*), -*нік*.

§ 438. Суфікс -*авіц-а*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і назоўнікаў.

Аддзеяслоўныя ўтварэнні абазначаюць з'явы прыроды, дзеянне, стан, якія характарызуюцца адпаведным дзеяннем: *бліскаць — бліскавіца, дыхавіца, касавіца.*

Фінальная галосная перад суфіксам адсякаецца.

Націск на суфіксе, але *ды́хавіца.*

Тып непрадуктыўны.

Адназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць прадметы паводле іх прызначэння: *рука — рукавіца, нага — нагавіца.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 439. Суфікс -*ніц-а*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем 'прадмет, прызначаны для змяшчэння таго, што названа ўтваральным словам': *мыльніца, памыйніца, пасудніца, пірожніца, пясочніца, салатніца, скарбніца, тварожніца, хлебніца;* 'асоба па яе адносінах да прадмета, абазначанага ўтваральным словам': *смятана — смятанніца* (пра ахвочую да смятаны), *блінніца, супніца* (усе — *разм.*).

Перад суфіксам чаргуюцца *л—л': мыла — мыльніца;* заднеязычныя — з шыпячымі: *пірог — пірожніца, пясок — пясочніца.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове; у словах, утвораных ад аднаскладовых назоўнікаў,— на суфіксе (*газ—газні́ца*).

Тып прадуктыўны.

2. Назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем асобы жаночага полу. Яны ўтвараюцца ад назваў асоб мужчынскага полу з суфіксам -*нік: абраннік — абранніца, вандроўніца, заступніца, насмешніца, памочніца, прыхільніца, удзельніца, чараўніца.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць прадметы, прызначаныя для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам: *даіць — дайніца, запальніца, прасніца, церніца, шаткаўніца.*

Націск на суфіксе, а ў словах, утвораных ад аднаскладовых асноў,— на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып непрадуктыўны.

§ 440. Суфікс -*льніц-а*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і складаюць два тыпы.

1. Назвы прадметаў (ёмістасцей), прызначаных для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам: *паласкаць — паласкальніца, плявальніца.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія абазначаюць асоб жаночага полу — выканаўцаў дзеяння, названага ўтваральным словам: *захоўваць — захавальніца, наглядальніца, наведвальніца, пачынальніца.*

Перад суфіксам канцавая галосная інфінітыўнай асновы захоўваецца.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып прадуктыўны.

Назоўнікі гэтага тыпу суадносяцца таксама з назвамі асоб мужчын-

скага полу на *-льнік* і могуць разглядацца як утвораныя ад іх з дапамогай суфікса *-іц-а* (з адсячэннем фіналі ўтваральнага слова *-ік*): *наведвальнік — наведвальніца.*

§ 441. Суфікс *-шчыц-а/-чыц-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і абазначаюць асоб жаночага полу па адносінах да аб'екта, іх заняткаў: *буфет — буфетчыца, газетчыца, кулямётчыца, лётчыца, табельшчыца, тэкстыльшчыца.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып прадуктыўны.

Словы гэтага тыпу суадносяцца таксама з назоўнікамі мужчынскага полу адпаведнай семантыкі (*тэкстыльшчык — тэкстыльшчыца*). У такім выпадку яны разглядаюцца як утварэнні з суфіксам *-іц-а* з мадыфікацыйным значэннем 'асоба жаночага полу'.

§ 442. Суфікс *-льшчыц-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і абазначаюць асоб жаночага полу паводле дзеяння, якое яны выконваюць: *вязаць—вязальшчыца, прыбіральшчыца, трапальшчыца, цыравальшчыца.*

Назоўнікі гэтага тыпу суадносяцца таксама з назвамі асоб мужчынскага полу (*купальшчык — купальшчыца*). У такім разе яны разглядаюцца як адназоўнікавыя ўтварэнні з суфіксам *-іц-а* (*-ыц-а*) з мадыфікацыйным значэннем 'асоба жаночага полу'. Пры іх утварэнні ва ўтваральных асновах адсякаецца фіналь *-ік.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны.

§ 443. Суфікс *-асць.* Назоўнікі з суфіксам *-асць* утвараюцца ад дзеясловаў і прыметнікаў.

Аддзеяслоўныя ўтварэнні абазначаюць адцягнены стан паводле дзеяння (стану), названага ўтваральным словам: *дурэць — дурасць, рэўнасць, хворасць.*

Перад суфіксам канцавая галосная асновы інфінітыва і *-ава-* адсякаюцца.

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

Адпрыметнікавыя ўтварэнні маюць адцягненае значэнне прыметы і ўласцівасці: *варожы — варожасць, вольнасць, ізаляванасць, лютасць, маштабнасць, мяккасць, непарыўнасць, нікчэмнасць, смеласць, спагадлівасць, старажытнасць.*

Назоўнікі, утвораныя ад адносных адсубстантыўных суфіксальных і суфіксальна-складаных прыметнікаў, абазначаюць наяўнасць той адзнакі, што названа ўтваральным словам: *воблачны — воблачнасць, інваліднасць, планавасць.* Рад назоўнікаў гэтага тыпу абазначае зменлівую апрадмечаную прымету, якая праяўляецца ў рознай ступені і можа вымярацца: *водны — воднасць, газаноснасць, рэнтабельнасць, тлустасць, хуткасць.*

Некаторыя назоўнікі маюць другаснае значэнне 'носьбіт прыметы' у адносінах да чалавека: *бяздарнасць, знакамітасць, індывідуальнасць, рэдкасць;* да месца, прасторы і інш.: *антычнасць, выпукласць, ёмкасць, плоскасць, радасць.*

У якасці ўтваральных выступаюць прыметнікі невытворныя: *цвёрды — цвёрдасць;* з суфіксамі: *-н-* (*маштабны — маштабнасць*), *-ав-* (*класавы — класавасць*), *-ів-* (*плаксівы — плаксівасць*), *-ічн-* (*катастрафічны — катастрафічнасць*); прэфіксальна-суфіксальныя з суфіксамі *-ов-* (*бесталковы — бесталковасць*), *-лів-* (*незласлівы — незласлівасць*); суфіксальна-складаныя з суфіксамі *-ів-* (*міралюбівы — міралюбівасць*), *-лів-* (*добразычлівы — добразычлівасць*).

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *крайні — крайнасць, рэдкі — рэдкасць*.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны ў кніжных стылях мовы.

§ 444. Суфікс *-насць*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і прыметнікаў.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць адцягнены стан паводле таго, што названа ўтваральным словам: *гатавацца—гатоўнасць, быць—бытнасць*.

Утваральная — уся форма інфінітыва (з чаргаваннем *ц'—т*).

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

Ад асновы прыметніка *жывы* ўтворан назоўнік *жыўнасць* са зборным значэннем.

§ 445. Суфікс *-ацыj-а*. Назоўнікі з суфіксам *-ацыj-а* і яго варыянтамі *-іцыj-а, -енцыj-а, -цыj-а, -ыj-а* (арфаграфічна словы на *-ацыя, -яцыя, -іцыя, -ыцыя, -энцыя*) утвараюцца ад дзеясловаў, назоўнікаў і прыметнікаў.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць пераважна адцягненае дзеянне: *акупіраваць — акупацыя, газіфікацыя, кантрактацыя, кінафікацыя, ліквідацыя, нумарацыя, публікацыя, рытмізацыя, спекуляцыя, стылізацыя, утылізацыя, фільтрацыя, электрыфікацыя*.

Некаторыя назоўнікі могуць мець другасныя значэнні: выніку дзеяння, прыстасавання, прылады: *анатацыя, арганізацыя, вентыляцыя, ізаляцыя*, а таксама групы асоб ці ўстановы: *эміграцыя, інспекцыя, рэдакцыя*. У якасці ўтваральных выступаюць дзеясловы на *-аваць* (*ліквідаваць — ліквідацыя*), *-ізаваць* (*рэалізаваць—рэалізацыя*), *-іраваць* (*акупіраваць — акупацыя*). Пры ўтварэнні гэтыя часткі інфінітыўнай асновы адсякаюцца.

Перад суфіксам чаргуюцца цвёрдыя зычныя з мяккімі: *рэвізаваць—рэвізія; ц—к: дыслацыраваць — дыслакацыя; д—з': прэтэндаваць — прэтэнзія*.

У словах з суфіксамі *-ацыj-а, -ыцыj-а* націск на суфіксе, з *-цыj-а, -ыj-а* — на аснове.

Прадуктыўнасць у кніжнай мове мае тып на *-ацыя*.

Аднazoўнікавыя ўтварэнні з суфіксам *-ацыj-* і яго варыянтам *-ізацыj-* (арфаграфічна словы на *-ацыя (-яцыя), -ізацыя (-ызацыя)*) маюць значэнне дзеяння ці стану паводле адносін да таго, што названа ўтваральным словам: *дыспетчар — дыспетчарызацыя, кантэйнер — кантэйнерызацыя, маршрут — маршрутызацыя, прадмет — прадметызацыя* (напрыклад, *прадметызацыя навучання*), *рубрыка — рубрыкацыя*.

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

Ад асновы прыметніка *новы* ўтворана слова *навацыя*.

§ 446. Суфікс *-ч-а*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў *даць* (таксама ад яго вытворных) і *здабыць*. Яны абазначаюць дзеянне, сумяшчаючы гэта значэнне са значэннем назоўніка як часціны мовы: *выдача, здабыча, падача, перадача, раздача, удача*.

Націск той, што і ва ўтваральных словах.

Тып непрадуктыўны.

§ 447. Суфікс *-ш-а*. З гэтым суфіксам у слоўніках літаратурнай мовы зафіксаваны адзінкавыя словы: *квакша (квакаць), ляўша (левы)*; у ТСБМ: *манікюрша, міністэрша, педыкюрша*; у РБС-82 гэтых слоў няма, замест іх падаюцца ўтварэнні з суфіксам *-к-а: манікюрка, педы-*

*кюрка* і з суфіксам *-ых-а: міністрыха (прастам.)*. Утварэнні з суфіксам *-ш-а* са значэннем асобы жаночага полу (дэрываты ад назваў асоб мужчынскага полу) сустракаюцца часцей за ўсё ў творах мастацкай літаратуры (І. Шамякін, Е. Лось і інш.).

## Суфіксы назоўнікаў ніякага роду

### Суфіксы са структурным элементам *-в-*

§ 448. Суфікс *-в-а (-в-о)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і абазначаюць працэс дзеяння ці маюць другаснае значэнне аб'екта або выніку дзеяння. Утваральнай выступае ўся аднаскладовая форма інфінітыва, радзей — аснова інфінітыва: *піць — пітво* (з чаргаваннем *ц'—т), шыць—шытво* і *шво.*

Націск на канчатку.

Тып непрадуктыўны.

§ 449. Суфікс *-ів-а (-ыв-а)*. Назоўнікі з суфіксам *-ів-а (-ыв-а)* утвараюцца ад дзеясловаў і зрэдку — ад прыметнікаў.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць сукупнасць прадметаў, рэчы, што ўзніклі ў выніку дзеяння або з'яўляюцца аб'ектам ці прыладай дзеяння, названага ўтваральным словам: *варыць — варыва, крэсіва, курыва, месіва, мроіва, паліва, печыва.*

Гэтыя назоўнікі маюць значэнне апрадмечанага дзеяння, а таксама другасныя значэнні выніку ці аб'екта дзеяння.

Слова *жніво* ўтворана ад асновы цяперашняга часу: *жн-уць—жніво.*

Націск на перадсуфіксальным складзе або на суфіксе ці канчатку.

Тып непрадуктыўны.

Ад асновы прыметніка ўтвораны асобныя назоўнікі, якія абазначаюць адцягненую прымету ці рэчыва паводле адпаведнай прыметы: *зялёны — зяленіва, маладое малако — малодзіва.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *жнуць — жніво, малоць — мліва.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

§ 450. Суфікс *-ств-а (-цтв-а, -ств-о)*. Назоўнікі з суфіксам *-ств-а* (пасля асноў на *к, т, ц, ч — цтв-а)* утвараюцца ад прыметнікаў, назоўнікаў, дзеясловаў і зрэдку лічэбнікаў.

Адпрыметнікавыя назоўнікі складаюць некалькі тыпаў.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць адцягненыя якасці або ўласцівасці: *знаёмы — знаёмства, прыгоства, п'янства, умельства.*

Фіналі ўтваральнай асновы *-тн-, -цк-, -ж-, -ш-* перад суфіксам адсякаюцца: *далікатны — далікацтва, дзівацкі — дзівацтва, прыгожы — прыгоства, харошы — хараство.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып прадуктыўны ў кніжнай мове.

2. Назоўнікі са значэннем 'прадмет ці з'ява, якія характарызуюцца прыметай, названай утваральным словам'. Яны маюць тры семантычныя падтыпы: а) назвы сукупнасці асоб: *сямейны — сямейства, духоўныя асобы — духавенства, дваранства, сялянства;* б) назвы ўстановы: *выдавецкі — выдавецтва, казначэйства, параходства;* в) назвы, якія абазначаюць адзін прадмет: *боскі — бажаство.*

Перад суфіксам фіналі ўтваральнай асновы *-н-, -ск-, -цк-* адсякаюцца.

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

Адназоўнікавыя ўтварэнні абазначаюць уласцівасць або занятак асобы, названай утваральным словам: *какетка — какецтва, начальніцтва, начальства* (параўн.: *пад начальствам), падданства.*

Фіналі асновы ўтваральных слоў *-к-, -нік адсякаюцца: какетка — какецтва, начальнік — начальства і начальніцтва.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып непрадуктыўны.

Рад адпрыметнікавых назоўнікаў з адцягненым значэннем прыметы, уласцівасці апасродкавана суадносіцца таксама з назоўнікамі, ад якіх утвораны прыметнікі.

Назоўнікі, ускосна (апасродкавана) суадносныя з агульнымі назвамі асоб, абазначаюць уласцівасць характару, рысу паводзін і інш.: *герой — геройства, дзівацтва;* роднасныя адносіны: *маці — мацярынства, кумаўство;* узроставы стан: *дзіця—дзяцінства, юнацтва;* ідэалагічную плынь: *народнік — народніцтва, славянафільства;* рэлігійны кірунак: *католік — каталіцтва, мусульманства;* занятак: *акцёр—акцёрства, сталярства (разм.), шпіёнства;* становішча паводле пасады: *брыгадзір — брыгадзірства (разм.), дырэктарства;* блізкасць па ўласцівасці характару, па паводзінах да пэўнай асобы: *барын — барства, лакейства, панства, падхалімства.*

Назоўнікі, апасродкавана суадносныя з назвамі жывёл, абазначаюць падабенства ў паводзінах з данай жывёлай: *папугайства, свінства.*

Назоўнікі, якія апасродкавана суадносяцца з імёнамі і прозвішчамі гістарычных дзеячаў і літаратурных персанажаў, абазначаюць грамадскую ці ідэалагічную плынь, звязаную з гэтым іменем: *Кант — кантыянства, Талстой — талстоўства;* блізкасць па ўласцівасцях характару, паводзінах да пэўнай асобы: *донжуан — донжуанства.*

Назоўнікі з адцягненым значэннем прыметы могуць набываць другасныя значэнні: *пасольства* 'установа', *братэрства* 'аб'яднанне', *каралеўства* 'тэрыторыя пад уладай асобы', *сялянства, студэнцтва* 'група асоб'.

Некаторыя з назоўнікаў могуць разглядацца як суадносныя адначасова з прыметнікамі і назоўнікамі: *дырэктарства (дырэктарскі* і *дырэктар), лакейства (лакейскі* і *лакей).* Аднак той факт, што ў саставе вытворных паўтараюцца структурныя кампаненты адпаведных адносных прыметнікаў, сведчыць аб тым, што назоўнікі з суфіксам *-ств-а* ўтвараюцца толькі ад прыметнікаў, параўн. *дзіця — дзяціны — дзяцінства, маці — мацярынскі — мацярынства, кант — кантыянскі — кантыянства, серадняк — серадняцкі — серадняцтва.*

Утваральнымі выступаюць прыметнікі з суфіксамі *-ін- (дзяціны — дзяцінства), -ск- (-цк) (рабскі — рабства, казацкі — казацтва), -ыянск- (кантыянскі — кантыянства).*

Фінальная частка ўтваральнай асновы *-ск-, -цк-* адсякаецца *(рабскі — рабства, серадняцкі — серадняцтва).*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны.

Аддзеяслоўныя назоўнікі абазначаюць адцягненае дзеянне або стан ці вынік дзеяння: *дзяжурыць—дзяжурства, прытворства, свавольства, спаборніцтва, хадайніцтва, вынаходства.*

Канцавая галосная інфінітыўнай асновы, а таксама *-ва-, -ча-* адсякаюцца: *дзяжурыць — дзяжурства; хадайнічаць — хадайніцтва, расстройваць — расстройства.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны.

Адлічэбнікавыя назоўнікі абазначаюць адцягненае колькас-

нае паняцце паводле значэння ўтваральнага слова: *многа — мноства, першы — першынство* (праз ступень *першыня).*

Тып непрадуктыўны.

## Суфіксы са структурным элементам *-л-*

§ 451. Суфікс *-л-а( -л-о).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне асобы, што выконвае дзеянне, названае ўтваральным словам, ці прадмета, прызначанага для ажыццяўлення гэтага дзеяння. Асабовыя назоўнікі называюць асоб па прафесіі ці схільнасці да дзеяння, з адценнем непахвальнасці: *запяваць — запявала, граміла, зубрыла, хныкала, трапло* (усе — *разм.*). Неасабовыя назоўнікі абазначаюць прылады, прыстасаванні, памяшканні для выканання дзеяння: *грузіць — грузіла, давіла, зубіла, пакрывала, пудзіла, скрэбла, сукала, сядло, трапло, цёрла, шыла, стойла, седала.*

Перад суфіксам фінальная галосная асновы інфінітыва захоўваецца, за выключэннем *сядаць — сядло, трапаць — трапло, цягаць — цягло.* Слова *жытло* ўтворана ад формы інфінітыва цалкам, з чаргаваннем *ц'—т.*

Націск пераважна на перадсуфіксальным складзе, на флексіі ў словах *жытло, сядло, трапло, цягло.*

Тып прадуктыўны ў размоўным стылі і спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 452. Суфікс *-дл-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў. Яны абазначаюць прылады *каваць — кавадла;* прадметы, прызначаныя для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам: *крапіць — крапідла, страшыць — страшыдла.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны ў літаратурнай мове; больш пашыраны яго ўтварэнні ў дыялектнай мове *(матаць — матавідла, малявідла, снавадла, лічыдла, красідла* і інш.).

## Суфіксы са структурным элементам *-н-*

§ 453. Суфікс *-ян-я (-ян-ё).* Назоўнікі з гэтым суфіксам (арфаграфічна яшчэ *-ан-я, -ан-ё*) утвараюцца ад назоўнікаў і маюць мадыфікацыйнае значэнне 'маладая істота': *бабёр — бабран-я (-ё), ваўчан-я (-ё), куран-я(ё), кацян-я(ё), ласян-я(-ё), лісян-я(ё).*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: заднеязычныя — з шыпячымі: *сабака — сабачаня(ё); в—ў: журавель — жураўляня(ё)* і галосны — з нулём гука: *леў — ільвян-я(ё).*

Націск на флексіі.

Тып прадуктыўны.

§ 454. Суфіксы *-нн-е, -енн-е (-энн-е).* Назоўнікі з гэтымі суфіксамі ўтвараюцца ад дзеясловаў і складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі з суфіксам *-нн-е* са значэннем 'прадмет, які характарызуецца дзеяннем, названым утваральным словам'. Такія назоўнікі абазначаюць суб'ект, аб'ект ці вынік дзеяння і не маюць працэсуальнага значэння: *адзець — адзенне, званне, пасланне.*

Перад суфіксам фінальная галосная асновы інфінітыва захоўваецца.

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі з суфіксамі *-нн-е, -енн-е, -энн-е,* якія маюць значэнне апрадмечанага дзеяння. Утваральнымі з'яўляюцца пераважная большасць дзеясловаў вытворных і невытворных.

Суфікс *-нн-е* выступае пасля асновы інфінітыва з захаваннем фінальнага галоснага (*апіса-ць — апіса-нне, чыта-ць — чыта-нне*), *-енн-е (-энн-е)* — пасля асноў на зычны ці адсякаемы галосны *і, а* з чаргаваннем *ц'—ч*, «губны — губны + л»: *карміць — кармл-енне, скараціць — скарач-энне, аднаўленне, аслабленне, вызваленне, выпадзенне, захапленне, здзіўленне, змякчэнне, павышэнне, плаўленне, скарачэнне, скрыўленне, спляценне, спусташэнне, спыненне, укараненне.*

Рад назоўнікаў гэтага тыпу побач з асноўным працэсуальным значэннем мае другаснае, канкрэтнае значэнне: а) месца дзеяння: *зімаванне, памяшканне* (ад *памяшчацца*, з чаргаваннем *шч—шк*); б) суб'ект дзеяння: *камандаванне, праўленне;* в) прадмет (адзінкавы ці сукупнасць іх) як аб'ект ці вынік дзеяння: *аб'яднанне, вязанне, дзяржанне, збудаванне;* г) прылада, сродак ажыццяўлення дзеяння: *зазямленне, угнаенне.*

У назоўніках з суфіксам *-нн-е* націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах, з суфіксам *-енн-е (-энн-е)* — на суфіксе.

Тып высокапрадуктыўны ў розных моўных сферах.

§ 455. Суфікс *-інн-е.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў, якія ўваходзяць у склад словазлучэнняў, і дзеясловаў.

Назоўнікі, утвораныя ад п р ы м е т н і к а ў, абазначаюць адыходы пры апрацоўцы чаго-небудзь: *гарохавая* (салома) — *гарохавінне;* прадмет як вынік дзеяння каго-небудзь: *кротавыя хады* (наточаны) — *кратавінне.*

Назоўнікі, утвораныя ад д з е я с л о в а ў, абазначаюць прадмет як вынік пэўнага дзеяння: *пілаваць — пілавінне.*

Можна дапусціць і магчымасць суаднясення назоўнікаў гэтага тыпу з множналікавымі назоўнікамі *гарохавіны, кратавіны, пілавіны,* якія бытуюць у дыялектах. У такім выпадку ў іх вылучаецца суфікс *-j-*.

Націск на суфіксе, а л е *гарохавінне.*

Тып непрадуктыўны.

§ 456. Суфікс *-ільн-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад н а з о ў н і к а ў і абазначаюць састаўную частку прылад: *вуда — вудзільна, граблі — грабільна* (з адсячэннем фіналі *-л-*), *каса — касільна, цэп — цапільна, біч — бічыльна (абл.).*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

### Суфіксы са структурным элементам *-ч-*

§ 457. Суфікс *-ішч-а (-ышч-а).* Назоўнікі з суфіксам *-ішч-а* і яго варыянтамі *-лішч-а, -авішч-а, -бішч-а* ўтвараюцца ад назоўнікаў, дзеясловаў і прыметнікаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні з суфіксам *-ішч-а (-ышч-а)* складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем 'частка прадмета, названага ўтваральным словам'. Яны абазначаюць ручку прылады: *мятла — мятлішча, тапор — тапарышча,* а таксама *каранішча.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія абазначаюць: а) месца паводле прадмета, які на ім знаходзіцца, ці паводле дзеяння, якое тут адбываецца: *гліна — глінішча* 'месца здабычы гліны', *двор — дварышча* 'участак з хатай і дваровымі будынкамі', *рэчышча* 'паглыбленне на паверхні зямлі, па якім цячэ рака', *гульбішча (уст.);* б) месца, дзе раней знаходзіўся прадмет

ці адбывалася дзеянне: *горад — гарадзішча, двор — дворышча, печ — печышча, пажар — пажарышча.* Утваральнымі выступаюць невытворныя назоўнікі і аддзеяслоўныя з суфіксам *-б-а.* Некаторыя вытворныя назоўнікі з суфіксам *-ішч-а* з'яўляюцца сінонімамі да ўтваральных (*агонь — вогнішча, дно—днішча, логава—логавішча*).

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі (*гліна — глінішча*), галосныя — з нулём гука (*пень — пнішча*), заднеязычныя — з шыпячымі (*замак — замчышча*).

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

Аддзеяслоўныя назоўнікі з суфіксамі *-ішч-а, -лішч-а, -бішч-а* складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем прадмета, якія характарызуюцца адпаведным дзеяннем. У словах *вучылішча, чысцілішча, стойбішча* выступаюць морфы *-лішч-а, -бішч-а,* у астатніх выпадках — *-ішч-а;* у слове *прыстанішча* выкарыстана аснова цяперашняга часу (*прыстануць*).

Націск на перадсуфіксальным складзе, рэдка — на суфіксе: *такавішча.*

Тып малапрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія называюць апрадмечанае дзеянне паводле ўтваральнага дзеяслова: *гняздзіцца — гнездзішча, ігрышча, зборышча, пабоішча.* Некаторыя з іх маюць другаснае значэнне сукупнасці асоб (*зборышча*) ці месца (*гнездзішча*).

Націск на перадсуфіксальным складзе, але *ігры́шча.*

Тып непрадуктыўны.

Адпрыметнікавыя ўтварэнні з суфіксам *-ішч-а* складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем часткі прадмета. Звычайна яны ўтвараюцца ад адносных прыметнікаў з суфіксам *-ов-* (*-ав-*): *кайловы — кайлавішча, нажовы — нажавішча* 'вострая частка нажа', *молатавы — малатавішча.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі з прасторавым значэннем. Яны суадносяцца са словазлучэннямі «назоўнік + адносны прыметнік з суфіксамі *-н-, -ін-, -ян-, -ов-*» і абазначаюць месца, якое характарызуецца адпаведнай прыметай: *жытняе поле — жытнішча,* адпаведна *аўсянішча, балацянішча, бульбянішча, гарохавішча, грачанішча, стогавішча.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах; перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі.

Тып прадуктыўны ў сельскагаспадарчай тэрміналогіі і ў гутарковым стылі.

### Суфіксы са структурным элементам -j-

§ 458. Суфіксы *-j-/-oўj-.* Назоўнікі з суфіксамі *-j-/-oўj-* (арфаграфічна словы на *-'е, -'ё: пер'е, звяр'ё; -е, -ё* пасля «*ў*»: *здароўе, пугаўё*) утвараюцца ад дзеясловаў, прыметнікаў і назоўнікаў. Суфікс *-j-* захоўваецца ў сучаснай літаратурнай мове толькі пасля асноў на губныя зычныя ці *р,* у астатніх выпадках ён асіміляваўся з папярэднім зычным, выклікаўшы яго падваенне; параўн. *пяро — пер'е* (*п'эрjэ*) і *багаты — багацце.*

Аддзеяслоўныя назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія называюць прадмет як вынік адпаведнага дзеяння: *атрэпваць — атрэп'е, зрэб'е* (*згрэб'е*), *ламаць — лам'ё.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія называюць месца адпаведнага дзеяння ці прадмет — вынік дзеяння: *гнездавацца — гняздоўе, зімоўе, адмаўляць (адмовіць) — адмоўе.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

А д п р ы м е т н і к а в ы я назоўнікі называюць месца, прастору паводле прыметы, абазначанай утваральным словам: *нізавы* (нізавая частка) — *нізоўе,* адпаведна *вярхоўе, нечарназем'е.* Адасоблена слова *пугаўё* (пугавая ручка).

Націск на перадсуфіксальным складзе, а л е *пугаўё.*

Тып непрадуктыўны.

А д н а з о ў н і к а в ы я ўтварэнні з суфіксамі *-j-/-оўj-* (арфаграфічна — словы на *-е, -ё, -оўе, -аўе)* абазначаюць сукупнасць прадметаў ці жывых істот, названых утваральным словам: *купіна — куп'е, куст — кустоўе (разм.), пнеўе, пер'е; ваўкаўё, гадаўё, звяр'ё; афіцар'ё (разм., пагард.), баб'ё (разм., пагард.).*

Націск на канчатку або на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны ў літаратурнай мове, больш актыўны ў дыялектнай мове.

## Суфіксы назоўнікаў агульнага роду

### Суфіксы са структурным элементам *-г-*

§ 459. Суфікс *-яг-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад д з е я с л о в а ў і а д д з е я с л о ў н ы х н а з о ў н і к а ў і абазначаюць асобу, якая характарызуецца адпаведным дзеяннем: *бадзяцца — бадзяга, дзяляга, рабацяга, трудзяга, туляга* (Я. Колас).

Ад асновы назоўніка недзеяслоўнага паходжання *стыль* утворана *стыляга.* Асобна стаіць слова *пісяга* з прадметным значэннем.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *труд — трудзяга, пісаць (перан.) — пісяга.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове. Словы маюць фамільярную афарбоўку.

§ 460. Суфікс *-уг-а (-юг-а).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і прыметнікаў.

А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі абазначаюць асоб паводле характэрнага для іх дзеяння і маюць афарбоўку ўніжальнасці: *валачыцца — валацуга* (з чаргаваннем *ч—ц), хапаць—хапуга.*

Канцавы галосны інфінітыўнай асновы адсякаецца.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

А д п р ы м е т н і к а в ы я назоўнікі абазначаюць асоб па характэрнай для іх негатыўнай прымеце, названай утваральным словам: *подлы — падлюга, спрытнюга, хітруга* (усе — *разм.).*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковым стылі і ў мове мастацкай літаратуры.

### Суфіксы са структурным элементам *-к-*

§ 461. Суфікс *-к-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад д з е я с л о в а ў і абазначаюць асоб, якія характарызуюцца адпаведным

дзеяннем: *выскокваць — выскачка, зазнаj(эцца) — зазнайка, прасіць— проська, служка.*

Перад суфіксам канцавая галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца.

Націск на перадсуфіксальным складзе, а л е *выскачка.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 462. Суфікс *-ак-а (-як-а).* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў. Яны абазначаюць асоб па характэрных для іх дзеяннях, звычайна з адценнем іроніі ці непахвальнасці: *выскаляцца— выскаляка, выхваляка, гуляка, задавака, задзірака, зявака, крыўляка, пісака, разявака, умека, чытака* (усе — *разм.*), *ваяка.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове і прастамоўі.

§ 463. Суфікс *-юк-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і абазначаюць асоб паводле ўласцівага ім дзеяння: *зліцца — злюка, маніць — манюка.*

У працэсе ўтварэння фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

### Суфіксы са структурным элементам *-л-*

§ 464. Суфікс *-л-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў. Яны абазначаюць асоб паводле ўласцівага ім дзеяння: *абдзіраць — абдзірала, абірала, аб'ядала, дурыла, заграбала, запявала, зубрыла, мяняла.*

Утваральныя — асновы інфінітыва з захаваннем фінальнай галоснай *(запявала)* і асновы цяперашняга часу *(падмятайла).*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып мае прадуктыўнасць у гутарковым стылі мовы.

### Суфіксы са структурным элементам *-с-*

§ 465. Суфікс *-с-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў. Яны абазначаюць асоб паводле характэрнага для іх дзеяння: *крычаць — крыкса, плакаць — плакса.* Утварэнні маюць уніжальную афарбоўку.

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца *(крычаць— крыкса).*

Перад суфіксам чаргуюцца *ч—к.*

Націск на аснове.

Тып непрадуктыўны.

### Суфіксы са структурным элементам *-ц-*

§ 466. Суфікс *-іц-а.* Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў. Яны характарызуюць асоб паводле адпаведнай прыметы, названай утваральным словам: *дурны — дурніца, тупы — тупіца (разм., пагард.).* Утварэнні належаць да лаянкавай лексікі.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

Адзінкавыя назоўнікі агульнага роду ўтвораны з дапамогай суфіксаў: *-ёх-а (чысты — чысцёха), -он-я (ціхі — ціхоня).*

## Суфіксы множналікавых назоўнікаў

§ 467. Множналікавыя назоўнікі ўтвараюцца з дапамогай суфіксаў *-ік-і, -ін-ы, -к-і, -лк-і, -льнік-і, -ошч-ы, -унк-і, -ушк-і, -эл-і, -яшк-і.*

§ 468. Суфікс *-ін-ы (-ын-ы)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад дзеясловаў і абазначаюць апрадмечанае дзеянне: *аглядаць — агледзіны, адведзіны, адносіны, адыходзіны, даносіны (абл.), загавіны, закладзіны, заручыны* і *запоіны, змовіны (абл.), зносіны, паводзіны, расходзіны*. Большасць утварэнняў называе абрады (*закладзіны, заручыны, запоіны, расходзіны*).

Фінальная галосная асновы інфінітыва і *-ва-* адсякаюцца: *закладваць — закладзіны, расходзіцца — расходзіны*. Перад суфіксам парнацвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *аглядаць — агледзіны; ўл — в: змаўляцца — змовіны.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып мае прадуктыўнасць у гутарковым стылі (*запросіны, закосіны*).

Ад назоўнікаў і прыметнікаў з дапамогай суфікса *-ін-ы (-ын-ы)* утвораны семантычна адасобленыя назоўнікі *гарохавіны* і *гарошыны (гарох, гарохавы), разваліны (развалы), саладзіны (солад), імяніны (імя).*

§ 469. Суфікс *-ік-і (-ык-і)*. З дапамогай гэтага суфікса ад беспрэфіксальных дзеясловаў утвараюцца назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы: *дурэць — дурыкі, мудрыць — мудрыкі, хітрыць — хітрыкі*. Утварэнні ўласцівы гутарковаму стылю мовы.

Перад суфіксам фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца (*дрыжаць — дрыжыкі*).

Націск на корані.

Тып непрадуктыўны.

§ 470. Суфікс *-к-і*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ў асноўным ад дзеясловаў і складаюць тры тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненай працэсуальнай прыметы. Часцей за ўсё яны абазначаюць гульні, абрады, зборышчы: *дажынаць — дажынкі, дакоскі, дакопкі, дамалоткі, даноскі (разм.), дасеўкі, зажынкі, засеўкі, нападкі, памінкі, заробкі.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем 'прадмет — носьбіт працэсуальнай прыметы'. Гэтыя назоўнікі абазначаюць сукупнасць прадметаў, прадукт, рэчыва, што ўзнікае ў выніку адпаведнага дзеяння: *аграбаць — агрэбкі* (сена), *ападкі, вываркі, выграбкі, выскрабкі, вытапкі, вычаскі, недажынкі (недажынаць), недапіткі, пацяробкі, пачаскі.*

Націск часцей на пачатковым складзе слова, радзей — на перадсуфіксальным.

Тып малапрадуктыўны.

3. Назоўнікі, якія называюць неадушаўлёныя прадметы, прызначаныя для ажыццяўлення дзеяння, названага ўтваральным словам: *плаваць — плаўкі, падцяжкі, ходзікі.*

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы перад суфіксам адсякаецца (*дасяваць — дасеўкі*), але *хадзіць — ходзі-кі.*

Націск на перадсуфіксальным складзе (корані), ва ўтварэннях з прыстаўкай *вы-* на гэтай жа прыстаўцы.

Тып малапрадуктыўны.

Ад назоўнікаў з дапамогай суфікса *-к-і* ўтвораны асобныя множналікавыя назоўнікі: *вечар — вячоркі, граблі — грабелькі* (прыстасаванне на касе для касьбы збожжа), *развалы — развалкі.*

§ 471. Суфікс *-унк-і (-нк-і)*.

Аддзеясло́ўныя назоўнікі з гэтым суфіксам абазначаюць дзеянне паводле ўтваральнага дзеяслова: *жадаць — жадункі, ласункі, пасядзенкі, справункі (разм.)*.

Фармант *-унк-і* выступае пры адсячэнні фінальнай галоснай інфінітыўнай асновы *(жадаць — жадункі)*, *-нк-і* — пры аснове цяперашняга часу з чаргаваннем *ав—у: ласавацца — ласуюцца — ласункі*, ці пры захаванні фінальнай галоснай: *пасядзець — пасядзенкі*.

Націск на суфіксе (у словах з суфіксам *-унк-і*) або на перадсуфіксальным складзе (у словах з суфіксам *-нк-і*).

Тып мае некаторую прадуктыўнасць у гутарковай мове *(справункі, весялункі)*.

§ 472. Суфікс *-ушк-і (-юшк-і)*.

Аддзеясло́ўныя назоўнікі з гэтым суфіксам абазначаюць апрадмечанае дзеянне паводле ўтваральнага дзеяслова: *гуляць—гулюшкі, пасядушкі* (усе—*абл.*), *пабягушкі (разм.)* або прадмет для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам: *апалаць — апалушкі*.

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца; націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 473. Адзінкавыя назоўнікі ўтвораны з дапамогай суфіксаў *-лк-і (качаць — качалкі)*, *-льнік-і (лічыць — лічыльнікі)*, *-ошч-ы (любіць — любошчы, разм.)*, *-э́л-і (качацца — качэлі)*, *-яшк-і (дзеравяны — дзеравяшкі)*.

### *Назоўнікі з суб'ектыўна-ацэначнымі значэннямі і стылістычнай мадыфікацыяй*

§ 474. Назоўнікі з суб'ектыўна-ацэначнымі значэннямі і стылістычнай мадыфікацыяй з'яўляюцца суфіксальнымі дэрыватамі ад назоўнікаў усіх трох граматычных родаў, а таксама — множналікавых назоўнікаў. Суфіксы з гэтымі значэннямі далучаюцца да асноў як беларускіх, так і запазычаных слоў.

### Суфіксы назоўнікаў мужчынскага роду

#### Суфіксы са структурным элементам *-к-*

§ 475. Суфікс *-ак-а (-як-а)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам маюць адценне зневажальнасці: *каняка, скарпіяка*.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 476. Суфікс *-ік (-ык)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам маюць памяншальнае значэнне, звычайна з экспрэсіяй ласкальнасці *(воз — возік, конік)*, часам уніжальнасці *(гаспадарык)*, а нярэдка — толькі ласкальнае значэнне *(годзік)*. Утваральнымі выступаюць назоўнікі мужчынскага роду адушаўлёныя і неадушаўлёныя, агульныя і ўласныя (асабовыя), невытворныя і з суфіксамі *-ец, -ар, -ач, -іст: дубец — дубчык, дудар — дударык, тайкач — тайкачык, трактарыст — трактарысцік, Косця — Косцік, Лёня — Лёнік, Толя — Толік, Шура — Шурык*.

Утварэнні ад назваў жывёл адначасова маюць і мадыфікацыйнае значэнне 'дзіцяня жывёліны': *аленік, зубрык, лосік*.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *дом— домік, нос — носік; ц—ч: рубец — рубчык*, а таксама *а — нуль гука: ногаць — ногцік, лапаць — лапцік*.

Націск на перадсуфіксальным складзе.

У гутарковай мове словы з суфіксам *-ік (-ык)* нярэдка выкарыстоўваюцца як сродак падкрэсленай ветлівасці, напрыклад у гандлі: *блакноцік, карандашык, вінегрэцік, перчык.*

Тып высокапрадуктыўны ў гутарковым стылі і мастацкай мове.

§ 477. Суфікс *-чык*. Назоўнікі з гэтым суфіксам маюць тое ж эмацыянальна-ацэначнае значэнне, што і ў папярэднім тыпе (з суфіксам *-ік*). Суфікс *-чык* далучаецца да асноў на санорныя і губныя зычныя: *дыван — дыванчык, каменьчык, карэньчык, пакойчык, праменьчык, экземплярчык, супчык, рукаўчык, касцюмчык.*

Утваральнымі выступаюць назоўнікі неадушаўлёныя і адушаўлёныя, агульныя і ўласныя (асабовыя), невытворныя з названымі асновамі і з суфіксамі *-ан, -ун*: *камень — каменьчык, лабан — лабанчык, скакун — скакунчык, Вяруньчык, Лявончык.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны.

§ 478. Суфікс *-ок (-ёк, -ак)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам маюць памяншальнае або ласкальнае ці адначасова памяншальнае і ласкальнае значэнне, а часам і адценне фамільярнасці і зневажальнасці: *гарадок, дамок, дубок, кручок, лянок, малюначак, пакуначак; браток, дзянёк, драбок, мужычок, панок, таварышок.*

Утваральнымі выступаюць агульныя невытворныя назоўнікі (неадушаўлёныя і адушаўлёныя) і ўласныя (асабовыя), а таксама вытворныя з суфіксамі *-ак, -ік, -нік, -ок*: *дуб — дубок, клён — клянок, пан — панок, сват — сваток; Ваня — Ванёк, Вася — Васёк; кругляк — круглячок, работнік — работнічак, вабік — вабічак, дождж*ычак*, лісточак, дзянёчак*. Назоўнікі на *-ок (-ёк, -ак)*, утвораныя ад слоў з суфіксамі *-ак, -ік (-ык)*, *-ок* з памяншальна-ласкальным значэннем, абазначаюць узмоцненую ступень ласкальнасці: *падбародак — падбародачак, дубчык — дубчычак, носік — носічак, лянок — ляночак, гаёк — гаёчак.*

Перад суфіксам заднеязычныя чаргуюцца з шыпячымі: *бярэзнік — бярэзнічак, луг — лужок, смех — смяшок.*

У назоўніках з суфіксам *-ок* націск на суфіксе, з суфіксам *-ак* — на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып высокапрадуктыўны.

§ 479. Суфікс *-ук (-юк)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам маюць памяншальна-ласкальнае значэнне, а часам зневажальнае (*хлопец — хлапчук, блазен — блазнюк*).

Утваральнымі выступаюць агульныя і ўласныя назоўнікі са значэннем асобы мужчынскага полу: *сябар — сябрук, Віця — Віцюк, Грыша — Грышук, Павел — Паўлюк, Пётр — Пятрук, Саша — Сашук.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *в'—ў* і галосная — з нулём гука: *сябар — сябрук, Павел — Паўлюк.*

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, ва ўскосных склонах — на канчатку.

Тып малапрадуктыўны.

§ 480. Суфікс *-чук*. Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца агульныя (неадушаўлёныя і адушаўлёныя) назоўнікі і ўласныя (асабовыя) з памяншальным ці памяншальна-ласкальным значэннем, часам з адценнем непахвальнасці: *хлеў — хляўчук, пень — пяньчук, пісарчук, паварчук, кухарчук, Леванчук.* Некаторыя з такіх слоў адначасова сумяшчаюць і значэнне недаросласці: *кухарчук, паварчук.*

Націск на суфіксе ў пачатковай форме, ва ўскосных склонах—на канчатку.

Тып малапрадуктыўны.

## Суфіксы назоўнікаў жаночага роду

### Суфіксы са структурным элементам *-к-*

§ 481. Суфікс *-к-а*. Назоўнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад неадушаўлёных і адушаўлёных, агульных і ўласных (асабовых) назоўнікаў жаночага роду, а таксама ад гутарковых форм мужчынскіх уласных імён на *-а(-я)* і маюць: 1) памяншальна-ласкальнае значэнне: *бяроза — бярозка, галоўка, дарожка, крынічка, палічка, лялечка; Марыйка, Аленка, Зоська, Сашка, Алеська, Ванька;* 2) памяншальнае значэнне: *батарэя — батарэйка, горка, шуфлядка;* 3) ласкальнае значэнне: *нядзеля — нядзелька, пагодка, ночка, чацвёрачка, пяцёрачка, соценка, сярэдзінка, Аленка, Зоська;* 4) памяншальна-зневажальнае: *газета — газетка, ідэйка, сістэмка, тэарэмка.* Пры пэўных умовах словы 2-ой і 4-ай груп могуць набываць і ласкальнае значэнне: *цудоўная ідэйка, ідэальная шуфлядка.*

Назоўнікі з суфіксам *-к-а* маюць узмацняльную ступень ласкальнасці, калі яны ўтвораны ад слоў з суфіксамі *-к-а, -іц-а, -ушк-а: сярэдзінка — сярэдзіначка, сястрыца — сястрычка, дачушка — дачушачка.*

Асобныя назоўнікі з суфіксам *-к-а* шырока выкарыстоўваюцца ў гутарковай мове для стварэння падкрэслена ветлівай афарбоўкі ў афіцыяльных зносінах: *пуцёвачка, даведачка, грамадзяначка, грудзіначка, няўвязачка, памылачка.*

Перад суфіксам чаргуюцца заднеязычныя з шыпячымі: *нага — ножка, рука — ручка, страха — стрэшка.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове з націскам на аснове і на перадсуфіксальным складзе пры націскным канчатку ўтваральнага слова *(гара́—горка, сцяна́—сце́нка).*

Тып высокапрадуктыўны.

§ 482. Суфікс *-інк-а (-ынк-а)*. Назоўнікі з гэтым суфіксам маюць памяншальнае *(хусцінка, хмурынка)*, ласкальнае *(сірата — сірацінка)* або памяншальна-ласкальнае значэнне *(слязінка, іскрынка).*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя чаргуюцца з мяккімі зычнымі: *сляза — слязінка.*

Фіналь *-к-* адсякаецца: *хустка — хусцінка.*

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

Заўвага 1. Многія словы на *-інка* ўтвораны ад зборна-рэчыўных назоўнікаў і маюць мадыфікацыйнае значэнне адзінкавасці (сінгулятывы) і адначасова экспрэсію ласкальнасці: *снег — сняжынка, золата — залацінка, раса — расінка, трава — травінка.* Пры пераносным ужыванні ў такіх словах на першы план выступае ласкальнае ці памяншальна-ласкальнае значэнне.

Заўвага 2. Словы на *-інка* нярэдка з'яўляюцца вытворнымі ад назоўнікаў з суфіксам *-ін-а (аблачына — аблачынка, круглiна — круглінка)*, таму яны належаць да эмацыянальна-экспрэсіўных утварэнняў з суфіксам *-к-а.*

§ 483. Суфікс *-ушк-а*. Назоўнікі з гэтым суфіксам маюць памяншальнае *(кадзь — кадушка)* ці ласкальнае *(дачка — дачушка,* з адсячэннем *-к-)* значэнне.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

Заўвага. У слове *цялушка* суфікс *-ушк-а* мае мадыфікацыйнае значэнне 'самка—дзіцяня' (утворана ад *цяля*); эмацыянальна-ацэначнае значэнне набывае ўтворанае ад яго пры дапамозе суфікса *-к-а* слова *цялушачка.*

Суфіксы са структурным элементам *-ц-*

§ 484. Суфікс *-іц-а (-ыц-а)*. Неадушаўлёныя і адушаўлёныя назоўнікі з гэтым суфіксам маюць ласкальнае значэнне: *вада—вадзіца, сястрыца, зямліца (нар.-паэт.)*.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *вада—вадзіца*.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

## Суфіксы назоўнікаў ніякага роду

Суфіксы са структурным элементам *-к-*

§ 485. Суфікс *-ейк-а (-айк-а)*. Назоўнікі з суфіксам *-ейк-а* (пасля асноў на няпарна-цвёрдыя *-айк-а*) маюць памяншальна-ласкальнае ці ласкальнае значэнне: *сонца — сонейка, сэрцайка, госцейка.*

Утваральнымі з'яўляюцца невытворныя *(лета—лецейка)* і зборныя назоўнікі з асіміляваным суфіксам *-j-* *(голле — голлейка)*.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі, у слове *сонейка* адсутнічае фінальны *-ц-* утваральнай асновы.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып малапрадуктыўны.

Суфіксы са структурным элементам *-ц-*

§ 486. Суфікс *-ц-а (-ц-о)*. Неадушаўлёныя назоўнікі з гэтым суфіксам маюць памяншальнае ці памяншальна-ласкальнае значэнне: *балота — балотца, бярвенца (бервянцо), гуменца, долатца, дрэўца, дульца, золатца, каліўца, паленца, рыльца, шыльца, азярцо, жытцо, сяльцо.*

Перад суфіксам чаргуюцца *л—л'*: *дула — дульца, мыла—мыльца.*

Націск пераважна на тым складзе, што і ва ўтваральным слове, у словах з суфіксам *-ц-о* — на канчатку, у словах, утвораных ад назоўнікаў з флексійным націскам,— на перадсуфіксальным складзе: *бервяно — бярвéнца, гумно — гумéнца, крыло — кры́льца.*

Тып малапрадуктыўны.

## Суфіксы, уласцівыя назоўнікам рознага роду

Суфіксы са структурным элементам *-г-*

§ 487. Суфікс *-уг-а (-юг-а)*. Адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі агульнага і мужчынскага роду маюць значэнне ўзмацняльнасці і зневажальнасці: *звер — вяруга, зладзюга, лайдачуга, вятруга* (усе — *разм.*).

Перад суфіксам чаргуюцца *к—ч: лайдак — лайдачуга, воўк — ваўчуга.*

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

Суфіксы са структурным элементам *-к-*

§ 488. Суфікс *-еньк-а (-аньк-а)*. Адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі мужчынскага і жаночага роду маюць ласкальнае значэнне: *бабуля — бабулелька, дзядуленька, матуленька, сватуленька, татуленька, Мішанька, зязюленька, ночанька, рэчанька.*

Утваральныя — назоўнікі невытворныя (*зязюля — зязюленька*) і з суфіксам *-ул-я* (*дзядуля — дзядуленька, татуля — татуленька*). Утварэнні ад эмацыянальна-ацэначных назоўнікаў на *-уля* абазначаюць узмоцненую ступень ласкальнасці.

Перад суфіксам чаргуюцца *к—ч: рука — ручанька, рака — рэчанька.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып малапрадуктыўны, утварэнні ўласцівы ў асноўным народна-паэтычнай мове.

§ 489. Суфікс *-ечк-а (-ачк-а)*. Неадушаўлёныя назоўнікі ніякага роду маюць памяншальна-ласкальнае ці толькі ласкальнае значэнне: *гняздо — гнядзечка, здароўечка, лісцечка, горачка.*

Утваральныя — назоўнікі невытворныя (*гняздо — гнядзечка*), зборныя і абстрактныя з суфіксам *-ј-э* (*лісце — лісцечка, здароўе — здароўечка*).

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып малапрадуктыўны.

### Суфіксы са структурным элементам *-л-*

§ 490. Суфікс *-ул-я*. Агульныя і ўласныя асабовыя назоўнікі маюць ласкальнае значэнне: *бабуля, дзядуля, матуля, сынуля, татуля; Гануля, Настуля, Нінуля, Віцюля, Януля.*

Утваральныя назоўнікі — назвы асоб жаночага і мужчынскага роду па лініі роднасці (*баба — бабуля, дзед — дзядуля*) і асабовыя ўласныя жаночыя і мужчынскія імёны: *Ганна — Гануля, Насця — Настуля, Грыша — Грышуля, Ян — Януля.*

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *Насця — Настуля, маці — матуля.*

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны пры ўтварэнні асабовых імён.

### Суфіксы са структурным элементам *-н-*

§ 491. Суфікс *-ін-а (-ын-а)*. Адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі маюць звычайна павелічальнае значэнне: *гультаіна, звярына, лайдачына, галасіна, даміна, жывапіна, халадзіна;* радзей — памяншальна-ўніжальнае: *хаціна.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *холад — халадзіна.*

Націск на суфіксе.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

§ 492. Суфікс *-ухн-а (-юхн-а)*. Адушаўлёныя і неадушаўлёныя назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду маюць значэнне пашаны, павагі ці фамільярнасці: *бацюхна, матухна, цётухна, дзетухна, долюхна, божухна.*

Утваральныя назоўнікі — невытворныя (*маці — матухна*) і з суфіксам *-к-* (*бацька — бацюхна*). Некаторыя назоўнікі на *-ухн-а* маюць двайную суадноснасць: *цётухна — цётка* і *цёця, матухна — маці* і *матка.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры (*сватухна, волюхна, зімухна*).

§ 493. Суфікс *-ун-я*. Назоўнікі з гэтым суфіксам маюць ласкальна-фамільярнае ацэначнае значэнне: *дзед — дзядуня, Грыша — Грышуня, Лора — Ларуня.* Утваральнымі выступаюць у асноўным мужчынскія

і жаночыя гутарковыя імёны: *Дзіма—Дзімуня, Міця—Міцюня, Саша — Сашуня, Валя — Валюня.*

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў сферы ўтварэння гутарковых форм імён.

Суфіксы са структурным элементам *-с-*

§ 494. Суфікс *-ус-я (-юс-я)*. Асабовыя назоўнікі мужчынскага і жаночага роду з суфіксам *-ус-я (-юс-я)* маюць ласкальна-фамільярнае значэнне: *бабуся* і *дзядуся, Маруся, Таклюся, Ванюся.*

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў сферы ўтварэння эмацыянальна-ацэначных імён.

Суфіксы са структурным элементам *-ч-*

§ 495. Суфікс *-ішч-а (-ышч-а)*. Неадушаўлёныя і адушаўлёныя назоўнікі мужчынскага, жаночага і ніякага роду з гэтым суфіксам маюць павелічальнае або павелічальна-зневажальнае значэнне: *галасішча, дамішча, збанішча, кусішча, нажышча, ручышча, сілішча, халадзішча, кабанішча, каршунішча, шчупачышча.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *акно — акнішча, сіла — сілішча;* заднеязычныя — з шыпячымі: *шчупак — шчупачышча, нага — нажышча.*

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры.

У адзінкавых словах вылучаюцца суфіксы *-ец: паплавец, кубелец; -эч-а: халадэча; -іск-а: вятрыска, даміска (разм.).*

***Нульсуфіксальнае ўтварэнне назоўнікаў***

§ 496. Пры нульсуфіксальным утварэнні назоўнікаў (назоўнікаў з нулявым суфіксам) адбываецца скарачэнне ўтваральнай асновы: адсякаецца тая фіналь (марфема), якая з'яўляецца словаўтваральнай адзнакай дзеяслова або прыметніка, а ўтваральная аснова без далучэння словаўтваральнага афікса становіцца асновай назоўніка.

Словаўтварэнне нярэдка суправаджаецца пераносам націску і чаргаваннем канцавога зычнага асновы: *выходзіць — выхад, белы — бель, чырвоны — чырвань.*

**Аддзеяслоўныя назоўнікі**

Назоўнікі мужчынскага роду I скланення

§ 497. Нульсуфіксальныя назоўнікі мужчынскага роду абазначаюць адцягненае дзеянне або стан; у іх семантыцы сумяшчаецца значэнне працэсу, адпаведнае ўтваральнаму дзеяслову, і значэнне назоўніка як часціны мовы: *абмен, грук, намёк, напамін, подсціл, поціск, стук.*

Назоўнікі гэтага тыпу нярэдка маюць другасныя прадметныя значэнні: месца дзеяння: *абгон, уваход, пад'езд, выган;* прылады дзеяння: *адвал, заціск, паднос, прывод;* аб'екта ці выніку дзеяння: *абвал, абрэз, выраз;* ладу, спосабу ажыццяўлення дзеяння: *край, склад* (розуму, думкі), *быт.*

Пры ўтварэнні назоўнікаў фінальная галосная інфінітыўнай асновы закончанага (незакончанага) трывання, а таксама суфіксы *-ірава-,*

*-ава-, -ва-* адсякаюцца: *аглядаць — агляд, дэбюціраваць — дэбют, дрэйфаваць — дрэйф, распытваць — роспыт.* У некаторых выпадках утваральнай з'яўляецца форма інфінітыва цалкам: *быць — быт.*

Утваральнай можа выступаць і аснова цяперашняга часу: *цвісці — цвітуць — цвет, гнесці — гнятуць — гнёт.*

Чаргуюцца канцавыя зычныя: *к—ч (плакаць — плач), шч—ск (пішчаць — піск), ч—к (крычаць — крык), дж—д (прыязджаць — прыезд);* галосныя: *і—о (набіраць — набор), нуль гука — о (б'јуць — бой); ј—ў (высеј уць — высеў).*

У большасці выпадкаў націск пераходзіць з канца асновы на склад ці на два ўперад: *націснуць — поціск, прапускáць — пропуск.* Націскнымі выступаюць прэфіксы *вы-, до-, под-, рос-, про-, по-, на-: выхад, допыт, подсціл, роспыт, пропуск, поціск, нараст.* У асобных назоўніках націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах: *абвáльваць — абвáл, падносіць — паднос.*

Тып прадуктыўны.

Асобны тып складаюць нульсуфіксальныя назоўнікі мужчынскага роду з агульным значэннем 'прадмет — носьбіт працэсуальнай прыметы'. Яны называюць асобу — выканаўцу дзеяння: *балабоніць — балабон (разм.), старажаваць — сторож, баяць — бай* (гаварун, пустамеля), *матаць — мот;* прадмет — суб'ект дзеяння, а таксама прылады, інструмент, прыстасаванне, месца для выканання: *нарастаць — нараст, праводзіць — провад, складваць — склад, пасадзіць — пасад, стаць (стануць, стане) — стан;* аб'ект ці вынік дзеяння: *садзіць — сад, рыць (рыјуць) — рой* (з чаргаваннем *ы—о, ј—ў*), *прышчапіць — прышчэп, загадаць — загад.*

Марфалагічныя працэсы пры ўтварэнні слоў гэтага тыпу тыя, што і ў папярэднім тыпе. Але ў гэтым тыпе назоўнікаў націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах, адзначаецца часцей: *балабоніць — балабон, гаварыць — гаварун.*

Тып малапрадуктыўны.

### Назоўнікі жаночага роду II скланення

§ 498. Нульсуфіксальныя назоўнікі жаночага роду II скланення абазначаюць адцягненае дзеянне або стан: *абарона, аздоба, ахова, заваёва, павага, пагроза, пажыва, прысяга, разлука, расправа, язда.* Некаторыя словы маюць другасныя канкрэтна-прадметныя значэнні: *язда, пераправа, прыправа.*

Парна-мяккія канцавыя зычныя асновы інфінітыва становяцца цвёрдымі: *абараняць — абарона, ездзіць — язда, запрудзіць — запруда,* чаргуюцца таксама (адваротнае чаргаванне) *ч—к: разлучацца — разлука; ж—з: пагражаць — пагроза: ж—г: паважаць — павага; ш—х: пацяшаць — пацеха.*

Націск пераважна на корані, у назоўніках з прыстаўкай *вы-* — на прыстаўцы: *вы́плата, вы́дача,* у асобных словах — на канчатку: *яздá, ядá, хадá, пахвалá.*

Тып прадуктыўны.

Асобны тып складаюць нульсуфіксальныя назоўнікі жаночага роду II скланення, якія маюць агульнае значэнне 'прадмет — носьбіт працэсуальнай прыметы'. Яны не маюць значэння дзеяння (стану), а называюць прылады, прыстасаванні для выканання дзеяння: *апора, аправа, барана, дуда, піла;* аб'ект дзеяння (рэчыва), сукупнасць прадметаў: *ежа, пража, ноша;* вынік дзеяння: *закраса, запруда, прыправа, рошчына;* месца дзеяння: *засада, пожня.*

Марфаналагічныя працэсы тыя, што і ў папярэднім тыпе. Чаргуюцца *д—ж: ядуць — ежа, прадуць — пража; с'—ш: насіць — ноша; н—н': пажнуць — пожня.*

Націск на корані, акрамя слоў *дудá, пілá, пóжня, прóшва.*

Тып прадуктыўны.

## Назоўнікі агульнага роду

§ 499. Нульсуфіксальныя назоўнікі агульнага роду абазначаюць асобу, якая характарызуецца дзеяннем, названым утваральным словам: *абжырацца — абжора, гарэза, задзіра, заіка, капрыза, мямля, падліза, пракуда, разява.* Утварэнні адносяцца да экспрэсіўнай гутарковай і прастамоўнай лексікі. Словы *слуга* і *прыслуга* не маюць ацэначнага значэння.

Утваральныя — дзеясловы невытворныя і з суфіксам *-ва-: мямліць — мямля, падлізвацца — падліза;* прэфіксальныя: *задзірацца — задзіра.*

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы, а таксама суфікс *-ва-* адсякаюцца. Парна-мяккія зычныя канца асновы чаргуюцца з цвёрдымі: *гарэзіць — гарэза, пракудзіць — пракуда.*

Націск на корані.

Тып прадуктыўны.

## Назоўнікі жаночага роду III скланення

§ 500. Нульсуфіксальныя назоўнікі жаночага роду III скланення складаюць два малапрадуктыўныя тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненага дзеяння ці стану: *спавядаць — споведзь, спогадзь, рэзь, дзель, стынь, морась, замець.*

Канцавая галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца; цвёрдыя зычныя асновы змякчаюцца: *рэзаць — рэзь, замятаць — замець.*

Націск на першым складзе.

2. Назоўнікі з канкрэтна-прадметным значэннем. Яны абазначаюць: а) рэчыва ці сукупнасць прадметаў як аб'ект ці вынік дзеяння: *завязаць — завязь, загарадзь, прывязь, проразь, прымесь;* б) асоб, жывых істот (іх сукупнасць) як суб'ект дзеяння: *заядаць — заедзь (абл.), навалакацца — навалач, набрыдаць — набрыдзь (абл.).*

Марфаналагічныя працэсы тыя, што і ў папярэднім тыпе.

Націск на першым складзе.

## Множналікавыя назоўнікі

§ 501. Нульсуфіксальныя множналікавыя назоўнікі складаюць два малапрадуктыўныя тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем адцягненага дзеяння (стану), якое адбываецца доўгі час, паўтараецца, выконваецца многімі суб'ектамі: *выбіраць — выбары, клопаты, лекі, роды, скокі, уцёкі.*

2. Назоўнікі з канкрэтна-прадметным значэннем. Яны абазначаюць сукупнасць прадметаў ці асобны састаўны прадмет: *паклады, залежы, ціскі, усходы, прыпасы, памыі.*

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца; утваральнай можа выступаць аснова цяперашняга часу: *памы(ју)ць — памы(јі).* Чаргуюцца *ч—к: лячыць — лекі.*

Націск звычайна на корані, а л е *ціскі, вы́бары.*

## Адпрыметнікавыя назоўнікі

### Назоўнікі мужчынскага роду I скланення

§ 502. Нульсуфіксальныя назоўнікі мужчынскага роду складаюць тры тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем 'носьбіт прыметы'. Яны абазначаюць асобу (*арыгінал, інтэлектуал, нейтрал*), неадушаўлёныя прадметы (*факультатыў, эластык, пластык*). Утваральнымі выступаюць прыметнікі з суфіксамі *-н-*, *-чн-* (у вытворным слове яны адсутнічаюць): *нейтральны — нейтрал, пластычны — пластык.*

Парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *арыгінальны — арыгінал; ч—к: эластычны — эластык.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове. Выключэнне: *эла́стык, пла́стык.*

Тып набывае прадуктыўнасць у размоўным стылі.

2. Назоўнікі са значэннем адцягненай прыметы, якія ўласцівы гутарковай мове (часта прафесіянальнай): *інтым, нервоз (нервознасць), прымітыў, сур'ёз (на поўным сур'ёзе).*

Фіналь утваральных слоў *-н-* адсякаецца (*інтымны — інтым, прымітыўны — прымітыў*).

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

3. Назоўнікі мужчынскага роду — назвы гарадоў. Яны ўтвараюцца ад адносных прыметнікаў і ўласных асабовых прозвішч на *-скі (-цкі): белаазерскі — Белаазерск, Задонск, Камсамольск, Прыморск, Дзяржынскі — Дзяржынск, Урыцкі — Урыцк.*

Тып прадуктыўны.

### Назоўнікі жаночага роду III скланення

§ 503. Нульсуфіксальныя назоўнікі жаночага роду III скланення абазначаюць адцягненую прымету: *бель, глуш, зелень, мель, прэль, сінь, чырвань.* Нярэдка гэтыя ўтварэнні маюць таксама зборнае ці рэчыўнае значэнне: *гніль, погань (разм.), моладзь, зелень.* Утваральныя — прыметнікі невытворныя: *белы — бель,* з суфіксам *-н-: дрэнны — дрэнь, рванае — рвань (спец.).*

Фіналі асновы прыметніка *-ок-, -к-, -н-* адсякаюцца.

Чаргуюцца парна-цвёрдыя зычныя з мяккімі: *высокі — высь, далёкі — даль, мелкі — мель, белы — бель, дрэнны — дрэнь,* а таксама *х—ш: глухі — глуш.*

Тып малапрадуктыўны.

### Назоўнікі ніякага роду

§ 504. Нульсуфіксальныя назоўнікі ніякага роду называюць абагульненае паняцце паводле якасці, абазначанай утваральным прыметнікам: *добры — дабро, зло, ліха, цяпло.*

Націск на флексіі, але *ліха.*

Тып непрадуктыўны.

### Назоўнікі жаночага роду II скланення і агульнага роду

§ 505. Яны абазначаюць асоб ці прадметы (з'явы, стан), якія характарызуюцца прыметай, названай утваральным словам: *густы — гушча, здыхля, капрыза, мурза, поўня, тоўшча (спец.), ціша.*

Фіналі ўтваральных асноў *-ат-, -н-* адсякаюцца (*мурзаты — мурза, капрызны — капрыза*).

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове, але *раўня́, му́рза*.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове (*нязграбны — нязграба, нахабны — нахаба, чорны — чэрня*).

### Адсубстантыўныя назоўнікі

§ 506. Нульсуфіксальным спосабам утвараюцца назоўнікі жаночага роду трох тыпаў.

1. Жаночыя прозвішчы ад мужчынскіх беларускіх прозвішч на *-оў (-ёў), -аў (-еў), -ін (-ын)*: *Адамаў — Адамава, Кісялёў — Кісялёва, Фамін — Фаміна*.

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі жаночага роду ад'ектыўнага скланення ад назоўнікаў мужчынскага роду таго ж тыпу скланення. Утваральнымі выступаюць уласныя асабовыя прозвішчы: *Белы — Белая, Дзясніцкі — Дзясніцкая, Кароткі — Кароткая, Кісялеўскі — Кісялеўская, Лісоўскі — Лісоўская, Маеўскі — Маеўская*; агульныя назоўнікі, аманімічныя з утваральнымі прыметнікамі і дзеепрыметнікамі: *вартавы — вартавая, дзяжурная, глухая, сляпая, хворая*, а таксама тыя, што не маюць амонімаў: *важаты — важатая, падсудны — падсудная*.

Тып прадуктыўны.

3. Назоўнікі жаночага роду II скланення, суадносныя з назоўнікамі мужчынскага роду I скланення. Утваральнымі выступаюць — уласныя імёны: *Алесь — Алеся, Аляксандр — Аляксандра, Валянцін — Валянціна, Серафім — Серафіма*; агульныя асабовыя назоўнікі: *кум — кума, маркіз — маркіза, сіньёр — сіньёра, унук — унучка, цесць — цешча*. Асобна стаіць слова *ліса* (ад ліс) са значэннем 'самка жывёліны'.

Тып непрадуктыўны.

### Адпрыметнікавыя і аддзеепрыметнікавыя назоўнікі ад'ектыўнага скланення

§ 507. Назоўнікі ад'ектыўнага скланення з'явіліся ў выніку субстантывацыі прыметнікаў і дзеепрыметнікаў. Яны захоўваюць частку сістэмы канчаткаў утваральных прыметнікаў і дзеепрыметнікаў. Паводле структуры такія назоўнікі нічым не адрозніваюцца ад утваральных слоў, за выключэннем таго, што субстантываваныя прыметнік і дзеепрыметнік звычайна выкарыстоўваюцца ў форме аднаго роду і ліку.

### Назоўнікі ад'ектыўнага скланення, утвораныя ад прыметнікаў

#### Назоўнікі мужчынскага роду

§ 508. Яны складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем асобы. Сюды адносяцца назвы асобы паводле характэрнай прыметы (*бязрукі, бязногі, малады, сляпы, старшы, хворы*) або па адносінах асобы да прадмета, з'явы, да якіх яна мае дачыненне (*ваенны, звенавы, патрульны, ротны, сувязны, участковы*), ці па адносінах да дзеяння (*ездавы, сустрэчны, ссыльны*).

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай тэрміналогіі.

2. Назоўнікі, якія называюць жывёл. Гэта — мянушкі жывёл: *Гне-*

*ды, Буланы, Чорны, Пярэсты, Сівы* або агульныя назвы: *касалапы* (мядзведзь), *касы* (заяц), *рагаты* (алень), *шэры* (воўк).

Тып малапрадуктыўны.

### Назоўнікі жаночага роду

§ 509. Яны складаюць тры тыпы.

1. Назвы памяшкання: а) паводле дзеяння, якое там адбываецца: *аперацыйная, перавязачная, прыёмная;* б) паводле прадмета, які там знаходзіцца ці вырабляецца: *булачная, ванная, закусачная, чайная;* в) паводле асобы, для якой яно прызначана: *дзіцячая, настаўніцкая, прафесарская, слясарная, сталярная.*

Тып прадуктыўны.

Заўвага. Словы гэтага тыпу часткова з'ўляюцца запазычаннем з рускай мовы, часткова ўтвораны ў беларускай мове па мадэлі, характэрнай для рускай мовы.

2. Назвы афіцыйных папер, дакументаў: *пахавальная, накладная, суправаджальная.*

Тып набывае прадуктыўнасць у справаводстве.

### Назоўнікі ніякага роду

§ 510. Яны складаюць чатыры тыпы.

1. Абагульненыя назвы з'яў, якія характарызуюцца прыметай, абазначанай утваральным прыметнікам: *блізкае, вядомае, далёкае, дзівоснае, людское, невядомае, новае, роднае, старое, чалавечае.*

Тып прадуктыўны.

2. Назвы адзення, страў, лякарстваў: *зімовае, летняе, цывільнае, штацкае, заліўное, салодкае, слабіцельнае, снатворнае.*

Тып прадуктыўны.

3. Назвы новых населеных пунктаў негарадскога тыпу: *Глыбокае, Дачнае, Піянерскае, Снежнае, Ягаднае.*

Тып малапрадуктыўны.

4. Назвы адзінак класіфікацыі расліннага і жывёльнага свету. Пры абазначэнні адной асобіны, каліва назоўнік мае форму ніякага роду, а пры абазначэнні віду, разраду, сямейства, класа — форму множнага ліку: *хабатковае (хабатковыя), бясхвостае (-ыя), ракападобнае (-ыя), бабовае (-ыя), сумчатае (-ыя).*

Тып мае прадуктыўнасць у прыродазнаўчай тэрміналогіі.

### Множналікавыя назоўнікі

§ 511. Яны называюць від выплатных грошай: *адпускныя, аўтарскія, пад'ёмныя, прэміяльныя, сутачныя.*

Тып прадуктыўны.

### Эліптычная субстантывацыя

§ 512. Да гэтага тыпу словаўтварэння адносяцца назоўнікі ад'ектыўнага скланення, якія ўжываюцца ў мове як сінонімы да словазлучэнняў „назоўнік+прыметнік" у ролі азначэння: *кантрольная (кантрольная работа).* Такія субстантываты ўзнікаюць у выніку эліптацыі (пропуску) назоўніка, да якога адносіцца прыметнік, і гэты прыметнік бярэ на сябе яго функцыю. Родавая і лікавая форма субстантывата залежыць ад роду і ліку апускаемага назоўніка: *выхадны* (дзень), *зборная* (каманда), *сухое, сталовае* (віно), *майскія* (святы).

Тып прадуктыўны.

## Назоўнікі ад'ектыўнага скланення, утвораныя ад дзеепрыметнікаў

### Назоўнікі мужчынскага роду

§ 513. Яны абазначаюць асобу паводле дзеяння, якое яна выконвае: *камандуючы, памагаты, служачы, упраўляючы, веруючы*, ці якому яна падверглася: *абвінавачаны, арыштаваны, асуджаны, камандзіраваны, упаўнаважаны, забіты*.

Тып малапрадуктыўны.

Утварэнні ўласцівы кніжнаму стылю.

### Назоўнікі ніякага роду

§ 514. Яны маюць значэнне абагульненай з'явы, якая характарызуецца адносінамі да дзеяння, названага ўтваральным дзеепрыметнікам: *аджылае, мінулае, пройдзенае, сказанае, пачутае, чакаемае*. Сюды ж адносяцца навуковыя тэрміны: *аднімаемае, дзялімае*.

Тып малапрадуктыўны.

## *Прэфіксальныя назоўнікі*

§ 515. Прэфіксальным спосабам новыя словы ўтвараюцца ад ўтваральных, як правіла, не змяняючы іх формы. Толькі ў асобных выпадках націск пераходзіць на іншы склад. У сувязі з гэтым родавая і лікавая характарыстыка вытворных слоў не паказваецца; адступленні ад месца націску ўтваральных слоў будуць адзначацца ў тыпах з тым ці іншым прэфіксам.

§ 516. Назоўнікі з прэфіксам *ад-* абазначаюць прадмет ці з'яву, падобныя да тых ці аднолькавыя з тымі, што названы ўтваральным словам, але ў меншай ступені праяўлення прыметы: *бліск — адбліск, звон — адзвон, адмель, адранак, адсвет*.

Тып непрадуктыўны. Больш пашыраны ўтварэнні з сінанімічным (дублетным) прэфіксам *вод-* (гл. § 521).

§ 517. Назоўнікі з прэфіксам *анты-* абазначаюць супрацьлеглае, процідзейнае таму, што названа ўтваральным словам: *герой — антыгерой, антыдэмакратыя, антыкосмас, антыкрытыка, антыракета, антысвет, антысемітызм, антытэзіс, антыфашыст, антыцыклон*.

Тып набывае прадуктыўнасць у сферы грамадска-палітычнай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 518. Назоўнікі з прэфіксам *архі-* абазначаюць больш высокую ступень таго, што названа ўтваральным словам: *махляр — архімахляр, архімільянер, архіскептык, архішэльма*. У назвах царкоўных пасад і званняў прэфікс *архі-* мае значэнне 'старшы ў званні': *архідыякан, архіпастыр, архіепіскап*.

Тып набывае прадуктыўнасць у газетна-публіцыстычным стылі.

§ 519. Назоўнікі з прэфіксам *без-* (*бяз-, бес-, бяс-*) абазначаюць адсутнасць таго або супрацьлегласць таму, што названа ўтваральным словам: *парадак — беспарадак, бессвядомасць, бессістэмнасць, бяздзейнасць*.

Тып набывае прадуктыўнасць пры ўтварэнні адцягненых назоўнікаў.

Заўвага. Словы на *-асць* адначасова суадносяцца з прыметнікамі (*бессвядомы — бессвядомасць*) і могуць кваліфікавацца як вытворныя ад іх.

§ 520. Назоўнікі з прэфіксам *віцэ-* маюць значэнне 'другі па пасадзе, чыну, званню': *прэзідэнт — віцэ-прэзідэнт, віцэ-канцлер, віцэ-консул, віцэ-адмірал, віцэ-чэмпіён.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 521. Назоўнікі з прэфіксам *вод-* абазначаюць прадмет ці з'яву, падобныя да той, што названа ўтваральным словам, але ў меншай ступені праяўлення прыметы: *блеск — водблеск, водгалас, водгук, водмель.*

Тып непрадуктыўны.

§ 522. Назоўнікі з прэфіксам *да-* абазначаюць тое, што папярэднічае названаму ўтваральным словам: *гісторыя — дагісторыя.*

Тып непрадуктыўны.

§ 523. Назоўнікі з прэфіксам *дыс-* абазначаюць адсутнасць таго або супрацьлегласць таму, што названа ўтваральным словам: *баланс — дысбаланс, дысгармонія, дыскаардынацыя, дыскамфорт, дыскваліфікацыя, дыспрапорцыя.*

Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі.

§ 524. Назоўнікі з прэфіксам *дэ- (дэз-)* абазначаюць супрацьлеглае або адваротнае таму, што названа ўтваральным словам: *арганізацыя — дэзарганізацыя, дэзінфекцыя, дэкваліфікацыя, дэмантаж, дэмаскіроўка, дэмабілізацыя.* Утварэнні звычайна суадносяцца з назоўнікамі на *-ацыя, -цыя.* Адначасова словы гэтага тыпу суадносяцца з дзеясловамі з адпаведнымі прэфіксамі *(дэмантаж — мантаж* і *дэманціраваць).* Словы *дэзінфармацыя* і *дэзарыентацыя* маюць іншае значэнне — 'няправільная інфармацыя (арыентацыя)'.

Тып мае прадуктыўнасць у навуковай тэрміналогіі і газетна-публіцыстычным стылі.

§ 525. Назоўнікі з прэфіксам *за-* складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія называюць тое, што і ўтваральнае слова, але часам меншага памеру: *пазуха — запазуха, куток — закутак* (з пераходам націску на прыстаўку).

Тып непрадуктыўны.

2. Утварэнні, якія называюць штосьці за межамі ці сумежнае з тым, што абазначана ўтваральным словам: *граніца — заграніца, такт — затакт.*

Тып непрадуктыўны.

§ 526. Назоўнікі з прэфіксам *звыш-* абазначаюць прадметы з уласцівасцямі, якія значна перавышаюць уласцівасці тых прадметаў, што названы ўтваральным словам: *генератар — звышгенератар, звышкамплект, звышмагутнасць, звышправоднасць, звышхуткасць.*

Тып мае прадуктыўнасць у навуковай тэрміналогіі і газетна-публіцыстычным стылі.

§ 527. Назоўнікі з прэфіксам *контр-* абазначаюць той жа прадмет, з'яву, дзеянне, што і ўтваральнае слова, але са значэннем супрацьнакіраванасці, дзеяння ў адказ: *армія — контрармія, контрмера, контрразведка, контрудар.*

Тып прадуктыўны ў навуковай і вайсковай тэрміналогіі.

§ 528. Назоўнікі з прэфіксам *над-* абазначаюць прадметы і з'явы, якія маюць тыя ж уласцівасці, што названыя ўтваральным словам, але якія займаюць у прасторы ці класіфікацыі месца над імі: *надзагаловак, надкіслата, надсістэма, скурка — надскурка, надчалавек.*

Тып набывае прадуктыўнасць у навуковай тэрміналогіі і гутарковым стылі.

§ 529. Назоўнікі з прэфіксам *не- (ня-)* абазначаюць адсутнасць таго або супрацьлегласць таму, што названа ўтваральным словам: *павага — непавага, непагода, непарадак, непрыяцель, нерайня, неспакой,*

*нейраджай, нечалавек, няволя, нядоля, няласка, няўдача, няшчасце.*

Тып прадуктыўны.

§ 530. Назоўнікі з прэфіксам *обер-* абазначаюць асобу, якая з'яўляецца старшай паводле пасады, чыну за названую ўтваральным словам: *афіцэр — обер-афіцэр, обер-кандуктар, обер-майстар.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 531. Назоўнікі з прэфіксам *пад-* складаюць тры тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем падпарадкаванасці: а) неадушаўлёныя назоўнікі звычайна называюць частку цэлага: *пункт — падпункт, падраздзел, падклас, падстанцыя, падкамісія;* б) адушаўлёныя назоўнікі маюць значэнне 'ніжэйшы ў адносінах звання ці пасады': *палкоўнік — падпалкоўнік, падмайстар, падштурман, падпрапаршчык, падпаручнік, падшліфоўшчык.*

Прадуктыўны падтып *«а».*

2. Назоўнікі са значэннем тоеснасці або падабенства: *груздзь — падгруздзь, зялёнкі — падзялёнкі (абл.), падрашэтнікі (абл.), падкаракуль, падкоцік, падсак.*

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

3. Назоўнікі з лакальным значэннем 'тое, што знаходзіцца пад тым, побач з тым ці схавана за тым, што названа ўтваральным словам': *загаловак — падзагаловак, падтропікі, падтэкст, падсвядомасць, падпаха, падстрэха (абл.).*

Тып малапрадуктыўны.

§ 532. Назоўнікі з прэфіксам *по- (па-)* называюць прадметы, з'явы, падобныя да тых, што абазначаны ўтваральным словам: *века — павека, голас — погалас (разм.), заранак — пазаранак (абл.), куб — покуб (абл.).*

Тып непрадуктыўны.

§ 533. Назоўнікі з прэфіксам *пасля-* абазначаюць з'яву, якая падобна да той, што названа ўтваральным словам, але адбываецца пасля яе: *дзеянне — паслядзеянне, пасляўздзеянне.*

Тып непрадуктыўны.

§ 534. Назоўнікі з прэфіксам *пера-* абазначаюць паўторнасць дзеяння або з'явы, названых утваральным словам: *выбары — перавыбары, перакамісія, перарасход, перарэгістрацыя, перасуд*

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 535. Назоўнікі з прэфіксам *перад- (прад-)* маюць значэнне 'размешчаны перад тым ці папярэднічае ў часе таму, што названа ўтваральным словам': *гісторыя — перадгісторыя, перадкамера, перадстэп, перадумова, Альпы — перадальпы.*

Тып набывае прадуктыўнасць у навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 536. Назоўнікі з прэфіксам *пра-* складаюць чатыры тыпы.

1. Назвы асоб — прыхільнікаў таго, хто названы ўтваральным словам: *амерыканец — праамерыканец, прасацыяліст, прафашыст.*

Тып набывае прадуктыўнасць у грамадска-палітычнай тэрміналогіі.

2. Назоўнікі са значэннем асобы ці прадмета, якія замяняюць таго, хто названы (што названа) утваральным словам: *консул — праконсул, прарэктар, прасемінарый.*

Тып непрадуктыўны.

3. Назоўнікі, якія абазначаюць аддаленыя ступені прамога сваяцтва па ўзыходнай ці сыходнай лініях: *дзед — прадзед, прабабка, праўнук, праўнучка, прабацька (уст.).* Прэфікс *пра-* можа паўторна далучацца да слоў з прэфіксам *пра-*, утвараючы назвы больш аддаленых ступеней прамога сваяцтва: *праправабка, прапраўнук, прапрадзед, прапраўнучка.*

Тып непрадуктыўны.

4. Назоўнікі са значэннем першапачатковасці, спрадвечнасці з'явы, названай утваральным назоўнікам: *германцы — прагерманцы, прагісторыя, прамова, пранарод, прарадзіма.*

§ 537. Назоўнікі з прэфіксам *прота-* (*прата-* без пабочнага націску) складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць старшую ў званні ці чыне асобу ў параўнанні з той, што названа ўтваральным словам: *дыякан — протадыякан, протаіерэй, пратапоп* (усе — *царк.*).

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія абазначаюць першапачатковасць таго, што названа ўтваральным словам: *заалогія — протазаалогія, пратазорка, пратакок, протанеаліт, пратанема, протаплазма, прататып, прататрактар.*

Тып прадуктыўны ў навуковай тэрміналогіі.

§ 538. Назоўнікі з прэфіксам *проці-* абазначаюць прадметы, з'явы і дзеянні, процілеглыя тым, што названы ўтваральным словам: *вага — процівага, процідзеянне, процілодачнік, проціракета, процісклізгаценне, процістаянне, проціўгон, проціцячэнне.*

Націск асноўны на тым складзе, што і ва ўтваральным слове, дадатковы — на прэфіксе.

Тып прадуктыўны ў сферы спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 539. Назоўнікі з прэфіксам *пры-* складаюць два тыпы.

1. Назвы тэрыторыі, якая мяжуе з тым, што абазначана ўтваральным словам: *горад — прыгарад, Балтыка — Прыбалтыка, Прыкаспій, Прычарнамор'е.* Семантычна адасоблена слова *прыназоўнік.*

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем дадатковасці ці суправаджэння таго, што названа ўтваральным словам: *гук — прыгук, прысвіст, прысмак, прыказка* (зачын казкі).

Націск на прэфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 540. Назоўнікі з прэфіксам *рэ-* складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць паняцце, супрацьлеглае таму, што названа ўтваральным словам: *агент — рэагент, рээвакуацыя, рээкспарт, рээмігрант, рээміграцыя.*

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі, якія абазначаюць паўторнасць дзеяння, з'явы, названай утваральным словам: *ампутацыя — рэампутацыя, рэарганізацыя, рэмілітарызацыя, рэтрансляцыя.*

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай тэрміналогіі. Назоўнікі гэтага тыпу суадносяцца таксама з дзеясловамі з прэфіксам *рэ-*: *рэарганізацыя — арганізацыя і рэарганізаваць.*

§ 541. Назоўнікі з прэфіксам *са-* (*су-*) маюць значэнне сумеснасці, узаемнай сувязі з асобай ці прадметам, названымі ўтваральным словам: *аўтар — сааўтар, сабрат, савучань, саўдзельнік, саўдзел, сумножнік, суспадкаемца, супесак, суграмадзянін, сурэжысёр, сучлен.* Семантычна адасоблены словы *садаклад* і *садакладчык,* якія маюць значэнне падначаленасці, дадатковасці. Слова *садакладчык* суадносіцца не толькі са словам *дакладчык,* але і са словам *садаклад.*

Тып прадуктыўны ў кніжных стылях.

§ 542. Назоўнікі з прэфіксам *суб-* складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць тое, што знаходзіцца ніжэй ці мяжуе з тым, што названа ўтваральным словам: *стратасфера — субстратасфера, субтропікі, субтытры, Субарктыка.*

Тып прадуктыўны ў навуковай тэрміналогіі.

2. Назоўнікі, якія абазначаюць прадмет, што складае частку таго ці падначалены таму, што названа ўтваральным словам: *арэнда — субарэнда, субардынатар, субдамінанта, субінспектар, субпрадукты, суб'ядро.*

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 543. Назоўнікі з прэфіксам *супер-* маюць значэнне больш высокай якасці ці ўзмоцненага дзеяння ў параўнанні з тым, што названа ўтваральным словам: *мода — супермода, супертанкер, суперэкспрэс, суперфасфат, суперэліта, суперцэмент, суперклад.* Семантычна адасоблена слова *супервокладка* ('размешчана зверху').

Тып набывае прадуктыўнасць у тэрміналогіі і газетна-публіцыстычным стылі.

§ 544. Назоўнікі з прэфіксам *супраць-* маюць тое значэнне, што і з прэфіксам *проці-*, але менш ужывальныя: *дзеянне — супрацьдзеянне, супрацьлодачнік, супрацьракета, супрацьслізгаценне, супрацьстаянне, супрацьцячэнне, супрацьуюн.*

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 545. Назоўнікі з прэфіксам *ультра-* маюць тое значэнне, што і з прэфіксам *звыш-*: *гук — ультрагук, ультрамарын, ультраструктура, ультрафільтр.*

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 546. Назоўнікі з прэфіксам *экс-* маюць значэнне 'раней быў тым, хто названы ўтваральным словам': *рэкардсмен — экс-рэкардсмен, экс-чэмпіён, экс-прэзідэнт, экс-міністр.*

Тып мае прадуктыўнасць у кніжных стылях.

§ 547. Назоўнікі з прэфіксам *экстра-* маюць тое значэнне, што і з прэфіксам *звыш-*: *клас — экстраклас, экстраматч, экстрамода, экстратрактар.*

Тып прадуктыўны.

### *Прэфіксальна-суфіксальныя назоўнікі*

§ 548. Прэфіксальна-суфіксальныя назоўнікі ўтвараюцца ў асноўным ад саміх назоўнікаў, рэдка — ад дзеясловаў і прыметнікаў. Утварэнні звычайна маюць націск на перадсуфіксальным складзе. Перад суфіксам назіраюцца тыя ж марфаналагічныя з'явы, што і пры ўтварэнні суфіксальных назоўнікаў з адпаведным фармантам. З улікам гэтага і з мэтай пазбегнуць паўтарэння акцэнтуацыя і марфаналогія пры апісанні словаўтварэння прэфіксальна-суфіксальных назоўнікаў не разглядаюцца, за выключэннем спецыфічных выпадкаў. Пра гэта гл. у канцы раздзела.

§ 549. Назоўнікі з прэфіксам *а-* і суфіксам *-ак/-ек* (пасля мяккіх асноў) утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя назоўнікі складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем 'прадмет, які мяжуе з тым ці з'яўляецца часткай таго, што названа ўтваральным словам': *гуз — агузак, адонак, апечак, асяродак* (ад *сярэдзіна*, з адсячэннем *-ін-*), *ашыек.*

2. Словаўтваральныя сінонімы-дублеты: *бярэмя — абярэмак, зад — азадак, край — акраек.*

Тыпы непрадуктыўныя.

Адназоўнікавыя ўтварэнні (адзінкавыя) з тым жа прэфіксам і суфіксамі *-к-а, -ец, -ін-а, -іц-а, -к-і, -нік* маюць аналагічнае значэнне: *пень — апенька (апенькі), абочына, акраец, аселіца, ашыйнік.*

Аддзеяслоўныя назоўнікі мужчынскага роду маюць значэнне

'нешта лішняе, што застаецца пасля выканання адпаведнага дзеяння': *таптаць — атопак* (мн. л. *атопкі*), *асколак, акраек* і *акравак.*

Тып мае некаторую прадуктыўнасць у гутарковай мове.

§ 550. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *а-* і суфіксам *-j-* маюць значэнне 'тое, што мяжуе ці з'яўляецца часткай названага ўтваральным словам': *кара — акор'е, зад — азаддзе, хвост — ахвосце.*

Тып непрадуктыўны.

§ 551. Множналікавыя назоўнікі з прэфіксам *а-* і суфіксам *-к-і* ўтвараюцца ад дзеясловаў і абазначаюць адходы як вынік адпаведнага дзеяння: *часаць — ачоскі, трусіць — атрускі, церабіць — ацяробкі.*

Тып непрадуктыўны.

§ 552. Назоўнікі з прэфіксам *аб-* і суфіксамі *-ак/-к-і* ўтвараюцца ад дзеясловаў і назоўнікаў.

Аддзеяслоўныя назоўнікі маюць значэнне 'тое, што застаецца пасля выканання адпаведнага дзеяння': *есці (ядуць) — аб'едкі, насіць— абноскі,* а таксама *аб'едак, абносак.*

Тып непрадуктыўны.

Адназоўнікавыя назоўнікі абазначаюць прадмет (рэчыва, прастору), які мяжуе з тым, што названы ўтваральным словам: *нага — абножка (спец.* — 'пылок з кветак') і *абножкі* (від воўны).

Тып непрадуктыўны.

§ 553. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *ад-* і суфіксам *-ак* маюць значэнне непаўнаты праяўлення таго, што названа ўтваральным словам: *зіма — азімак, нара — аднорак, рой — адроек, голас — адгалосак, вечар — адвячорак, жыла — аджылак.*

Тып непрадуктыўны.

§ 554. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *ад-* (*вод-*) і суфіксам *-j-* маюць тое ж значэнне, што і папярэдні тып: *гара — адгор'е, адгалоссе, водгулле.*

Тып непрадуктыўны.

§ 555. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *анты-* і суфіксам *ін* абазначаюць сродак, які дзейнічае супраць таго, што названа ўтваральным словам: *грып — антыгрыпін, камар — антыкамарын, спазм — антыспазмін.*

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 556. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *без-* і суфіксамі *-ак, -к-а, -авіч, -ец, -іц-а, -нік, -ух-а* абазначаюць прадметы, асобу і з'явы, якія характарызуюцца адсутнасцю таго, што названа ўтваральным словам: *козыр — бесказырка, безнасенка, безрукаўка, бессямянка, бязбацькавіч, бяздомнік, бяздзетуха, бясхлебіца, бязладзіца, бясцэнак.*

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 557. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *без-* і суфіксамі *-j-э/-оўj-э* называюць з'яву, стан, якія характарызуюцца адсутнасцю таго, што абазначана ўтваральным словам: *грошы — безграшоўе, бездажджоўе, бяздум'е, бязладдзе, бязлессе, бязлюддзе, бязмежжа, бязрыб'е.*

Прадуктыўны тып з суфіксам *-j-э.*

§ 558. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *за-* і суфіксамі *-ак/-ек* складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем падабенства; яны называюць тыя прадметы і з'явы, што і ўтваральныя словы, але з дадатковым значэннем зменшанасці, меншай ступені праяўлення стану, з'явы: *зіма — зазімак* 'невялікі мароз', *цемень — зацемак* (з адсячэннем *-ень*), *ціша—зацішак, канура — заканурак, мароз — замаразак.*

Тып непрадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем 'тое, што знаходзіцца за тым, што названа ўтваральным словам': *вуліца — завулак, загрывак, задворак, закраек, запечак, застаронак, застрэшак, залобак* і *зашчытак (абл.)*.

Тып малапрадуктыўны.

§ 559. Адназоўнікавыя і адпрыметнікавыя назоўнікі з прэфіксам *за-* і суфіксам *-j-э* маюць значэнне 'месца, тэрыторыя, размешчаныя па той бок таго, што названа ўтваральным словам'. Утваральнымі выступаюць агульныя назоўнікі і ўласныя геаграфічныя назвы — аднаслоўныя і неаднаслоўныя (з прыметнікамі): *балота — забалоцце, завуголле, загор'е, запечча, заплечча, зарэчча, застрэшша, Забайкалле, Закарпацце, Занямонне, Запаляр'е* (ад *за Палярным кругам*).

Тыпы прадуктыўныя ў тапаніміцы.

§ 560. Прэфікс *за-* вылучаецца ў адзінкавых утварэннях з суфіксамі *-ень, -нік, -шчык: зуб — зазубень, тыл — затыльнік, капёр — зага-пёршчык*.

Тып непрадуктыўны.

§ 561. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *між-* і суфіксам *-j-э* называюць прастору паміж прадметамі, названымі ўтваральным словам, або прамежкавы час: *акно — міжаконне, міжброўе, міжвузелле, міжгор'е, міжзор'е, міжлессе, міжпуцце, міжраддзе, міжрэчча, міжсценне, міжсезонне*.

Тып прадуктыўны.

§ 562. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *на-* і суфіксам *-нік* называюць прадмет, які знаходзіцца ці прызначаны знаходзіцца на паверхні таго, што названа ўтваральным словам: *бруха — набрушнік, навочнік, навушнік, нагруднік, накаленнік, наканечнік, налакотнік, налобнік, наморднік, напульснік, настольнік*. Асобна стаяць асабовыя назоўнікі *намеснік, напарнік, нахлебнік* і слова *накамарнік* (прыстасаванне для лоўлі камароў).

Тып прадуктыўны.

§ 563. Адзінкавыя назоўнікі ўтвораны пры дапамозе прэфікса *на-* і суфіксаў *-j-э, -іц-а: нагор'е, надвор'е, настольніца (абл.), нахлебніца*.

§ 564. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *над-* і суфіксам *-j-э* абазначаюць месца, прастору, якія знаходзяцца зверху, над тым, што названа ўтваральным словам: *бровы — надброўе, надлоб'е, надпечча, надзем'е, надкрылле, надплечча, надранне*.

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай тэрміналогіі.

Гэты ж прэфікс з прасторавым значэннем маюць адзінкавыя назоўнікі з суфіксамі *-н-я, -ак, -нік, -к-а, -іц-а: надваротня, надвячорак, надкаленнік, наднырачнік, надскурка, надкосніца*.

§ 565. Аддзеяслоўныя назоўнікі з прэфіксам *не-* *(ня-)* і суфіксам *-к-а* складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць адсутнасць дзеяння, названага ўтваральным словам: *спадзявацца — неспадзейка, няўпрайка, няхватка*.

Тып прадуктыўны ў гутарковым стылі.

2. Назоўнікі агульнага роду са значэннем асобы, якая не здзяйсняе ці не здольная здзейсніць дзеянне, названае ўтваральным словам: *знаць (знай-уць) — нязнайка, няўмека, дбаць (дбаj-уць) — нядбайка (абл.)*.

Тып непрадуктыўны.

Асобныя аддзеяслоўныя назоўнікі з прэфіксам *не-* *(ня-)* маюць суфіксы *-л-а, -іх-а, -іц-а, -j-э, -ств-а, -енств-а: нядбайла, неразбярыха, нявер'е, небыліца, нядбайства, непаслушэнства*.

Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *не-* маюць суфікс *-ень: нелюдзень*.

§ 566. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *неда-* і суфіксам *-ак* маюць значэнне 'не ў поўнай меры надзелены тым, што названа ўтваральным словам': *лета* ('год') — *недалетак* 'непаўналетні'; *мера* — *недамерак.*

Тып непрадуктыўны.

Заўвага. Аддзеяслоўныя і адпрыметнікавыя назоўнікі з прэфіксам *неда-* адносяцца да суфіксальных утварэнняў ад прыставачных дзеясловаў: *недакурыць — недакурак, недагрызак, недаедак, неданосак, недаробак.*

§ 567. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *каля-* і суфіксам *-нік* абазначаюць частку расліны, размешчаную вакол таго, што названа ўтваральным словам: *кветка — калякветнік, плод — каляплоднік.*

Тып непрадуктыўны.

§ 568. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *па-* і суфіксам *-ак* маюць значэнне падабенства, называюць прадметы, якія не ў поўнай меры з'яўляюцца тым, што абазначана ўтваральным словам: *гара — пагорак, падворак, паморак, парабак, пасёлак, пасынак, пакалак (абл.).*

Тып непрадуктыўны.

Значэнне непаўнаты мае і ўтварэнне з прэфіксам *па-* і суфіксам *-к-а: пагалоска.*

§ 569. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *па-* і суфіксам *-j-э* абазначаюць рэчыва (адходы), месца, тэрыторыю, якая размешчана каля ці ўздоўж таго, што названа ўтваральным словам: *зад — пазаддзе, палессе, парэчча, Буг — Пабужжа, Панямонне.*

Тып мае прадуктыўнасць у тапаніміі.

Адасоблены паводле значэння адназоўнікавыя ўтварэнні з прэфіксам *па-* (*по-*) і суфіксамі *-к-і (падонкі, пазадкі, паземкі* 'суніцы'), *-нік (пагранічнік, падарожнік), -іц-а (патыліца), -н-я (паверхня), -ань (поручань), -ім (брат — пабрацім), -j-э (пагалоўе),* а таксама аддзеяслоўныя з суфіксамі *-н-я (паходня), -ух-а (папрадуха), -к-а (попрадкі).*

§ 570. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-ак* складаюць два тыпы.

1. Назвы прадметаў, асоб з уласцівымі адзнакамі таго, што названа ўтваральным словам, якімі яны валодаюць не ў поўнай меры: *голас — падгалосак, падлесак, падсітак, падчасак, падпанак, падсудак, падсвінак, пад'язак.*

Тып непрадуктыўны.

2. Назвы прадметаў, прасторы, якія знаходзяцца ніжэй або блізка ад таго, што абазначана ўтваральным словам: *нос — падносак, вось — падосак, падмурак, падбародак, падпечак, падкрылак, падстрэшак.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 571. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-ов-ік (-ав-ік)* абазначаюць віды грыбоў паводле іх лакальнай прыметы: *альха — падальховік, падасінавік, падбярозавік, паддубовік.*

Тып непрадуктыўны.

Утварэнні суадносяцца і з прыметнікамі з суфіксам *-ов (-ав)* у складзе субстантыўнага словазлучэння: *пад бярозавым дрэвам — падбярозавік.* Пра гэта сведчыць і наяўнасць намінацыі *падасовік* (ад *пад асовым дрэвам).*

§ 572. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-ік* складаюць тры непрадуктыўныя тыпы.

1. Назоўнікі са значэннем падабенства: *арол — падворлік, падлешчык, пад'язік.*

2. Назоўнікі, якія абазначаюць маладых істот: *кухта — падкухцік.*

3. Назвы прадметаў, якія знаходзяцца пад тым, што названа ўтваральным словам: *кайнер — падкайнерык, штаны — падштанікі.*

§ 573. А д н а з о ў н і к а в ы я назоўнікі з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-j-э* называюць месца, прастору, якія знаходзяцца ніжэй ад таго, што абазначана ўтваральным словам, ці мяжуюць з ім: *акно — падаконне, падбароддзе, падгор'е, паддашша, падкрылле, паднnetwork, падполле, падчарэўе.*

Тып прадуктыўны.

§ 574. А д н а з о ў н і к а в ы я назоўнікі з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-нік* называюць прадмет, які знаходзіцца пад тым, ніжэй ад таго, што абазначана ўтваральным словам: *калена — падкаленнік, падлакотнік, паддоннік, падсвечнік.* Семантычна адасоблена слова *падкулачнік.*

Тып малапрадуктыўны.

Прасторавае значэнне маюць таксама адзінкавыя ўтварэнні з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-к-а (падножка), -н-я (падваротня), -шчык (падкаменшчык* — 'від рыбы, якая жыве пад камянямі').

§ 575. А д н а з о ў н і к а в ы я назоўнікі з прэфіксам *пера-* і суфіксам *-ак/-ек* абазначаюць прадметы, аналагічныя тым ці падобныя да тых, што названы ўтваральным словам, але якія не з'яўляюцца імі ў поўнай меры: *лес — пералесак, перашыек, пераярак.*

Тып непрадуктыўны.

Гэта значэнне маюць і ўтварэнні з прэфіксам *пера-* і суфіксам *-j-э (перамір'е).*

§ 576. А д н а з о ў н і к а в ы я назоўнікі з прэфіксам *перад-* і суфіксам *-j-э* абазначаюць месца, прастору ці адрэзак часу перад тым, што названа ўтваральным словам: *горы — перадгор'е, пераддзвер'е, перадмосце, перадполле, перадплечча, перадсердзе.*

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай лексіцы.

§ 577. Адзінкавыя словы з названым прасторавым прэфіксам маюць суфіксы *-ак (перадкрылак), -нік (перадплужнік).*

§ 578. А д н а з о ў н і к а в ы я назоўнікі з прэфіксам *пра- (про-)* і суфіксам *-ак* маюць значэнне 'нешта, што знаходзіцца між тым ці з'яўляецца часткай таго, што названа ўтваральным словам': *вуліца — правулак, прагалак, пражылак, прасценак.*

Тып непрадуктыўны.

§ 579. Аналагічнае значэнне маюць адзінкавыя назоўнікі з прэфіксам *пра-* і суфіксам *-j-э (прадвесне, прадгор'е), -к-а (праслойка).* Адасоблена слова *прадонне* 'бездань'.

§ 580. А д н а з о ў н і к а в ы я назоўнікі з прэфіксам *пры-* і суфіксам *-ак* складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць тыя прадметы, асобу, што і ўтваральныя словы, але зменшанага памеру, меншай ступені праяўлення ці як адгалінаванне ад іх: *свята — прысвятак* 'невялікае свята', *прылавак, прыскрынак, прылесак, прыямак, дурань — прыдурак* (з адсячэннем *-ань).*

Тып малапрадуктыўны.

2. Назоўнікі са значэннем 'прадмет, прастора, якія размешчаны побач ці мяжуюць з тым, што названа ўтваральным словам': *кветка — прыкветак, прылістак, прымежак, прымурак, прыпечак, прыполак, прыстаранак (абл.), прысценак.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 581. А д н а з о ў н і к а в ы я і а д п р ы м е т н і к а в ы я назоўнікі з прэфіксам *пры-* і суфіксам *-j-э* абазначаюць прадмет, прастору, якія мяжуюць з тым, што названа ўтваральным словам: *галава — прыга-*

*лоўе, прыклецце, прылессе, Прыазоўе, Прыамур'е, Прымор'е, Прыпаляр'е* (пры Палярным крузе).

Тып прадуктыўны ў тапаніміі.

Аналагічнае значэнне маюць адзінкавыя словы з прэфіксам *пры-* і суфіксамі *-ік, -нік: прылазнік, прыклетнік.*

§ 582. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *са-/су-* і суфіксам *-нік* абазначаюць асобу, якая звязана аднолькавымі адносінамі з іншымі асобамі па тым, што названа ўтваральным словам: *курс — сакурснік, суайчыннік, субяседнік, сучаснік.*

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковым стылі.

§ 583. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *су-* і суфіксам *-j-э* называюць прадмет (з'яву), які складаецца з аднолькавых прадметаў (з'яў), абазначаных утваральным словам: *гук — сугучча, сузор'е, суквецце, суплоддзе.*

Тып набывае прадуктыўнасць у навуковай тэрміналогіі.

§ 584. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *уз-* (*ус-*) і суфіксамі *-ак/-ек* абазначаюць прадметы, прастору, якая знаходзіцца побач, на краі таго, што названа ўтваральным словам: *лес — узлесак, узлобак, узмежак, ускраек.*

Тып непрадуктыўны.

§ 585. Адназоўнікавыя назоўнікі з прэфіксам *уз-* і суфіксам *-j-э* абазначаюць месца каля таго, што названа ўтваральным словам: *бок — узбочча, узбярэжжа, узгалоўе, узлессе, узмор'е.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 586. Пры ўтварэнні прэфіксальна-суфіксальных назоўнікаў, як адзначалася, націск звычайна на перадсуфіксальным складзе. Выключэнне складаюць утварэнні з націскным суфіксам *-ім* (*пабрацíм*) і прэфіксам *па-* (*пáсынак, пáрабак*). У асобных выпадках націск могуць мець і іншыя афіксы: *поручань, попрадкі, нéлюдзень.*

Суфікс *-j-* у становішчы не пасля губных, заднеязычных і дрыжачага *р* асімілюецца і прыпадабняецца да папярэдняга зычнага (*параўн.: загорj-э* і *залессе*) або толькі памякчае апошнюю зычную: *замосце.*

Перад суфіксам *-ок* (*-ак*) парна-мяккія чаргуюцца з цвёрдымі (*вуліца — завулак*), а перад суфіксамі *-ік, -ін-а* — парна-цвёрдыя з мяккімі: *кухта — падкухцік.*

Большасць прэфіксальна-суфіксальных назоўнікаў матывуецца таксама іменна-прыназоўнікавымі формамі назоўнікаў. Сюды належаць утварэнні з прасторавымі і часавымі значэннямі прэфіксаў: *прылазнік* (*пры лазні*), *перадгор'е* (*перад гарой*), *зарэчча* (*за ракой*), *бязволле* (*без волі*) і г. д.

### *Прэфіксальна-нульсуфіксальныя назоўнікі*

§ 587. Прэфіксальна-нульсуфіксальныя назоўнікі ўтвараюцца ад дзеясловаў, прыметнікаў і назоўнікаў.

§ 588. Адназоўнікавыя назоўнікі жаночага роду з прэфіксам *без-* (*бяс-*) абазначаюць стан, з'яву, якія характарызуюцца адсутнасцю таго ці процілегласцю таму, што названа ўтваральным словам: *дно — бездань, дарога — бездараж, люд* (*людзі*) *— безлюдзь, сон — бессань* (*разм.*).

Парна-цвёрдыя канцавыя зычныя асновы чаргуюцца з мяккімі, *к—ч*: *лік — безліч, цана — бесцань.*

Націск на прэфіксе.

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.

§ 589. Аддзеяслоўныя назоўнікі мужчынскага роду з прэфік-

сам *за-* абазначаюць адзін акт мнагакратнага дзеяння: *бегаць — забег, заезд, заплыў.*

Тып набывае прадуктыўнасць у спартыўнай тэрміналогіі.

Ад назоўніка *печ* утворан назоўнік мужчынскага роду *запек (абл.).*

§ 590. Аддзеяслоўныя назоўнікі з прэфіксам *не-* (*ня-*) належаць да мужчынскага, жаночага і агульнага роду.

Назоўнікі агульнага роду называюць асобу, якая не здольна ажыццявіць дзеянне ці падвергнуцца дзеянню, названаму ўтваральным словам: *зачапіць — незачэпа, датыкацца — недатыка, пасядзець — непаседа.*

Націск на апошнім складзе асновы.

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове (*ненаеда, няўрымста*).

Назоўнікі мужчынскага роду і зрэдку агульнага (з нулявым канчаткам) называюць асобу ці з'яву, што характарызуюцца нездзяйсненнем дзеяння, названага ўтваральным словам: *вучыцца — невук, рушыць — неруш, слухаць — неслух, урадзіць — няўрод.*

Націск на прэфіксе, але *няўрод.*

Чаргуюцца шыпячыя з заднеязычнымі: *вучыцца — невук;* парнамяккія з цвёрдымі: *гарадзіць — агарод.*

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове (*нераб* 'гультай', *няжон* 'халасцяк').

Ад дзеяслова *гадзіць* утворан назоўнік жаночага роду *нягода,* які абазначае адцягненае паняцце, з'яву прыроды.

Ад назоўніка *пагода* ўтворан назоўнік жаночага роду *непагадзь,* які абазначае з'яву прыроды.

§ 591. Аддзеяслоўныя назоўнікі мужчынскага роду з прэфіксам *по-* складаюць два тыпы.

1. Назоўнікі, якія абазначаюць дзеянне, названае ўтваральным словам, якое праяўляецца ў меншай, аслабленай ступені ці мае асаблівасці ў праяўленні: *дыхаць — подых, клікаць — покліч, пытаць — попыт, свістаць — посвіст, слухаць — послух, спяшацца — поспех.*

Чаргуюцца *к—ч, ш—х: клікаць — покліч, спяшацца — поспех;* мяккія зычныя з цвёрдымі: *шумець — пошум.*

Націск на прэфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

2. Назоўнікі з прадметным значэннем. Яны абазначаюць асобу ці неадушаўлёны прадмет як суб'ект дзеяння: *варыць — повар, ездзіць — поезд;* прадмет ці сукупнасць іх, якія характарызуюцца дзеяннем: *вадзіць — повад, класці (кладу) — поклад, плаваць — поплаў, мяшаць — помесь.*

Тып малапрадуктыўны.

Прэфікс *по-* маюць асобныя адсубстантыўныя назоўнікі: *покуць* (ад *кут*), *понаж* (ад *нага*).

§ 592. Адпрыметнікавыя назоўнікі з прэфіксам *про-* абазначаюць прымету, названую ўтваральным словам, якая праяўляецца ў нявызначанай меры: *белы — пробель, прожаўць, прозалаць, прозелень, просінь.*

Парна-цвёрдыя зычныя канца асновы чаргуюцца з мяккімі: *белы — пробель, залаты — прозалаць.*

Націск на прэфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

Асобныя словы з прэфіксам *про-* ўтвораны ад назоўнікаў *цемра — процьма,* з адсячэннем *-р-*) і дзеясловаў (*пісаць — пропісь*).

Назоўнікі з ненаціскной прыстаўкай *пра-* маюць значэнне 'прадмет,

які характарызуецца прыметай, названай утваральным словам': *голы — прагал, белы — прабел.*

Тып непрадуктыўны.

§ 593. А д д з е я с л о ў н ы я назоўнікі жаночага і мужчынскага роду з прэфіксам *су-* абазначаюць з'явы і зборныя паняцці, якія характарызуюцца дзеяннем, названым утваральным словам: *месці (мятуць)— сумёт, сувязь, сумесь.*

Чаргуюцца парна-цвёрдыя зычныя з мяккімі: *вязаць — сувязь,* а таксама *ш—с': мяшаць — сумесь.*

Націск на прэфіксе або корані.

Тып малапрадуктыўны.

§ 594. Асобнымі словамі прадстаўлены прэфіксальна-нульсуфіксальныя ўтварэнні з прэфіксамі *ад-* (*касы — адкос*), *за-* (*вада — завадзь*), *ка-* (*даўбці — кадаўб*).

### *Складаныя назоўнікі (назоўнікі-кампазіты)*

§ 595. Назоўнікі-кампазіты часцей за ўсё складаюцца з невытворных асноў слоў розных часцін мовы і асноў назоўнікаў (у большасці выпадкаў ускладненых словаўтваральнымі афіксамі).

У першай частцы складанага слова звычайна выступаюць асновы назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў, прыслоўяў, дзеясловаў, у другой — аснова назоўніка або дзеяслова.

Сэнсавыя адносіны паміж кампанентамі складанага слова не раўназначныя адносінам паміж словамі ў аналагічным словазлучэнні; значэнне першага кампанента з'яўляецца ўдакладняльным, дадатковым, значэнне канцавога, апорнага — асноўным.

У залежнасці ад структурных асаблівасцей, характару сувязі і адносін паміж кампанентамі адрозніваюць дзве разнавіднасці назоўнікаў-кампазітаў: 1) складанні з апорным кампанентам, роўным самастойнаму слову і 2) складанні са звязанымі апорнымі кампанентамі.

### Складанні з апорным кампанентам, роўным самастойнаму слову

#### Складаныя словы са спалучальнымі адносінамі асноў

§ 596. Складаныя назоўнікі са спалучальнымі адносінамі асноў суадносяцца са спалучальнымі словазлучэннямі, у якіх абедзве часткі з'яўляюцца назоўнікамі і знаходзяцца ў адносінах непасрэднай сувязі: *лесатундра (лес і тундра), жалезабетон (жалеза і бетон).* Гэтыя назоўнікі — вынік простага злучэння двух граматычна незалежных назоўнікаў, вынік аб'яднання двух раўнапраўных паняццяў, названых утваральнымі словамі.

Да гэтай разнавіднасці складання належыць адносна невялікая колькасць складаных назоўнікаў тыпу *жалезабетон, законапраект, зубрабізон, краявід, лесапарк, лесастэп, лесатундра, мясакамбінат, насаглотка, серавадарод, торфабрыкет, шкловалакно.* У некаторых утварэннях першы кампанент мае ўсечаную аснову: *веламатацыкл, аўтацыстэрна, трагікамедыя.*

У якасці інтэрфікса выступае афікс *-а(-я);* у некаторых назоўніках ён нулявы (*Ленінград*).

Тып прадуктыўны.

§ 597. Складаныя назоўнікі з падпарадкавальнымі адносінамі асноў суадносяцца з падпарадкавальнымі словазлучэннямі, у якіх граматычныя адносіны выражаюцца ўскоснымі склонамі з прыназоўнікамі або без іх. Першы кампанент знаходзіцца ў падпарадкавальнай сувязі з другім. Ролю апорнага кампанента выконвае другі, канцавы кампанент (назоўнік невытворны або афіксальны), ролю ўдакладняльнага — першы кампанент: *пчалапасека (пасека для пчол), шклатара (тара для шкла), светапогляд (погляд на свет), лесапаласа (паласа лесу), бульбасховішча (сховішча для бульбы).* У якасці першага выступаюць асновы назоўнікаў: *газабалон, гукарэжысёр, кінатэатр, нафтаперапрацоўка, радыёперадача, чалавека-дзень;* прыметнікаў: *новабудоўля, сухафрукты;* лічэбнікаў: *двухвокіс, першакрыніца.*

Значная колькасць складаных назоўнікаў утворана ад асновы займенніка *сам* (інтэрфікс *-а-*): *самаадвод, самаадукацыя, самаабслугоўванне, самаацэнка, самадысцыпліна, самамэта, самахарактарыстыка;* усечанай асновы прыметніка *узаема-* (ад *узаемны*): *узаемавыручка, узаемадапамога, узаемаразуменне, узаемаўплыў.* У радзе складаных назоўнікаў першым кампанентам з'яўляецца ўсечаная аснова *паў-* (ад *палова*) і *напаў-* (ад *напалавіну*): *паўакно, паўвостраў, паўзмрок, паўкруг, паўпадвал, напаўдзікун, напаўхмызняк;* апорны назоўнік *горад* у непаўнагалоснай форме *град-*: у назвах буйных прамысловых прадпрыемстваў, новабудоўляў, камбінатаў: *нафтаград, аўтаград.*

Тып прадуктыўны.

§ 598. Прадуктыўны тып складаюць таксама назоўнікі-кампазіты, у якіх першым кампанентам з'яўляецца ўсечаная аснова або першы кампанент звязаны.

Найбольш часта ў якасці ўсечаных сустракаюцца асновы назоўнікаў або суфіксальных прыметнікаў, у большасці выпадкаў з інтэрнацыянальнымі каранямі (яны падаюцца разам з інтэрфіксамі): *авія-* (ад *авіяцыя, авіяцыйны*): *авіябомба, авіякампанія, авіялінія; аўта-* (ад *аўтамабіль, аўтамабільны* ці *аўтобус, аўтобусны*): *аўтапрабег, аўтатранспарт, аўтавакзал, аўтааматар; аўта-* (*аўтаматычны*): *аўтазварка, аўтапагрузчык, аўтарэгуліроўка; агра-* (*аграномія, агранамічны*): *аграмінімум, агратэхніка; астра-* (*астраномія, астранамічны*): *астрабатаніка, астрафізіка; бенза-* (*бензін*): *бензабак, бензазапраўка, бензасховішча; бія-* (*біялогія, біялагічны*): *біяфізіка, біяхімія; вела-* (*веласіпед, веласіпедны*): *велакрос, велафігурыст; заа-* (*заалогія, заалагічны*): *заапарк, заагеаграфія; касма-* (*космас, касмічны*): *касмафізіка; мота-* (*матор, маторны*): *моталодка, мотапіла; мота-* (*матарызаваны*): *мотапяхота, мотабрыгада; мота-* (*матацыкл, матацыклетны*): *мотагонкі, мотаспорт; радыё-* (*радыёактыўнасць, радыёактыўны*): *радыёбіялогія, радыётэрапія; сейсма-* (*сейсмічны*): *сейсмаразведка, сейсмастанцыя; стэрэа-* (*стэрэаскапічны*): *стэрэакіно, стэрэаэфект; тэле-* (*тэлебачанне, тэлевізійны*): *тэлеперадача, тэлеэкран, тэлеатэлье; тэрма-* (*тэрмічны*): *тэрмаізаляцыя, тэрмабур; турба-*: *турбагенератар, турбакампрэсар; фота-* (*фатаграфія, фатаграфічны*): *фотаапарат, фотакопія; электра-* (*электрычнасць, электрычны*): *электрапрыбор, электраперадача; энерга-* (*энергія, энергетыка, энергетычны*): *энергасістэма, энергагігант* і інш; звязаныя кампаненты ў асноўным інтэрнацыянальнага характару: *аўта-* (сінанімічны кампаненту *сама-*): *аўтабіяграфія, аўтапартрэт; аўта-* ('які рухаецца, прыводзіцца ў рух самастойным парадкам'): *аўтавагон, аўтаплуг; астра-* ('які адносіцца да зорак'): *астраспектра-*

*скоп, астрафатаграфія; аэра-* (сінанімічны *авія-*): *аэраваксал, аэрасеў; аэра-* ('які мае адносіны да паветра'): *аэрадынаміка; бія-* ('які адносіцца да жыцця'): *біятокі; відэа-* ('які адносіцца да перадачы адлюстравання на адлегласці'): *відэазапіс, відэатэлефон; геа-* ('які адносіцца да зямлі'): *геабатаніка, геахімія; гідра-* ('які адносіцца да вады'): *гідраізаляцыя, гідрадынаміка, гідралакатар; макра-* (антанімічны да *мікра*): *макраклімат, макрарэльеф; мікра-* ('вельмі малы, звязаны з вывучэннем празмерна малых прадметаў, велічынь'): *мікраарганізм, мікрабіялогія; міні* ('малы, кароткі'): *міні-партыя* (шахм.), *міні-футбол; мона-* ('адзіночны'): *монакультура, монарэльс; неа-* ('новы'): *неанацызм, неарэалізм; полі-* ('які складаецца з многіх частак'): *полівітамін, поліметал; тэле-* ('які ажыццяўляецца на адлегласці'): *тэлекантроль, тэлеўпраўленне; фота-* ('які адносіцца да святла, да светлавой энергіі'): *фотасінтэз, фотахімія.*

§ 599. Складаныя назоўнікі з апорным кампанентам-назоўнікам у родным склоне і першым кампанентам *паў-*. Яны маюць значэнне 'палавіна чаго-небудзь': *паўвядра, паўгадзіны, паўміра, паўпрацэнта, паўсутак.*

Тып прадуктыўны.

§ 600. Складаныя назоўнікі з апорным кампанентам-назоўнікам і першым кампанентам у форме, аманімічнай загаднаму ладу дзеяслова. Яны абазначаюць адушаўлёны або неадушаўлёны прадмет, які характарызуецца дзеяннем, звязаным з тым, што названа апорным кампанентам: *сарвігалава, дзяржыдрэва (бат.), дзяржыморда (разм.), перакаці-поле; Гуляй-поле.*

Тып непрадуктыўны.

## Складанні са звязанымі апорнымі кампанентамі

§ 601. Звязаныя апорныя кампаненты характарызуюцца тым, што яны выступаюць толькі ў якасці кампанента слова (складанага ці простага). Да найбольш ужывальных адносяцца тыпы з наступнымі апорнымі кампанентамі: *-лаг* — са значэннем занятку або прафесіі: *вулканолаг, псіхолаг, тэкстолаг; -граф* — у назвах асоб па прафесіі, звязанай з апісаннем або запісамі чаго-небудзь ці якім-небудзь чынам: *бібліёграф, лексікограф, гідрограф;* у назвах прылад, механізмаў, прыбораў, прызначаных для запісу чаго-небудзь: *барограф, сейсмограф, фанограф, цынкограф; -грама* — у назвах, якія абазначаюць вынік запісу чаго-небудзь або якім-небудзь чынам: *сейсмаграма, тэлеграма, фонаграма, шыфраграма; -метр* — у назвах вымяральных прыбораў: *віброметр, каларыметр, мікрометр, радыёметр, рэнтгенаметр; -філ* — у назвах асоб, якія маюць схільнасці да чаго-небудзь: *бібліяфіл, чэрнафіл, славянафіл* або ў назвах жывых істот, якія любяць тое, што з'яўляецца ўмовамі іх існавання: *гідрафіл, тэрмафіл; -скоп* — у назвах прыбораў, інструментаў, прызначаных для назірання над чым-небудзь: *мікраскоп, спектраскоп, тэлескоп, фільмаскоп; -фон* — у назвах прыбораў, прызначаных для перадачы гукаў: *гідрафон, тэлефон; -план* — у назвах лятальных апаратаў: *аэраплан, гідраплан, ракетаплан, стратаплан; -стат* — у назвах апаратаў, якія пазбаўлены руху, або рухаюцца пад уздзеяннем знешніх сіл: *аэрастат, гідрастат, стратастат; -наўт* — у назвах асоб, якія ажыццяўляюць палёты на лятальных апаратах: *астранаўт, аэранаўт, касманаўт, стратанаўт; -дром* — у назвах пляцовак, прызначаных для спаборніцтваў на конях, машынах, для выпрабавання машын, узлёту і пасадкі лятальных апаратаў і г. д.: *аэрадром, іпадром, ракетадром, танкадром; -бус* — у назвах відаў транспарту:

*аўтобус, гідробус, мікробус, тралейбус; -кар* — у назвах невялікіх памерамі прыстасаванняў для перавозкі грузаў: *аўтакар, электракар; -тэка* — у назвах, якія абазначаюць збор чаго-небудзь або памяшканне для захоўвання гэтага збору: *бібліятэка, ігратэка, картатэка, фанатэка, фільматэка; -роб* — у назвах асоб, занятых у якой-небудзь галіне сельскай гаспадаркі: *земляроб, хлебароб; -бол* — у назвах гульняў з мячом: *гандбол, мотабол, футбол; -мер* — у назвах хімічных элементаў: *ізамер, палімер; -ліз* — у назвах працэсаў разлажэння хімічных рэчываў: *гідроліз, электроліз; -лакацыя: гідралакацыя, радыёлакацыя.* Апорны кампанент пры гэтым спосабе словаўтварэння складаецца з асновы і суфікса. Ён можа з'яўляцца як самастойным словам, так і часткай складанага слова.

### *Суфіксальна-складаныя назоўнікі*

#### Складанні з апорным кампанентам — асновай дзеяслова

§ 602. Далучэнне асноў тут адбываецца пры дапамозе інтэрфікса *-а (-я)*; першая частка падпарадкоўваецца другой.

§ 603. Назоўнікі з суфіксам *-нік* называюць прадмет (у тым ліку асобу), які выконвае дзеянне ці прызначан для выканання дзеяння, абазначанага дзеяслоўнай асновай і канкрэтызаванага першай, назоўнікавай асновай: *вогнепаклоннік, рукамыйнік, саломапад'ёмнік, токапрыёмнік.*

Тып набывае прадуктыўнасць у тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 604. Назоўнікі з суфіксам *-льнік* абазначаюць асобу, прадмет ці прыладу, якія ўтвараюць дзеянне або прызначаны для выканання дзеяння, названага апорнай асновай і канкрэтызаванага першай асновай: *бульбакапальнік, вуглепагружальнік, газараспыляльнік, законапарушальнік, мінашукальнік, пазыкатрымальнік, папературымальнік, светавымяральнік, хвалеўтваральнік.* У якасці першай асновы выступаюць: асновы назоўнікаў *(мінашукальнік, хвалеўтваральнік)*, прыметнікаў і лічэбнікаў *(хуткасшывальнік, першаадкрывальнік).*

Тып прадуктыўны.

§ 605. Назоўнікі з суфіксам *-шчык (-чык)* абазначаюць асобу або прыладу, што ўтварае дзеянне, названае асновай дзеяслова і канкрэтызаванае першай асновай: *вуглепастаўшчык, збожжанарыхтоўшчык, пенькапрадзільшчык, рудапрамывальшчык, сталеліцейшчык.* У якасці першай асновы выступаюць асновы назоўнікаў.

Тып прадуктыўны ў тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 606. Назоўнікі з суфіксам *-цель* абазначаюць прадмет (прыладу, асобу), які ўтварае дзеянне ці прызначаны для выканання дзеяння, названага апорнай асновай і канкрэтызаванага першай асновай; у якасці першай асновы выступаюць: асновы назоўнікаў *(вогнетушыцель, саломааддзяліцель)*, прыметнікаў *(гучнагаварыцель).*

Тып набывае некаторую прадуктыўнасць у навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 607. Назоўнікі з суфіксам *-авік* абазначаюць прадметы, якія характарызуюцца дзеяннем, названым апорнай асновай і ўдакладненым першай асновай: *ветрарухавік, электрарухавік.*

Тып мае некаторую прадуктыўнасць у навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 608. Назоўнікі з суфіксам *-ец (-ац)* абазначаюць адушаўлёны або неадушаўлёны прадмет, які ўтварае дзеянне, названае асновай дзеяслова і ўдакладненае першай асновай: *байкапісец, браняносец, зака-*

*надавец, краязнавец, крывапівец, лістаносец, мастацтвазнавец, мінаносец, мовазнавец, музыказнавец, палкаводзец, сцяганосец, таваразнавец, флатаводзец.*

У якасці першай асновы выступаюць: асновы назоўнікаў (*канькабежац, малатабоец*), лічэбнікаў, у тым ліку слова *многа* (*першапраходзец, пяціборац, мнагаборац*), займеннікаў (*самадзержац*). У некаторых словах гэтага тыпу першая аснова ўсечаная: *авіяносец, касмапраходзец.*

Тып прадуктыўны, асабліва пры ўтварэнні слоў на *-боец, -борац, -знавец, -носец.*

§ 609. Назоўнікі з суфіксам *-к-а* абазначаюць прадмет (асобу ці прыладу), які ўтварае дзеянне ці прызначаецца для выканання дзеяння, названага асновай дзеяслова і канкрэтызаванага першай асновай: *саломарэзка, сіласарэзка.* У якасці першай асновы выступаюць: асновы назоўнікаў (*вадакачка, мышалоўка, мясарубка, пасудамыйка*), прыметнікаў (*скараварка*), займеннікаў (*самакрутка, самаробка*).

Тып мае прадуктыўнасць у тэхнічнай тэрміналогіі і бытавой мове.

§ 610. Назоўнікі з суфіксам *-лк-а* абазначаюць прыладу, прызначаную для выканання дзеяння, названага асновай дзеяслова і канкрэтызаванага першай — назоўнікавай — асновай: *бульбасаджалка, землесушылка, землечарпалка, каменедрабілка, снопавязалка, травасеялка.*

Тып прадуктыўны ў тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 611. Назоўнікі з суфіксам *-ств-а* абазначаюць дзеянне або дзейнасць, названыя дзеяслоўнай асновай і канкрэтызаваныя першай асновай. У якасці першай асновы выступаюць: асновы назоўнікаў (*зубаскальства, рыбалоўства, суднаходства*), прыметнікаў (*вальнадумства, пустазвонства*).

Тып малапрадуктыўны.

§ 612. Назоўнікі з суфіксам *-л-я* абазначаюць дзеянне, названае дзеясловам і канкрэтызаванае першай — назоўнікавай — асновай: *авечкагадоўля, жывёлагадоўля, птушкагадоўля, свінагадоўля.*

Тып прадуктыўны.

§ 613. Назоўнікі з суфіксам *-н-я* абазначаюць памяшканне, прызначанае для выканання дзеяння, названага асновай дзеяслова і канкрэтызаванага першай — назоўнікавай — асновай: *каменяломня, лесапільня, мукамольня, сыраварня, цукраварня.*

Тып непрадуктыўны.

§ 614. Назоўнікі з суфіксам *-нн-е (-енн-е)* абазначаюць дзеянне або працэс, названыя дзеясловам і канкрэтызаваныя першай асновай: *вагонабудаванне, водалячэнне, глебаўтварэнне, землеапісанне, землекарыстанне, землеўгнаенне, землеўпарадкаванне, кроваўтварэнне, лесазахоўванне, лесанасаджэнне, лесаразвядзенне, месцанараджэнне, месцараспалажэнне, станкабудаванне, формаўтварэнне.* У якасці першай асновы выступаюць: асновы прыметнікаў (*чыстапісанне, тонкапрадзенне*), усечаныя асновы назоўнікаў у словах *авіяцыя, турбіна, космас* (*авіябудаванне, турбабудаванне, касмапланаванне, касмабачанне*).

Тып высокапрадуктыўны.

### Складанні з апорным кампанентам — асновай назоўніка

§ 615. Назоўнікі з суфіксам *-нік* абазначаюць адушаўлёны або неадушаўлёны прадмет па адносінах да таго, што названа апорнай асновай і канкрэтызавана першай асновай: *воднальжнік, першаразраднік.* У якасці першай асновы выкарыстоўваюцца: асновы прыметнікаў (*белабілетнік, старшакласнік, чарнакніжнік*), лічэбнікаў, у тым ліку сло-

вы *многа, шмат* (*аднаклубнік, другагоднік шасцікласнік, многастаночнік, шматграннік*), назоўнікаў (*землеўласнік, чалавеканенавіснік*).

Тып прадуктыўны.

§ 616. Назоўнікі з суфіксам *-ец (-эц, -ац)* абазначаюць асобу, якая адносіцца да таго або характарызуецца тым, што названа апорнай асновай і канкрэтызавана першай асновай: *кнігавыдавец, міратворац, чарнагорац, чарнасоценец, чырвонаармеец*. У якасці першай асновы выступаюць: асновы назоўнікаў (*нарадаволец*), прыметнікаў (*чарнаморац, чужаземец*), лічэбнікаў, у тым ліку слова *многа* (*аднадворац, мнагаборац*), займеннікаў (*самадзержац*).

Тып малапрадуктыўны.

§ 617. Назоўнікі з суфіксам *-ц-ы* абазначаюць інструменты, якія характарызуюцца тым, што названа апорнай асновай і канкрэтызавана першай асновай. У якасці апорнага кампанента выступаюць асновы назоўнікаў *зуб, губа*, у якасці першага кампанента — асновы прыметнікаў *вострый, плоскі*: *вастрагубцы* і *вастразубцы, пласкагубцы* і *пласказубцы*.

Тып непрадуктыўны.

§ 618. Назоўнікі з суфіксам *-к-а* абазначаюць прадмет (жывёлу, неадушаўлёны прадмет) паводле адносін да таго, што названа апорнай асновай і канкрэтызавана першай — лічэбнікавай—асновай: *аднагодак, аднамерак, першагодак, паўстанак* (з адсячэннем *-цыј*), *трохгодак*.

Тып непрадуктыўны.

§ 619. Назоўнікі з суфіксам *-ј-э* абазначаюць з'яву або стан, якія характарызуюцца наяўнасцю таго, што названа апорнай асновай і канкрэтызавана першай асновай. У якасці першай асновы выступаюць: асновы прыметнікаў (*белакроўе, пустаслоўе*), лічэбнікаў, у тым ліку *многа* (*шмат*) (*двухмоўе, шматкроп'е, шматслоўе* (*мнагаслоўе*)), назоўнікаў (*народаўладдзе*).

Тып малапрадуктыўны.

## Складанні са звязанымі апорнымі кампанентамі

§ 620. Назоўнікі жаночага роду з суфіксам *-іј-а (-ыј-а)* і звязанымі апорнымі кампанентамі *-граф, -метр, -скоп, -фон, -лаг, -тып, -хром* абазначаюць фізічныя з'явы, галіны навукі і тэхнікі, сферы заняткаў у адпаведнасці са значэннем апорнага кампанента і першага, удакладняльнага кампанента: *паліграфія, рэнтгенаскапія, стэрэафанія, фататыпія, паліхромія*. У якасці першых кампанентаў выступаюць пераважна ўсечаныя і звязаныя кампаненты інтэрнацыянальнага характару.

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай і навуковай тэрміналогіі.

## *Нульсуфіксальна-складаныя назоўнікі*

## Складанні з апорным кампанентам — асновай дзеяслова

§ 621. У складаных назоўніках гэтага тыпу другі (апорны) кампанент супадае з самастойным словам толькі графічна: *буралом, кашавар, ледаход*.

§ 622. Назоўнікі мужчынскага роду I скланення абазначаюць адушаўлёны прадмет, які характарызуецца дзеяннем, названым апорным словам і канкрэтызаваным першай асновай: *градабой, крывацёк, лістапад, плытаход, санцапёк*. У якасці першай асновы выступаюць: асновы назоўнікаў (*вадавоз, звераловў, ледакол, масларөб, мінамёт, мукамол,*

*сонцаварот, травастой)*, прыметнікаў *(жывадзёр, навасёл, пустазвон, самакат, сухавей, тугадум)*, лічэбнікаў *(аднадум, адналюб)*, прыслоўяў *(дармаед, усюдыход)*. Дзеяслоўныя асновы ў большасці выпадкаў беспрэфіксальныя. Утварэнні з прэфіксальнымі асновамі вельмі рэдкія *(громаадвод, самазвал, трубаправод)*. Усечаныя асновы назоўнікаў *бензін, турбіна, матор, электрычнасць* выступаюць у словах *бензавоз, турбавоз, турбаход, матавоз, электравоз.*

Тып прадуктыўны ў тэхнічнай тэрміналогіі. Найбольш частымі з'яўляюцца наступныя апорныя кампаненты: *-мер (вадамер, газамер, гукамер, дажджамер), -рэз (вадарэз, кустарэз), -ед (дрэваед, змеяед, караед, сенаед), -воз (вуглявоз, землявоз, лесавоз), -ход (атамаход), -правод, -адвод, -падвод (бензаправод, газаправод, громаадвод, токападвод), -нос (ваданос, меданос), -вар (мылавар, півавар, салявар), -роб (земляроб, масларob, хлебароб), -піс (гукапіс, жыццёпіс, рукапіс), -лоў (звералоў, птушкалоў), -сос (вуглясос, землясос, пыласос), -зварот (кровазварот), -люб (кнігалюб, сонцалюб), -мёт (агнямёт, бамбамёт), -вед (краявед, мовавед, прававед), -коп (вуглякоп, землякоп), -клад (тарпаклад, яйцаклад), -гляд (далягляд, кругагляд, светагляд).*

Значна радзей у якасці апорнага кампанента выкарыстоўваюцца марфемы: *-кол (дрывакол, ледакол), -вал (буравал, канавал, сукнавал), -сек (дрывасек, ледасек), -варот (вадаварот, кругаварот), -пуск (вадапуск, дымапуск), -мол (мукамол), -гон (ветрагон, плытагон), -дзёр (жывадзёр, цвікадзёр), -топ (маслатоп, салатоп), -луп (казалуп, скуралуп), -кос (сенакос), -сед (дамасед), -пыт (следапыт), -грыз (лістагрыз), -здым (дзерназдым), -гар (дымагар), -стой (травастой), -пал (вуглялал), -сей (мукасей), -скат (вадаскат), -лаз (вадалаз, верхалаз), -плёт, (вершаплёт), -схіл (небасхіл), -мес (цестамес), -крут (трубакрут), -пой (вадапой), -слеп (кураслеп), -від (краявід), -кур (вінакур, смалакур), -падзел (водападзел, складападзел, словападзел), -пёк (санцапёк, хлебапёк), -ліў, -адліў, -зліў (вадаліў, вадаадліў, вадазліў), -кід, -скід (стагакід, вадаскід), -цёк (крывацёк), -лом (буралом, хвалялом), -мор (мухамор, клапамор), -трэс (саламатрэс (с.-г.)).*

### Складанні з апорным кампанентам — асновай назоўніка

§ 623. Назоўнікі мужчынскага роду I скланення абазначаюць адушаўлёны або неадушаўлёны прадмет, які мае адносіны да таго або характарызуецца тым, што названа апорнай асновай і канкрэтызавана першай асновай: *пустацвет, чыстацел.* У якасці першай выступаюць: асновы прыметнікаў *(даўганос, пустацвет)*, лічэбнікаў, у тым ліку *многа (двухчлен, мнагачлен, васьміног)*, назоўнікаў *(караняплод, дубанос (заал.))*, дзеясловаў *(абібок, вярнідуб, скалазуб, прайдзісвет)*. Некаторыя назоўнікі гэтага тыпу маюць зборнае значэнне: *вербалоз, крэменязём, чарназём.*

Тып мае прадуктыўнасць у батанічнай і заалагічнай тэрміналогіі.

### *Абрэвіятуры і іх тыпы*

§ 624. А б р э в і я т у р ы — гэта назоўнікі своеасаблівай будовы. Яны складаюцца з частак слоў адпаведнага намінатыўнага словазлучэння. Паводле структуры вылучаюцца наступныя тыпы абрэвіятур: 1) складовыя абрэвіятуры — са спалучэння пачатковых частак слоў адпаведнага словазлучэння: *прафсаюзны камітэт — прафком, сельмаг, лясгас, камбат;* 2) ініцыяльныя абрэвіятуры, якія маюць два падтыпы: а) утварэнні з назваў пачатковых літар слоў: *вышэйшая навучальная*

*ўстанова* — *ВНУ* [*вэзну*], *БССР* [*бэзсэсэр*], *КПБ* [*капэбэ*]; б) утварэнні са спалучэння пачатковых гукаў слоў: *БАМ* [*бам*], *ТЮГ, МАЗ, ВАК;* 3) абрэвіятуры змешанага (складова-ініцыяльнага) тыпу — утварэнні, якія сумяшчаюць элементы папярэдніх тыпаў: *БелСЭ, педВНУ*; 4) абрэвіятуры, якія складаюцца з пачатковай часткі першага слова і канцавой (ці пачатковай і канцавой) другога: *ваенны камісарыят — ваенкамат, эскадраны мінаносец — эсмінец;* 5) абрэвіятуры, якія складаюцца з пачатковай часткі слова і цэлага слова: *нарсуд, педсавет, генплан.* Асобную разнавіднасць гэтага тыпу складаюць адзінкавыя абрэвіятуры з другой часткай у форме роднага склону: *камроты, паммайстра (памочнік майстра).*

Некаторыя абрэвіятуры ўключаюць не ўсе часткі адпаведных слоў намінатыўнага (назвы ўстаноў) словазлучэння: *Дзяржплан (Дзяржаўны планавы камітэт), Галоўбуд.*

Часткі абрэвіятур звычайна не супадаюць з марфемамі адпаведных слоў намінатыўнага словазлучэння. Звычайна ўсякаецца корань слова, хоць могуць скарачацца і афіксы: *нарком, галоўурач, партбюро.*

Ініцыяльныя і змешаныя (складова-ініцыяльныя) абрэвіятуры не скланяюцца і маюць той род, што і апорнае слова адпаведнага намінатыўнага словазлучэння: *КПБ — ж. р., БелСЭ — ж. р., ЦК — м. р., БДУ — м. р.* Аднак, калі яны ўтвараюць склад і канчаюцца на зычны, то адносяцца да мужчынскага роду і скланяюцца: *ВАК — у ВАКу, ЛіМ — у ЛіМе, БелАЗ — на БелАЗе.*

Многія, частыя паводле выкарыстання, кампаненты абрэвіятур набліжаюцца да частак складаных слоў, напрыклад першыя кампаненты: *галоў-, дзярж-, паліт-* і канцавыя: *-ком, -гас, -пром.*

Некаторыя назоўнікі сумяшчаюць адзнакі абрэвіяцыі і складання: *партбілет (партыйны білет* і *білет члена партыі), спортінвентар (спартыўны інвентар* і *інвентар для спорту), Беларусьфільм, Узбеккіно.*

Абрэвіятуры — чыстыя скарачэнні (частка аднаго слова) выкарыстоўваюцца як стылістычны сродак — зніжаныя сінонімы поўных (нескарочаных) слоў: *намеснік* і *нам., баскетбол* і *баскет, бакенбарды* і *бакі, факультэт* і *фак.*

Чыстыя скарачэнні могуць набываць суфіксы: *мультфільм — мульт — мульцік, веласіпед — вел — велік, тэлевізар — тэль і тэлік.*

Усе тыпы абрэвіятур маюць прадуктыўнасць у пісьмовай і вуснай мове.

## СЛОВАЎТВАРАЛЬНАЯ СІНАНІМІЯ НАЗОЎНІКАЎ

§ 625. Вытворныя назоўнікі паводле іх агульнага словаўтваральнага значэння падзяляюцца на чатыры разрады: 1) назоўнікі са значэннем 'носьбіт прыметы'; 2) назоўнікі з мадыфікацыйным значэннем; 3) назоўнікі з транспазіцыйным значэннем і 4) назоўнікі са злучальным значэннем.

Словы першага разраду групуюцца ў чатыры падразрады з улікам характару ўтваральнага слова як часціны мовы: а) 'носьбіт працэсуальнай прыметы' (аддзеяслоўныя ўтварэнні, напрыклад: *касіць — касец, ствараць — стваральнік*); б) 'носьбіт непрацэсуальнай прыметы' (адпрыметнікавыя ўтварэнні, напрыклад: *перадавы — перадавік, круглы — кругляк);* в) 'носьбіт прадметнай адзнакі (прыметы)' (адназоўнікавыя ўтварэнні, напрыклад: *калёсы — каляснік, рыба — рыбак);* г) назоўнікі са злучальным значэннем (словы чыстага складання, напрыклад: *глуханямы, жалезабетон).*

Сярод назоўнікаў са значэнем 'носьбіт працэсуальнай прыметы' аднакаранёвымі сінонімамі з'яўляюцца суфіксальныя ўтварэнні: 1) назвы асобы—утваральніка дзеяння, з суфіксамі: *-нік* і *-шчык* (*адпраўнік—адпраўшчык*), *-нік* і *-льнік* (*абразнік — абражальнік*), *-нік* і *-ц-а* (*вынаходнік — вынаходца*), *-нік* і *-ец* (*пасланнік — пасланец*), *-шчык* і *-ёр* (*бракоўшчык — бракёр*), *-льнік* і *-цель* (*выхавальнік — выхавацель*), *-льнік* і *-льшчык* (*вязальнік — вязальшчык*), *-чык* і *-ц-а* (*дарадчык — дарадца*), *-ец* і *-ц-а* (*знавец і знаўца*), *-цель* і *-ц-а* (*збавіцель — збаўца*), *-ец* і *-ар* (*змаганец — змагар*), *-аг-а* і *-ак-а* (*бадзяга — бадзяка*), *-шчык* і *-льшчык* (*абіўшчык — абівальшчык*), *-яш* і *-як-а* (*звадыяш — звадыяка*), *-aj-a* і *-ейк-а* (*жняя — жнейка*); 2) неадушаўлёныя назоўнікі: а) назвы прадметаў з вынікова-аб'ектным значэннем з суфіксамі: *-нн-е* і *-ак* (*адзенне — адзетак*), *-анк-а* і *-ух-а* (*байтанка — байтуха*), *-ін-ы* і *-лк-і* (*разваліны — развалкі* 'від саней'); б) назвы прадметаў — суб'ектаў дзеяння, з суфіксамі: *-к-а* і *-ачка-* (*болька — балячка*), *-лк-а* і *-отк-а* (*бразгалка — бразготка*), *-ок* і *-ец* (*паплавок — паплавец*); в) назвы месца, прасторы, прызначаных для выканання адпаведнага дзеяння, з суфіксамі: *-j-э* і *-ішч-а* (*вандроўе — вадровішча*), *-лк-а* і *-льн-я* (*парылка — парыльня*).

Пры іншых спосабах утварэння назоўнікаў аднакаранёвыя сінонімы прадстаўлены наступнымі радамі: а) з удзелам розных суфіксаў: *-j-э* і *-іц-а* (*бясхлеб'е — бясхлебіца*), *-нік* і *-ец* (*аднадумнік — аднадумец*), *-ец* і *-чанін* (*аднаселец — аднасяльчанін*), *-j-э* і *-цтв-а* (*бяспамяцце — бяспамяцтва*), *-j-э* і *-асць* (*аднадушша — аднадушнасць*), *-ень* і нулявым суфіксам (*нелюдзень — нелюдзь*), *-j-э* і нулявым суфіксам (*бяздонне — бездань*), *-j-э* і нулявым суфіксам (*адгалоссе — адгалосак — водгалас*); б) з рознымі прэфіксамі: *звыш-* і *супер-* (*звышчалавек — суперчалавек*), *уз-* і *аб-* (*узмежак — абмежак*).

Сярод назоўнікаў са значэннем 'носьбіт непрацэсуальнай прыметы' аднакаранёвымі сінонімамі з'яўляюцца суфіксальныя ўтварэнні: 1) назвы асоб з суфіксамі: *-ач* і *-ей* (*багач — багацей*), *-ец* і *-ік* (*вайсковец — вайскавік*), *-ак* і *-ыш* (*галяк — галыш*), *-ач* і *-ун*, *-ель* (*гарбач — гарбун — гарбель*), *-ун* і *-чак* (*весялун — весяльчак*), *-іл-а* і нулявым суфіксам (*мурзіла — мурза*), *-іц-а* і нулявым суфіксам (*роўніца — раўня*), *-аль* і *-ач* (*насаль — насач*), *-ан* і *-ач* (*пузан — пузач*); 2) назвы прадметаў з суфіксамі: *-ін-а* і *-іц-а* (*бакавіна — бакавіца*), *-ак* і *-ын-я* (*быстрак — быстрыня*), *-ік* і *-к-а* (*ватнік — ватоўка*), *-ак* і *-ушк-а* (*гніляк — гнілушка*), *-ік* і *-ушк-а* (*легкавік — легкавушка*), *-ік* і *-ішч-а* (*капуснік — капуснішча*), *-к-а* і *-іц-а* (*касцянка — касцяніца*), *-ын-я* і *-эльн-я* (*пустыня — пустэльня*); 3) назвы сукупнасці прадметаў (асоб) з суфіксамі: *-ін-а* і *-от-а* (*гніліна — гнілата*), *-ат-а* і *-ізн-а* (*гнілата — гнілізна*), *-от-а* і нулявым суфіксам (*галота — голь*), *-ізн-а* і нулявым суфіксам (*гнілізна — гніль*).

Сярод назоўнікаў са значэннем 'носьбіт прадметнай адзнакі' аднакаранёвымі сінонімамі з'яўляюцца: 1) назвы асоб з суфіксамі: *-нік* і *-шчык* (*алейнік — алейшчык*), *-нік* і *-іст* (*авантурнік — авантурыст*), *-нік* і *-ант* (*дыпломнік — дыпламант*), *-ер* і *-шчык* (*мільянер — мільёншчык*, прадметна-колькасная адзнака); 2) назвы прадметаў з суфіксамі: *-оўн-я* і *-ніц-а* (*багоўня — бажніца*), *-ін-а* і *-ак* (*гарбіна — гарбяк*); 3) назвы часткі прадмета з суфіксамі: *-ін-а* і *-ак-а* (*жалезіна — жалязяка*), *-аўj-о* і *-альн-а* (*пугаўё — пужальна*), *-j-о* і *-ільн-а* (*кассё — касільна*); 4) назвы мяса з суфіксамі: *-ін-а* і *-ацін-а* (*зайчына — зайчаціна*).

У разрадзе слоў з транспазіцыйным значэннем аднакаранёвымі сінонімамі з'яўляюцца вытворныя назоўнікі са значэннем: 1) працэсуаль-

най прыметы (дзеяння, стану) з суфіксамі: *-ін-а* і *-к-і* (*адведзіны — адведкі*), *-к-а* і *-нн-е/-энн-е* (*адклёпка — адклепванне, асушка — асушэнне*), *-к-а* і *-цц-ё* (*адлійка — адліццё*), *-ак* і *-нн-е* (*адлюстровак — адлюстраванне*), *-ацыj-а* і *-оўк-а* (*арнаментацыя — арнаментоўка*), *-ы-* і *-ніча-* (*бандарыць — бандарнічаць*), *-анін-а* і *-атн-я* (*беганіна — бегатня*), *-ка-а* і *-ств-а* (*вынаходка — вынаходства*), *-енн-е* і *-цц-ё* (*гніенне — гніццё*), *-ат* і *-анін-а* (*грукат — груканіна*), *-б-а* і *-н-я* (*гульба — гульня*), *-янк-а* і *-ін-я, -нн-е* (*гулянка — гульня — гулянне*), *-отк-а* і *-ык-і*, *-ак-а* (*дрыготка — дрыжыкі — дрыжака, абл.*), *-ак-а* і *-ачк-а* (*жвака — жвачка*), *-ак-* і *-к-а* (*заваротак — заваротка*), *-юг-а* і *-юк* (*бандзюга — бандзюк*), *-к-о* і *-ц-о* (*азярко — азярцо*), *-ок* і *-ец* (*паплавок — паплавец*), *-от-а* і *-юк* (*блазнота — блазнюк*), *-ін-а* і *-ішч-а* (*абшарына — абшарышча*), *-уг-а* і *-іск-а* (*вятруга — вятрыска*), *-ух-а* і *-ул-я* (*дзявуха — дзявуля*), *-ул-я* і *-ун-я* (*дзядуля — дзядуня*), *-ік* і *-ок* (*домік — дамок*), *-ін-а* і *-уг-а* (*звярына — звяруга*), *-к-а* і *-ц-а* (*золатка— золатца*), *-ачк-а* і *-інк-а* (*іскрачка — іскрынка*), *-к-а* і *-ушк-а* (*кадка — кадушка*), *-ак* і *-аг-а* (*кірчак — карчага*), *-чык* і *-ок* (*клубеньчык — клубянёк*), *-ул-я* і *-ус-я* (*мамуля — мамуся*), *-ун-я* і *-ус-я* (*дзядуня — дзядуся*).

## СЛОВАЎТВАРАЛЬНЫЯ ДУБЛЕТЫ НАЗОЎНІКАЎ

§ 626. Пад уплывам прадуктыўных словаўтваральных тыпаў нярэдка ўзнікаюць новыя словы, якія не адрозніваюцца ні семантыкай, ні сферай выкарыстання ад адпаведных утваральных назоўнікаў. Гэта словаўтваральныя дублеты. Яны ўзнікаюць з дапамогай наступных суфіксаў: *-нік* (*гушчар — гушчарнік, дрыотня — дрывотнік*), *-ін-а* (*бяроза — бярэзіна*), *-ак* (*валлё — валляк*), *-н-я* (*валюш — валюшня*), *-к-а* (*вечарына — вечарынка*), *-ік* (*гармоня — гармонік*), *-ішч-а* (*гара — гарышча*), *-j-э* (*грымоты — грымоцце*), *-от-а* (*дзіва — дзівота*), *-ар-а* (*дзятва — дзетвара*), *-ат* (*догма — дагмат*), *-ень* (*ёлуп — ёлупень*), *-цтв-а* (*адзінота — адзіноцтва*), *-еч-а* (*калатня — калатнеча*), *-ук* (*камель — камлюк*), *-ік* (*кош — кошык*), *-ак-а* (*кульба — кульбака*), *-ацін-а* (*лоб — лабаціна*), *-арн-я* (*ліхтар — ліхтарня*), *-уг-а* (*лотр — латруга*), *-авін-а* (*луг — лугавіна*), *-ушк-а* (*піўная — піўнушка*).

## СЛОВАЎТВАРЭННЕ ПРЫМЕТНІКАЎ

### *Суфіксальныя прыметнікі*

§ 627. З улікам асаблівасцей словаўтваральнай структуры і семантыкі суфіксальныя прыметнікі складаюць два разрады: 1) утварэнні з прыналежным значэннем і 2) утварэнні з адносным значэннем.

### Прыметнікі з прыналежным значэннем

§ 628. Суфікс *-оў*. Прыметнікі з суфіксам *-оў* (пасля мяккіх зычных пад націскам *-ёў*, не пад націскам *-аў, -еў*, ва ўскосных склонах і ў формах жаночага і ніякага роду — *-ов-, -ёв-, -ав-, -ев-*) маюць значэнне 'які належыць таму, хто названы ўтваральным словам': *рыбак — рыбакоў, Петрусёў, братаў, Колеў, брыгадзіраў*. Утваральнымі выступаюць агульныя адушаўлёныя н а з о ў н і к і мужчынскага роду, назвы асоб па прафесіі, занятку, пасадзе, сваяцкіх адносінах: *інжынер — інжынераў, брыгадзіраў, старшынёў, дзедаў*; назвы жывёл і птушак: *заяц — зайцаў, буслаў, сомаў, уюноў*; назвы міфалагічных істот: *бог — богаў, чортаў,*

а таксама ўласныя назоўнікі — мужчынскія імёны і прозвішчы: *Адам — Адамаў, Пецеў, Танкаў, Броўкаў.*

Націск на суфіксе (*-оў, -ёў*) або на тым складзе, што і ва ўтваральным слове (*Чыгрын — Чыгрынаў, дзед — дзедаў*).

Тып высокапрадуктыўны, асабліва ў гутарковай мове і творах мастацкай літаратуры (ад назоўнікаў са значэннем асобы).

§ 629. Суфікс *-ін* (*-ын*). Прыметнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў жаночага роду і маюць тое значэнне, што і папярэдні тып: *бабуля — бабулін, сястрын, Аленін.* Нешматлікую групу складаюць утварэнні ад назваў жывёл і птушак: *зязюля — зязюлін, ластаўчын, лісіцын;* міфічных істот: *ведзьма — ведзьмін, русалчын.* Утварэнні з суфіксам *-ін* (*-ын*) ад назоўнікаў мужчынскага роду (*Пецін, Лёнін*) з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *Алена — Аленін,* а таксама *к—ч, х—ш: бабулька — бабульчын, старасціха — старасцішын.*

Заўвага. Выпадкі адсутнасці чаргавання *к—ч* (*кніжкін, Зоськін*) з'яўляюцца парушэннем літаратурнай нормы.

Націск на тым складзе, што ва ўтваральным слове.

Тып прадуктыўны, асабліва ў гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры.

### Прыметнікі з адносна-якасным значэннем

§ 630. Суфікс *-ач-* (*-яч-*). Прыметнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў — назваў жывёл і маюць значэнне 'характарызуецца тым, мае адносіны да таго ці ўласцівы таму, што названа ўтваральным словам': *быдла — быдлячы, бычачы, жарабячы, кашачы, парасячы, цялячы, шчанячы, ягнячы.* Адасоблена слова *дзіцячы,* утворанае ад назвы са значэннем асобы.

Чаргуюцца *к—ч: сабака — сабачы.*

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 631. Суфікс *-ін-* (*-ын-*). Прыметнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назваў жывёл, птушак, насякомых і маюць значэнне 'уласцівы таму, мае адносіны да таго, што названа ўтваральным словам': *журавель — жураўліны, звярыны, качыны, птушыны, пчаліны, савіны.* Семантычна ізаляваны словы *тапаліны* (ад *таполя*) і *дзяціны* (ад *дзіця*). У працэсе ўтварэння ў словах *арліны, жураўліны, салаўіны* выпадаюць галосныя ўтваральнай асновы *о, э.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі, заднеязычныя — з шыпячымі; фіналь утваральнай асновы *-к-* адсякаецца: *кот — каціны, грак — грачыны, бялуга — белужыны, муха — мушыны, качка — качыны, птушка — птушыны.*

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны.

§ 632. Суфікс *-ан-* (*-ян-*). Прыметнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнні 'зроблены з таго ці з прымессю таго, што названа ўтваральным словам': *волава — алавяны, бляшаны, гліняны, дашчаны, драўляны, драцяны, жардзяны, ільняны, палатняны, саламяны, скураны, слюдзяны, сярэбраны, цагляны, шарсцяны, шкляны, аржаны, аўсяны, бульбяны, крывяны, ледзяны, маслены, пясчаны, супяшчаны, травяны;* 'які працуе на тым, што названа ўтваральным словам': *вада — вадзяны, ветраны, тарфяны;* 'мае ўласцівасць, якасць

таго, што названа ўтваральным словам': *дрыгва — дрыгвяны, палымяны, цьмяны, ядраны*. Прыметнікі *драўляны* (варыянт *дзеравяны, разм.*), *дрывяны, драўняны* адрозніваюцца паміж сабой характарам утваральных асноў і значэннем: *драўляны*<*дрэва*; *драўняны*<*драўніна, дрывяны*<*дровы*.

У мове мастацкіх твораў зафіксаваны рад прыметнікаў з гэтым суфіксам, утвораных ад іншага тыпу асноў: *балацяны, барвяны, вясняны, капусцяны, маразяны, святляны*. Словы *барвяны, вясняны* набылі статус літаратурнай нормы, *балацяны* адносіцца да размоўнага стылю, астатнія выкарыстоўваюцца толькі ў мастацкіх творах.

Заўвага. Прыметнікі *духмяны, паслухмяны, слухмяны, ціхмяны* ўтвораны ад назоўніка *дух*, дзеясловаў *паслухаць, слухаць* і прыметніка *ціхі* пры дапамозе суфікса *-мян-ы*.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *бульба — бульбяны, слюда — слюдзяны;* заднеязычныя — з шыпячымі: *бляха — бляшаны*.

Націск на суфіксе, радзей — на канчатку (*дрывяны́, скураны́, слюдзяны́, шкляны́*) ці на аснове (*сярэ́браны, я́драны*).

Тып прадуктыўны.

§ 633. Суфікс *-н-*. Прыметнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў, радзей — ад прыслоўяў і займеннікаў.

Адназоўнікавыя прыметнікі маюць агульнае значэнне 'адносіцца да таго, мае тое або якасць таго, што названа ўтваральным словам': *аварыя — аварыйны, бітумны, варыянтны, выйгрышны, выплатны, газаправодны, даходны, інтэлігентны, калгасны, кінапракатны, комплексны, кукурузны, латарэйны, музейны, надзейны, прыродны, саўгасны, стратны, турбагенератарны, узорны, хвойны, чарназёмны, эвалюцыйны, экскурсійны*.

Утваральнымі выступаюць невытворныя назоўнікі, якія абазначаюць прадметы, рэчывы, падзеі, з'явы, працэсы, адцягненыя паняцці: *веласіпед — веласіпедны, дагавор — дагаворны, карціна — карцінны, аварыя — аварыйны, аранжарэя — аранжарэйны;* складаныя (з дзвюма і больш асновамі): *чарназём — чарназёмны, авіядэсант — авіядэсантны, бромавадарод — бромавадародны* складанаскарочаныя: *калгас — калгасны, саўгас — саўгасны*.

Заўвага. Словы *калгасны, саўгасны* і *братні* маюць і прыналежнае значэнне: *калгасны (саўгасны) сад, братні сын*.

Пасля парных цвёрдых зычных (за выключэннем *л*) выступаюць нарошчаныя, ускладненыя суфіксы (звычайна ў запазычаных словах): *-альн- (кантынентальны, музыкальны, нармальны), -арн- (легендарны, малекулярны, фрагментарны), -озн- (венозны, грыпозны)*, а таксама вытворныя ад яго *-тозн-/-атозн- (экзэматозны, эмфізематозны)*, у прыметніку *прэтэнцыёзны* суфікс *-цыёзн-*.

Ускладненыя суфіксы *-орн-, -уальн-* выступаюць пасля зычных *д, т, с, з: ілюзорны, рэфлекторны, індывідуальны, працэсуальны, тэкстуальны; -ійн- (-ыйн-)* — пасля зычных *т, с, з: прагрэсійны, спартыйны, эксплазійны; -ічн- (-ычн-), -аічн-, -атычн-, -іяльн-* — пасля парных мяккіх і цвёрдых зычных, у тым ліку *к, г, х: ідэалістычны, металічны, сімвалічны, песімістычны, цыклічны, парадыгматычны, бранхіяльны*.

У радзе запазычаных слоў перад суфіксам адбываецца чаргаванне *з—т: аналіз — аналітычны, паэзія — паэтычны; с—т: хаос — хаатычны*.

Пры ўтварэнні прыметнікаў ад нескланяльных назоўнікаў з асно-

вай на галосныя *е, э* адбываецца нарашчэнне асновы за кошт *j*: *купэ — купэйны, рэле — рэлейны, шасэ — шасэйны.*

Суфікс *-ённ-* выступае толькі ў словах *парцыённы, пенсіённы, сесіённы,* але ў літаратурнай мове ў такім выглядзе выкарыстоўваецца рэдка (часцей у форме *сесійны, пенсійны*).

Суфікс *-арн-* малапрадуктыўны і лексічна абмежаваны галоўным чынам спецыяльнай тэрміналогіяй.

Перад суфіксам звычайна парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *гартань — гартанны, дробязь — дробязны;* заднеязычныя — з шыпячымі: *адліга — адліжны, жаўтуха — жаўтушны, абаранак — абаранчны,* а таксама *ц—ч: аканіца — аканічны; в—ў: дзяржава — дзяржаўны.*

Калі перад суфіксам *-к-* утваральнай асновы ёсць які-небудзь іншы зычны, то пры ўтварэнні прыметнікаў з суфіксам *-н-*, апрача чаргавання, праяўляюцца ўстаўныя галосныя *а, е: бэлька — бэлечны, гарэлка — гарэлачны, казка — казачны, капейка — капеечны.* Такое ж чаргаванне назіраецца і пры ўтваральнай аснове на *-ўк-а: вінтоўка — вінтовачны, вяроўка — вяровачны,* а таксама ў прыметніках, утвораных ад назоўнікаў дзеяслоўнага паходжання: *абліцоўка — абліцовачны, драпіроўка — драпіровачны, камандзіроўка — камандзіровачны.*

Пры ўтварэнні прыметнікаў *гарманічны, дысперсны, дыфузны, ілюзорны, лабараторны, санаторны, экспрэсіўны* адпадае канцавая частка асновы *-іj-* .

З а ў в а г а. Прыметнік *дывізіённы* суадносіцца з назоўнікам *дывізіён,* а прыметнік *дывізійны* — з назоўнікам *дывізія.*

Націск, як правіла, на тым складзе, што і ва ўтваральным слове. В ы к л ю ч э н н е складаюць прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў на *-цыя,* і некаторыя прыметнікі ад назоўнікаў на *-ія: авія́цыя — авіяцы́йны, эвалю́цыя — эвалюцы́йны, эксплуата́цыя — эксплуатацы́йны, ава́рыя — авары́йны,* а л е *аранжарэя — аранжарэйны, галантарэя — галантарэйны, дыфу́зія — дыфу́зны, диспе́рсія — дыспе́рсны, лабараторыя — лабараторны.*

Тып высокапрадуктыўны.

Утварэнні з суфіксам *-н-*, як правіла, стылістычна нейтральныя, а з яго варыянтамі (пераважна тымі, якія спалучаюцца з іншамоўнымі асновамі) ужываюцца ў кніжнай мове — навуковай тэрміналогіі.

А д д з е я с л о ў н ы я прыметнікі маюць агульнае значэнне 'які адносіцца да дзеяння'. Гэта значэнне рэалізуецца ў прыватных словаўтваральных значэннях: 'мае ўласцівасць падвяргацца пэўнаму дзеянню' (*адкідаць — адкідны, адразны, адсыпны*), 'здольны ўтвараць пэўнае дзеянне' (*выварыць — выварны, выграбны, захлапны, зацiскны*), 'з'яўляецца вынікам пэўнага дзеяння' (*накладаць — накладны, нашыўны, чаканны*).

Канцавая галосная асновы інфінітыва, а таксама *-ва-, -ыва-, -оўва-* пры ўтварэнні прыметнікаў адсякаюцца. Чаргуюцца парна-мяккія зычныя з цвёрдымі: *чаканіць — чаканны;* заднеязычныя — з шыпячымі: *абцягваць — абцяжны, слухаць — слушны; в—ў: залiваць — заліўны,* а таксама *л—л': пасылаць — пасыльны.*

З а ў в а г а. Прыметнікі *ліцейны, піцейны* (*уст.*) суадносяцца са словамі *ліць, піць* і назоўнікамі *ліццё, піццё* (суфікс *-ейн-*).

Націск пераважна на флексіі, радзей — на аснове, незалежна ад націску ўтваральнага дзеяслова.

Тып прадуктыўны.

Адпрыслоўныя прыметнікі абазначаюць якасць прадмета паводле розных акалічнасцей (часу, месца і г. д.), названых утваральнымі словамі: *апрыёрны, заўсёдны, міжвольны, навакольны, наўмысны, папярочны, паўсюдны, сапраўдны, сумысны, штохвілінны.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып малапрадуктыўны.

Ад займенніка *нічый* утворан прыметнік *нічыйны.*

§ 634. Суфікс *-ов-* (*-ав-*, *-ев-*). Пры дапамозе суфікса *-ов-ы* (пад націскам, не пад націскам *-ав-ы,* пасля мяккіх асноў не пад націскам *-ев-ы,* пад націскам *-ёв-ы*) утвараюцца прыметнікі ад назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя прыметнікі маюць значэнне 'які адносіцца да таго або ўласцівы таму, што названа ўтваральным словам': *вольха— альховы, балансавы, гадзіннікавы, газавы, дзіравы, дывановы, дымавы, журавінавы, ласкавы, пачуццёвы, пісьмовы, тыднёвы, узроставы, фінансавы, хваёвы, этылавы, яскравы.* Прыметнікі, утвораныя ад назваў жывёл, абазначаюць яшчэ прыналежнасць да пэўнай пароды або віду жывёльнага свету: *коцік — коцікавы, кракадзілавы, леапардавы, маржовы, слановы.* Невялікую падгрупу з гэтым суфіксам складаюць якасныя прыметнікі: *гонар — ганаровы, ліловы, пурпуровы, ружовы, тыповы.*

Беглая галосная ўтваральных асноў адсутнічае: *бабёр — бабра — бабровы, вузел — вузла — вузлавы, лямец — лямца — лямцавы;* выключэнне: *песня—песень—песенны.* Пры ўтварэнні прыметнікаў ад нескланяльных назоўнікаў адсякаецца канцавая галосная асновы: *кенгуру — кенгуровы, джэрсі — джэрсовы, какава — какававы.*

У прыметніках з суфіксам *-ов-* (*-ёв-*) націск на суфіксе, з суфіксам *-ав-* (*-яв-*) — на тым складзе, што і ва ўтваральных словах. Выключэнне складаюць некаторыя прыметнікі з аднаскладовай утваральнай асновай: *бой — баявы́, гук — гукавы́, корм — кармавы́, ніз — нізавы́, страх — страхавы́* і інш.

Асобныя прыметнікі ўжываюцца ў літаратурнай мове ў двух варыянтах — з націскным і ненаціскным суфіксам: *веснавы́* і *вясновы, ліпавы* і *ліповы* (*разм.*), *манеўровы, пуховы* — з націскным суфіксам, *аркестравы* — з ненаціскным.

Тып высокапрадуктыўны.

Па-за межамі сучаснай нормы знаходзяцца некаторыя прыметнікі, якія ўжываюцца ў мове мастацкай літаратуры: *брукавы* (*літ. брукаваны*), *жытнёвы* (*жытні*), *казкавы* (*казачны*), *металёвы* (*металічны*), *сталёвы* (*стальны*), *стылёвы* (*стылявы*) і інш.

Прыметнікі, утвораныя ад саміх прыметнікаў, абазначаюць непаўнату якасці: *белы — бялявы, гаркавы, зелянявы* (*разм.*), *кіслявы* (*разм.*), *маладжавы, русявы* і *русавы* (*разм.*), *саладжавы, сінявы, смуглявы,* або маюць агульнае якаснае значэнне: *белавы, легкавы, чарнавы.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі, а таксама *д—дж: белы — бялявы, малады — маладжавы.*

Заўвага. У прыметніках *жаўтлявы, танклявы,* выступае варыянт суфікса *-ав-* фармант *-ляв-ы,* а ў словах *сухарлявы, хударлявы* — *-арляв-ы.*

Аддзеяслоўныя прыметнікі ў асноўным маюць значэнне 'які прызначаны для выканання дзеяння, названага ўтваральным словам': *бурыць — буравы, качаваць — качавы, скакаць — скакавы, страхаваць — страхавы, хадзіць — хадавы.*

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы і *-ава-* перад суфіксам адсякаюцца.

Націск на флексіі.

Тып малапрадуктыўны.

§ 635. Суфікс *-ават- (-яват-)*. Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца якасныя прыметнікі ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя прыметнікі маюць агульнае значэнне 'які характарызуецца адносінамі да таго, што названа ўтваральным словам'. Яно рэалізуецца ў некалькіх прыватных значэннях: 'які мае ўласцівасці таго, што названа ўтваральным словам': *гультай — гультаяваты (разм.), жулікаваты (разм.), звераваты, зухаваты (разм.), ленаваты, мужыкаваты (разм.)*; 'які валодае тым, што названа ўтваральным словам': *воспа — васпаваты, вуграваты, сукаваты, хрaшчаваты;* часам з адценнем 'які мае састаўной часткай тое, што названа ўтваральным словам': *глей — глеяваты, жвіраваты*. Асобна стаіць прыметнік *вінаваты*.

Перад суфіксам беглая галосная ўтваральнай асновы выпадае: *кручок — кручкаваты, рубец — рубцаваты*.

Націск пераважна на суфіксе.

Тып прадуктыўны.

Прыметнікі, утвораныя ад саміх прыметнікаў, маюць значэнне 'валодае ў меншай ступені якасцю, названай утваральным словам': *белы — белаваты, брудаваты, гаркаваты, даўгаваты, драбнаваты, жаўтаваты, кіславаты, макраваты, нізкаваты, рудаваты, сіняваты, сыраваты, таўставаты, халаднаваты, цеплаваты, чарнаваты, шараваты*.

Утваральнымі выступаюць якасныя прыметнікі невытворныя (*белы — белаваты*) і з суфіксамі: *-н* (*брудны — брудаваты, халодны — халаднаваты*), *-к-* (*гразкаваты*), *-л-* (*хрыплы — хрыплаваты*), *-ов-* (*ружовы — ружаваты*) (з сумяшчэннем *-ов-* утваральнай асновы і фарманта).

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны.

Прыметнікі *ніштаваты, ніякаваты* (разм.) суадносяцца з асновамі займенніка (*нішто*) і прыслоўя (*ніяк*).

§ 636. Суфікс *-авіт- (-явіт-)*. Прыметнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя прыметнікі маюць значэнне 'які валодае ў вялікай ступені тым, што названа ўтваральным словам': *бас — басавіты, сакавіты, таленавіты, ядавіты*.

Тып малапрадуктыўны.

Аддзеяслоўныя прыметнікі маюць значэнне 'схільны да дзеяння, названага ўтваральным словам': *працаваць — працавіты, прагнуць — прагавіты, хварэць — хваравіты, цягнуць — цягавіты, пладзіць — пладавіты*.

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы, а таксама *-ава-, -ну-* перад суфіксам адсякаюцца.

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 637. Суфікс *-ат-*. Прыметнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад неадушаўлёных назоўнікаў — назваў частак цела або якой-небудзь спецыфічнай рысы асобы ці жывой істоты і маюць значэнне 'які характарызуецца тым або мае ў вялікай меры тое, што названа утваральным словам': *барада — барадаты, валасаты, вусаты, гарбаты, губаты, зубаты, крылаты, лабаты, мардаты, насаты, пузаты, рагаты, хвастаты, цыбаты, кудлаты, чубаты, жалабаты, паласаты*.

Перад суфіксам адсякаецца фіналь -*ін-* (*шчарбіна — шчарбаты*), чаргуюцца *к—ч*: *губка — губчаты*.

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны.

Ад дзеясловаў утвораны адзінкавыя словы: *зіркаты* (ад *зіркаць*), *пухнаты* (ад *пухнуць*), *смаркаты* (ад *смаркацца*).

§ 638. Суфікс *-чат-*. Прыметнікі з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя прыметнікі маюць агульнае значэнне 'які адносіцца да прадмета, названага ўтваральным словам'. Яно рэалізуецца ў больш прыватных значэннях: 'мае ў сабе тое, ці падобны на тое, што абазначана ўтваральным словам': *грэбень — грабенчаты, зубчаты, каленчаты (тэхн.), палавінчаты, рэпчаты, сцябельчаты*.

Націск пераважна на тым складзе, што і ва ўтваральных словах, выключэнне: *зубча́ты, сцябе́льчаты*.

Тып малапрадуктыўны.

Аддзеяслоўныя прыметнікі маюць значэнне 'схільны да дзеяння, або характарызуецца дзеяннем, названым утваральным словам': *пераліваццa — пераліўчаты, расплыўчаты, узрыўчаты*.

Націск на корані.

Тып непрадуктыўны, абмежаваны ўтварэннямі з каранямі дзеясловаў *ліць, плыць, рваць, сыпаць*.

§ 639. Суфікс *-аст-* (*-яст-*). Прыметнікі з гэтым суфіксам утвараюцца пераважна ад назоўнікаў, радзей — ад дзеясловаў.

Адназоўнікавыя прыметнікі маюць значэнне 'які характарызуецца знешняй інтэнсіўнай прыметай, названай утваральным словам': *брыжы — брыжасты, вушасты, галінасты, галавасты, гарласты, грудасты, грывасты, губасты, дуплясты, дзюбасты, зубасты, іглісты, каранасты, кіпцюрасты, лычасты, мардасты, скуласты, языкасты*. Семантычна адасоблены прыметнікі *вугласты, мышасты*.

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны, асабліва ў гутарковым стылі і мове мастацкай літаратуры.

Аддзеяслоўныя прыметнікі маюць значэнне 'схільны да дзеяння або характарызуецца дзеяннем, названым утваральным словам': *блішчаць — блішчасты, віхлясты, выгінасты, выкручасты, закручасты, зіркасты, павілясты (абл.), пакручасты*.

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны.

§ 640. Суфікс *-ів-* (*-ыв-*). Прыметнікі з гэтым суфіксам звычайна ўтвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне 'які характарызуецца наяўнасцю таго, што названа ўтваральным словам': *літасць — літасцівы, міласцівы, паршывы, пляшывы, праўдзівы*.

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

Асобныя прыметнікі з суфіксам *-ів-ы* (*-ыв-ы*) утвораны ад дзеясловаў; яны маюць значэнне 'схільны да дзеяння, названага ўтваральным словам': *ленавацца — лянівы, ілжывы, раўнівы, чарвівы*.

Націск на суфіксе; перад суфіксам фінальная галосная асновы інфінітыва, а таксама *-ава-* адсякаюцца (*раўнаваць — раўнівы, чарвівець — чарвівы*).

Тып малапрадуктыўны.

§ 641. Суфікс *-лів-*. Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца якасныя прыметнікі ад назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя прыметнікі маюць значэнні: 'характары-

зуецца тым, мае ўласцівасці таго або схільны да таго, што названа ўтваральным словам': *дождж — дажджлівы, жахлівы, засушлівы, заиейлівы, крыклівы, дураслівы, зайздрослівы, плаксівы, пралазлівы, пранырлівы, санлівы, сарамлівы, сіратлівы.* Утваральнымі выступаюць назоўнікі невытворныя: *жах — жахлівы;* з суфіксамі *-асць: зайздрасць— зайздрослівы;* з нулявым суфіксам: *засуха — засушлівы.* Перад суфіксам чаргуюцца *х—ш.*

У прыметніках, утвораных ад аднаскладовай асновы, націск на суфіксе; у астатніх выпадках пераважна на тым складзе, што і ва ўтваральным слове *(агíда — агíдлівы, гаспада́р — гаспада́рлівы),* в ы к л ю ч э н н е: *за́суха — засу́шлівы, сірата́ — сіратлівы, шча́сце — шчаслівы, за́йздрасць — зайздрослівы.*

Тып прадуктыўны.

А д д з е я с л о ў н ы я прыметнікі звычайна абазначаюць схільнасць да дзеяння, названага ўтваральным словам: *гаварыць — гаварлівы, даверлівы, жартаўлівы, здагадлівы, імклівы, кемлівы, маўклівы, пакорлівы.*

Многія прыметнікі з суфіксам *-лів-* суадносяцца як з назоўнікамі, так і з дзеясловамі: *здрадлівы (здраджваць, здрада), дакорлівы (дакараць, дакор), зняважлівы (зневажаць, знявага), пакутлівы (пакутаваць, пакута).*

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы перад суфіксам *-лів-* адсякаецца: *жартаваць — жартаўлівы, кеміць — кемлівы;* чаргуюцца заднеязычныя з шыпячымі: *берагчы — беражлівы, маўчаць — маўклівы, насміхацца — насмешлівы.*

Націск часткова на суфіксе (пераважна ў тых выпадках, калі ўтваральнае слова мае рухомы націск); часткова на аснове (пераважна пры нерухомым націску ва ўтваральным слове).

Тып прадуктыўны.

§ 642. Суфікс *-чыв-*. Пры дапамозе гэтага суфікса ад прыставачных дзеясловаў утвараюцца якасныя прыметнікі са значэннем 'схільны да дзеяння, абазначанага ўтваральным словам': *запальваць — запальчывы, забыўчывы, прывязчывы, прыліпчывы, ужыўчывы, уступчывы.*

Націск на аснове.

Тып малапрадуктыўны.

§ 643. Суфікс *-іст-* (*-ыст-*). Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца якасныя прыметнікі ад назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў, лічэбнікаў і прыслоўяў.

А д н а з о ў н і к а в ы я прыметнікі маюць значэнне 'валодае ўласцівасцямі таго, мае ці змяшчае (нярэдка ў вялікай меры) тое, што абазначана ўтваральным словам': *абрыў — абрывісты, агністы, багністы, балоцісты, валакністы, галасісты, гарысты, залацісты, каласісты, квяцісты, мускулісты, падзолісты, пушысты, рабрысты, скалісты, смалісты, ухабісты.*

Утваральнымі выступаюць назоўнікі невытворныя: *глей — глеісты, скала — скалісты;* з суфіксамі: *-ак (суглінак — сугліністы), -к- (кветка — квяцісты), -ын (маршчына — маршчыністы),* з нулявым суфіксам *(навар — наварысты).*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *балота — балоцісты;* заднеязычныя — з шыпячымі: *лапух — лапушысты, парог — парожысты.* Фіналі ўтваральных слоў *-ін-, -ак-, -к-, -ыj-* адсякаюцца: *суглінак — сугліністы, выбоіна — выбоісты, фанабэрыя — фанабэрысты.*

Націск пераважна на тым жа складзе, што і ва ўтваральным слове, радзей —на суфіксе.

Тып прадуктыўны.

Прыметнікі, утвораныя ад саміх п р ы м е т н і к а ў (звычайна — адназоўнікавых), абазначаюць вялікую колькасць таго ці прымесь або падабенства да таго, што названа ў аснове прыметніка: *агромны — агромністы, вадзяністы, крыvяністы, ледзяністы, пясчаністы, сярністы, тарфяністы, травяністы, шаўкавісты.*

Утваральнымі выступаюць прыметнікі з суфіксамі *-н-, -ан-, -ян-, -ав- (-яв-), -ов-* і інш.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып прадуктыўны.

А д д з е я с л о ў н ы я прыметнікі абазначаюць схільнасць да дзеяння, названага ўтваральным словам: *адрываць — адрывісты, задзірысты, пакладзісты, пералівісты, развесісты, раскідзісты, учэпісты.*

Утваральнымі выступаюць звычайна прэфіксальныя дзеясловы; канцавая галосная інфінітыўнай асновы, а таксама *-ва-, -іва-* адсякаюцца: *залівацца — залівісты, учэплівацца — учэпісты.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *надрываць — надрывісты.*

У прыметніках, утвораных ад прэфіксальных дзеясловаў, націск на корані, у астатніх — на суфіксе.

Тып прадуктыўны.

Ад л і ч э б н і к а ў утвораны толькі два словы: *два — дваісты, тры — траісты;* а д п р ы с л о ў я ў адно — *знарочысты (ад знарок).*

§ 644. Суфікс *-к-*. Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца якасныя прыметнікі звычайна ад назоўнікаў і дзеясловаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я прыметнікі абазначаюць 'мае ў сабе тое, характарызуецца тым, што названа ўтваральным словам': *вада — вадкі, глейкі, гразкі, гулкі, звонкі, мелкі, салодкі, слізкі, цяжкі.*

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *мель— мелкі, гразь — гразкі.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып малапрадуктыўны.

А д д з е я с л о ў н ы я прыметнікі маюць значэнне 'схільны да дзеяння ці здольны выклікаць дзеянне, названае ўтваральным словам': *гібкі, гнуткі, грузкі, даўкі, клейкі, колкі, коўзкі, ліпкі, ломкі, мылкі, плаўкі, сыпкі, чуткі.*

Утваральнымі выступаюць асновы беспрэфіксальных дзеясловаў: *вязнуць — вязкі, зябнуць — зябкі,* часам уся форма інфінітыва: *гнуць — гнуткі.*

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *мыліць — мылкі, звінець — звонкі; в — ў: плавіць — плаўкі; ж — г: дрыжаць — дрыготкі.*

Націск на аснове (а л е *трапяткі).*

Тып прадуктыўны.

§ 645. Суфікс *-ск-*. Пры дапамозе суфікса *-ск-* і яго вытворных ад асноў н а з о ў н і к а ў утвараюцца адносныя прыметнікі з агульным значэннем 'які адносіцца да таго або ўласцівы таму, што названа ўтваральным словам'. Утваральнымі выступаюць наступныя групы назоўнікаў: 1) назоўнікі са значэннем асобы; 2) назоўнікі са значэннем назвы жыхароў, краін, народаў і плямён; 3) назоўнікі са значэннем назвы жывёл; 4) уласныя геаграфічныя назвы; 5) назоўнікі са значэннем пор года і месяцаў; 6) назоўнікі са значэннем канкрэтных прадметаў і розных паняццяў.

Прыметнікі ад назоўнікаў першай групы маюць значэнне 'які належыць, уласцівы таму, мае адносіны да таго, што названа ўтварааль-

ным словам': *акцёр — акцёрскі, аўтарскі, афіцэрскі, бухгалтарскі, доктарскі, дырыжорскі, камандзірскі, партызанскі, піянерскі, пралетарскі, рэжысёрскі, снайперскі, шахцёрскі, штурманскі.* Сюды прымыкаюць таксама прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў, якія абазначаюць калектывы, аб'яднанні, ідэалагічныя плыні і г. д,: *грамадства — грамадскі, камсамольскі, ленінскі, людскі.*

Прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў другой групы, суадносяцца таксама з назвамі краін: *балгарскі (балгары* і *Балгарыя), беларускі, грузінскі, іранскі, скіфскі, татарскі.*

Прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў трэцяй групы, прадстаўлены асобнымі словамі: *зверскі, конскі, свінскі.*

Прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў чацвёртай групы, абазначаюць прымету па адносінах да месца, абазначанага ўтваральным словам: *Барысаў — барысаўскі, быхаўскі, бярэзінскі, гомельскі, добрушскі, капыльскі, кобрынскі, лепельскі, мядзельскі, пінскі, ружанскі, старобінскі, столінскі, чэрвеньскі.*

Прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў пятай групы, выражаюць прымету па адносінах да часу, абазначанага ўтваральным словам: *восеньскі, жнівеньскі, ліпеньскі, снежаньскі.* Блізка стаяць да гэтай групы прыметнікі, утвораныя ад назваў свят: *кастрычніцкі, купальскі, першамайскі.*

Прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў шостай групы, выражаюць прымету па адносінах да ўстановы, тэрыторыі, вучэння і г. д., названых утваральным словам: *акіянскі, гарадскі, завадскі, канцылярскі, марскі, медыцынскі, сельскі, філасофскі.*

Утваральнымі выступаюць назоўнікі невытворныя: *скіф — скіфскі, конь — конскі;* з суфіксамі: *-ак (рыбак — рыбацкі), -нік (разбойнік — разбойніцкі), -ук (паляшук — паляшуцкі), -ыст (дзекабрыст — дзекабрысцкі), -ар (арганізатар — арганізатарскі), -цель (прыяцель — прыяцельскі), -енн- (упраўленне — упраўленскі), -ішч- (Гарадзішча — гарадзішчанскі);* складаныя назоўнікі з кампанентамі *-горад, -град: ленінградскі, ноўгарадскі;* абрэвіятуры: *абкомаўскі, камсамольскі.*

У залежнасці ад будовы ўтваральнай асновы суфікс *-ск-*, захоўваючы ўласцівае яму значэнне, ускладняецца і выступае ў выглядзе наступных варыянтаў *-анск- (-янск-), -енск-, -аўск-, -оўск-, -ейск-, -ійск- (-ыйск-), -інск- (-ынск-).*

Фармант *-анск- (-янск-), -іянск- (-ыянск-) пераважна маюць* прыметнікі ад геаграфічных назваў на *-ч, -ча, -ша, -шча, -жа, -ля, -ма, -на, -ня, -та, -це* і з некаторымі іншымі асновамі: *Нарач — нарачанскі, Елча — елчанскі, Орша — аршанскі, Селішча — селішчанскі, Нароўля — нараўлянскі, Карма — кармянскі, Хлеўна — хляўнянскі, Вусце — вусцянскі.* Сюды ж адносіцца рад прыметнікаў, утвораных ад іншамоўных геаграфічных назваў: *амерыканскі, афрыканскі, італьянскі, мараканскі, неапалітанскі, перуанскі.*

Фармант *-енск-* выступае пераважна ў прыметніках ад геаграфічных назваў на *-ба, -ва, -ля, -на, -ня: Газьба — газьбенскі, Зэльва — зэльвенскі, Відомля — відомленскі, Рагозна — рагозненскі, Стрэльня — стрэльненскі.*

Фармант *-оўск- (-ёўск-), -аўск- (-еўск-)* выступае пасля зычных (апрача *г, к, х*) у прыметніках, утвораных ад некаторых агульных назоўнікаў, а таксама ў асабовых назоўніках мужчынскага роду і ўласных назоўніках, якія з'яўляюцца прозвішчамі асоб мужчынскага полу або геаграфічнымі назвамі, абрэвіятурамі агульнымі і ўласнымі: *верасень — вераснёўскі, лістападаўскі; бацькоўскі, вучнёўскі, дзедаўскі, каралеўскі, краўцоўскі, сяброўскі, коласаўскі, купалаўскі, чапаеўскі;*

*дняпроўскі, нёманаўскі, пустынкаўскі, старынкаўскі, чэрнеўскі; дзетсадаўскі, уралмашаўскі.*

Фармант *-ейск-* выступае ў прыметніках, утвораных ад назоўнікаў з асновай на *-ij-* (*-ыj-*): *армія — армейскі, архейскі (геал.), біблейскі, гвардзейскі.* Асобна стаіць прыметнік *еўрапейскі*, утвораны ад асновы назоўніка *Еўроп-а.*

Фармант *-ійск-* (*-ыйск-*) выступае ў асобных прыметніках, утвораных ад агульных і ўласных назоўнікаў на зычны: *алімпійскі, балтыйскі, камбаджыйскі, піфагарэйскі.*

Фармант *-інск-* (*-ынск-*) выкарыстоўваецца ў прыметніках, утвораных ад агульных асабовых назоўнікаў жаночага роду і ўласных назоўнікаў, якія з'яўляюцца геаграфічнымі назвамі: *екацярынінскі, мацярынскі, гагрынскі, сочынскі, чыцінскі.* У прыметніку *братэрскі* вылучаецца суфікс *-эрск-і.*

Перад суфіксам *-ск-* чаргуюцца заднеязычныя з шыпячымі: *Волга — волжскі, чэхі — чэшскі.*

Утварэнне прыметнікаў ад назоўнікаў з асновай на *к, т, ц, ч* суправаджаецца паяўленнем спалучэння *цк* на месцы *кск, тск, цск, чск: Гарадок — гарадоцкі, студэнт — студэнцкі, кравец — кравецкі, ткач — ткацкі.* У прыметніках ад іншамоўных геаграфічных і этнічных назваў на *х, к* гэтыя зычныя перад суфіксам *-ск-* на пісьме захоўваюцца: *казах — казахскі, узбек — узбекскі.*

Перад суфіксам *-інск-* парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *Куба — кубінскі, Чыта — чыцінскі.*

Беглы галосны асновы ўтваральнага слова захоўваецца перад *-цк: купец — купца — купецкі, Егіпет — Егіпта — егіпецкі,* а перад *-оўск* — адсутнічае: *Выселак — Выселка — высялкоўскі.* У некаторых выпадках нулявы галосны асновы ўтваральнага слова чаргуецца з галосным *е* або *о*: *міністр — міністэрскі, шляхта — шляхецкі, Літва — літоўскі, Масква — маскоўскі.*

Утварэнне прыметнікаў суправаджаецца адсячэннем часткі ўтваральных асноў: а) канцавой галоснай нескланяльных назоўнікаў: *Баку — бакінскі, Туапсэ — туапсінскі;* б) спалучэння *-ij-* (*-ыj-*): *канцылярыя — канцылярскі, пралетарый — пралетарскі;* в) канцавога зычнага ў назоўніках з падвоеным зычным: *праўленне — праўленскі, Балонне — балонскі, Зарэчча — зарачанскі;* г) *-ец/-ц* асноў асабовых назоўнікаў, а таксама этнонімаў: *якабінец — якабінскі, афрыканец — афрыканскі;* д) *-к/-ак* асноў агульных і ўласных назоўнікаў перад суфіксам *-ск-: ураўнілаўка — ураўнілаўскі, Ямайка — ямайскі, Навагрудак — навагрудскі;* е) *-л* асноў на *-ўл: Яраслаўль — яраслаўскі.*

Накладванне суфікса *-ск-* на фіналь *-ск* (*-цк*) утваральнай асновы назіраецца ў прыметніках ад беларускіх і рускіх тапонімаў: *Мінск — мінскі, Бранск — бранскі, Брацк — брацкі,* а таксама ў прыметніках ад тапонімаў з асновай на *с: Адэса — адэскі, Праванс — праванскі, Уэльс — уэльскі.*

Нерэгулярныя суадносіны асноў: *негр — негрыцянскі, Мальтус — мальтузіянскі, Генуя — генуэзскі, Ангола — ангалезскі, Конга — кангалезскі, Тога — тагалезскі, Персія — персідскі, Уфа — уфімскі, Польшча — польскі, Данія — дацкі, Турцыя, турак — турэцкі, чукчы — чукоцкі.*

У прыметніках на *-скі, -цкі* націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове: *грузін — грузінскі, ліпень — ліпеньскі, Лагойск — лагойскі, кастрычнік — кастрычніцкі,* або на перадапошнім складзе (пераважна ў тых выпадках, калі ва ўтваральным слове ён на першым або на апошнім складзе): *грамада — грамадскі, міністр — міністэрскі, немец — ня-*

*мецкі, турак — турэцкі, чукчы — чукоцкі, шляхта — шляхецкі; Бухара — бухарскі, Масква — маскоўскі, сяло — сельскі* і інш. Выключэнне: *горад — гарадскі, мора — марскі, хутар — хутарскі.*

У прыметніках на *-оўскі, -ёўскі* націск на суфіксе: *бацькоўскі, дзядоўскі, вучнёўскі;* у словах на *-аўскі, -еўскі* — на тым складзе, што і ва ўтваральным слове: *нёманаўскі.*

У прыметніках з фармантам *-анск- (-янск-)* націск пераважна на тым складзе, што і ва ўтваральным слове: *вальтэрыя́нец — вальтэрыя́нскі, гегелья́нец — гегелья́нскі, Парэ́чча — парэ́чанскі,* але *патрыцый — патрыцыя́нскі, рэспу́бліка — рэспубліка́нскі, Ву́сце — вусця́нскі, На́рач — нарача́нскі, Наро́ўля — нараўля́нскі, Орша — арша́нскі, Ру́дня — рудня́нскі, Туро́ўля — тураўля́нскі, Хлёўна — хляўня́нскі* і інш.

У прыметніках з фармантамі *-ейск-, -ійск (-ыйск)* націск на суфіксе: *біблéйскі, гвардзéйскі, еўрапéйскі; алімпійскі, балтыйскі.*

У прыметніках з фармантам *-енск-* націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове: *Гліна — гліненскі, Рагозна — рагозненскі, Хобнае — хобненскі.*

Найбольшую прадуктыўнасць у сучаснай беларускай мове маюць фарманты *-ск-, -цк- (-цск-,-чск-), -оўск-, -аўск- (-еўск-), -анск- (-янск-), -іянск- (-ыянск-).* Астатнія адносяцца да малапрадуктыўных.

§ 646. Суфікс *-шн- (-ашн-).* Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца прыметнікі ад прыслоўяў: *дома — дамашні, заўчарашні, знешні, сягонняшні, цяперашні, заўсёдашні, тамашні, нікудышні* і інш.

Фармант *-ашн-і* выступае ў прыметніках ад прыслоўяў на зычны (*там — тамашні*) ці пры адсячэнні галоснага (*заўсёды — заўсёд-ашні*).

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

§ 647. Суфіксы *-ач- (-яч-), -уч- (-юч-).* Пры дапамозе гэтых суфіксаў ад дзеясловаў утвараюцца пераважна якасныя прыметнікі са значэннем 'схільны да таго або мае ўласцівасці, адзнакі таго, што названа ўтваральным словам': *блішчаць — бліскучы, рашучы, ляжачы, стаячы.*

Утваральнымі выступаюць непераходныя і пераходныя дзеясловы на *-аць (-яць): ліняць — лінючы, рэзаць — рэжучы, трашчаць — траскучы;* на *-ець (-эць): вісець — вісячы, звінець — звінячы, грымець — грымучы, ляцець — лятучы;* на *-іць (-ыць): мысліць — мыслячы, падыходзіць — падыходзячы, хадзіць — хадзячы;* на *-оць: калоць — калючы, колючы;* на *-уць: цягнуць — цягучы;* на зычны: *бегчы — бягучы, весці — вядучы, несці — нясучы, паўзці — паўзучы, пячы — пякучы, цячы — цякучы.*

Ад асновы дзеясловаў цяперашняга часу ўтвораны прыметнікі *будучы, жывучы, плывучы, адстаючы, арганізуючы, акаючы (лінгв.), блукаючы, кіруючы, пульсуючы.*

Прыметнікі *пахучы, цягучы* ўтвораны ад *пахнуць, цягнуць* з адсячэннем фінальнага зычнага *-н-* утваральнай асновы.

Перад суфіксам парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі; заднеязычныя — з шыпячымі: *рыпець — рыпучы, грымець — грымучы, вязаць — вяжучы, плакаць — плакучы,* а таксама *с — ш: пісаць — пішучы; шч — ск: трашчаць — траскучы.*

У прыметніках, утвораных ад інфінітыўнай асновы, націск пераважна на суфіксе, а ад формы цяперашняга часу — на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып прадуктыўны ў галіне навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 648. Суфіксы *-ашч- (-яшч-), -ушч- (-юшч-).* Пры дапамозе гэтых суфіксаў утворана нязначная колькасць прыметнікаў (ад асноў дзеясловаў) са значэннем 'які характарызуецца дзеяннем, названым утваральным словам' з канкрэтызацыяй 'схільны да дзеяння' ці 'вынік

дзеяння': *валачыць — валачашчы, гуляшчы, заваляшчы, прапашчы, заграбушчы.*

Утваральнымі выступаюць тыя тыпы дзеясловаў, што і пры ўтварэнні прыметнікаў з суфіксамі *-ач-, -уч-* (гл. § 647).

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны. Усе прыметнікі гэтага тыпу належаць да размоўнага стылю.

§ 649. Суфікс *-л-.* Прыметнікі з гэтым суфіксам маюць значэнне 'які знаходзіцца ў стане, што выкліканы працэсам, названым утваральным словам': *адстаць — адсталы, гарэлы, гнілы, кіслы, разлезлы, цвілы, бывалы, мінулы, чулы, беглы, рослы, прышлы.*

Прыметнікі на *-лы* (асабліва ад прэфіксальных дзеясловаў) суадносяцца з адпаведнымі дзеепрыметнікамі: *ахрыплы, азызлы, вымерзлы, звар'яцелы, пачарнелы.*

Націск пераважна на тым складзе, што і ва ўтваральным слове, выключэнне: *працяглы, гнілы́, насты́лы, падгні́лы, пафсты́лы, дарослы, пераро́слы, праро́слы, за́йшлы, пры́йшлы* і некаторыя іншыя.

§ 650. Суфіксы *-ім-, -ом- (-ем-).* Прыметнікі з гэтымі суфіксамі маюць значэнне 'здольны падвергнуцца дзеянню ці выканаць дзеянне, названае ўтваральным словам': *дзяліць — дзялімы, любімы, судзімы, цярпімы, ядомы (ад ядуць), магчымы* (ад формы інфінітыва *магчы,* з адсячэннем фінальнага галоснага), *значымы (лінгв.), вядомы, рухомы, знаёмы* (ад *знаць).*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 651. Суфіксы *-н-, -он- (-ён-), -ен-.* Прыметнікі з гэтымі суфіксамі маюць значэнне 'падвержаны дзеянню ці заключае вынік дзеяння, названага ўтваральным словам': *вязаць — вязаны, мочаны, ранены, салёны, сушаны.*

Прыметнікі з суфіксам *-н-* утвараюцца ад пераходных і непераходных дзеясловаў незакончанага трывання на *-аць, -іць: дыпламаваны, жаданы, кваліфікаваны, мяшаны (спец.), даданы (лінгв.), каханы, паліваны, складаны, гашаны (спец.), кошаны, крышаны, мечаны, мочаны, ношаны, пудраны.*

Прыметнікі з суфіксамі *-он- (-ён-)* утвораны ад дзеясловаў на *-ыць (-іць), -ыцца (-іцца), -нуць, -чы: адушавіць — адушаўлёны (грам.), вучоны, куплёны, праніклёны, салёны, сцеражоны, улюбёны, шалёны.*

Прыметнікі з суфіксам *-ен* утвораны ад асновы інфінітыва на *-ыць (-іць)* пераходных дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання: *галіць — голены, дублены, здаволены, знясілены, крадзены, кроены, маслены, надломлены, насуплены, прасветлены, прасолены, разгублены, раздроблены, смалены, узброены, упэўнены.*

Націск звычайна на тым складзе, што і ва ўтваральным слове. Змена націску назіраецца ў выпадках аманіміі прыметнікаў з суфіксам *-он- (-ён-)* з адпаведнымі дзеепрыметнікамі: *вучоны (дзеепрым. вучаны), куплёны (куплены), салёны (солены).*

Прадуктыўнасць маюць фарманты *-н-, -ен-; -он- (-ен-)* — малапрадуктыўны.

§ 652. Суфікс *-т-.* Прыметнікі з гэтым суфіксам маюць тое значэнне, што і з суфіксамі *-н-, -ен.*

Яны ўтвараюцца ад дзеясловаў на *-аць, -ыць (-іць), -оць, -нуць* і ад асноў на зычны пераходных і непераходных дзеясловаў закончанага і незакончанага трывання: *адкрываць — адкрыты, біты, віты, гнуты, жаты, забіты, знябыты, колаты, мыты, мяты, надзьмуты, пацёрты, прадузяты, пракляты, прыўзняты, разбіты, развіты.* Некаторыя з прыметнікаў

суадносяцца з дзеепрыметнікамі; іншыя не маюць такой суадноснасці (*зайзяты, зацяты*).

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны.

### Прыметнікі з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі і стылістычнай мадыфікацыі

§ 653. Пры дапамозе суфіксаў суб'ектыўнай ацэнкі ад якасных прыметнікаў утвараюцца прыметнікі з разнастайнымі дадатковымі адценнямі — ласкальнасці, памяншальнасці, павелічальнасці, узмацняльнасці, зневажальнасці і г. д.

#### Суфіксы са структурным элементам *-к-*

§ 654. Суфікс *-еньк-* (*-эньк-, -аньк-* не пад націскам). Прыметнікі з гэтым суфіксам маюць ласкальнае значэнне ці паказваюць на зменшаную або павялічаную меру якасці, названай утваральным словам: *белы — беленькі, жоўценькі, кругленькі, маленькі, новенькі, старэнькі, сухенькі, худзенькі, чысценькі.*

Утваральныя прыметнікі — невытворныя (*крывы — крывенькі, стары — старэнькі*) і з суфіксамі: *-ават-* (*рыжаваты — рыжаваценькі*), *-яв-* (*бялявы — бялявенькі*), *-к-* (*вузкі — вузенькі*), *-ок-* (*высокі — высокенькі*).

Перад суфіксам фіналь утваральных асноў *-к-* адсякаецца; парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *вясёлы — вясёленькі, кароткі — кароценькі.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып высокапрадуктыўны.

§ 655. Суфікс *-утк-* (*-ютк-*). Прыметнікі з гэтым суфіксам абазначаюць высокую ступень якасці адпаведна спалучэнням утваральных прыметнікаў са словамі *вельмі, зусім, надта: белы — бялюткі, драбнюткі, пайнюткі, райнюткі, танюткі, чысцюткі.*

Утваральныя прыметнікі — невытворныя (*белы — бялюткі*) і з суфіксамі: *-к-* (*тонкі — танюткі*), *-н-* (*дробны — драбнюткі*).

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі; фіналь *-к-* адсякаецца: *тонкі — танюткі.*

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны.

§ 656. Суфікс *-усеньк-* (*-юсеньк-*). Прыметнікі з гэтым суфіксам маюць тое значэнне, што і з суфіксам *-утк-* (*-ютк-*): *бялюсенькі, драбнюсенькі, малюсенькі, пайнюсенькі, райнюсенькі.* Марфаналагічныя працэсы і ўтваральныя словы тыя, што і ў папярэднім тыпе. Утварэнні менш пашыраны ў літаратурнай мове, чым з суфіксам *-утк-* (*-ютк-*). (ТСБМ дае толькі *бялюткі* і *драбнюткі* і не фіксуе ўтварэнняў *бялюсенькі* і *драбнюсенькі.*)

§ 657. Суфікс *-ечк-*. Прыметнікі з гэтым суфіксам выступаюць як словаўтваральныя варыянты да слоў з суфіксам *-усеньк-*: *зелянюсенечкі, малюсенечкі, танюсенечкі, ціхусенечкі.*

Тып малапрадуктыўны.

#### Суфіксы са структурным элементам *-н-*

§ 658. Суфікс *-озн-*. Прыметнікі з гэтым суфіксам маюць значэнне высокай меры якасці.

Перад суфіксам *-озн-* фіналь утваральнай асновы *-ок-* адсякаецца: *глыбокі — глыбозны.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 659. Суфікс -эзн-. Прыметнікі з гэтым суфіксам маюць значэнне высокай меры якасці: *велічэзны, высачэзны, глыбачэзны, даўжэзны, таўшчэзны, шырачэзны*. Утваральныя — прыметнікі бяссуфіксныя: *доўгі — даўжэзны* і з суфіксам *-ок-*: *высокі — высачэзны*. Перад суфіксам чаргуюцца заднеязычныя з шыпячымі, а таксама *ст—шч: доўгі — даўжэзны, шырокі — шырачэзны, тоўсты — таўшчэзны*.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 660. Суфікс -енн- (-энн-). Прыметнікі з гэтым суфіксам маюць значэнне высокай меры якасці: *высокі — высачэнны, здаровы — здаравенны*.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 661. Суфікс *-эразн-*. Прыметнікі з гэтым суфіксам маюць значэнне высокай меры якасці: *даўжэразны, таўшчэразны*. Яны сінанімічныя ўтварэнням на *-енны, -езны*, маюць тыя ж марфаналагічныя прыметы.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 662. Адзінкавымі словамі прадстаўлены ўтварэнні з суфіксамі *-ізн-ы* (*вялізны* — ад *вялікі*, з адсячэннем *-ік*) і *-ізарн-ы* (*велізарны*); апошні прыметнік можна кваліфікаваць і як словаўтваральны дублет слова *вялізны* (з суфіксам *-арн-ы*).

### *Нульсуфіксальныя прыметнікі*

§ 663. Нульсуфіксальным спосабам прыметнікі ўтвараюцца ад прыслоўяў, назоўнікаў і дзеясловаў.

Адпрыслоўныя прыметнікі маюць значэнне параўнання; яны ўтвораны ад форм вышэйшай ступені прыслоўяў з суфіксамі *-ейш-* (*-эйш-*), *-ш-*: *больш — большы, менш — меншы, лепш — лепшы, горш — горшы*.

Тып непрадуктыўны.

Адназоўнікавыя прыметнікі маюць прыналежнае або адноснае значэнне: *авечка — авечы, воўчы, мядзведжы, заячы, чалавечы, залаты, будны, рабочы, пакаты*.

Чаргуюцца *к — ч, ц — ч, т — ч*, а таксама мяккія зычныя з цвёрдымі: *бык — бычы, заяц — заячы, работа — рабочы, будзень — будны*.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове (*бу́дзень — бу́дны*), або на канчатку (*залаты́, свіны́*).

Тып непрадуктыўны.

Аддзеяслоўныя прыметнікі маюць значэнне 'які характарызуецца дзеяннем, названым утваральным словам': *жыць (жывуць) — жывы, любы, праезджы, прахожы, прыезджы, хворы*.

Чаргуюцца *дз — ж: праходзіць — прахожы*; мяккія зычныя з цвёрдымі: *любіць — лю́бы*.

Тып непрадуктыўны.

### *Прэфіксальныя прыметнікі*

§ 664. Гэтыя прыметнікі ўтвараюцца ад саміх прыметнікаў.

§ 665. Прыметнікі з прэфіксам *а-* абазначаюць адсутнасць прыметы, названай утваральным словам: *алагічны, амаральны, анармальны, апалітычны, арытмічны, асіметрычны, асінхронны*.

Утваральнымі могуць выступаць як прыметнікі (*маральны — амаральны*), так і назоўнікі з прэфіксам *а-* (*алагізм — алагічны, арытмія — арытмічны*). У апошнім выпадку ўтварэнне прыметнікаў адбываецца суфіксальным спосабам.

Тып прадуктыўны ў навуковай тэрміналогіі.

§ 666. Прыметнікі з прэфіксам *анты-* абазначаюць прымету, супрацьлеглую або супрацьпастаўленую той, што названа ўтваральным словам: *ваенны — антываенны, антыгістарычны, антыграмадскі, антыдэмакратычны, антынавуковы, антынародны, антыпартыйны, антырэлігійны, антысанітарны, антыфашысцкі.*

Некаторыя прыметнікі суадносяцца з назоўнікамі, якія маюць гэты прэфікс: *антыбіётыкі — антыбіятычны, антысеміт — антысеміцкі, антысептыка — антысептычны.* У такім выпадку ўтварэнне названых прыметнікаў можа разглядацца і як суфіксальнае.

Тып прадуктыўны, асабліва ў грамадска-палітычнай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 667. Прыметнікі з прэфіксам *архі-* абазначаюць вышэйшую ці самую высокую ступень праяўлення прыметы, названай утваральным словам: *архіасцярожны, архігеніяльны, архімодны, архінебяспечны, архірэакцыйны.*

Тып прадуктыўны ў кніжных стылях мовы.

§ 668. Прыметнікі з прэфіксам *без- (бес-, бяз-, бяс-)* маюць значэнне адсутнасці або супрацьлегласці. Яны суадносяцца: а) са словазлучэннямі, куды ўваходзіць беспрыставачны прыметнік-азначэнне, і маюць значэнне адсутнасці таго, што названа гэтым словазлучэннем: *бяз'ядзерная (зона)* — 'якая *(зона)* характарызуецца адсутнасцю ядзернага ўзбраення'; аналагічна *безнаяўны (разлік)* — 'без наяўных грошай', *безатамны, бездухоўны;* б) з беспрэфіксальным прыметнікам і абазначаюць прымету, супрацьлеглую той, якая названа ўтваральным словам: *адказны — безадказны, безнацыскны, бяспісьменны, бяздзейны;* в) з беспрэфіксальнымі прыметнікамі, утворанымі ад назоўнікаў (з дапамогай суфіксаў *-н-, -ов-, -іст-* і інш.), і абазначаюць прымету па адсутнасці таго, што названа назоўнікамі: *безбілетны, бездэфектны, беззямельны, бяскласавы, бяскрайні, бяспланавы.*

Тып прадуктыўны ў спецыяльнай тэрміналогіі.

Заўвага. Прыметнікі тыпу *бязногі, бязрукі* адносяцца да прэфіксальна-нульсуфіксальных утварэнняў (гл. § 707).

§ 669. Прыметнікі з прэфіксам *гіпер-* называюць якасць, якая перавышае межы той, што названа ўтваральным словам (яны сінанімічныя прыметнікам з прэфіксам *звыш-*): *гукавы — гіпергукавы, гіпергеаметрычны, гіпердактылічны, гіперкомплексны.*

Тып набывае прадуктыўнасць у навуковай тэрміналогіі.

§ 670. Прыметнікі з прэфіксам *да-* маюць значэнне 'які папярэднічае па часу таму, што названа словазлучэннем з утваральным прыметнікам або назоўнікам, ад якога ўтвораны прыметнік': *дагістарычны, дакапіталістычны, дапятроўскі, дарэвалюцыйны, дасавецкі, дахрысціянскі, даваенны, даледніковы, даўрачэбны, дашлюбны.*

Тып прадуктыўны ў кніжных стылях мовы.

§ 671. Прыметнікі з прэфіксам *за-* складаюць тры тыпы.

1. Прыметнікі са значэннем 'які знаходзіцца па той бок, за межамі таго, што названа словазлучэннем з утваральным прыметнікам': *закаспійскі, запалярны, занацыскны (лінгв.), закрытычны (тэхн.).*

2. Прыметнікі са значэннямі: а) 'які нязначна перавышае ступень якасці, названай утваральным словам'; б) 'які значна перавышае сту-

пень якасці, названай утваральным словам': *завузкі, завялікі, задарагі, задоўгі, залішні, замалады, зашырокі, зацесны.*

Першы тып набывае прадуктыўнасць у навуковай тэрміналогіі, другі — у гутарковым стылі.

§ 672. Прыметнікі з прэфіксам *звыш-* складаюць два тыпы.

1. Прыметнікі, якія абазначаюць крайне высокую ступень праяўлення прыметы, названай утваральным словам: *гукавы — звышгукавы, звышдалёкі, звышмагутны, звышустойлівы, звышсучасны, звышнатуральны.*

Тып прадуктыўны ў навукова-тэхнічнай тэрміналогіі і публіцыстычнай мове.

2. Прыметнікі са значэннем перавышэння якасці, названай утваральным прыметнікам: *натуральны — звышнатуральны, звышпланавы, звыштэрміновы, звышчалавечы.*

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжнай мове.

§ 673. Прыметнікі з прэфіксам *каля-* маюць значэнне: а) 'які знаходзіцца каля ці непадалёку ад таго, што названа назоўнікам, ад якога ўтвораны суадносны прыметнік': *воблачны — калявоблачны, каляземны, калямесяцавы*; б) 'які прымыкае да таго, што названа словазлучэннем з утваральным прыметнікам': *калялітаратурны, калянавуковы, каляпартыйны.* Для гэтых прыметнікаў характэрна экспрэсія непахвальнасці.

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжных стылях мовы.

§ 674. Прыметнікі з прэфіксам *між-* абазначаюць прымету паводле словазлучэння з утваральным прыметнікам: *міжарабскі* (між арабскімі краінамі), *міжімперыялістычны, міжсацыялістычны.*

Тып набывае прадуктыўнасць у грамадска-палітычнай і навуковай тэрміналогіі.

§ 675. Прыметнікі з прэфіксам *не-* (*ня-*) абазначаюць адсутнасць таго ці супрацьлегласць таму, што названа ўтваральным словам: *абавязковы — неабавязковы, неактуальны, невыразны, недасканалы, некультурны, ненатуральны, непаслядоўны, неспрыяльны, неўласцівы, нешматлікі, нядужы, няхітры, няцвёрды, нячулы, няшчыры, няясны.*

Часам утварэнні з *не- (ня-)* маюць значэнне няпоўнай супрацьлегласці (*недурны, някепскі, немалы*).

Тып высокапрадуктыўны.

§ 676. Прыметнікі з прэфіксам *небез- (небес-)* абазначаюць ступень праяўлення прыметы, названай утваральным словам: *вядомы — небезвядомы, небясшкодны, небязгрэшны, небеспаспяховы.*

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжных стылях мовы.

§ 677. Прыметнікі з прэфіксам *паза-* маюць значэнне 'больш ранні ў параўнанні з тым, што названы ўтваральным словам': *леташні — пазалеташні, мінулы — пазамінулы, учарашні — пазаўчарашні.*

Тып непрадуктыўны.

Утварэнні суадносяцца таксама з прыслоўямі з прэфіксам *паза-* і могуць разглядацца як суфіксальныя (суфікс *-шн-*).

§ 678. Прыметнікі з прэфіксам *пасля-* абазначаюць прымету, якая ўзнікла пасля той, што названа ўтваральным прыметнікам: *гарантыйны — паслягарантыйны, паслякастрычніцкі, пасляледавіковы, пасля-майскі.*

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжнай мове.

§ 679. Прыметнікі з прэфіксам *перад-* маюць значэнне 'які непасрэдна папярэднічае таму, што названа ўтваральным словам': *абедзенны — перадабедзенны, перадаперацыйны, перадапошні, перадвес-*

*навы, перадвыбарчы, перадвыхадны, перадмайскі, пераднавагодні, перадстарэчы.*

Тып прадуктыўны.

§ 680. Прыметнікі з прэфіксам *пост-* антанімічныя да слоў папярэдняга тыпу і выкарыстоўваюцца ў спецыяльнай тэрміналогіі: *постінфекцыйны, пострадыяцыйны.*

Тып набывае прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 681. Прыметнікі з прэфіксам *пра-* складаюць два тыпы.

1. Прыметнікі са значэннем 'неадпаведны таму, супрацьлеглы таму, што названа ўтваральным словам': *мудры — прамудры, праславуты.*

Тып непрадуктыўны.

2. Прыметнікі са значэннем 'прыхільны да таго, што названа словазлучэннем з утваральным прыметнікам': *праатлантычны, праамерыканскі* (адпавядае амерыканскім інтарэсам), *праімперыялістычны.*

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжнай мове.

§ 682. Прыметнікі з прэфіксам *пры-* маюць значэнне 'які знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці з тым, што названа словазлучэннем з утваральным прыметнікам': *прыазоўскі, прыбалтыйскі, прыпалярны* (пры Азоўскім, Балтыйскім моры, пры Палярным крузе).

Тып набывае прадуктыўнасць у геаграфічнай тэрміналогіі. У прыметніку *прыўдалы* прэфікс надае ўзмацняльнае значэнне (тое, што і словы *надта, вельмі).*

§ 683. Прыметнікі з прэфіксам *раз- (рас-)* абазначаюць найвышэйшую ступень праяўлення якасці, названай утваральным словам: *вясёлы — развясёлы, разудалы.*

Тып непрадуктыўны.

§ 684. Прыметнікі з прэфіксам *суб-* маюць значэнне 'блізкі да таго, што названа словазлучэннем з утваральным прыметнікам': *субарктычны* (блізкі да *арктычнага), субантарктычны, субальпійскі.*

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжных стылях мовы.

§ 685. Прыметнікі з прэфіксам *супер-* абазначаюць крайне высокую ступень праяўлення адпаведнай прыметы: *модны — супермодны, суперсучасны, суперэластычны, суперэфектны.*

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжных стылях мовы.

§ 686. Прыметнікі з прэфіксамі *супраць-/проці-* маюць значэнне супрацьлеглае ці супрацьнакіраванае ў адносінах да таго, што абазначана ўтваральным прыметнікам ці словазлучэннем з гэтым прыметнікам: *супрацьатамны, проціатамны* (супраць атамнай зброі), *супрацьпаветраны, проціпаветраны, супрацьгніласны, процігніласны, супрацьгрыпозны, процігрыпозны.*

Тыпы набываюць прадуктыўнасць у кніжнай мове.

§ 687. Прыметнікі з прэфіксам *транс-* абазначаюць прымету, звязаную з рухам праз тэрыторыю, названую словазлучэннем з утваральным прыметнікам: *трансарктычны* (праз арктычны пояс), *трансеўрапейскі, транссібірскі, трансакіянскі.*

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжнай мове.

§ 688. Прыметнікі з прэфіксам *ультра-* выражаюць празмерна высокую ступень праяўлення якасці: *высокі — ультравысокі, ультракароткі, ультрамодны, ультраправы, ультрафіялетавы.*

Тып прадуктыўны ў навуковай тэрміналогіі і публіцыстыцы.

§ 689. Прыметнікі з прэфіксам *экстра-* называюць прымету, не абмежаваную тым, што абазначана ўтваральным словам: *экстралінгвістычны, экстразанальны.*

Тып набывае прадуктыўнасць у навуковай тэрміналогіі.

§ 690. Да ўласна прэфіксальна-суфіксальных прыметнікаў належаць тыя, у якіх беспрэфіксальная частка самастойна не выкарыстоўваецца, мае іншы суфікс або адрозніваецца націскам, напрыклад: *марскі — прыморскі, рачны — зарэчны*, а таксама ўтварэнні з прэфіксамі *ад-, бяз-, за-, пад-, пры-*, якія ў аднолькавай меры суадносяцца як з назоўнікамі і прыназоўнікамі, так і з беспрэфіксальнымі прыметнікамі: *безбілетны пасажыр — без білета (пасажыр)* і *білетны (пасажыр)*.

Прыметнікі з прэфіксамі *анты-, да-, звыш-, пасля-, пра-, проці-/супраць-, транс-* адносяцца да прэфіксальных, утвораны ад адпаведных прыметнікаў з дапамогай названых прэфіксаў: *антынародны, даПрызыўны, звышнатуральны, пасляродавы, прафашысцкі, проціракавы (супрацьракавы), транскантынентальны.*

Пры ўтварэнні прэфіксальна-суфіксальных прыметнікаў, апрача названых прэфіксаў, прымаюць удзел суфіксы *-н-, -ск-* (з іх словаўтваральнымі варыянтамі), *-ов- (-ав-)*.

§ 691. Прыметнікі з прэфіксам *ад-* і суфіксамі *-н-, -ав-* утвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне 'які паходзіць або ўтвораны ад таго, што названа ўтваральным словам': *дзеяслоў — аддзеяслоўны, адыменны, адпрыметнікавы, адпрыслоўны.*

Утварэнні ўласцівы лінгвістычнай тэрміналогіі.

Тып прадуктыўны.

§ 692. Прыметнікі з прэфіксам *без- (бяз-, бес-)* і суфіксамі *-н-, -ов-* утвараюцца ад назоўнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя прыметнікі заключаюць указанне на адсутнасць таго, што названа ўтваральным словам: *білет — безбілетны, бязвольны, бяздзетны, бязмежны, беспілотны, бесталковы, бяскрайні, бяссуфіксны, бясхітрасны.*

Тып высокапрадуктыўны.

Аддзеяслоўныя прыметнікі маюць значэнні 'які характарызуецца адсутнасцю дзеяння ці стану, названага ўтваральным словам': *агледацца — безаглядны, бездакорны, бяздумны.*

Тып непрадуктыўны.

§ 693. Прыметнікі з прэфіксам *за-* і суфіксамі *-н-, -ск-* маюць значэнне 'які знаходзіцца па той бок, за тым, што названа ўтваральным назоўнікам': *воблака — завоблачны, закулісны, замежны, заморскі, зарэчны, занёманскі, засожскі, запрыпяцкі.*

Тып прадуктыўны, асабліва ў геаграфічнай тэрміналогіі.

§ 694. Прыметнікі з прэфіксам *каля-* і суфіксамі *-н-, -ав-* маюць значэнне 'які знаходзіцца вакол або паблізу таго, што названа ўтваральным назоўнікам': *плод — каляплодны, каляротавы, калямесяцавы, калясонечны.*

Тыпы прадуктыўныя ў навуковай тэрміналогіі.

§ 695. Прыметнікі з прэфіксам *між-* і суфіксамі *-ов- (-ав-), -н-, -ск-* маюць значэнне 'які займае прамежкавае становішча ў адносінах да аднолькавых прадметаў, паняццяў, з'яў, названых утваральным назоўнікам: *від — міжвідавы (біял.), міжаконны, міжбрыгадны, міжвенны (анат.), міжгародні, міжкалгасны, міжнародны, міжраённы, міжрэспубліканскі, міжсесійны.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 696. Прыметнікі з прэфіксам *на-* і суфіксам *-н-* маюць значэнне 'які знаходзіцца на тым, паверх таго, што названа ўтваральным назоўнікам': *грудзі — нагрудны, надворны, наземны, наплечны, нарукаўны, наскурны, нацельны.*

Тып прадуктыўны.

§ 697. Прыметнікі з прэфіксам *над-* і суфіксамі *-ов-* (*-ав-*), *-н-*, *-ск-* маюць значэнне 'які знаходзіцца над тым, вышэй за тое, што названа ўтваральным назоўнікам': *клас — надкласавы, надазёрны, надвоблачны, надгартанны, радок — надрадковы, надземны, надлобны, наднёманскі.*

Тыпы прадуктыўныя ў спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 698. Прыметнікі з прэфіксам *не-* (*ня-*) і суфіксам *-н-* утвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне 'які характарызуецца адсутнасцю дзеяння, стану, немагчымасцю здзейсніць дзеянне, названае ўтваральным словам, ці падвергнуцца яму': *абдымаць — неабдымны, неаглядны, неад'емны, неадкладны, неадлічны, неадольны, недасяжны, ненажэрны, непарыўны, нястрымны, несупынны, няўцерпны, няўцешны, няшчасны.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны.

Прыметнікі гэтага тыпу суадносяцца не толькі з дзеясловамі, але і са спалучэннем *«не+дзеяслоў»: не стрымаць — нястрымны.*

§ 699. Адназоўнікавыя прыметнікі з прэфіксам *па-* і суфіксамі *-ав-*, *-оўск-*, *-н-* утвараюць два тыпы.

1. Прыметнікі са значэннем 'размешчаны паблізу або ўздоўж таго, што названа ўтваральным словам': *дарога — падарожны, падняпроўскі, панёманскі.*

2. Прыметнікі са значэннем 'які ўтвараецца, вымяраецца, размяркоўваецца ў адпаведнасці з тым, што названа ўтваральным словам': *гадзіна — пагадзінны, пагектарны, падаходны, пазямельны, пакварτальны.*

Прадуктыўнасць у спецыяльнай тэрміналогіі маюць тыпы з суфіксам *-н-*.

§ 700. Адназоўнікавыя прыметнікі з прэфіксам *пад-* і суфіксамі *-н-*, *-ов-* (*-ав-*) складаюць два семантычныя тыпы.

1. Прыметнікі са значэннем 'які знаходзіцца пад тым, ніжэй за тое або каля таго, што названа ўтваральным словам': *акно — падаконны, падбрушны, падземны, падснежны, падсэрцавы, падшэрсны.*

2. Прыметнікі са значэннем 'які з'яўляецца аб'ектам дзеяння, названага аддзеяслоўным назоўнікам': *допыт — паддопытны, паддоследны, паднаглядны, падкантрольны, падапечны, падшэфны* (ад *шэфства*).

Прадуктыўныя тыпы з суфіксам *-н-*.

§ 701. Адназоўнікавыя прыметнікі з прэфіксам *паза-* і суфіксамі *-н-*, *-ав-* маюць значэнне 'які знаходзіцца па-за межамі таго, не мае адносін да таго, што названа ўтваральным словам': *дагавор — пазадагаворны, пазакласавы, пазапартыйны, пазапланавы, пазаслужбовы, пазашкольны, пазашлюбны, пазаштатны.*

Тыпы прадуктыўныя ў спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 702. Адназоўнікавыя прыметнікі з прэфіксам *перад-* (*прад-*) і суфіксамі *-н-*, *-ав-*, *-ск-* маюць значэнне 'які непасрэдна папярэднічае па часе, прасторы таму, што названа ўтваральным словам': *выбары — перадвыбарны, перадкастрычніцкі, перадпавальнічны, перадсвяточны, перадбрушынны, перадгорны, перадкамерны, перадмаставы.*

Тыпы прадуктыўныя ў спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 703. Адназоўнікавыя прыметнікі з прэфіксам *пры-* і суфіксамі *-н-*, *-ск-* маюць значэнне 'які знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці ад таго, што названа ўтваральным словам': *возера — прыазёрны, прывакзальны, прыгранічны, прыдарожны, прыдворны, прынёманскі, прырэчны, прысядзібны.*

Тыпы прадуктыўныя ў тэрміналогіі.

§ 704. Адназоўнікавыя прыметнікі з прэфіксам *су-* і суфік-

сам *-н-* маюць значэнне 'які характарызуецца супадзеннем, збліжэннем ці падабенствам з тым, што названа ўтваральным словам': *сугучча — сугучны, сумежны, сумесны, сучасны, суадносны* (ад *адносіны*).

Тып непрадуктыўны.

§ 705. Адназоўнікавыя прыметнікі з прэфіксам *унутры-* і суфіксамі *-н-, -ав-, -ск-* маюць значэнне 'які знаходзіцца, адбываецца ў межах таго, што названа ўтваральным словам': *від — унутрывідавы, унутрыгарадскі, унутрыгаспадарчы, унутрыквартальны, унутрысістэмны.*

Тыпы прадуктыўныя ў спецыяльнай тэрміналогіі.

§ 706. Адзінкавымі прыкладамі прадстаўлены прэфіксальна-суфіксальныя прыметнікі з наступнымі афіксамі: *праз- ... -н-ы (празмерны), не- ... -ім-ы* (нелюдзімы), *да- ... -н-ы (даслоўны); пад- ... ават-ы (падслепаваты), пра- ... -ават-ы (прадаўгаваты).*

Перад суфіксам *-н-* заднеязычныя чаргуюцца з шыпячымі: *дарога — падарожны, страха — застрэшны, рака — зарэчны,* а таксама *мл' — м: зямля — падземны.*

Націск звычайна на перадсуфіксальным складзе: *імя — адыме́нны, слова — даслоўны.*

Утварэнні суадносяцца з прыназоўнікава-іменнымі формамі адпаведных назоўнікаў: *за ракой — зарэчны, над Нёманам — наднёманскі.* Не маюць такой суадноснасці толькі ўтварэнні, у якіх прыстаўкі не суадносяцца з прыназоўнікамі прасторава-часавай семантыкі (*су-, не-*).

### *Прэфіксальна-нульсуфіксальныя прыметнікі*

§ 707. Да гэтай групы належаць прыметнікі з прэфіксам *без- (бес-, бяз-, бяс-)* і нулявым суфіксам. Яны маюць значэнне 'пазбаўлены таго, што названа ўтваральным словам': *голас — безгалосы, безбароды, бяззубы, бязмозгі, бязногі, бяспальцы, бязрогі, бязрукі, бяссілы, бясхвосты.* Утваральнымі звычайна выступаюць назоўнікі — назвы частак цела чалавека, жывёлы, частак расліны.

Паводле структуры гэтыя прыметнікі з аднаскладовай, як правіла, асновай.

Націск на корані, нерухомы.

**Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.**

Некаторыя ўтварэнні з'яўляюцца сінанімічнымі да прэфіксальна-суфіксальных: *бяссілы* і *бяссільны.*

## *Склада́ныя прыметнікі*

### Складанні з апорным кампанентам, роўным самастойнаму слову

§ 708. У прыметніках, утвораных спосабам чыстага складання, асновы (дзве ці больш) аб'яднаны толькі з дапамогай інтэрфікса (матэрыяльна выражанага ці нулявога). Паводле характару семантычных адносін аб'яднаных асноў гэтыя прыметнікі складаюць дзве разнавіднасці: 1) складанні са спалучальнымі адносінамі асноў і 2) складанні з падпарадкавальнымі адносінамі асноў.

#### Прыметнікі са спалучальнымі адносінамі асноў

§ 709. Яны складаюцца з дзвюх і болей асноў, раўнапраўных па сэнсу; гэта могуць быць невытворныя і вытворныя асновы (адназоўнікавыя і аддзеяслоўныя). Такія прыметнікі выражаюць адзіную прыме-

ту, якая з'яўляецца сумай прымет, названых ва ўтваральных асновах: *глуханямы, паштова-тэлеграфны, партыйна-ўрадавы, асенне-зімовы, кісла-салодкі.*

Першым кампанентам (пры апорным кампаненце — суфіксальным прыметніку) могуць быць як суфіксальныя асновы прыметнікаў, так і бяссуфіксныя асновы назоўнікаў або ўсечаныя асновы назоўнікаў і суфіксальных прыметнікаў: *камсамольска-маладзёжны, хлебабулачны, мясамалочны, амерыкана-французскі* (ад *амерыканскі*), *медыка-біялагічны* (ад *медыцынскі*), *гісторыка-філалагічны.* Магчымы сінанімічныя ўтварэнні з усечанай і няўсечанай асновай прыметніка: *амерыкана-французскі* і *амерыканска-французскі, хіміка-біялагічны* і *хімічна-біялагічны.*

Тып прадуктыўны.

## Прыметнікі з падпарадкавальнымі адносінамі асноў

§ 710. Яны складаюцца ў асноўным з дзвюх асноў, пры гэтым першая аснова ў адносінах да другой — апорнага кампанента — выступае як удакладняльная, яна канкрэтызуе змест апорнага кампанента: *абароназдольны* (здольны да абароны), *дугападобны* (падобны на дугу).

Апорным кампанентам звычайна выступаюць суфіксальныя прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў і дзеясловаў з дапамогай суфіксаў *-н-, -ск-, -ч-, -іст-, -ёв-, -льн-* і інш.; рэдка — невытворныя прыметнікі ці дзеепрыметнікі з суфіксамі *-уч-ы (-юч-ы), -ач-ы (-яч-ы): суднарамонтны, заходнеславянскі, лесанарыхтоўчы, буйназярністы, кнігагандлёвы, дноачышчальны; светла-сіні, цёмна-русы, водарэгулюючы, кормаздабываючы.*

Пашыраны ў літаратурнай мове прыметнікі чыстага складання з наступнымі апорнымі кампанентамі (з першым кампанентам — назоўнікам): а) *-падобны: алеепадобны, вуглепадобны, газападобны, каметападобны, конусападобны, лінзападобны, цестападобны;* б) *-здольны: абароназдольны, жыццяздольны, плацежаздольны, працаздольны;* в) *-ўстойлівы: вогнеўстойлівы, водаўстойлівы, марозаўстойлівы, ракаўстойлівы, цеплаўстойлівы;* г) *-трывалы: вогнетрывалы, водатрывалы, кіслотатрывалы, цеплатрывалы.*

Першым кампанентам могуць быць асновы: 1) прыметнікаў: *добрасуседскі, лёгкаплаўкі, новавыбраны, новаўтвораны, снежна-белы, цёмна-сіні;* 2) назоўнікаў: *вагонарамонтны, водапад'ёмны, жалезапракатны;* 3) лічэбнікаў, у тым ліку *паў-, многа-, мала-: двухпакаёвы, першачарговы, пяціпавярховы, трохзменны; паўавальны, паўжывы; многатыражны, маласямейны;* 4) займеннікаў (часцей слова *усе): усемагутны, усесаюзны, штомесячны, штохвілінны, іншамоўны, своеасаблівы;* 5) усечаныя асновы назоўнікаў ці суфіксальных прыметнікаў: *аўтапад'ёмны (аўтаматычна пад'ёмны), механазборачны (механізмазборачны);* 6) звязаныя кампаненты *бія-, геа-, гелія- гідра-, мікра, макра-, мона-, полі-, радыё-, тэле-: біягенны, геамагнітны, гідраэнергетычны, мікрапорысты, макракрышталічны, монамалекулярны, політэхнічны, радыёкіравальны, тэлевымяральны.*

Значнае пашырэнне маюць прыметнікі чыстага складання з першым кампанентам: 1) *агульна-* (другім кампанентам выступаюць адназоўнікавыя і аддзеяслоўныя прыметнікі, часам дзеепрыметныя): *агульнавядомы, агульнадаступны, агульназразумелы, агульнанародны, агульнапашыраны, агульнапрыняты, агульнасаюзны, агульнаславянскі;* гэты кампанент мае значэнне, адпаведнае займенніку *усім,* і нярэдка ўтварэнні з гэтым кампанентам з'яўляюцца сінанімічнымі складаным пры-

метнікам аднатыпнай будовы з першым кампанентам *усе-*: *агульнабеларускі* і *ўсебеларускі*, *агульнанародны* і *ўсенародны*, *агульнасаюзны* і *ўсесаюзны*, *агульнаславянскі* і *ўсеславянскі*; 2) *нова-* са значэннем 'толькі што', 'нядаўна' (апорны кампанент — залежны, зрэдку — незалежны дзеепрыметнік прошлага часу): *нававыбраны*, *нававыдадзеныі*, *нованароджаны*, *новапрыбыўшы*, *новасабраны*, *новаспечаны*, *новаствораны*, *новаўведзены*.

### Складанні са звязанымі апорнымі кампанентамі

§ 711. Сюды належаць складаныя прыметнікі, якія выкарыстоўваюцца ў тэрміналогіі: са звязанымі апорнымі кампанентамі — *валентны* (*аднавалентны*, *трохвалентны*), *-відны* 'падобны' (*шчытавідны* (*лінгв.*)), *-генічны* (*тэлегенічны*, *фотагенічны*) *-генны* (*біягенны*, *радыегенны*).

Утварэнні з кампанентам *-відны* належаць да непрадуктыўнага тыпу. Астатнія тыпы набываюць прадуктыўнасць у кніжнай мове.

### *Суфіксальна-складаныя прыметнікі*

§ 712. Да суфіксальна-складаных прыметнікаў належаць перш за ўсё ўтварэнні, у якіх апорны кампанент не выкарыстоўваецца як асобнае слова. Ён можа адрозніваца ад самастойнага суфіксальнага прыметніка іншым суфіксам (параўн.: *часавы* і *тагачасны*, *берагавы* і *левабярэжны*) ці націскам (у простых прыметніках націск на канчатку, а ў апорным кампаненце складанага прыметніка — на аснове: *марскі* і *беламорскі*, *векавы* і *сярэдневяковы*). Калі апорны кампанент выступае як асобнае слова, то такія прыметнікі звычайна ўтвараюцца спосабам чыстага складання (гл. § 708).

Суфіксальна-складаныя прыметнікі маюць дзве разнавіднасці: 1) складанні з апорным кампанентам — асновай назоўніка і 2) складанні з апорным кампанентам — асновай дзеяслова.

### Складанні з апорным кампанентам — асновай назоўніка

§ 713. Гэтыя суфіксальна-складаныя прыметнікі ўтвараюцца з дапамогай суфіксаў *-н-*, *-ав-*, *-ск-*, *-оўск-* і маюць агульнае значэнне 'які адносіцца да таго ці характарызуецца тым, што названа апорнай асновай і канкрэтызавана ў першай аснове складання'.

§ 714. Прыметнікі з суфіксам *-н-* у якасці першага кампанента маюць асновы: 1) прыметнікаў (*буйнаплодны*, *густашэрсны*, *левабярэжны*, *чужаземны*); 2) лічэбнікаў (парадкавых і колькасных, у тым ліку *многа*, *мала*, *шмат*) (*аднагалосы*, *двухбаковы*, *першакласны*, *першаразрадны*, *пяцізначны*, *малакроўны*, *шматплодны*, *шматфазны*); 3) займеннікаў (*іншародны*, *іншаземны*, *самавольны*, *тагасветны*, *тагачасны*); 4) назоўнікаў (*воданапорны*, *злабадзённы*, *ільноўборачны*).

Тыпы прадуктыўныя.

§ 715. Прыметнікі з суфіксам *-ав-/-ев-* у якасці першага кампанента маюць асновы: 1) прыметнікаў (*кароткахвалевы*, *круглагадовы*, *левабаковы*); 2) лічэбнікаў (*аднавосевы*, *трохбаковы*, *сяміруублёвы*, *шматгадовы*); 3) займеннікаў (*своечасовы*, *усебаковы*); 4) назоўнікаў (*галёнкаступнёвы*, *кнігагандлёвы*, *нікеляхромавы*).

Тыпы прадуктыўныя.

§ 716. Прыметнікі з суфіксам *-ск-*. Яны ўтвараюцца ад двухслоўных уласных назваў, звычайна геаграфічных: *Старыя Дарогі* — *старадарож-*

*скі, міжземнаморскі, чарнаморскі, белаазерскі, малазямельскі, чырвонасельскі (Чырвонае Сяло).*

Тып прадуктыўны.

## Складанні з апорным кампанентам — асновай дзеяслова

§ 717. Суфіксальна-складаныя прыметнікі гэтай разнавіднасці ўтвараюцца з дапамогай суфіксаў *-н-/-льн-, -ніч-, -лів-* і маюць агульнае значэнне 'які характарызуецца дзеяннем, што названа апорнай асновай і ўдакладнена ў першай (папярэдняй) аснове складання', найчасцей з прыватнымі значэннямі 'які выконвае дзеянне', 'прызначаны для яго ажыццяўлення'.

§ 718. Прыметнікі з суфіксам *-н-* у якасці першай маюць асновы: 1) назоўнікаў *(газаносны, крывяносны, металарэзны, пладаносны, пчалаводны, рыбалоўны, траваедны)*; 2) прыметнікаў *(лёгкапраходны, скарастрэльны, ціхаходны)*; 3) займеннікаў *(самаакупны, самазапальны, самаробны, самасейны, самачынны, усеперамажны)*.

Перад суфіксам фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца *(рабіць — самароб-н-ы)*; утваральнай выступае таксама форма інфінітыва цалкам (з чаргаваннем *ц' — т): глінабітны (біць), сырамятны* і аснова цяперашняга часу: *вадагрэйны (грэюць), траваедны (ядуць).*

Тып прадуктыўны ў навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі. Асобныя прыметнікі гэтага тыпу могуць кваліфікавацца і як суфіксальныя ўтварэнні (суфікс *-н-*) ад нульсуфіксальна-складаных назоўнікаў *(гуказапіс — гуказапісны, дажджамер — дажджамерны).*

§ 719. Прыметнікі з суфіксам *-льн-* у якасці першай асновы звычайна маюць асновы назоўнікаў і займеннікаў *(сам): бавоўнаачышчальны, водачарпальны, вугледрабільны, горайтваральны, самавыпрабавальны, самазагаральны, самакіравальны, шкловыдзімальны.*

Галосная канца асновы інфінітыва захоўваецца; націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны ў навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 720. Прыметнікі з суфіксам *-ніч-* маюць значэнне 'прызначаны для ажыццяўлення дзеяння, названага ў апорнай аснове і ўдакладненага ў папярэдняй аснове (асновах)'. У якасці папярэдняй выступаюць асновы назоўнікаў: *аўтамабілебудаўнічы, вагонабудаўнічы, станкабудаўнічы, трактарабудаўнічы, электрабудаўнічы, энергабудаўнічы.*

Фінальная галосная асновы інфінітыва перад суфіксам адсякаецца. Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў тэрміналагічных сферах мовы.

§ 721. Прыметнікі з суфіксам *-лів-* маюць значэнне 'якому характэрна дзеянне, названае ў апорнай аснове і ўдакладненае ў першай аснове складання'. У якасці першай выступаюць асновы назоўнікаў: *водалюбівы, міралюбівы, светалюбівы, злапамятлівы, добразычлівы.* Найбольш частыя ўтварэнні з асновай дзеяслова *любіць*.

Націск на суфіксе; фіналь *-і-* адсякаецца.

Тып мае прадуктыўнасць у навуковай тэрміналогіі.

§ 722. Прыметнікі з суфіксам *-ів-* маюць тое значэнне, што і папярэдні тып. Першым кампанентам выступаюць займеннікі *сам* і *сябе: самалюбівы, сябелюбівы.*

Прыметнікі *кроватачывы* і *слезатачывы* ўтвораны суфіксальным спосабам ад складаных дзеясловаў *кроватачыць* і *слезатачыць.*

### *Нульсуфіксальна-складаныя прыметнікі*

§ 723. Гэта прыметнікі з апорным кампанентам — асновай назоўніка. Яны маюць значэнне 'які валодае тым, што названа апорнай асновай і канкрэтызавана ў першай аснове складання': *белазубы, чарнавокі, двухрогі, гарбаносы.*

Апорныя асновы абазначаюць частку цела чалавека, жывёлы, частку расліны; у якасці першай выступаюць асновы: 1) назоўнікаў, звычайна гэта прыродазнаўчыя тэрміны: *кліналістыя, кістаносыя, ластаногія, іглаcкурыя;* 2) прыметнікаў (звычайна — якасных): *басаногі, белавокі, бледнатвары, вастраносы, вузкалобы, вузкалісты, галаногі, рыжавусы, светлавокі;* 3) лічэбнікаў, у тым ліку *многа, шмат: аднавокі, двухрогі, мнагабокі, чацвераногі, шматгалосы.*

Тып прадуктыўны.

§ 724. Пры ўтварэнні складаных, суфіксальна-складаных і нульсуфіксальна-складаных прыметнікаў асновы аб'ядноўваюцца з дапамогай інтэрфіксаў: *-а-* і *-е-* (*самалюбівы, сябелюбівы*), інтэрфіксаў, аманімічных канчаткам роднага склону колькасных лічэбнікаў: *-і-* (*пяціпавярховы*), *-ух-* (*двухзначны*), *-ох-* (*трохпальцы*).

Націск звычайна падае ў апорным кампаненце на суфіксы *-ів-*, *-лів-*, *-ніч-* (*працалюбівы, добразычлівы, вагонабудаўнічы*); два націскі маюць кампаненты спалучальнага тыпу (*кісла-салодкі*) і з падпарадкавальнымі адносінамі (*снежна-белы*).

Перад інтэрфіксам *-а-* ва ўсечаных асновах назоўнікаў і прыметнікаў і ў іншых выпадках парна-мяккія зычныя чаргуюцца з цвёрдымі: *механазборачны* (ад *механізм*), *англа-рускі* (ад *англійскі, Англія*), *дальнабойны* (ад *дальні*).

### *Прыметнікі-зрашчэнні*

§ 725. У прыметніках-зрашчэннях кампаненты аб'яднаны ў адно слова без удзелу афіксаў (у тым ліку і нулявых), а шляхам зрашчэння кампанентаў словазлучэння ў адно слова. Звычайна так утвараюцца тэрміналагічныя адзінкі і некаторыя агульналітаратурныя словы: *доўгайграючы, усепаглынальны, вельмішаноўны, шырокавядомы, глыбокапаважаны.*

У якасці апорнага кампанента выступаюць прыметнікі і дзеепрыметнікі.

### Прыметнікі-зрашчэнні з апорным кампанентам — прыметнікам

§ 726. У якасці першага, удакладняльнага кампанента ў гэтых складаных прыметніках выступаюць прыслоўі: *вечназялёны, вострадэфіцытны, слабаразвіты, цяжкадаступны;* найбольш часта ў якасці першага кампанента выступаюць прыслоўі *высока, глыбока, мала,* якія надаюць складанаму прыметніку значэнне высокай ці нізкай ступені прыметы, абазначанай апорным кампанентам: *высокакультурны, высокапрэстыжны, глыбоканавуковы, глыбокашаноўны, малазразумелы, маласвядомы, маласакавіты.*

Націск на перадапошнім складзе. В ы к л ю ч э н н е: *слабаразвіты.*

Тып прадуктыўны ў кніжнай мове.

## Прыметнікі-зрашчэнні з апорным кампанентам — залежным і незалежным дзеепрыметнікам

§ 727. Першым, удакладняльным кампанентам выступаюць: 1) прыслоўі (*вышэйпамянёны, ніжэйпералічаны, скоравысыхаючы, хуткарэжучы, лёгкаўзброены, малавывучаны, рэдканаселены, шматабяцаючы*); 2) займеннікі (*усёперамагаючы, самарэгулюючы*); 3) назоўнікі ўскосных склонаў (*азотфіксуючы (азотфіксуючыя мікраарганізмы)*).

Націск на другой частцы складанага слова.

Тып прадуктыўны ў кніжнай мове.

§ 728. Асобныя прыметнікі ўтвораны (і ўтвараюцца) пры дапамозе некалькіх спосабаў словаўтварэння: 1) прэфіксальна-суфіксальна-складаны: *пaўсядзённы (па ўсіх днях), паўсямесны (па ўсіх месяцах)*; акрамя зрашчэння тут прымаюць удзел прэфікс *па-* і суфіксы *-ов-ы* і *-н-ы;* 2) зрашчэнне разам з афіксацыяй: *патойбаковы (па той бок+-ов-ы), нішчымны (ні з чым+-н-ы), нікчэмны (ні к чаму+-н-ы,* з адсячэннем *-у* ў слове *чаму*).

### СЛОВАЎТВАРАЛЬНАЯ СІНАНІМІЯ ПРЫМЕТНІКАЎ

§ 729. Пры ўтварэнні прыметнікаў узнікаюць аднакаранёвыя словаўтваральныя сінонімы з наступнымі суфіксамі: з суфіксамі *-н-* і *-ов-* (*вячэрні — вечаровы*), *-н-* і *-іст-* (*адхонны — адхоністы*), *-лів-* і *-к-* (*гаварлівы — гаваркі*), *-лів-* і *-н-* (*гарэзлівы — гарэзны*), *-лів-* і *-іст-* (*натурлівы — натурысты*), *-аст-* і *-ат-* (*губасты — губаты*), *-ан-* і *-ат-* (*дашчаны — дашчаты*), *-ін-* і *-яч-* (*кабыліны — кабылячы*), *-к-* і *-уч-* (*ліпкі — ліпучы*), *-уч-* і *-аюч-* (*лятучы — лятаючы*), *-ов-* і *-ск-* (*маёвы — майскі*), *-ян-* і *-н-* (*медзяны — медны*), *-льн-* і *-уч-* (*пераканальны — пераканаўчы*), *-іст-* і *-чат-* (*рассыпісты — рассыпчаты*), *-н-* і *-ашн-* (*заўсёдны — заўсёдашні*), *-эзн-* і *-эразн-* (*даўжэзны — даўжэразны*), *-ав-/-ляв-* і *-ават-* (*зелянкавы — зеленкаваты, жаўтлявы — жаўтаваты*), *-ютк-* і *-юсеньк-* (*бялюткі — бялюсенькі*), *-ын-* і нулявым суфіксам (*ваўчыны — воўчы*), *-аў* і *-н'-* (*братаў — братні*), *-ск-* і *-оўск-* (*-аўск-*) (*шамякінскі — шамякінаўскі*), *-н'-* і *-эрск-* (*братні — братэрскі*).

### СЛОВАЎТВАРЭННЕ ЛІЧЭБНІКАЎ

#### *Суфіксальныя лічэбнікі*

§ 730. Суфіксальным спосабам утвораны: 1) парадкавыя лічэбнікі *трэці* (ад колькаснага *тры*, суфікс *-эц-*), *чацвёрты* (ад зборнага *чацвёра*, суфікс *-т-*), *саракавы* (ад колькаснага *сорак*, суфікс *-ав-*), *мільённы, мільярдны, трыльённы* (ад колькасных лічэбнікаў *мільён, мільярд, трыльён*, суфікс *-н-*); 2) зборныя лічэбнікі: *двое, трое* (суфікс *-oj-*), *пяцёра, шасцёра, сямёра, васьмёра, дзевяцера, дзесяцера* (суфікс *-ёр-* (*-ер-*)).

Націск на суфіксе, зрэдку — на аснове (*дзеся́цера*), ва ўскосных склонах — на флексіі (*пяцяры́х, дзесяцяры́х*).

Утварэнні з суфіксам *-ёр-* складаюць прадуктыўны тып у гутарковай мове і ў мове мастацкай літаратуры (*трыццацёра* і інш.).

#### *Нульсуфіксальныя лічэбнікі*

§ 731. Нульсуфіксальным спосабам утвараюцца парадкавыя лічэбнікі ад колькасных, пры гэтым адбываецца чаргаванне канцавых зычных *ц' — т: пяць — пяты, дзесяць — дзесяты, дваццаць — дваццаты, трыццаць — трыццаты;* э з нулём гука: *восем — восьмы; э'* з *о: сем—сё-*

*мы*, нуль гука з *о*: *сто — соты*; у складаных парадкавых лічэбніках першая частка мае форму роднага склону: *пяцідзесяці — пяцідзесяты, пяцісот — пяцісоты, трохсот — трохсоты.*

Націск на апошнім складзе асновы.

Тып прадуктыўны.

### *Складаныя лічэбнікі*

§ 732. Складаныя парадкавыя лічэбнікі ўтвараюцца трыма спосабамі: 1) суфіксальна-складаным; 2) нульсуфіксальна-складаным; 3) чыстым складаннем.

У лічэбніках, утвораных суфіксальна-складаным спосабам, другім, асноўным, кампанентам выступаюць суфіксальныя кампаненты (суфіксы *-н-*, *-ав-*) *-тысячны*, *-мільённы* , *-мільярдны*, *-трыльённы*, *-саракавы*: *двухтысячны, трохмільённы, дваццацімільярдны, васьмітрыльённы, двухсотсаракавы;* утваральныя — састаўныя колькасныя лічэбнікі з апошнім словам *тысяча, мільён, мільярд, трыльён, сорак (дзве тысячы, тры мільёны* і г. д.).

Пры нульсуфіксальна-складаным спосабе ўтварэння другі кампанент *-дзесяты*: *стопяцідзесяты, трохсотвасьмідзесяты* (ад *сто пяцьдзесят, трыста восемдзесят*). Утваральныя — састаўныя лічэбнікі з апошнім словам — складаным лічэбнікам (*пяцьдзесят, шэсцьдзесят, семдзесят, восемдзесят*).

Пры чыстым складанні апошні кампанент (слова) мае форму нульсуфіксальнага парадкавага лічэбніка, а папярэднія — нязменную форму колькасных лічэбнікаў: *трыццаць восьмы, сорак пяты, сто дваццаць восьмы.*

У першых двух тыпах асновы далучаюцца з дапамогай інтэрфіксаў *-і-*, *-ух-*, *-ох-*, *-о-*; у трэцім тыпе кожны кампанент — асобнае слова.

Націск на другой частцы слова.

Тыпы прадуктыўныя.

## СЛОВАЎТВАРЭННЕ ЗАЙМЕННІКАЎ

### *Прэфіксальныя займеннікі*

§ 733. Прэфіксальным спосабам утвараюцца няпэўныя і адмоўныя займеннікі.

§ 734. Займеннікі з прэфіксам *не-* маюць значэнне няпэўнасці прадмета, прыметы ці колькасці, абазначанай утваральным словам; у якасці апошніх выступаюць пытальна-адносныя займеннікі: *хто — нехта, што — нешта, які — нейкі, чый — нечый (нечы), каторы — некаторы, колькі — некалькі.*

Націск на прэфіксе, а л е *некаторы.*

Тып непрадуктыўны.

§ 735. Займеннікі з прэфіксам *абы-* маюць тое ж значэнне і тыя ж утваральныя словы, што і папярэдні тып: *абы-хто, абы-што, абы-чый, абы-які, абы-колькі.*

Прэфікс ненаціскны.

Тып непрадуктыўны.

§ 736. Займеннікі з прэфіксам *ні-* маюць адмоўнае значэнне — называюць адсутнасць прадмета, якасці, колькасці, абазначаных утваральным словам — пытальна-адносным займеннікам: *хто — ніхто*, адпаведна *нішто, ніякі, нічый, ніколькі.*

Прэфікс ненаціскны, націск — як ва ўтваральных словах, але *нія́кі (які)*.

Тып непрадуктыўны.

### *Суфіксальныя і постфіксальныя займеннікі*

§ 737. Суфіксальным спосабам (суфікс *-н-*, *-ск-*) утвораны займеннікі-амонімы *ягоны (яго+-н-ы), іхні (іх+-н-і), наскі (уст., наш+-ск-і* са сцягненнем шс>с). Гутарковыя формы няпэўных і адмоўных займеннікаў маюць суфіксы *-ачк- (нештачка), -усеньк- (нічагусенькі), -утк- (нічагуткі), -ечк- (нісколечкі)*.

§ 738. Постфіксальным спосабам утвораны займеннікі пры дапамозе постфіксаў *-сьці (-сь)* і *-небудзь* ад пытальна-адносных займеннікаў. Яны маюць значэнне няпэўнасці (прадмета ці прыметы): *хто — хтосьці (хтось), штосьці (штось), якісьці, чыйсьці; хто-небудзь, што-небудзь, які-небудзь, колькі-небудзь*.

Постфікс *-небудзь* мае аслаблены націск. Утварэнні з постфіксам *-сь* носяць гутарковы характар.

Тыпы непрадуктыўныя.

### *Складаныя займеннікі (зрашчэнні)*

§ 739. Складаныя займеннікі *(хто-ніхто, што-нішто, той-сёй, сёе-тое, такі-сякі)* узніклі шляхам аб'яднання пытальна-адносных з адмоўнымі *(хто-ніхто, што-нішто)* або ўказальных *(той, тое, такі)* і *сёй, сёе, сякі*, якія ў сучаснай мове асобна не выкарыстоўваюцца.

## СЛОВАЎТВАРЭННЕ ДЗЕЯСЛОВАЎ

§ 740. Словаўтварэнне дзеясловаў адбываецца некалькімі спосабамі. Найбольш актыўнымі з іх з'яўляюцца суфіксальны, прэфіксальны, постфіксальны, прэфіксальна-суфіксальны, прэфіксальна-постфіксальны. Радзей выкарыстоўваюцца суфіксальна-постфіксальны, прэфіксальна-суфіксальна-постфіксальны, складанне і прэфіксацыя з складаннем, зрашчэнне і зрашчэнне ў спалучэнні з суфіксацыяй.

### *Суфіксальныя дзеясловы*

§ 741. Суфіксальныя дзеясловы ўтвараюцца пры дапамозе суфіксаў *-і- (-ы-), -е- (-э-), -а- (-я-), -ава- (-ева-, -ява-), -ізава- (-ызава-), -ірава- (-ырава-), -а-, -ка-, -ніча-/-іч-а, -фікава-/-іфікава- (-ыфікава-), -ства-ва-, -ну-*.

У якасці ўтваральных выступаюць назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы, зрэдку лічэбнікі, займеннікі, выклічнікі.

#### Суфіксы са структурным элементам *-а- (-я-)*

§ 742. Суфікс *-а- (-я-)*. Пры дапамозе гэтага суфікса дзеясловы ўтвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў і зрэдку выклічнікаў.

Адназоўнікавыя дзеясловы абазначаюць дзеянне, якое мае адносіны да таго, што названа ўтваральнай асновай: *абед — абедаць, вячэраць, казыраць, караць, прараакаць, путаць, пятляць, пячатаць, сядлаць*.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове. Выключэнне: *казыра́ць* (ад *козыр*), *прарака́ць* (ад *прарок*).

Тып непрадуктыўны.

А д п р ы м е т н і к а в ы я дзеясловы абазначаюць дзеянне паводле прыметы, названай утваральным словам: *велічны ← велічаць, гатаваць, райняць, ялчаць (дыял.)*.

Перад суфіксам магчыма чаргаванне парна-цвёрдых зычных з мяккімі: *ройны — райняць, к—ч: ёлкі — ялчаць*.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

Дзеясловы, утвораныя ад саміх д з е я с л о в а ў, складаюць тры тыпы.

1. Дзеясловы, якія абазначаюць працягласць дзеяння: *аглушаць, вырашаць, выграбаць, выключаць, забіраць, заграбаць*.

2. Дзеясловы, якія абазначаюць прымусовае выкананне дзеяння, названага ўтваральным словам: *вісець — вешаць, сядзець — саджаць*.

3. Дзеясловы, якія абазначаюць неаднакратнасць ці рознанакіраванасць дзеяння: *бегчы — бегаць, гнаць — ганяць, каціць — катаць, ляцець — лятаць, паўзці — поўзаць*.

Перад суфіксам могуць чаргавацца *с — ш: вісець — вешаць; дз' — дж: сядзець — саджаць*; мяккія зычныя з цвёрдымі: *каціць — катаць, ляцець — лятаць*.

Націск на суфіксе, рэдка — на перадсуфіксальным складзе (*вéшаць*).

Тыпы непрадуктыўныя.

А д в ы к л і ч н і к а в ы я (адгукапераймальныя) дзеясловы ўзнаўляюць у гучанні ўтваральнае слова: *бабах — бабахаць, бахаць, бухаць, гопаць, трахаць, цмокаць*.

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып мае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

§ 743. Суфікс *-ава- (-ява-)*. Дзеясловы з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я дзеясловы складаюць чатыры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'даваць тое, пакрываць тым, што названа ўтваральным словам': *крэдыт — крэдытаваць, фінансаваць, вапнаваць, нікеляваць*.

2. Дзеясловы са значэннем 'ажыццяўляць дзеянне на працягу часу, названага ўтваральным словам': *дзень — дняваць, начаваць, нядзеляваць, зімаваць, летаваць*.

3. Дзеясловы са значэннем 'утвараць дзеянне паводле таго, што названа ўтваральным словам': *група — групаваць, камплектаваць, канспектаваць, крытыкаваць, рэцэнзаваць, цюкаваць*.

4. Дзеясловы са значэннем 'утвараць дзеянне з дапамогай таго, што названа ўтваральным словам': *дрыль — дрыляваць, піла — пілаваць*.

Тып прадуктыўны.

А д п р ы м е т н і к а в ы я дзеясловы складаюць два тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'надзяляць прыметай, якасцю, уласцівай утваральнаму слову': *ласы — ласаваць, мілаваць, радаваць, райнаваць*.

2. Дзеясловы са значэннем 'праяўляць прымету, уласцівую ўтваральнаму слову': *люты — лютаваць, мудраваць, хітраваць*.

Націск пераважна на суфіксе, радзей — на аснове.

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 744. Суфікс *-ізава- (-ызава-)*. Дзеясловы з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я дзеясловы складаюць чатыры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'падвяргаць дзеянню чаго-н., рабіць каго-н. схільным да чаго-н'.: *бактэрызаваць, гераізаваць, дагматызаваць, імунізаваць, матэматызаваць*.

2. Дзеясловы са значэннем 'ператвараць у каго-н., рабіць кім-н.': *пралетарызаваць, рэвалюцыянізаваць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'змяшчаць у пэўнае месца': *шпіталізаваць, дыспансерызаваць.*

4. Дзеясловы са значэннем 'прыводзіць у пэўны стан': *гіпнатызаваць, паралізаваць.* Семантычна адасоблены дзеясловы *гіпербалізаваць, дэталізаваць, інвентарызаваць, характарызаваць, экранізаваць.*

У працэсе ўтварэння адсякаюцца канцавыя часткі ўтваральных асноў: *-к-, -ык-* (*героіка — гераізаваць, матэматыка — матэматызаваць*), *-тэт* (*імунітэт — імунізаваць*), *-ус* (*тонус — танізаваць*), *-ыј-* (*пралетарый — пралетарызаваць*), *-ер* (*рэвалюцыянер — рэвалюцыянізаваць*), *-іч* (*параліч — паралізаваць*).

Націск на суфіксе.

Тыпы прадуктыўныя ў навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

А д п р ы м е т н і к а в ы я дзеясловы складаюць два тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'надзяляць прыметай, уласцівай утваральнаму слову': *актыўны — актывізаваць, беларусізаваць, германізаваць, драматызаваць, дэмакратызаваць, еўрапеізаваць, нармалізаваць, тэатралізаваць, украінізаваць, яравізаваць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'апрацаваць пэўным чынам': *гальванічны — гальванізаваць, герматызаваць.*

Утваральныя — невытворныя прыметнікі: *яравы — яравізаваць*; з суфіксамі *-н-* (у дзеяслоўных асновах яны адсутнічаюць): *тэатральны — тэатралізаваць*; *-чн-*: *дэмакратычны — дэмакратызаваць*; *-ск-* (*-цк-*): *украінскі — украінізаваць, бальшавіцкі — бальшавізаваць.*

Націск на суфіксе.

Тыпы прадуктыўныя ў грамадска-палітычнай і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

§ 745. Суфікс *-іра-ва-(-ырава-)*. Пры дапамозе гэтага суфікса ад асноў н а з о ў н і к а ў утвараюцца дзеясловы са значэннем дзеяння, якое мае адносіны да таго, што названа ўтваральным словам, з той канкрэтызацыяй, што і ў дзеясловах з суфіксам *-ава-* (гл. § 743): *акумуляцыя — акумуліраваць, акупіраваць, амнісціраваць, анатаміраваць, апераваць, асісціраваць, афішыраваць, бальзаміраваць, браніраваць, гастраліраваць, зандзіраваць, канваіраваць, маскіраваць, мініраваць, нарміраваць, пікіраваць, плісіраваць.*

Перад суфіксам адсякаюцца канцавыя часткі ўтваральных асноў: *-і-* (*субсідыя — субсідзіраваць*), *-ацыј-* (*асацыяцыя — асацыіраваць*), канцавая галосная нескланяльных слоў (*гафрэ — гафрыраваць, дэкальтэ — дэкальціраваць*).

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі: *зонд — зандзіраваць, кульмінацыя — кульмініраваць, маска — маскіраваць.*

Націск пераважна на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў кніжных стылях мовы.

§ 746. Суфікс *-ка-*. Пры дапамозе гэтага суфікса ад в ы к л і ч н і к а ў утвараюцца дзеясловы са значэннем 'узнаўляць у гучанні ўтваральнае слова': *ай — айкаць, акаць, ахкаць, бзыкаць, бомкаць, булькаць, вохкаць, гаркаць, гаўкаць, гыркаць, дзынкаць, курняўкаць, мукаць, муркаць, мыкаць, тпрукаць, хукаць, ціўкаць, шыкаць, яўкаць.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны.

Ад з а й м е н н і к а ў (*мы, вы, ты, я*) утвораны дзеясловы *мыкаць, выкаць, тыкаць, якаць.*

З дапамогай суфікса *-ка-* ўтвараюцца таксама дзеясловы — лінгвістычныя тэрміны, якія перадаюць асаблівасці вымаўлення слоў — заха-

ванне ў адпаведнай фанетычнай пазіцыі таго ці іншага гука ці спалучэння гукаў: *о — окаць, а — акаць, і — ікаць, са — сакаць* (вымаўляць [са] замест [с'а]: мыўса).

§ 747. Суфікс *-ніча-*. Дзеясловы з суфіксам *-ніча-* ўтвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я дзеясловы абазначаюць дзеянні, якія маюць адносіны да таго, што названа ўтваральным словам: *амур — амурнічаць, дзейнічаць, лавеласнічаць, ліберальнічаць, папугайнічаць, сталярнічаць, шалапутнічаць*. Утваральнымі выступаюць невытворныя назоўнікі: *гультай — гультайнічаць*; з суфіксамі *-аг-а (-яг-а): бадзяга — бадзяжнічаць; -ар (-яр): сталяр — сталярнічаць; -нік: настаўнік — настаўнічаць* (з накладаннем фарманта на суфікс *-нік*); нульсуфіксальна-складаныя: *верхагляд — верхаглядн ічаць*.

Перад суфіксам чаргуюцца заднеязычныя з шыпячымі: *брадзяга — брадзяжнічаць, паломнік — паломнічаць, скамарох — скамарошнічаць*.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах. В ы к л ю ч э н н е складае *пякáрнічаць (пéкар)*.

Тып набывае прадуктыўнасць у размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры.

А д п р ы м е т н і к а в ы я дзеясловы маюць значэнне 'здзяйсняць дзеянне паводле прыметы, названай утваральным словам': *азартны — азартнічаць, арыгінальнічаць, асцярожнічаць, важнічаць, далікатнічаць, дасціпнічаць, наіўнічаць, фамільярнічаць, эканомнічаць, яхіднічаць*.

Пры ўтварэнні дзеясловаў адбываецца накладанне фарманта *-ніча-* на фіналь утваральнай асновы *-н-: важны — важнічаць, наіўны — наіўнічаць*.

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі (*асцярожны — асцярожнічаць, эканомны — эканомнічаць*).

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып набывае прадуктыўнасць у размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры.

§ 748. Суфікс *-ствава-*. Дзеясловы з гэтым суфіксам утвараюцца ад н а з о ў н і к а ў і абазначаюць дзеянне, якое мае адносіны да таго, што названа ўтваральным словам. Найчасцей гэта канкрэтызаванае значэнне 'здзяйсняць дзеянне, уласцівае таму, хто названы ўтваральным словам': *апякун — апякунстваваць, дыктатарстваваць, дырэктарстваваць, палітыканстваваць, рыцарстваваць, рэзанёрстваваць, рэктарстваваць, старшынстваваць, шэфстваваць*.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып набывае некаторую прадуктыўнасць у кніжнай мове.

### Суфіксы са структурным элементам *-і-* (*-ы-*)

§ 749. Суфікс *-і-* (*-ы-*). Дзеясловы з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў, лічэбнікаў і дзеясловаў.

А д н а з о ў н і к а в ы я дзеясловы складаюць сем тыпаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'утвараць дзеянне паводле занятку або прафесіі асобы': *гаспадар — гаспадарыць, партызаніць, слясарыць, стальмашыць, цыганіць*.

2. Дзеясловы са значэннем 'ператвараць у каго-н., рабіць кім-н.': *калека — калечыць*.

3. Дзеясловы, якія абазначаюць дзеянне, што выконваецца з дапамогай прадмета, названага ўтваральным словам: *бомба — бамбіць, матыжыць*.

4. Дзеясловы са значэннем 'наносіць на паверхню чаго-н., задаваць

тое, што названа ўтваральным словам': *воск — вашчыць, імшыць, крухмаліць, масліць.*

5. Дзеясловы са значэннем 'дзейнічаць падобна адпаведнаму прадмету': *семафор — семафорыць, спружыніць.*

6. Дзеясловы са значэннем 'выклікаць пачуццё, прыводзіць у адпаведны стан': *страх — страшыць.*

7. Дзеясловы са значэннем 'мець месца, адбывацца' (пра з'явы прыроды): *дождж — даждэжыць.*

Перад суфіксам чаргуюцца парна-цвёрдыя зычныя з мяккімі: *бомба — бамбіць, крухмал — крухмаліць;* заднеязычныя з шыпячымі: *матыка — матычыць, стальмах — стальмашыць.*

Націск пераважна на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тыпы прадуктыўныя.

Адпрыметнікавыя дзеясловы абазначаюць дзеянне паводле прыметы, названай утваральным словам. Гэта могуць быць наступныя канкрэтызаваныя значэнні: 1) 'надаваць прымету, названую ўтваральным словам': *бадзёры — бадзёрыць, бяліць, весяліць, вінаваціць, маладзіць, рыхліць;* 2) 'праяўляць прымету, названую ўтваральным словам': *горкі — гарчыць, кісліць, фальшывіць, хітрыць.*

Утваральныя — прыметнікі невытворныя (*голы — галіць);* з суфіксамі: *-ав- (гаркавы — гаркавіць); -ів- (фальшывы — фальшывіць); -ян- (ледзяны — ледзяніць); -ат- (гарбаты — гарбаціць).*

У працэсе ўтварэння перад суфіксам адпадаюць канцавыя кампаненты ўтваральнай асновы: *-к- (вузкі — вузіць); -н- (брудны — брудзіць); -ок- (шырокі — шырыць).* Чаргаванне і акцэнтныя заканамернасці тыя, што і ў папярэднім тыпе.

Націск пераважна на тым складзе, што і ва ўтваральных словах, за выключэннем дзеясловаў са змяняльнай галоснай у корані (*вясёлы — весяліць, горкі — гарчы́ць* і *кіслы — кіслі́ць, хітры — хітры́ць, шырокі — шыры́ць).*

Тып прадуктыўны.

Ад лічэбнікаў утвараюцца дзеясловы са значэннем дзеяння, якое паўтараецца ў колькасці, названай утваральным словам: *дваіць, траіць (разм.), чацвярыць, шасцярыць.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

Аддзеяслоўныя ўтварэнні складаюць два тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'выконваць дзеянне, названае ўтваральным словам, неаднаразова і ў розным кірунку': *брысці — брадзіць, везці — вазіць, весці — вадзіць, ехаць — ездзіць, лезці — лазіць, несці — насіць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'прымусіць каго-н. ці што-н. здзейсніць дзеянне, названае ўтваральным словам': *гніць — гнаіць, смяяцца — смяшыць, звінець — званіць, піць — паіць.* Утваральнымі выступаюць дзеясловы незакончанага трывання.

Пры ўтварэнні чаргуюцца *е — а: везці — вазіць, несці — насіць; і — а: звінець — званіць, і — ај: піць — паіць:* адбываецца нарашчэнне асновы ці выкарыстанне ў якасці ўтваральнай усёй формы інфінітыва: *расці — расціць.*

Націск пераважна на суфіксе, часткова — на аснове (*е́здзіць, ла́зіць).*

Тыпы прадуктыўныя.

### Суфіксы са структурнымі элементамі *-е-, -у-*

§ 750. Суфікс *-е- (-э-, -а-).* Дзеясловы з гэтым суфіксам утвараюцца ад прыметнікаў і назоўнікаў.

Адпрыметнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'набываць прымету, названую ўтваральным словам': *багацець, блажэць, вільгатнець, меншаць, мутнець, сівець, смутнець, чарнець, яснець.* Утваральнымі выступаюць прыметнікі невытворныя (*лысы — лысець*); з суфіксамі: *-ян-* (*дубяны — дубянець, ледзяны — ледзянець*); *-ів-* (*пляшывы — пляшывець*); *-н-* (*разумны — разумнець*); *-ляв-* (*трухлявы — трухлявець*).

Перад суфіксам парна-цвёрдыя чаргуюцца з мяккімі: *рыхлы — рыхлець;* заднеязычныя з шыпячымі: *благі — блажэць, глухі — глушэць.*

Націск на суфіксе, зрэдку — на аснове (*лéпшаць, мéншаць*).

Тып прадуктыўны.

Адназоўнікавыя дзеясловы складаюць два тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'набываць прымету той асобы або прадмета, які названы ўтваральным словам': *вар'яцець, звярэць, парахнець.*

2. Дзеясловы са значэннем 'перадаваць гучанне таго, што названа ўтваральным словам': *бразгацець, ляскацець, тупацець, шэлест — шалясцець, шоргат — шаргацець.*

Націск на суфіксе.

Тыпы прадуктыўныя.

§ 751. Суфікс *-ну-*. Дзеясловы з гэтым суфіксам утвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў.

Адназоўнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'ўтвараць дзеянне, адпаведнае таму, што названа ўтваральным словам': *пах — пахнуць, прага — прагнуць, смага — смагнуць.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып непрадуктыўны.

Адпрыметнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'набываць прымету, названую ўтваральным словам': *глухі — глухнуць, горкі — горкнуць, гуснуць, мокнуць, слепнуць, сохнуць, ціхнуць.*

Перад суфіксам адсякаюцца фіналі ўтваральнай асновы: *-р-* (*мокры — мокнуць*); *-т-* (*густы — гуснуць*). Чаргуюцца *у — о: сухі — сохнуць.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып непрадуктыўны.

Дзеясловы з гэтым значэннем звычайна ўтвараюцца ад прыметнікаў з дапамогай суфікса *-е-*.

Аддзеяслоўныя ўтварэнні маюць значэнне 'аднакратна ўтварыць дзеянне, названае ўтваральным словам': *бадаць — баднуць, кашлянуць, кіўнуць, клюнуць, крыкнуць, лізнуць, ляснуць, махнуць, пырснуць.*

Перад суфіксам адпадае фінальная галосная інфінітыўнай асновы, а таксама *-ава-*: *лізаць — лізнуць, пляваць — плюнуць, рыпець — рыпнуць, тармасіць — тармаснуць, пароць — парнуць,* а ў некаторых дзеясловах каранёвыя зычныя *д, т: кідаць — кінуць, глядзець — глянуць, шаптаць — шапнуць.*

Перад суфіксам чаргуюцца *л — л': калоць — кальнуць; ч — к: крычаць — крыкнуць; шч — с, ск: пішчаць — піснуць, піскнуць.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове (*ляснуць, пырскнуць, тыцнуць*), ці на суфіксе — у выпадках, калі ва ўтваральным дзеяслове ён на апошнім складзе асновы (*лізáць — лізнýць, махáць — махнýць*). Выключэнне: *крыкнуць, плюнуць, рыпнуць, скрыпнуць.*

Тып прадуктыўны.

§ 752. Суфікс *-ану-*. Пры дапамозе гэтага суфікса ўтвараюцца дзеясловы закончанага трывання са значэннем 'аднакратна, інтэнсіўна, рэз-

ка выканаць дзеянне, названае ўтваральным словам'; утваральныя — д з е я с л о в ы незакончанага трывання са значэннем мнагаактавага дзеяння: *штурхаць — штурхнуць, секчы — секануць, скрэбці — скрабануць, трэсці — трасянуць, псіхаваць — псіхануць.*

Перад суфіксам фінальная галосная інфінітыўнай асновы, а таксама *-ава-* адсякаюцца.

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.

§ 753. Суфіксы *-ва-, -іва-, -оўва-*. Пры дапамозе гэтых суфіксаў утвараюцца дзеясловы незакончанага трывання ад д з е я с л о в а ў закончанага трывання.

Суфікс *-іва-* выступае пасля асновы, якая канчаецца губным зычным пры чаргаванні *«губны — губны+л'»* ці спалучэннем зычных з апошнім *р: падтрымаць — падтрымліваць, зарубіць — зарубліваць, абумовіць — абумоўліваць, расчапіць — расчэпліваць, адыграць —адыгрываць; -оўва-* — пасля асноў на *-а: аб'яднаць — аб'ядноўваць, парайнаць — парайноўваць, скарыстаць — скарыстоўваць; -ва-* — пасля асновы на галосны, на зычны (у тым ліку пры адсячэнні фінальнай галоснай утваральнай асновы): *спісаць — спісваць, адліць — адліваць, абуць — абуваць, скасіць — скошваць, зжыць — зжываць.*

Утвораныя пры дапамозе гэтых суфіксаў дзеясловы абазначаюць працяглае, неабмежаванае дзеянне.

Прадуктыўнасць выяўляюць утварэнні з суфіксам *-ва-*.

### *Прэфіксальныя дзеясловы*

§ 754. Прэфіксальныя дзеясловы ўтвараюцца ад саміх д з е я с л о в а ў пры дапамозе фармантаў: *аб- (аба-, а-), ад- (ада-), вы-, да-, дыс-, дэ- (дэз-), з- (с-, са-), на-, над- (нада-), неда-, па-, пад- (пада-), пера-, пра-, прад-, проці-, пры-, раз- (раза-, рас-), рэ-, са-, су-, супраць-, у- (ува-), уз- (уза-, ус-)*. Як правіла, яны адносяцца да закончанага трывання.

§ 755. Прэфікс *аб- (аба-, а-)*. Пры дапамозе яго ад невытворных і вытворных (адыменных) д з е я с л о в а ў утвараюцца дзеясловы, якія складаюць шэсць тыпаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'скіраваць дзеянне вакол чаго-н., ва ўсе бакі чаго-н.': *аббегчы, абвезці, абвіць, абламаць, абмазаць, абрысаваць, абрэзаць, абсесці, абскубці, абысці, ацынкаваць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'накіраваць дзеянне міма прадмета, які знаходзіцца на шляху руху': *абабегчы, аб'ехаць, абляцець, абысці.*

3. Дзеясловы са значэннем 'распаўсюдзіць дзеянне на многія аб'екты': *аббегаць* (многія мясціны, аб'екты), *аббегчы, аб'ехаць, аблётаць, абшукаць, абысці.*

4. Дзеясловы са значэннем 'нанесці шкоду каму-н. з дапамогай дзеяння': *абважыць, аблічыць, абмераць.*

5. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да выніку': *абдарыць, абсушыць, агаліць, ажывіць, азеляніць, асвятліць, атынкаваць.*

6. Дзеясловы са значэннем 'у выніку пэўнага дзеяння пераўзысці каго-н.: *абагнаць, абскакаць, абыграць.*

Прэфіксы *аб- (аба-), а-* з'яўляюцца фанетычнымі варыянтамі. Часцей за ўсё яны могуць далучацца да таго самага дзеяслова і надаваць аднолькавае значэнне: *абабегчы, аббегчы* і *абегчы, абкапаць* і *акапаць, абклеіць* і *аклеіць, абтынкаваць* і *атынкаваць*. Некаторыя дзеясловы з прыстаўкамі *аб-* і *а-* адрозніваюцца значэннем: *абсадзіць — асадзіць, абабраць — абраць, абагрэць — агрэць.*

Дзеясловы з прыстаўкай *аб- (аба-)*, як правіла, больш канкрэтныя, дзеясловы з прыстаўкай *а-* — больш абстрактныя. Параўн.: *абвеяць — авеяць, абгарнуць — агарнуць, абсыпаць — асыпаць, абхапіць — ахапіць.*

Тыпы прадуктыўныя, за выключэннем другога, які з'яўляецца непрадуктыўным.

§ 756. Прэфікс *ад- (ада-)*. Пры дапамозе яго ад невытворных і вытворных (адназоўнікавых) дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія складаюць восем тыпаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'аддаліцца, адхіліцца, адштурхнуцца ад чаго-н. пры дапамозе адпаведнага дзеяння': *адагнаць, адбегчы, адвалачы, адвезці, адвесці, адгрэбці, адкаціць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'завяршыць дзеянне цалкам, канчаткова': *адбегаць, адбрадзіць, адважыць, адгуляць, аддзяжурыць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'спыніць працяглае дзеянне': *адбедаваць, адгасціць, адгрымець, адхваляваццa.*

4. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да выніку': *адрамантаваць, адрэгуляваць, адшукаць.*

5. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць дзеянне ў адказ, кампенсаваць дзеянне': *аддзякаваць, адказаць, адкупіць, адплаціць, адпрацаваць, адрабіць.*

6. Дзеясловы са значэннем 'ануліраваць вынік папярэдняга дзеяння, адмовіцца або прымусіць адмовіцца ад чаго-н.': *адвучыць, адгаварыць, адраіць.*

7. Дзеясловы са значэннем 'даставіць куды-н., выконваючы адпаведнае дзеянне': *адвезці, адвесці, адкаціць, аднесці.*

8. Дзеясловы са значэннем 'давесці да пашкоджання, стомы ў выніку адпаведнага дзеяння': *адляжаць* (бок), *адстаяць* (нагу), *адсядзець, адтаптаць, адхадзіць.*

Тыпы прадуктыўныя, за выключэннем апошняга, непрадуктыўнага.

§ 757. Прэфікс *вы-*. Пры дапамозе яго ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія складаюць шэсць тыпаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'выдаліць, выдзеліць з чаго-н. пры дапамозе адпаведнага дзеяння': *вывалачы, выгнаць, выграбці, выламаць, вылузаць, вылушчыць, выскубці, выстрыгчы, вышчарбіць, вышчыпнуць;* або 'выдаліцца, выдзеліцца з чаго-н.': *выйсці, выплысці, выскачыць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'старанна, інтэнсіўна выканаць адпаведнае дзеянне': *выбеліць, выбудаваць, выдаіць, вымесці.*

3. Дзеясловы са значэннем 'завяршыць дзеянне': *выбрукаваць, выбяліць, выгаціць, высініць.*

4. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да выніку': *выведаць, выйграць, вымаліць, выцерпець, вычакаць.*

5. Дзеясловы са значэннем 'здабыць, атрымаць, знайсці што-н. з дапамогай адпаведнага дзеяння': *выведаць, выйграць, вымаліць, выпрасіць, выстаяць, выхадзіць, выцерпець.*

6. Дзеясловы са значэннем 'вытрываць што-н. на працягу пэўнага часу': *выжыць, выстаяць* (месяц), *выседзець, выпакутаваць.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 758. Прэфікс *да-*. Пры дапамозе яго ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія складаюць тры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да канца, да прасторавай або часавай мяжы': *дабегчы, давезці, дайсці, дакаціць, даляцець, дапаўзці, дацягнуць, дашыць, даварыць, давеяць, давязаць, дагаварыць, дагарэць, дайграць, дапіць, дасохнуць, дачытаць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'дадаткова выканаць дзеянне, давесці яго да неабходнай нормы': *даатрымаць, даважыць, дакупіць, даплаціць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'давесці да непажаданага выніку з дапамогай адпаведнага дзеяння': *давучыць, далячыць, даездзіць, дахадзіць.*

Першыя два тыпы прадуктыўныя, трэці — непрадуктыўны.

§ 759. Прэфікс *дыс-*. Дзеясловы з гэтым прэфіксам маюць значэнне 'выконваць дзеянне, процілеглае таму, што названа ўтваральным словам': *гарманіраваць — дысгарманіраваць, кваліфікаваць — дыскваліфікаваць.*

Тып набывае прадуктыўнасць у навуковай тэрміналогіі.

§ 760. Прэфікс *дэ- (дэз-)*. З дапамогай яго утвараюцца дзеясловы са значэннем 'выканаць дзеянне, супрацьлеглае названаму ўтваральным словам, ануляваць яго вынік': *дэвулканізаваць, дэзарганізаваць, дэзарыентаваць, дэзінфіцыраваць, дэкваліфікаваць, дэмабілізаваць, дэмілітарызаваць.*

Тып прадуктыўны ў навуковым стылі.

§ 761. Прэфікс *з- (с-, са-)*. Пры дапамозе яго ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія складаюць дзесяць тыпаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'злучыць у адно, сканцэнтраваць у пэўным месцы пры дапамозе дзеяння, названага ўтваральным словам': *збіць, згрэбці, сабраць, сагнаць, сазваць, сашрубаваць, склеіць, склікаць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'зняць з чаго-н., пазбавіцца ад чаго-н., дзякуючы адпаведнаму дзеянню': *злізаць, змесці, змыць, саскрэбці, састругаць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'аддаліцца ад прадмета дзякуючы адпаведнаму дзеянню': *збегчы, сысці* (з дому, з двара).

4. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць, давесці да выніку адпаведнае дзеянне': *змякчыць, састарыць, скіснуць, скупіць, ссячы.*

5. Дзеясловы са значэннем 'зрабіць рух уніз': *збегчы, з'ехаць, злезці, сысці.*

6. Дзеясловы са значэннем 'пашкодзіць (-ца), знішчыць (-ца) у выніку адпаведнага дзеяння': *знасіць, стаптаць, згарэць, згнісці, змазаць, зрысаваць* (аловак), *спаліць* (усе дровы).

7. Дзеясловы са значэннем 'цалкам ахапіць прадмет дзеяннем, распаўсюдзіць яго на многія месцы ў аб'екце': *змазаць, зраніць, спляміць.*

8. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да крайняй мяжы': *змучыць, ссушыць, счэрпаць.*

9. Дзеясловы са значэннем 'давесці да поўнага знікнення прадмета дзякуючы дзеянню, названаму ўтваральным словам': *змыліць* (кавалак мыла), *зрэзаць* (нож), *спісаць* (аловак).

10. Дзеясловы са значэннем 'адзін раз утварыць дзеянне, названае ўтваральным словам': *збегаць, з'ездзіць, саграшыць, схітрыць.*

Тыпы першы, другі, чацвёрты, шосты прадуктыўныя, астатнія малапрадуктыўныя.

§ 762. Прэфікс *за-*. Пры дапамозе яго ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія складаюць восем тыпаў:

1. Дзеясловы са значэннем 'перамяніць месца, перамясціць (-цца) за што-н. з дапамогай дзеяння, названага ўтваральным словам': *забегчы, забрысці, завесці, загнаць, залящець, занесці, заплысці, засунуць, зацягнуць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'пачаць дзеянне': *заапладзіраваць, за-*

*бегаць, забрахаць, забурліць, загрукаць, зазвінець, замармытаць, замітусіцца.*

3. Дзеясловы са значэннем 'пакрыць (-цца), закрыць (-цца) чым-н. з дапамогай дзеяння, названага ўтваральным словам': *забудаваць, замазаць, засадзіць, запудрыць, засеяць.*

4. Дзеясловы са значэннем 'давесці каго-н. ці што-н. да непажаданага стану': *закарміць, залячыць, зацалаваць, зацягаць, зачаставаць.*

5. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да выніку': *завянуць, загуснуць, зашыфраваць.*

6. Дзеясловы са значэннем 'дасягаць чаго-н., атрымліваць што-н. у выніку адпаведнага дзеяння': *заваяваць, запрацаваць, зарабіць.*

7. Дзеясловы са значэннем 'завяршыць дзеянне, названае ўтваральным словам, адразу пасля папярэдняга дзеяння': *заесці, закусіць.*

8. Дзеясловы са значэннем 'дзеянне, названае матываваным словам, ажыццявіць раней, наперад': *заарэндаваць, запланаваць, запраграмаваць, запраектаваць.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 763. Прэфікс *на-*. Пры дапамозе яго ад невытворных і вытворных дзеясловаў утворана шэсць тыпаў дзеясловаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'сутыкнуцца з прадметам, змясціць на чым-н., накіраваць на паверхню дзеянне': *наехаць, наляцець, наскочыць, набегчы* (пра хвалі), *накінуць, наляпіць, насадзіць, нацягнуць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'назбірацца ў пэўнай колькасці з дапамогай адпаведнага дзеяння': *нагарэць, накіпець, наліпнуць, намёрзнуць, нарасці, насохнуць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'дасягнуць дастатковай паўнаты або празмернасці дзеяння': *набудаваць, наважыць, нажаць, накапаць, накасіць, налавіць, нарэзаць, насадзіць.*

4. Дзеясловы са значэннем 'завяршыць, давесці да канца дзеянне': *напісаць* (раман), *напаіць, напалохаць, насмяшыць.*

5. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да поўнай насычанасці, празмернасці': *навалачыцца, навалтузіцца, нагушкацца, назлавацца, насмяяцца, наспрачацца, нахваляваццa.*

6. Дзеясловы са значэннем 'прывучыць да чаго-н., навучыць чаму-н. з дапамогай адпаведнага дзеяння': *навучыць, надрэсіраваць, натрэніраваць.*

Утваральныя — дзеясловы невытворныя: *жаць — нажаць, ліць — наліць;* вытворныя: *клеіць — наклеіць, кінуць — накінуць;* вытворныя з прыстаўкамі *а-, аб-, ад-, вы-, за-, з- (с-), пад-, пера-, пра-, пры-, раз- (рас-), уз- (ус-): атрасаць — наатрасаць, абворваць — наабворваць, аддзіраць — нааддзіраць, выварочваць — навыварочваць, засушваць — назасушваць, збіваць —назбіваць, саскрабаць — насаскрабаць, падкрэсліваць — нападкрэсліваць, перабіраць — наперабіраць, пракопваць — напракопваць, разварочваць — наразварочваць, узвалакваць — наўзвалакваць* і інш.; зваротныя дзеясловы: *бадзяцца — пабадзяцца, спрачацца — наспрачацца.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 764. Прэфікс *над- (нада-)*. Пры дапамозе яго ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца два тыпы дзеясловаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'павялічыць дадаткова прадмет, дабавіць да прадмета што-н. з дапамогай адпаведнага дзеяння': *надбудаваць, надклеіць, надтачыць, надшыць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'распаўсюдзіць дзеянне на невялікую частку паверхні прадмета': *надкусіць, надпілаваць, надпіць, надсекчы, надтрэснуць.*

Тыпы малапрадуктыўныя.

§ 765. Прэфікс *неда-*. Пры яго дапамозе ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы са значэннем 'няпоўнасцю ажыццявіць дзеянне, не давесці яго да патрэбнай нормы': *недабраць, недаважыць, недаварыць, недагледзець, недадаць, недаесці, недалічыць, недамераць, недапісаць, недапіць, недаплаціць, недасаліць, недасушыць, недасыпаць, недацягнуць, недачуць, недачытаць.*

Тып прадуктыўны.

§ 766. Прэфікс *па-*. Пры яго дапамозе ўтвараюцца дзеясловы, якія складаюць шэсць тыпаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'пачаць дзеянне, названае ўтваральным словам': *пабегчы, павезці, павесці, паехаць, пайсці, палезці, паляцець, паплысці.*

2. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць дзеянне ў нязначнай меры': *пабедаваць, пабойтаць, пагараваць, пакруціць, памучыць, пацягаць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць дзеянне на працягу некатарага часу': *паапладзіраваць, паблудзіць, павадзіць, падзяжурыць, падражніць, падрамаць, паездзіць, паспаць.*

4. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць дзеянне ў адзін прыём': *пастукаць, пазваніць, пацісnуць.*

5. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да выніку': *пабудаваць, пашкадаваць, папсаваць, пахваліць, пачысціць.*

6. Дзеясловы са значэннем 'мнагакратна, многімі ажыццявіць дзеянне, накіраваць яго на многія ці ўсе аб'екты'.

Звычайна такія дзеясловы ўтвараюцца ад вытворных дзеясловаў з прэфіксамі *а-, аб-, ад-, вы-, да-, з- (с-), за-, на-, над-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, раз- (рас), уз- (ус-), у-*: *паадзяваць, паабзіраць, павыбіраць, падаплачваць, пазбіваць, пазаворваць, панагадоўваць, панадпісаць, папаношваць, пападкрэсліваць, паперакройваць, папрабіваць, папрышпільваць, паразграбаць, парассылаць, паўзрываць, паўсцягваць, паўкопваць.*

Тыпы прадуктыўныя, асабліва ў бытавой мове.

§ 767. Прэфікс *папа-*. Пры яго дапамозе ўтвараюцца дзеясловы са значэннем працягласці або мнагакратнасці, інтэнсіўнасці дзеяння: *папабегаць, папавазіць, папавудзіць, папагуляць, пападрыжаць, папамерзнуць, папанасіць, папаплаваць, папапрасіць, папарабіць, папараўці, папаспяваць, папацярпець, папачакаць.*

Тып прадуктыўны ў гутарковым стылі мовы.

§ 768. Прэфікс *пад- (пада-)*. Пры яго дапамозе ўтвараюцца дзеясловы, якія складаюць сем тыпаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'накіраваць дзеянне ўніз, пад што-н.': *падаслаць, падаткнуць, падбіць, падкласці, падлезці, падсунуць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'накіраваць дзеянне знізу ўверх': *падкурчыць, падляцець, падскочыць, падрасці.*

3. Дзеясловы са значэннем 'наблізіць (-ца), далучыць (-ца) да чаго-н. з дапамогай адпаведнага дзеяння': *падбегчы, пад'ехаць, падкаціць, паднесці, падруліць, падсесці, падцягнуць.*

4. Дзеясловы са значэннем 'дадаткова ажыццявіць дзеянне з нязначнай інтэнсіўнасцю': *падбудаваць, падварыць, падвіць, падкарміць, падліць.*

5. Дзеясловы са значэннем 'тайна, скрытна ажыццявіць дзеянне': *падгледзець, падміргнуць, падпільнаваць, падслухаць, падсцерагчы.*

6. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць дзеянне ў час іншага дзеяння і адразу пасля яго здзяйснення, прыстасоўваючыся да каго-, чаго-н'.: *падпець, падцягнуць* (пра песню), *падыграць.*

7. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць, давесці да выніку адпаведнае дзеянне': *падлічыць, падмесці.*

Утваральныя — дзеясловы невытворныя: *біць, — падбіць, выць — падвыць;* вытворныя беспрыставачныя: *бяліць — падбяліць, кісліць — падкісліць, кінуць — падкінуць;* з прыстаўкамі *а-, за-, на-, са-* і інш.: *падашукаць, падзарабіць, паднацісцуць, падсабраць.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 769. Прэфікс *пера-*. Пры яго дапамозе ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія складаюць восем тыпаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'накіраваць дзеянне з аднаго месца ў другое цераз прадмет або прастору': *перабегчы, пераваланы, перавезці, пераехаць, перайсці, перакінуць, пералезці, пераляцець, перапаўзці, пераступіць, перасяліць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'паўторна, інакш, па-новаму ажыццявіць дзеянне': *пераарфаваць, перабудаваць, перавучыць, перагледзець, перадзяліць, перадрукаваць, перакансруяваць, пераклеіць, перакроіць, перасеяць, перааціць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'раздзяліць, разарваць прадмет з дапамогай адпаведнага дзеяння': *перагрызці, перапаліць, перарваць, перарэзаць, перасячы, перацнуць.*

4. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да празмернасці': *перабраць, перагнуць, перагрэць, пераесці, перакіснуць, перапіць, перасаліць, пераспець, перастарыцца.*

5. Дзеясловы са значэннем 'перавысіць каго-н. у выкананні дзеяння': *перагнаць, перайграць, перакрычаць, перарасці.*

6. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць мнагакратнае або пачарговае дзеянне, распаўсюдзіўшы яго на ўсе або многія аб'екты, на ўсіх або многіх суб'ектаў': *перабудзіць, перавазіць, пераканіць, перакалоць, пералавіць, перамалоць, перастраляць.*

7. Дзеясловы са значэннем 'распаўсюдзіць дзеянне на пэўны прамежак часу': *перадняваць, перадрамаць, пераначаваць, пераспаць, перачакаць.*

8. Дзеясловы са значэннем 'спыніць адпаведнае дзеянне': *перадрыжаць, перакіпець, перамучыцца, перахацець, перахварэць.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 770. Прэфікс *пра-*. Пры яго дапамозе пераважна ад невытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія складаюць сем тыпаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'накіраваць дзеянне праз што-н., у глыбіню чаго-н.': *прабіць, прагрызці, праламаць, прарэзаць, прастрэліць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'накіраваць дзеянне паблізу прадмета': *прабегчы, правезці, праехаць, пранесціся, праплысці, праскочыць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць дзеянне на працягу нейкага часу, звычайна доўгага': *прабадзяцца, прабегаць, праблукаць, прагаварыць, прагуляць, прадрамаць, праляжаць, прамаўчаць, прамахаць, праплакаць, праспаць, прасядзець.*

4. Дзеясловы са значэннем 'страціць, зрасходаваць што-н. з дапамогай адпаведнага дзеяння': *праесці, пражыць, пралячыць, прапіць.*

5. Дзеясловы са значэннем 'старанна, інтэнсіўна ажыццявіць дзеянне': *праварыць, прадумаць, пракіпяціць, прасмажыць.*

6. Дзеясловы са значэннем 'прапусціць, не заўважыць чаго-н. пры ажыццяўленні адпаведнага дзеяння': *прагледзець, прагуляць, праслухаць.*

7. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да выніку': *правентыляваць, прагучаць, пракрычаць, прарайці.*

Тыпы прадуктыўныя, галоўным чынам у гутарковым стылі.

§ 771. Прэфікс *пры-*. Пры дапамозе яго ўтвараюцца дзеясловы, якія складаюць чатыры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'дасягнуць пэўнага месца, далучыць (далучыцца) да чаго-н., зліцца з чым-н.': *прыбегчы, прыбудаваць, прыбыць, прыварыць, прыехаць, прыкляпаць, прыляцець, прымацаваць, прыпаяць, прырасціць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць дзеянне не ў поўнай меры, з нязначнай інтэнсіўнасцю': *прыадчыніць, прыглушыць, прыжмурыць, прыкрыкнуць, прыпадняць, прысмаліць, прытупіць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'дадаткова ажыццявіць дзеянне, дапоўніць дзеянне, названае ўтваральным словам': *прыкінуць, прыкупіць, прыплаціць.*

4. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да выніку': *прымірыць, прыпільнаваць, прыпляскаць, прысудзіць.* Утваральныя — дзеясловы невытворныя: *жмурыць — прыжмурыць,* з суфіксам *-ну-*: *крыкнуць — прыкрыкнуць; з прэфіксамі ад-, пад-, уз-*: *прыадчыніць, прыпадняць, прыўзняць.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 772. Прэфікс *раз- (раза-, рас-)*. Пры дапамозе яго ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія складаюць чатыры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'раз'яднаць, падзяліць на часткі, распаўсюдзіць, накіраваць у розныя бакі': *разварочаць, развешаць, разліць, раскласці, рассеяць, рассунуць, расцягаць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'ліквідаваць вынік папярэдняга дзеяння, адмовіцца або прымусіць адмовіцца ад чаго-н'.: *разагнуць, размагніціць, размарозіць, разматаць, размініраваць, раскансерваваць, распакаваць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'старанна, інтэнсіўна, на поўную сілу ажыццявіць дзеянне': *разагрэць, разгарачыцца, разнервавацца, раскрытыкаваць, расхваліць.*

4. Дзеясловы са значэннем 'успрыняць, зразумець, улічыць або растлумачыць што-н. ва ўсіх дэталях': *разглядзець, раз'яснець, распытаць, растлумачыць.*

Пры ўтварэнні дзеясловаў другога тыпу ва ўтваральных словах замяняецца прыстаўка: *замарозіць — размарозіць, зматаць — разматаць.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 773. Прэфікс *рэ-*. Пры яго дапамозе ўтвараюцца дзеясловы са значэннем 'паўторна, інакш, па-новаму ажыццявіць дзеянне, названае ўтваральным словам': *рэарганізаваць, рэканструяваць, рэмілітарызаваць, рэпрэзентаваць, рэтрансліраваць, рээвакуіраваць.*

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжнай мове.

§ 774. Прэфікс *су- (са-* перад *у)*. Пры дапамозе яго ўтвараюцца дзеясловы, якія абазначаюць сумеснасць дзеяння: *саўдзельнічаць, суаднесці, суадпавядаць, суіснаваць, супадпарадкаваць, суперажываць, суразмерыць.*

Тып прадуктыўны ў кніжнай мове.

§ 775. Прэфікс *у- (ува-* перад групай зычных). Пры дапамозе яго ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія складаюць сем тыпаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'накіравацца, пранікнуць унутр прадмета або асяроддзя': *убегчы, увагнаць, уваткнуць, увезці, увесці, уехаць, упаўзці, уплесці, ушыць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'скрозь, поўнасцю ахапіць, пакрыцца дзеяннем': *увешаць, укрыць, унізаць, утыкаць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'паменшыць, паменшыцца ў колькасці, аб'ёме, змяніць якасць або змяніцца якасна': *уварыць, урэзаць, усохнуць, уцаніць, уціснуць.*

4. Дзеясловы са значэннем 'унесці, змясціць што-н. з дапамогай адпаведнага дзеяння': *удрукаваць, упісаць, усунуць, уціснуць.*

5. Дзеясловы са значэннем 'утрымацца ў тым стане, які названы ўтваральным словам': *улежаць, уседзець, устояць.*

6. Дзеясловы са значэннем 'часткова, няпоўнасцю выканаць адпаведнае дзеянне': *рваць — уварваць* (трохі), *ужаць, укапаць, укасіць, укроіць.*

7. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да выніку': *уварыць, угаварыць, укамплектаваць.*

Тыпы прадуктыўныя. Тып пяты выяўляе прадуктыўнасць у гутарковай мове.

§ 776. Прэфікс *уз-* (*уза-*, *ус-*). Пры яго дапамозе ад невытворных і вытворных дзеясловаў утвараюцца дзеясловы, якія складаюць чатыры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'падняцца ўверх, падняць наверх з дапамогай дзеяння, названага ўтваральным словам': *узбегчы, уз'ехаць, узлезці, узляцець, узысці, узарваць, ускінуць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'інтэнсіўна, рэзка або раптоўна выканаць дзеянне': *узнерваваць, ускалыхнуць, успудзіць, усхваляваць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'раптоўна, інтэнсіўна пачаць дзеянне': *узнервавацца, узрушыцца, успудзіцца, усхвалявацца.*

4. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да выніку': *узвар'яцець, ускіпець, ускапаць.*

Тыпы малапрадуктыўныя.

### *Прэфіксальна-суфіксальныя дзеясловы*

§ 777. Прэфіксальна-суфіксальным спосабам утвараюцца дзеясловы ад назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў, радзей — ад лічэбнікаў і прыслоўяў.

Пры прэфіксальна-суфіксальным спосабе словаўтварэння выкарыстоўваюцца тыя прэфіксы і суфіксы, што і пры прэфіксальным і пры суфіксальным спосабах словаўтварэння.

Адыменныя прэфіксальна-суфіксальныя дзеясловы звычайна адносяцца да закончанага трывання, аддзеяслоўныя — да закончанага і незакончанага трывання.

§ 778. Дзеясловы з прэфіксам *а-* (*аб-*, *аба-*) і суфіксамі *-ава-*, *-і-* (*-ы-*) утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя дзеясловы складаюць тры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'абкружыць, пакрыць з усіх бакоў тым, што названа ўтваральным словам': *абфутраваць, акучыць, апушыць, аслупаваць, аснежыць, абазначыць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'надзяліць прадмет тым, што названа ўтваральным словам': *абілеціць, абмундзіраваць, агучыць, акрыліць, аперыць, аснасціць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'рабіць або рабіцца тым, хто названы, што названа ўтваральным словам': *абалваніць, абюракраціць, акаталічыць.*

Тыпы прадуктыўныя.

Адпрыметнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'надаць пры-

мету, названую ўтваральным словам': *абнавіць, ажывіць, асушыць, ахаладзіць.*

Тып прадуктыўны.

§ 779. Дзеясловы з прэфіксамі *абез-* (*абес-*, *абяз-*, *абяс-*) і суфіксамі *-і-* (*-ы-*), *-е-* (*-э-*, *-а-*) утвараюцца ад назоўнікаў.

Пры дапамозе суфікса *-і-* (*-ы-*) утвараюцца дзеясловы са значэннем 'пазбавіць таго, што названа ўтваральным словам': *абезнадзеіць, абязболіць, абязводзіць, абяззброіць, абязлесіць, абяскровіць, абясплодзіць, абяссмерціць, абясшкодзіць.*

Пры дапамозе суфікса *-е-* (*-э-*, *-а-*) утвараюцца дзеясловы са значэннем пазбавіцца таго, што названа ўтваральным словам': *абяззброець, абязлесець, абяскровець, абяскрылець.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 780. Дзеясловы з прэфіксам *ад-* (*ада-*) і суфіксамі *-і-* (*-ы-*), *-ава-* ўтвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'аддзяліць тое ці з дапамогай таго, што названа ўтваральным словам': *адкаркаваць, адмежаваць, адслаіць, адшчапіць.*

Тып малапрадуктыўны.

Адпрыметнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'надзяляць прыметай, названай утваральным словам': *жывы — аджывіць, новы — аднавіць.*

Тып непрадуктыўны.

§ 781. Дзеясловы з прэфіксам *вы-* і суфіксам *-і-* (*-ы-*) утвараюцца ад прыметнікаў і назоўнікаў.

Адпрыметнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'надзяліць прыметай, уласцівай утваральнаму слову': *выжаўціць, выпраміць, выпрастаць, вытанчыць.*

Тып малапрадуктыўны.

Адназоўнікавыя дзеясловы — адзінкавыя, семантычна неаднародныя: *выветрыць, выкараніць;* а таксама з суфіксам *-а-: выветраць.*

§ 782. Дзеясловы з прэфіксам *з-* (*с-*, *са-*) і суфіксамі *-і-*(*-ы-*), *-е-* (*-э-*, *-а-*) утвараюцца ад прыметнікаў і назоўнікаў.

Адпрыметнікавыя дзеясловы з суфіксам *-і-* (*-ы-*) маюць значэнне 'надзяліць прыметай, названай утваральным словам' (*зблізіць, брыдкі — збрыдзіць, здрабніць, зменшыць, змякчыць, спрасціць, састарыць, сцішыць*), з суфіксам *-е-* (*-э-*, *-а-*) — 'набыць прымету, абазначаную ўтваральным прыметнікам' (*благі — зблажэць, збруднець, збялець, звільгатнець, змакрэць, змізарнець, ссінець*).

Тыпы прадуктыўныя.

Асобныя адпрыметнікавыя дзеясловы з прэфіксам *з-* (*с-*, *са-*) утвораны з дапамогай суфіксаў *-ава-: збанкрутаваць; -ну-: зблякнуць* (*бляклы*), *змякнуць.*

Адназоўнікавыя дзеясловы з суфіксам *-е-* (*-э-*, *-а-*) маюць значэнне 'набыць выгляд, якасць, уласцівасць таго, што названа ўтваральным словам': *попел — спапялець, палатно — спалатнець, брыда — збрыдзець.*

Тып малапрадуктыўны.

З суфіксам *-і-* (*-ы-*) утворан дзеяслоў *злямчыць* са значэннем, падобным да таго, што названа ўтваральным словам.

§ 783. Дзеясловы з прэфіксам *за-* і суфіксамі *-і-* (*-ы-*), *-е-* (*-э-*, *-а-*) утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'надзяліць (запоўніць, накрыць) тым, што названа ўтваральным словам': *заглеіць, задыміць, закабаліць, запрыгоніць.*

22. Зак. 1161

Тып малапрадуктыўны.

Дзеясловы з суфіксам *-е-* (*-э-*, *-а-*) маюць значэнне 'пакрыцца тым, што названа ўтваральным словам': *заінець, замшэць, засіверацъ.*

Тып малапрадуктыўны.

Ад прыметнікавыя дзеясловы складаюць два тыпы.

1. Пры дапамозе суфікса *-і-* (*-ы-*) утвараюцца дзеясловы са значэннем 'надзяліць той прыметай, якая названа ўтваральным словам' (часам з адценнем празмернасці): *загусціць, задобрыць, закругліць, занізіць.*

Тып прадуктыўны.

2. Пры дапамозе суфікса *-е-* (*-э-*, *-а-*) утвараюцца дзеясловы са значэннем 'набыць тую прымету, якая названа ўтваральным словам': *закульгавець, занядужаць, запаршывець, зацішэць.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 784. Дзеясловы з прэфіксам *на-* і суфіксам *-ва-* (*-іва-*, *-ыва-*) утвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне 'ціха, з невялікай інтэнсіўнасцю ўтвараць дзеянне, названае ўтваральным словам': *накрапваць, напяваць, насвістваць, наігрываць, налепліваць.*

Тып непрадуктыўны.

§ 785. Дзеясловы з прэфіксам *на-* і суфіксам *-і-* ўтвараюцца ад прыметнікаў і маюць значэнне 'надзяліць прыметай, названай утваральным словам': *напоўніць, пругкі — напружыць, насыціць.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 786. Дзеясловы з прэфіксам *па-* і суфіксам *-і-* (*-ы*) утвараюцца ад прыметнікаў і лічэбнікаў.

Ад прыметнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'надзяліць у большай ступені той прыметай, што названа ўтваральным словам': *глыбокі — паглыбіць, панізіць, папоўніць.*

Чаргуюцца парна-цвёрдыя зычныя з мяккімі: *высокі — павысіць.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып непрадуктыўны.

Ад лічэбнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'выканаць дзеянне ў той колькасці, якая названа ўтваральным словам': *двое — падвоіць, трое — патроіць.*

Тып непрадуктыўны.

§ 787. Дзеясловы з прэфіксам *па-* і суфіксам *-ва-* (*-іва-*, *-ыва-*) утвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне 'час ад часу, з невялікай інтэнсіўнасцю ажыццяўляць дзеянне, названае ўтваральным словам': *бліскаць — пабліскваць, пабрэхваць, паварушваць, пагрукваць, пагукваць, пагульваць, падрэмліваць, паігрываць, пакалыхваць, памешваць, пасвістваць, пашчыпваць.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып высокапрадуктыўны.

§ 788. Дзеясловы з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-і-* (*-ы-*) утвараюцца ад прыметнікаў і назоўнікаў.

Ад прыметнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'ў нязначнай ступені надзяліць той прыметай, якая названа ўтваральным словам': *большы — падбольшыць, падкісліць, паднавіць, падсыціць, падцяпліць.*

Націск на суфіксе, зрэдку — на перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

Ад назоўніка *ахвота* ўтвораны дзеяслоў *падахвоціць.*

§ 789. Дзеясловы з прэфіксам *пад-* і суфіксам *-ва-* (*-ыва-*) утвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне 'ўтвараць дзеянне, якое суправаджае іншае дзеянне, названае ўтваральным словам': *выць — падвываць, падзвоньваць, падпяваць, падсвістваць.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 790. Дзеясловы з прэфіксам *пера-* і суфіксам *-і-* (*-ы-*) утвараюцца ад прыметнікаў і маюць значэнне 'празмерна надзяліць той прыметай, якая названа ўтваральным словам': *вялікі — перавялічыць, перагусціць, перакісліць, пераменшыць, перапоўніць.*

Чаргуюцца зычныя *к—ч*: *вялікі — перавялічыць*; *т — ц'*: *густы — перагусціць.*

Націск на суфіксе, радзей — на перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 791. Дзеясловы з прэфіксам *пера-* і суфіксам *-ва-* ўтвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне 'папераменна ажыццяўляць дзеянне, названае ўтваральным словам': *званіць — перазвоньваць, перастукваць.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

§ 792. Дзеясловы з прэфіксам *пры-* і суфіксам *-і-* ўтвараюцца ад назоўнікаў і маюць значэнне 'прыблізіць да таго, што названа ўтваральным словам': *губа — прыгубіць, прызямліць, прылуніць.*

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 793. Дзеясловы з прэфіксам *пры-* і суфіксам *-ва-* ўтвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне 'суправаджаць іншае дзеянне тым, што названа ўтваральным словам': *гаварыць — прыгаворваць, прысвістваць, прытупваць.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 794. Дзеясловы з прэфіксам *раз-* (*рас-*) і суфіксам *-і-* (*-ы-*) утвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў.

Адназоўнікавыя дзеясловы складаюць тры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'раз'яднаць, здрабніць, ператварыўшы ў тое, што названа ўтваральным словам': *пыл — распыліць, расчапіць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'вызваліць ад таго, што названа ўтваральным словам': *кабала — раскабаліць, рассупоніць.*

3. Дзеясловы са значэннем 'выклікаць у каго-н. пачуццё, названае ўтваральным словам': *ахвота—разахвоціць, разлютаваць* (ад *лютасць*).

Націск на суфіксе або перадсуфіксальным складзе.

Тыпы малапрадуктыўныя.

Адпрыметнікавыя дзеясловы складаюць два тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'надзяліць прыметай, названай утваральным словам': *мяккі — размякчыць, разрэдзіць, расчуліць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'пазбавіць прыметы, названай утваральным словам': *буйны — разбуйніць, рассакрэціць.*

Націск на суфіксе або перадсуфіксальным складзе.

Тыпы малапрадуктыўныя.

Ад лічэбніка *двое* ўтвораны дзеяслоў *раздвоіць.*

§ 795. Дзеясловы з прэфіксам *рас-* (*рас-*) і суфіксам *-ва-* ўтвараюцца ад дзеясловаў. Яны абазначаюць 'павольна, не спяшаючыся, працяглы час ажыццяўляць дзеянне, названае ўтваральным словам': *гуляць — разгульваць, раздумваць, раскурваць.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 796. Дзеясловы з прэфіксам *раз-* (*рас-*) і суфіксамі *-а-* (*-я-*), *-ава-*, *-е-* прадстаўлены асобнымі словамі: *расцугляць* (ад *цуглі*), *размачтаваць* (ад *мачта*), *распанець* (ад *пан*).

§ 797. Дзеясловы з прэфіксам *у-* (*ува-*) і суфіксам *-і-* (*-ы-*) утвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў і лічэбнікаў.

Адназоўнікавыя дзеясловы складаюць два тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'прывесці каго-, што-н. у стан, названы ўтваральным словам': *закон — узаконіць, урайнаважыць, уцяжарыць.*

2. Дзеясловы са значэннем 'зрабіць тым, прыняць у сям'ю на правах таго, хто названы матываваным словам': *дачка — удачарыць, усынавіць.*

Націск на суфіксе або перадсуфіксальным складзе.

Тыпы непрадуктыўныя.

Адпрыметнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'надзяліць той прыметай, што названа ўтваральным словам': *вільготны — увільгатніць, удакладніць, удасканаліць, упрыгожыць, ускладніць, ушчыльніць.*

Націск на суфіксе, радзей — на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны.

Адлічэбнікавыя дзеясловы маюць значэнне 'павялічыць у столькі разоў, колькі названа ўтваральным словам': *два — удвоіць, утроіць, удзесяцярыць.*

Націск на перадсуфіксальным складзе або на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 798. Дзеясловы з прэфіксам *уз-* (*ус-*) і суфіксам *-і-* (*-ы-*) утвараюцца ад прыметнікаў і маюць значэнне 'надзяліць той прыметай, якая названа ўтваральным словам': *багаты — узбагаціць, узбуйніць, узмацніць, узнавіць, ускалмаціць.*

Націск на суфіксе, радзей — на перадсуфіксальным складзе.

Тып прадуктыўны.

§ 799. Дзеясловы з прэфіксам *уз-* (*ус-*) і суфіксам *-ва-* ўтвараюцца ад дзеясловаў і маюць значэнне 'надаць дзеянню, названаму ўтваральным словам, перарывістасць, перыядычнасць, слабую інтэнсіўнасць': *махаць — узмахваць, ускліквацъ, ускрыкваць, усплёскваць.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып малапрадуктыўны.

### *Постфіксальныя дзеясловы*

§ 800. Постфіксальныя дзеясловы (дзеясловы з афіксам *-ся* (*-ца, -цца*)) у большасці выпадкаў утвараюцца ад пераходных дзеясловаў: *касіць — касіцца, накасіцца.* У якасці ўтваральных не выкарыстоўваюцца непераходныя дзеясловы з суфіксамі *-ніча, -ствава, -ну-*, дзеясловы суфіксальна-постфіксальныя, прэфіксальна-постфіксальныя і прэфіксальна-суфіксальна-постфіксальныя. Постфіксальныя дзеясловы з'яўляюцца непераходнымі, як правіла, націск у іх на тым складзе, што і ва ўтваральных словах, або на суфіксе.

### *Суфіксальна-постфіксальныя дзеясловы*

§ 801. Суфіксальна-постфіксальныя дзеясловы ўтвараюцца ад назоўнікаў і прыметнікаў шляхам адначасовага далучэння суфікса *-і-* або *-е-* і постфікса *-цца: цяліцца, гарбаціцца.*

Адназоўнікавыя дзеясловы з суфіксам *-і-* складаюць два тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'ствараць тое, што названа ўтваральным словам': *колас — каласіцца, квадраціцца, парасіцца, расіцца, слязіцца, табуніцца, тоўпіцца, ягніцца.*

Тып малапрадуктыўны.

2. Дзеясловы са значэннем 'паводзіць сябе падобна таму, хто названы (што названа) утваральным словам': *дзіця — дзяцініцца, петушыцца.*

Тып непрадуктыўны.

*Адпрыметнікавыя* дзеясловы з суфіксам *-і-* маюць значэнне 'праяўляць прымету, названую ўтваральным словам': *высокі — высіцца, дзічыцца, скупіцца, кучаравіцца, весяліцца.*

Тып прадуктыўны.

§ 802. Дзеясловы з суфіксам *-е-* ўтвораны ад якасных *прыметнікаў* са значэннем колеру і маюць значэнне 'праяўляць прымету, названую ўтваральным словам': *зялёны — зелянецца, белы — бялецца, сіні — сінецца.*

Гэтыя дзеясловы выступаюць сінонімамі суфіксальных (з суфіксам *-е-*) адпрыметнікавых дзеясловаў (*сінець — сінецца*) і могуць разглядацца як словаўтваральныя дублеты да першых.

Тып малапрадуктыўны.

§ 803. *Адназоўнікавыя* суфіксальна-постфіксальныя дзеясловы ўтвараюцца таксама з дапамогай суфікса *-ава-* і постфікса *-цца: патрэба — патрабавацца, рубец — рубцавацца, сталовая (сталоўка) — сталавацца, харч — харчавацца.* Яны не складаюць пэўнага тыпу, маючы рознае значэнне.

### *Прэфіксальна-постфіксальныя дзеясловы*

§ 804. Прэфіксальна-постфіксальныя дзеясловы ўтвараюцца ад *дзеясловаў* незакончанага і зрэдку — дзеясловаў закончанага трывання. Прэфіксальна-постфіксальныя дзеясловы з'яўляюцца непераходнымі і адносяцца да закончанага трывання.

§ 805. Дзеясловы з прэфіксам *а- (аб-, аба-)* і постфіксам *-ца* (*-ся* ў спрагальных формах і пасля *-ці*) складаюць пяць тыпаў.

1. Дзеясловы са значэннем 'няправільна, памылкова, няўдала ажыццяўляць дзеянне, названае ўтваральным словам': *абазнацца, абмовіцца, абгаварыцца, аступіцца.*

2. Дзеясловы са значэннем 'ажыццяўляць дзеянне ў адказ на папярэдняе дзеянне': *абазвацца, аказацца, азірнуцца.*

3. Дзеясловы са значэннем 'звыкнуцца з дзеяннем, названым утваральным словам': *абжыцца, абцярпецца, астаяцца.*

4. Дзеясловы са значэннем 'давесці дзеянне да выніку': *асунуцца, ачуцца.*

5. Дзеясловы са значэннем 'празмерна, інтэнсіўна ажыццявіць дзеянне, названае ўтваральным словам, прычыніўшы сабе шкоду': *аб'есціся, апіцца.*

Тыпы малапрадуктыўныя. Большасць дзеясловаў адносіцца да размоўнага стылю.

§ 806. Дзеясловы з прэфіксам *ад- (ада-)* і постфіксам *-ся (-ца)* складаюць тры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'завяршыць, закончыць дзеянне ці не здолець працягваць гэта дзеянне': *бамбіць — адбамбіцца (разм.), адбегацца, адваявацца, адкасіцца, адстраляцца.*

2. Дзеясловы са значэннем 'прыйсці ў нармальны стан у выніку працягласці або паўтарэння адпаведнага дзеяння': *спаць — адаспацца, адвісецца, адгуляцца, аддыхацца, адляжацца.*

3. Дзеясловы са значэннем 'пазбавіцца, ухіліцца ад каго-н. з дапамогай дзеяння, названага ўтваральным словам': *гаварыць — адгаварыцца, адкруціцца, адмахнуцца, адпісацца, адрачыся, адчапіцца.*

Тыпы прадуктыўныя ў гутарковым стылі.

§ 807. Дзеясловы з прэфіксам *вы-* і постфіксам *-ся (-ца)* маюць значэнне 'давесці дзеянне, названае ўтваральным словам, да поўнага

яго завяршэння (часам са стратай пэўных уласцівасцей)': *бегаць — выбегацца, выгуляцца, выкрычацца, вылежацца, выплакацца, выспацца.*

Тып прадуктыўны.

§ 808. Дзеясловы з прэфіксам *да-* і постфіксам *-ся* (*-ца*) утвараюцца ад невытворных і вытворных дзеясловаў і складаюць два тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'давесці сябе да непрыемнага выніку шляхам інтэнсіўнага выканання дзеяння, названага ўтваральным словам': *бегаць — дабегацца, даваявацца, дагаспадарыцца, дагуляцца, дадурэцца, дакрычацца, даплавацца, дасябравацца.*

2. Дзеясловы са значэннем 'давесці да канца адпаведнае дзеянне': *будзіць — дабудзіцца, дакапацца, дазваніцца, даклікацца, дашукацца.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 809. Дзеясловы з прэфіксам *з-* (*с-*, *са-*) і постфіксам *-ся* (*-ца*) утвараюцца ад невытворных і вытворных (пераважна непераходных) дзеясловаў і складаюць чатыры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'дасягнуць зладжанасці, узаемаразумення ў выніку выканання дзеяння, названага ўтваральным словам': *веславаць — звеславацца, злюбіцца, змовіцца, сазваніцца, сквітацца, спрацавацца.*

Тып прадуктыўны.

2. Дзеясловы са значэннем 'сабрацца ў адно месца, злучыцца дзякуючы дзеянню, названаму ўтваральным словам': *бегчы — збегчыся, з'ехацца, зляцецца, сысціся.*

Тып малапрадуктыўны.

3. Дзеясловы са значэннем 'набыць непажаданы пэўны стан, непрыдатнасць у працэсе працяглага, інтэнсіўнага дзеяння, названага ўтваральным словам': *галадаць — згаладацца, зляжацца, скрычацца, спісацца, спіцца.*

Тып малапрадуктыўны.

4. Дзеясловы са значэннем 'звыкнуцца, прызвычаіцца да чаго-н. у выніку працяглага дзеяння, названага ўтваральным словам': *жыць — зжыцца, сцярпецца.*

Тып непрадуктыўны.

§ 810. Дзеясловы з прэфіксам *за-* і постфіксам *-ся* (*-ца*) утвараюцца ад невытворных і вытворных дзеясловаў і маюць значэнне 'цалкам паглыбіцца ў дзеянне, захапіцца ім да стомы ў працэсе працяглага або празмерна працяглага яго выканання': *думаць — задумацца, заляжацца, запрацавацца, зачакацца, зачытацца.*

Дзеяслоў *загарэцца* мае значэнне пачатку дзеяння.

Тып прадуктыўны ў гутарковай мове.

§ 811. Дзеясловы з прэфіксам *на-* і постфіксам *-ся* (*-ца*) утвараюцца ад невытворных і вытворных дзеясловаў і маюць значэнне 'давесці да поўнай або частковай завершанасці названае ўтваральным словам дзеянне, да поўнага задавальнення ім суб'екта': *бедаваць — набедавацца, нагаладацца, нагаласіцца, нагаманіцца, нагаравацца, нагасцявацца, напакутавацца.*

Тып прадуктыўны.

§ 812. Дзеясловы з прэфіксам *пра-* і постфіксам *-ся* (*-ца*) утвараюцца ад невытворных (пераважна непераходных дзеясловаў). Яны складаюць тры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'прыйсці ў нармальны стан дзякуючы дзеянню, названаму ўтваральным словам': *спаць — праспацца, прачхацца, пракашляцца.*

2. Дзеясловы са значэннем 'прыносіць сабе шкоду, прыйсці да не-

пажаданага выніку, памылкова або няўдала ажыццяўляючы дзеянне, названае ўтваральным словам': *гаварыць — прагаварыцца, пралічыцца, пратаргавацца.*

3. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць дзеянне, названае ўтваральным словам, не спяшаючыся, у мэтах адпачынку, задавальнення': *гуляць — прагуляцца, прабегчыся, праехацца, прайсціся.*

Тыпы малапрадуктыўныя. Асобна стаіць дзеяслоў *прагаладацца.*

§ 813. Дзеясловы з прэфіксам *пры-* і постфіксам *-ся (-ца)* утвараюцца пераважна ад невытворных дзеясловаў. Яны складаюць тры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'інтэнсіўна, старанна ажыццявіць дзеянне, названае ўтваральным словам': *глядзець — прыгледзецца, прынюхацца, прыслухацца.*

2. Дзеясловы са значэннем 'у працэсе пастаяннага ажыццяўлення дзеяння, названага ўтваральным словам, прывыкнуць, прызвычаіцца да чаго-н.': *прыесціся, прымільгацца, прыцярпецца.*

3. Дзеясловы са значэннем 'выканаць дзеянне ў нязначнай ступені'. *кранаць — прыкрануцца, прыткнуцца, прыторкнуцца.*

Тыпы малапрадуктыўныя.

§ 814. Дзеясловы з прэфіксам *раз- (раза-, рас-)* і постфіксам *-ся (-ца)* утвараюцца ад невытворных і вытворных дзеясловаў і складаюць тры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'накіравацца ў розныя бакі, распаўсюдзіцца, раз'яднацца з дапамогай дзеяння, названага ўтваральным словам': *бегчы — разбегчыся, разбрысціся, раз'ехацца, разляцецца, расплыцца, расцячыся.*

2. Дзеясловы са значэннем 'дасягнуць вялікай інтэнсіўнасці ў ажыццяўленні дзеяння, названага ўтваральным словам': *бегаць — разбегацца, разбушавацца, развазвацца, разгарэцца, разгудзецца, раскрычацца, распойзацца, расфантазіравацца.*

3. Дзеясловы са значэннем 'завяршыць дзеянне, названае ўтваральным словам': *лічыць — разлічыцца, расплаціцца.*

Тыпы прадуктыўныя.

§ 815. Дзеясловы з прэфіксам *у- (ува-)* і постфіксам *-ся (ца)* утвараюцца ад невытворных і вытворных дзеясловаў і складаюць чатыры тыпы.

1. Дзеясловы са значэннем 'ажыццявіць дзеянне, разлічанае на працяглы час': *легчы — улегчыся, усесціся, успацца, устаяцца.*

2. Дзеясловы са значэннем 'прывыкнуць да дзеяння ў выніку паўтаральнасці або працягласці яго': *жыць — ужыцца* (у ролю), *уляжацца.*

3. Дзеясловы са значэннем 'паглыбіцца, унікнуць у што-н., ажыццяўляючы дзеянне, названае ўтваральным словам': *глядзець — углядзецца, удумацца, услухацца, учытацца.*

4. Дзеясловы са значэннем 'ажыццяўляючы празмернае або працяглае дзеянне, прыйсці да непажаданага выніку': *бегаць — убегацца, упіцца.*

Тыпы малапрадуктыўныя.

§ 816. Дзеясловы з прэфіксам *уз- (ус-)* і постфіксам *-ся (-ца)* утвараюцца ад невытворных дзеясловаў і маюць значэнне 'інтэнсіўна пачаць дзеянне, названае ўтваральным словам': *бушаваць — узбушавацца, усхадзіцца, усхапіцца.*

Большасць дзеясловаў гэтага тыпу мае экспрэсіўную афарбоўку і належыць да гутарковага стылю.

Тып малапрадуктыўны.

## *Прэфіксальна-суфіксальна-постфіксальныя дзеясловы*

§ 817. Прэфіксальна-суфіксальна-постфіксальныя дзеясловы ўтвараюцца ад назоўнікаў, прыметнікаў і дзеясловаў.

§ 818. Дзеясловы з прэфіксам *а-* (*аб-*, *аба-*), суфіксам *-і-* (*-ы-*) і постфіксам *-ся* (*-цца*), утвораныя ад н а з о ў н і к а ў, маюць значэнне 'стаць тым ці набыць прыметы таго, што названа ўтваральным словам': *банкрут — абанкруціцца, амяшчаніцца, асцябліцца, атаварыцца.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 819. Асобныя дзеясловы ўтвораны гэтым спосабам з дапамогай прэфіксаў *а-*, *вы-*, *пры-*, *рас-*, *у-*, суфіксаў *-ава-*, *-і-* (*-ы-*) і постфікса *-цца*: *агнездавацца, выпагадзіцца, прыпазніцца, распагодзіцца, ухітрыцца.*

§ 820. Дзеясловы з прэфіксам *раз-* (*рас-*), суфіксам *-і-* (*-ы-*) і постфіксам *-ся* (*-цца*) утвараюцца ад н а з о ў н і к а ў і маюць значэнне 'ажыццяўляючы інтэнсіўнае або працяглае дзеянне, набыць адзнакі таго, што названа ўтваральным словам': *гультай — разгультаіцца, раздажджыцца.* Дзеяслоў *распагодзіцца* мае іншае значэнне.

Тып малапрадуктыўны.

§ 821. Дзеясловы з прэфіксам *па-*, суфіксам *-ну-* і постфіксам *-цца* ўтвараюцца ад д з е я с л о в а ў незакончанага трывання і маюць значэнне аднакратнасці: *коўзацца — пакаўзнуцца, слізгацца — паслізнуцца* (з адсячэннем *-г-*).

Тып малапрадуктыўны.

§ 822. Дзеясловы з прэфіксам *пера-*, суфіксам *-ва-* і постфіксам *-цца* ўтвараюцца ад д з е я с л о в а ў і маюць значэнне 'абменьвацца дзеяннем, якое названа ўтваральным словам': *гукаць — перагуквацца, свістаць — перасвіствацца, моргаць — пераморгвацца.*

Тып малапрадуктыўны.

§ 823. Асобныя дзеясловы ўтвораны пры дапамозе прэфіксаў *пра-*, *пры-*, суфіксаў *-ну-*, *-ва-* і постфікса *-цца*: *спаць — прачнуцца, дурны — прыдурвацца.*

## *Складаныя дзеясловы*

§ 824. Складаныя дзеясловы ўтвараюцца дзякуючы злучэнню двюх асноў з падпарадкавальнымі адносінамі.

Часцей за ўсё выкарыстоўваюцца ў мове складаныя дзеясловы са звязаным апорным кампанентам *-фікаваць* і інтэрфіксамі *-а-*, *-і-*. У складзе іх вылучаюцца два тыпы.

1. Дзеясловы з першым кампанентам — асновай назоўніка; яны маюць значэнне 'абсталяваць ці надзяліць тым, што названа ўтваральным словам': *газафікаваць, кінафікаваць, радыёфікаваць, электрыфікаваць.*

Тып прадуктыўны ў навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

2. Дзеясловы з першым кампанентам — асновай прыметніка; яны маюць значэнне 'надзяліць прыметай, названай утваральным словам': *інтэнсіфікаваць, русіфікаваць.*

Тып непрадуктыўны.

Дзеясловы з апорным кампанентам — зваротным дзеясловам і першым кампанентам з займеннікавай асновай *сам-* і інтэрфіксам *-а-*; яны маюць значэнне 'самаадвольна і самастойна выконваць дзеянне, названае апорным дзеясловам': *самаабслугоўвацца, самаакупіцца, самавызначацца, самазагарацца, самасупакоіцца, самаўхіліцца, самастрахавацца.*

Тып прадуктыўны ў кніжнай мове.

Дзеясловы з апорным кампанентам — дзеясловам і першым кампанентам *паў- (напаў-)* маюць значэнне 'няпоўнасцю, не да канца, напалавіну выканаць дзеянне, названае апорным кампанентам': *паўляжаць* і *напаўляжаць, паўзруйнаваць, паўразбурыць, паўспустошыць, паўразарыць.*

Тып набывае прадуктыўнасць у кніжнай мове.

## СЛОВАУТВАРЭННЕ ПРЫСЛОЎЯЎ

§ 825. Прыслоўі ўтвараюцца галоўным чынам суфіксальным і прэфіксальна-суфіксальнымі спосабамі. У якасці ўтваральных выступаюць амаль усе часціны мовы. Значная колькасць прыслоўяў суадносіцца са склонавымі формамі іменных часцін мовы. Такія прыслоўі маюць суфіксы, аманімічныя склонавым флексіям, а прэфіксы — прыназоўнікам.

### *Суфіксальныя прыслоўі*

#### Адпрыметнікавыя прыслоўі

§ 826. Прыслоўі з суфіксам *-а (-о* пад націскам, вельмі рэдка) абазначаюць прымету, названую ўтваральным словам, з дадатковым акалічнасным значэннем: *багаты — багата, балюча, бедна, даўно, дваяка, дзіка, добра, звыкла, інтрыгуюча, рашуча, сардэчна, штодзённа.*

Націск пераважна на тым складзе, што і ва ўтваральным слове, выключэнне: *дарагí — дорага, малады́ — молада, тугí — ту́га, халодны — холадна, харошы — хораша.*

Тып прадуктыўны.

#### Адназоўнікавыя прыслоўі

§ 827. Гэтыя прыслоўі ў асноўным утвараюцца з дапамогай суфіксаў *-ой (-ою), -ай (-аю), -яй (-яю), -ом (-ам), -амі (-ямі),* якія аманімічны флексіям творнага склону назоўнікаў, што з'яўляюцца назвамі адрэзкаў часу, спосабаў руху і інш. Прыслоўі абазначаюць акалічнасную прымету па адносінах да таго, што названа ўтваральным словам: *верх — верхам, раніцай, ранкам, днём, вечарам, вясной, летам, часамі, гадамі, залпам, дабром, сілай, вожыкам.*

Націск той жа, што і ў адпаведных формах назоўнікаў творнага склону. Некаторыя прыслоўі маюць паралельныя акцэнтныя формы ці іншы націск: *ве́рхам* і *вярхом, бе́гам — бягом, кру́гам — кругом.*

Тып набывае прадуктыўнасць пад уплывам народна-гутарковай мовы.

§ 828. Асобныя прыслоўі, якія суадносяцца з формамі іншых склонаў назоўнікаў або не суадносяцца з імі, маюць суфіксы *-у (-ю)* (аманімічны флексіі вінавальнага склону): *кроплю, крыху, каплю; -ком: сіла — сілком; -оў: дом — дамоў.*

#### Адлічэбнікавыя прыслоўі

§ 829. З дапамогай суфікса *-ойчы* ўтвораны прыслоўі *двойчы, тройчы;* яны абазначаюць павелічэнне ці паўтарэнне ў столькі разоў, колькі названа ўтваральным словам — *два, тры.*

Семантычна ізалявана прыслоўе *аднойчы.*

Тып непрадуктыўны.

## Аддзеяслоўныя прыслоўі

§ 830. Прыслоўі гэтага тыпу з суфіксам *-ма* абазначаюць акалічнасную прымету, сумяшчаючы яе з той працэсуальнай, якая названа ўтваральным словам: *бегчы — бегма, кішма, лежма, роўма, седзьма.*

Перад суфіксам фінальная галосная ўтваральных асноў адсякаецца: *ляжаць — лежма.*

Націск на корані. Выключэнне: *кішма́.*

Тып мае некаторую прадуктыўнасць у гутарковым стылі. Звычайна такія ўтварэнні ўваходзяць ва ўстойлівыя спалучэнні з утваральным дзеясловам: *седзьма сядзець, лежма ляжаць, кішма кішэць.*

§ 831. Прыслоўі з суфіксам *-ом (ам) -ком* сумяшчаюць акалічнасную прымету з той працэсуальнай, якая названа ўтваральным словам: *бегчы — бягом, валіць — валам, таіцца — тайком, тырчаць — тырчком, хадзіць — ходам, цурчэць — цурком, цягаць — цягам.*

Перад суфіксам фінальная галосная асновы інфінітыва адсякаецца.

Націск на суфіксе, рэдка — на корані (*ця́гам*).

Тып набывае прадуктыўнасць у гутарковай мове.

## Прыслоўі, утвораныя ад прыслоўяў

§ 832. Ва ўтварэнні гэтых прыслоўяў прымаюць удзел суфіксы *-авата, -енька (-анька), -енечка (-анечка), -утка (-ютка), -усенька (-юсенька).*

§ 833. Прыслоўі з суфіксам *-аватка* абазначаюць аслабленую ступень прыметы, названай утваральным словам: *высока — высакавата, зласнавата, пазнавата, ранавата, саладжавата, слабавата, страшнавата.* Утваральнымі выступаюць прыслоўі з суфіксам *-а (-о)*, які перад *-авата* адсякаецца.

Націск на суфіксе (другім складзе яго).

Тып прадуктыўны.

§ 834. Прыслоўі з суфіксам *-енька (-анька)* абазначаюць узмацненне акалічнаснай прыметы, названай утваральным словам, і маюць экспрэсіўныя адценні (ласкальнасці і інш.): *добра — добранька, нізенька, хуценька, ціхенька.*

Перад суфіксам парна-цвёрдыя зычныя чаргуюцца з мяккімі; фіналі *-а, -ка* адсякаюцца.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны.

§ 835. Прыслоўі з суфіксам *-утка (-ютка)* абазначаюць узмацненне акалічнаснай прыметы, названай утваральным словам, з экспрэсіўнымі адценнямі (ласкальнасці і інш.): *блізка — блізютка, відно — віднютка, ціха — ціхутка.*

Перад суфіксам фіналі *-а, -ка* адсякаюцца.

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 836. Асобныя прыслоўі ўтвораны з дапамогай суфіксаў: *-ечку (памалу — памалечку); -ачкі (трошкі — трошачкі); -энна (страшна — страшэнна); -усенька (ціха — ціхусенька); -эзна (высока — высачэзна).*

Перад суфіксамі фіналі ўтваральных слоў (*-у, -кі, -на, -а*) адсякаюцца.

## *Прэфіксальныя прыслоўі*

§ 837. Прыслоўі з прэфіксам *за-* ўтвараюцца ад саміх прыслоўяў і складаюць два тыпы.

1. Прыслоўі са значэннямі 'перавышэнне якасці, прыметы, названай утваральным словам': *завысока, загуста, задоўга, залішне, замнога;* 'непаўнаты якасці, названай утваральным словам': *замала, занізка.*

Націск той жа, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны ў гутарковым стылі.

Прыслоўі гэтага тыпу, як правіла, суадносяцца таксама з прыметнікамі з прэфіксам *за-* і могуць разглядацца як утварэнні ад іх з дапамогай суфікса *-а (-о): задоўгі — задоўга, замалы — замала,* але *многа — замнога.*

2. Прыслоўі са значэннем часавай аднесенасці да прыметы, названай утваральным словам: *цёмна — зацемна* (калі яшчэ цёмна), *засветла, зацепла.*

Націск на прыстаўцы.

Тып непрадуктыўны.

§ 838. Прыслоўі з прэфіксам *не- (ня-)* утвараюцца ад саміх прыслоўяў і маюць адмоўнае значэнне: *высока — невысока, недалёка, нямала, нямнога, няшмат, нядоўга, ненадоўга.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып прадуктыўны.

Прыслоўі гэтага тыпу суадносяцца таксама з прыметнікамі з прэфіксам *не- (ня-)* і могуць разглядацца як утвораныя ад іх з дапамогай суфікса *-а (-о): нядоўгі — нядоўга, нядобры — нядобра.*

§ 839. Прыслоўі з іншымі прыстаўкамі: *на- (наводдаль, навокал, насупраць, назаўтра, назаўсёды), па- (паабапал), у- (упоперак), паза- (пазаўчора, пазалетась), пасля- (паслязаўтра).*

### *Прэфіксальна-суфіксальныя прыслоўі*

### Адназоўнікавыя прыслоўі

§ 840. Прыслоўі з прэфіксам *а-* і суфіксам *-і (-ы),* аманімічным флексіі меснага склону назоўнікаў жаночага і мужчынскага роду, паказваюць на час, названы ўтваральным словам: *поўнач — апоўначы, поўдзень — апоўдні.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып непрадуктыўны.

§ 841. Прыслоўі з прэфіксам *да-* і суфіксамі *-і (-ы), -у,* аманімічнымі флексіям роднага склону назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду, абазначаюць мяжу, даведзенасць да таго, што названа ўтваральным словам: *верх — даверху, данізу, дадому, дахаты, даволі, дарэшты, дадолу.*

Націск на корані.

Тып непрадуктыўны.

§ 842. Прыслоўі з прэфіксам *з- (с-, со-, са-)* і суфіксамі *-у (-ю), -і (-ы),* аманімічнымі флексіям роднага склону назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду, складаюць два тыпы.

1. Прыслоўі са значэннем 'месца лакалізаванасці прыметы ў адпаведнасці з тым, што названа ўтваральным словам' (адказваюць на пытанне *дзе?*): *бок — збоку, зверху, знізу, спераду, скраю.*

2. Прыслоўі са значэннем 'выходзіць, браць пачатак з таго, што названа ўтваральным словам' (адказваюць на пытанне *адкуль?*): *бок — збоку, зверху, знізу, спераду, скраю, згары.*

Націск той жа, што і ў адпаведных формах назоўнікаў.

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 843. Прыслоўі з прэфіксам *на-* і суфіксамі *-і (-ы), -е,* аманімічны-

мі флексіям меснага склону назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду, абазначаюць лакальную і часавую прымету па адносінах да прадмета, з'явы, названых утваральным словам: *водшыб — наводшыбе, напрадвесні, наверсе, наперадзе, нарэшце.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып непрадуктыўны.

§ 844. Прыслоўі з прэфіксам *на-* і суфіксамі *-а(-о), -у*, аманімічнымі флексіям назоўнікаў вінавальнага склону жаночага і ніякага роду, абазначаюць прымету па адносінах да таго, што названа ўтваральным словам: *надзіва, назло, налета, наліха, палова — напалову, напару, напераменку, насілу, начыстату.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып малапрадуктыўны.

§ 845. Прыслоўі з прэфіксам *па-* і суфіксамі *-і(-ы), -е, -у(-ю)*, аманімічнымі флексіям давальнага (меснага) склону назоўнікаў мужчынскага, жаночага і ніякага роду, абазначаюць прымету па адносінах да таго, што названа ўтваральным словам: *верх — паверху, пазавуголлі, паначы* (і *поначы*), *пападвоканню, паперадў, панізе, папраўдзе.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып непрадуктыўны.

§ 846. Прыслоўі з прэфіксам *у-* і суфіксамі *-у, -ы*, аманімічнымі флексіі вінавальнага склону адзіночнага ліку жаночага роду і вінавальнага склону множнага ліку, абазначаюць накіраванасць да таго, што названа ўтваральным словам: *вясна — увесну, узіму, угару* (і *угору*), *умеру, уперамешку, усярэдзіну; убакі, унаймы.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып малапрадуктыўны.

§ 847. Прыслоўі з прэфіксам *у-* і суфіксамі *-і(-ы), -е*, аманімічнымі флексіям меснага склону адзіночнага ліку жаночага і мужчынскага роду назоўнікаў, абазначаюць часавую, лакальную і іншую прымету па адносінах да таго, што названа ўтваральным словам: *верх — уверсе, увечары, угары, уначы, унізе, унутры, уперадзе, урэшце, усярэдзіне.*

Чаргаванне зычных асновы і націск — як і ва ўтваральных словах (формах).

Тып малапрадуктыўны.

§ 848. Адзінкавыя прыслоўі ўтвораны пры дапамозе прэфіксаў *ад-, за-, к-, спад-, у-* і суфіксаў *-а, -ам, -у, -ку: адвеку, адразу, замужам, кверху, спадылба, узімку.*

## Адпрыметнікавыя прыслоўі

§ 849. Прыслоўі з прэфіксам *да-* і суфіксам *-а* абазначаюць акалічнасную адзнаку, даведзеную да прыметы, якая названа ўтваральным словам: *белы — дабяла, дагала, дапазна, дап'яна, дасыта, дачыста, дачырвана.*

Націск на суфіксе, зрэдку — на корані (*дасы́та, дачы́рвана*).

Тып непрадуктыўны.

§ 850. Прыслоўі з прэфіксам *з-(с-)* і суфіксам *-а(-я)* абазначаюць акалічнасную прымету паводле прыметы, названай утваральным словам: *дайні — здайна, зранння, злева, справа, скоса, сп'яна.*

Націск на аснове або суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 851. Прыслоўі з прэфіксам *з-* і суфіксам *-у* абазначаюць акалічнасную прымету, якая выходзіць з прыметы, названай утваральным словам: *блізкі — зблізку, здалёку, звысоку, злёгку, зрэдку, змоладу.*

Націск на корані.

Тып непрадуктыўны.

§ 852. Прыслоўі з прэфіксам *на-* і суфіксам *-а* складаюць два тыпы.

1. Прыслоўі са значэннем даведзенасці да прыметы, названай утваральным прыметнікам: *глухі — наглуха, насуха, натуга, начыста, нагола, надоўга.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып малапрадуктыўны.

2. Прыслоўі са значэннем накіраванасці да прыметы, названай утваральным прыметнікам: *левы — налева, направа.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып непрадуктыўны.

§ 853. Прыслоўі з прэфіксам *па-* і суфіксам *-аму (-яму)* абазначаюць акалічнасную прымету паводле таго, што абазначана ўтваральным прыметнікам: *арліны — па-арлінаму, па-баявому, па-веснавому, па-дзяржаўнаму, па-калгаснаму, па-новаму, па-святочнаму, па-старому, па-ўдарнаму.*

Націск на аснове, зрэдку— на суфіксе (калі ў прыметніку ён на канчатку).

Тып прадуктыўны.

§ 854. Прыслоўі з прэфіксам *па-* і суфіксам *-у* сумяшчаюць значэнне акалічнаснай прыметы з той, якая названа ўтваральным прыметнікам: *бацькоўскі — па-бацькоўску, па-брацку, па-гаспадарску, па-людску, па-мастацку, па-беларуску, паціху, папросту.* Утваральныя — прыметнікі на *-скі*, рэдка — невытворныя.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных прыметніках.

Тып прадуктыўны.

§ 855. Прыслоўі з прэфіксам *па-* і суфіксам *-ы* сумяшчаюць акалічнасную прымету з прыналежнай, якая названа ўтваральным словам — прыналежным прыметнікам: *воўчы — па-воўчы, па-сабачы, па-чалавечы, па-шчанячы.* Утваральныя — прыметнікі на *-чы.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральных словах.

Тып непрадуктыўны. Утварэнні выцясняюцца прыслоўямі на *-аму: па-сабачаму.*

§ 856. Прыслоўі з прэфіксам *у-* і суфіксам *-ую* сумяшчаюць акалічнасное значэнне з тым, што названа ўтваральным словам: *пусты — упустую, урассыпную, уручную, усляпую, ушчыльную.*

Націск на суфіксе.

Тып малапрадуктыўны.

§ 847. Прыслоўі з прэфіксам *у-* і суфіксам *-а* адносяцца да непрадуктыўнага тыпу, яны абазначаюць накіраванасць да прыметы, названай утваральным словам: *левы — улева, правы — управа.*

Націск на корані.

§ 858. Прыслоўі з прэфіксам *у-* і суфіксам *-е* сумяшчаюць акалічнасную прымету з той, што названа ўтваральным словам: *поўны — упаўне, удвайне, утрайне.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

### Адзайменнікавыя прыслоўі

§ 859. Прыслоўі з прэфіксам *па-* і суфіксам *-аму(-яму)* сумяшчаюць акалічнасную прымету з той, якая названа ўтваральным словам — прыналежным займеннікам: *ваш — па-вашаму, па-іхняму, па-мойму, па-нашаму, па-ягонаму.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып непрадуктыўны.

§ 860. З дапамогай прэфікса *на-* і суфікса *-і* ўтвораны прыслоўі *наколькі, настолькі,* прэфікса *на-* і суфікса *-о*—прыслоўе *нашто,* складанага прэфікса *наво- (на- + во-)* і суфікса *-а* — прыслоўе *навошта,* прэфікса *ніза-* і суфікса *-о* — *нізашто.*

### Адлічэбнікавыя прыслоўі

§ 861. Прыслоўі з прэфіксам *на-* і суфіксам *-е(-э)* абазначаюць акалічнасную прымету паводле падзелу на столькі частак, колькі названа ўтваральным словам — зборным лічэбнікам: *два — надвае, натрае.*

Націск на прэфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 862. Прыслоўі з прэфіксам *у-* і суфіксам *-я(-а)* абазначаюць акалічнасную прымету паводле павелічэння ці памяншэння ў столькі разоў, колькі названа ўтваральным словам — зборным лічэбнікам: *два— удвая, утрая.*

Націск на суфіксе.

Тып непрадуктыўны.

§ 863. Прыслоўі з прэфіксам *у-* і суфіксамі *-іх(-ых), -ох(-ёх), -ух(-юх)* абазначаюць акалічнасную адзнаку паводле колькасці, названай утваральным словам — колькасным ці зборным лічэбнікам: 1) *удвух (удзвюх), утрох, учатырох, упяцёх, ушасцёх, удзесяцёх, удвацацёх;* 2) *удваіх, утраіх, учацвярых, упяцярых.* Утварэнні першай групы абазначаюць акалічнасную прымету ў дачыненні да асоб аднаго полу — або мужчынскага, або жаночага; другой — у дачыненні да асоб рознага полу ці істот ніякага роду.

Націск на суфіксе.

Тып прадуктыўны.

### Аддзеяслоўныя прыслоўі

§ 864. Прыслоўі з прэфіксам *без- (бес-)* і суфіксам *-ку* сумяшчаюць акалічнасную прымету з працэсуальнай, названай утваральным словам: *перастаць (перастануць) — бесперастанку, упыніць — безупынку.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

Тып непрадуктыўны.

§ 865. Прыслоўі з прэфіксам *у-* і суфіксам *-ку* маюць тое значэнне, што і ў папярэднім тыпе: *перамяшаць — уперамешку, уперамежку, упрыкуску.*

Націск на аснове.

Тып непрадуктыўны.

§ 866. Асобныя прыслоўі ўтвораны з дапамогай прэфіксаў *з- (с-), на-* і суфіксаў *-у, -кі, -ку: зроду, навыперадкі, наперагонкі, спрасонку (прачнуцца).*

### Прыслоўі, утвораныя ад прыслоўяў

§ 867. Прыслоўі з прэфіксам *па-* і суфіксам *-у* маюць значэнне неаднаразовасці і шматаб'ектнасці: *трохі — патроху, памалу, падоўгу.*

Перад націскам фінальная галосная ўтваральнай асновы адсякаецца.

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове.

Тып непрадуктыўны.

### *Прэфіксальна-нульсуфіксальныя прыслоўі*

#### Адназоўнікавыя прыслоўі

§ 868. Прыслоўі з прэфіксам *на-* абазначаюць акалічнасную прымету па адносінах да таго, што названа ўтваральным словам: *верх — наверх, наперад, насмерць.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове — назоўніку вінавальнага склону адзіночнага ліку мужчынскага ці жаночага роду.

Тып прадуктыўны.

§ 869. Прыслоўі з прэфіксам *у-* абазначаюць накіраванасць да таго, што названа ўтваральным словам: *увосень, удзень, убок, уверх, увысь, удалячынь, уперад.*

Націск на тым складзе, што і ва ўтваральным слове — назоўніку вінавальнага склону адзіночнага ліку мужчынскага ці жаночага роду.

Тып прадуктыўны.

#### Аддзеяслоўныя прыслоўі

§ 870. Прыслоўі з прэфіксам *на-* абазначаюць акалічнасную прымету, спалучаючы яе з працэсуальнай, якая названа ўтваральным словам: *вывернуць — навыварат, навыпуск, напавал, нападхват, наперабой, наўгад.*

Фінальная галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца. Чаргуюцца парна-мяккія зычныя з цвёрдымі; *і — ой: падхваціць — нападхват, перабіць — наперабой.*

Націск на апошнім складзе, у словах з дзеяслоўным прэфіксам *вы-* — на прэфіксе.

Тып прадуктыўны.

§ 871. Прыслоўі з прэфіксам *у-* маюць тое значэнне, што і папярэдні тып: *замяняць — узамен, узасос, упапад, уперахват, уперагіб, уплаў, упрытык, уроскід, ураздроб, усутыч.*

Чаргуюцца канцавыя зычныя асновы *к—ч* (пры адсячэнні галоснай): *сутыкацца — усутыч.*

Націск на апошнім складзе.

Тып прадуктыўны.

§ 872. Прыслоўі з прэфіксам *наўз-* выступаюць як сінонімы да ўтварэнняў з прэфіксам *у-: замяняць — узамен* і *наўзамен, даганяць — удагон* і *наўздагон.*

Тып непрадуктыўны.

§ 873. Адзінкавыя прыслоўі ўтвораны з дапамогай фармантаў *наў-* і *наўс-: наўкос* і *наўскос* (ад *касы*); *з-: зноў* (ад *новы*); *няў-: няўцям* (ад *цяміць*); *по-: побліз* (ад *блізкі*); *над-: надгаладзь* (ад *голад*); *за-: замуж, зараз; па-: паверх, пазарэз* (абл.); *з-: здалёк* (ад *далёкі*).

### *Складаныя прыслоўі са спалучальнымі адносінамі кампанентаў*

§ 874. Прыслоўі данага тыпу з другім кампанентам адмоўным займеннікавым прыслоўем і першым — пытальна-адносным прыслоўем маюць значэнне няпэўнасці (няпэўна-часавае, няпэўна-лакальнае і інш.): *дзе-нідзе, калі-нікалі, як-ніяк.*

Націск асноўны на другім кампаненце.

Тып непрадуктыўны.

### *Складаныя прыслоўі з падпарадкавальнымі адносінамі кампанентаў*

§ 875. Прыслоўі з апорным кампанентам — прыслоўем ці дзеепрыслоўем (у функцыі прыслоўя) і першым кампанентам *паў-* і *напаў-* (скарочаны варыянт ад *напалову*) абазначаюць акалічнасную прымету, выяўленую толькі напалавіну: *паўсур'ёзна* і *напаўсур'ёзна, паўлежачы* і *напаўлежачы, паўдзіка і напаўдзіка, паўжартам.*

Націск на другім кампаненце — на тым складзе, што і ў адпаведных простых прыслоўях.

Тып прадуктыўны.

§ 876. Прыслоўі з апорным кампанентам — адпрыметнікавым прыслоўем і першым кампанентам з інтэрфіксам *-ым,* аманімічным флексіі творнага склону мужчынскага роду прыметніка, маюць узмацняльнае значэнне: *даўным-даўно, поўным-поўна, даўным-даўнюсенька, поўным-паўнюсенька.*

Націск на другім кампаненце.

Тып непрадуктыўны.

### *Суфіксальна-складаныя прыслоўі*

§ 877. Прыслоўі з другім, апорным кампанентам — назоўнікам і суфіксамі *-у, -а, -ы, -я,* аманімічнымі флексіі роднага і вінавальнага склонаў адзіночнага ліку назоўнікаў, у якасці першага кампанента маюць аснову займенніка *што* і абазначаюць рэгулярнасць, уласцівую прамежку часу, названаму апорным кампанентам: *штоночы, штодня, штохвіліны, штолета, штомінуты* і *штомінуту, штотыдня.*

Націск асноўны на другім кампаненце, дадатковы — на інтэрфіксе *-о-*.

Тып малапрадуктыўны.

§ 878. Прыслоўі з апорным кампанентам — асновай дзеяслова і суфіксам *-ам* маюць значэнне акалічнаснай прыметы ў спалучэнні з працэсуальнай, названай апорным кампанентам і ўдакладненай у першай аснове.

Яны складаюць два тыпы.

1. Прыслоўі з першым кампанентам — асновай займенніка *сам* (і інтэрфіксам *-а-*): *самавукам, самакатам, самаходам.*

2. Прыслоўі з першым кампанентам — асновай прыслоўя *міма: мімаездам, мімалётам, мімаходам.*

Канцавая галосная інфінітыўнай асновы адсякаецца; чаргуюцца парна-мяккія зычныя — з цвёрдымі: *хадзіць — самаходам; к—ч: вучыцца — самавукам.*

Націск на другім кампаненце.

Тыпы непрадуктыўныя.

§ 879. Прыслоўі з апорным кампанентам — асновай назоўніка і суфіксамі *-ам, -ым,* аманімічнымі флексіі творнага склону мужчынскага роду назоўнікаў, і слова *адзін* маюць значэнне ўзмацняльнасці; першы кампанент — аснова таго ж слова, аманімічная форме назоўнага склону: *век-векам, чын-чынам, час-часам, адзін-адным.*

Націск маюць абодва кампаненты, асноўны — на другім кампаненце.

Тып малапрадуктыўны.

### *Нульсуфіксальна-складаныя прыслоўі*

§ 880. Прыслоўі з апорным назоўнікавым кампанентам і нулявым суфіксам, аманімічным нулявой флексіі вінавальнага склону мужчынскага і жаночага роду назоўнікаў, абазначаюць рэгулярную акалічнасную прымету, уласцівую адрэзку часу, названаму апорным кампанентам: *штодзень, штоноч, штовечар, штомесяц, штогод.*

Націск асноўны на другім кампаненце.

Тып малапрадуктыўны.

Заўвага. Прыслоўі з другім кампанентам — асновай назоўніка ніякага роду маюць суфікс *-а (-я)* і належаць да суфіксальна-складаных *(штолета).*

Прыслоўі гэтай структуры выступаюць як сінонімы суфіксальна-складаных з суфіксамі *-а (-я), -ы: штодзень* і *штодня, штоноч* і *штоночы.*

### *Прэфіксальна-нульсуфіксальна-складаныя прыслоўі*

§ 881. Гэтыя прыслоўі складаюцца з дзвюх аднолькавых асноў. Другі, апорны кампанент (аснова назоўніка або парадкавага лічэбніка) мае прэфікс *на-: крыж-накрыж, перш-наперш, шыварат-навыварат.*

Націск асноўны на другой аснове.

Тып малапрадуктыўны.

### *Прэфіксальна-суфіксальна-складаныя прыслоўі*

§ 882. Прыслоўі з апорным кампанентам — асновай назоўніка, першым кампанентам *паў-* (скарочаны варыянт слова *палавіна),* прэфіксамі *на-, у-* і суфіксамі *-у, -а, -ы, -е,* аманімічнымі флексіям утваральных назоўнікаў, абазначаюць акалічнасную прымету, якая здзяйсняецца не поўнасцю, а толькі напалавіну: *напаўголасу, упаўголаса, напаўнакалу, напаўпаварота, напаўдарозе, напаўсілы.*

Націск на другім кампаненце на тым складзе, што і ў адпаведных формах утваральных назоўнікаў.

Тып прадуктыўны ў гутарковым стылі і навукова-тэхнічнай тэрміналогіі.

23 Зак. 1161

# НАЦІСК

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА

§ 883. Націск — гэта вылучэнне аднаго са складоў слова павелічэннем сілы голасу, узмацненнем выдыхання (экспірацыі). Такі націск называюць сілавым, ці экспіраторным. У беларускай мове, як і ў многіх іншых славянскіх (рускай, украінскай, польскай, чэшскай, балгарскай) і неславянскіх (нямецкай, французскай) мовах — экспіраторны націск. У некаторых мовах (сербска-харвацкай, славенскай, літоўскай, кітайскай, японскай і інш.) націскны склад вылучаецца змяненнем тону. Гэты націск называецца танічным, ці музычным. Павышэнне і паніжэнне тону ў мовах з музычным націскам служыць для адрознівання сэнсу.

Ёсць мовы, у якіх сілавы націск фіксіраваны, ці, як яго інакш называюць, звязаны, аднамесны. Ён ва ўсіх словах прыпадае на адзін і той жа склад (напрыклад, у французскай мове — на апошні, у польскай — на перадапошні, у чэшскай — на першы). У беларускай мове, як і ў рускай і ўкраінскай, націск свабодны, ці разнамесны,— практычна сустракаецца на любым складзе слова. У адных словах ён на першым складзе *(горад, бéлы, нéсці, смéла)*, у некаторых — на другім *(дарога, малы́, касíць, даўно)*, у іншых — на трэцім *(галавá, дарагí, малацíць, памяркоўна)*, на чацвёртым *(архітэктýра, велікавáты, баранавáць, калегіяльна)*, на пятым, шостым *(калектывізáцыя, арганізацы́йны, забарыкадавáць* і інш.) і г. д. Разнамеснасць націску з'яўляецца дадатковым сродкам адрознівання слоў і словаформ. Пры аднолькавай гукавой абалонцы дзякуючы разнамеснасці націску адрозніваюцца:

а) два назоўнікі: *бáрак — барáк, віхар — віхор, гýмар — гумор, ды́скант (муз.) — дысконт (фін.), кáра — карá, кáса — касá, конюх — канюх, комін — камін, лýчнік — лучнік, мýка—мукá, пáра—парá, пры́клад — прыклáд, рáса — расá, сподак — спадáк, тáмбур (чыг.) — тамбýр (муз.), пры́мус — прымýс, пры́пек — прыпёк, пры́ціск* (акцэнт) — *прыціск* і інш.;

б) два прыметнікі ці прыметнік і дзеепрыметнік: *грýбы — грубы́* (масіўны), *вараны́ — вáраны, саляны́ — солены* і інш.;

в) прыметнік і назоўнік: *вáхтавы* (прым.) — *вахтавы́* (наз.) і інш.;

г) два дзеясловы: *вáдзіць (шкодзіць) — вадзіць, гáдзіць — гадзіць, гасíць—гáсіць (праст. 'біць'), згáдзіць—згадзіць, змы́ліць—змыліць, знáчыць — значы́ць, мáрыць — мары́ць, падгáдзіць — падгадзіць, папáсціць — папасціць, парáдзіць — парадзіць, пáрыць — пары́ць, пасáліць — пасаліць, пýшыць — пушы́ць, рáдзіць — радзіць, рáіцца — раіцца, сáліць — саліць, разносіць — разнасíць, скýпіць — скупіць* і інш.;

д) назоўнік і дзеяслоў: *мазалí — мáзалі* і інш.

У залежнасці ад характару рэалізацыі націску ў парадыгме — сло-

ваформах аднаго слова — у беларускай мове адрозніваюцца два тыпы націску: нерухомы і рухомы. Пераважная большасць слоў мае нерухомы націск. Ва ўсіх формах парадыгмы яны захоўваюць націск пачатковай формы — назоўнага склону адзіночнага ліку для назоўнікаў: *ву́чань — ву́чня, ву́чню, ву́чня, ву́чнем, (аб) ву́чню, ву́чні, ву́чняў, ву́чням, ву́чняў, ву́чнямі, (аб) ву́чнях;* назоўнага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду прыметнікаў: *бе́лы — (бе́лая, бе́лае), бе́лага (-ай, -ага), бе́ламу (-ай, -аму), бе́лым (-ай і -аю, -ым), (аб) бе́лым (-ай, -ым), бе́лыя, бе́лых, бе́лым, бе́лымі, (аб) бе́лых;* займеннікаў: *наш — (на́ша), на́шага (-ай), на́шаму (-ай), на́шым (-ай і -аю), (аб) нашым (-ай), на́шы, на́шых, на́шым, на́шымі, (аб) на́шых* і дзеепрыметнікаў: *скошаны — (скошаная, скошанае), скошанага (-ай, -ага), скошанаму (-ай, -аму), скошаным (-ай, -ым), (на) скошаным (-ай, -ым), скошаныя, скошаных, скошаным, скошанымі, (на) скошаных;* інфінітыва для дзеясловаў: *чыта́ць — чыта́ю, чыта́еш, чыта́е, чыта́ем, чыта́еце, чыта́юць; чыта́ў, чыта́ла (ж.* і *н.), чыта́лі.*

Нерухомы націск у словаформах парадыгмы можа быць на аснове *(ву́чань, бе́лы, на́шы, скошаны, ма́рыць)* і на канчатку *(тахта́, мала-ды́, нясе́).*

У словах з рухомым націскам у розных словаформах аднаго слова ці ў дэрыватах (розных словах), утвораных ад аднаго кораня, націск можа быць на розных марфемах: *рука́ — ру́кі — ру́чкі, нага́ — нагі́ — ногі* і інш.

Рухомасць націску з'яўляецца дадатковым сродкам адрознівання словаформ аднаго слова. Напрыклад, форм роднага склону адзіночнага ліку назоўнікаў і форм назоўнага склону множнага ліку: *рукі́ — ру́кі, нагі́ — ногі, галавы́ — галовы.* Дзякуючы рухомасці націску адрозніваюцца незакончанае і закончанае трыванне некаторых дзеясловаў: *адраза́ць — адрэзаць, высыпа́ць — вы́сыпаць, выкліка́ць — вы́клікаць* і інш.

Тэрміны **нерухомы націск** і **рухомы націск** выкарыстоўваюцца для характарыстыкі месцаразмяшчэння націску на розных марфемах слова (на аснове, на флексіі), г. зн. для абазначэння марфемнай нерухомасці ці рухомасці націску, і для характарыстыкі месцаразмяшчэння націску на канкрэтным складзе слова (на першым, другім, трэцім і г. д.) —для абазначэння складовай нерухомасці ці рухомасці націску. Ёсць словы, у якіх пры марфемнай нерухомасці націску (на аснове ва ўсіх словаформах) назіраецца складовая рухомасць націску (застаючыся ў межах той жа марфемы — на аснове, ён перамяшчаецца на адзін са складоў к пачатку ці канцу слова), напрыклад *колас — калоссе, повад — паводдзе.*

Націск маюць толькі паўназначныя словы (назоўнік, прыметнік, лічэбнік, займеннік, дзеяслоў, прыслоўе). Непаўназначныя словы самастойнага націску не маюць. Яны ў якасці ненаціскнога склада прымыкаюць да папярэдняга слова — праклітыкі ці да наступнага слова — энклітыкі. Праклітыкамі найчасцей бываюць прыназоўнікі *(да брата, перад тава́рышамі),* энклітыкамі — часціцы *(прынёс жа, прачытай бы).*

Націск у кожнай словаформе мае сваё сталае месца. Аднак па розных прычынах у некаторых з іх назіраецца няўстойлівасць націску. У моўнай практыцы побач з літаратурнай нормай сустракаюцца акцэнтныя варыянты, суіснуючыя з нарматыўнымі, і нелітаратурныя акцэнтныя варыянты. Гэта звязана з пранікненнем у літаратурную мову дыялектных акцэнтных варыянтаў, з уплывам акцэнтнай сістэмы іншых моў, з няправільным засваеннем месца націску ў запазычаных словах, з дзеяннем аналогіі ўнутры самой літаратурнай мовы.

Да рознадыялектных акцэнтных сістэм, напрыклад, узыходзяць літаратурная норма і нелітаратурны акцэнтны дублет:

а) назоўнікаў (на першым месцы падаецца літаратурная норма, а на другім — нелітаратурны варыянт): *аглобля — аглабля́, бу́льбіна — бульбі́на, ву́гал — вугол, голуб — галу́б, дзіця́тка — дзіцятка, дзясна́ — дзя́сна, жніво — жні́ва, жолуд — жалу́д, жыха́р — жы́хар, за́крутка — закру́тка, заку́так — за́кутак, за́сяўка — засо́ўка, за́сцежка — засцёжка, за́хад — заход, здага́дка — зда́гадка, знаха́р — зна́хар, кішка — кішка́, лопух — лапу́х, маладосць. — моладасць, навалочка — на́валачка, на́йміт — наймі́т, на́крыўка — накры́ўка, на́сціл — на́сціл, садаві́на — садаві́на, ску́ла — скула́, цяжа́р — ця́жар* і інш.;

б) прыметнікаў: *бры́дкі — брыдкі́, бу́дны — будны́, бульбяны́ — бульбя́ны, гняды́ — гнёды, гра́зкі — гразкі́, дармавы́ — дармовы, ільняны́ — ільня́ны, канцавы́ — канцовы, касцяны́ — касця́ны, косы* (з нахілам) — *касы́, крупяны́ — крупя́ны, мя́ккі — мяккі́, пахму́рны — па́хмурны, п'я́ны —п'яны́, рабы́ — ра́бы, руды́ — ру́ды, са́нны — санны́, сівы́ — сівы, сла́бы — слабы́, стары́ — ста́ры, то́ўсты — таўсты́, уда́лы — удалы́, уну́траны — унутраны́, цвёрды — цвярды́, ця́жкі — цяжкі́* і інш.;

в) займеннікаў: *ніякі — ніякі;*

г) дзеясловаў: *басіць — ба́сіць, бру́дзіць — брудзі́ць, бубніць — бу́бніць, ву́дзіць —вудзі́ць, ву́зіць — вузі́ць, вярзці́ — ве́рзці, гнісці́ — гнісці́, гнясці́ — гнёсці, загасі́ць — зага́сіць, заінець — заіне́ць, запру́дзіць — запрудзі́ць, зачасці́ць — зача́сціць, мільга́ць — мі́льгаць, натру́дзіць — натрудзі́ць, ну́дзіць — нудзі́ць, патрашы́ць — па́трашыць, пацве́рдзіць — пацвярдзі́ць, перагнісці́ — перагні́сці, угнаіць — угноіць, уну́рыць — унуры́ць* і інш.;

д) прыслоўяў: *высока — вы́сака, глыбока — глы́бака, да́ўно — да́ўна, дачыста́ — дачы́ста, крадком — кра́дкам, крыху́ — кры́ху* і інш.

Пад уплывам акцэнтных норм рускай літаратурнай мовы з'явіліся нелітаратурныя варыянты ў беларускай літаратурнай мове ў наступных словах (на першым месцы даецца літаратурная норма, а на другім — нелітаратурны варыянт): *абу́тнік, абу́тніца — абутні́к, абутні́ца* (*рус. обувщи́к*), *асно́ўны — аснаўны́* (*рус. основно́й*), *балацісты — балоцісты* (*рус. боло́тистый*, магчыма, пад уплывам утваральнай асновы *балота*), *шчы́пцы — шчыпцы́* (рус. *щипцы́*) і інш.

У іншамоўнай лексіцы наяўнасць нелітаратурных акцэнтных варыянтаў звязана з няправільным засваеннем месца націску. Адхіленні ад літаратурнай нормы зафіксаваны ў такіх запазычаных словах: *аге́нт — а́гент, ае́р — а́ер, ажу́рны — а́журны, азбе́ст — а́збест, алфаві́т — алфа́віт, гекта́р — ге́ктар, дакуме́нт — даку́мент, кіламе́тр — кіло́метр, магазі́н — мага́зін, цэме́нт — цэмент* і інш.

### НАЦІСК НАЗОЎНІКАЎ

§ 884. У залежнасці ад месца націску ў словаформах парадыгмы — на аснове ці на флексіі — вылучаюцца наступныя акцэнтныя тыпы назоўнікаў.

Акцэнтны тып А — нерухомы націск на адным і тым жа складзе асновы ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку (*знак, зна́ка, зна́ку, знак, зна́кам, (аб) зна́ку, зна́кі, зна́каў, зна́кам, зна́кі, зна́камі, (аб) зна́ках*).

Акцэнтны тып В — нерухомы націск на канчатку ва ўсіх фор-

мах адзіночнага і множнага ліку (*стол, сталá, сталý, стол, сталом, (на) сталé, сталы́, сталой, сталáм, сталы́, сталáмі, (на) сталáх*).

Акцэнтны тып С — націск на аснове ва ўсіх формах адзіночнага ліку і на канчатку ва ўсіх формах множнага ліку (*колас, коласа, коласу, колас, коласам, (у) коласе, каласы́, каласой, каласáм, каласы́, каласáмі, (у) каласáх*).

Акцэнтны тып $C_1$ — націск на аснове ва ўсіх формах адзіночнага ліку і ў форме назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку, націск на канчатку ў формах усіх астатніх склонаў множнага ліку (*зуб, зýба, зýбу, зуб, зýбам, (на) зýбе, зýбы, зубóй, зубáм, зýбы, зубáмі, (на) зубáх*).

Акцэнтны тып D — націск на канчатку ва ўсіх формах адзіночнага ліку і націск на аснове ва ўсіх формах множнага ліку (*трубá, трубы́, трубé, трубý, трубою, (на) трубé, трýбы, труб, трýбам, трýбы, трýбамі, (на) трýбах*).

§ 885. Націск назоўнікаў разглядаецца ў рамках кожнага рода. У адпаведнасці з гэтым вылучаюцца падраздзелы: Націск назоўнікаў мужчынскага роду з нулявым канчаткам; Націск назоўнікаў жаночага роду на -а (-я); Націск назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам; Націск назоўнікаў ніякага роду; Націск множналікавых назоўнікаў. У межах кожнага падраздзела характарызуюцца тыя акцэнтныя тыпы, якія ўласцівы назоўнікам гэтага роду. Пры характарыстыцы акцэнтных тыпаў матэрыял падаецца пачынаючы з невытворных назоўнікаў (аднаскладовых, двухскладовых) і далей з улікам ўзрастання колькасці складоў (адна-, двух-, трох-, чатырох- і шматскладовыя).

### *Націск назоўнікаў мужчынскага роду з нулявым канчаткам*

§ 886. Пераважная большасць назоўнікаў мужчынскага роду характарызуецца нерухомым націскам, г. зн. ва ўсіх формах парадыгмы адзіночнага і множнага ліку націск у іх на адным і тым жа складзе. Вылучаюцца два тыпы нерухомага націску: тып А — нерухомы націск на аснове і тып В — нерухомы націск на канчатку.

### Тып А — назоўнікі з нерухомым націскам на аснове

§ 887. Да акцэнтнага тыпу А належыць каля 600 аднаскладовых невытворных і вытворных назоўнікаў, 3400 двухскладовых, 3000 трохскладовых, 1100 чатырохскладовых, 160—200 з пяці і больш складоў. Усяго 8300—8500.

§ 888. Аднаскладовыя назоўнікі ва ўсіх словаформах адзіночнага і множнага ліку маюць націск на першым складзе — *верш, вéрша, вéршу, верш, вéршам, (аб) вéршы, вéршы, вéршаў, вéршам, вéршы, вéршамі, (аб) вéршах* (схема № 1, *верш*).

Да тыпу А належаць: *акр, акт, бай, бак, бал* (ацэнка), *баль, банк, бант, бар, барс, баск, бег, бей, бек, б'еф, бланк, блат, блеф, блік, бліск, блок, блуд, бляск, бокс, бос, бот, брак, брас, бром, бруд, брук, брыг ,брыдж, брыз, брэх, бук, букс (бат.), бум, бунт, бур (гіст.), бур (тэхн.), буг, буч, быт, бэз, бюст, вальс, вар, ват, верш, вест, від, віс, віск, войт, вольт, ворс, воск, вяз (бат.), гад, газ, галс (мар.), гар, гарт, гафт, гвалт, гейм (спарт.), ген, герц, гзымс, гід, гік, гімн, гіпс, глог (бат.), глум, гмах, гней, гном, грам, гольф, гон, горн, горс (разм.), граб, град, грак, гран, гранд, гром, грот, груз, грук, грум, грунт, грым, грып, грыф, гуд, гук, ґул, густ, гюйс (мар.), дах, джаз, джын, джэм, дзот, дог, дож,*

*док, дол, дот, драйв (спарт.), драп, дроб, друг, друз, дрэйф, дур, дуст, дух (міф.), душ, дыск, дых (разм.), дэк (мар.), ез (рыб.), енк, ер (лінгв.), ёг, ёд, ёр(лінгв.), ёт (лінгв.), жакт, жаль, жанр, жарт, жах, жым, жэст, зал, залп, замш, збег, збой, збор, зброд, збыт, звіх, звоз, звон (гук), згіб, згон, здзек, здзіў, здой, здор, здрок (абл.), з'езд, злак, зліў, злом, злот, зман, змест, змор, змрок, змыў, знак, знос, зонд, зрок, зрост, зруб, зрух, зрыў, зрэз, зух, зыб, зык (разм.), зэт (лінгв.), зюйд, ікс (лінгв.), іл, іск, кадр, кал, кант, карп, карст, кат, квант, кварц, кеб, кедр, кейф, кекс, керн, кікс (спарт.), кіль, кіў, клад, клан, клас, клерк, клец, клёк, клён, клёш, клік, кліч, клуб (установа), кмен, кнехт, код, кок, кокс, кольт, кон, корт, корх (абл., уст.), кошт, краб, краж, кран, крап, крах, крой, крок, кроль (спарт.), крон (фіз.), кроп (бат.), крос, круп, крык, крэкт, крэм, крэн, крэп, культ, курд, курс, курч, лаж, лаз, лак, лан, ласт, лаўр (бат.), леў* (граш. адзінка), *лёк, лёс, лёт, лёх, лік, лімб (спец.), літр, ліфт, лорд, лот, лох, луб, люд, люк, люкс, ляск, маг, маз, май, мак, мангль, марш, мат, матч, маўр, мах, мел, метр, міг, мікст, мім, мірт (бат.), міф, млён, мол (мар.), мопс, мор, морг, морс, мот, мул, мус, мыт (гіст.), мэр, негр, нерв, німб, ніўх, норд, нут (бат.), нюх, паж, пак, парк, пас, пат, пах, пек, пік, пірс, піск, план, плач, плебс, плед, плех, плеш, плён, плёс, пліс, плоў, плюр, плюш, пляж, прас, прэс, псіх, птах, пул, пульс, пульт, пункт, пунш, пуск, путч, пух, рак, ранг, рант, рапс, ром, ромб, рост, румб, рух, рып, рыс, рыск, рытм, рыф, рэйд, рэйс, сак, сан, сап, сван, сверб, свет, свіст, сейм, сейф, серб, сіп, сказ, скарб, скат, сквайр, сквер, скетч, скід (геал.), скіп (тэхн.), склад, склон, скол, скон, скрып, скунс, слых, смак, смерч, смех, сноб, сок, сос, спад, спеў, спех, спец, спіс, спіч, сплаў, спод, спор, спрыт, спурт, спуск, стаж, стан, стогн, стос, страх, струг, стрэл, стук, стул, стык, стыль, стэк, стэп, сум, сфінкс, схіл, схоў, сцёк, сціск, сып, сэнс, сэр, такт, тальк, танк, твар, тлен, толк, толь, тон, топ, тор, торс, торф, тост, трак, тракт, трал, транс, трап, трон, троп (лінгв.), трум, труп, трут, трух, трып, трэск, трэст, трэф, тук, тур, туф, туш, тыгр, тынк, тып, тыф, тэкст, тэмбр, тэмп, тэнт, тэст, факт, фальш, фарс, фарш, фас, фат, фаўн, ферт, фетр, фільтр, фін, флаг, фланг, флат (тэхн.), флёкс, флёр, флірт, фон, фонд, форс, фрак, фран, франк, франт, фрахт, фрукт, фрэнч, фтор, фунт, фут, фэст, хам, хан, хват, хек, хлам, хлор, хол, храм, храп, хром, хруст, хрып, хрэн, цёрн, цік, ціс, ціск, цітр, цмок, цот, цуг, цуд, цыкл, цынк, цырк, цэд, цэнз, цэнт, цэнтр, цэх, цюль, цюрк, чал, чан, член, чоп 'чан', чэк, чэх, шал, шанс, шарж, шах, шваб, швед, шкот, шлак, шланг, шлейф, шлем, шліф (спец.), шліх, шлюб, шлюз, шлюп, шмат, шнэк (тэхн.), шок, шпат, шпег, шпіг, шпік, шпіль, шпіц (архіт.), шпур (горн.), шрот, штам, штамп, штат, штоф, штраф, штрэк, штурм, штуф, штыб, штыль, штыфт, штэйн (горн.), шум, шурф, шчуп, шчур, шык, шып, шыфр, шэльф, шэпт, шэф, юз, юр, юхт, яд, як, ял (мар.), ямб, ярд, яць.*

А д х і л е н н і. Для назоўнікаў *бай, бак, бант, бук, бунт, бур (тэхн.), буч, бюст, вальс, вяз, гід, граб, грунт, душ, знак, зруб, ікс, клад, клён, краж, лаз, ласт, ліфт, луб, морг, паж, пак, пас, пат, пірс, плач, рак, рант, рып, рытм, сак, склад* (памяшканне), *спец, спіч, страх, струг, тон, цэх, шах, шлюб, шлюз, шпік, шпіль, шум, шчур, шып, шыфр,* як у моўнай практыцы, асабліва ў вуснай, даволі часта сустракаюцца адхіленні ад нарматыўнага месца націску. У формах множнага ліку ён перамяшчаецца на канчатак (схема №1, *клён*). Асноўнай прычынай падобных адхіленняў з'яўляецца ўплыў назоўнікаў акцэнтнага тыпу В, а таксама захаванне дыялектнай акцэнтуацыі. Для некаторых з названых слоў *(бант, знак, клён, краж)* варыянты з націскам

на канчатку ў формах множнага ліку сустракаюцца і ў мове твораў вуснай народнай творчасці і мастацкай літаратуры: *бантоў* (Л. Дайнека), *гербоў* (М. Лужанін), *кляны́* (В. Адамчык, К. Кірэенка, М. Лынькоў, К. Чорны), *кляноў* (Р. Барадулін, З. Бядуля). Хто сам такі, той на другога кладзе *знакі* (прыказка — Ф. Янкоўскі); Як стогадовыя *кражы́*, чубы іх да хмар, на долы валяцца ў глушы́, спалохаўшы абшар (М. Хведаровіч); Па канвееру з парылкі зноў альховыя *кражы́* кладуць пад новыя *нажы* (А. Александровіч).

§ 889. Двухскладовыя назоўнікі акцэнтнага тыпу А ў залежнасці ад таго, на першы ці другі склад асновы прыпадае націск, падзяляюцца на дзве групы — Аа і Аб.

Групу Аа складаюць прыкладна 1500 назоўнікаў, у якіх ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку націск на першым складзе (у іх ліку каля 300 назоўнікаў, у якіх ва ўскосных склонах знікае беглы галосны): *ме́льнік, ме́льніка, ме́льніку, ме́льніка, ме́льнікам, (аб) ме́льніку, ме́льнікі, ме́льнікаў, ме́льнікам, ме́льнікаў, ме́льнікамі, (аб) ме́льніках; сшы́так, сшы́тка, сшы́тку, сшы́так, сшы́ткам, (аб) сшы́тку, сшы́ткі, сшы́ткаў, сшы́ткам, сшы́ткі, сшы́ткамі, (аб) сшы́тках* (схема № 1, *ме́льнік*).

Да групы Аа належаць:

1) іншамоўныя назоўнікі, якія складаюць каля 45% лексічнага саставу групы: *а́нкер, бе́ркут (заал.), ва́хмістр, га́нгстэр, дзя́гіль (бат.), ды́скант (муз.), жэмчуг, коклюш, лу́бін, ма́ршал, пла́стыр, рэкрут, сілас, ста́ртэр, та́мбур (чыг.), ты́тул, форвард, форзац, ха́бар, цэнтнер, шпа́ндыр, шпа́тэль, шпа́цыр, эксперт, я́шчур* і інш.;

2) назоўнікі з суфіксамі *-ік (-ык), -нік, -чык, -шчык*, што складаюць каля 20%: *бобрык, ва́лік, ве́нік, ве́нчык, ве́ршык, ве́трык, вогнік, ву́сік, дроцік, жгу́цік, жу́лік, жы́ўчык, за́йчык, зэдлік, зя́блік, ка́нцік, кла́сік, клірык (царк.), колік, комік, конік, корцік, коцік, кошык, кры́жык, ку́бік, ку́пчык, ку́хцік, ла́пік, ла́сцік, лобзік, ме́дык, мосцік, мэндлік, мя́тлік, ножык, носік, ны́цік, пе́рсік, пе́сцік* і інш.; *бортнік, бра́жнік, бра́мнік, бы́льнік, воднік, візнік, вочнік, глі́снік, грэшнік, гу́тнік, да́ннік, да́чнік, дворнік, дзе́йнік, дзе́льнік (мат.), дзе́рбнік (заал.), дзённік, дольнік, дра́нік, е́льнік, жа́бнік, жы́тнік, за́днік, збройнік, зва́днік, зводнік, згоднік, здра́днік, зды́мнік, зімнік, злоснік, злу́чнік, змоўнік, ка́рнік, кве́тнік, клі́чнік, клю́чнік, кні́жнік, коннік, кра́мнік, кру́пнік, кру́чнік, ку́рнік, ку́тнік, ла́тнік, ле́рнік, ле́тнік, лі́снік (бат.), лі́чнік, ма́ннік (бат.), ме́днік, ме́льнік, ме́чнік, множнік, моднік, мы́знік, ні́жнік, плы́тнік* і інш.; *ві́льчык, возчык, ворчык, гру́зчык, дойшчык, зборшчык, зва́ршчык, зве́ршчык, зводчык, згоншчык, зда́тчык, здзе́льшчык, зма́зчык, зме́ншчык, змоўшчык, зры́ўшчык, зрэзчык, зу́бчык, кла́дчык, кле́йшчык, лётчык, лу́чнік (гіст.), ме́тчык, мы́йшчык, па́йшчык, па́ршчык, пі́льшчык, пі́шчык, пла́ўшчык, пра́ўшчык, счэпшчык, тра́льшчык, хле́ўчык* і інш.;

3) назоўнікі ад дзеясловаў з прыстаўкамі *в(од)-, вы-, до-, по-, под-, про-, пры-* (у тым ліку і тыя, у якіх на сучасным сінхронным зрэзе прыстаўка не вылучаецца): *водбліск, водгук, водзыў, водсвет* і інш.; *вы́бар, вы́бух, вы́ваз, вы́гіб, вы́гляд, вы́езд, вы́клік, вы́куп, вы́лет, вы́пас, вы́пуск, вы́хад* і інш.; *довад, догляд, доказ, допіс, допуск, допыт, доступ, дотык* і інш.; *подых, позірк, помач, попыт, посвіст* і інш.; *подкуп, подпіс, подсціл* і інш.; *пробліск, продаж, пропуск* і інш.; *пры́куп, пры́пуск, пры́ступ, пры́ціск* і інш.;

4) каля 100 назоўнікаў (частка запазычаных) з фіналямі *-ень, -ань, -ан, -ак, -ель, -аль, -ел, -ал, -ец, -ац, -ець, -аць, -ар: бівень, ву́чань, вя́зень, ду́рань, жнівень, клу́бень, ле́жань, лівень, пе́вень, пла́вень, пор-*

*шань, са́жань, скры́пень (бат.), скрэбень (заал.), стры́жань, тру́цень, ты́дзень, шэршань* і інш.; *бла́зан, бу́бен, горан, дзёран, свіран, шворан* і інш.; *га́нак, за́мак, звя́зак, згу́стак, зды́мак, зле́пак, злі́так, зломак, змы́лак, зносак, зростак, зрэзак, ка́рак, клу́мак, корак, ку́бак, лі́шак, ложак, па́сак, па́чак, продак, пры́сак, ра́нак, склёпак, сколак, скосак (спец.), скру́так, сму́так, сму́шак, спі́сак, сподак, спорак, сродак, ста́так, столак, сшы́так* і інш.; *га́ндаль, гі́цаль, ды́шаль, ка́шаль, ке́гель, ку́фель, пы́цель, ту́фель, ты́гель, шу́фель* і інш.; *ва́лец, га́рнец, гля́нец, горац, ля́мец, мсцівец, не́мец, нёнец, па́лец, ра́нец, сла́нец, ста́рац, та́нец, хлопец, хцівец, ша́нец, шма́лец, я́лец* і інш.; *кі́пець, ла́паць, ногаць* і інш.; *ма́йстар, свёкар, сві́дар, ся́бар, цу́кар, цэбар, шва́гер* і інш.

У пераважнай большасці назоўнікаў націск у моўнай практыцы ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку паслядоўна рэалізуецца на першым складзе. Аднак ёсць і а д х і л е н н і ад нормы.

1. У частцы запазычаных слоў — *а́нкер, бе́ркут (заал.), бі́скуп, бобслей (спарт.), ва́хмістр, га́нгстэр, дзя́гіль (бат.), ды́скант (муз.), жэмчуг, ка́мбуз, ке́льнер, кла́ксан, кля́штар, кні́ксет (уст.), козыр, коклюш, ла́дан, ма́клер, ма́рмур, ме́ргель (геал.), му́скус, пе́пін (сад.), пла́стыр, прэзент, пу́рпур, рэгент, рэкрут, са́ван, сі́лас, сі́нтэз, сла́лам, спры́нтэр, ста́ртэр, та́ртар, тру́фель, ту́рман (заал.), ты́тул, тандэм, форвард, форзац, фортэль, ха́бар, цэнтнер, шпа́ндыр, шпатэль, шпа́цыр, эксперт* і некаторых іншых — у выніку няправільнага засваення месца націску даволі часта ў вусным маўленні націск пераносіцца на другі склад (*анке́р, біску́п, бабсле́й* і інш.).

2. У словах *бондар, бровар, бу́нкер, ве́ер, вэксаль, дзе́вер, дзе́яч, ды́зель, е́гер, кі́цель, комін, конюх, кораб, ку́заў, ку́пал, лопух, му́ляр, сонерат, па́рус, промень, пропуск* (дакумент), *се́ктар, сле́сар, собаль, сокал, та́бель, токар, тэнар, фе́льчар, флі́гель, флю́гер, хобат, це́рам, ша́фер, шомпал, шу́лер, я́кар, я́сень, я́страб* і ў назоўніках з беглым галосным: *бу́бен, дзя́цел, ды́шаль, ку́фель, ма́йстар, сві́дар, свіран, ся́бар, тру́цень, цэбар, човен, шва́гер, шворан, шу́фель* і некаторых іншых, пад уплывам дыялектнай акцэнтуацыі ці акцэнтуацыі назоўнікаў групы Аб у формах множнага ліку націск пераносіцца на флексію (схема № 1, *дзе́вер*). Словаформы множнага ліку з флексійным націскам адзначаны галоўным чынам у вуснай мове, аднак сустракаюцца і ў творах мастацкай літаратуры, дзе яны звычайна выконваюць канкрэтную стылявую функцыю.

3. Для назоўнікаў *бондар, гу́тнік, дзе́яч, кве́тнік, конюх, лу́чнік (гіст.), ме́чнік, плы́тнік, му́ляр, промень, пту́шнік* сустракаюцца варыянты з націскам на другім складзе ў формах адзіночнага ліку (*банда́р, гутні́к, дзея́ч, каню́х, лучні́к, муля́р, праме́нь, птушні́к* (схема № 1, *дзе́яч*).

Г р у п а Аб уключае каля 1900 назоўнікаў, у якіх ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку націск на другім складзе: *завод, завода, заводу, завод, заводам, (аб) заводзе, заводы, заводаў, заводам, заводы, заводамі, (аб) заводах* (схема № 1, *завод*).

У склад групы Аб уваходзяць:

1) назоўнікі іншамоўнага паходжання, якія складаюць больш за 50%: *бекон, бружме́ль (бат.), бурштын, вампір, ванда́л (гіст.), гекта́р, гравёр, гурма́н, гяу́р, джэнтльме́н, дзюшэ́с, дэбош, дэсе́рт, жаве́ль (хім.), інфікс (лінгв.), кале́дж, квінтэ́т, кена́ф (бат.), крэды́т, кур'е́р, лаба́з, ламба́рд, лангу́ст (заал.), малох (заал.), мальбе́рт, мартэ́н, муслін (тэкст.), некта́р, плата́н, пляба́н, прыёр (царк.), прэсты́ж, рада́р, раку́рс, рамштэ́кс, самшы́т, сапфір, серва́нт, сервіз, самбу́р, тамбу́р, фарфор, хаос, цэме́нт, чэкме́нь, шпіта́ль, штанда́р, экспрэ́с* і інш.;

2) назоўнікі з суфіксамі *-ізм (-ызм), -іст (-ыст), -ер, -ёр, -ір* (прыкладна 5%), а таксама з менш прадуктыўнымі суфіксамі *-аж, -ак (-як), -ан (-ян), -ар (-яр), -ач, -еж, -ель, -ень, -ер, -ір, -іх, -ок, -ун, -ыш: баптызм, бланкізм, будызм, грэцызм, камізм, кубізм, лірызм, цынізм, цэнтрызм* і інш.; *бамбіст, баптыст, гарніст, дамрыст, саліст, сафіст, славіст, службіст, стыліст, танкіст, трацкіст, турыст, фашыст, харыст, чэкіст, штабіст, штангіст* і інш.; *бракёр, вахцёр, гравёр, грымёр, дублёр, манцёр, мінёр, танцор, фразёр* і інш.; *лістаж, вазак, вішняк, кругляк, буран, крышан, сухар, пчаляр, глядач, вусач, крадзёж, гарбель, блюзнер, касір, жаніх, знаток, пястун, таўстун, галыш* і інш.;

3) назоўнікі ад дзеясловаў з прыстаўкамі *а-, аб-, ад-, да-, з-, за-, на-, над-, па-, пад-, пра-, пры-, раз- (рас-), у-, уз- (ус-): агляд, аклад, акоп, акот, апад, апёк, ахоп, ацёк, ацёл* і інш.; *абвал, абвес, абвоз, агляд, абгон, аб'езд, абкат, абкорм, аблёт, аблом, абмен, абмер, абрыў, абрэз, абсеў, абстрэл, абсяг, абхват, абход* і інш.; *адбой, адбор, адвал, адвар, адвес, адвод, адвоз, адгон, адгул, ад'езд, аддзел, адказ, адклад, адкорм, адлік, адліў, адпал, адрыў, адрэз, адсек, адсеў, адскок, адстой, адстрэл, адцёк, адчал* і інш.; *дабор, давер, дагляд, дазвол, дазор, дакор, дасеў, даход* і інш.; *зварот, згавор* і інш.; *забег, завал, завод, завоз, загад, загар, загіб, задзел, заезд, заказ, закрой, залёт, залік, заліў, залом, замах, занос, запас, зарэз, засеў, заскок, засол, застой, заход, захоп* і інш.; *набег, набой, набор, навал, навой, нагар, нагляд, нагрэў, нагул, надой, наказ, налёт, наліў, намер, намол, напад, напеў, наплыў, нарыў, наскок, настрой, насціл, нахіл, нацёк, начос* і інш.; *надлом, надрыў, надрэз* і інш.; *пабел, павал, павеў, пагром, паклад, паклёп, паклон, памер, памол, памост, папас, парыў, парэз, пасеў, патоп, пачын* і інш.; *падбор, падвоз, падгляд, падгон, пад'езд, пад'ём, падказ, падкоп, падкорм, падноc, падлёт, падлік, падман, паднос, падпал, падрыў, падсеў, падскок, падхват, падцёк* і інш.; *прабег, прабой, прабор, правал, правоз, прагіб, прагін, прагляд, прагон, прагрэў, прагул, праезд, пракат, праклён, пракос, пралаз, пралёт, праліў, пралом, праплыў, прарыў, прарэз, прастой, праход, працяг* і інш.; *прыбой, прывал, прыгнёт, прыгон, прыём, прызыў, прыкорм, прылёт, прыліў, прымус, прыпеў, прыплод, прырост, прысуд, прыціск, прыцэл, прычал* і інш.; *разбег, разбой, разбор, разброд, развал, развод, разгар, разгіб, разгляд, разгром, разгул, раздзел, раз'езд, разлад, разлік, разлог, размах, размен, размол, разрыў, разрэз, расказ, расклад, раскрой, расол, распад, распал* і інш.; *убор, увар, увоз, удой, указ, укол, укос, улік, улоў, уплыў* і інш.; *уздым, уздых, уз'езд, узлёт, узмах, узнос, узрыў* і інш.; *усплёск, усход, усхліп* і інш.

Адхіленні. 1. У іншамоўных назоўніках *базальт, баклан, бамбук, батыст, бекон, бісквіт, бітум, блюзнер, брамін, бружмель (бат.), вашгерд (тэхн.), віконт, гамбіт (шахм.), гектар, гравёр, гульдэн, гурман, джэнтльмен, дзюшэс, дысконт (фін.), дэбош, дэфіс, кальмар, каркас, квартал, клісцір, куколь (бат.), кулік (заал.), кушнер, меджліс, нектар, платан, прэзент, прэм'ер, радар, сікурс (вайск.), сінод, сумбур, тамбур, фарфор, фетыш, хаос, цэмент, чэкмень, шайтан, шаман, штандар, штурвал, экспрэс, язмін* і некаторых іншых у вусных зносінах назіраецца перанос націску на першы склад, што тлумачыцца недакладным засваеннем запазычанай лексікі і ўплывам назоўнікаў групы Аа (схема № 1, *гравёр*).

2. Перанос на першы склад націску ў вусным маўленні адзначан і ў назоўніках *згавор, пладнік, плаўнік, прызыў, рэвень (бат.), спалох*, што можна тлумачыць уплывам дыялектнай акцэнтуацыі і назоўнікаў групы Аа.

§ 890. Трохскладовыя назоўнікі акцэнтнага тыпу А ў залежнасці ад месца размяшчэння націску (на першым, другім ці трэцім складзе) падзяляюцца на тры групы — Аа, Аб і Ав.

Групу Аа складаюць прыкладна 180 назоўнікаў (з іх каля 40 з беглым галосным у трэцім складзе), у якіх ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку націск падае на першы склад: *па́руснік, па́русніка, па́русніку, па́руснік, па́руснікам, (на) па́русніку, па́руснікі, па́руснікаў, па́руснікам, па́руснікі, па́руснікамі, (на) па́русніках; досвітак, досвітку, досвітку, досвітак, досвіткам, (на) досвітку, досвіткі, досвіткаў, досвіткам, досвіткі, досвіткамі, (на) досвітках* (схема № 1, *па́руснік, досвітак*).

Да групы Аа належаць:

1) назоўнікі з суфіксамі *-ік, -нік, -шчык* і малапрадуктыўным *-ель: а́тамнік, ба́ечнік, ба́рачнік, блы́танік, бу́дачнік, бу́лачнік, бу́сельнік, ві́лачнік, ві́сельнік, гра́дуснік (разм.), дзя́цельнік, за́раснік, ка́верзнік, ка́зачнік, ка́таржнік, клёпачнік, корачнік, ла́патнік (разм.), мі́сачнік, могільнік, му́чанік, ні́тачнік, па́лубнік, па́раснік, па́руснік, пра́веднік, се́тачнік (спец.), сонечнік (заал.), соуснік, спа́дчыннік, ста́чачнік, стра́уснік (бат.), стрэлачнік, та́чачнік, торбачнік (бат.), тра́нспартнік, чу́троечнік (разм.), ту́таўнік, ты́сячнік, фокуснік, ца́цачнік (разм.), чальнік, ша́пачнік, шчотачнік* і інш.; *а́тамшчык, ба́кеншчык, бровар-шчык, бронзаўшчык, ва́тэршчык, ва́фельшчык, ве́яльшчык, ву́гальшчык, вы́баршчык, вы́вершчык, вы́думшчык, доменшчык, ка́бельшчык, ка́фельшчык, ла́зеншчык, ля́мпаўшчык, ма́зальшчык, мэбельшчык, ню́хальшчык, пла́кальшчык, рэзальшчык, се́яльшчык, фа́кельшчык, ціскальшчык* і інш.; *ве́шацель;*

2) назоўнікі ад дзеясловаў з прыстаўкамі *вы-, за-, на-, па-, по-, пера-, под-, пры-, роз-: за́гарад, па́растак, погалас, пошвырак, пе́ракіс, пе́рапіс, подсвіст, пры́гарад, розыгрыш* і інш.;

3) назоўнікі з беглым галосным у трэцім складзе: *вокісел, вы́мысел, домысел, за́мысел, промысел* і інш.; *бе́жанец, ве́хавец, вы́хадзец, ма́рганец, мопра̀вец, пе́ршынец, са́джанец, се́янец* і інш.; *вы́вадак, вы́лівак, вы́падак, вы́пустак, вы́садак, досвітак, е́льнічак, жа́ўранак, па́рабак, па́сынак, прожылак, пры́пічак, пры́цемак* і інш.; *вы́капень, ёлупень, за́зубень, пры́хвасцень* і інш.;

4) невялікая група запазычаных назоўнікаў: *а́зімут, ва́куум, ішыяс, косінус, ма́ксімум, ме́дыум, мінімум, пропаліс, ра́дыус, рэквіем, сінтаксіс, у́нікум, фордэвінд, ха́рыус, эліпсіс* і інш.

Групу Аб складаюць прыкладна 1100 назоўнікаў, у якіх ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку націск падае на другі склад: *гармонік, гармоніка, гармоніку, гармонік, гармонікам, (на) гармоніку, гармонікі, гармонікаў, гармонікам, гармонікі, гармонікамі, (на) гармоніках* (схема № 1, *гармонік*).

Да групы Аб належаць:

1) назоўнікі з суфіксамі *-ік (-ык), -нік, -льнік, -чык, -шчык, -оўшчык, -ель, -ін, -ын, -анін, -ар, -ер, -ак: гарбу́зік, гармонік, гісторык, дагма́тык, жаке́цік, крышта́лік, ліхта́рык, любі́мчык, магна́цік, марозік, пада́грык, разве́дчык, разводчык, разга́дчык, разгру́зчык, саколік* і інш.; *бага́жнік, брусні́чнік, бузі́ннік, бума́жнік, бура́чнік, бязбожнік, бясме́ртнік (бат.), вугольнік, выбра́ннік, выгна́ннік, выка́знік, выклі́чнік, выра́знік, вытво́рнік, вышы́ннік, гадзі́ннік, гале́тнік (разм.), гарбу́знік, гарчы́чнік, гарэзнік, грабе́жнік, грана́тнік (бат.), грымотнік (бат.), гушча́рнік, даве́днік, даве́рнік (юр.), дарожнік, дасле́днік, дзеся́тнік, дружы́ннік, дэка́днік, дэса́нтнік, заба́ўнік, завознік, зада́чнік, законнік, залётнік, запа́льнік, заточнік, заты́льнік, захопнік, зая́ўнік, ігольнік,*

*імша́нік, іржа́ўнік (бат.), кажу́шнік, калга́снік, калі́ннік, капры́знік, карóўнік, каўба́снік, качэ́ўнік, крушы́ннік, крыва́ўнік (бат.), нало́бнік, наме́снік, напі́льнік, пад'е́льнік, пад'ёмнік, падлёднік (рыб.), падлі́знік, падра́мнік, падру́чнік, падсве́чнік, падсне́жнік, падшле́мнік, пажа́рнік, паклёпнік, паклоннік, пальча́тнік, памочнік, патроннік, пінжа́чнік, піро́жнік, прыёмнік, прыслу́жнік, рабіннік, работнік, разлу́чнік, разра́днік, рамонтнік, склада́льнік, суботнік, суні́чнік, труся́тнік, удзе́льнік, хаўру́снік, цаге́льнік, цыга́рнік, цяля́тнік, чарцёжнік, шчаці́ннік, шчо-тачнік* і інш.; *будзі́льнік, вяза́льнік, гасі́льнік (тэхн.), збіра́льнік, згушча́льнік, засту́пнік, заточнік, зaты́льнік, капа́льнік, кіда́льнік, купа́льнік, маўча́льнік, маха́льнік, найма́льнік, пыта́льнік, ствара́льнік, трыма́льнік, тушы́льнік, чыта́льнік* і інш.; *бульбя́нік (кул., бат.), дашча́нік, драця́нік (заал.)* і інш.; *бабо́ўнік (бат.), бручко́ўнік, бульбо́ўнік, вандро́ўнік, васко́ўнік (бат.), вiно́ўнік, вужо́ўнік (бат.), вятро́ўнік, дажджо́ўнік, дзядо́ўнік (бат.), духо́ўнік (уст.), палко́ўнік, пісьмо́ўнік, піхто́ўнік* і інш.; *багетчык, буфе́тчык, валю́тчык, вугольчык, вузе́льчык, выкла́дчык, газе́тчык, грана́тчык, дагля́дчык, даёздчык, дакла́дчык, даносчык, дара́дчык, дасле́дчык, завозчык, загру́зчык, зака́зчык, зені́тчык, маке́тчык, нагля́дчык, налётчык, пагру́зчык, падвозчык, падка́зчык, падма́зчык, падносчык, падра́дчык, падрэзчык, падчы́тчык, пака́зчык, пакойчык, парке́тчык, піке́тчык, прагля́дчык, прака́тчык, праходчык, прыка́зчык, раке́тчык, растра́тчык, струме́ньчык, ука́зчык, чыгу́нчык, шчаслі́ўчык* і інш.; *бетоншчык, буры́льшчык, бялі́льшчык, вагра́ншчык, вальцо́ўшчык, вастры́льшчык, вудзі́льшчык, вяза́льшчык, вярбо́ўшчык, гадзі́ншчык, гарпу́ншчык, даста́ўшчык, драбі́льшчык, дубі́льшчык, дыва́ншчык, загі́бшчык, загоншчык, заклёпшчык, закро́йшчык, заку́пшчык, запра́ўшчык, засе́ўшчык, засольшчык, зачы́ншчык, зачэпшчык, кілі́мшчык, ліхта́ршчык, мартэншчык, мільёншчык, наборшчык, наклейшчык, пагромшчык, падборшчык (спец.), падгоншчык, падзёншчык, падма́ншчык, падпольшчык, паромшчык, парфу́мшчык, плаві́льшчык, прагу́льшчык, прыёмшчык, прытворшчык, сігна́льшчык, суконшчык, табу́ншчык, трамва́йшчык, туне́льшчык, часа́льшчык* і інш.; *зімо́ўшчык, танцо́ўшчык, штампо́ўшчык* і інш.; *вадзі́цель, вяршы́цель, ганіцель, гасі́цель (тэхн.), глушы́цель (тэхн.), душы́цель (уст.), карміцель, любіцель, рыхлі́цель, служы́цель* і інш., а таксама назоўнікі з малапрадуктыўнымі суфіксамі *-ін, -ын, -анін, -ар, -ер, -овік, -авік, -енік: балга́рын, валжа́нін, датча́нін, даза́тар, нава́тар, камба́йнер* і інш.;

2) назоўнікі з прыстаўкамі *не- (ня-), пад-, пра-: нявы́езд, нявы́хад, падма́йстар, падшкіпер, падшту́рман (мар.), праконсул;*

3) назоўнікі з беглым галосным у трэцім складзе (схема № 1, *буды́нак): буды́нак, бяздомак, валёнак, гарну́шак, гарошак, гату́нак, дабы́так, даве́сак, дада́так, даста́так, дзеся́так, заву́лак, загры́вак, зазімак, заморак, заробак, застрэшак, засцёнак, зацішак, збаночак, зваротак, кава́лак, камі́нак, кілішак, кіру́нак, куфэрак, ласу́нак, набы́так, надворак, наёдак, напа́рстак, напітак, пагорак, пада́так, падле́сак, падму́рак, падпе́чак, пале́так, пасёлак, пасу́дак, прага́лак, пражы́так, прыбы́так, прыгорак, прыла́вак, прыму́рак, прыпы́нак, прыста́нак, прысту́пак, прыту́лак, пялёстак, пярсцёнак, рамонак, рату́нак, руба́нак, свіронак, свярдзёлак, ужы́так, узгорак, узле́сак, узме́жак, упа́дак, ур́ывак, уча́стак, учы́нак; балты́ец, берлі́нец, брыта́нец, вайсковец, в'етна́мец, відэлец, выгна́нец, вясковец, гасцінец, гвардзе́ец, герма́нец, гуртковец, дзядзінец, дэповец, зака́лец, звяры́нец, злачы́нец, зычлівец, індзе́ец, інды́ец, іспа́нец, казе́лец, кана́дзец, карэец, кубе́лец, ліслівец, літовец, любімец, мала́ец, махновец, мяша́нец, нарвёжац, падге́рац, сіры́ец,*

*службовец, спарта́нец, студы́ец, талстовец, тапе́лец, тузе́мец, уме́лец, чужы́нец, чырвонец, шале́нец, эстонец, яловец, японец* і інш.; *бава́рац, венге́рац* і інш.;

4) запазычаныя назоўнікі: *біёграф, біёлаг, вана́дый, вібра́тар, віва́рый, віка́рый, географ, геолаг, герба́рый, дырэктар, дыспе́тчар, дыя́гназ, інспе́ктар, інстру́ктар, канве́ер, пара́граф, парла́мент, пражэктар, прафе́сар, рэа́ктар, рэда́ктар, рэфле́ктар, тара́нтул, фе́номен, філістэр, эква́тар, экза́мен* і інш.

## Месцаразмяшчэнне націску ў назоўніках мужчынскага роду з нулявым канчаткам

Цёмнай лініяй паказана, на які склад падае нарматыўны націск, светлай — варыянтны.

**Схема № 1**

Акцэнтны тып А

1. Аднаскладовыя назоўнікі

*верш* *клён*

Н Р Д В Т М Н Р Д В Т М

2. Двухскладовыя назоўнікі

Група Аа

*ме́льнік* *дзе́вер* *дзе́яч*

Н Р Д В Т М Н Р Д В Т М

Група Аб

*завод* *гравёр*

Н Р Д В Т М Н Р Д В Т М

3. Трохскладовыя назоўнікі

Група Аа

*пáруснік* *досвітак*

Н Р Д В Т М Н Р Д В Т М

Група Аб Група Ав

*гармонік* *будынак* *дагавор*

Н Р Д В Т М Н Р Д В Т М

Групу Ав складаюць прыкладна 1700 (каля 120 з беглым галосным) назоўнікаў, у якіх ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку націск на апошнім складзе асновы (схема № 1, *дагавор*): *дагавор, дагавара, дагавору, дагавор, дагаворам, (аб) дагаворы, дагаворы, дагавораў, дагаворам, дагаворы, дагаворамі, (аб) дагаворах.*

Да групы Ав належаць:

1) запазычаныя назоўнікі: *бакала́ўр, баклажа́н, балдуі́н, бальзамі́н, барбары́с, бастыён, бенуа́р, бранзале́т, бюлетэ́нь, бюракра́т, вадэві́ль, вазелі́н, вестыбю́ль, габардзі́н, габары́т, гаймары́т, ганара́р, гарнізон, дактара́нт, дакуме́нт, дывідэ́нд (эк.), дыліжа́нс, дыплама́т, дырыжор, дыфіра́мб, дэлега́т, дэпута́т, дэтэкты́ў, дэфіцы́т, ідэа́л, ізумру́д, імігра́нт, інжыне́р, інстыту́т, інтэле́кт, інтэрна́т, інцыдэнт, каверкот, казема́т, калідор, камбіна́т, камiса́р, кампраміс, кандыда́т, канкурэ́нт, кантыне́нт, капіта́л, капіта́н, каранці́н, карнава́л, карыфе́й, кашалот, кіпары́с, кракадзі́л, лабіры́нт, лазарэт, легіён, лейтэна́нт, лібера́л, ліманад, магазі́н, магістра́т, макінтош, маналі́т, манеке́н, мармела́д, маянэ́з, мецэна́т, мінарэ́т, мінера́л, наміна́л, негаты́ў, нівелі́р, нікаці́н, павільён, пазуме́нт, палане́з, пансіён, парадокс, парашу́т, партыза́н, перламу́тр, піяне́р, прэзідэнт, рафіна́д, рытуа́л, рэвальве́р, рэнега́т, рэфера́т, сабата́ж, самура́й, саніта́р, сатэлі́т, семіна́р, сіндыка́т, скарпіён, стадыён, сувені́р, талісма́н, тратуа́р, трыката́ж, тэлегра́ф, уніят, ураган, фавары́т, факультэ́т, фараон, феада́л, хіміка́т, хлараф́іл, цыркуля́р, цэлафа́н, чамада́н, чэмпіён, шавіёт, шакала́д, эмігра́нт, эпізод, эскадрон, ювелі́р* і інш.;

2) назоўнікі з суфіксамі *-ізм (-ызм), -іст (-ыст), -ёр (-ор), -ер, -ір, -ант, -ат, -ан, -анін, -авік: байранізм, бакунізм, вакалізм (лінгв.), вандалізм, віталізм, гуманізм, дагматызм, дальтанізм (мед.), дарвінізм, дуалізм (філ.), дынамізм, дэспатызм, індуізм (філас.), камунізм, класіцызм, латынізм, ленінізм, магнетызм, мадэрнізм, нігілізм, паланізм, пацыфізм, песімізм, планерызм, прагматызм, рамантызм, рэалізм, саліпсізм, сімвалізм, сінхранізм, скептыцызм, талмудызм, урбанізм, фармалізм, фаталізм, футурызм, цэнтралізм, шавінізм, эмпірызм, эстэтызм* і інш.; *бакуніст, бандажыст, бандурыст, вакаліст, віталіст, гуманіст, гумарыст, дарвініст, дзекабрыст, журналіст, іраніст, каланіст, камуніст, кларнетыст, лібрэтыст, ліцэіст, мараліст, масажыст, машыніст, медаліст, метадыст, навеліст, нігіліст, палеміст, парадыст, партрэтыст, пацыфіст, песеміст, публіцыст, рэаліст, рэваншыст, сігналіст, сімваліст, сцэнарыст, талмудыст, трактарыст, утапіст, фалькларыст, футурыст, хакеіст, цымбаліст, шавініст, шантажыст* і інш.; *балансёр, білецёр, валанцёр, грэнадзёр, гувернёр, дактрынёр, дысканцёр (фін.), дэбіцёр (бухг.), імпарцёр, кантралёр, рэзанёр, рэпарцёр, рэтушор, сеансёр, транспарцёр, фантазёр, хранікёр, экспарцёр* і інш.; *касцюме́р, кватар'е́р, мадэлье́р, мільяне́р, мільярдэр* і інш.; *балансір (тэхн.), бамбардзір, брыгадзір, камандзір, канваір* і інш.; *дуэля́нт (уст.), дыверса́нт, дыплама́нт, дысерта́нт, дыспута́нт, кансульта́нт, канцэрта́нт, кватара́нт, рызыка́нт, сімуля́нт, спекуля́нт, фабрыка́нт* і інш.; *дэкана́т, кансула́т, канцэнтра́т, стараста́т, халіфа́т* і інш.; *веліка́н, грубія́н, інтрыга́н, крытыка́н* і інш.; *дваранін, селянін, сем'янін* і інш.; *бальшавік, меньшавік, слізявік (бат.), шумавік* і інш.;

3) назоўнікі ад дзеясловаў з прыстаўкамі *да-, за-, на-, па-, пад(а)-, пера-, пры-, раз-(рас-), у-, неда-: дагавор; заварот, загавор; нагавор, намалот, напамі́н* і інш.; *паварот; падагрэ́ў, падгавор, падыход* і інш.; *перабе́г, перава́л, перавод, перавоз, перага́р, перагі́б, перагля́д, перагной, перагон, перагрэ́ў, перадзе́л, перадзі́р (спец.), пераез́д; перазвон, перака́з, перака́т, перакла́д, перакорм, перанос, перакрой, перала́з, паралёт, пералі́к, пералі́ў, пералом, перама́х (спарт.), пераме́т (рыб.), перамол, перанос, перапу́д, перапу́ск, перарод, перары́ў, перарэз, перасе́ў, пераскок, перасол, перастой (спец.), перасту́к, перахва́т, пераход* і інш.; *прыва́л, прывоз, прыгавор, прыкорм, прылёт, прынос* і інш.; *разагрэ́ў, разбе́г, разварот, развод, раздзе́л, расцяроб* і інш.; *уваход,*

*улік, умалот* і інш.; *недабор, недавýк, недагля́д, недагрýз, недажы́н, недакорм, недалёт, недамоý, недапáл, недарод, недасéў, недасол, недахоп* і інш.;

4) назоўнікі ад назоўнікаў з прыстаўкай *пад-*: *падабéд, пададдзéл, падраздзéл* і інш.;

5) назоўнікі з беглым галосным ва ўскосных формах адзіночнага ліку і ва ўсіх формах множнага ліку: *верабéй, муравéй, салавéй, журавéль, карабéль; баранок, беражок, бугарок, валасок, васілёк, вечарок, жалабок, завіток, кабачок, кацялок, кашалёк, крыжачок, кулачок, ланцужок, малаток, павадок, памазок, парашок, паўзунок, перадок, піражок, хабаток, халадок, чаранок, шчупачок, язычок, ястрабок* і інш.; *варанéц (бат.), выдавéц, грабянéц, дзьмухавéц, казялéц, маладзéц, падавéц, пасланéц, прадавéц, селядзéц, спажывéц, удавéц, халадзèц, ясянèц* і інш.; *галавéнь, рагавéнь.*

§ 891. Ч а т ы р о х с к л а д о в ы я назоўнікі акцэнтнага тыпу А ў залежнасці ад месца націску (на першым, другім, трэцім ці чацвёртым складзе) падзяляюцца на групы Аа, Аб, Ав, Аг.

Г р у п у А а складаюць назоўнікі *жáваранак, зáварацень*, у якіх ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку націск на першым складзе: *жáваранак, жáваранка, жáваранку, жáваранка, жáваранкам, (аб) жáваранку, жáваранкі, жáваранкаў, жáваранкам, жáваранкаў, жáваранкамі, (аб) жáваранках.*

Г р у п а А б аб'ядноўвае прыкладна 35—40 назоўнікаў, у якіх ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку націск падае на другі склад: *прэзíдыум, прэзíдыума, прэзíдыуму, прэзíдыум, прэзíдыумам, (у) прэзíдыуме, прэзíдыумы, прэзíдыумаў, прэзíдыумам, прэзíдыумы, прэзíдыумамі, (у)прэзíдыумах.*

Да групы Аб належаць:

1) назоўнікі з суфіксамі *-нік, -льнік, -шчык, -ак*: *барадáўнік, вяровачнік, іголачнік, істýжачнік, кадýшачнік, каробачнік, развéдвальнік, ракýшачнік, распы́рсквальнік, жалýдачнік (анат.), зялéніўшчык* і інш.;

2) назоўнікі з беглым галосным у чацвёртым складзе: *кары́слівец, чэлю́скінец, каромысел, пярэ́зімак, пярэ́старак* і інш.;

3) запазычаныя назоўнікі: *натáрыус, прэзíдыум* і інш.;

Г р у п у А в складаюць прыкладна 600 назоўнікаў, у іх ліку каля 100 з беглым галосным у чацвёртым складзе: *вынаходнік, вынаходніка, вынаходніку, вынаходніка, вынаходнікам, (аб)вынаходніку, вынаходнікі, вынаходнікаў, вынаходнікам, вынаходнікаў, вынаходнікамі, (аб)вынаходніках; навучэнец, навучэнца, навучэнцам, (аб)навучэнцу, навучэнцы, навучэнцаў, навучэнцам, навучэнцаў, навучэнцамі, (аб) навучэнцах.*

Да групы Ав належаць:

1) назоўнікі з суфіксамі *-ік(-ык), -нік, -льнік, -чык, -шчык, -анін, -ель, -ар*: *дыябéтык, меланхолік, паласáцік (заал.), паралíтык, сістэмáтык* і інш.; *безбілéтнік (разм.), бескапотнік, беспрытýльнік, валаводнік, верабéйнік (бат.), верацённік, вершавáльнік (літ., уст.), вінагрáднік, віншавáльнік, выкрадáльнік, вылічáльнік, вымагáльнік, вымярáльнік, вынаходнік, гадавáльнік, галубятнік, гарадóшнік, гарапáшнік, гартавáльнік, гаспадáрнік, гатавáльнік, даглядáльнік, дапаможнік, заваёўнік, завярáльнік, завяршáльнік, завяшчáльнік, заклінáльнік, замыкáльнік, занявольнік, запавèднік, запытáльнік, заснавáльнік, захавáльнік, зачынáльнік, зневажáльнік, імянíннік, кабатáжнік, канаплянік, капялюшнік, кіпяцільнік, летуцèннік, мазаічнік, наглядáльнік, награвáльнік, назірáльнік, падаконнік, падарожнік, паказáльнік, папяроснік, папярэднік, парушáльнік, пачынáльнік, прадаўжáльнік, прыгнятáльнік, прыназоўнік, ратавáльнік, сабатáжнік, спадарожнік, суайчы́ннік, сумя-

*шчáльнік, супрацоўнік, уключáльнік, уладáльнік, уцяплáльнік, фрахтавáльнік, халадзільнік* і інш.; *валакітчык, дынамітчык, камітэтчык, перабéжчык, распарáдчык, трафарэтчык* і інш.; *бакалéйшчык, барабáншчык, бранзавáльшчык, брашуроўшчык, буксіроўшчык, бункероўшчык, вальцоўшчык, варсавáльшчык (спец.), выдзімáльшчык, вымярáльшчык, гардэробшчык, гравіроўшчык, дабудоўшчык, драпіроўшчык, дрэсіроўшчык, забастоўшчык, забудоўшчык, загартóўшчык, загатóўшчык, закапёршчык (тэхн.), каламбýршчык, каліброўшчык, капіроўшчык, лакіроўшчык, малявáльшчык, маркіроўшчык, мэбліроўшчык, нагаворшчык, нарміроўшчык, нарыхтоўшчык, падбухторшчык, пераклáдчык, перакýпшчык, перапісчык, пікіроўшчык, распілоўшчык, рассявáльшчык, сарціроўшчык, таксіроўшчык, упакоўшчык, устаноўшчык, фехтавáльшчык, фрэзероўшчык, церабільшчык, шліфавáльшчык* і інш.; *гараджáнін, грамадзянін, егіпцянін, лужычáнін, марсіянін, мусульмáнін, хутарáнін* і інш.; *вызваліцель, выключáцель, замяніцель, праявіцель, уручыцель, уцяпліцель (тэхн.)* і інш.; *вентылятар, вінагрáдар, губернáтар, дыстылятар (тэхн.), дэгазáтар, дэгустáтар, дэкарáтар, дэкламáтар, дэманстрáтар, дэпазітар, дэтанáтар, завадáтар, ізалятар, ілюстрáтар, імперáтар, інгалятар, рэгулятар, рэгістрáтар, рэквізітар, рэпрадýктар, рэфармáтар, стылізáтар, табулятар, трансфармáтар, трыумфáтар, узурпáтар, фальсіфікáтар, экскавáтар, экспедытар* і інш.;

2) назоўнікі з беглым галосным у чацвёртым складзе: *беспарáдак, загаловак, закавýлак, запатылак, заработак, калаўротак, карамысел, малаточак, недагáрак, неданосак, падарýнак, падмацýнак, панадворак, паралéсак, перапынак, перашыек, прыработак, разрахýнак, распарáдак* і інш.; *балівіец, баязлівец, вальтэр'янец, вылучэнец, выраджэнец, выхавáнец, гадавáнец (разм.), ганарлівец, дагестáнец, дураслівец, еўрапéец, запарожац, засцянковец, іназодзец, італьянец, камсамолец, македонец, местачковец, навучэнец, незнаёмец, пагарэлец, паражэнец, пастаялец, пасялéнец, пехацінец, украінец, фальварковец, хутарáнец* і інш.;

3) запазычаныя назоўнікі: *венеролаг, гінеколаг, дыялéктык, дэпартáмент, ідэолаг, іерогліф, каментáрый, крэматорый, мараторый (фін.), матэмáтык, мемарáндум, парабéлум, планетáрый, пралетáрый, рэферэндум, санаторый, тэмперáмент, ультымáтум.*

Г р у п у  А г складаюць прыкладна 350 назоўнікаў, у якіх ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку націск падае на чацвёрты склад: *інфінітыў, інфінітыва, інфінітыву, інфінітыў, інфінітывам, (аб)інфінітыве, інфінітывы, інфінітываў, інфінітывам, інфінітывы, інфінітывамі, (аб)інфінітывах; кавалерыст, кавалерыста, кавалерысту, кавалерыста, кавалерыстам, (аб)кавалерысце, кавалерысты, кавалерыстаў, кавалерыстам, кавалерыстаў, кавалерыстамі, (аб) кавалерыстах.*

Да групы Аг належаць:

1) назоўнікі з суфіксамі *-ізм, -іст: банапартызм, беларусізм, біметалізм, біяграфізм, біялагізм, бюракратызм, валюнтарызм, гіпербалізм, дылетантызм, дыялектызм, дэмакратызм, дэтэрмінізм, ідэалагізм, калектывізм, капіталізм, лібералізм, меркантылізм, мілітарызм, натуралізм, пазітывізм, патрыятызм, радыкалізм* і інш.; *банапартыст, бульдазерыст, вадэвіліст, валейбаліст, валюнтарыст, геадэзіст, гігіеніст, дэтэрмініст, евангеліст, ідэаліст, кавалерыст, кантрабандыст, канцылярыст, капіталіст, лінатыпіст, манапаліст, натураліст, паліграфіст, пратакаліст, рэцыдывіст* і інш.;

2) назоўнікі з прэфіксамі *пад-, пера-, пераза-, перапад-, перапа-, перарас-: пад'есаўл, падкамітэт, перагляд, пераварот, перазаклáд, перападлік, перапалох, перарасход* і інш.;

3) запазычаныя назоўнікі: *веласіпéд, ветэрынáр, гіпапатáм, далі*ка-

*тэс, дамініён, дывертысме́нт (тэатр.), дывізіён, дыягана́ль (тэкст.), дыяпазон, дэгенера́т, дэнатура́т, імунітэт, інтэліге́нт, інфініты́ў, кабрыяле́т, калейдаскоп, камбінезон, капітуля́нт, карабіне́р, карэспандэнт, кіламетра́ж, лабрадары́т (геал.), лакамабіль, лакаматы́ў, легіяне́р, маніфеста́нт, матацыкле́т, матэрыял, мемарыя́л, мерыдыя́н, метэары́т, нейтралітэт, падхаліма́ж, палітыка́н, паліцыя́нт, пан$^{с}$іяна́т, пасквіля́нт, патэнцыя́л, пенсіяне́р, пераксілін, правінцыя́л, пратэктара́т, прыярытэт, радыкуліт, рэпатрыя́нт.*

## Тып В — назоўнікі з нерухомым націскам на канчатку

§ 892. Да акцэнтнага т ы п у В належыць каля 1500 назоўнікаў мужчынскага роду. З іх прыкладна 125 аднаскладовых, каля 970 двухскладовых, каля 300 трохскладовых і каля 100 чатырохскладовых.

**Схема № 2**

### Акцэнтны тып В

1. Аднаскладовыя назоўнікі

*вол* *лось* *альт*

Н
Р
Д
В
Т
М
Н
Р
Д
В
Т
М

2. Двухскладовыя назоўнікі

*юна́к* *абу́х* *фурма́н*

Н
Р
Д
В
Т
М
Н
Р
Д
В
Т
М

§ 893. А д н а с к л а д о в ы я назоўнікі маюць націск на канчатку (з умоўным націскам у форме назоўнага склону адзіночнага ліку): *вол, вала́, валу́, валом, (на)вале́, валы́, валоў, вала́м, валоў, вала́мі, (на)вала́х* (схема №2, *вол*).

Да тыпу В належаць: *альт, біч, блін, боршч, брыль, бyж, бык, вінт, вол, вуж, гвозд, герб, гліст, гляк, горб, грак, грузд, грэх, двор, дзёнь, дзік, дзяк, дождж, драч, дрозд, друк, дрыль, ёрш, жгут, жмут, жнец, жрэц, жук, збан, звон* (прадмет), *зубр, квач, кіт, клак, клешч, клоп, клуб (анат.), клуб* (па́ры, пы́лу), *ключ, клык, кныр, кол, корж, корч, кот, коўш, кош, крот, крэмль, ксёндз, куль, куст, кут, лгун, леў, лешч, лінь, ліст (бат.), лоб, лось, меч, млын, морж, мяч, ніт, пень, пласт, плашч, плыт, плюшч, поп, пост (вайск.), псяр, пыж, раб, руль, свішч, серп, сіг, скрыль, слон, смоўж, сноп, сон, стол, струк, стрыж, суд, сук, сыч, ткач, трус, тхор, ферзь, хвост, хвошч, хлеў, хлыст, хлюст, хрушч, цар, цвік, цюк, цяж, чыж, шляк, шнур, шост, шпак, шпень, шпік, штрых, штык, штыр, штых, шчур, шчыт, язь.*

Адхіленні. Для пераважнай большасці назоўнікаў — *альт, біч, блін, брыль, бык, вінт, вуж, герб, гліст, гляк, горб, грак, грузд, грэх, дзік, дзяк, драч, друк, дрыль, жгут, жмут, жук, збан, звон, зубр, квач, кіт, клешч, клоп, клуб, клык, ключ, кныр, кол, корж, коўш, кош, крот, куль, куст, кут, лешч, лінь, ліст (бат.), лось, лыч, меч, млын, морж, ніт, пласт, плашч, плыт, плюшч, пост, псяр, пыж, руль, свішч, серп, сіг, смоўж, сноп, струк, стрыж, суд, сук, сыч, трус, ферзь, хвошч, хлеў, хлыст, хлюст, хрушч, цар, цвік, цюк, цяж, чыж, шляк, шнур, шпак, шпень, шпік, штрых, штык, штыр, штых, шчур, шчыт, язь* — пад уплывам дыялектнай акцэнтуацыі і, магчыма, пад уплывам аднаскладовых назоўнікаў акцэнтнага тыпу А ў вусным маўленні ў словаформах ускосных склонаў адзіночнага ліку, а ў такіх, як *альт, зубр, ферзь* і некаторых іншых, і ў словаформах множнага ліку сустракаецца націск на аснове (схема №2, *лось, альт*). Падобныя адхіленні сустракаюцца і ў творах мастацкай літаратуры: *бі́чам* (Ф. Багушэвіч), *бры́лем* (Я. Колас, К. Чорны, І. Пташнікаў, Я. Скрыган), *го́рбам* (В. Быкаў, А. Савіцкі), *на го́рбе* (Я. Брыль), *грэ́ху* (П. Панчанка, У. Дубоўка, М. Машара, А. Чарнышэвіч), *з грэ́хам* (А. Чарнышэвіч), *клю́чам* (І. Пташнікаў), *ко́лам* (Я. Купала, М. Лобан, М. Машара, І. Муравейка, І. Навуменка, А. Якімовіч), *ку́ста* (Я. Колас, Я. Купала́), *пад ку́стам* (А. Бялевіч, М. Смагаровіч), *ло́ся* (Я. Колас, К. Чорны), *ло́сем* (І. Пташнікаў, П. Панчанка), *ме́ча* (А. Вольскі, Л. Дайнека), *ме́чам* (Л. Дайнека, М. Машара, М. Аўрамчык, П. Прыходзька, Б. Сачанка), *млы́на* (П. Трус, Е. Лось, Э. Агняцвет), *перад млы́нам* (З. Бядуля, А. Васілевіч), *су́ду* (К. Крапіва). Улічваючы шырокае выкарыстанне словаформ адзіночнага ліку з націскам на аснове ў маўленні і ў мастацкай літаратуры, іх можна ацэньваць як дублетныя варыянты ў названых сферах.

§ 894. Двух- і трохскладовыя назоўнікі акцэнтнага тыпу В у назоўным і вінавальным склонах адзіночнага ліку маюць умоўны націск на флексіі (звычайна на галосным апошняга склада асновы і ў адзінкавых выпадках — на галосным першага склада), а ва ўсіх іншых формах адзіночнага і множнага ліку — на флексіі. Напрыклад, двухскладовыя: *юна́к, юнака́, юнаку́, юнака́, юнако́м, (аб)юнаку́, юнакі́, юнако́ў, юнака́м, юнако́ў, юнака́мі, (аб)юнака́х; гурток, гуртка́, гуртку́, гурто́к, гуртко́м, (аб) гуртку́, гурткі́, гуртко́ў, гуртка́м, гурткі́, гуртка́мі, (аб)гуртка́х; ву́гал, вугла́, вуглу́, ву́гал, вуглом, (на) вугле́, вуглы́, вугло́ў, вугла́м, вуглы́, вугла́мі, (на)вугла́х* (схема №2, *юна́к*); трохскладовыя: *баравік, баравіка́, баравіку́, баравік, баравіком, (на)баравіку́, баравікі́, баравіко́ў, баравіка́м, баравікі́, баравіка́мі, (на)баравіка́х; васілёк, васілька́, васільку́, васілёк, васільком, (на) васільку́, васількі́, васілько́ў, васілька́м, васількі́, васілька́мі, (на)васілька́х.*

Да акцэнтнага тыпу В належаць:

1) назоўнікі з суфіксамі *-аж, -еж, -ёж: дубля́ж, грабе́ж, капе́ж, чар-*

*цёж, неплацёж* і інш.; *-ак (-як), -няк: бадзя́к, бася́к, быстра́к, бягля́к (разм.), бедня́к, быля́к, вапня́к (мін.), вішня́к, вуша́к, вядзьма́к, вятра́к, галя́к, гарля́к, глуша́к, гуса́к, дабра́к, дзіва́к, дружба́к, дубня́к, жабра́к, земля́к, камя́к, кісля́к, кругля́к, ліпня́к, мара́к, маршча́к, мядзя́к, прыма́к, пярша́к, пята́к, раза́к, сасня́к, сваа́к, сіва́к, сіня́к, сляпа́к, спява́к, сушня́к, тлушча́к, траця́к, трая́к, трухля́к, чарпа́к, чужа́к, шара́к, шаста́к, юна́к* і інш.; *жалязня́к, здаравя́к, маладня́к, паражня́к, сераднёк, сібіра́к, халасця́к, чацвярта́к, саланча́к* і інш.; *-ік (-ык), -нік, -ўнік, -авік, -ок, -ук (-юк), -чук: мужы́к, цалі́к, васьмяры́к, маладзі́к, мацяры́к, семяры́к, шасцяры́к* і інш.; *брадні́к (рыб.), вушні́к, вяршні́к, двайні́к, лучні́к, лядні́к, лясні́к, разні́к, сашні́к, хмяльні́к, вартаўні́к, валасні́к (бат.), выпускні́к, жартаўні́к, калясні́к, кіраўні́к, праваднік, прапускні́к, працаўні́к, прызыўні́к, семянні́к, халадні́к, чапяльні́к* і інш.; *бальшаві́к, бараві́к, грузаві́к, красаві́к, ламаві́к, маставі́к, нафтаві́к, параві́к, планаві́к, рухаві́к, сакаві́к, тылаві́к, чарнаві́к* і інш.; *жаўток, ігрок, хадок, чаўнок, ядок, яздок* і інш.; *аўсю́к, байстру́к, барсу́к, блазню́к (разм.), вяпру́к, дзяцю́к, жаўру́к, парсю́к, плячу́к, пяньчу́к, хлапчу́к, хляўчу́к, шчаню́к, япру́к; паляшу́к, цецяру́к, паварчу́к* і інш.; *-ан, -ун: буда́н, дзірва́н, крыла́н, крыша́н, луза́н, пуза́н, стаян* і інш.; *бальшу́н, баўту́н, брахун, валу́н, вяшчу́н, гарбу́н, грызу́н, дзіку́н, ілгу́н, калу́н, капу́н, крыку́н, ласу́н, ляўшу́н, маўчу́н, піску́н, пяву́н, пясту́н, сапу́н, свісту́н, таўсту́н, ую́н, фарсу́н, хапу́н, цвырку́н, шапту́н, яду́н; балбату́н, весялу́н, гавару́н, лепяту́н, мармату́н, прыгажу́н, рагату́н, сакату́н* і інш.; *-ар (-яр), -ір (-ыр), -ыр, -ур (-юр): аўча́р, бляха́р, бунта́р, вясля́р, гандля́р, гусля́р, гушча́р, дая́р, дуда́р, дыма́р, жыха́р, звана́р, кабза́р, карчма́р, млына́р, наса́р (заал.), пчаля́р, пясня́р, разбя́р, свіна́р, сталя́р, цясля́р, штука́р, валада́р, варата́р, гаспада́р, залата́р, каляндар, улада́р,* і інш.; *вады́р, пузы́р, пухі́р, снягі́р; багаты́р, праўады́р* і інш.; *-аль, -ель (-эль), -ыль, -оль, -уль: ганта́ль, кава́ль, ката́ль, краха́ль, кухта́ль, струга́ль* і інш.; *гарбе́ль, кашэль, кісе́ль, круце́ль, шынэ́ль* і інш.; *касмы́ль, касты́ль (тэхн.), маты́ль* і інш.; *мазоль, мармоль; патру́ль* і інш.; *-ач: бага́ч, вуса́ч, гарла́ч, гляда́ч, губа́ч, капа́ч, касма́ч, кудла́ч, лаба́ч, наса́ч, пляска́ч, пуга́ч, рага́ч, сіла́ч, скрыпа́ч, слуха́ч, труба́ч, барада́ч, папіха́ч, паслуга́ч, уцяка́ч* і інш.; з фіналямі *-ай(-яй), -уй, -ах, -іх, -ух, -ог(-ёг), -уг, -аш (-яш), -еш, -ош, -юш, -ыш: буга́й, гульта́й, кіжла́й, ліша́й, цюхця́й; валу́й, халу́й* і інш.; *ката́х (бат.), кія́х; жані́х; кажу́х, каню́х, насту́х, трыбу́х* і інш.; *быльнёг, бярлог, тварог, трыснёг; вяртлюг (тэхн.), сычу́г* і інш.; *гуля́ш, кірма́ш, кулёш, ляме́ш; шаро́ш; валю́ш; бары́ш, галы́ш, гланы́ш, глупы́ш (заал.), скавы́ш, сляпы́ш (заал.), спары́ш* і інш.;

2) назоўнікі з беглым галосным у апошнім складзе асновы: *авёс, агонь, адзёр, арол, асёл, бабёр, віхор, вугор, ікол, казёл, каме́ль, касцёр, кацёл, чахол* і інш.; *баёц, барэц, бліне́ц, вяне́ц, гане́ц, глушэц, дубе́ц, жыле́ц, звanéц, зубе́ц, кане́ц, капе́ц, касе́ц, краве́ц, курэц, плыве́ц, разе́ц, страле́ц, сырэц, хляве́ц, шаве́ц* і інш.; *адзіне́ц, выдаве́ц, грабяне́ц, маладзе́ц, прадаве́ц, селядзе́ц, удаве́ц, ясяне́ц* і інш.; *баёк, брусок, бычок, бялок, ваўчок, віток, глыток, гудок, гурток, дзядок, жаўток, замок, збанок, значок, зубок, зуёк, канёк,ківок, кіёк, клубок, краёк, лабок, лісток, масток, млынок, мянёк, паёк, пруток, пушок, садок, свісток, слупок, снапок, стажок, сучок, сцяжок, сынок, хлявок, цянёк, шнурок* і інш.; *абадок, аганёк, агурок, асялок, беражок, бугарок, васілёк, жалабок, завіток, кацярок, кулачок, ланцужок, малаток, памазок, парашок, паўзунок, перадок, піражок, халадок, чаранок, ястрабок* і інш.; *пляце́нь, сачэнь, сляпе́нь* і інш.; *авадзе́нь, галаве́нь, рагаве́нь* і інш.; *вераба́й, мураве́й, салаве́й* і інш.;

3) запазычаныя назоўнікі: *айма́к, алта́р, армя́к, бага́ж, байба́к, ба-лы́к, бамбу́к, банда́ж, бара́н, башлы́к, біва́к, бліндáж, віра́ж, гара́ж, дыва́н, жупа́н, кажа́н, каза́н, каўчу́к, курдзю́к, міра́ж, пінжа́к, сага́н, тарака́н, тыра́ж, фурма́н, хамя́к, цыга́н, ярлы́к* і інш.;

4) назоўнікі *ву́гал, ву́зел* — з націскам у назоўным склоне адзіночнага ліку на першым складзе асновы.

Адхіленні. 1. Для назоўнікаў іншамоўнага паходжання *бай-ба́к, гайду́к (гіст.), гарпу́н, граба́р, жаўла́к, кая́к, кунту́ш, кушне́р, махля́р, фігля́р, фурма́н, цвінта́р, ціву́н, цыга́н* і некаторых іншых у словаформах адзіночнага ліку ў выніку няправільнага засваення запазычаных слоў у вымаўленні сустракаецца націск на першым складзе з захаваннем гэтага месца і ў формах множнага ліку (схема № 2, *фурма́н*).

2. У двухскладовых назоўніках: *абу́х, алта́р, ары́к, байба́к, бака́с (заал.), бара́н, біва́к, буда́н, бурдзю́к, бурла́к, буру́н, быльнёг, бярлог, вухна́ль, вярблю́д, гайду́к (гіст.), гама́к, гарба́р, гарбе́ль, гарпу́н, граба́р, гусля́р, гушча́р, дашна́к, дзірва́н, дзягця́р, дыва́н, жаўла́к, жупа́н, інгу́ш, кады́к, кажа́н, кажу́х, каза́к, каза́н, кая́к, кіжла́й, кішла́к, клабу́к, курга́н, кушне́р, ліхвя́р, ляме́ш, манья́к, махля́р, муля́ж, пласту́н, пяхце́р, разьбя́р, стая́н, тапча́н, фігля́р, фурма́н, цвінта́р, ціву́н, цурба́н, цыга́н, чаба́н, чува́ш, шыне́ль* пад уплывам назоўнікаў акцэнтнага тыпу А ў словаформах адзіночнага ліку ў вусным маўленні сустракаецца націск на галосным апошняга склада асновы (схема № 2, *абу́х*).

Для назоўнікаў *абух, алтар, арык, баран, быльнёг, бярлог, вярблюд, гайдук, гушчар, дыван* і некаторых іншых акцэнтныя варыянты словаформ з націскам на аснове засведчаны і ў мастацкай літаратуры. Напрыклад, *абу́хам* (Р. Барадулін, М. Гроднеў, М. Гамолка, М. Машара, М. Сергіевіч, Я. Скрыган, сустракаецца ў Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага разам з нарматыўным націскам — *абухом*), *алта́рам* (М. Машара, Цётка), *ары́кам* (В. Вітка, А. Русецкі), *бара́наў* (Т. Кляшторны, Я. Купала), *быльнёгу* (М. Лынькоў), *быльнёгам* (М. Гроднеў, Р. Мурашка, Б. Сачанка, М. Хведаровіч), *бярлогу* (Я. Колас, У. Корбан), *гушча́рам* (З. Бядуля), *гушча́раў* (Я. Брыль), *аб гушча́рах* (М. Танк), *дыва́нам* (А. Ставер), *дыва́наў* (Я. Колас), *за́йцаў* (Я. Брыль, З. Бядуля, М. Лынькоў, Цётка).

3. Назоўнік *ву́гал* у маўленні і ў мастацкай літаратуры сустракаецца з націскам на другім складзе — *вугол* (В. Адамчык, С. Александровіч, В. Быкаў).

### Тып С — назоўнікі з рухомым націскам

§ 895. Назоўнікі акцэнтнага тыпу С маюць націск на аснове ва ўсіх формах адзіночнага ліку і на флексіі — ва ўсіх формах множнага ліку. Да гэтага тыпу адносіцца больш за 300 аднаскладовых і двухскладовых назоўнікаў.

§ 896. Аднаскладовыя назоўнікі ў формах адзіночнага ліку маюць націск на першым складзе слова — на аснове, а ў формах множнага ліку — на другім складзе слова — на флексіі: *бас, ба́са, ба́су, бас, ба́сам, (аб) ба́се, басы́, басо́ў, баса́м, баса́мі, (аб) баса́х* (схема № 3, *брат*).

Да тыпу С належыць прыкладна 190 аднаскладовых назоўнікаў: *бас, бінт, боб, бог, бой, бок, бор, борт, брат, брод, брус, буй, вал, век, верх, вір, воз, воўк, вяз, гай, гак, гіз, гіль, глей, глузд, гной, год, гол, граф, грош, груд, грыб, гуж, гуз, гурт, дар, дзед, дом, доўг, дрот, дуб, дым, жак, жар, жвір, жур, звер, зеў, змей, зяць, квас, кві́т, кій,*

Схема № 3

## Акцэнтны тып С

1. Аднаскладовыя назоўнікі

*брат* *брод* *борт* *век*

Н
Р
Д
В
Т
М
Н
Р
Д
В
Т
М

2. Двухскладовыя назоўнікі

*бе́раг* *бу́сел* *абру́с*

Н
Р
Д
В
Т
М
Н
Р
Д
В
Т
М

*клей, клін, кнот, князь, корм, край, круг, крук, крыж, кум, лад, лес, лёд, лён, ліс, ліст* (паперы і інш.), *лог, лой, лом, луг, лук, лунь, лут, лыч, мех, мёд, мір, мозг, морг, мост, мох, муж, мур, плод, плот, паз, пай, пан, пас, плуг, плюс, пляц, пол, порт, пост* (*рэл.*), *пот, пруг, прус, прут, прыз, прэнт, пуд, пук, пуп, пыл, рад, раз, рай, рог* (*муз.*), *рот, рой, сад, сват, склад, склеп, склюд, след, слой, слуп, смык, снег, сом, сорт, стаў, стог, строй, струп, суд* (меркаванне, думка), *суп, сцяг, сын, сыр, таз, ток* (будынак), *тон, торг, торт, туз, тыл, тын, тыф, фінт, флот, флюс, форт, фронт, харч, хіб, хлеб, хлуд, хлус, хмель, хмыз, ход, хор, цень, цесць, цір, цэп, чад, чай, час, чуб, чум, чын, шаг, шар, шлях, шоўк, шплінт, шпунт, шрам, шрыфт, штаб, шып, яр.*

Індывідуальныя выпадкі акцэнтуацыі. 1. Назоўнік *бок* у месным склоне адзіночнага ліку ўжываецца ў двух акцэнтных варыянтах, звычайна з націскам на аснове (норма) і радзей з націскам на флексіі (дублетны варыянт): *пры боку* (В. Адамчык, М. Машара, А. Якімовіч) і *пры баку́* (Я. Колас, В. Адамчык), з прыназоўнікам *на* часцей — *на баку́* (М. Гамолка, М. Корбан), *на адным (другім)*

*бакý* (М. Лынькоў, І. Шамякін), *у тым (вашым) бакý* (І. Мележ, І. Пташнікаў), *па бакý* (М. Машара). У назоўным і вінавальным склонах множнага ліку толькі з націскам на аснове ў фразеалагізме *ўзяцца ў бокі* (Я. Колас); два варыянты ў фразеалагізмах *пападрываць бакі, абіваць бакі* і *пападрываць бокі* (К. Чорны), *абіваць бокі* (І. Мележ).

Назоўнік *век* у форме творнага склону адзіночнага ліку ў складзе прыслоўя *век-вéкам* (Я. Купала, Я. Колас) ужываецца і ў акцэнтным варыянце *век-вяком* (Я. Купала, К. Крапіва, Н. Гілевіч).

2. У месным склоне адзіночнага ліку назоўнік *век* з прыназоўнікам *у* ўжываецца ў двух акцэнтных варыянтах — з націскам на аснове і з націскам на флексіі: *у маладым вéку* (БРС), *у такім вякý* (І. Пташнікаў); з прыназоўнікам *на* мае націск на флексіі: *на (маім, сваім) вякý* (Я Колас, З. Бядуля, А. Бялевіч, Л. Дайнека, Я. Скрыган).

У вінавальным склоне множнага ліку назоўнік *век* сустракаецца ў двух варыянтах — з націскам на флексіі і з націскам на аснове: *на вечны вякі* (Я. Купала) і *на вечныя вéкі* (Н. Гілевіч), *на вéкі вечныя* (Я. Купала, З. Бядуля, У. Караткевіч, К. Чорны), *на векі вякоў* (Я. Купала, А. Александровіч, У. Краўчанка) (схема № 3, *век*).

3. Назоўнік *год* у назоўным склоне множнага ліку мае два акцэнтныя варыянты — *гады́ і годы*. Абодва ўжываюцца шырока (з перавагай першага) у Я. Коласа, З. Бядулі, К. Чорнага, А. Вялюгіна; варыянт *годы* сустракаецца ў П. Глебкі, П. Панчанкі, І. Пташнікава, П. Труса.

Адхіленні. 1. Назоўнікі *бас, бор, брод, год, морг* у маўленні маюць варыянтны націск на аснове ў адной ці некалькіх формах множнага ліку (схема № 3, *брод*). Такія акцэнтныя варыянты адзначаны і ў мастацкай літаратуры: *бáсаў* (Я. Купала), *боры* (Цётка), *бораў* (Я. Купала), *броды* (Р. Барадулін, А. Вялюгін, А. Куляшоў), *бродаў* (І. Шамякін), *бродамі* (М. Калачынскі), *вýсаў* (Я. Колас, Я. Брыль), *годы* (Я. Колас, З. Бядуля, А. Вялюгін, П. Глебка, П. Панчанка, І. Пташнікаў, П. Трус, К. Чорны), *моргаў* (І. Гурскі), *звéры* (Я. Купала).

2. Назоўнікі *борт, вір, воўк, вуж, грош, гурт, доўг, звер, кій, крыж, лыч, мех, мост, слуп, смык* у формах адзіночнага ліку маюць варыянтны націск на флексіі (схема № 3, *борт*), што адлюстравалася і ў мастацкай літаратуры: *бартá* (Н. Гілевіч), *за (пад) бартом* (А. Алешка, В. Мыслівец, І. Пташнікаў, І. Шамякін), *на бартý* (І. Шамякін), *ваўкá* (А. Васілевіч, С. Грахоўскі, В. Каваль, М. Машара, І. Навуменка, І. Пташнікаў, М. Ткачоў, А. Якімовіч), *ваўкý* (Я. Колас, А. Асіпенка, В. Мыслівец), *ваўком* (Я. Колас, А. Лойка, І. Пташнікаў), *вужóм* (В. Адамчык, З. Бядуля), *грашá* (Я. Колас, А. Бажко, Я. Брыль, М. Машара), *гуртом* (Я. Колас, А. Звонак, П. Прыходзька), *даўгом* (Я. Рамановіч), *звярá* (В. Таўлай), *кіём* (В. Дунін-Марцінкевіч), *крыжóм* (Я. Колас), *лычом* (Я. Колас, В. Адамчык), *мяхá* (В. Адамчык, А. Чарнышэвіч), *мяхом, у мяхý* (С. Грахоўскі), *мастá* (М. Аўрамчык, Я. Брыль, І. Пташнікаў), *мастом* (Я. Колас, Я. Брыль), *на мастý* (І. Мележ), *слупом* (В. Адамчык), *смыком* (М. Танк, В. Таўлай).

§ 897. Двухскладовыя назоўнікі акцэнтнага тыпу С (іх каля 115) у формах адзіночнага ліку маюць націск на аснове, а ў формах множнага ліку — на флексіі. З націскам на першым складзе ў адзіночным ліку: *бéраг, бéрага, бéрагу, бéраг, бéрагам, (на) бéразе, берагí, берагоў, берагáм, берагí, берагáмі, (на) берагáх; бýсел, бýсла, бýслу, бýсла, бýслам, (аб) бýсле, бусльí, буслоў, буслáм, буслоў, буслáмі, (аб) буслáх*; з націскам на другім складзе ў адзіночным ліку: *абрýс, абрýса, абрýсу, абрýс, абрýсам, (на) абрýсе, абрусьí, абрусоў, абрусáм, абрусьí, абрусáмі, (на) абрусáх* (схема № 3, *бéраг, бýсел, абрýс*).

Амаль усе двухскладовыя назоўнікі ў формах адзіночнага ліку маюць націск на першым складзе, г. зн. належаць да групы Са (у іх ліку прыкладна 20 з беглым галосным): *а́драс, бе́раг, бу́ер, бу́фер, ве́ер, ве́нзель, ве́нцер, ве́рас, ве́тах, ве́цер, ве́чар, вобад, волас, востраў, ву́галь, голад, голас, голуб, горад, грэбень, дзе́вер, доктар, е́гер, жолаб, жолуд, жэмчуг, ка́мень, кіцель, клінкер, кліпер, колас, кораб, корань, корпус, крэйсер, крэмень, ку́заў, ку́пал, ла́зер, лопух, му́ляр, не́вад, не́рат, ну́мар, ордэн, ордэр, па́рус, па́шпарт, пе́рад, повар, повад* (элемент вупражы), *пограб, поезд, пожаг (абл.), пойнтар, поклад, полаз, полюс, понаж, поплаў, пояс, провад, пропуск, рэктар, се́ктар, ску́тэр, сна́йпер, собаль, стораж, та́бель, тормаз, тра́ктар, тэнар, фе́льчар, флігель, флюгер, холад, ху́тар, це́рам, ша́фер, шкіпер, шомпал, шофер, шта́бель, шу́лер, чэрап, ю́нкер, я́кар, я́сень, я́страб; бу́сел, ве́цер, віхар, ву́гал, ву́зел, за́яц, ку́бел, ку́фар, ку́фель, ма́йстар, свіран, сла́нец, ста́рац, ся́бар, цэбар, човен, шва́гер, шу́фель, шворан.*

З націскам на другім складзе ў формах адзіночнага ліку адзначан толькі назоўнік *абру́с.*

У многіх назоўніках акцэнтнага тыпу С у маўленчай практыцы назіраецца адхіленне ад нормы, якое праяўляецца ў захаванні націску на аснове ў формах множнага ліку пад уплывам парадыгмы адзіночнага ліку (адхіленні тыпу *бу́еры, бу́слы* па ўзору *бу́ер, бу́сел)* ці акцэнтуацыі назоўнікаў тыпу А (адхіленні тыпу *бу́еры, бу́слы* па ўзору *коні, ла́геры, мосцікі)* (схема № 3, *бу́сел, абру́с)*. Сустракаюцца адхіленні і ў формах адзіночнага ліку, калі націск пераносіцца на флексію *(абрусом, сабаля́)* (схема № 3, *абру́с*). У гэтым выпадку можна бачыць уплыў парадыгмы множнага ліку (параўн.: *абрусы́, абрусоў* і інш.; *сабалі, сабалёў* і інш.). Магчыма таксама ўздзеянне назоўнікаў акцэнтнага тыпу В, у якіх у формах адзіночнага ліку націск на флексіі. Не выключаны і выпадкі захавання ў мове некаторых асоб асаблівасцей рэгіянальнай акцэнтуацыі.

Названыя адхіленні сустракаюцца і ў мове мастацкай літаратуры. У адных выпадках яны нясуць стылявую нагрузку — уведзены пісьменнікам свядома, а некаторы раз тлумачацца прычынамі, названымі вышэй. Некаторыя ілюстрацыі: *абрусом* (Ц. Гартны, М. Лынькоў), *абру́сы* (Я. Колас, П. Прыходзька), *ве́тры* (Я. Пушча, М. Стрыгалёў, П. Трус), *ве́траў* (П. Трус), *галу́б* (Я. Купала), *голубы* (З. Бядуля), *ко́нюхі* (А. Якімовіч), *ко́нюхаў* (І. Чыгрынаў), *каранём* (М. Лынькоў, Ю. Лявонны), *краме́нь* (Ф. Шынклер), *ку́блаў* (Ф. Шынклер), *ку́палаў* (У. Калеснік), *ку́фраў* (А. Васілевіч, К. Чорны), *марозы* (І. Чыгрынаў), *му́ляраў* (К. Чорны), *ордэны* (А. Астапенка, П. Пранузa, М. Смагаровіч, І. Шамякін), *ордэнаў* (А. Карпюк), *ордэнамі* (П. Кавалёў), *па ордэнах* (С. Гаўрусёў), *у ордэнах* (М. Машара), *ордэраў* (Я. Скрыган), *па́русаў* (М. Танк), *полюсы* (А. Кучар), *поясы* (П. Пранузa), *поясамі* (З. Бядуля), *тормазы* (Ю. Лявонны), *тра́ктараў* (І. Пташнікаў, Ю. Таўбін), *чабору* (М. Машара), *чайна́* (У. Караткевіч, М. Машара, М Танк), *на чайне́* (А. Александровіч, З. Бядуля, А. Васілевіч, Ц. Гартны, Я. Журба, Я. Колас, У. Краўчанка, Я. Маўр, Ю. Таўбін, В. Хомчанка), *чоўны* (Н. Гілевіч, У. Дубоўка, К. Кірэенка, М. Чарот), *з чоўнаў* (А. Вялюгін), *чоўнамі* (А. Вольскі), *на чоўнах* (З. Астапенка, А. Бялевіч, У. Дубоўка, Я. Купала), *чэрапаў* (Я. Купала), *шомпалы* (С. Александровіч, Л. Дайнека, М. Нікановіч), *шомпалаў* (З. Бядуля, І. Шамякін), *шомпаламі* (З. Бядуля, А. Кулакоўскі).

### Тыпы $C_1$, D — назоўнікі з рухомым націскам

§ 898. Да акцэнтнага тыпу $C_1$ належаць назоўнікі *вус, зуб, рог* (у жывёлы), у якіх ва ўсіх формах адзіночнага ліку і ў форме назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку націск на аснове, а ва ўсіх іншых формах множнага ліку на канчатку.

Да акцэнтнага тыпу D належыць назоўнік *конь*, які ва ўсіх формах адзіночнага ліку мае націск на канчатку, а ў формах множнага ліку — на аснове.

### *Націск назоўнікаў жаночага роду з канчаткам -а(-я)*

§ 899. Як і ў назоўніках мужчынскага роду, пераважная частка назоўнікаў жаночага роду характарызуецца нерухомым націскам — ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку націск у іх падае на адзін і той жа склад. Нерухомы націск уласцівы амаль 90% двух- і трохскладовых назоўнікаў. Вылучаецца два тыпы нерухомага націску: тып А — нерухомы націск на адным і тым жа складзе асновы і тып В — нерухомы націск на флексіі.

### Тып А — назоўнікі з нерухомым націскам на аснове

§ 900. Да акцэнтнага тыпу А належыць каля 1250 двух-, 3500 трох-, 2300 чатырох-, 600 пяці- і 100 шасці-, сямі- і васьміскладовых.

Двухскладовыя назоўнікі: *па́льма, па́льмы, па́льме, па́льму, па́льмай (-аю), (на) па́льме, па́льмы, па́льм (-аў), па́льмам, па́льмы, па́льмамі, (на) па́льмах; кве́тка, кве́ткі, кве́тцы, кве́тку, кве́ткай (-аю), (на) кве́тцы, кве́ткі, кве́так, кве́ткам, кве́ткі, кве́ткамі, (на) кве́тках* (схема № 4, *па́льма*).

Акцэнтны тып А складаюць:

1) невытворныя назоўнікі (у тым ліку запазычаныя), якія маюць двухскладовую структуру ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку (каля 420): *а́рка, а́рфа, а́стра, ба́ба, ба́за, ба́нда, ба́ржа, бома, бомба, бра́ма, бу́да, ва́та, віза, воля, ву́да, гіра, гліна, доля, ка́ра, ла́ва, ліпа, ніва, па́льма, па́ня, пломба, по́шта, пра́ца, прэ́са, пу́га, пу́ня, пя́дзя, ра́ма, ра́на, рота, ры́ба, ры́фма, рэ́нта, рэпа, са́кля, сіла, сла́ва, соня, су́ка, схе́ма, сцэна, та́кса, ту́ндра, фа́за, фа́ра, фра́за, ха́та, хво́я, ціна, цэгла, ча́ра, ша́фа, шпора, я́ма* і інш.;

2) невялікая трупа вытворных назоўнікаў (каля 500): *бры́тва, гроздзьба, зме́на, кля́тва, на́зва, ноздра позва, помста, прорва, просьба, пры́зба, рвота, скобля, скры́ня, спёка, спроба, стома, стрэльба, сту́дня, та́йна* і інш.;

3) назоўнікі з беглым галосным — галоўным чынам з суфіксамі *-ка, -ня* (каля 300), якія ва ўсіх формах адзіночнага і ва ўсіх формах, акрамя роднага склону, множнага ліку маюць двухскладовую структуру, а ў родным множнага — трохскладовую: *бе́лка, бойня, бочка, бу́рка, вёска, вішня, гу́мка, дзе́жка, ду́дка, зорка, ка́зка, ка́пля, кля́мка, лодка, лы́тка, ма́рка, міска, ня́нька, па́лка, пе́сня, пла́шка, плотка, пту́шка, ра́мка, са́мка, сва́рка, све́дка, соска, стрэмка, та́рка, трэска, хвойка, хма́рка, ца́цка, ча́йка, ша́пка* і інш.

Адхіленні ад нарматыўнага месца націску нешматлікія. 1. Назоўнікі з суфіксам *-ка*, у якіх у родным склоне з'яўляецца беглы галосны — *грэчка, дзейка, жонка* — у форме назоўнага склону множнага ліку

некалькі разоў адзначаны з націскам на флексіі:— *Але дзяўкі ў цябе добрыя...* (А. Васілевіч); *Моўчкі за працу ўзяліся дзяўкі...* (Я. Колас); *Клункі на межы паклалі жанкі* (Я. Колас). Такі націск уласцівы для часткі паўднёва-заходніх беларускіх гаворак. У адным выпадку — у А. Васілевіч — назоўнік з флексійным націскам знаходзім у мове аднаго з персанажаў, г. зн. рэгіянальная асаблівасць акцэнтуацыі нясе стылістычную нагрузку — служыць для індывідуалізацыі мовы герояў. Два выпадкі з творчасці Я. Коласа адносяцца да ранняга перыяду творчасці паэта (1910 г.), калі правілы акцэнтуацыі нават не ставіліся на абмеркаванне, а таму пісьменнікі звычайна кіраваліся асаблівасцямі роднай для іх гаворкі.

2. Назоўнік *дзеўка* ў форме роднага склону множнага ліку некалькі разоў адзначан з націскам на другім складзе асновы — *дзявок* замест *дзёвак*. Тут маем справу з унутрымарфемнай рухомасцю націску — націск застаецца на аснове слова, таму названае адхіленне па характару акцэнтуацыі не пераводзіць слова *дзеўка* ў іншы акцэнтны тып.

3. Назоўнікі *ку́льба, ліштва* ў форме творнага склону адзіночнага ліку сустракаюцца з націскам на флексіі: *...Сівы дзед з кульбою!* (Я. Колас); *Недзе за ліштвою шчабяталі, вывеўшыся, нядужыя вераб'і* (В. Адамчык); *вераб'і кожнае вясны вяліся ў акне за ліштвою* (В. Адамчык); *і вароты, аздобленыя адмысловай ліштвой* (І. Чыгрынаў).

§ 901. Трохскладовыя назоўнікі: *лі́тара, лі́тары, лі́тару, лі́тарай (-аю), (аб) лі́тары, лі́тары, лі́тар, лі́тарам, лі́тары, лі́тарамі, (аб) лі́тарах; вокладка, вокладцы, вокладку, вокладкай (-аю), (на) вокладцы, вокладкі, вокладак, вокладкам, вокладкі, вокладкамі, (на) вокладках; скульпту́ра, скульпту́ры, скульпту́ры, скульпту́ру, скульпту́рай (-аю), (аб) скульпту́ры, скульпту́ры, скульпту́р, скульпту́рам, скульпту́ры, скульпту́рамі, (аб) скульпту́рах; ала́дка, ала́дкі, ала́дцы, ала́дку, ала́дкай (-аю), (на) ала́дцы, ала́дкі, ала́дак, ала́дкам, ала́дкі, ала́дкамі, (на) ала́дках* (схема № 4, *лі́тара, бала́да*).

У залежнасці ад таго, на які склад прыпадае нерухомы націск (на першы ці другі), трохскладовыя назоўнікі акцэнтнага тыпу А падзяляюцца на дзве групы — Аа і Аб.

Да групы Аа належыць каля 750 назоўнікаў, якія маюць сталы націск на першым складзе:

1) іншамоўнага паходжання: *а́мпула, а́мфара, ве́рсія, гра́цыя, ка́тарга, лі́рыка, лі́тара, на́цыя, ну́трыя, опера, оптыка, оргія, па́гада, па́луба, пе́нсія, прэ́мія, прэ́рыя, пу́нкцыя, ра́туша, ра́цыя, рэ́пліка, са́нкцыя, се́кцыя, се́сія, ста́дыя, ста́туя, сту́дыя, та́ктыка, тэ́хніка, фа́брыка, фа́уна, фу́нкцыя* і інш.;

2) вытворныя з суфіксамі *-ка, -ачка, -айка, -іна, -шчына, -іца, -ніца*, суфіксальна-прэфіксальныя і прэфіксальныя: *ве́рбніца, воспіна, выемка, гра́дзіна, за́вязка, за́сланка, зва́дніца, звіліна, ісціна, ла́піна, ле́свіца, нітачка, па́зуха, па́ліца, па́ншчына, пе́рлайка, посніца, пошліна, пра́сніца, пстрыкайка, пя́тніца, розніца, рошчына, ры́біна (разм.), ры́зніца (царк.), са́джалка, се́йбітка, сі́тніца, ска́рбніца, скібіна, скла́дчына, склочніца, слівіна, спа́дчына, ста́рыца, та́чачка, трэ́шчына, хле́бніца, хро́сніца, це́рніца, цётухна, шчы́ліна, я́мінка, я́рыца* і інш.; *за́суха, за́шмарга, па́сека* і інш.;

3) з беглым галосным, які ўзнаўляецца ў форме роднага склону, і словаформа набывае чатырохскладовую структуру: *бу́рбалка, вокладка, вопратка, е́лачка, за́вязка, за́тычка, ма́кайка, на́йміčка, на́мітка, на́сыпка, ня́нечка, па́мятка, подвязка, поліўка, порхайка, посцілка, пры́майка, се́ялка, скры́начка, ту́мбачка, ша́пачка, я́гадка* і інш.

Г р у п а Аб уключае каля 2750 назоўнікаў, у якіх націск мае сталае месца на другім складзе асновы. У іх ліку:

1) запазычаныя назоўнікі: *ага́ва, ангі́на, анке́та, аорта, арэна, бала́да, бацы́ла, вал́ьера, газе́та, гіта́ра, жыра́фа, інтры́га, манса́рда, палітра, ракéта, секу́нда, таве́рна, цыстэрна* і інш.;

2) невытворныя назоўнікі: *асі́на, бяроза, бясе́да, варона, дарога, камора, кана́ва, карова, сарока* і інш.;

3) вытворныя назоўнікі суфіксальнага, суфіксальна-прэфіксальнага і прэфіксальнага ўтварэння: *бабу́ля, багі́ня, бальні́ца, банда́рня, брусні́ца, будоўля, вужа́ка, вярбі́на, вясёлка, гадзю́ка, грані́ца, дайні́ца, жардзі́на, лаві́на, лісі́ца, маршчы́на, пустэча, пятлі́ца, рагу́ля, раслі́на, сві-*

**Месцаразмяшчэнне націску ў назоўніках жаночага роду з канчаткам -*а***

**Схема № 4**

А к ц э н т н ы  т ы п  А

1. Двухскладовыя назоўнікі: *па́льма*, *лі́тара*

2. Трохскладовыя назоўнікі: *бала́да*

Н, Р, Д, В, Т, М, Н, Р, Д, В, Т, М

**Схема № 5**

А к ц э н т н ы  т ы п  В

1. Двухскладовыя назоўнікі: *чалма́*

2. Трохскладовыя назоўнікі: *каланча́*

Н, Р, Д, В, Т, М, Н, Р, Д, В, Т, М

*стýха, святлíца, скацíна, скарбнíца, сцяжы́нка, сядзíба, хацíна, цяплíца* і інш.; *аблáва, аблога, абрáза, аб'я́ва, аддáча, аддýха, адзнáка, аздоба, апéка, апора, выжáра, даплáта, забáва, завáла, завéса, загáта, засáда, навáла, нарáда, падпора, прымéта, раздáча, умова, ухвáла* і *інш.; даробка, забáўка, завáрка, замéтка, запíска, надвя́зка, надсéчка, накíдка, павéстка, падбíўка, падвозка, пакýпка, палáтка, паходка, праклáдка, размéтка, спасы́лка, уборка* і інш.;

4) з беглым галосным: *зялёнка, іголка, калы́ска, мачáнка, мяшáлка, навíнка, сталоўка, сталя́рка, старонка, хацíнка, цадзíлка, чацвёрка, чытáчка, шасцёрка* і інш.

### Тып В — назоўнікі з нерухомым націскам на канчатку

§ 902. Да акцэнтнага тыпу В належыць каля 80 двухскладовых і каля 60 трохскладовых назоўнікаў: *сяўня́, сяўні́, сяўні́, сяўню́, сяўнёй (-ёю), (аб) сяўні́, сяўні́, сявéнь, сяўня́м, сяўні́, сяўня́мі, (аб) сяўня́х; чалмá, чалмы́, чалмé, чалмý, чалмой (-ою), (аб) чалме, чалмы́, чалмóў, чалмáм, чалмы́, чалмáмі, (аб) чалмáх; каланчá, каланчы́, каланчы́, каланчý, каланчой (-ою), (на) каланчы́, каланчы́, каланчэй, каланчы́, каланчáмі, (на) каланчáх* (схема № 5, *чалмá, каланчá*).

Двухскладовыя назоўнікі: *бахчá, брыдá, бузá, бурдá, гайня́, гірсá, губá (анат.), жарствá, жудá, журбá, звягня́, імглá, імжá, казнá, парчá, рабá, радня́, сайгá (заал.), скабá, скапá (заал.), ступá (поступ), сяўня́ (абл.), тайгá, тамгá (гіст.), тафтá (тэкст.), тахтá, трайня́ (аб дзецях), трастá (с.-г.), тугá, фатá, фітá, хадá, хадзьбá, халвá, хамсá, хандрá, чалмá, шашá* і інш.

Трохскладовыя назоўнікі: *бірузá, каланчá, мітусня́, паляя́ (гіст., літ.), пападдзя́, паранджá, парахня́, пасцілá, пахвалá, піялá, прамізнá, пяцярня́, размазня́, саранчá (уст.), семярня́ (абл.), серадá, сівізнá, скупяндá, сумятня́, траскатня́, тупатня́, фістулá, чайханá, чарамшá (бат.), чахардá, часучá* і інш.

Большасць прыведзеных слоў не мае форм множнага ліку ці яны рэдка ўжываюцца.

### Тып D — назоўнікі з рухомым націскам

§ 903. Назоўнікі акцэнтнага тыпу D ва ўсіх формах адзіночнага ліку маюць націск на флексіі, а ў формах множнага ліку — на аснове: *вярбá, вярбы́, вярбé, вярбý, вярбою (-óй), (на) вярбé, вéрбы, вéрбаў, вéрбам, вéрбы, вéрбамі, (на) вéрбах; галíнá, галіны́, галіне́, галіну́, галіною (-óй), (на) галіне́, галíны, галíн, галíнам, галíны, галíнамі, (на) галíнах* (схема № 6, *вярбá, галінá*).

Да акцэнтнага тыпу D належыць ≈100 двухскладовых і каля 60 трохскладовых назоўнікаў: *абзá, арбá, ардá (гіст.), асá, блыхá, блюзнá, брахня́, бягá, бядá, вагá, вадá, вайнá, вінá, вярбá, вяснá, вяхá, гарá, градá, гразá, графá, грызня́, гульбá, гульня́, дзірá, дзяльбá, дугá, дудá, душá, жаўнá, жняя́, зарá, зімá, злабá, змяя́, зямля́, ігрá, казá, капá, карá, касá, касьбá, кумá, ладдзя́, лазá, лісá, лукá, мукá, мяжá, мяздрá, нагá, нарá, нудá, пальбá, парá, паршá, пасьбá, пілá, плітá, плявá, пургá, пчалá, пянькá, пятá, разьбá, ракá, ралля́, расá, раўня́, рудá, рукá, савá, саснá, сафá, сахá, свіння́, скалá, слатá, слюдá, слязá, смалá, смугá, стапá, стралá, стральбá, страфá, страхá, струнá, ступня́, сурмá, сцянá, сям'я́, сястрá, сяўбá, тасьмá, травá, трайня́, трубá, трунá, турá (шахм.), цанá, царквá, цяслá, чаргá, чумá, шкалá, шляя́, шчакá, яздá; асакá, ба-*

**Схема № 6**

## А к ц э н т н ы   т ы п   D

1. Двухскладовыя назоўнікі — *вярба́*

2. Трохскладовыя назоўнікі — *галіна́*

Н Р Д В Т М Н Р Д В Т М

*рада́, бузіна́, булава́, валтузня́, варажба́, галіна́, глыбіня́, грамада́, грубіня́, грукатня́, дабрыня́, жаўцізна́, лазіна́, макрата́, малацьба́, навіна́, нерайня́, паласа́, памаўза́ (разм.), паўната́, прастата́, прасціна́, пустата́, рабізна́, рэзеда́ (бат.), свалата́, свідзіна́ (бат.), сіпата́, слабіна́, слепата, слізгата́, смаліна́, смехата́ (разм.), спарыня́, старана́, страказа́, страхата́ (разм.), сухата́, талака́, танката́, таўшчыня́, удава́, хрыпата́, цаліна́, цемната́, цеплыня́, цесната́, цеціва́, ціхата́, цішыня́, чапяла́, чарада́, чарната́, частата́, чашчыня́, чыстата́, чысціня́, шырата́ (геагр.), шырыня́, ясната́.*

Для д в у х с к л а д о в ы х назоўнікаў акцэнтнага тыпу D адзначаны а д х і л е н н і: 1. Тыповае для многіх з іх — *вада, вясна, гара, дачка, душа, зіма, зямля, каса, нага, нара, пара, рука, саха, скаба, страха, сцяна, шчака* — адхіленне ад нарматыўнага месца націску ў форме вінавальнага склону адзіночнага ліку (на флексіі) — націск на аснове: *воду, у воду, па воду* (Ф. Багушэвіч, В. Адамчык, Я. Колас, П. Трус), *ве́сну* (В. Адамчык, Я. Колас, П. Місько, Б. Сачанка, Цётка), *го́ру* (В. Адамчык, Ф. Багушэвіч, Я. Колас, К. Чорны), *ду́шу* (Я. Колас, (М. Лужанін), *зе́млю* (У. Карпаў, Я. Колас, І.Шамякін), *косу* (Я. Колас), *ногу* (В. Казько, Я. Колас, А. Пысін), *нору* (В. Адамчык), *пору* (В. Адамчык, Я. Брыль, А. Жук, Я. Колас), *соху* (Я. Колас), *скобу* (В. Адамчык), *сце́ну* (Я. Колас, Б. Сачанка), *шчоку* (В. Адамчык).

2. Для назоўнікаў *вярба, гара, сляза, спіна, страха* зафіксаваны адхіленні і ў некаторых іншых формах парадыгмы: *ве́рбай* (А. Карпюк), *на ве́рбе* (Ф. Багушэвіч, Р. Мурашка), *гара́м* (М. Клімковіч), *гара́мі* (А. Васілевіч, А. Зарэцкі, Я. Колас, А. Пальчэўскі, Б. Сачанка), *па гара́х* (А. Асіпенка, З. Бядуля), *слязьмі́* (В. Казько), *у сляза́х* (Б. Сачанка), *за спіною* (В. Адамчык, Т. Бондар, А. Васілевіч, П. Місько, В. Хомчанка), *стрэху* (Я. Колас, П. Трус), *па стрэ́се* (Я. Колас).

У т р о х с к л а д о в ы х назоўніках *барана, галава* адзначаны а д х і л е н н і ад нарматыўнага націску ў формах вінавальнага склону адзіночнага ліку і назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку: *борану* (Я. Колас), *голаву* (Я. Колас), *голаў* (В. Адамчык, А. Александровіч, М. Аўрамчык, Р. Барадулін, А. Бачыла, В. Быкаў, З. Бядуля, М. Вышынскі, Ц. Гартны, С. Гаўрусёў, Л. Геніюш, П. Глебка, М. Губерната-

раў, А. Дзятлаў, У. Дубоўка, А. Жук, Х. Жычка, П. Кавалёў, В. Карамазаў, К. Кірэенка, Я. Колас, А. Кулакоўскі, А. Куляшоў, Я. Купала, М. Лынькоў, М. Маляўка, М. Парахневіч, Р. Сабаленка, Я. Скрыган, М. Стрыгалёў, Р. Тармола, М. Федзюковіч, В. Хомчанка, А. Чарнышэвіч, Хв. Чэрня, С. Шушкевіч, Я. Янішчыц), *голавы, на голавы* (Я. Колас).

Спарадычна сустракаюцца ненарматыўныя варыянты для назоўнікаў *крапіва, навіна, паласа, сірата, чарада: крапі́ва* (Я. Янішчыц), *крапі́вай* (І. Пташнікаў), *наві́на* (Я. Колас), *наві́най* (Я. Колас), *палоса* (В. Хомчанка), *палосу* (Л. Дайнека), *палосай (-аю)* (В. Хомчанка), *у палосе* (Л. Дайнека), *сі́раты* (С. Грахоўскі, Я. Колас), *чарада́мі* (Я. Колас).

### *Націск назоўнікаў жаночага роду з нулявым канчаткам*

§ 904. У назоўніках жаночага роду з нулявым канчаткам вылучаюцца два акцэнтныя тыпы — А і С.

### Тып А — назоўнікі з нерухомым націскам на аснове

§ 905. Да акцэнтнага т ы п у А належыць каля 3050 аднаскладовых, двухскладовых і трохскладовых назоўнікаў.

§ 906. А д н а с к л а д о в ы я назоўнікі ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку маюць націск на першым складзе слова: *мазь, ма́зі, ма́зі, мазь, ма́ззю, (аб) ма́зі, ма́зі, ма́зей і ма́зяў, ма́зям, ма́зі, ма́зямі, (аб) мазях* (схема № 7, *мазь*). У акцэнтны тып уваходзяць назоўнікі: *быль, бязь, верф, восць, вось, вош, вязь, гаць, гладзь, глуш, глыб, гніль, гразь, грызь, даль, дзель, дрож, дрэнь, жоўць, здань, золь, кадзь, кладзь, лань, мазь, медзь, мель, моль, муць, мысль* і інш.

§ 907. Д в у х с к л а д о в ы я назоўнікі ў залежнасці ад месца націску (на першым ці на другім складзе асновы) падзяляюцца на дзве групы — Аа і Аб. Назоўнікі акцэнтнай г р у п ы Аа ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку маюць націск на першым складзе слова: *га́вань, га́вані, га́вані, га́вань, га́ванню, (у) га́вані, га́вані, га́ваней* і *га́ваняў, га́ваням, га́вані, га́ванямі, (у) га́ванях,* а назоўнікі акцэнтнай г р у п ы Аб — на другім складзе слова: *арце́ль, арце́лі, арце́лі, арце́ль, арце́ллю, (у) арце́лі, арце́лі, арце́лей* і *арце́ляў, арце́лям, арце́лі, арце́лямі, (у) арце́лях.*

Групу Аа складаюць назоўнікі, у якіх ва ўсіх формах націск падае на першы склад асновы: *бе́здань, боязь, бры́дасць, ва́ртасць, ве́рнасць, ве́чнасць, вольнасць, восень, восець, га́вань, гібель, гніласць, горасць, горыч, е́днасць, е́рась, жу́дасць, жу́хласць, жы́ўнасць, за́вадзь, за́вязь, за́едзь, за́мець, за́сень, зе́лень, лі́тасць, лотаць, ма́рнасць, му́драсць, мя́каць, на́ледзь, на́мець, не́мач, не́руш, не́цель, не́чысць* і інш.

Да г р у п ы А б адносяцца назоўнікі з націскам на другім складзе асновы: *арце́ль, асе́ць, ваніль, газе́ль, гарта́нь, далонь, кансоль, кішэнь, лату́нь, макрэль, мара́ль, мігрэнь* і інш.

§ 908. Т р о х с к л а д о в ы я назоўнікі ў залежнасці ад складу, на які падае націск, падзяляюцца на акцэнтныя групы — Аа, Аб і Ав.

Г р у п у А а складаюць назоўнікі з націскам ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку на першым складзе асновы: *водпаведзь, водпаведзі, водпаведзі, водпаведзь, водпаведдзю, (аб) водпаведзі, водпаведзі, водпаведзей* і *водпаведзяў, водпаведзям, водпаведзі, водпаведзямі, (аб) водпаведзях.* Сюды належаць назоўнікі *водпаведзь, жудаснасць,*

## Месцаразмяшчэнне націску ў назоўніках жаночага роду з нулявой флексіяй

### Схема № 7

### Акцэнтны тып А

1. Аднаскладовыя назоўнікі

*мазь*

Н Р Д В Т М Н Р Д В Т М

2. Трохскладовыя назоўнікі

*нядýжасць*

*карусéль*

### Схема № [redacted]

### Акцэнтны тып С

1. Аднаскладовыя назоўнікі

*гусь*

Н Р Д В Т М Н Р Д В Т М

2. Двухскладовыя назоўнікі

*вобласць*

*зáгарадзь, зношанасць, інахадзь, нáмаразь, нéнавісць, нéпагадзь* і інш.
Групу А б складаюць назоўнікі з націскам ва ўсіх формах адзіноч-
нага і множнага ліку на другім складзе асновы: *агýльнасць, агýльнасці,*
*агýльнасці, агýльнасць, агýльнасцю, (пры) агýльнасці, агýльнасці,*
*агýльнасцей, агýльнасцям, агýльнасці, агýльнасцямі, (пры) агýльна-*
*сцях.* Да групы належаць назоўнікі *аб'ёмнасць, абстрáктнасць, агýль-*
*насць, бурлівасць, бяспéчнасць, гаротнасць, гаючасць, грунтоўнасць, за-*
*бáўнасць, занятасць, зацішнасць, зласлівасць, нагляднасць, нагрэтасць,*
*надзéйнасць, наіўнасць, напéўнасць, народнасць, натхнёнасць, нахáб-*
*насць, нервовасць, нікчэмнасць, нудлівасць, нябáчнасць, нявіннасць,*
*нядбáйнасць, нядбáласць, нядýжасць, нямкасць, нязбытнасць, няздоль-*

*насць, нязмéрнасць, нязрýчнасць, някéмнасць, няпэўнасць, няспéласць, няўлоўнасць, нячýйнасць, няяснасць* і інш.

У групу А в уваходзіць некалькі назоўнікаў з націскам на трэцім складзе асновы: *вертыкáль, вертыкáлі, вертыкáлі, вертыкáль, вертыкáллю, (аб) вертыкáлі, вертыкáлі, вертыкáлей* і *вертыкáляў, вертыкáлям, вертыкáлі, вертыкáлямі, (аб) вертыкáлях.* Сюды належаць назоўнікі *вермішэль, вертыкáль, весялосць, каніцéль, карамéль, карусéль* і інш. (схема № 7, *карусéль*).

### Тып С — назоўнікі з рухомым націскам

§ 909. Назоўнікі акцэнтнага тыпу С у формах адзіночнага ліку і ў форме назоўнага і вінавальнага склонаў множнага ліку маюць націск на аснове, а ва ўскосных формах множнага ліку — на флексіі: *гусь, гýсі, гýсі, гусь, гýссю, (аб) гýсі, гýсі, гусéй, гуся́м, гусéй, гуся́мі, (аб) гуся́х; вобласць, вобласці, вобласці, вобласць, вобласцю, (у) вобласці, вобласці, абласцéй, абласця́м, вобласці, абласця́мі, (у) абласця́х* (схема № 8, *гусь, вобласць*).

Да акцэнтнага тыпу С належыць каля 40 аднаскладовых назоўнікаў: *весць, гусь, кісць, клець, косць, масць, мыш, ноч* і інш., і каля 130 двухскладовых назоўнікаў: *вобласць, воласць, крэпасць, лéбедзь* і інш.

Адхіленні ад нарматыўнага націску адзначаны толькі для слоў *косць, ноч* у формах роднага і меснага склонаў адзіночнага ліку: *да начы́* (А. Васілевіч, С. Гаўрусёў, М. Лужанін), *у начы́* (В. Карамазаў, В. Хомчанка).

Для некаторых назоўнікаў жаночага роду ў творах мастацкай літаратуры назіраюцца марфалагічныя варыянты, якія належаць да розных тыпаў скланення, а ў сувязі з гэтым адрозніваюцца акцэнтуацыяй ў формах парадыгмы. Адзін з членаў пары марфалагічных варыянтаў належыць да лексікі літаратурнай мовы, а другі з'яўляецца рэгіяналізмам, напрыклад *далонь — даланя́.* Формы парадыгмы захоўваюць націск назоўнага склону, утвараючы, такім чынам, два рады марфалагічных форм і два акцэнтныя рады: *далонь — даланя́, далоні — далані́, далонь —даланю́, далонню, далоняй — даланёй.* Такім чынам, у дакладным сэнсе слова гэта не акцэнтныя варыянты аднаго слова, а самастойныя рады розных пачатковых форм.

Некалькі ілюстрацый:.

Далонь — даланя: *Была гэтая яго даланя і цёплая і халодная* (В. Казько).

Далонь, далоню — даланю: *Маці мойчкі выцягнула з-пад коўдры руку .. і паклала лёгкую празрыстую далоню на яго галаву* (І. Шамякін); *Захар'я .. задаволена паклаў на Лецечкаву галаву даланю* (В. Казько); *Было нават відаць, як над круглым, з даланю, лобам рассыпаліся на рад нястрыжаныя валасы* (І. Пташнікаў).

Далоняй — даланёй: *Кандыбовіч зграбаў далоняй снег і клаў у рот* (І. Мележ); *Слёзы .. выціраў далоняй, забыўшыся на насоўку* (І. Шамякін); *даланёй пацёр збялелы твар* (Г. Бураўкін); *І Захар'я прыгнёў даланёю Лецечкаву галаву* (В. Казько); *пачаў церці шурпатай даланёй свой шырокі лоб* (М. Машара); *церабіўся, цёр даланёй чырвоную шчаку* (І. Пташнікаў).

На далоні — далані: *бярэ ў голую руку чырвоны вугаль, круціць яго на далані* (І. Пташнікаў).

Кішэнь, кішэня — кішаня. З кішэні — кішані: *Ён зусім забыўся, што дастаў з кішані асколкі і нясе ў руцэ* (І. Пташнікаў).

Кішэню — кішаню: *неўзаметку клала Сяргею ў нагрудную кішэню дзесятку* (В. Адамчык).

У кішэні — кішані: *Што ў кішані, у мяне, лічы, да ўсіх дзвярэй ключы* (М. Лужанін).

З кішэнямі — кішанямі: *Такога пінжака, чорнага, доўгага, з чатырма кішанямі, у іх не было* (І. Пташнікаў).

### *Націск назоўнікаў ніякага роду*

Назоўнікі ніякага роду ў залежнасці ад месца націску размяркоўваюцца ў тры акцэнтныя тыпы — А, В і С.

### Тып А — назоўнікі з нерухомым націскам на аснове

§ 910. Да акцэнтнага т ы п у А належаць двух-, трох- і чатырохскладовыя назоўнікі, у якіх ва ўсіх формах адзіночнага і множнага ліку націск нерухомы — падае на той жа склад асновы, што і ў пачатковай форме: *ме́сца, ме́сца, ме́сцу, ме́сца, ме́сцам, (на) ме́сцы, ме́сцы, ме́сцаў, ме́сцам, ме́сцы, ме́сцамі, (на) ме́сцах; глі́нішча, глі́нішча, глі́нішчу, глі́нішча, глі́нішчам, (на) глі́нішчы, глі́нішчы, глі́нішчаў, глі́нішчам, глі́нішчы, глі́нішчамі, (на) глі́нішчах; вясе́лле, вясе́лля, вясе́ллю, вясе́лле, вясе́ллем, (на) вясе́ллі, вясе́ллі, вясе́лляў, вясе́ллям, вясе́ллі, вясе́ллямі, (на) вясе́ллях* (схема № 9, *ме́сца, глі́нішча, вясе́лле*).

У акцэнтны тып А ўваходзіць: каля 100 д в у х с к л а д о в ы х назоўнікаў: *біла, бёрда, блюда, бру́ха, бру́шка* (ад *бруха*), *ве́ка, войска, вочка, ву́сце (ракі), ву́шка, гора, горла, джа́ла, дзіва, дрэва, дрэўца, жэрла, збожжа, зе́лле, зе́рне, кола, крэсла, ліха, лона, лы́ка, люстра, ля́да, ма́сла, ме́сца, мліва, мора, мы́ла, мя́ла, пе́кла, піва, сіта, свя́та, слова, стойла, це́ла, фу́тра, шу́ла* і інш.; каля 4300 т р о х с к л а д о в ы х назоўнікаў, сярод якіх прыкладна 50% належыць да г р у п ы А а: *ба́чанне, бе́жанства, бу́льканне, ве́шала, ве́янне, возніцтва, волава, ворыва, вэнджанне, глі́нішча, за́рыва, за́ткала, зя́бліва, ка́ліва, ку́рыва, логава, ма́рыва, пра́віла, ту́лава* і інш., і каля 50% — да г р у п ы А б: *бунта́рства, бурча́нне, бязве́р'е, бязволле, бярэмя, варэнне, відовішча, вудзільна,*

### Месцаразмяшчэнне націску ў назоўніках ніякага роду

**Схема № 9**

А к ц э н т н ы т ы п А

1. Двухскладовыя назоўнікі

*ме́сца*

Н
Р
Д
В
Т
М
Н
Р
Д
В
Т
М

2. Трохскладовыя назоўнікі

*глі́нішча* *вясе́лле*

**Схема № 10** **Схема № 11**

Акцэнтны тып В Акцэнтны тып С

*азярцо* *вясло* *бервяно*

Н
Р
Д
В
Т
М
Н
Р
Д
В
Т
М

*вужышча, вядзерца, вясе́лле, гале́нне, геройства, грабільна, даве́р'е, жада́нне, жале́за, жаля́зка, журча́нне, жыўле́нне, забойства, загор'е, зада́нне, зацьме́нне, згаранне́, згаса́нне, здарэ́нне, зубіла, кале́на, карыта, майстэрства, мястэчка, прыгоства, убра́нства, цапільна, сяброўства* і інш.; каля 100 чатырохскладовых назоўнікаў: *бульбянішча, малодзіва, балява́нне, безгалоўе, бездарожжа, беззяме́лле, безула́ддзе, бракан'ье́рства, будаўніцтва, запыта́нне, маля́ва́нне, матавіла, перавя́сла, становішча* і інш.

Адхіленні ад нормы адзначаны для слоў *балота, воблака, грабільна, касільна, пачу́цце, сне́данне: балаты* (Я. Колас), *аблокі* (Я. Брыль, П. Прануза), *аблокаў* (Я. Брыль), *грабільном* (І. Пташнікаў), *касільно* (І. Пташнікаў), *пачуццё* (*І. Чыгрынаў*), *з пачуццём* (А. Васілевіч), *сняда́нне* (Р. Барадулін).

### Тып В — назоўнікі з нерухомым націскам на канчатку

§ 911. У акцэнтны тып В уваходзяць назоўнікі, у якіх у формах адзіночнага і множнага ліку націск падае на канчатак: *азярцо, азярца́, азярцу́, азярцо, азярцом, (на) азярцы́, азярцы́, азярцоў, азярца́м, азярцы́, азярца́мі, (на) азярца́х* (схема № 10, *азярцо*). Да гэтага тыпу належаць аднаскладовыя назоўнікі *дно, тло, шво, шкло;* двух- і трохскладовыя — *азярцо, жытцо, забыццё, закрыццё* і інш.

### Тып С — назоўнікі з рухомым націскам

§ 912. Да акцэнтнага тыпу С належаць назоўнікі, у якіх у формах адзіночнага ліку націск падае на канчатак, а ў формах множнага ліку — на аснову: *вясло, вясла́, вяслу́, вясло, вяслом, (на) вясле́; вёслы, вёслаў* і *вёсел, вёслам, вёслы, вёсламі, (на) вёслах; бервяно, бервяна́, бервяну́, бервяно, бервяном, (на) бервяне́, бярвёны, бярвёнаў, бярвёнам, бярвёны, бярвёнамі, (на) бярвёнах* (схема № 11, *вясло, бервяно*).

Акцэнтны тып складаюць: двухскладовыя назоўнікі *акно, брыво, бяльмо, бядро, валлё, віно, вядро, вясло, гняздо, гумно, дзіця́, дупло, жніво, жыццё, звяно, зяло, кайло, кап'ё, кассё, кляймо, крыло, крысо, лязо, пісьмо, плячо, пяро, рабро, ружжо, сцябло, сядло, сяло, яйцо, ярмо;* трохскладовыя назоўнікі *бервяно, буслянё, валакно, варанё, ве-*

*рацяно, вужанё, жарабё, зайчанё, малако;* чатырохскладовыя назоўнікі *верацяно* і інш.

Асаблівасці акцэнтуацыі слова *дзіця́*. У творным склоне адзіночнага ліку ўжываецца з дваякім націскам: *дзіцём і дзіцем.*

Дзіцём і дзіцем: *У свет прыходзіць за дзіцём дзіця* (С. Грахоўскі); *А гады тры назад была дзяўчынкай, нават дзіцём* (Л. Дайнека); *І з дзіцём сваім, сынам.. Нарадзіла — і сястры аддала* (Б. Сачанка); *Мама хадзіла дзіцём* (В. Адамчык); *На другім годзе пачалася Марыля першым дзіцем* (Я. Брыль); *А жонка з дзіцем вось тут, дома* (В. Казько); *Перад сабою ён няўмела насіў.. скрутачак з дзіцем* (П. Місько); *Хацелася ведаць, што далей было і з тым дзіцем* (Б. Сачанка).

### Тып $C_1$ — назоўнікі з рухомым націскам

§ 913. У акцэнтны тып $C_1$ уваходзяць назоўнікі *вока, ву́ха,* якія ва ўсіх формах адзіночнага ліку і ў назоўным і вінавальным склонах множнага ліку маюць націск на аснове, а ў формах іншых склонаў множнага ліку — на флексіі: *вока, вока, воку, вока, вокам, (на) воку, вочы, вачэ́й, вача́м, вочы, вача́мі (вачы́ма), (на) вачах; ву́ха, ву́ха, ву́ху, ву́ха, ву́хам, (на) ву́ху, ву́шы, вушэ́й, вуша́м, ву́шы, вуша́мі, (на) вуша́х.*

### *Націск множналікавых назоўнікаў*

§ 914. Каля 200 назоўнікаў (93%), якія ўжываюцца толькі ў форме множнага ліку, маюць нерухомы націск на аснове — г. зн. належаць да акцэнтнага тыпу А. У іх ліку каля 70 двухскладовых, каля 100 трохскладовых, і каля 30 чатырохскладовых. У залежнасці ад таго, на якім складзе націск (на першым, другім, трэцім і г. д.), вылучаюцца групы Аа, Аб, Ав, Аг.

У групу Аа ўваходзіць прыкладна 65—70 двухскладовых назоўнікаў: *ба́бкі, ба́рмы (гіст.), ве́ды, вілкі, вілы, восці, ву́сны, га́зы, гоні, гра́блі, грошы, гу́лі, гу́слі, дра́бы, дровы, дро́жджы, дрожкі, з'е́дкі, зе́кры, злі́ўкі, зра́зы, зрэнкі, ка́дры, козлы, кру́пы, ку́длы (праст.), ла́ты (вайск.), ловы (уст.), ма́йткі, мошчы (царк., перан.), на́ры, ножны, ночвы, па́нты, пе́ксы (спарт.), пе́сты (разм.), пла́ўкі, пла́ўні, порткі, пяльцы, свя́тцы (царк.), скокі, слёзкі (бат.), сме́шкі, соты, спа́дкі (разм.), спіткі, су́ткі, сходкі, сходы, сховы, тройні, фля́кі (кул.), ця́глі, ча́ры, ша́лі, ша́ты, ша́шні, шка́нцы (мар.), шоры, шхе́ры (геагр.), я́слі* і інш.; каля 30 трохскладовых: *ве́сніцы, водведкі, водведы, воплескі, вы́бары, вы́грабкі, вы́мудры, вы́садкі, вы́селкі, вы́скваркі, дры́жыкі, жа́ртачкі, коляды* і *каля́ды, могілкі, па́часкі, пікулі (кул.), попрадкі, поцемкі, пошукі, провады, пры́гаршчы, рэзгіны, тру́сікі, ха́ханькі, ходзікі (разм.), чэсанкі, ша́хматы, шолудзі* і інш.; некалькі чатырохскладовых: *вы́перадкі* і інш.

Групу Аб складаюць каля 65 трохскладовых назоўнікаў: *абды́мкі, абні́мкі, абоі, адкі́ды, адкла́ды (геал., біял.), адходы (тэхн.), аковы, ана́лы, ачы́сткі, ваніты, вароты, вячоркі, гастролі, грымоты, дабро́ты, дажы́нкі, дасе́ўкі, дзівосы, дубэльты, жаду́нкі, задворкі, зажы́нкі, залёты, запяткі, засе́ўкі, кальсоны, каноплі, кансе́рвы, картэсы, кару́нкі, кура́нты, лагожы, ляшчоткі, мана́ткі, насілкі, нача́ткі, начоўкі, пабоі, паджы́лкі, падмосткі, падонкі, пампа́сы (геагр.), парэ́нчы, пена́ты, пісьмёны, плея́ды (астр.), прыса́ды, рабяты, разва́лкі, румя́ны, рэйту́зы, справу́нкі, сутокі, сухоты, угодкі (уст.), усходы, уцёкі, фіна́нсы, хаўту́ры, цымба́лы, цянёты, шчыке́ты* і інш., некалькі чатырохскладовых: *абста́віны, аглёдзіны, апоўзіны, праводзіны, чале́снікі* і інш.

Да групы А в належыць каля 25 чатырохскладовых назоўнікаў: *акуля́ры, акцябры́ны, алімéнты, выкрунтáсы, гарашы́ны, дамалоткі, забабоны, імяніны, клавікорды (муз.), мемуáры, мірыя́ды, нагавіцы, недабіткі, недапіткі, недапі́йкі, непалáдкі, паліме́ры, пацягу́шкі, пацяробкі, перасмéшкі, перашэ́пты, сарачы́ны* (уст.), *шаравáры* і інш.: некалькі пяцiскладовых: *перавы́бары, хімікáліі* і інш.

§ 915. Да акцэнтнага тыпу В — сталы націск на флексіі ва ўсіх формах множнага ліку — належыць 6 двухскладовых і 6 трохскладовых назоўнікаў: *брусы́, брыжы́, ваўчкí (бат.), духí, трусы́, штаны́; абцугí, калдуны́ (кул.), нелады́, паддаўкí, пасталы́ (абл.), шчыпцы́.*

§ 916. Да акцэнтнага тыпу С — націск на аснове ў форме назоўнага — вінавальнага склона і на флексіі — у формах астатніх склонаў — належаць назоўнікі *гру́дзі, сáні — грудзéй, санéй, грудзя́м, саня́м, гру́дзі, сáні, грудзьмí* і *грудзя́мі, саньмí* і *саня́мі, (аб) грудзя́х, (у) саня́х.* Адхіленні сустракаюцца ў формах давальнага, творнага і меснага склонаў, у якіх назіраецца перасоўванне націску на першы склад.

### *Размеркаванне назоўнікаў па акцэнтных тыпах*

§ 917. Акцэнтны тып А ўключае:

1. Каля 8500 назоўнікаў мужчынскага роду: у іх ліку каля 600 аднаскладовых, 3400 двухскладовых, 3000 трохскладовых, 1100 чатырохскладовых, 200 пяці- і шасціскладовых (§ 887—891).

2. Больш за 7500 назоўнікаў жаночага роду з канчаткам *-а,* сярод якіх каля 1250 двухскладовых, 3500 трохскладовых, 2300 чатырохскладовых, 600 пяціскладовых і 100 шасці-, сямі- і васьміскладовых (§ 899—901).

3. Больш за 3000 назоўнікаў жаночага роду з нулявой флексіяй, з якіх каля 40 аднаскладовых і каля 3000 двух-, трох-, чатырох-, пяці- і шасціскладовых (§ 905—908).

4. Каля 4500 назоўнікаў ніякага роду, у ліку якіх каля 100 двухскладовых, 4300 трохскладовых, 100 чатырохскладовых (§ 910).

5. Каля 190 множналікавых назоўнікаў (§ 914).

§ 918. Акцэнтны тып В уключае:

1. Каля 1500 назоўнікаў мужчынскага роду, з якіх каля 125 аднаскладовых, 970 двухскладовых, 300 трохскладовых, 100 чатырохскладовых (§ 892—894).

2. Каля 140 назоўнікаў жаночага роду на *-а*, з якіх каля 80 двухскладовых і 60 трохскладовых (§ 902).

3. Каля 40 назоўнікаў ніякага роду (§ 911).

4. Каля 15 множналікавых назоўнікаў (§ 915).

§ 919. Акцэнтны тып С уключае:

1. Больш за 300 назоўнікаў мужчынскага роду, сярод якіх каля 190 аднаскладовых і 115 двухскладовых (§ 895—897).

2. Каля 170 назоўнікаў жаночага роду з нулявой флексіяй (§ 909).

3. Каля 100 назоўнікаў ніякага роду (§ 912).

4. Множналікавыя назоўнікі *грудзі, сані* (§ 916).

Акцэнтны тып $C_1$ уключае:

1. Назоўнікі мужчынскага роду *вус, зуб, рог* (у жывёліны) (§ 898).

2. Назоўнікі ніякага роду *вока, вуха* (§ 913).

§ 920. Акцэнтны тып D уключае:

1. Назоўнік мужчынскага роду *конь* (§ 898).

2. Каля 160 назоўнікаў жаночага роду на *-а*, з якіх каля 100 двухскладовых і 60 трохскладовых (§ 903).

§ 921. Для прыметнікаў характэрны нерухомы націск, г. зн. месца націску ў слове не мяняецца пры змяненні граматычных форм прыметніка. У словаформах прыметніка націск можа быць на аснове (корані ці суфіксе) або на канчатку: *бе́лы, бе́лага, бе́ламу, бе́лым, (аб) бе́лым, бе́лая, бе́лай, бе́лую, бе́лай, (аб) бе́лай, бе́лыя, бе́лых, бе́лым, бе́лымі, (аб) бе́лых; квяці́сты, квяці́стага, квяці́стаму, квяці́стым, (аб) квяці́стым, квяці́стая, квяці́стай, квяці́стую, квяці́стай, (аб) квяці́стай, квяці́стыя, квяці́стых, квяці́стым, квяці́стымі, (аб) квяці́стых; жывы́, жыво́га, жывому, жывы́м, (аб) жывы́м, жыва́я, жывой, жыву́ю, жывой, (аб) жывой, жывы́я, жывы́х, жывы́м, жывы́мі, (аб) жывы́х.*

У большасці выпадкаў у працэсе маўлення не ўзнікае ніякіх цяжкасцей адносна месца націску ў канкрэтным слове. Толькі для некаторых прыметнікаў адзначаны акцэнтныя варыянты, якія з'яўляюцца рознымі па значэнню, напрыклад: *не́мы* (пра крык, голас) і *нямы́* (пра чалавека). Акцэнтныя варыянты могуць паяўляцца таксама пад уздзеяннем дыялектнай мовы або акцэнталагічнай сістэмы рускай мовы.

Усе поўныя прыметнікі па характару націску дзеляцца на два акцэнтныя тыпы: А і В. Прыметнікі акцэнтнага т ы п у А характарызуюцца нерухомым націскам на аснове ва ўсіх склонавых формах адзіночнага і множнага ліку: *добры, -ая, -ае, добрага, -ай, добраму, -ай ...добрыя, добрых, добрым...* Прыметнікі акцэнтнага т ы п у В характарызуюцца нерухомым націскам на канчатку: *малы́, -а́я, -ое, малога, -ой, малому, -ой ...малы́я, малы́х, малы́м...*

### Націск невытворных прыметнікаў

#### Акцэнтны тып А

§ 922. Прыметнікі акцэнтнага т ы п у А ў залежнасці ад месца націску падраздзяляюцца на два падтыпы: Аа і Аб.

Да п а д т ы п у Аа адносяцца прыметнікі з націскам на першым складзе, да п а д т ы п у А б — прыметнікі з націскам на другім складзе.

Падтып Аа ўключае большасць прыметнікаў з аднаскладовай каранёвай марфемай: *бе́лы, борзды, босы, бу́ры, бы́стры, ва́жны, востры, вя́зкі, гла́дкі, гожы, голы, годны, горды, грозны, горкі, дзі́кі, доўгі, добры, ду́жы, ду́шны, жоўты, зоркі, зы́бкі, зы́чны, ка́ры, кволы, кі́слы, кру́глы, ла́сы, ле́вы, лёгкі, лі́шні, лы́сы, лю́ты, ме́ткі, мёртвы, мі́лы, многія, мокры, му́дры, мя́ккі, ні́цы, новы, пе́шы, позні, полы, поўны, пра́вы, просты, пры́кры, прэсны, пы́шны, пэ́ўны, п'я́ны, розны, роўны, ру́сы, ры́жы, ры́хлы, рэдкі, рэзвы, рэзкі, све́жы, све́тлы, сі́ні, сі́плы, скоры, скромны, сла́бы, слі́зкі, сме́лы, сму́глы, ста́тны, строгі, стройны, стромы, сы́ты, тлу́сты, тонкі, тоўсты, убогі, хворы, хі́тры, хму́ры, хра́бры, цвёрды, це́сны, цёмны, цёплы, ці́хі, цэ́лы, ця́жкі, ча́сты, чорны, чы́сты, чэсны, шу́стры, шчодры, шчы́ры, шы́зы, шэры, ю́ны, я́ркі, я́сны, я́ўны* і некаторыя іншыя.

Падтып Аб уключае частку прыметнікаў з двухскладовай каранёвай марфемай: *бадзёры, высокі, вялі́кі, вясёлы, гара́чы, гатовы, далёкі, зая́длы, здаровы, знаёмы, зялёны, кароткі, карта́вы, наі́ўны, падобны, пану́ры, румя́ны, салёны, салі́дны, салодкі, сярэдні, цвярозы, шырокі* і некалькі іншых.

У прыметніку *ме́зіны* націск прыходзіцца на першы склад кораня.

## Акцэнтны тып В

§ 923. Да акцэнтнага тыпу В адносяцца:

1) прыметнікі з аднаскладовай каранёвай марфемай: *благі, глухі, густы, другі, дурны, жывы, злы, круты, крывы, ліхі, малы, прамы, пусты, рабы, руды, святы, скупы, сляпы, стары, сыры, тугі, тупы, худы, чужы* і некалькі іншых;

2) прыметнікі з двухскладовай каранёвай марфемай: *вараны, дарагі, залаты, малады, халасты* і некалькі іншых.

## *Націск вытворных прыметнікаў*

§ 924. Большасць прыметнікаў з'яўляюцца вытворнымі. Яны ўтварыліся і ўтвараюцца ў наш час пры дапамозе прыставак і суфіксаў ад назоўнікаў, прыметнікаў, дзеясловаў, лічэбнікаў, прыслоўяў, а таксама шляхам словаскладання.

Для вытворных прыметнікаў таксама характэрны два акцэнтныя тыпы: тып А (націск на аснове) і значна меншы па колькасці слоў тып В (націск на канчатку).

### Націск прэфіксальных прыметнікаў

§ 925. Адназоўнікавыя прыметнікі з прыстаўкай *без-* адносяцца да акцэнтнага тыпу А: *безбароды, безвалосы, безгаловы, безгалосы, без'языкі, бязбокі, бязбровы, бязвокі, бязвусы, бязвухі, бязглузды, бязгубы, бяззубы, бязлісты, бязмозгі, бязногі, бязрогі, бязрукі, бясконцы, бяскрылы, бяспальцы, бясполы, бясхвосты.*

§ 926. Прыметнікі, утвораныя пры дапамозе розных прыставак ад невытворных і суфіксальных прыметнікаў, захоўваюць націск зыходнай формы прыметніка і размяркоўваюцца адпаведна па двух тыпах.

Тып А: *безасабовы, дакастрычніцкі, задняпроўскі, залішні, нявопытны, пазакласавы, пазаўчарашні, прамудры, перадваенны, антыгістарычны, арытмічны, асіметрычны, антыграмадскі, ультралёвы.*

Тып В: *загусты, замалы, неблагі, недурны, некруты* і г. д.

### Націск суфіксальных прыметнікаў

§ 927. Суфіксальныя прыметнікі ў пераважнай большасці адносяцца да акцэнтнага тыпу А. У залежнасці ад месца націску ў акцэнтным тыпе А вылучаюцца дзве групы прыметнікаў: прыметнікі з націскам на ўтваральнай аснове: *клятва — клятвенны, сусед — суседні, акамянець — акамянелы, закрэсліць — закрэслены,* і прыметнікі з націскам на ўтваруючым суфіксе: *нізкі — нізкаваты, праўда — праўдзівы, працаваць — працавіты, пух — пуховы, сокал — сакаліны.*

#### Прыметнікі з націскам на ўтваральнай аснове

§ 928. Да гэтай групы адносяцца:

1. Прыметнікі, у якіх гістарычна вылучаецца суфікс *-ьj-: авечы, божы, бядачы, варожы, воўчы, вужачы, гадзючы, жабрачы, заечы, індычы, княжы, манаршы, мядзведжы, патрыяршы, прарочы, рыбачы, сабачы, сірочы, хамячы, хлапечы, чалавечы, чарапашы.*

У асноўным націск застаецца на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове: *воўк — воўчы, рыбак — рыбачы.* Выключэнне складаюць толькі прыметнікі, утвораныя ад назоўнікаў жаночага роду з

націскам на канчатку (*сіратá — сірочы, аўцá — авéчы*) і ад некалькіх назоўнікаў мужчынскага роду (*вораг — варожы, зáяц — заéчы*).

2. Прыметнікі з суфіксам -*н*-: *абідны, азёрны, акопны, актыўны, алфавітны, аптэчны, арамáтны, архіўны, арцéльны, аршынны, акцэнтны, арэндны, áтамны, áтлáсны, аўтобусны, бáрхатны, бетонны, білéтны, бісквітны, блакáдны, брэзéнтны, вáтны, вéчны, вінагрáдны, водачны, вокісны, выгадны, габарытны, газéтны, гартáнны, гібрыдны, гнéўны, гнойны, графітны, дáчны, дзіўны, дрэнáжны, дымны, дырэктыўны, дэкáдны, ёдны, ёлачны, жалéзны, жалобны, законны, зенітны, зобны, ідэйны, калгáсны, камáндны, кáмерны, канáтны, каскáдны, кáтаржны, конусны, курсіўны, лáгерны, латарэйны, лікёрны, лобны, лодачны, лыжны, магнітны, малярыйны, мандáтны, мáнны, мантáжны, мармелáдны, марозны, масáжны, маторны, маштáбны, мéдны, мемуáрны, мільённы, мінны, мірáжны, модны, моўны, музéйны, мускáтны, мякінны, народны, нёбны, нічыйны, пажáрны, пáлубны, парáдны, паркéтны, пáрны, патрэбны, піжáмны, пляжны, потны, пракáтны, пробны, пяхотны, рáдасны, ракéтны, рафінáдны, родны, росны, ротны, ртýтны, рыбны, рэжымны, рэклáмны, санітáрны, сапёрны, саюзны, секýндны, склáдны, слáўны, снéжны, смáчны, сольны, соусны, стрáшны, тавáрны, тарпéдны, тварожны, трáктарны, тралéйбусны, трывожны, туалéтны, тумáнны, тэлефонны, фáзны, фанéмны, фанéрны, фасонны, фінішны, фокусны, фурáжны, хакéйны, хінны, хлéбны, хлорны, хмáрны, хýтарны, чáдны, школьны, шлюзны, шýмны, шынны, яблычны, ягадны, ярусны, ясельны і інш.

Націск на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове.

У прыметніках, утвораных ад двухскладовых назоўнікаў жаночага роду з націскным канчаткам, націск перамяшчаецца на корань: *водны* (параўн. *вадá*), *вéрбны, росны, рýдны, слёзны, сямéйны.*

Перамяшчаецца націск з першага на другі склад у прыметніках *галодны* (параўн. *голад*), *калíйны, серыйны, тэхнічны, халодны.*

3. Прыметнікі з суфіксам -*н'*-: *асéнні, астáтні, бліжні, брáтні, вéрхні, вясéнні, дáльні, жытні, зáдні, замýжні, заходні, зімні, крáйні, лéтні, міжгародні, папярэдні, пярэдні, рáнні, сподні, староннi, суботні, сусéдні, сярэдні, усходні, хáтні, штогодні* і інш.

Націск заўсёды на апошнім складзе ўтваральнай асновы.

4. Большасць прыметнікаў з суфіксам -*к*-: *бойкі, вáркі, вя́зкі, гáдкі, гібкі, глáдкі, гнýткі, гонкі, éдкі, звонкі, зыбкі, зя́бкі, клéйкі, колкі, коўзкі, коўкі, ліпкі, ломкі, мéткі, мылкі, пáдкі, плáўкі, слáбкі, слізкі, стойкі, сыпкі, топкі, хвáткі, хліпкі, ходкі, цэпкі* і некаторыя іншыя.

5. Прыметнікі з суфіксам -*цельн*-: *вярыцельны, збавіцельны, дзялíцельны, мніцельны, мысліцельны, прымірыцельны, слабіцельны.*

Націск на апошнім складзе ўтваральнай асновы.

6. Прыметнікі з суфіксам -*л*-: *абвіслы, аблéзлы, абяднéлы, адстáлы, адубéлы, азвярэлы, акалéлы, акамянéлы, аняме́лы, апусцéлы, ачуасéдлы, асéлы, асіплы, асірацéлы, аслабéлы, асмяглы, ахрыплы, ашалéлы, бéглы, бывáлы, вя́лы, гадавáлы, гарэлы, гіблы, даросмéлы, даспéлы, дбáлы, дохлы, дрáхлы, жýхлы, загарэлы, загрубéлы, заінéлы, закаранéлы, заледзянéлы, заляжáлы, замшэлы, заняпáлы, запацéлы, запляснéлы, заржавéлы, засохлы, застылы, зацвярдзéлы, зачарсцвéлы, зблажэлы, збуцвéлы, збяднéлы, звар'яцéлы, звыклы, зжаўцéлы, зледзянéлы, злінялы, змарнéлы, зніклы, знямéлы, зразумéлы, зрудзéлы, зя́блы, з'ялчáлы, карэлы, кіслы, ляжáлы, мёрзлы, мінýлы, набалéлы, набрынялы, набýхлы, навіслы, напýхлы, пабялéлы, падтáлы, падужэлы, палéглы, паліня́лы, пастарэлы, пахýдзéлы, пачарнéлы, па-*

*чырванéлы, перагарэлы, пераляжáлы, перапрэлы, перасохлы, пераспéлы, прагорклы, прапацéлы, працяглы, прышлы, прэлы, пýхлы, разапрэлы, разлéзлы, размоклы, размяклы, раскíслы, распýхлы, самлéлы, саслабéлы, састарэлы, сíплы, смáглы, спéлы, узмацнéлы, узнёслы, укаранéлы, умéлы, хрыплы, чáхлы, чэзлы* і інш.

Націск на апошнім складзе ўтваральнай асновы, за выключэннем утварэнняў з прыстаўкай *вы-*, на якую перамяшчаецца націск: *вылінялы, выгаралы, выбалелы* і пад.

7. Аддзеяслоўныя прыметнікі з суфіксам *-ан-* і большасць з суфіксам *-ен-: абяздолены, аголены, акрывáўлены, голены, дáдзены, дазволены, завýчаны, задáўлены, замарожаны, закрýглены, занепакоены, заняволены, запаволены, запознены, засвоены, заслýжаны, затоены, затумáнены, звéдзены, звольнены, згорблены, згýблены, здаволены, здзéйснены, знясíлены, кантýжаны, клéены, крáдзены, кроены, лінéены, мáсляны, насýплены, плáўлены, плéцены, раздроблены, рáнены, расслáблены, самазаспакоены, самаздаволены, самаўпэўнены, састоены, слоены, смолены, ссутýлены, стомлены, умоўлены, ўніжаны, уцэнены* і г. д.

8. Адназоўнікавыя прыметнікі з суфіксам *-енн-: абéдзенны, брытвенны, вогненны, грывенны, казáрменны, клятвенны, кроквенны, малітвенны, фірменны, форменны, рэформенны, падэшвенны, похвенны, цáрственны.* А л е *з а д у м é н н ы.*

9. Аддзеяслоўныя прыметнікі з суфіксам *-т-: абýты, біты, брыты, гнýты, забыты, заняты, заўзяты, зацяты, крыты, мыты, праклятыы, увагнýты, цёрты* і г. д.

Націск на апошнім складзе ўтваральнай асновы. Толькі некалькі прыметнікаў, якія ўтвораны ад дзеясловаў з поўнагалосным злучэннем *-ола-*, маюць націск на першым складзе ўтваральнай асновы: *колаты, молаты.*

10. Прыметнікі з суфіксам *-ев-: алéневы, акáцыевы, алюмініевы, вермішэлевы, вігоневы, восевы, вýсцевы, гарнастáевы, далоневы, дыяганáлевы, зяблевы, кáльцыевы, карáкулевы, крэмніевы, ліўневы, локцевы, лопасцевы, мáгніевы, мáрлевы, мэблевы, нáтрыевы, нікелевы, нýтрыевы, павéрхневы, пéўневы, скроневы, соевы, фарэлевы, фасолевы, фéрзевы, фланéлевы, хмéлевы, цюлевы, цюлéневы, чарэшневы, шáлевы, эмáлевы, яблыневы, ясеневы* і інш.

У прыметніках з гэтым суфіксам націск захоўваецца на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове.

11. Большасць прыметнікаў з суфіксам *-ав-* (які ўзыходзіць да *-ов-, -ев-*)*: абрáдавы, абрыкосавы, авáнсавы, акордавы, алеáндравы, аліўкавы, анілінавы, анісавы, апельсінавы, асінавы, бáйкавы, баксітавы, балáнсавы, бамбýкавы, банáнавы, бáржавы, бáрсавы, бéжавы, бензінавы, блáнкавы, бомбавы, бочкавы, бромавы, бронзавы, брыльянтавы, брэдавы, бэзавы, бярозавы, ванілінавы, гáзавы, гéрбавы, гільзавы, гіпсавы, гіпюравы, глазýравы, глянцавы, грáбавы, гранáтавы, графітавы, грýшавы, дáмбавы, джáзавы, дзятлавы, доларавы, дрáпавы, жáнравы, зáмшавы, зародышавы, знáкавы, іпрытавы, кáктусавы, калінавы, капронавы, кáрлікавы, кáрпавы, карýндавы, кáсавы, каўчýкавы, каштáнавы, квáнтавы, квáрцавы, кіпарысавы, клáсавы, коцікавы, крáбавы, крэдытавы, крэмавы, крэпавы, крэпдэшынавы, лавáндавы, лáйкавы, лáкавы, лáсцікавы, леапáрдавы, лыкавы, лямпавы, малінавы, мáльвавы, мáмантавы, мáнгавы, мандарынавы, мáрганцавы, маргарынавы, мáркавы, маркізéтавы, мáсавы, маслінавы, мáчтавы, меланжавы, мельхіёравы, нафталінавы, нейлонавы, неонавы, нéрпавы, нікацінавы, норкавы, пáльмавы, парафінавы, пáркавы, парусінавы, пéмзавы, пéрцавы,*

*пла́навы, пла́цінавы, плю́шавы, плю́шчавы, пу́ншавы, рабі́навы, радо-навы, ра́завы, ра́кавы, ра́нцавы, ра́савы, ролі́кавы, ромавы, ромбавы, рубі́навы, ру́мбавы, рэ́стравы, рэ́йдавы, рэлі́ктавы, рэ́льсавы, са́гавы, са́джанцавы, сапфі́равы, саф'я́навы, саці́навы, склонавы, сла́нцавы, слі́вавы, содавы, спа́ржавы, споравы, стра́усавы, стэары́навы, стэндавы, сюрыкавы, та́ктавы, та́нкавы, тапа́завы, толавы, тросавы, ту́кавы, ты-цы́нкавы, тэмбравы, фі́бравы, фі́гавы, фі́нікавы, фія́лкавы, фла́нцавы, фле́йцавы, фольгавы, фонавы, фондавы, фры́завы, фрэ́скавы, хлараф́і-лавы, хордавы, хромавы, ці́кавы, цылі́ндравы, цы́нкавы, цю́бінгавы, чарапа́хавы, ча́савы, чэкавы, ша́нцавы, ша́рыкавы, шла́кавы, шла́нгавы, шокавы, шта́мбавы, шта́нгавы, эхі́накокавы, эці́лавы, ягуа́равы* і інш.

Націск на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове.

12. Большасць прыметнікаў з суфіксам *-лів-*: *абыходлі́вы, агі́длівы, адыходлі́вы, ве́тлівы, вынаходлі́вы, выноcлі́вы, гаспада́рлівы, грэблі́вы, даве́рлівы, дага́длівы, даку́члівы, дапы́тлівы, жа́ласлівы, заду́млівы, нава-за́манлівы, запа́слівы, засу́шлівы, зме́нлівы, знаходлі́вы, ке́млівы, на-зойлівы, недаве́рлівы, непасе́длівы, пава́длівы, пагодлі́вы, пада́тлівы, па́мятлівы, пераборлі́вы, пераме́нлівы, пранізлі́вы, прарэзлі́вы, прыва́б-лівы, угодлі́вы, уду́млівы, уду́шлівы, уе́длівы, услу́жлівы, устойлі-вы* і інш.

Націск звычайна на перадсуфіксальным складзе. А л е *жа́ласлівы, па́мятлівы*.

13. Частка прыметнікаў з суфіксам *-іст-*: *абры́вісты, адры́вісты, азоці́сты, бромі́сты, гле́істы, глі́ністы, ёдзі́сты, жале́зісты, жылі́сты, задзі́рысты, зака́цісты, залі́вісты, захле́бісты, зві́лісты, каля́іністы, кісларо́дзісты, крухма́лісты, кудзе́лісты, кучара́вісты, мазолі́сты, мар-шчы́ністы, нава́рысты, надры́вісты, пад'е́місты, пака́цісты, пакла́дзісты, пані́рысты, пародзі́сты, парожы́сты, пары́вісты, пе́ністы, пе́рысты, пла-сці́ністы, пля́місты, порысты, пузы́рысты, разва́лісты, разве́сісты, раз-га́лісты, раскі́дзісты, распльі́вісты, рассы́пісты, рашэці́сты, сасу́дзісты, скна́рысты, слі́зісты, спружы́ністы, суглі́ністы, тва́ністы, тваро́жысты, тума́ністы, уха́бісты, фанабэ́рысты, фасоні́сты, фігу́рысты, хва́лісты, хлорысты, хромі́сты, ці́ністы, чле́ністы, шква́лісты, шчаці́ністы.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

14. Пераважная большасць прыметнікаў з суфіксам *-ск-* (*-цк-*): *абха́зскі, адміра́льскі, акія́нскі, алба́нскі, алжы́рскі, аптэкарскі, ара́бскі, армя́нскі, а́ўтарскі, афга́нскі, афіцэ́рскі, баронскі, берлі́нскі, боцманскі, ва́рварскі, волжскі, га́ванскі, гала́ндскі, генера́льскі, геро́йскі, ге́тман-скі, гра́фскі, гуса́рскі, да́мскі, дыкта́тарскі, дырыжорскі, запарожскі, іра́нскі, кавале́рскі, каза́нскі, карэ́йскі, каўбо́йскі, каўка́зскі, кіргі́зскі, кіта́йскі, клоунскі, конскі, лаке́йскі, ле́карскі, ле́ктарскі, ле́нінскі, лі́дэр-скі, ліцэ́йскі, ло́цманскі, людае́дскі, мае́рскі, ма́йскі, малда́ўскі, мі́чман-скі, нарма́ндскі, пага́нскі, па́нскі, пары́жскі, пасажы́рскі, пе́рмскі, пія-не́рскі, прара́бскі, ра́бскі, ра́йскі, ры́царскі, се́рбскі, славя́нскі, суда́н-скі, султа́нскі, усе́дскі, сяля́нскі, тата́рскі, фантазе́рскі, ца́рскі, цыга́нскі, чле́нскі, чэшскі, шве́дскі, шпіе́нскі, эстонскі, юнке́рскі; аба́цкі, адвака́цкі, банды́цкі, бра́цкі, бурла́цкі, бядня́цкі, гіга́нцкі, гоцкі, да́цкі, дэлега́цкі, езуі́цкі, кадэцкі, камча́цкі, кула́цкі, лейба́рысцкі, ліліпу́цкі, марксі́сцкі, мужы́цкі, пілоцкі, піра́цкі, расі́сцкі, рыба́цкі, савецкі, сал-да́цкі, све́цкі, секта́нцкі, сена́цкі, сержа́нцкі, слава́цкі, студэнцкі, унія́цкі, фашы́сцкі, флоцкі, чукоцкі, чэхаслава́цкі, эмігра́нцкі, юна́цкі, яку́цкі* і інш.

Націск на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове.

15. Прыметнікі з суфіксам *-аўск-*: *ба́нкаўскі, войта́ўскі, дзе́даўскі,*

*джа́заўскі, з'е́здаўскі, мартэнаўскі, парткомаўскі, прара́баўскі, рабфа́каўскі, райкомаўскі, рэнтге́наўскі, спарта́каўскі.*

Націск на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове.

16. Прыметнікі з суфіксам *-льн-: абагача́льны, абаграва́льны, абараня́льны, акісля́льны, араша́льны, брадзі́льны, брашурава́льны, бу́рыльны, бялі́льны, валачы́льны, вастры́льны, віншава́льны, вышыва́льны, вяза́льны, габлява́льны, глыта́льны, глянцава́льны, гравірава́льны, грані́льны, даві́льны, дзялі́льны, драбі́льны, дубі́льны, жава́льны, завярша́льны, загараджа́льны, закліна́льны, замацава́льны, зубі́льны, капа́льны, кадзі́льны, капірава́льны, кіпяці́льны, круці́льны, купа́льны, куры́льны, лічы́льны, лудзі́льны, лята́льны, малаці́льны, маха́льны, мачы́льны, мясі́льны, насі́льны, насыча́льны, пазнава́льны, паі́льны, паласка́льны, патрабава́льны, прамака́льны, прыстасава́льны, радзі́льны, раздрабня́льны, ратава́льны, рысава́льны, рэзальны, сваці́льны, сіні́льны, скака́льны, снава́льны, спалуча́льны, спусташа́льны, ствара́льны, сузіра́льны, сушы́льны, танцава́льны, тачы́льны, траві́льны, трапа́льны, уступа́льны, халадзі́льны, цадзі́льны, церабі́льны, ціскальны, чарні́льны, часа́льны, шліфава́льны, штампава́льны* і інш.

Большасць прыметнікаў захоўвае націск утваральнай асновы.

Выключэнне складаюць наступныя: *лушчы́льны, пары́льны, плаві́льны, чысці́льны.* Параўн.: *лу́шчыць, па́рыць, пла́віць, чы́сціць.*

17. Прыметнікі з суфіксам *-ін (-ын): Але́нін, ба́бін, вавёрчын, варо́нін, га́лчын, жа́бін, Зосін, зязю́лін, зязю́льчын, каровін, мамін, Мары́льчын, мату́льчын, Ната́шын, Ні́нін, руса́лчын, ры́бін, сарочын* і інш.

Націск на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове. Але *даччы́н, сястры́н.*

Форма *доччын*, якая ўжываецца ў гутарковай мове пад уплывам гаворак, з'яўляецца парушэннем нормы.

18. Частка адпрыслоўных прыметнікаў з суфіксам *-шн-* і вытворнымі ад яго *-ашн-, -яшн-, -ышн-: заўсёдашні, за́ўтрашні, колішні, ле́ташні, пазале́ташні, сённяшні, сягонняшні, та́машні, цяпе́рашні.*

Націск на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове.

19. Большасць прыметнікаў з суфіксам *-чат-: бярве́нчаты, грабе́нчаты, ды́мчаты, калéнчаты, палаві́нчаты, расплы́ўчаты, рассы́пчаты, рэпчаты, суста́ўчаты, сцябе́льчаты, ступе́ньчаты, фестончаты.*

Націск на перадсуфіксальным складзе.

20. Прыналежныя прыметнікі з суфіксамі *-еў, -аў: Аляксе́еў, Антосеў, бра́таў, Віктараў, Мікала́еў, му́жаў, Рама́наў, Рыгораў, сва́таў, сы́наў, тава́рышаў, Яку́баў, Янкаў* і г. д.

Націск на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове.

21. Прыметнікі, утвораныя ад дзеясловаў пры дапамозе суфіксаў *-уч- (-юч-): а́каючы, асвяжа́ючы, бры́ючы* (палёт), *вя́жучы, галада́ючы, зыходзячы, кіру́ючы, колючы, мы́слячы, ны́ючы, няга́снучы, окаючы, паспява́ючы, пі́шучы, пра́вячы, рэжучы, суправаджа́ючы* і інш.

22. Прыметнікі з ацэначнымі суфіксамі *-еньк-, -аньк-: акура́тненькі, бе́ленькі, ву́зенькі, добранькі, дробненькі, зялёненькі, кру́гленькі, лёганькі, мі́ленькі, мя́кенькі, новенькі, просценькі, прыгожанькі, све́тленькі, сла́бенькі, тоненькі, цёпленькі, ці́хенькі* і інш.

23. Простыя формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў з суфіксам *-ш-: большы, горшы, ле́пшы, малодшы, ме́ншы, ста́ршы, шы́ршы* і інш.

Націск на апошнім складзе ўтваральнай асновы.

§ 929. Да гэтай групы адносяцца:

1. Прыметнікі з суфіксам *-ават-* (*-яват-*): *белава́ты, бледнава́ты, ґеліка́ваты, вуглава́ты, вуграва́ты, вузкава́ты, галубава́ты, гаркава́ты, гладкава́ты, глухава́ты, гнілава́ты, дарагава́ты, даўгава́ты, дзікава́ты, жаўтава́ты, карычнява́ты, кіслава́ты, крывава́ты, мешкава́ты, мяккава́ты, наздрава́ты, нізкава́ты, рабава́ты, радкава́ты, рубцава́ты, рыжава́ты, свежава́ты, сінява́ты, слабава́ты, слепава́ты, старава́ты, страшнава́ты, сукава́ты, сырава́ты, танкава́ты, тугава́ты, цвердава́ты, цяжкава́ты, шыракава́ты* і інш.

2. Прыметнікі з суфіксам *-ат-*: *вуса́ты, галава́ты, гарба́ты, губа́ты, зуба́ты, крыла́ты, кудла́ты, лаба́ты, марда́ты, наса́ты, пуза́ты, рага́ты, саха́ты, хваста́ты, хрыпа́ты, чуба́ты, шчарба́ты, языка́ты* і інш.

3. Прыметнікі з суфіксамі *-арн-* (*-ярн-*), *-тарн-*: *адзіна́рны, альвеаля́рны, вестыбуля́рны, гіпафіза́рны, глабуля́рны, гуманіта́рны, дысцыпліна́рны, канікуля́рны, карпускуля́рны, лапіда́рны, легенда́рны, лейкацыта́рны, малекуля́рны, нерэгуля́рны, паразіта́рны, парламента́рны, папуля́рны, партыкуля́рны, парцэля́рны, плацэнта́рны, плена́рны, рэгуля́рны, саліда́рны, сегмента́рны, сума́рны, таталіта́рны, тытуля́рны, уніта́рны, утыліта́рны, фабуля́рны, фалікуля́рны, фамілья́рны, фрагмента́рны, цыркуля́рны, шыка́рны, элемента́рны, эпісталя́рны.*

4. Большасць прыметнікаў з суфіксам *-іст-* (*-ыст-*): *агні́сты, басі́сты, вадзяні́сты, валакні́сты, валасі́сты, ваўні́сты, вячы́сты, галасі́сты, ганары́сты, гары́сты, грабяні́сты, дажджы́сты, дваі́сты, дрыгві́сты, дуплі́сты, залаці́сты, зямлі́сты, зярні́сты, імглі́сты, імшы́сты, іскры́сты, каласі́сты, камяні́сты, карчы́сты, касці́сты, кваці́сты, крамяні́сты, крывяні́сты, куп'і́сты, кусці́сты, лапушы́сты, лясі́сты, макры́сты, мучні́сты, мясі́сты, мятлі́сты, нававі́сты, папялі́сты, плячы́сты, пні́сты, празры́сты, прамяні́сты, пушы́сты, рабры́сты, расі́сты, серабры́сты, скалі́сты, слаі́сты, смалі́сты, студзяні́сты, сярні́сты, тарфяні́сты, травяні́сты, траі́сты, фарсі́сты, цукры́сты, цяні́сты, цярні́сты, шарсці́сты, шатры́сты, шклі́сты, шаўкаві́сты, яршы́сты.*

5. Прыметнікі з суфіксам *-аст-*, *-част-*: *блішча́сты, віхра́сты, вуша́сты, галяна́сты, гарла́сты, загіна́сты, закруча́сты, карана́сты, скула́сты; блінча́сты, дзюбча́сты, жалабча́сты, зубча́сты, купча́сты* і інш.

6. Прыметнікі з суфіксамі *-авіт-*, *-іт-*: *басаві́ты, глянцаві́ты, дамаві́ты, дзелаві́ты, знакамі́ты, ледаві́ты, мазгаві́ты, масці́ты, пладаві́ты, прагаві́ты, працаві́ты, радаві́ты, сакаві́ты, самаві́ты, санаві́ты, сярдзі́ты, таленаві́ты, хвараві́ты, цягаві́ты, ядаві́ты* і інш.

7. Прыметнікі з суфіксам *-ів-* (*-ыв-*): *вашы́вы, ігры́вы, ілжы́вы, ільсці́вы, літасці́вы, ляні́вы, паршы́вы, плаксі́вы, пляшы́вы, праўдзі́вы, раўні́вы, фальшы́вы, чарві́вы, шалудзі́вы* і некаторыя іншыя. А л е *мі́ласцівы, ю́родзівы.* Націскны варыянт *міласці́вы,* які сустракаецца ў гутарковай мове, з'яўляецца парушэннем літаратурнай нормы.

8. Прыметнікі з суфіксам *-іўн-* (*-ыўн-*): *аб'екты́ўны, агрэсі́ўны, апараты́ўны, дэкараты́ўны, дэманстраты́ўны, інтэнсі́ўны, кааператы́ўны, канструкты́ўны, масі́ўны, пазіты́ўны, прагрэсі́ўны, рэзультаты́ўны, рэпрэсі́ўны, спарты́ўны, флекты́ўны, экспансі́ўны* і інш.

9. Прыметнікі з суфіксамі *-ічн-* (*-ычн-*), а таксама *-этычн-*, *-ітычн-*, *-атычн-*, *-істычн-*: *акадэмі́чны, алгебраі́чны, аманімі́чны, апаты́чны, архаі́чны, археалагі́чны, біялагі́чны, вулкані́чны, гармані́чны, геаграфі́чны, гуманісты́чны, дагматы́чны, дэмакраты́чны, ідэалісты́чны, ірані́чны, камуністы́чны, катастрафі́чны, крысталі́чны, магі́чны, мелады́чны, металургі́чны, паталагі́чны, паэты́чны, празаі́чны, псіхалагі́чны,*

*рамбічны, рэалістычны, сацыялістычны, сімпатычны, сімфанічны, сцэнічны, тыпічны, тэхналагічны, фактычны, фармалістычны, фізіялагічны, флегматычны, фразеалагічны, футурыстычны, халвічны, хімічны, цыклічны, элегічны, энергічны* і інш.

10. Прыметнікі з суфіксам *-ов- (-ёв-): айвовы, бабовы, барановы, брусковы, бялковы, валовы, вераснёвы, вяршковы, груздзёвы, драздовы, дубовы, жалудзёвы, журайлёвы замковы, карасёвы, кітовы, клінковы, кратовы, лазовы, ласасёвы, ласёвы, літровы, лядовы, мядовы, метровы, павуковы, парашковы, прадуктовы, пудовы, пуховы, пясцовы, радкозы, рублёвы, рудніковы, садовы, сасновы, скарбовы, слановы, смычковы, сталовы, трасковы, тыгровы, фунтовы, хваёвы, хлапчуковы, чарвяковы, шчупаковы* і інш.

11. Прыналежныя прыметнікі з суфіксам *-оў (-ёў): гаспадароў, Васілёў, Гаўрусёў, жаніхоў, камароў, каршуноў, пастухоў* і інш.

12. Прыметнікі з суфіксамі *-анск- (-янск-), -ійск- (-ыйск-), -ейск- (-эйск-), -інск- (-ынск-), -оўск- (-ёўск-): амерыка́нскі, афрыка́нскі, бірма́нскі* (націскны варыянт *бірманскі*, які сустракаецца ў гутарковай мове, з'яўляецца парушэннем акцэнтуацыйнай нормы), *венецыя́нскі, гаіця́нскі, гегелья́нскі, крытыка́нскі, лютэра́нскі, мексіка́нскі, неапаліта́нскі, негрыця́нскі, патрыцыя́нскі, перуа́нскі, рэспубліка́нскі; алімпійскі, балтыйскі* і інш.; *арме́йскі, біблейскі, кампане́йскі, міліцэйскі, піфагарэйскі, эпікурэйскі* і інш.; *далмацінскі, кубінскі, мацярынскі, пехацінскі, сястрынскі, хівінскі* і інш.; *барцоўскі, бацькоўскі, вучнёўскі, дзядоўскі, дняпроўскі, жаніхоўскі, жыгулёўскі, крамлёўскі, ксяндзоўскі, купцоўскі, папоўскі, парабкоўскі* (націскны варыянт *па́рабкаўскі* з'яўляецца парушэннем літаратурнай нормы), *старыкоўскі, сыноўскі, сяброўскі, чартоўскі, шальмоўскі* і інш.

13. Прыметнікі з суфіксам *-лів-: асаблівы, баязлівы, блудлівы, бразгатлівы, брыклівы, бурклівы, вірлівы, гаварлівы, гадлівы, гняўлівы, гуллівы, гутарлівы, дажджлівы, жартаўлівы, жахлівы, зіхатлівы, зласлівы, зычлівы, імклівы, крыклівы, куслівы, маўклівы, мігатлівы, мітуслівы, патлівы, піскклівы, пужлівы, руплівы, санлівы, саплівы, сарамлівы, сварлівы, сіратлівы, слязлівы, хлуслівы, цярплівы, шчабятлівы, шчаслівы, юрлівы.*

14. Некаторыя прыметнікі з суфіксам *-чат-: брусча́ты, бугарча́ты, губча́ты, двухзубча́ты, зубча́ты, кратча́ты, сятча́ты.*

15. Невялікая колькасць прыметнікаў з суфіксам *-ав-* (этымалагічны *-ав-*): *дзіра́вы, іржа́вы, кара́вы, карта́вы, кашча́вы, крыва́вы, кульга́вы, курча́вы, кучара́вы, плюга́вы, прышча́вы, яскра́вы.*

16. Некаторыя прыметнікі з суфіксам *-ян- (-ан-): алавя́ны, аўся́ны, берасця́ны, ваўня́ны, гліня́ны, дашча́ны, імша́ны, канапля́ны, крамя́ны, палатня́ны, палымя́ны, пясча́ны, саламя́ны, супясча́ны, цагля́ны.*

17. Прыметнікі з суфіксамі *-яв-, -ляв-, -арляв-: слінявы, чарня́вы; кастля́вы, трухля́вы; хударля́вы* і інш.

18. Прыметнікі з суфіксам *-мян-: паслухмя́ны, сухмя́ны* і інш.

19. Прыметнікі з суфіксам *-ін- (-ын-): арлíны, барсучыны, бычыны, гагарыны, галчыны, гусіны, звярыны, кабыліны, камарыны, курыны, ласіны, лебядзіны, лісіны, мышыны, павучыны, сабаліны, сакаліны, трусіны, шакаліны.*

20. Прыметнікі з суфіксам *-яч- (-ач-): быдля́чы, быча́чы, гага́чы, дзіця́чы, жараба́чы, кабыля́чы, каравя́чы, кураня́чы, мыша́чы, парася́чы, птуша́чы, свіня́чы, цяля́чы, шчаня́чы, шчыгля́чы, ягня́чы.*

21. Прыметнікі аддзеяслоўнага паходжання з суфіксамі *-ашч- (-яшч-), -ушч- (-юшч-): валача́шчы, валя́шчы, гуля́шчы, заваля́шчы, прапа́шчы,* а таксама *ляда́шчы, немагу́шчы, непіту́шчы.*

22. Прыметнікі з суфіксам *-эбн- (-ебн-)*: *вучэбны, лячэбны, урачэбны, хвалёбны* і інш.

23. Прыметнікі з суфіксам *-эўн-*: *душэўны, задушэўны.*

24. Прыметнікі з суфіксам *-есн-*: *нябесны, паднябесны, славесны, цялесны.*

25. Прыметнікі з суфіксамі *-озн-, -эзн-*: *высозны, вянозны, грыпозны, крупозны, лімфозны, тыфозны, хларозны; высачэзны, даўжэзны, шырачэзны.*

26. Прыметнікі з суфіксам *-эльн-*: *чытэльны, смяртэльны.*

27. Прыметнікі з суфіксам *-энн-*: *высачэнны, шырачэнны.*

28. Прыметнікі з суфіксам *-эрн-*: *цяжэрны.*

29. Прыметнікі з суфіксам *-орн-*: *ілюзорны.*

30. Прыметнікі з суфіксам *-отн-*: *дабротны, кіслотны, цынготны.*

31. Прыметнікі з суфіксам *-оўн-*: *віноўны, вярхоўны, грахоўны, духоўны, каштоўны, швартоўны.*

32. Прыметнікі з суфіксам *-очн-*: *адзіночны, лубочны.*

33. Некалькі адпрыслоўных прыметнікаў з суфіксам *-шн-*: *дамáшні, заўчарáшні, пазаўчарáшні, учарáшні, тады́шні (разм.).*

34. Частка прыметнікаў аддзеяслоўнага паходжання з суфіксамі *-уч- (-юч-), -ач- (-яч-)*: *балю́чы, бліску́чы, бразгу́чы, бягу́чы, вісячы, вяду́чы, гару́чы, грыму́чы, звіня́чы, зыбу́чы, калю́чы, кіпу́чы, кіпя́чы, ліню́чы, ліпу́чы, лежáчы, ляту́чы, неміну́чы, нясу́чы, паду́чы, паўзу́чы, паху́чы, плыву́чы, пяву́чы, пяку́чы, скрыпу́чы, спя́чы, стая́чы, стрыгу́чы, сядзя́чы, сяку́чы, траску́чы, трасу́чы, хадзя́чы, цягу́чы, цяку́чы, шыпу́чы, шыпя́чы.*

35. Аддзеяслоўныя прыметнікі з суфіксам *-ён- (-он-)*: *адушаўлёны, вучоны, кіпячоны, куплёны, натхнёны, незлічоны, падазроны, пракажоны, пранікнёны, раздражнёны, салёны, сцеражоны, улюбёны, умудроны, утрапёны, хрышчоны, ціснёны, шалёны.*

36. Прыметнікі з ацэначнымі суфіксамі *-эньк- (-еньк-), -аваценьк- (-яваценьк-), -явеньк-, -усеньк- (-юсеньк-), -усенечк- (-юсенечк-), -утк- (-ютк-), -юпаценьк-, -юпасеньк-*: *гусце́нькі, даражэнькі, дурне́нькі, крыве́нькі, маладзе́нькі, мале́нькі, рабе́нькі, сляпе́нькі, старэнькі, худзе́нькі; белавáценькі малавáценькі, сінявáценькі; бяля́венькі, чарня́венькі; бялю́сенькі, малю́сенькі, малю́сенечкі; бялю́ткі, драбню́ткі, малю́ткі, свяжу́ткі, ціху́ткі; малюпáсенькі, малюпáценькі.*

37. Формы вышэйшай ступені параўнання прыметнікаў з суфіксам *-эйш- (-ейш-)*: *бліжэйшы, весяле́йшы, вышэйшы, гарачэйшы, дале́йшы, даражэйшы, зеляне́йшы, караце́йшы, лягчэйшы, мацне́йшы, наве́йшы, пазне́йшы, прасце́йшы, святле́йшы, слабе́йшы, смачне́йшы, старэйшы, чарне́йшы* і г. д. А л е *акурáтнейшы, выдáтнейшы, галоўнейшы, магу́тнейшы, міласэрнейшы.*

### Прыметнікі з націскам на канчатку

§ 930. Частка суфіксальных прыметнікаў мае націскны канчатак (т ы п В). Да гэтага тыпу адносяцца:

1. Большасць прыметнікаў з суфіксам *-ан- (-ян-)*: *аржаны́, вадзяны́, валасяны́, варсяны́, вашчаны́, дрыгвяны́, земляны́, ікраны́, іржаны́, ільняны́, лубяны́, медзяны́, нутраны́, ніцяны́, прасяны́, парцяны́, пруцяны́, слюдзяны́, смаляны́, сурмяны́, скураны́, травяны́, тарфяны́, шарсцяны́, шкляны́, шкураны́.* У гутарковай мове частка гэтых прыметнікаў можа ўжывацца з націскам на суфіксе: *аржáны, іржáны, ільня́ны, касця́ны, крупя́ны, крывя́ны, лядзя́ны, лубя́ны, мядзя́ны, ніця́ны, пар-*

*ця́ны, прася́ны, скура́ны, слюдзя́ны, смаля́ны, сурмя́ны, тарфя́ны, травя́ны, шарсця́ны, шкля́ны.*

2. Частка прыметнікаў з суфіксам *-ав-* (які ўзыходзіць да *-ов-, -ев-*): *бакавы́, баравы́, бартавы́, бахчавы́, біржавы́, буравы́, бытавы́, валавы́, ветравы́, вуглавы́, вузлавы́, гадавы́, галасавы́, гарлавы́, гнездавы́, грузавы́, групавы́, гужавы́, гукавы́, дажджавы́, дамавы́, дзелавы́, дугавы́, духавы́, дымавы́, ездавы́, каласавы́, кальцавы́, канцавы́, кармавы́, ключавы́, кругавы́, курсавы́, кускавы́, куставы́, лабавы́, ламавы́, легкавы́, лесавы́, ліставы́, мазгавы́, маставы́, махавы́, межавы́, мелавы́, насавы́, нізавы́, палявы́, паравы́, плечавы́, плугавы́, праваравы́, рагавы́, радавы́, сілавы́, снегавы́, спіртавы́, тылавы́, тыпавы́, фармавы́, франтавы́, хадавы́, хваставы́, цеплавы́, цыркавы́, чаявы́, чыставы́, шаравы́, штармавы́, штурмавы́, штыкавы́, шумавы́, яравы́* і некаторыя іншыя.

3. Невялікая колькасць прыметнікаў з суфіксам *-н-*: *абласны́, адпраўны́, акружны́, брушны́, валасны́, вушны́, галаўны́, грудны́, грыбны́, губны́, двайны́, дзвярны́, заказны́, заліўны́, запасны́, зубны́, зямны́, капусны́, лапушны́, лясны́, мучны́, мясны́, нажны́, начны́, нумарны́, падрыўны́, падстаўны́, патайны́, пушны́, пячны́, разны́, рачны́, ручны́, свіны́, скідны́, спінны́, спіртны́, сплаўны́, стальны́, сыпны́, трайны́, устаўны́, чарапны́, чацвярны́, штабны́, штрафны́.*

4. Некалькі прыметнікаў з суфіксам *-ск-*: *агульнагарадскі́, гарадскі́, данскі́, марскі́, прыхадскі́, хутарскі́.*

5. Некалькі прыметнікаў з суфіксам *-к-*: *гаваркі́, гаманкі́, трапяткі́, ядкі́.*

6. Некалькі прыметнікаў з суфіксам *-л-*: *былы́, гнілы́, жылы́, нежылы́, пажылы́.*

### Націск кароткіх прыметнікаў

§ 931. У большасці кароткіх прыметнікаў націск захоўваецца на тым жа складзе, што і ў поўных формах: *ахвочы — ахвоч, ахвоча; бага́ты — бага́т, бага́та; бе́дны — бе́дзен, бе́дна; вінава́ты — вінава́т, вінава́та; вялі́кі — вялі́к, вялі́ка; грозны — грозен, грозна; ду́жы — дуж, ду́жа; згодны — згодзен, згодна; здаровы — здароў, здарова; лю́бы — люб, лю́ба; мі́лы — мі́л, мі́ла; пэ́ўны — пэвен, пэ́ўна; падобны — падобен, падобна; поўны — повен, поўна; све́тлы — све́цел, све́тла; слаўны — сла́вен, сла́ўна; спакойны — спакоен, спакойна* і інш.

Мяняецца месца націску ў кароткіх формах прыметнікаў, якія ў поўнай форме маюць націск на канчатку: *глухі́ — глух, глу́ха; дарагі́ — дораг — дорага; жывы́ — жыў, жы́ва; малады́ — молад, молада; малы́ — мал, ма́ла; скупы́ — скуп, ску́па; стары́ — стар, ста́ра,* а таксама *вясёлы — ве́сел, ве́села; зялёны — зе́лен, зе́лена; хітры — хіцёр.*

### Націск складаных прыметнікаў

§ 932. У складаных прыметніках можа быць адзін націск. Тады ён падае на другую састаўную частку прыметніка. У радзе прыметнікаў можа быць два, рэдка больш націскаў. У такіх выпадках асноўны націск падае на апошнюю састаўную частку прыметніка, а на астатніх паяўляецца так званы пабочны націск. Месца націску ў састаўных частках прыметніка звычайна тое ж, што і ў асобных словах.

Адзін націск маюць:

1) прыметнікі, утвораныя шляхам далучэння *паў-, напаў-* да прыметніка або дзеепрыметніка: *паўава́льны, паўадкры́ты, паўадчы́нены, паўафіцы́йны, паўгадзінны, паўдзі́кі, паўзакры́ты, паўлітровы, паўпа-*

*рожні, паўцвёрды; напаўзачынены, напаўільняны, напаўкруглы* і інш.;

2) прыметнікі з першай часткай *адна-*: *аднаактавы, аднаатамны, аднабокі, аднавалентны, аднагалосны, аднакаліберны, аднамесны, аднаногі, аднапавярховы, аднарукі, аднатонны, адначасовы, аднашэрсны, аднаякарны*;

3) прыметнікі з першай часткай *што-, фота-, мота-*: *штовячэрні, штогадзінны, штогодні, штомесячны, штотыднёвы, штохвілінны; фоталітаграфічны, фотаметрычны, фотамеханічны, фотарэпарцёрскі, фотатыпічны; мотамеханізаваны, мотастралковы* і інш.;

4) прыметнікі, у якіх першая частка — лічэбнікі: *двухатамны, двухкалейны, двухкіламетровы, двухкрылы, двухмоўны, двухтомны; пяціпавярховы, пяціразовы, пяцітонны, пяцітысячны; трохвосевы, трохвугольны, трохгадовы; сяміпольны, сяміпудовы, сяміразовы; чатырохгадовы, чатырохлісты, чатырохмесны; шасцігадовы, шасцігаловы, шасцівугольны, шасцігранны* і інш.;

5) прыметнікі з першай часткай *шмат-*: *шмататамны, шматбаковы, шматгаліновы, шматдзённы, шматзначны, шматзубчаты, шматкаляровы, шматкватэрны, шматмоўны, шматсастаўны, шматтомны* і інш.;

6) прыметнікі з першай часткай *сама-*: *самавызначальны, самадзейны, самазадаволены, самаўпраўны, самаўпэўнены* і інш.;

7) большасць складаных прыметнікаў, другая частка якіх мае націск на першым складзе: *агнямётны, агнястрэльны, белабокі, вадавозны, вадаёмкі, вакамерны, вальнадумны, вастраверхі, вастраносы, дабравольны, дабрадушны, дабратворны, дабраякасны, даўгавечны, дзікарослы, жалезарудны, жаўтакрылы, жаўтароты, жыццярадасны, канапляводны, кругласутачны, крывятворны, малаважны, малазначны, маламоцны, нізкапробны, слабавольны, слабасільны, слабахарактарны* і інш.

Але ёсць значная колькасць прыметнікаў, у якіх паяўляецца пабочны націск і тады, калі асноўны націск падае на першы склад другой часткі: *азотнакіслы, дробнатвары, малочнакіслы, маторазборачны, нованайдзены, кавальска-прэсавы, коксагазавы, чорна-буры* і г. д.

Калі ў другой частцы складанага прыметніка націск падае не на першы склад, то ў першай частцы звычайна праяўляецца пабочны націск: *амёбападобны, арэхападобны, бавоўнаачышчальны, бавоўнанарыхтоўчы, буржуазна-дэмакратычны, вогнетрывалы, вольналюбівы, востраканцовы, вуглевадародны, дробнакаліберны, жыццесцвярджальны, заходнебеларускі, круглавязальны, торфаўборачны* і г. д.

Калі складаны прыметнік мае ў сваім саставе больш як дзве часткі, тады кожная частка мае свой націск: *авіяматорабудаўнічы, паравозавагонарамонтны.*

### *Варыянтнасць націску прыметнікаў*

§ 933. Некаторыя прыметнікі маюць акцэнтныя варыянты. У радзе выпадкаў варыянтнасць дапускаецца літаратурнай нормай, у іншых выпадках адзін з акцэнтных варыянтаў з'яўляецца адступленнем ад нормы, хаця даволі шырока можа быць прадстаўлены ў мове мастацкай літаратуры, а таксама ў размоўным стылі, куды ён пранікае з народных гаворак. У некаторых прыметніках ад месца націску залежыць значэнне слова.

Так, літаратурнай нормай дапускаецца ўжыванне варыянтнага націску ў наступных прыметніках (на першым месцы варыянт, якому аддаецца перавага): *буйны — буйны, велізарны — вялізарны, гняды —*

*гнéды, дармавы́ — дармовы,* *завадскі — заводскі,* *касы́ — косы,* *растя́ны — расяны́, сівы́ — сівы, фу́травы — футро́вы.*

Заўвага. У тым выпадку, калі слова *касы́* выступае ў значэнні назоўніка, яно ўжываецца з націскам на канчатку: *Толькі цяпер ляснік заўважыў, што напярэймы к а с о м у з усіх сіл лящела ліса* (І. Кірэйчык); *Сядзіць к а с ы на лініі і вушкамі хітае* (А. Масарэнка).

У творах мастацкай літаратуры і размоўным стылі адзначаюцца акцэнтныя варыянты такіх прыметнікаў, як: *аржаны́ — аржа́ны, асно́йны — аснайны́, ау́ся́ны — аўсяны́, агнявы́ — агнёвы, балаці́сты — бало́цісты, віхравы́ — віхровы, веснавы́ — вясновы, гéрбавы — гербовы, грунтавы́ — грунтовы, до́ўгі — даўгí, драцяны́ — драця́ны, лі́павы — лі́повы, ласка́вы — ла́скавы, прамяні́сты — праме́ністы, пухо́вы — пухавы́, скора́сны — скарасны́, спіртавы́ — спіртовы, сла́бы — слабы́, то́ўсты — таўсты́, цвёрды — цвярды́.*

Першыя з прыведзеных варыянтаў выступаюць у якасці літаратурнай нормы, другія знаходзяцца па-за яе межамі.

§ 934. У радзе выпадкаў ад месца націску залежыць значэнне прыметніка. Напрыклад: *ба́цькаўскі* 'які належыць бацьку' і *бацько́ўскі* 'які належыць бацькам'; *вы́гадны* 'карысны, прыбытковы' і *выго́дны* 'зручны'; *валавы́* 'агульны, узяты поўнасцю, без выліку растрат' і *вало́вы* 'які належыць валу'; *ве́траны* 'з ветрам', 'легкадумны (пра чалавека)' і *ветраны́* 'які прыводзіцца ў дзеянне сілай ветру'; *ві́дны* 'вядомы, выдатны' і *відны́* 'добра асветлены'; *гру́бы* 'нявыхаваны' і *грубы́* 'масіўны, тоўсты'; *дасці́пны* 'жартаўлівы' і *дасціпны́* 'спрытны'; *дзе́даўскі* 'які належыць дзеду' і *дзядо́ўскі* 'які належыць старому чалавеку'; *за́мкавы* 'які адносіцца да за́мка' і *замковы* 'які адносіцца да замка́'; *куставы́* 'аб'яднаны' і *кусто́вы* 'які адносіцца да куста'; *лю́дскі* 'чалавечны, добры' і *людскі́* 'які ўласцівы людзям'; *не́мы* 'дзікі, роспачны' і *нямы́* 'пазбаўлены здольнасці гаварыць', 'маўклівы, ціхі'; *пачу́ццевы* 'які ўспрымаецца органамі пачуццяў' і *пачуццёвы* 'які адносіцца да пачуцця'; *саля́ны* (пра кіслату) і *саляны́* (з солі); *суравы́* 'грубы, нябелены (пра матэрыял, ніткі)' і *суровы* 'строгі, цвёрды, непахісны'; *уда́лы* 'ўдачны, трапны' і *удалы́* 'маладзецкі, адважны, зухаваты'; *ча́савы* 'які адносіцца да назоўніка «час»' і *часовы* 'непастаянны'.

## НАЦІСК ЛІЧЭБНІКАЎ

§ 935. Лічэбнік *адзі́н* ва ўсіх формах, акрамя формы назоўнага склону адзіночнага ліку, мае флексійны націск: у творным склоне множнага ліку на перадапошнім складзе *(адны́мі)*, а ў астатніх — на апошнім *(аднаго́, аднаму́, адны́м, адны́, адны́х, адны́мі)*.

У лічэбніках *два, дзве, тры* флексійны націск ва ўсіх формах *(два, двух, двум, двума́; дзвюх, дзвюм, дзвюма́; трох, тром, трыма́)*, а ў лічэбніку *чаты́ры* — ва ўсіх формах, акрамя назоўнага і вінавальнага *(чатырох, чатыром, чатырма́)*.

Флексійны націск маюць лічэбнікі *пяць, шэсць, сем (пяці́, пяццю́; шасці́, шасцю́; сямі́, сямю́)*.

Лічэбнікі *восем, дзе́вяць, два́ццаць, тры́ццаць* у назоўным склоне маюць націск на аснове, а ў формах іншых склонаў — на флексіі *(васьмі́, васьмю́; дваццаці́, дваццацю́)*.

У лічэбніках *адзіна́ццаць — дзевятна́ццаць* сталы націск на складзе -на- *(адзіна́ццаці, адзіна́ццаццю; чатырна́ццаці, чатырна́ццаццю)*.

У вымаўленні лічэбнікаў *адзіна́ццаць, чатырна́ццаць* сустракаюцца адхіленні — націск перасоўваецца на адзін склад к пачатку слова.

Лічэбнікі *пяцьдзеся́т, шэсцьдзеся́т* у пачатковай форме маюць націск на апошнім складзе другой часткі слова, а ў іншых склонах — на апошнім складзе першай часткі слова *(пяці́дзесяці, пяцці́юдзесяццю)*. У моўнай практыцы ў назоўным склоне сустракаюцца адхіленні — перанос націску на першы склад першай часткі, відаць, пад уплывам *се́мдзесят, во́семдзесят*, якія маюць націск на першым складзе ў назоўным склоне, а ў іншых — на апошнім складзе першай часткі *(сямі́дзесяці, сямю́дзесяццю)*.

Лічэбнікі *дзве́сце, тры́ста, чаты́рыста* ў назоўным склоне маюць націск на першай частцы слова, а лічэбнікі *пяцьсот, шэсцьсот, семсот, восемсот, дзевяцьсот* — на другой.

У родным склоне націск на другім кампаненце слова *(двухсот, пяцісот)*, а ў астатніх — на флексіі: на апошнім складзе ў давальным і месным склонах *(двумста́м, (аб) двухста́х; пяціста́м, (аб) пяціста́х)*, а ў творным склоне — на перадапошнім *(двумаста́мі, пяццюста́мі)*.

## НАЦІСК ЗАЙМЕННІКАЎ

§ 936. Асабовыя займеннікі *я, ты, ён, яна, яно, яны* ў склонавых формах, якія маюць двухскладовую структуру, маюць націск на канчатку *(мяне́, мною; цябе́, табе́, табой (-ою), (аб) табе́; яго, яму́; яна́, яе́, яны́)*, а займеннікі *мы, вы* — на аснове *(на́мі, ва́мі)*.

Зваротны займеннік *сябе* ва ўсіх формах мае націск на флексіі *(сябе́, сабе́, сабой (-ою))*.

Прыналежныя займеннікі *мой, твой, свой; маё, тваё, сваё; мая́, твая́, свая́* ва ўсіх неаднаскладовых формах маюць націск на флексіі *(майго, майму́, маім; маё, майго, майму́, маім; мая́, маёй, маю́)*, а займеннікі *наш, ваш* — на аснове *(на́шага, на́шаму, на́шым, на́шы, на́шых, на́шым, на́шымі)*.

Указальныя займеннікі *гэты, гэта, гэтакі, гэтакае, гэтакая* ва ўсіх формах маюць націск на аснове *(гэ́тага, гэ́таму, гэтымі; гэ́тай, гэ́ту, гэ́тай (-аю); гэтых, гэтым, гэтымі)*, а займеннікі *той, тое, та́я, ты́я, такі́, такое, така́я, такія* — на флексіі *(таго, таму́, та́я, ту́ю, тою; ты́я, ты́мі)*.

Азначальныя займеннікі *сам, само, сама́* ва ўсіх формах, акрамя назоўнага склону множнага ліку, дзе націск на аснове *(са́мі)*, маюць націск на флексіі *(самога, самому, самі́м, самой, саму́ю, самі́х, самі́м, самі́мі)*. Націск на флексіі ва ўсіх формах займеннікаў *усе́сь, усё, уся́ (усяго, усяму́; усёй, усёю, усі́х, усі́м, усі́мі)*. Займеннікі *са́мы, са́мае, са́мая, уся́кі, уся́кае, уся́кая, кожны, кожнае, іншы, іншае, іншая* заўсёды маюць націск на аснове *(са́мага, са́маму, са́мым; са́май, са́мую; са́мых, са́мым, са́мымі)*.

Пытальна-адносныя займеннікі *хто, што, які, якое, яка́я, чый, чыё, чыя́* і адмоўныя *ніхто́, нішто́, ня́кі, ні́якае, ні́якая, нічы́й, нічыё* маюць націск на флексіі *(каго, каму́, чаго, чаму́; якога, якому, якім, якой; які́х, які́м, які́мі)*, а пытальна-адносныя займеннікі *каторы, каторае, каторая* і адмоўныя *не́кага, не́чага* заўсёды маюць націск на аснове *(каторага, катораму, каторым, каторай, каторых, каторым, каторымі; не́кага, не́каму)*.

Няпэўныя займеннікі *не́хта, не́шта, не́чы, не́йкі* ва ўсіх формах маюць націск на першым складзе асновы, а займеннік *некаторы* — на трэцім. Займеннікі з часціцай *-сьці (хтосьці, штосьці, чы́йсьці, якісьці)* і з часціцай *абы- (абы-хто, абы-што, абы-які, абы-чы́й)* захоўваюць месца націску ўтваральных асноў (займеннікаў *хто, што, чый, які*). Займеннікі з часціцай *-небудзь (хто-не́будзь, што-не́будзь, чый-не́будзь, като́ры-не́-*

*будзь)* маюць два націскі: на першай частцы захоўваецца месца націску ўтваральнай асновы (*хто, што* і інш.), а ў другой частцы — націск на адмоўі *не-*.

## НАЦІСК ДЗЕЯСЛОВАЎ

§ 937. У залежнасці ад месца націску ў словаформах парадыгмы — на аснове ці на флексіі — вылучаюцца наступныя акцэнтныя тыпы дзеясловаў.

Акцэнтны тып А — ва ўсіх спрагальных формах нерухомы націск на адным і тым жа складзе асновы: *(пра)чытáць — (пра)чытáю, (пра)чытáеш, (пра)чытáе, (пра)чытáем, (пра)чытáеце, (пра)чытáюць; (пра)чытáй, (пра)чытáйма, (пра)чытáйце, (пра)чытáў, (пра)чытáла* (ж., н. р.), *(пра)чытáлі.*

Акцэнтны тып С — у прошлым часе націск на апошнім складзе асновы, а ў цяперашнім і будучым часе і ў загадным ладзе — на канчатку: *(за)снавáць — (за)сную́, (за)снуéш, (за)снуé, (за)снуём, (за)снуяцé, (за)сную́ць, (за)сну́й, (за)сну́йма, (за)сну́йце, (за)снавáў, (за)снавáла* (ж., н. р.), *(за)снавáлі.*

Акцэнтны тып С—у прошлым часе націск на апошнім складзе асновы, а ў цяперашнім і будучым часе ва ўсіх формах, акрамя першай асобы адзіночнага ліку,— на аснове, у форме першай асобы адзіночнага ліку і формах загаднага ладу — на канчатку: *(з)вазíць — (з)важу́, (з)возіш, (з)возіць, (з)возім, (з)возіце, (з)возяць, (з)вазí, (з)вязём, (з)вазíце, (з)вазíў, (з)вазíла* (ж., н. р.), *(з)вазíлі.*

Акцэнтны тып D — ва ўсіх формах цяперашняга і прошлага часу націск на канчатку (у формах мужчынскага роду прошлага часу з нулявым канчаткам умоўны націск на канчатку): *(з)берагчы́ — (з)берагу́, (з)беражэш, (з)беражэ, (з)беражом, (з)беражацé, (з)берагу́ць, (з)беражы́, (з)беражэм, (з)беражы́це, (з)бярог, (з)берaглá, (з)берагло, (з)береглí.*

Месца націску ў асабовых формах дзеясловаў цяперашняга (ці будучага простага для дзеясловаў закончанага трывання) і прошлага часу і ў формах загаднага ладу непасрэдна звязана са структурай дзеясловаў і месцам націску ў пачатковай форме іх — інфінітыве. Таму разгляд націску дзеясловаў мэтазгодна весці ў межах кожнага дзеяслоўнага класа паасобку.

### *Націск дзеясловаў першага прадуктыўнага класа*

§ 938. Дзеясловы I прадуктыўнага класа — з інфінітывам на *-аць (-яць), -эць (-ець)* і формай трэцяй асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу на *-аюць (-яюць), -эюць (-еюць)* — належаць да акцэнтнага тыпу А — у інфінітыве і спрагальных формах маюць нерухомы націск на адным і тым жа складзе асновы — на каранёвай частцы ці на тэматычным галосным.

У дзеясловах гэтага класа ў залежнасці ад месца націску ў інфінітыве і парадыгме цяперашняга і будучага простага часу, у формах прошлага часу і ў формах загаднага ладу (на першым, другім, трэцім і наступных складах) вылучаюцца групы Аа, Аб, Ав і г. д. У дзеясловах групы Аа націск на каранёвым складзе асновы: *кíдаць, кíдаю, кíдаеш, кíдае, кíдаем, кíдаеце, кíдаюць, кíдаў, кíдала* (ж., н. р.), *кíдалі, кíдай, кíдайма, кíдайце; кáшляць, кáшляю, кáшляеш, кáшляе, кáшляем, кáшляеце, кáшляюць, кáшляў, кáшляла* (ж., н. р.), *кáшлялі, кáшляй, кáшляйма,*

ка́шляйце; адолець, адолею, адолееш, адолее, адолеем, адолееце, адолеюць, адолей, адолела (ж., н. р.), адолелі, адолей, адолейма, адолейце. Дзеясловы групы Аб маюць націск на другім складзе асновы — на прымеце класа: *вага́ць, вага́ю, вага́еш, вага́е, вага́ем, вага́еце, вага́юць, вага́ў, вага́ла* (ж., н. р.), *вага́лі, вага́й, вага́йма, вага́йце.* Дзеясловы групы Ав маюць націск на трэцім складзе асновы — на прымеце класа: *абараня́ць, абараня́ю, абараня́еш, абараня́е, абараня́ем, абараня́еце, абараня́юць, абараня́ў, абараня́ла* (ж., н. р), *абараня́лі, абараня́й, абараня́йма, абараня́йце; аслабе́ць, аслабе́ю, аслабе́еш, аслабе́е, аслабе́ем, аслабе́еце, аслабе́юць, аслабе́ў, аслабе́ла* (ж., н. р.), *аслабе́лі, (не)аслабе́й, (не)аслабе́йма, (не)аслабе́йце.*

Для некаторых дзеясловаў у моўнай практыцы існуюць акцэнтныя дублеты, адзін з якіх з'яўляецца нормай, а другі — рэгіяналізмам ці запазычаннем з рускай мовы. Дублеты адзначаны для наступных дзеясловаў (на першым месцы падаецца літаратурная норма, а на другім — нелітаратурны варыянт групы Аа): *адо́лець — адале́ць, бро́снець — брасне́ць, гу́шкаць — гушка́ць, і́каць — іка́ць, кі́даць — кіда́ць, то́ркаць — тарка́ць, хлёбаць — хляба́ць* (схема № 1, *кі́даць, адолець*); група Аб: *блука́ць — блу́каць, брыка́ць — бры́каць, вага́ць — ва́гаць, гарта́ць — го́ртаць, звяга́ць — звя́гаць, луза́ць — лу́заць, міга́ць — мі́гаць, мільга́ць — мі́льгаць, ржаве́ць — ржа́вець, рыга́ць* (адрыгваць, ванітаваць) — *ры́гаць, сіга́ць — сі́гаць, смутне́ць — смў́тнець, (па)таўсце́ць — (па)то́ўсцець* (схема № 1, *блука́ць*). Для інфінітываў шасці дзеясловаў Беларуска-рускі слоўнік (1962) дапускае як норму варыянты з выкарыстаннем у якасці асноўнага таго, які ў ніжэйпрыведзеных парах падаецца першым: *гайда́ць* і *гойдаць, гойсаць* і *гайса́ць, лётаць* і *лята́ць, марга́ць* і *моргаць, па́мятаць* і *памята́ць, сёрбаць* і *сярба́ць.*

У моўнай практыцы названая варыянтнасць распаўсюджваецца на ўсю парадыгму: *лётаць, лётаю, лётаеш, лётае, лётаем, лётаеце, лётаюць, лётай, лётайма, лётайце, лётаў, лётала* (ж., н. р.), *лёталі* і *лята́ць, лята́ю, лята́еш, лята́е, лята́ем, лята́еце, лята́юць, лята́й, лята́йма, лята́йце, лята́ў, лята́ла* (ж., н. р.), *лята́лі.*

**Схема № 1**

**Месцаразмяшчэнне націску ў дзеясловах першага прадуктыўнага класа**

Акцэнтны тып А

| Інф. | *кі́даць* | *адолець* | *блука́ць* |
| --- | --- | --- | --- |
| Цяп. адз. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |
| 3 ас. | | | |
| мн. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |
| 3 ас. | | | |
| Пр. адз. м. | | | |
| ж. | | | |
| н. | | | |
| мн. | | | |
| Заг. адз. 2 ас. | | | |
| мн. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |

Назіранні па картатэцы Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы і ўласныя выбаркі з твораў мастацкай літаратуры сведчаць, што акцэнтныя варыянты *гайда́ць — гойдаць* выкарыстоўваюцца шырока. Пры гэтым звяртае ўвагу, што кожны пісьменнік звычайна выкарыстоўвае адзін з варыянтаў ці пераважна адзін, а другі толькі спарадычна. Варыянт *гайда́ць (загайда́ць, разгайда́ць)* зафіксаваны ў творах І. Арабейкі, А. Асіпенкі, М. Аўрамчыка, Р. Барадуліна, Т. Бондар, П. Броўкі, Я. Брыля, А. Бялевіча, А. Вялюгіна, С. Гаўрусёва, Ю. Голуба, С. Грахоўскага, А. Грачанікава, У. Дамашэвіча, А. Дзеружынскага, М. Дуксы, А. Зарыцкага, В. Зуёнка, У. Караткевіча, К. Кірэенка, Г. Кляўко, А. Куляшова, А. Лойкі, М. Лужаніна, Ю. Лявоннага, В. Макарэвіча, У. Мяжэвіча, П. Пестрака, П. Пранузы, І. Пташнікава, А. Пысіна, А. Савіцкага, Б. Сачанкі, А. Сербантовіча, М. Танка, Р. Тармолы, П. Труса, М. Хведаровіча, В. Хомчанкі, Хв. Чэрні, а варыянт *гойдаць (за-, раз-)* — у творах В. Адамчыка, А. Астрэйкі, А. Васілевіч, В. Вольскага, В. Вярбы, М. Гамолкі, А. Звонака, В. Каваля, М. Калачынскага, У. Краўчанкі, Я. Купалы, С. Кухарава, Е. Лось, У. Ляпёшкіна, М. Машары, І. Навуменкі, М. Парахневіча, М. Паслядовіча, П. Пранузы, Э. Самуйлёнка, Я. Скрыгана, М. Стральцова, Т. Хадкевіча, М. Хведаровіча, М. Чарота, К. Чорнага, І. Чыгрынава, І. Шамякіна, В. Шымука, Хв. Шынклера. Абодва варыянты *гайда́ць* і *гойдаць* сустракаюцца ў Я. Коласа, І. Мележа.

Варыянт *лётаць (злётаць, палётаць)* зафіксаваны ў творах В. Адамчыка, Д. Бічэль-Загнетавай, Я. Брыля, В. Вярбы, А. Зарыцкага, У. Караткевіча, А. Карпюка, К. Кірэенкі, Я. Купалы, А. Савіцкага, Б. Сачанкі, І. Шамякіна, а варыянт *лятаць (злятаць, палятаць)* — у творах Алешкі, Я. Брыля, В. Гарбука, У. Дубоўкі, У. Ляпёшкіна, І. Навуменкі, У. Шахаўца, У. Шыціка.

Беларускія слоўнікі (БРС$_1$, РБС, РБС$_2$, ТСБМ) дзеясловы *адо́лець, гу́шкаць* даюць з націскам на корані. Але ў практыцы бытуюць і варыянты з націскам на тэматычным галосным *адале́ць, гушка́ць* (першы, магчыма, пад уплывам рускай мовы, параўн. *одоле́ть*).

Указаная акалічнасць знайшла сваё адлюстраванне і ў мастацкай літаратуры, дзе сустракаюцца абодва акцэнтныя варыянты названых дзеясловаў з перавагай варыянта з націскам на корані.

Для дзеяслова *адолець* рашуча пераважае варыянт з націскам на корані: *адолець* (А. Александровіч, Р. Барадулін, А. Васілевіч, Я. Васілёнак, В. Вітка, І. Гурскі, С. Дзяргай, К. Камейша, У. Караткевіч, А. Карпюк, К. Кірэенка, Я. Колас, А. Кулакоўскі, А. Куляшоў, Я. Курто, І. Мележ, Б. Мікуліч, І. Навуменка, І. Новікаў, П. Пранузa, М. Пянкрат, М. Смагаровіч, М. Танк, Н. Чарнушэвіч, У. Шыцік), *адолею* (К. Кірэенка, М. Лобан, І. Чыгрынаў), *адолее* (С. Грахоўскі, А. Дзеружынскі, У. Краўчанка, І. Мележ, П. Пестрак, У. Шыцік), *адолеем* (А. Пальчэўскі, П. Пестрак), *адолееце* (А. Кучар), *адолеюць* (П. Пестрак, М. Пянкрат, У. Шыцік), *адолеў* (Р. Барадулін, С. Гаўрусёў, У. Дубоўка, Я. Колас, У. Краўчанка, І. Мележ, І. Навуменка, І. Новікаў, М. Пянкрат, А. Савіцкі, М. Смагаровіч, А. Якімовіч), *адолела* (В. Быкаў, А. Васілевіч, Ц. Гартны, П. Глебка, А. Кулакоўскі, І. Мележ, Р. Няхай, А. Чарнышэвіч), *адолелі* (В. Быкаў, С. Грахоўскі, С. Кухараў, М. Лупсякоў, В. Макарэвіч, А. Марціновіч, І. Мележ, І. Навуменка, І. Новікаў, М. Хведаровіч, У. Шахавец, У. Шыцік).

Варыянт з націскам на тэматычным галосным сустракаецца рэдка: *адале́ці* (Я. Купала), *адале́ць* (Хв. Чэрня), *адале́еш* (К. Кірэенка), *адале́е* (М. Пянкрат), *адале́ў* (І. Мележ).

У дзеяслове *гушкаць* месца націску можна вызначыць толькі па вершаваных тэкстах.

Гу́шкаць: *Зажурбоціліся птушкі, пазіраючы на пні: — А хто нашых дзетак гу́шкаць будзе ў голлі дзень пры дні?* (А. Бялевіч); *Ён ішоў і марыў, як ён дома, Будзе гу́шкаць сына на руках* (К. Кірэенка); *Кароткі вельмі век у птушак — Нат не заўважыць чалавек, Але як шмат ім трэба гу́шкаць галін і пецць за гэты век* (П. Прыходзька); *Вясёлыя дачушкі, на матак усе падобны. Хачу вас ветрам гу́шкаць пад небам ясным, родным* (Я. Пушча).

Гушка́ю: — *у пуні на качэлях гушка́ю ў вечаровы час, і вочы нечыя праз шчэлі глядзяць, як некалі, на нас* (М. Смагаровіч); *На руках я гушка́ю сонца, на сваіх мазольных руках* (Р. Тармола).

Гушка́еш: *Працуеш ты і ноч і дзень, каменні амываеш, прад непагодаю — гудзеш, пад сонцам нас гушка́еш* (П. Прыходзька).

Гу́шкае — гушка́е: *Яшчэ і дагэтуль планету гу́шкае той залп* (П. Макаль); *старая елка на касматых цёмных лапах спрытна гу́шкае вавёрку* (П. Панчанка); *З чым парайнаць яе? З вясельнай стужкаю, што на траве пакінута нявестай? З ракой вясенняй, што зарніцы гу́шкае* (М. Калачынскі); *Яна мяне гушка́е, і часам мне здаецца, што ўсюды ёсць такая, але не так пяецца* (Ю. Свірка); *А лес зялёны цень вакол гушка́е* (А. Лойка).

Гу́шкаюць — гушка́юць:— *Віват, ксёнджа наш вяльможны. І ўстаюць ураз паны, момант — чаркі ўсе парожны, князя гу́шкаюць яны* (Я. Колас); *Вітаюць, цалуюць, як госця, і гу́шкаюць хлопца ў паветры* (Я. Колас); *І ціха гушка́юць іх вёсны на ўлонні радзімай зямлі* (П. Прыходзька).

Пагу́шкай: *Бегае, шчабеча: — ты мяне пагу́шкай,— птушанё малое, мілая дачушка* (А. Астрэйка); *На чаўне пагу́шкай, хваляў мовай шчырай раскажы, як птушкі адляталі ў вырай* (М. Маляўка).

### *Націск дзеясловаў другога прадуктыўнага класа*

§ 939. Гэты клас складаюць дзеясловы, што ў інфінітыве маюць суфікс *-ну*, які захоўваецца ў формах прошлага часу, а ў формах цяперашняга (будучага простага) часу і загаднага ладу выступае ў выглядзе *-н-*: *кінуць — кінуў, кінула, кінулі, кіну, кінеш, кіне, кінем, кінеце, кінуць, кінь, кіньма, кіньце.* Дзеясловы другога прадуктыўнага класа ў залежнасці ад месца размяшчэння націску ў формах парадыгмы размяркоўваюцца па трох акцэнтных тыпах — А, В, С.

§ 940. Акцэнтны т ы п А складаюць дзеясловы, якія ў інфінітыве і ва ўсіх формах цяперашняга (будучага простага) часу, загаднага ладу і прошлага часу маюць нерухомы націск на адным і тым жа складзе асновы: *гля́нуць, гля́ну, гля́неш, гля́нем, гля́неце, гля́нуць; глянь, гля́ньма, гля́ньце; гля́нуў, гля́нула, гля́нулі* (схема № 2, *гля́нуць*). Да гэтага тыпу належаць дзеясловы *а́хнуць, блі́снуць* (пра-), *бля́кнуць (з-, па-), бо́йтнуць (з-), бра́кнуць (на-, раз-), бу́лькнуць, бу́ркнуць, бу́хнуць (на-, раз-), ві́снуць (аб-, ад-, з-, на-, па-, пра-), войкнуць, -вы́кнуць (аб-, ад-, з-, на-, пры-), вя́нуць (аб-, з-, за-, па-, пад-, пра-,пры-), га́ркнуць, га́снуць (з-, за-, па-, пры-), га́ўкнуць, гі́кнуць, гі́нуць (з-, за-, па-), глу́хнуць (а-, пры-), гля́нуць (за-, пра-, уз-), гмы́кнуць, гру́кнуць, гры́мнуць, гы́ркнуць, дзьму́хнуць (з-, пра-), ду́нуць, ёкнуць, жо́йкнуць (з-, па-, пры-), жу́хнуць (з-, па-, пад-, пры-), і́кнуць, ка́пнуць, кі́нуць (а-, ад-, да-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, рас-, с-, у-), клі́кнуць (а-, ус-), клю́нуць (пра-), кра́кнуць, кры́кнуць, лі́нуць, лі́пнуць (аб-, ад-, за-, на-, пры-, у-), лопнуць, лу́снуць, ля́пнуць, ля́снуць, ма́цнуць, ме́ркнуць (з-, пры-), мо́йкнуць (з-, за-, пры-), -мя́кнуць (аб-, ад-, з-, раз-), пі́кнуць, пі́снуць, плёхнуць, плю́нуць (пера-, с-), плю́хнуць, пля́снуць, пу́хнуць (а-, за-, на-, па-, пад-, пры-,*

*рас-, с-, ус-), пырснуць (с-, у-), пырхнуць (пера-, с-, ус-), рынуць (ад-, з-), рыпнуць, рэзнуць, свіснуць (пад-, пры-), сёрбнуць, скокнуць (ад-, да-, за-, пад-, пера-, пры-), скрыпнуць, слепнуць (а-, па-), -слізнуць (а-, са-), смыкнуць, стрэльнуць, сунуць (а-, аб-, ад-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, рас-, с-, у-), стукнуць (пры-), сцёбнуць (пад-), сыкнуць, сыпнуць, торкнуць (за-, у-), трэснуць, тупнуць (пры-), тухнуць (а-, за-, па-, пра-, пры-, с-), тыкнуць, тыцнуць, фукнуць, фыркнуць, хапнуць, харкнуць (ад-), хвоснуць (пад-), хлынуць (ад-, на-, пры-, с-), хруснуць, ціснуць (аб-, ад-, да-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, рас-, с-, у-), ціўкнуць, цыркнуць, цяўкнуць, чахнуць (а-, аб-, за-, пра-, с-), шарахнуць, шлёпнуць, шчоўкнуць (за-), шэрхнуць (аб-, за-, па-, пад-, с-), яўкнуць.*

У моўнай практыцы адзначаны некаторыя а д х і л е н н і — выпадкі пераносу націску ў інфінітыве і формах прошлага часу на апошні галосны асновы, а ў формах цяперашняга (будучага) часу і загаднага ладу — на флексію. Падобныя адхіленні сустракаюцца ў дзеясловах *бліснуць, боўтнуць, булькнуць, буркнуць, бухнуць, гікнуць, глухнуць, грымнуць, дзьмухнуць, дрыгнуць, дунуць, заглянуць, ікнуць, лінуць, люснуць, мацнуць, пікнуць, піснуць, плюхнуць, пырхнуць, рыпнуць, сёрбнуць, скрыпнуць, слепнуць, смыкнуць, сцёбнуць, сыкнуць, сыпнуць, тыкнуць, фукнуць, хвоснуць, цыркнуць* і некаторых іншых (схема № 2, *ікнуць*).

Асобныя выпадкі пераносу націску ў дзеясловах акцэнтнага тыпу А на флексію сустракаюцца і ў творах мастацкай літаратуры (у паэзіі), дзе выкарыстанне варыянта з флексійнай (канцавой) акцэнтуацыяй выклікана неабходнасцю рыфмы. Напрыклад, у ранніх творах Янкі Купалы: *Я не для вас, паны, о нé, падчас збываюся спакою, калі ў вачах сляза блісне́, маркотнай вызвана душою — я не для вас, паны, о не! Я не для вас, паны, о нé, пяю. Вам не паняць мучэння; вам ваша сэрца не дрыгне́ на голас братняга цярпення; Адгукніся душа, песняй звонкай грымні. Няхай песня з віхрамі памчыцца. У братніх сэрцах няхай разгарацца агні, думы новай пальюцца крыніцай.*

§ 941. Акцэнтны т ы п В уключае дзеясловы з націскам на апошнім складзе асновы ў формах прошлага часу і на флексіі ў формах цяперашняга (будучага) часу і загаднага ладу: *гукнуць — гукну, гукнеш, гукне, гукнём, гукняце, гукнуць; гукні, гукнём, гукніце; гукнуў, гукнула* (ж., н. р.), *гукнулі* (схема № 2, *гукнуць*). Да гэтага тыпу адносяцца дзеясловы *акунуць, балбатнуць (з-), брахнуць (з-), брыкнуць (з-, пад-, у-), ваганууць, варухнуць (з-, па-, уз-), вільнуць (ад-, у-), -вінуць (аб-, з-, за-, пад-, раз-, у-), вярнуць (ад-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пры-, раз-, у-), гайдануць, глынуць (ад-, за-, па-, пра-), глытнуць, грызануць, гукнуць, дзеўбануць, дзюбануць, джгануць, дрыгануць дыхнуць (ад-, пера-, пра-, у-, уз-), жахнуць, (з-), жыгануць, заглянуць, замкнуць, заплікнуць, звіхнуць, зірнуць (а-, за-), зыбануць, зяўнуць зяхнуць (па-), імкнуць, казырнуць, калупнуць (ад-, за-, пад-, с-, у-, ус-), калыхнуць (с-, ус-), кальнуць, капнуць, кашлянуць, кіўнуць, крутнуць, кульнуць, куснуць, лізнуць (аб-, з-), мазануць, мазнуць, маргнуць, мармытнуць, матнуць, махнуць (аб-, ад-, з-, за-, пад-, пера-, уз-), мільгануць, мінуць (аб-, пра-), -мкнуць (ада-, за-), нырнуць (пад-), нюхнуць, падмануць, папракнуць, пекануць, піхнуць (ад-, пад-, с-, у-), пнуць (ада-, за-), пужнуць (пры-), пхнуць (ада-, за-, на-, па-, пада-, пера-, пра-, раза-, са- у-, увд-), рагатнуць, разануць, рвануць, рызыкнуць, рыскнуць, садануць, сапнуць (ад-), секануць, сербануць, скавытнуць, скрабянуць, скрыгануць, скубануць, скубянуць, слізгануць, сцебануць, таргануць, тармазнуць, ткнуць (аба-, ада-, за-, на-, па-, пада-, пера-, пра-, пры-, у-, уза-), тнуць (у-), тузануць, турнуць, піхнуць, уракнуць, хінуць (а-, ад-, за-, на-, пад-, пры-, рас-, с-), хіснуць (ад-, па-, с-), хлебануць, чхнуць, шаргануць, шап-*

Схема № 2

**Месцаразмяшчэнне націску ў дзеясловах другога прадуктыўнага класа**

Акцэнтны тып А — Тып В — Тып С

Інф. *гля́нуць*, *і́кнуць*, *гукну́ць*, *гарну́ць*

Цяп. адз. 1 ас.
2 ас.
3 ас.
мн. 1 ас.
2 ас.
3 ас.
Пр. адз. м.
ж.
н.
мн.
Заг. адз. 2 ас.
мн. 1 ас.
2 ас.

*ну́ць, шмаргану́ць, шпурну́ць (ад-, да-, за-, пад-, пера-), штурхну́ць (ад-, за-, на-, пад-, пера-, пра-, са-, у-), шчыпну́ць (ад-, у-), шыбану́ць.*

§ 942. Акцэнтны т ы п С аб'ядноўвае дзеясловы, у якіх у формах прошлага часу націск на апошнім складзе асновы, у форме першай асобы адзіночнага ліку цяперашняга (будучага) часу — на флексіі, ва ўсіх іншых — на аснове, а ў формах загаднага ладу — на флексіі: *гарну́ць— гарну́, горнеш, горне, горнем, горнеце, горнуць, гарні́, гарнём, гарні́це, гарну́ў, гарну́ла* (ж., н. р.), *гарну́лі*. Да тыпу С належаць дзеясловы *абману́ць, абярну́ць, апрану́ць, вярну́ць (ад-, за-, на-, па-, у-), гарну́ць (а-, аб-, ад-, з-, за-, на-, пад-, пера-, пра-, пры-, раз-, у-), дасягну́ць* (і варыянт па тыпу В), *падману́ць, тану́ць (за-, па-, у-), цягну́ць (аб-, ад-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пры-, рас-, с-, у-).*

### *Націск дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа*

§ 943. Гэты клас складаюць дзеясловы з асновай інфінітыва на *-аваць (-яваць)*, а ў форме трэцяй асобы множнага ліку цяперашняга (будучага простага) часу з асновай на *-уюць (-юючь)*.

Пераважная большасць дзеясловаў гэтага класа ў інфінітыве мае націск на апошнім зычным асновы — *будава́ць, гадава́ць, гуля́ць, стымуля́ва́ць; дрэсірава́ць, камандзірава́ць.* Невялікая група дзеясловаў на *-аваць* у інфінітыве націск мае на каранёвай частцы — *ба́лаваць, ле́таваць, пла́ваць, ра́даваць*, і дзеясловаў на *-іраваць* — на першым складзе суфіксальнай часткі *(-ір)* — *абані́раваць, візі́раваць.*

У залежнасці ад асаблівасці рэалізацыі націску ў формах парадыгмы цяперашняга (будучага) часу, прошлага часу і загаднага ладу дзеясловы трэцяга прадуктыўнага класа належаць да двух акцэнтных тыпаў — А і В.

§ 944. Акцэнтны т ы п А — нерухомы націск на адным і тым жа складзе асновы — уключае ўсе, акрамя дзевяці, што належаць да акцэнтнага тыпу В, дзеясловы трэцяга прадуктыўнага класа. Яны падзяляюцца на падтыпы Аа і Аб.

Г р у п у А а складаюць дзеясловы, у якіх у парадыгме націск пры-

падае не на апошні склад асновы — на каранёвую частку ці на першы склад суфікса *-іраваць*: *ба́лаваць — ба́лую, ба́луеш, ба́луе, ба́луем, ба́луеце, ба́луюць, ба́лаваў, ба́лавала* (ж., н. р.), *ба́лавалі; ба́луй, ба́луйма, ба́луйце; дазі́раваць — дазі́рую, дазі́руеш, дазі́руе, дазі́руем, дазі́руеце, дазі́руюць, дазі́раваў, дазі́равала* (ж., н. р.), *дазі́равалі, дазі́руй, дазі́руйма, дазі́руйце* (схема № 3, *ба́лаваць*).

Да гэтай групы належаць:

а) дзеясловы з суфіксам *-аваць*: *апасродкаваць, ару́даваць (па-), ба́лаваць (з-, за-, на-, па-, раз-), дзя́каваць (ад-, па-), дырэктарстваваць, ла́саваць, лёітаваць (за-, пера-), мі́лаваць (па-), насле́даваць (у-), паку́таваць (ад-, па-, пра-), пара́дкаваць (па-, пад-, пры-, с-, у-), пе́ставаць (а-, ад-, па-), пла́ваць (аб-, на-, па-, пра-, с-), ра́даваць (аб-, па-), рэктарстваваць, соваць (па-, рас-)* і некаторыя іншыя;

б) дзеясловы з суфіксам *-іраваць*: *абані́раваць, афішы́раваць (па-, раз-), базі́раваць, візі́раваць (за-), гастралі́раваць, дазі́раваць (раз-), нармі́раваць (па-), нікелі́раваць (ад-, па-), пламбі́раваць (за-, рас-), фантазі́раваць (за-, на-, па-, с-), фармулі́раваць (с-), функцыяні́раваць, фарсі́раваць, шаржы́раваць, штудзі́раваць (пра-), эвакуі́раваць* і інш.

Пераважная ж большасць дзеясловаў акцэнтнага тыпу А адносіцца да групы Аб. У іх ва ўсіх формах парадыгмы націск на апошнім галосным асновы: *векава́ць — вяку́ю, вяку́еш, вяку́е, вяку́ем, вяку́еце, вяку́юць, векава́ў, векава́ла* (ж., н. р.), *векава́лі, вяку́й, вяку́йма, вяку́йце; класіфікава́ць — класіфіку́ю, класіфіку́еш, класіфіку́е, класіфіку́ем, класіфіку́еце, класіфіку́юць, класіфікава́ў, класіфікава́ла* (ж., н. р.), *класіфікава́лі, класіфіку́й, класіфіку́йма, класіфіку́йце; ідэалізава́ць, ідэалізу́ю, ідэалізу́еш, ідэалізу́е, ідэалізу́ем, ідэалізу́еце, ідэалізу́юць, ідэалізава́ў, ідэалізава́ла* (ж., н. р.), *ідэалізава́лі, ідэалізу́й, ідэалізу́йма, ідэалізу́йце; бранірава́ць — браніру́ю, браніру́еш, браніру́е, браніру́ем, браніру́еце, браніру́юць, бранірава́ў, бранірава́ла* (ж., н. р.), *бранірава́лі, браніру́й, браніру́йма, браніру́йце* (схема № 3, *векава́ць*).

Да групы Аб належаць:

а) дзеясловы з суфіксам *-аваць (-яваць)*: *адукава́ць, акампанава́ць, апекава́ць (па-), апылкава́ць, атакава́ць (за-, контр-), банкава́ць (да-, па-), баранава́ць (ад-, за-, па-, пера-, пра-, раз-, уз-), блазнава́ць (з-, па-), бетанава́ць (за-), бракава́ць (ад-, з-, за-, на-, па-, пера-, раз-), брашурава́ць (з-), брукава́ць (да-, за-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, у-), будава́ць (ад-, з-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пры-, раз-), вандрава́ць (аб-, ад-, за-, па-, пера-, пры-), вапнава́ць (па-, пра-), васкава́ць (на-, па-, пад-, пра-), векава́ць (з-, пера-), веславаць (ад-, да-, за-, па-, пад-, пра-, пры-), вірава́ць (за-), выдаткава́ць (пера-), гарава́ць (ад-, да-, за-, па-, пера-, пра-), гаспадарава́ць, гіпербалізава́ць, -грава́ць (аба-, ада-, вы-, на-, пада-, пана-, папа-, пера-, пра-, пры-, са-), групава́ць (з-, пера-), дамінава́ць, дарава́ць (аб-, па-), дзя́каваць (ад-, па-), днява́ць (за-, пера-), друкава́ць (ад-, да-, на-, па-, пад-, пера-, пры-, у-), дыпламава́ць, дыскава́ць (пра-), дыскрымінава́ць, дэкламава́ць (пра-), дэмакратызава́ць, жабрава́ць (на-, па-), жартава́ць (па-), зімава́ць (ад-, да-, за-, пера-, пра-), злава́ць (за-, па-, раз-, у-), знаменава́ць (а-), ігнарава́ць, -іграваць (аб-, ад-, вы-, да-, за-, на-, пра-, раз-), ілюмінава́ць, інвентарызава́ць (пра-), інкрымінава́ць, інфармава́ць (па-, пра-), кава́ць (а-, ад-, да-, за-, на-, над-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, рас-, с-), канфіскава́ць, каркава́ць (ад-, за-), кірава́ць (да-, на-, па-, пад-, с-), клеймава́ць (да-, за-, па-, пера-), крытыкава́ць (па-, рас-), кукаваць (ад-, да-, за-, на-, па-, пра-, с-), ладкава́ць (пры-, у-), лямава́ць (аб-, пад-), маля́ва́ць (аб-, ад-, да-, за-, па-, пад-, пера-, пры-, раз-), маракава́ць (па-), маскава́ць (дэ-), меркава́ць (аб-, па-, пры-, раз-, перараз-, пры-, у-), мілава́ць (за-, на-, па-), мура-

*вáць* (*аб-, да-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пры-, у-*), *нармавáць, начавáць* (*да-, за-, па-, пера-*), *пакавáць* (*да-, за-, на-, пера-, рас-, с-, у-*), *пампавáць* (*ад-, на-, пад-, пера-*), *панікавáць* (*за-*), *парабкавáць* (*па-*), *пілавáць* (*а-, ад-, да-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, рас-, с-*), *правакавáць* (*с-*), *практыкавáць* (*на-, с-*), *публікавáць* (*а-*), *ракіравáць, раўнавáць* (*аб-, з-, за-, па-, пад-, пры-, раз-, у-*), *рызыкавáць* (*па-*), *рэгістравáць* (*за-, пера-*), *свідравáць* (*да-, на-, па-, пра-, рас-*), *сяткавáць* (*ад-, да-, за-, па-, пра-*), *сілкавáць* (*пад-*), *смакавáць* (*аб-, па-, рас-*), *смуткавáць* (*за-, па-, пра-*), *снавáць* (*а-, да-, за-, на-, па-, пера-*), *сумавáць* (*за-, па-, пра-*), *такавáць* (*за-*), *тынкавáць* (*а-, за-, па-*), *тэлеграфавáць, фабрыкавáць* (*с-*), *фармавáць* (*ад-, дэ-, с-*), *фільтравáць* (*ад-, пра-*), *хітравáць* (*аб-, па-, пера-, с-*), *цікавáць* (*пад-, пры-, с-, у-*), *цыравáць* (*за-, па-, пад-*), *чаравáць* (*а-, за-, на-, пры-, рас-*), *шаравáць* (*аб-, ад-, на-, па-, пра-, с-*), *шаткавáць* (*на-, па-, с-*), *шмаравáць* (*аб-, за-, на-, па-, пра-*), *шнуравáць* (*за-, пра-, рас-*), *экзаменавáць* (*пера-, пра-*), *яравізавáць* і інш.;

б) дзеясловы з суфіксам *-фікавáць, -іфікавáць: газіфікавáць, ідэнтыфікавáць, інтэнсіфікавáць, кадыфікавáць, кваліфікавáць* (*дыс-, дэ-, пера-*), *кінафікавáць, класіфікавáць, мадыфікавáць, містыфікавáць, муміфікавáць, персаніфікавáць, радыёфікавáць, ратыфікавáць, скарыфікавáць, спецыфікавáць, тарыфікавáць, уніфікавáць, фальсіфікавáць* (*с-*), *цеплафікавáць, электрафікавáць* і інш.;

в) дзеясловы з суфіксам *-іравáць: дрэсіравáць, камандзіравáць, паралізавáць* і інш.

Для некаторых дзеясловаў групы Аа ў моўнай практыцы сустракаюцца а д х і л е н н і — перанос націску пад уплывам дзеясловаў групы Аб на апошні галосны асновы ў інфінітыве і формах цяперашняга (будучага) часу, прошлага часу і загаднага ладу. Гэта сустракаецца ў дзеясловах *балаваць, ласаваць, нарміраваць* (схема № 3, *балаваць*). У дзеясловах групы Аб акцэнтная варыянтнасць не зафіксавана.

§ 945. Да акцэнтнага т ы п у В адносіцца 9 дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа: *аснавáць, блявáць* (*а-, за-, на-*), *жавáць* (*аб-, ад-, да-, з-, на-, па-, пера-*), *кавáць* (*а-, да-, за-, на-, па-, пад-, пера-, рас-, с-, у-*), *клявáць* (*аб-, да-, за- па-, с-*), *плявáць* (*а-, за-, на-, па-*), *псавáць* (*на-,*

**Схема № 3**

**Месцаразмяшчэнне націску ў дзеясловах трэцяга прадуктыўнага класа**

| | Акцэнтны тып А | Акцэнтны тып В | |
|---|---|---|---|
| Інф. | *бáлаваць* | *векавáць* | *аснавáць* |
| Цяп. адз. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |
| 3 ас. | | | |
| мн. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |
| 3 ас. | | | |
| Пр. адз. м. | | | |
| ж. | | | |
| н. | | | |
| мн. | | | |
| Заг. адз. 2 ас. | | | |
| мн. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |

*па-, пера-), снаваць (а-, аба-, да-, за-, на-, па-), цкаваць (за-, на-, па-, пад-)*. Яны маюць рухомы націск—на апошнім галосным асновы ў формах прошлага часу і загаднага ладу і на флексіі ў формах цяперашняга (будучага) часу: *аснаваць — асную (аснуј-у), аснуеш (аснуј-еш), аснуе (аснуј-е), аснуём (аснуј-ом), аснуяце (аснуј-аце), аснуюць (аснуј-уць), аснаваў, аснавала (ж., н. р.), аснавалі, аснуй (аснуј), аснуйма (аснуј-ма), аснуйце (аснуј-це)* (схема № 3, *аснаваць*).

### *Націск дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа*

§ 946. Да чацвёртага класа належаць дзеясловы, інфінітывы якіх заканчваюцца на *-іць (-ыць)*, а форма 3-яй асобы множнага ліку мае канчатак *-яць (-аць) (садзіць — садзяць, лячыць — лечаць)*. Клас гэты па колькасці аб'ядналых у ім дзеясловаў з'яўляецца самым шматлікім.

У залежнасці ад месца націску ў інфінітыве дзеясловы чацвёртага прадуктыўнага класа дзеляцца на дзве групы з націскам на аснове *(аздобіць, бавіць, марыць, радзіць)* і з націскам на галосным *і, ы*, які з'яўляецца прыметай класа *(аднавіць, бараніць, вяршыць, лячыць)*. Колькасна абедзве групы прыкладна аднолькавыя.

У залежнасці ад размяшчэння націску ў формах парадыгмы дзеясловы чацвёртага прадуктыўнага класа адносяцца да акцэнтных тыпаў А, В, С.

§ 947. Да акцэнтнага т ы п у А належаць дзеясловы, у якіх ва ўсіх формах цяперашняга (будучага) часу, прошлага часу і загаднага ладу націск прыпадае на адзін і той жа склад асновы: *марыць, мару, марыш, марыць, марым, марыце, мараць, марыў, марыла* (ж., н. р.), *марылі, мар, марма, марце* (схема № 4, *марыць*). У тып А ўваходзяць дзеясловы *ада-собіць, аздобіць (пры-), арканіць (за-), ахвоціць (ад-, за-, пад-, пры-, раз-), бавіць (ад-, да-, з-, за-, на-, над-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, раз-, у-), бадзёрыць (пад-, уз-), барабаніць (ад-, за-, па-, пра-), бачыць (вы-, неда-, па-, пера-, пра-, у-), блізіць (на-, пры-), брудзіць (з-, за-, на-, па-, пера-), брыдзіць (з-, на-), буяніць (на-, па-), бянтэжыць (з-), вабіць (з-, за-, па-, пад-, пера-, пры-), важыць (аб-, ад-, да-, з-, за-, на-, неда-, па-, пера-), верыць (да-, з-, за-, па-, пра-), -весіць (ад-, з-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пры-, раз-), -водзіць (аб-, ад-, да-, з-, за-, на-, наз-, напера-, па-, паад-, пад-, наз-, паза-, пана-, папера-, папры-, параз-, пера-, пра-, пры-, раз-, у-, уз-), вудзіць (на-, па-, пера-), вярэдзіць (з-, на-, па-, раз-, у-)* і інш.

Некаторыя дзеясловы гэтага акцэнтнага тыпу выступаюць як варыянты адпаведных дзеясловаў акцэнтнага т ы п у С, напрыклад *вярэдзіць* да *верадзіць, лучыць* да *лучыць, патроіць* да *патраіць, узгодніць* да *ўзгадніць* ці з'яўляюцца нарматыўным варыянтам, да якога БРС дапускае варыянт, што адносіцца да акцэнтнага тыпу С, напрыклад *марачыць* да *марочыць*. Адзначаны і адхіленні, ваганне месца націску (на першым месцы ў кожнай пары даецца нарматыўны націск): *брудзіць — брудзіць, вудзіць — вудзіць, вузіць — вузіць, галубіць — галубіць, кроіць — краіць, мазоліць — мазаліць, нудзіць — нудзіць, паведаміць — паведаміць, пацвердзіць — пацвярдзіць, перчыць — пярчыць, песціць — пясціць, поўніць — паўніць, пудрыць — пудрыць, пустошыць — пусташыць, пучыць — пучыць, раздвоіць — раздваіць, разносіць* (занесці многім) — *разнасіць, разрэдзіць — разрадзіць, смеціць — смяціць, століць — сталіць, тлусціць — тлусціць, трудзіць — трудзіць, спустошыць — спусташыць, старыць — старыць, унурыць — унурыць*. Адпаведныя адхіленні адзначаны і ў формах парадыгмы (схема № 4, *вудзіць*).

§ 948. Да акцэнтнага т ы п у В адносяцца дзеясловы, якія ў формах

прошлага часу маюць націск на апошнім галосным асновы, а ў формах цяперашняга (будучага) часу і загаднага ладу — на канчатку: *вініць — віню́, вініш, вініць, вінім, вініце́, віня́ць, вініў, вініла, вінілі, віні, віне́м, вініце* (схема № 4, *вініць*). Сюды належаць дзеясловы *абагаціць, аснасціць, бамбіць (раз-), благаславіць, бубніць (за-, па-, пра-), будзіць (па-), бурліць (за-, па-), вініць (аб-), віхры́ць (за-), гніць (аб-, да-, з-, за-, па-, пад-), граміць (па-, раз-), графіць (ад-, на-, пера-, пра-, раз-), грубіць (на-, па-, з-), даражы́ць (па-, пера-, пра-), дыміць (аб-, за-, на-, па-, пра-), зарадзіць (пра зброю), закабаліць, кадзіць (па-, пад-), кіпяціць (за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, ус-), кісліць (пад-, пера-), кляйміць (за-), кпіць (а-, на-, па-), радніць (з-, па-), руліць (за-, пад-), рысіць, рыхліць (пад-, раз-, уз-), сарамаціць (а-, за-, на-, па-, пры-), скабіць (тэхн.), сказіць, слядзіць (на-), сніць (да-, на-, пера-, пры-, са-), узбагаціць, уясніць, хаміць (на-), хандры́ць (за-, па-), хітры́ць (аб-, па-, пера-, с-), цямніць (за-, пры-), цясніць (ад-, па-, с-), чадзіць (за-, на-)* і некаторыя іншыя.

А д х і л е н н і сустракаюцца ў дзеясловах *аснасціць, бубніць, віхры́ць, кісліць, руліць, рысіць, рыхліць, скабіць, узбагаціць, хітры́ць, чадзіць, чмуціць*, у якіх у інфінітыве і ў формах парадыгмы часам націск перасоўваецца на адзін склад к пачатку слова.

§ 949. У акцэнтны т ы п С уваходзяць дзеясловы з рухомым націскам: у формах прошлага часу націск на апошнім галосным асновы, у формах першай асобы цяперашняга (будучага) часу і загаднага ладу на флексіі, а ва ўсіх іншых формах цяперашняга (будучага) часу на аснове: *вары́ць — вару́, ва́рыш, ва́рыць, ва́рым, ва́рыце, ва́раць, вары́ў, вары́ла* (ж., н. р.), *вары́лі, вары́, варэ́м, вары́це* (схема № 4, *вары́ць*). Да тыпу С належыць пераважная большасць дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа: *баразніць (з-, па-, пра-), бараніць (а-, ад-, за-, раз-, у-), блудзіць (з-, за-, па-, пра-, пры-), брадзіць (ад-, да-, за-, па-, пера-), будзіць (а-, з-, па-, пера-, пра-, раз-, уз-), буры́ць (а-, за-, па-, раз-, уз-), бяліць (а-, ад-, да-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, у-), вадзіць (аб-, з-, на-, па-, пера-, пра-), вазіць (аб-, ад-, з-, за-, на-, па-, пера-, пра-), валіць (аб-, ад-, да-, за-, на-, па-, пра-, пры-), вары́ць (аб-, ад-, з-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, раз-, у-), вастры́ць (аб-, ад-, да-, з-, за-, на-, па-, пад-, пера-), верадзіць (на-, па-, пад-, раз-, у-), весяліць (па-, пад-, раз-, уз-), гавары́ць (а-, аб-, ад-, да-, з-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, у-), гадзіць (да-, з-, за-, па-, пад-, у-), гаіць (з-, за-, па-, пад-, пры-), галасіць (а-, ад-, за-, па-, пра-), галіць (а-, аб-, ад-, да-, з-, за-, па-, пад-, пера-, пра-), гаманіць (ад-, за-, на-, па-, пра-, у-), гарадзіць (а-, аб-, ад-, да-, з-, за-, пера-, пры-, раз-, у-), гасіць (за-, па-), гасціць (ад-, да-, за-, на-, па-, пра-, у-), гаціць (за-, пера-), гнаіць (з-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пры-, у-), гнявіць (па-, раз-, у-), гразіць (на-, па-, са-, пры-), грузіць (ад-, да-, з-, за-, на-, неда-, па-, пад-, пера- раз-, у-, уз-), губіць (з-, за-, па-, раз-), гусціць (з-, за-, пера-), давіць (ад-, з-, за-, па-, пера-, пры-, раз-), даіць (ад-, з-, на-, па-, пера-, раз-), дары́ць (а-, аб-, ад-, за-, на-, па-, пера-, раз-), дваіць (па-), дзівіць (з-, на-, па-), дзяліць (а-, аб-, ад-, на-, па-, пера-, у-), драбніць (з-, на-, па-, пера-, раз-), дражніць (з-, за-, па-, пера-, пра-, раз-, у-), дружы́ць (з-, па-, пра-, у-), дубіць (да-, на-, па-, пера-, пра-, пры-), дуры́ць (аб-, за-, на-, па-, раз-)* і інш.

Каля ста дзеясловаў акцэнтнага тыпу С у моўнай практыцы маюць варыянты па ўзору акцэнтнага тыпу В. Да ліку такіх дзеясловаў належаць: *абвясціць, арасіць, асвяціць, асіраціць, аццяліць, баразніць, весяліць, вяршы́ць, гадзіць, гасціць, гаціць, глуміць, гнусіць, гнявіць, гняздзіцца, грашы́ць, дваіць, дваіцца, драбіць, драбніць, жаўціць, жывіць, залаціць, зачарніць, зачасціць, зачырваніць, зеляніць, значы́ць, іскры́ць, караціць, кругліць, кружы́ць, ледзяніць, лудзіць, ляшы́ць, матлашы́ць,*

Схема № 4

**Месцаразмяшчэнне націску ў дзеясловах чацвёртага прадуктыўнага класа**

Акцэнтны тып А

| Інф. | *ма́рыць* | *лу́чыць* | *ву́дзіць* |
|---|---|---|---|
| Цяп. адз. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |
| 3 ас. | | | |
| мн. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |
| 3 ас. | | | |
| Пр. адз. м. | | | |
| ж. | | | |
| н. | | | |
| мн. | | | |
| Заг. адз. 2 ас. | | | |
| мн. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |

Акцэнтны тып В      Акцэнтны тып С

| Інф. | *зве́ніць* | *вары́ць* | *абвясці́ць* |
|---|---|---|---|
| Цяп. адз. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |
| 3 ас. | | | |
| мн. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |
| 3 ас. | | | |
| Пр. адз. м. | | | |
| ж. | | | |
| н. | | | |
| мн. | | | |
| Заг. адз. 2 ас. | | | |
| мн. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |

*муціць, мярцвіць, мясціць, падрадзіць, пазалаціць, пакарыць, паланіць, папяліць, парадзіць, парадніць, пасерабрыць, патравіць, паўтарыць, перахітрыць, пладзіць, плаціць, праясніць, прысвяціць, пыліць, п'яніць, пяршыць, пятліць, радзіць, радніць, разарыць, разрадзіць, раіць, расіць, рашыць, скараціць, скарыць, скуліць, сляпіць, смяшыць, спапяліць, сумясціць, сурміць, таіць, тарасіць, тармазіць, тармасіць, тайсціць, тлуміць, траіць, трасціць, угнаіць, удачарыць, узбагаціць, узгадніць, узнавіць, укараніць, умясціць, усынавіць, халадзіць, часціць* (схема № 4, *абвясціць*).

Пры вызначэнні нормы для прыведзеных дзеясловаў у разлік прымаюцца наступныя акалічнасці. Першае — пераважная частка дзеясловаў з націскам у інфінітыве на галосным, які з'яўляецца прыметай класа, характарызуецца рухомым тыпам націску ў парадыгме цяперашняга і будучага простага часу, у той час як нерухомы канцавы тып націску ўласцівы зусім невялікай групе дзеясловаў. Гэта значыць, што вядучым для

разгледжаных дзеясловаў з'яўляецца рухомы тып націску, пры якім ва ўсіх формах асобы, акрамя формы 1-ай асобы адзіночнага ліку, націск прыпадае на аснову. (Адначасова варта напомніць, што ўсе дзеясловы, якія ў інфінітыве маюць націск на аснове, у парадыгме захоўваюць яго таксама на аснове.) Таму пры вызначэнні нормы для дзеясловаў, якім у практыцы ўласцівы дублетныя тыпы націску, мэтазгодна перавагу аддаваць таму тыпу, які з'яўляецца вядучым, г. зн. тыпу С. Другое, што ўлічваецца пры вызначэнні нормы, гэта аналіз ужывальнасці кожнага з дублетных тыпаў у пісьмовай практыцы. Але гэты крытэрый нельга лічыць эфектыўным з-за таго, што арфаграфія з'яўляецца сведчаннем аб месцы націску толькі для часткі дзеясловаў. Нарэшце, трэцяе, што ўлічваецца пры вызначэнні нормы,— гэта непасрэднае анкеціраванне (адказы на пытанне пра месца націску). Тут няма магчымасці разгорнута праілюстраваць сказанае фактычным матэрыялам з пісьмовых крыніц і вусных адказаў. Прывядзём толькі вынікі разгляду. Са 114 дзеясловаў, для якіх у моўнай практыцы ў парадыгме цяперашняга і будучага простага часу зафіксаваны дублетныя акцэнтныя варыянты, 90 на аснове вышэйпрыведзеных матываў варта аднесці да групы з рухомым націскам. Напрыклад, *гасціць — гашчу́, госціш, госціць, госцім, госціце, госцяць; арасі́ць — арашу́, аросіш, аросіць, аросім, аросяць* і інш. Астатнія 24 дзеясловы прымыкаюць да групы з нерухомым націскам на канчатку: *басі́ць — башу́, басі́ш, басі́ць, басі́м, басіце́, махаць.* Такімі з'яўляюцца: *басіць, бубніць, графіць, дыміць, зачасціць, іскрыць, ледзяніць, папяліць, перахітрыць, праясніць, пяршыць, пятліць, руліць, рысіць, слядзіць, удачарыць, усынавіць, фарсіць, франціць, цясніць, чадзіць, часціць.*

### *Націск дзеясловаў першага непрадуктыўнага класа*

§ 950. Да першага непрадуктыўнага класа належыць каля 105 дзеясловаў на *-аць (-яць)*, аснова інфінітыва якіх заканчваецца на *-а (-я)*, а аснова цяперашняга часу — на зычны.

У інфінітыве націск на корані маюць дзеясловы (≈23): *ба́яць, ве́яць, дзе́яць, ды́хаць, е́хаць, жлу́ктаць, ка́яцца, клі́каць, ла́яць, ма́заць, мы́каць, пла́каць, пы́хаць, рэзаць, се́яць, смы́каць, сы́каць, сы́паць, та́яць, ты́каць, ха́яць, хны́каць, чмы́хаць;* пераважная большасць дзеясловаў (≈70) мае націск на суфіксе: *абавяза́ць, апераза́ць, ара́ць, балбата́ць, бляя́ць, бразгата́ць, браха́ць, булькatáць, вуркatáць, вяза́ць, гагата́ць, груката́ць, драма́ць, друзгата́ць, еката́ць, ілга́ць, іржа́ць, кава́ць, каза́ць, казыта́ць, калыха́ць, квакта́ць, клапата́ць, клеката́ць, клява́ць, кляпа́ць, кракта́ць, крахта́ць, лама́ць, лапата́ць, леката́ць, лепята́ць, ліза́ць, луза́ць, ляската́ць, мармыта́ць, маха́ць, ніза́ць, паказа́ць, паласка́ць, піса́ць, плюската́ць, пляска́ць, пяя́ць, рагата́ць, раката́ць, саката́ць, свіста́ць, скавыта́ць, скагата́ць, скака́ць, скрыгата́ць, смакта́ць, смяя́цца, стагна́ць, страката́ць, струга́ць, стуката́ць, сука́ць, тапта́ць, трапа́ць, трапята́ць, турката́ць, уварва́ць, усыпа́ць, хваста́ць, хлябта́ць, цаката́ць, целяпа́ць, часа́ць, шапта́ць, шчабята́ць, шчыпа́ць.*

§ 951. Да акцэнтнага т ы п у А адносяцца дзеясловы, якія ў інфінітыве і ва ўсіх спрагальных формах маюць націск на адным і тым жа складзе каранёвай часткі асновы: *ды́хаць — ды́хаю, ды́хаеш, ды́хае, ды́хаем, ды́хаеце, ды́хаюць, ды́хаў, ды́хала* (ж., н. р.), *ды́халі, ды́хай, ды́хайма, ды́хайце; сы́паць — сы́плю, сы́плеш, сы́пле, сы́плем, сы́плеце, сы́плюць, сы́паў, сы́пала* (ж., н. р.), *сы́палі, сып, сы́пма, сы́пце.* Лексічны састаў дзеясловаў акцэнтнага тыпу А (≈23) прыведзены вышэй, дзе пералічаны дзеясловы, у якіх у інфінітыве націск прыпадае на корань.

§ 952. Акцэнтны т ы п В аб'ядноўвае дзеясловы (≈20), якія ў формах

Схема № 5

**Месцаразмяшчэнне націску ў дзеясловах першага непрадуктыўнага класа**

| | Акцэнтны тып А | Акцэнтны тып В | Акцэнтны тып С |
| --- | --- | --- | --- |
| Інф. | *ды́хаць* | *ара́ць* | *каза́ць* |
| Цяп. адз. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |
| 3 ас. | | | |
| мн. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |
| 3 ас. | | | |
| Пр. адз. м. | | | |
| ж. | | | |
| н. | | | |
| мн. | | | |
| Заг. адз. 2 ас. | | | |
| мн. 1 ас. | | | |
| 2 ас. | | | |

прошлага часу маюць націск на апошнім складзе асновы, а ў формах цяперашняга (будучага) часу і загаднага ладу — на флексіі: *ара́ць, ару́, арэш, арэ, ором, араце́, ару́ць, ара́ў, ара́ла* (ж., н. р.), *ара́лі, ары́, арэм, ары́це; праць, пяру́, пярэш, пярэ, пяром, пяру́ць, праў, пра́ла* (ж., н. р.), *пра́лі, пяры́, пярэм, пяры́це.* Да тыпу В належаць дзеясловы *ара́ць, бляя́ць, браць, драць, жраць, зваць, ззяць, іржа́ць, кава́ць, кліава́ць, лгаць, праць, рваць, слаць (шлю, шлеш ... шлі, шлем, шліце), смяя́цца, ссаць, ткаць, целяпа́ць, часа́ць.*

§ 953. У акцэнтны тып С уваходзяць дзеясловы ($\approx$62), у якіх у формах прошлага часу націск на апошнім складзе асновы, у форме 1-ай асобы цяперашняга часу і формах загаднага ладу—на флексіі, а ў астатніх формах цяперашняга часу — на аснове: *каза́ць, кажу́, ка́жаш, ка́жа, ка́жам, ка́жаце, ка́жуць, каза́ў, каза́ла* (ж., н. р.), *каза́лі, кажы́, кажэ́м, кажы́це; шчыпа́ць, шчыплю́, шчы́плеш, шчы́пле, шчы́плем, шчы́плеце, шчы́плюць, шчыпа́ў, шчыпа́ла* (ж., н. р.), *шчыпа́лі, шчыплі́, шчыпле́м, шчыплі́це.* Да акцэнтнага тыпу С належаць дзеясловы *абавяза́ць, апераза́ць, балбата́ць, бразгата́ць, браха́ць, булькатаць, вуркатаць, вяза́ць, гагата́ць, грукатаць, драма́ць, друзгата́ць, еката́ць, каза́ць, казыта́ць, калыха́ць, квакта́ць, клаката́ць, клеката́ць, кляпа́ць, кракта́ць, крахта́ць, лама́ць, лапата́ць, леката́ць, лепята́ць, ліза́ць, луза́ць, ляската́ць, мармыта́ць, ніза́ць, паказа́ць, паласка́ць, піса́ць, плюската́ць, пляска́ць, рагата́ць, ракатаць, саката́ць, свіста́ць, скавыта́ць, скагата́ць, скака́ць, скрыгата́ць, сла́ць (сцялю́, сце́леш... сцялі́, сцяле́м, сцялі́це), смакта́ць, стагна́ць, страката́ць, струга́ць, стуката́ць, сука́ць, тапта́ць, трапа́ць, трапята́ць, турката́ць, хваста́ць, хлябта́ць, цаката́ць, часа́ць, шапта́ць, шчабята́ць.*

### *Націск дзеясловаў другога непрадуктыўнага класа*

§ 954. Другі непрадуктыўны клас складаюць дзеясловы ($\approx$70) з інфінітывам на *-аць, (-яць), -ець (-эць)* — з суфіксамі *-а, е-* ў інфінітыве — і ў формах цяперашняга часу без гэтых суфіксаў.

У пераважнай большасці дзеясловаў ($\approx$65) у інфінітыве націск на

суфіксальным галосным *-а-(-я-), -е-(-э-)* *бурчáць, гучáць, ламáць, пішчáць, спаць, стаяць, вісéць, глядзéць, дымéць, звінéць, ляцéць, сядзéць, кішэць* і інш. На корані націск у дзеясловах *залéжаць, налéжаць, нýдзіць, рýпіць,* і вытворных ад дзеясловаў *глядзець, ляжаць, стаяць, сядзець — абглéдзець, абглéдзецца, аглéдзець, аглéдзецца, даглéдзець* (і *дагляд зéць* з некалькі іншым значэннем), *зглéдзець, заглéдзець, заглéдзецца* (і *заглядзéцца*), *наглéдзець, наглéдзецца* (і *наглядзéцца*), *падглéдзець* (і *падглядзéць* у некалькі іншым значэнні), *пераглéдзець* (і *пераглядзéць*), *праглéдзець* (і *праглядзéць*), *прыглéдзець* (і *прыглядзéць*), *прыглéдзецца* (і *прыглядзéцца*), *разглéдзець* (і *разглядзéць* у некалькі іншым значэнні), *разглéдзецца, углядзéць, углéдзецца* (і *углядзéцца*); *аблéжаць* (і *абляжáць*), *адлéжацца* (і *адляжáцца*), *далéжаць* (і *даляжáць*), *далéжацца* (і *даляжáцца*), *злéжаць, злéжацца* (і *зляжáцца*), *паралéжаць* (і *пераляжáць*), *пралéжаць* (і *праляжáць*), *улéжаць* (і *уляжáць*), *улéжацца* (і *уляжáцца*); *замóўчаць* (і *замаўчáць*), *змóўчаць* (і *змаўчáць*); *адстоя цца* ( і *адстаяцца*), *астояцца, настояць* (і *настаяць* у іншым значэнні), *настóяцца* (і *настаяцца* ў іншым значэнні), *устояць* (і *устаяць*), *устояцца* (і *устаяцца*); *абсéдзець, абсéдзецца, адсéдзець* (і *адсядзéць*), *адсéдзецца* (і *адсядзéцца*), *дасéдзець* (і *дасядзéць*), *дасéдзецца* (і *дасядзéцца*), *засéдзець* (і *засядзéць*), *засéдзецца* (і *засядзéцца*), *насéдзець* (і *насядзéць*), *насéдзецца* (і *насядзéцца*), *падсéдзець, перасéдзець* (і *перасядзéць*), *прасéдзець* (і *прасядзéць*), *усéдзець* (і *усядзéць*).

Паводле месцаразмяшчэння націску ў формах парадыгмы дзеясловы разглядаемага класа аб'ядноўваюцца ў чатыры акцэнтныя тыпы — А, В, $B_1$, С.

§ 955. Да акцэнтнага тыпу А належаць дзеясловы, у якіх націск ва ўсіх спрагальных формах на адным і тым жа складзе асновы: *залéжаць, налéжаць, нудзéць, рунéць;* прыставачныя дэрываты дзеясловаў *глядзéць, ляжáць, маўчáць, стаяць; сядзéць: нудзéць, нудзéю, нудзéеш, нудзée, нудзéем, нудзéеце, нудзéюць, нудзéў, нудзéла* (ж., н. р.), *нудзéлі,* (не) *нудзéй,* (не) *нудзéйма,* (не) *нудзéйце; аглéдзець, аглéджу, аглéдзіш, аглéдзіць, аглéдзім, аглéдзіце, аглéдзяць, аглéдзеў, аглéдзела* (ж., н. р.), *аглéдзелі, аглéдзь, аглéдзьма, аглéдзьце* (схема № 6, *нудзéць*).

§ 956. Да акцэнтнага тыпу В — у формах прошлага часу націск на апошнім складзе асновы, а ў формах цяперашняга і будучага часу і загаднага ладу на флексіі — адносіцца пераважная большасць (каля 60) дзеясловаў другога непрадуктыўнага класа: *маўчáць, маўчý, маўчы́ш, маўчы́ць, маўчы́м, маўчыцé, маўчáць, маўчáў, маўчáла* (ж., н. р.), *маўчáлі, маўчы́, маўчэ́м, маўчы́це; сядзéць, сяджý, сядзíш, сядзíць, сядзíм, седзіцé, сядзяць, сядзéў, сядзéла* (ж., н. р.), *сядзéлі, сядзí, сядзéм, сядзíце.* У тып В уваходзяць дзеясловы *бліскацéць, бліш чáць, бразгацéць, брынчáць, бурчáць, верашчáць, вісéць, вішчáць, гарэць, глядзéць, грукацéць, дрыжáць, дудзéць, дымéць, звінéць, зіхацéць, імглéць імжэць, кіпéць, кішэць, крычáць, курэць, лапацéць, ліпéць, ляжáць, ляскацéць, ляцéць, маўчáць, мігацéць, мігцéць, мільгацéць,* (і)*мчáць, пішчáць, свірчэць, свіцéцца, свярбéць, сквірчэць, слізгацéць, смылéць, смярдзéць, спáць, сядзéць, тарахцéць, та(ы)рчáць, трашчáць, трымцéць, хрусцéць, хрыпéць, цурчáць, цярпéць, шалясцéць, шамацéць, шаргацéць, шумéць, шчымéць, шыпéць.* Адхіленні зафіксаваны для дзеяслова *цярпець,* якому ўласціва акцэнтуацыя і па тыпу С — *цярплю, цéрпіш, цéрпіць, цéрпім, цéрпіце, цéрпяць, цярпéў, цярпéла* (ж., н. р.), *цярпéлі, цярпі, цярпéм, цярпíце* (схема № 6, *маўчáць,* *цярпéць*).

§ 957. Да акцэнтнага тыпу $B_1$ належаць дзеясловы *баяцца, стаяць,* у якіх у формах прошлага часу і загаднага ладу націск на апошнім

**Схема № 6**

**Месцаразмяшчэнне націску ў дзеясловах другога непрадуктыўнага класа**

| | Акцэнтны тып А | Акцэнтны тып В | |
|---|---|---|---|
| Інф. | *нудзець* | *маўчаць* | *цярпець* |
| Цяп. адз. 1 ас. | — —\| — | — —\| | — —\| |
| 2 ас. | — —\| — | — —\| | —\| —\| |
| 3 ас. | — —\| — | — —\| | —\| —\| |
| мн. 1 ас. | — —\| — | — — | —\| —\| |
| 2 ас. | — —\| — — | — — —! | —\| — —! |
| 3 ас. | — —\| — | — —\| | — — |
| Пр. адз. м. | — —\| | — —\| | — —\| |
| ж. | — —\| — | — —\| — | — —\| |
| н. | — —\| — | — —\| — | — —\| |
| мн. | — —\| — | — —\| — | — —\| |
| Заг. адз. 2 ас. | — —\| | — —\| | — —\| |
| мн. 1 ас. | — —\| — | — —\| | — —\| |
| 2 ас. | — —\| — | — —\| — | — —\| — |

складзе асновы, а ў формах цяперашняга часу на флексіі: *баяцца, баюся, баішся, баіцца, баімся, баіцеся, баяцца, баяўся, баялася* (ж., н. р.), *баяліся, (не)бойся, (не)боймася, (не)бойцеся.*

У акцэнтны тып С уваходзяць дзеясловы *вярцець, гнаць, ламаць,* у якіх у формах прошлага часу націск на апошнім складзе асновы, у форме 1-ай асобы цяперашняга часу і формах загаднага ладу на флексіі, а ў астатніх формах цяперашняга часу — на аснове: *гнаць, ганю, гоніш, гоніць, гонім, гоніце, гоняць, гнаў, гнала* (ж., н. р.), *гналі, гані, ганём, ганіце.*

### *Націск дзеясловаў трэцяга непрадуктыўнага класа*

§ 958. Да гэтага класа належаць дзеясловы з суфіксам *-ну-* ў інфінітыве, якія захоўваюць суфіксальнае *н* у формах цяперашняга часу і страчваюць у формах прошлага часу.

У інфінітыве ў пераважнай большасці дзеясловаў націск на корані, дзе ён захоўваецца і ва ўсіх спрагальных формах: *мерзнуць, мерзну, мерзнеш, мерзне, мерзнем, мерзнеце, мерзнуць, мёрз, мерзла* (ж., н. р.), *мерзлі, мерзні, мерзнем, мерзніце; абвергнуць, абвергну, абвергнеш, абвергне, абвергнем, абвергнеце, абвергнуць, абверг, абвергла* (ж., н. р.), *абверглі, абвергні, абвергнем, абвергніце.* Такія дзеясловы складаюць акцэнтны тып А. Сюды ўваходзіць каля 40 беспрыставачных дзеясловаў: *блякнуць, бракнуць, брыднуць, брызгнуць, бухнуць, віснуць, вязнуць, вянуць, гаснуць, глухнуць, горкнуць, гразнуць, грузнуць, гуснуць, дохнуць, жоўкнуць, жухнуць, зызнуць, зябнуць, кіснуць, ліпнуць, мерзнуць, мёркнуць, мокнуць, моўкнуць, мякнуць, нікнуць, пахнуць, прагнуць, пухнуць, сіпнуць, слепнуць, смагнуць, сохнуць, тухнуць, хрыпнуць, ціснуць, ціхнуць, чахнуць;* вытворныя ад іх прыставачныя і вытворныя прыставачныя ад дзеясловаў, якія без прыстаўкі ў сучаснай беларускай мове не ўжываюцца: *-бегнуць (паз-), -вергнуць (аб-, ад-, з-, пад-, у-), -карузнуць (за-), -крэснуць (увас-), -прахнуць (с-), -сцігнуць (спа-), -сякнуць (пра-), -храснуць (за-).*

Дзеясловы *сягнуць (да-, па-, пера-, пры-), уракнуць* адносяцца да акцэнтнага тыпу В — у формах прошлага часу націск на апошнім складзе асновы (суфіксальнае *н* захоўваецца), а ў формах цяперашня-

га і будучага часу і загаднага ладу — на флексіі: *дасягну́ць, дасягну́, дасягне́ш, дасягне́, дасягнём, дасягняце́, дасягну́ць, дасягну́ў, дасягну́ла* (ж., н. р.), *дасягну́лі, дасягні, дасягне́м, дасягніце*. Адхіленні зафіксаваны ў адносінах да форм цяперашняга часу, у якіх у моўнай практыцы націск сустракаецца на корані.

### *Націск дзеясловаў чацвёртага непрадуктыўнага класа*

§ 959. Сюды належыць каля 40 бяссуфіксных дзеясловаў з інфінітывам на *-ці, -сці*, якія спрагаюцца паводле I спражэння.

У інфінітыве націск на каранёвай частцы маюць дзеясловы: *ве́зці, ве́сці, гне́сці, гры́зці, грэ́бці, дзе́рці, кла́сці, кра́сці, ле́зці, ме́рці, ме́сці, не́сці, па́сці, пе́рці, пле́сці, пра́сці, распасце́рці, се́сці, скрэ́бці, ску́бці, трэ́сці, це́рці*; на канцавым галосным — дзеясловы: *басці, брысці, вярзці, гусці, дзяўбці, клясці, пасці, паўзці, расці, раўці, сапці, храпці, цвісці, чаўпці.*

У залежнасці ад месцаразмяшчэння націску ў формах парадыгмы дзеясловы разглядаемага класа складаюць акцэнтныя тыпы А, В, D.

§ 960. Да акцэнтнага т ы п у А належаць назоўнікі *красці, лезці, сесці*, у якіх у інфінітыве і ўсіх спрагальных формах націск на адным і тым жа складзе асновы: *ле́зу, ле́зеш, ле́зе, ле́зем, ле́зеце, ле́зуць, лез, ле́зла* (ж., н. р.), *ле́злі, лезь, ле́зьма, ле́зеце.*

§ 961. Да акцэнтнага т ы п у В належаць усе астатнія (акрамя *кра́сці, ле́зці, се́сці*) дзеясловы ($\approx 19$), у якіх у інфінітыве націск на каранёвай частцы (гл. вышэй), і дзеяслоў *бада́ць* з націскам канцавым. У формах цяперашняга (будучага) часу і загаднага ладу націск на флексіі: *кладу́, кладзе́ш, кладзе́, кладзём, кладзяце́, кладу́ць, кла́ў, кла́ла, кла́лі, кладзі, кладзе́м, кладзі́це; бада́ць, баду́, бадзе́ш, бадзе́, бадзём, бадзяце́, баду́ць, бада́ў, бада́ла* (ж., н. р.), *бада́лі, бада́й, бада́йма, бада́йце* (схема № 7).

А д х і л е н н і. 1. Дзеясловы *весці, гнесці, месці, плесці* ў моўнай практыцы (у маўленні і ў мастацкай літаратуры) сустракаюцца з націскам на канцавым галосным: *вясці, гнясці, мясці, плясці.*

2. Для дзеясловаў *везці, грэбці, несці, скрэбці, трэсці* ў інфінітыве і формах жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку і ў формах множнага ліку ў маўленні і ў творах мастацкай літаратуры адзначаны варыянты з канцавым націскам: *ве́зці, ве́зла* (ж., н. р.), *ве́злі* і *вязці, вязла́, вязло́, вязлі́*. Ва ўсіх нарматыўных крыніцах для інфінітываў *везці, несці, трэсці* рэкамендуецца націск на корані (БРС, ТСБМ, РБС, $РБС_2$, акадэмічная граматыка, Курс сучаснай беларускай мовы, манаграфіі Івашуціч Я. М. і Шубы П. П.). Для дзеяслова *грэбці* ТСБМ і акадэмічная граматыка рэкамендуюць *грэбці* і *грабці*, БРС, РБС, $РБС_2$, Курс сучаснай беларускай мовы, манагарфія Івашуціч Я. М. — *грэбці*, манаграфія Шубы П. П. — *грабці*. Як нарматыўны варыянт рэкамендуюць інфінітыў *скрэбці* БРС, ТСБМ, РБС, $РБС_2$, манаграфія Івашуціч Я. М., варыянт *скрабці* — акадэмічная граматыка, манаграфія Шубы П. П. Такім чынам, пераважна рэкамендуецца каранёвы націск і радзей канцавы, што дазваляе першы лічыць нарматыўным, а другі ацэньваць як дапусцімы варыянт.

§ 962. Для акцэнтнага т ы п у D ва ўсіх спрагальных формах націск на флексіі: *расту́, расце́ш, расце́, расцём, расцяце́, расту́ць, рос, расла́* (ж., н. р.), *раслі, расці, расцём, расціце.* Да тыпу D належаць дзеясловы *брысці, вярзці, гусці, дзяўбці, клясці, пасці, паўзці, расці, раўці, сапці, храпці, цвісці, чаўпці.*

Схема № 7

**Месцаразмяшчэнне націску ў дзеясловах чацвёртага непрадуктыўнага класа**

| | Акцэнтны тып А | | Акцэнтны тып В | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Інф. | *лёзці* | | *клáсці* | | | *вéзці* | | |
| Цяп. адз. 1 ас. | — | — | — | — | | — | — | |
| 2 ас. | — | — | — | — | | — | — | |
| 3 ас. | — | — | — | — | | — | — | |
| мн. 1 ас. | — | — | — | — | | — | — | |
| 2 ас. | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 3 ас. | — | — | — | — | | — | — | |
| Пр. адз. м. | — | | — | | | — | | |
| ж. | — | — | — | — | | — | — | |
| н. | — | — | — | — | | — | — | |
| мн. | — | — | — | — | | — | — | |
| Заг. адз. 2 ас. | — | | — | — | | — | — | |
| мн. 1 ас. | — | — | — | — | | — | — | |
| 2 ас. | — | — | — | — | | — | — | |

### *Націск дзеясловаў пятага непрадуктыўнага класа*

§ 963. Сюды належаць дзеясловы з суфіксам *-чы* ў інфінітыве і з асновай цяперашняга і прошлага часу на *г, к,* якія ў некаторых формах цяперашняга часу чаргуюцца з *ж, ч.* У клас уваходзяць 12 беспрыставачных дзеясловаў — *бéгчы, берагчы́, валачы́, лéгчы, магчы́, прэгчы* 'смажыць', *пячы́, сéкчы (сячы), стры́гчы, сцерагчы́, таўчы́, цячы́* і 10 са звязанымі асновамі — *адпрэгчы, запрэгчы, падпрэгчы, перапрэгчы, прыпрэгчы, прэгчы, распрэгчы, адрачы́, урачы́, зрачы́ся, вы́рачыся.*

У інфінітыве 11 дзеясловаў гэтага класа маюць націск на каранёвай частцы: *адпрэгчы, бéгчы, запрэгчы, лéгчы, падпрэгчы, перапрэгчы, прыпрэгчы, прэгчы, распрэгчы, сéкчы* (рэг.), *стры́гчы* і 12 — на канцавым галосным: *адрачы́, берагчы́, валачы́, магчы́, пячы́, сячы́, сцерагчы́, таўчы́, урачы́, цячы́.* У залежнасці ад месцаразмяшчэння націску ў спрагальных формах гэтыя дзеясловы ўваходзяць у тыпы B, D, $A_1$, $C_1$.

§ 964. Да акцэнтнага тыпу В належаць дзеясловы *адпрэгчы, бегчы, запрэгчы, падпрэгчы, перапрэгчы, прыпрэгчы, прэгчы, распрэгчы, секчы, стры́гчы,* у якіх у формах прошлага часу націск на апошнім складзе асновы, а ў формах цяперашняга і будучага часу і загаднага ладу — на флексіі: *бягý, бяжы́ш, бяжы́ць, бяжы́м, бежыцé, бягýць, бег, бéгла* (ж., н. р.), *бéглі, бяжы́, бяжэм, бяжы́це.*

§ 965. Да акцэнтнага тыпу D адносяцца дзеясловы *адрачы́, берагчы́, валачы́, зрачы́ся, пячы́, сцерагчы́, таўчы́, урачы́, цячы́,* у якіх ва ўсіх спрагальных формах націск на флексіі: *берагý, беражэш, беражэ, беражом, беражыцé, берагýць, бярóг, берагла́* (ж., н. р.), *берагліˊ, беражы́, беражэм, беражы́це.*

§ 966. Дзеяслоў *легчы* можна аднесці да акцэнтнага тыпу $A_1$ — у формах цяперашняга і будучага часу і загаднага ладу націск на каранёвай частцы, а ў формах прошлага часу — на флексіі: *ля́гу, ля́жаш, ля́жа, ля́жам, ля́жаце, ля́гуць, лёг, ляглá, ягло, ляглі, ляж, ля́жма, ля́жце.* Адхіленні: у формах жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку і ў форме множнага ліку ў моўнай практыцы сустракаецца націск на аснове — *лéгла* (ж., н. р.), *лéглі.*

§ 967. Дзеяслоў *магчы* можна аднесці да акцэнтнага тыпу $C_1$ — у

формах 1-ай асобы цяперашняга часу, формах прошлага часу і загаднага ладу націск на флексіі, а ў іншых формах цяперашняга часу — на корані: *магу́, можаш, можа, можам, можаце, могуць, мог, магла́, магло, маглі, (з)мажы́, (з)мажэм, (з)мажы́це.*

### *Націск дзеясловаў шостага непрадуктыўнага класа*

§ 968. Гэта дзеясловы, аснова інфінітыва якіх канчаецца на галосны *-а (-я)*, а аснова цяперашняга часу — на санорныя *н* або *м*. Да класа належаць 7 беспрыставачных дзеясловаў: *даць, жаць (жну), жаць (жму), мяць, пяць, стаць* і вытворныя прыставачныя ад іх, вытворныя ад *-няць, -чаць, -імаць: абня́ць, адня́ць, даня́ць, заня́ць, зняць, наня́ць, падня́ць, пераня́ць, прыня́ць, разня́ць, суня́ць, уня́ць, узня́ць, успрыня́ць; зача́ць, пача́ць; прыма́ць.*

У інфінітыве ва ўсіх дзеясловах гэтага класа націск на галоснай суфікса.

Паводле размеркавання націску ў спрагальных формах дзеясловы адносяцца да акцэнтных тыпаў A, B, $C_1$, D.

§ 969. Да акцэнтнага т ы п у A належаць дзеясловы *даста́ць, заста́ць, стаць*, у якіх ва ўсіх спрагальных формах націск на адным і тым жа складзе асновы: *даста́ну, даста́неш, даста́не, даста́нем, даста́неце, даста́нуць, даста́ў, даста́ла* (ж., н. р.), *даста́лі, даста́нь, даста́ньма, даста́ньце.*

§ 970. Акцэнтны т ы п B складаюць дзеясловы *абця́ць, адпя́ць, адця́ць, жаць (жну), жаць (жму), заця́ць, мяць, размя́ць, распя́ць, сцяць, цяць*. У формах прошлага часу націск на апошнім складзе асновы, а ў формах цяперашняга і будучага часу і загаднага ладу — на флексіі: *дажну́, дажне́ш, дажне́, дажнём, дажняце́, дажну́ць, дажа́ў, дажа́ла* (ж., н. р.), *дажа́лі, дажні́, дажне́м, дажні́це.*

§ 971. У акцэнтны т ы п $C_1$ уваходзяць дзеясловы *абня́ць, адня́ць, даня́ць, заня́ць, зня́ць, наня́ць, падня́ць, пераня́ць, праня́ць, прыня́ць, суня́ць, узня́ць, успрыня́ць*. Націск у 1-ай асобе адзіночнага ліку цяперашняга часу, формах загаднага ладу і прошлага часу на флексіі, а ва ўсіх іншых формах цяперашняга часу — на аснове: *прыму, прымеш, прыме, прымем, прымеце, прымуць, прыняў, прыняла, прыняло, прынялі, прымі, прымем, прыміце.* А д х і л е н н і: у формах жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку і ў формах множнага ліку прошлага часу ў моўнай практыцы сустракаюцца варыянты з націскам на апошнім складзе асновы — *абня́ла* (ж., н. р.), *абня́лі, прыня́ла* (ж., н. р.), *прыня́лі, зня́ла* (ж., н. р.), *зня́лі.*

Дзеясловы *зача́ць, пача́ць, уня́ць* адносяцца да акцэнтнага т ы п у D — ва ўсіх спрагальных формах націск на флексіі: *пачну́, пачне́ш, пачне́, пачнём, пачняце́, пачну́ць, пача́ў, пачала́, пачало, пачалі́, пачні́, пачне́м, пачніце́.* А д х і л е н н і: у формах жаночага і ніякага роду адзіночнага ліку і форме множнага ліку сустракаюцца варыянты з націскам на апошнім складзе асновы: *зача́ла* (ж., н. р.), *зача́лі, пача́ла* (ж., н. р.), *пача́лі, уня́ла* (ж., н. р.), *уня́лі.*

### *Націск дзеясловаў сёмага непрадуктыўнага класа*

§ 972. Сюды адносяцца 5 дзеясловаў I спражэння з поўнагалоссем *-ало-, -аро-* ў аснове інфінітыва: *бароць, калоць, малоць, палоць, пароць.* Усе дзеясловы гэтага класа належаць да акцэнтнага т ы п у B — націск у формах прошлага часу і формах загаднага ладу на флексіі: *мялю́, ме́леш, ме́ле, ме́лем, ме́леце, ме́люць, малоў, малола, малолі, мялі́, мяле́м, мялі́це.*

Схема № 8

**Месцаразмяшчэнне націску ў дзеясловах сёмага непрадуктыўнага класа**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Інф. | | *пачáць* | |
| Цяп. адз. | 1 ас. | — — | |
| | 2 ас. | — — | |
| | 3 ас. | — — | |
| мн. | 1 ас. | — — | |
| | 2 ас. | — — | — |
| | 3 ас. | — — | — |
| Пр. адз. | м. | — — | |
| | ж. | — — | — |
| | н. | — — | — |
| | мн. | — — | — |
| Заг. адз. | 2 ас. | — — | |
| мн. | 1 ас. | — — | |
| | 2 ас. | — — | — |

### *Націск дзеясловаў восьмага непрадуктыўнага класа*

§ 973. Да яго належаць дзеясловы, у якіх у аснове інфінітыва суфікс *-ва-*, а ў аснове цяперашняга часу *-j-*: *давáць, ставáць* і вытворныя прыставачныя ад іх *аддавáць, наддавáць, падавáць, паддавáць, перадавáць, прадавáць, прыдавáць, раздавáць, удавáць, адставáць, даставáць, перасставáць, прыставáць, прыўставáць, уставáць;* дзеяслоў *дзявáць;* тры групы дзеясловаў са звязанымі асновамі: *адзявáць, надзявáць, пададзявáць, перадзявáць, прыадзявáць, раздзявáць; спадзявáцца, дазнавáцца, пазнавáць, прызнавáць; абтавáць, адтавáць, падтавáць, пратавáць, раставáць.*

У інфінітыве націск на суфіксе. Усе дзеясловы адносяцца да акцэнтнага т ы п у В — націск у формах прошлага часу і загаднага ладу на апошнім складзе асновы, а ў формах цяперашняга часу на флексіі: *даю́, дае́ш, дае́, даём, даяцé, даю́ць, давáў, давáла* (ж., н. р.), *давáлі, давáй, давáйма, давáйце; дастаю́, дастае́ш, дастае́, дастаём, дастаяцé, дастаю́ць, даставáў, даставáла* (ж., н. р.), *даставáлі, даставáў, даставáйма, даставáйце; пазнаю́, пазнае́ш, пазнáе, пазнаём, пазнаяцé, пазнаю́ць, пазнавáў, пазнавáла* (ж., н. р.), *пазнавáлі, пазнавáй, пазнавáйма, пазнавáйце.*

### *Націск дзеясловаў дзевятага непрадуктыўнага класа*

§ 974. Гэты клас складаюць дзеясловы *біць, віць, ліць, піць.* Дзеяслоў *біць* адносіцца да акцэнтнага т ы п у В — націск у формах цяперашняга часу і загаднага ладу — на флексіі, а ў формах прошлага часу — на апошнім складзе асновы: *б'ю, б'еш, б'е, б'ём, б'яцé, б'юць, біў, біла* (ж., н. р.), *білі, бі, б'ем, біце.* Дзеясловы *віць, ліць, піць* належаць да акцэнтнага т ы п у С — націск ва ўсіх спрагальных формах на флексіі: *лью, льеш, лье, льём, льяцé, льюць, ліў лілá, ліло, лілі, лі, льем, ліце.*

### *Націск дзеясловаў дзесятага непрадуктыўнага класа*

§ 975. Дзеясловы гэтага класа *брыць, выць, мыць, ныць, рыць, шыць* належаць да акцэнтнага т ы п у А — націск ва ўсіх спрагальных формах на аснове: *бры́ю, бры́еш, бры́е, бры́ем, бры́еце, бры́юць, бры́ў, бры́ла* (ж., н. р.), *бры́лі, бры́й, бры́йма, бры́йце.*

Дзеяслоў *гніць* адносіцца да акцэнтнага т ы п у $B_1$ — ва ўсіх формах цяперашняга і прошлага часу націск на флексіі, а ў формах загаднага ладу — на аснове: *гнію́, гніе́ш, гніе́, гніём, гніяце́, гнію́ць, гніў, гніла́, гніло́, гнілі́, гній, гні́йма, гні́йце.*

### *Націск дзеясловаў адзінаццатага непрадуктыўнага класа*

§ 976. Да гэтага класа адносіцца некалькі дзеясловаў з асновай інфінітыва на галосны, аснова цяперашняга часу ў якіх ускладняецца суфіксамі *-j-, -в-* або *-н-*: *абу́ць, дуць, разу́ць, чуць; жыць, злоўжы́ць, пражы́ць, ужы́ць, слыць, праслы́ць, плыць, праплы́ць, прыплы́ць, дзець, надзе́ць, раздзе́ць, адта́ць, прата́ць, раста́ць, стаць, стрэць, сустрэць, стыць, засты́ць, насты́ць* і іншыя прыставачныя. Паводле месцаразмяшчэння націску ў спрагальных формах дзеясловаў гэтага класа вылучаюцца два акцэнтныя тыпы — А і D.

§ 977. У акцэнтны т ы п А ўваходзяць дзеясловы, у якіх націск ва ўсіх спрагальных формах на аснове: *абу́ю, абу́еш, абу́е, абу́ем, абу́еце, абу́юць, абу́ў, абу́ла* (ж., н. р.), *абу́лі, абу́й, абу́йма, абу́йце; адзе́ну, адзе́неш, адзе́не, адзе́нем, адзе́неце, адзе́нуць, адзе́ў, адзе́ла* (ж., н. р), *адзе́лі, адзе́нь, адзе́нем, адзе́ньце.* Да тыпу А належаць дзеясловы *абу́ць, дуць, разу́ць, чуць, жыць, дзець, надзе́ць, раздзе́ць, адта́ць, прата́ць, раста́ць, стаць, стрэць, сустрэ́ць, стыць, засты́ць, насты́ць аста́цца, заста́цца.* А д х і л е н н і: дзеясловы *аста́цца, заста́цца* ў формах будучага і прошлага часу адзначаны ў варыянтах з націскам на аснове — *аста́нуся, аста́нешся, аста́нецца, аста́немся, аста́нецеся, аста́нуцца, аста́лася* (ж., н. р.), *аста́ліся.*

§ 978. Да акцэнтнага т ы п у D адносяцца дзеясловы, у якіх ва ўсіх спрагальных формах націск на флексіі: *жыву́, жыве́ш, жыве́, жывём, жывяце́, жыву́ць, жыў, жыла́, жыло́, жыве́ш, жылі́, жыві́, жыве́м, жыві́це.* Гэта дзеясловы *жыць, злоўжы́ць, пражы́ць, ужы́ць, слыць, праслы́ць, плыць, праплы́ць, прыплы́ць.*

### *Размеркаванне дзеясловаў па акцэнтных тыпах*

§ 979. У акцэнтны т ы п А ўваходзяць:

1. Дзеясловы першага прадуктыўнага класа (§ 938).
2. Каля 100 дзеясловаў другога прадуктыўнага класа і вытворныя ад іх з прыстаўкамі *а-, аб-, ад-, да-, з-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, рас-, с-, у-, уз-, ус-* (§ 940).
3. Дзеясловы трэцяга прадуктыўнага класа, акрамя 9, што адносяцца да акцэнтнага тыпу В, і вытворныя ад іх (§ 944, 945).
4. Каля 30% дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа і вытворныя ад іх з прыстаўкамі *аб-, ад-, да-, з-, за-, на-, наз-, напера-, неда-, па-, паад-, пад-, паз-, паза-, пана-, папера-, папры-, параз-, пера-, пра-, пры,- раз-, у-, уз-* (§ 947).
5. Каля 30 дзеясловаў першага непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 950, 951).
6. Дзеясловы другога непрадуктыўнага класа *нудзе́ць, руне́ць* і вытворныя ад іх, а таксама вытворныя ад дзеясловаў гэтага ж класа *глядзе́ць, ляжа́ць, маўча́ць, стая́ць, сядзе́ць* (§ 955).
7. Каля 40 дзеясловаў трэцяга непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 958).
8. Дзеясловы чацвёртага непрадуктыўнага класа *кра́сці, ле́зці, се́сці* і вытворныя ад іх (§ 960).

9. Дзеясловы шостага непрадуктыўнага класа *дастáць, застáць, стаць* (§ 969).

10. Дзеясловы дзесятага непрадуктыўнага класа *брыць, выць, мыць, ныць, рыць, шыць* і вытворныя ад іх (§ 975).

11. Каля 20 дзеясловаў адзінаццатага непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 977).

У акцэнтны тып $A_1$ ўваходзяць дзеяслоў пятага прадуктыўнага класа *лёгчы* і вытворныя ад яго (§ 966).

§ 980. У акцэнтны т ы п В уваходзяць:

1. Каля 100 дзеясловаў другога прадуктыўнага класа і вытворныя ад іх з прыстаўкамі *а-, аб-, аба-, ад-, ада-, да-, з-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, рас-, с-, у-, ува-, уз-, ус-* (§ 941).

2. Дзевяць дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 945).

3. Каля 30% дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа і вытворныя ад іх з прыстаўкамі *а-, аб-, ад-, да-, з-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, рас-, с-, у-, уз-* (§ 948).

4. Каля 25 дзеясловаў першага непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 952).

5. Каля 60 дзеясловаў другога непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 956).

6. Дзеясловы трэцяга непрадуктыўнага класа *сягнýць, уракнýць* і вытворныя ад іх (§ 958).

7. Пераважная большасць дзеясловаў чацвёртага непрадуктыўнага класа (акрамя трох, якія належаць да акцэнтнага тыпу А, і трынаццаці дзеясловаў, якія належаць да акцэнтнага тыпу D) і вытворныя ад іх (§ 960, 961, 962).

8. Дзесяць дзеясловаў пятага непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 964).

9. Каля 15 дзеясловаў шостага непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 970).

10. Усе дзеясловы сёмага непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 972).

11. Усе дзеясловы восьмага непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 973).

12. Усе дзеясловы дзевятага непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 974).

Да акцэнтнага т ы п у $B_1$ належаць:

1. Дзеясловы другога непрадуктыўнага класа *баяцца, стаяць* (§ 957).

2. Дзеяслоў дзесятага непрадуктыўнага класа *гніць* і вытворныя ад яго (§ 975).

§ 981. У акцэнтны т ы п С уваходзяць:

1. Каля 10 дзеясловаў другога прадуктыўнага класа і вытворныя ад іх з прыстаўкамі *а-, аб-, ад-, з-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, раз-, рас-, с-, у-* (§ 942).

2. Каля 35% дзеясловаў чацвёртага прадуктыўнага класа і вытворныя ад іх з прыстаўкамі *а-, аб-, ад-, з-, за-, на-, па-, пад-, пера-, пра-, пры-, раз-, рас-, с-, у-, уз-* (§ 949).

3. Каля 70 дзеясловаў першага непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 953).

4. Дзеясловы другога непрадуктыўнага класа *вярцéць, гнаць, ламáць* і вытворныя ад іх (§ 957).

У акцэнтны т ы п $C_1$ уваходзяць:

1. Дзеяслоў пятага непрадуктыўнага класа *магчы́* і вытворныя ад яго (§ 967).

2. Каля 15 дзеясловаў шостага непрадуктыўнага класа (§ 971).

§ 982. У акцэнтны т ы п D уваходзяць:

1. Каля 15 дзеясловаў чацвёртага непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 962).

2. Каля 10 дзеясловаў пятага непрадуктыўнага класа і вытворныя ад іх (§ 965).

3. Дзеясловы шостага непрадуктыўнага класа *зачáць, пачáць, унЯць* (§ 971).

4. Каля 10 дзеясловаў адзінаццатага непрадуктыўнага класа (§ 978).

## *Націск дзеепрыметнікаў*

§ 983. Дзеепрыметнікі, як і прыметнікі, характарызуюцца нерухомым націскам, але ў адрозненне ад прыметнікаў, якім уласцівы два акцэнтныя тыпы нерухомага націску A і B, належаць да акцэнтнага тыпу A — ва ўсіх скланавых формах адзіночнага і множнага ліку маюць націск на аснове.

§ 984. Дзеепрыметнікі незалежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі *-уч- (-юч-), -ач- (-яч-)* у беларускай мове ўжываюцца рэдка, галоўным чынам у творах мастацкай літаратуры. Як правіла яны захоўваюць месца націску ўтваральнай асновы: *вядýчы (вядýчая, вядýчае)—вядýць; выклікáючы (выклікáючая, выклікáючае)—выклікáюць; дасягáючы (дасягáючая, дасягáючае) — дасягáюць; нарастáючы (нарастáючая, нарастáючае) — нарастáюць* і інш.

§ 985. Дзеепрыметнікі незалежнага стану прошлага часу з суфіксамі *-ш-, -ўш-, -л-* захоўваюць месца націску ўтваральнай асновы: *затаíўшы (затаíўшая, затаíўшае) — затаíць; перазімавáўшы (перазімавáўшая, перазімáваўшае) — перазімавáць; прыбы́ўшы (прыбы́ўшая, прыбы́ўшае) — прыбы́ць* і інш.; *збялéлы (збялéлая, збялéлае) — збялéць; павесялéлы (павесялéлая, павесялéлае) — павесялéць; счарнéлы (счарнéлая, счарнéлае) — счарнéць* і інш.

§ 986. Дзеепрыметнікі залежнага стану цяперашняга часу з суфіксамі *-ем-, -ім-* захоўваюць месца націску ўтваральнай асновы: *апрацоўваемы (апрацоўваемая, апрацоўваемае) — апрацоўваюць; вывучáемы (вывучáемая, вывучáемае) — вывучáюць; даслéдуемы (даслéдуемая, даслéдуемае) — даслéдуюць; кірýемы (кірýемая, кірýемае) — кірýюць; стварáемы (стварáемая, стварáемае) — стварáюць* і інш.

§ 987. Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу з суфіксам *-т-* у пераважнай большасці захоўваюць націск утваральнай асновы: *абýты (абýтая, абýтае) — абýць; здабы́ты (здабы́тая, здабы́тае) — здабы́ць, накры́ты (накры́тая, накры́тае) — накры́ць; памы́ты (памы́тая, памы́тае) — памы́ць* і інш., але *паколаты (паколатая, паколатае) — пакалоць; змолаты (змолатая, змолатае) — змалоць.* Дзеепрыметнікі ад дзеясловаў з суфіксам *-ну-* захоўваюць месца націску ўтваральнай асновы, калі ў дзеяслове ён на каранёвай частцы: *пакíнуты (пакíнутая, пакíнутае) — пакíнуць; прыцíснуты (прыцíснутая, прыцíснутае) — прыцíснуць* і інш. Калі ж націск у дзеяслове на суфіксе *-ну-*, утвораны ад яго дзеепрыметнік мае націск на перадсуфіксальным складзе: *абмáнуты (абмáнутая, абмáнутае) — абманýць; пераапрáнуты (пераапрáнутая, пераапрáнутае) — пераапранýць* і інш.

§ 988. Дзеепрыметнікі залежнага стану прошлага часу з суфіксам *-н- (-ен-, -ан- (-ян-))*, утвораныя ад дзеясловаў першага прадуктыўнага класа (група A) звычайна захоўваюць месца націску ўтваральнай асновы: *заблы́таны (заблы́таная, заблы́танае) — заблы́таць; захавáны (захавáная, захавáнае) — захавáць; праматáны (наматáная, наматáнае) —*

*наматáць; паабірáны (паабірáная, паабірáнае)* — *паабірáць* і інш. Але для некаторых дзеепрыметнікаў назіраюцца выпадкі варыянтнасці (на першым месцы падаецца норма): *закапáны* і *закопаны* ад *закапáць, насукáны* і *насýканы* ад *насукáць, схавáны* і *схованы* ад *схавáць* і інш.

Дзеепрыметнікі ад дзеясловаў трэцяга прадуктыўнага класа таксама захоўваюць месца націску ўтваральнай асновы — на суфіксальным складзе *-ва-*: *абмалявáны (абмалявáная, абмалявáнае)* — *абмалявáць; арганізавáны (арганізавáная, арганізавáнае)* — *арганізавáць; завалявáны (завалявáная, завалявáнае)* — *завалявáць; накіравáны (накіравáная, накіравáнае)* — *накіравáць; падпарадкавáны (падпарадкавáная, падпарадкавáнае)* — *падпарадкавáць; прааналізавáны (прааналізавáная, прааналізавáнае)* — *прааналізавáць; распрацавáны (распрацавáная, распрацавáнае)* — *распрацавáць* і інш. Паралельна з нарматыўным націскам на складзе *-ва-* ў моўнай практыцы, асабліва ў мове мастацкай літаратуры, шырока выкарыстоўваюцца варыянты з націскам на перадсуфіксальным складзе: *абмалявáны* і *абмалёваны, абгаблявáны* і *абгаблёваны, адбудавáны* і *адбудóваны, апрацавáны* і *апрацóваны, арганізавáны* і *арганізóваны, завалявáны і завалёваны, накіравáны* і *накірóваны, падпарадкавáны* і *падпарадкóваны, прааналізавáны* і *прааналізóваны, рапрацавáны* і *распрацóваны* і інш.

Дзеепрыметнікі ад дзеясловаў акцэнтнага тыпу А чацвёртага прадуктыўнага класа захоўваюць націск утваральнай асновы — на корані: *аграблены (аграбленая, аграбленае)* — *аграбіць; запрэжаны (запрэжаная, запрэжанае)* — *запрэгчы; знішчаны (знішчаная, знішчанае)* — *знішчыць; прынéсены (прынéсеная, прынéсенае)* — *прынéсці* і інш., а ад дзеясловаў акцэнтнага тыпу С маюць націск на адзін склад бліжэй да пачатку слова ў параўнанні з націскам утваральнай асновы: *забаронены (забароненая, забароненае)* — *забараніць; зроблены (зробленая, зробленае)* — *зрабіць; наточаны (наточаная, наточанае)* — *натачыць; пагáшаны (пагáшаная, пагáшанае)* — *пагасіць* і інш.

Дзеепрыметнікі, утвораныя ад дзеясловаў чацвёртага і пятага непрадуктыўных класаў (акцэнтнага тыпу А) захоўваюць націск на каранёвым складзе: *звéзены (звéзеная, звéзенае)* — *звéзці; згрызены (згрызеная, згрызенае)* — *згрызці; спрáдзены (спрáдзеная, спрáдзенае)* — *спрáсці; запрэжаны (запрэжаная, запрэжанае)* — *запрэгчы; ссéчаны (ссéчаная, ссéчанае)* — *ссéкчы* і інш.

Дзеепрыметнікі ад дзеясловаў акцэнтнага тыпу В маюць націск на адзін склад бліжэй да пачатку слова ў параўнанні з утваральнай асновай: *зберажоны (зберажоная, зберажонае)* — *зберагчы; здзёўбаны (здзёўбаная, здзёўбанае)* — *здзяўбці; зняможаны (зняможаная, зняможанае)* — *знемагчы; спéчаны (спéчаная, спéчанае)* — *спячы; сцеражоны (сцеражоная, сцеражонае)* — *сцерагчы* і інш.

### *Націск дзеепрыслоўяў*

§ 989. Дзеепрыслоўі з суфіксамі *-учы (-ючы), -ачы (-ячы)* захоўваюць націск утваральнай асновы — форм цяперашняга часу: *абівáючы* — *абівáюць, адмаўляючы* — *адмаўляюць, бывáючы* — *бывáюць, вéрачы* — *вéрацы, гамонячы* — *гамоняць, начýючы* — *начýюць, працýючы* — *працýюць, сéючы* — *сéюць* і інш.

Ад некаторых дзеясловаў другога і трэцяга прадуктыўных класаў, а таксама ад большасці непрадуктыўных класаў дзеепрыслоўі маюць іншы націск, чым формы цяперашняга часу. У адных выпадках ён знаходзіцца бліжэй да пачатку слова, напрыклад: *глéдзячы* — *глядзéць, лéжачы* — *ляжáць, сéдзячы* — *сядзéць, стоячы* — *стаяць*, а ў другіх — на канцавым

галосным суфікса, напрыклад: *бегучы́ — бягу́ць, кладучы́ — кладу́ць, несучы́ — нясу́ць, пасучы́ — пасу́ць.*

Дзеепрыслоўі з суфіксамі *-ўшы, -шы* захоўваюць націск утваральнай асновы — формы прошлага часу: *ababра́ўшы — абабра́ў, адве́даўшы — адве́даў, дае́хаўшы — дае́хаў, забра́ўшы — забра́ў, залёгшы — залёг, нанёсшы — нанёс, узя́ўшы — узя́ў* і інш.

## НАЦІСК ПРЫСЛОЎЯЎ

### *Націск невытворных прыслоўяў*

§ 990. Часцей за ўсё месца націску ў прыслоўі залежыць ад месца націску тых часцін мовы, ад якіх утворана прыслоўе. Але частка прыслоўяў характарызуецца індывідуальнымі акцэнтнымі асаблівасцямі. Гэта нематываваныя прыслоўі. Частка з іх мае націск на апошнім складзе: *калі́, куды́, сюды́, туды́, тады́, яшчэ́, ужо́, пасля́, спакваля́, іна́кш, цяпе́р, ама́ль* і некаторыя іншыя. Невытворныя прыслоўі з націскам не на апошнім складзе: *усю́ды, го́дзе, учо́ра, во́кал, до́сыць, за́гадзя, за́пар, за́саб, за́ўтра, на́дта, на́шча.*

Калі да прыслоўяў *куды́, калі́, сюды́* далучаюцца прыстаўкі, то націск з канцавога склада перамяшчаецца на прыстаўку (*не-*) або на перадапошні склад (пры далучэнні іншых прыставак):

*калі́* — *ніко́лі*, *не́калі*

*куды́* — *ніку́ды*, *не́куды*

*сюды́* — *усю́ды*

### *Націск вытворных прыслоўяў*

#### Націск прыслоўяў, утвораных ад назоўнікаў

§ 991. У прыслоўях, якія суадносяцца з творным склонам назоўнікаў, у большасці выпадкаў націск захоўваецца на тым жа складзе, што і ў форме творнага склону назоўніка: *абара́нкам, ава́нсам, агу́лам, адвячоркам, бачком, ве́чарам, вінтом, восенню, вясной, галопам, гу́жам, гу́ртам, дабром, за́дам, за́лпам, зімой, кружком, ле́там, ма́хам, мі́гам, нака́там, ноччу, паражняком, поўнасцю, прае́здам, ры́ссю, сі́лай, сле́дам, цу́гам* і інш.

Па аналогіі з прыслоўямі тыпу *бачком,* якія маюць адпаведныя формы назоўнікаў, націск на апошнім суфіксальным элеменце атрымліваюць прыслоўныя ўтварэнні без адпаведных форм назоўнікаў: *гуськом, паўзком, цішком* і інш. У некаторых прыслоўях націск у параўнанні з формай назоўніка перамяшчаецца на іншы склад. Напрыклад: *бег — бе́гам* (наз.) — *бягом* (прысл.); *верх — ве́рхам* (наз.) — *вярхом* (прысл.). У прыставачным утварэнні ад *тайком* націск перамяшчаецца на прыстаўку: *потайкам.*

У радзе выпадкаў наглядаецца варыянтнасць націску, звязаная з уплывам народных гаворак. Так, адзначаны формы *бягом — бе́гам, вечарам — вечаром, вярхом — ве́рхам, гу́жам — гужом, гу́ртам — гуртом, крадком — кра́дкам, маўчком — моўчкам, ра́ніцай — раніцой.* Першыя

ў прыведзеных парах варыянты выступаюць як літаратурная норма, другія — знаходзяцца па-за яе межамі.

Некаторыя прыслоўі ў залежнасці ад месца націску адрозніваюцца па значэнню: *кругом* 'навокал', 'цалкам' і *кру́гам* 'у круг' (*сесці кругам*); *ца́лкам* 'поўнасцю, без выключэння' і *цалком* 'адным куском'.

§ 992. У прыслоўях, якія ўтварыліся ад ускосных склонаў назоўнікаў з прыназоўнікамі, у асноўным месца націску захоўваецца на тым жа складзе, што і ў адпаведнай форме назоўніка: *адве́ку, адра́зу, даволі, дагары́, дадому, збоку, зве́ку, зве́рху, зве́чара, зду́ру, зза́ду, зні́зу, знутры́, зра́нку, зроду, спадылба́, спача́тку, набок, накася́к, напе́рад, напралом, напра́ўду, насі́лу, наспе́х, угалоп, уголас, упе́рад, упокат, услы́х, штого́д, якра́з, апоўдні, апоўначы, наве́рсе, напе́радзе, нарэшце, угары́, удалечыні́, уні́зе, уночы* і інш.

Але ў некаторых прыслоўях такога тыпу націск пераходзіць на прыстаўку: *досвету, за́грудкі, на́крыж, на́нач, сосмеху, сосну, спады́спаду* і г. д. Націск пераходзіць на прыстаўку таксама ў прыслоўях, якія суадносяцца з вінавальным склонам назоўнікаў без матэрыяльна выражаных склонавых канчаткаў: *на́сцеж, побач, поблізу, вобзем, поплеч, поруч, потарч, удосталь* і некаторыя іншыя.

Некаторыя прыслоўі маюць варыянтны націск: *апаўдні́ — апоўдні, набок — на́бак, наспе́х — на́спех, падве́чар — подвечар, падча́с — подчас, паначы́ — поначы, спады́спаду — спадысподу, уні́зе — унізу́* і некаторыя іншыя. Варыянты ў парах на першым месцы кваліфікуюцца як літаратурная норма, на другім месцы — адхіленне ад нормы.

Для часткі прыслоўяў націскныя варыянты з'яўляюцца раўнапраўнымі: *вакол — вокал, навокал — навакол, навы́лет — навылёт.*

У залежнасці ад месца націску некаторыя прыслоўі разглядаемага тыпу адрозніваюцца семантыкай: *за́раз* 'у гэту мінуту', 'хутка' і *зара́з* 'разам, у адзін прыём'.

## Націск прыслоўяў, утвораных ад прыметнікаў

§ 993. У прыслоўях, якія суадносяцца з беспрыназоўнікавымі формамі вінавальнага склону кароткіх прыметнікаў, націск звычайна захоўваецца на тым жа складзе, што і ў прыметніку: *абду́мана, аднолькава, асаблі́ва, бага́та, балю́ча, бе́дна, безумоўна, бе́ла, бру́дна, ву́зка, высока, гістары́чна, гла́дка, дадаткова, далёка, дарэмна, дастаткова, доўга, жахлі́ва, ма́рна, нізка, працоўна, рашу́ча, роўна, свабодна, све́тла, сіметры́чна, слізка, сме́шна, спакойна, страшэнна, сярэдне, та́нна, тонка, ху́тка, цёмна, цёпла, ця́жка, чы́ста, я́сна* і г. д.

У частцы двухскладовых прыслоўяў, якія ўтвораны ад двухскладовых прыметнікаў з націскам на канчатку, націск перамяшчаецца на першы склад: *глу́ха* (параўн. *глухі́*), *гу́ста, жы́ва, кру́та, кры́ва, ма́ла, не́ма, пра́ма, пу́ста, ску́па, сле́па, су́ха, ту́га, ту́па.*

У трохскладовых прыслоўях, якія ўтвораны ад трохскладовых прыметнікаў з націскам на канчатку або на складзе, які папярэднічае канчатку, націск перамяшчаецца на першы склад: *ве́села* (параўн. *вясёлы*), *здорава, голадна, горача, дорага, зе́лена, коратка, мо́лада, соладка, холадна, хораша* і некалькі іншых.

Націск на апошнім складзе мае прыслоўе *даўно* (параўн. *да́ўні*).

У мове мастацкай літаратуры, а таксама ў размоўным стылі для некаторых прыслоўяў адзначаны акцэнталагічныя варыянты: *боязна — баязно, відно — ві́дна, высока — вы́сака, глыбока — глы́бака, шырока — шы́рака* і некаторыя іншыя. Другі варыянт выходзіць за межы літаратурнай нормы.

У адпрыметнікавых прыслоўях, якія ўтвораны прыставачна-суфіксальным спосабам, месца націску супадае з націскам у адпаведных формах прыметнікаў: *дасыта* (параўн. *сыты*), *звысоку, здалёку, злева, злёгку, знова, зрэдку, навечна, надоўга, налева, намёртва, падоўгу, папросту, паро́йну* і інш.

Але ў радзе прыслоўяў з прыстаўкамі *на-, за-, по-, со-* націск перамяшчаецца на прыстаўку: *за́відна, за́жыва, за́светла, за́цемна, за́цепла, зза́маладу, на́гала, на́суха, на́глуха, на́нава, на́чыста, повідну, посуху, сослепу.*

У прыслоўях з прыстаўкай *да-* націск перамяшчаецца на апошні склад: *дабяла́, давідна́, дагала́, дапазна́, дапаўна́, дацямна́, дачыста́,* таксама *здаўна́, спаўна́.* А л е *дачы́рвана.*

На прыслоўным суфіксе замацаваўся націск у словах *удвайне́, утрайне́.*

Акцэнталагічныя варыянты дапускаюцца літаратурнай нормай для прыслоўяў *дасу́ха* і *досуха, нараўні* і *нароўні.* У варыянтных парах *дабяла́ — дабе́ла, дагала́ — дагола, дапазна́ — дапозна, дасы́та— дасыта́ звысока — звысака́, здаўна́ — зда́ўна, на́нава — нанова, на́чарна — начорна* першы варыянт з'яўляецца літаратурнай нормай, другі — адхіленнем ад нормы.

У якасных прыслоўях з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі націск звычайна супадае з націскам у суадносных формах суб'ектыўнай ацэнкі прыметнікаў: *бялю́сенька* (параўн. *бялю́сенькі*), *бялю́тка, гусце́нька, добранька, драбню́тка, дробненька, нізенечка, нізенька, прыгожанька, ціху́тка.* А л е *хорашанька — харошанькі.* У некаторых прыслоўях з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі адзначаны акцэнтныя варыянты: *гу́сценька — гусце́нька, дробненька — драбне́нька, нізенька — нізе́нька.* Першыя ў парах варыянты — літаратурная норма, другія — па-за яе межамі.

Застаецца нязменным месца націску таксама ў прыслоўях, утвораных ад якасных прыметнікаў з суфіксамі *-энн-, -эзн-, -ават-: высачэнна* (параўн. *высачэнны*), *высачэзна, малава́та, шырачэзна, шырачэнна.*

У формах ступеней параўнання якасных прыслоўяў націск супадае з націскам адпаведных форм ступеней параўнання якасных прыметнікаў. Так, часцей за ўсё націск прыходзіцца на суфікс *-ей (-эй): бліжэй, буйне́й, важне́й, вальне́й, вышэй, гладзе́й, глыбе́й, дале́й, даражэй, даўжэй, драбне́й, дружне́й, званчэй, здараве́й, караце́й, крапчэй, лягчэй, ляпе́й, мацне́й, ніжэй, пазне́й, радзе́й, ране́й, раўне́й, саладзе́й, слабе́й, смачне́й, скарэй, сушэй, сытне́й, тужэй, цвярдзе́й, цяжэй, цямне́й, часце́й, чырване́й, шырэй, ямчэй, ярчэй* і г. д.

Частка прыведзеных вышэй прыслоўяў можа мець формы з націскам на корані: *блі́жай, вы́гадней, вы́шай, гла́дзей, глы́бей, да́лей, дарожай, кароцей, ласка́вей, ле́пей, спакойней, су́шай, ціка́вей, шы́рай* і інш. Такія акцэнтныя варыянты адзначаюцца ў мове мастацкай літаратуры.

Прыслоўі, утвораныя ад трохскладовых (чатырохскладовых) прыметнікаў, у форме вышэйшай ступені захоўваюць націск на ўтваральнай аснове: *акрэсленей, акты́ўней, ахвотней, бале́сней, вы́гадней, выра́зней, галасі́сцей, заме́тней, напорысцей, натура́льней, прые́мней, ра́дасней, справядлі́вей, стара́нней, упа́рцей, яскра́вей.*

З націскам на суфіксе ўжываюцца ўсе прыслоўі, утвораныя ад поўных форм якасных прыметнікаў вінавальнага склону з прыназоўнікамі *на, пад, у: напрапалу́ю, наўдалу́ю, начысту́ю, падчысту́ю, укругаву́ю, урассыпну́ю, уручну́ю, усляпу́ю, ухаласту́ю, ушчыльну́ю.* А л е *наадкры́тую, насме́лую, урукапа́шную.*

Ва ўсіх астатніх адпрыметнікавых прыслоўях суфіксальнага і прэфіксальна-суфіксальнага ўтварэння націск падае на той жа склад, што і ў

прыметніках: *важнéцкі, мастáцкі, па-беларýску, па-брáцку, па-гарадско-му, па-дзіцячы, па-людску, па-новаму, па-рýску, па-старому, па-чалавé-чы* і г. д.

## Націск прыслоўяў, утвораных ад лічэбнікаў

§ 994. У прыслоўях з прыстаўкай *у-*, якія ўтвораны ад колькасных і парадкавых лічэбнікаў, націск прыходзіцца на суфікс: *удвýх, удваíх, утрох, утраíх, упяцёх, упяцярых, увасьмёх, увасьмярых, усямёх, учатырóх, учацвярых, удвая́, утрая́*.

У прыслоўях з прыстаўкай *на-* націск пераходзіць на прыстаўку: *нá-двае, нáтрае*. Хаця ў размоўным стылі і ў мове мастацкай літаратуры ўжываюцца формы *надвое, натрое*.

Прыслоўі *удвая́, утрая́* маюць размоўныя акцэнтныя варыянты *удвое, утрое*.

На прыслоўным суфіксе замацаваўся націск у словах *спяршá, заадно*.

У прыслоўях *двойчы, тройчы* націск на корані.

## Націск прыслоўяў, утвораных ад займеннікаў

§ 995. Значная частка адзайменнікавых прыслояў характарызуецца ў большасці выпадкаў індывідуальнымі націскамі.

У частцы прыслоўяў месца націску тое ж, што і ў адпаведных формах займеннікаў: *па-вáшаму, па-íхняму, па-нáшаму, затое, зусім, нашто, нізашто*.

У прыслоўі *потым* націск на прыстаўцы.

Адрозніваюцца месцам націску прыслоўі, утвораныя пры дапамозе прыстаўкі *па-* ад форм давальнага склону займеннікаў *мой, твой, свой: па-мойму* (параўн. *маймý*), *па-свойму, па-твойму*. Акцэнтныя варыянты *па-маéму, па-сваéму, па-тваéму* знаходзяцца за межамі літаратурнай нормы.

Прыслоўі, утвораныя ад займенніка *што* пры дапамозе прыставак і ўстаўкі *-во-*, маюць націск на гэтай устаўцы, аднак лічацца гутарковымі формамі: *завошта*.

У частцы прыслоўяў са звязанымі асновамі націск прыходзіцца на перадапошні склад: *адгэтуль, дагэтуль, пагэтуль, аднéкуль, знéкуль*.

У прыслоўях *адкýль, адтýль, датýль, пакýль, патýль, адсю́ль, дасю́ль, пасю́ль* націск падае на апошні склад. Акцэнтныя варыянты *покуль, посюль* з'яўляюцца адступленнем ад літаратурнай нормы.

## Націск прыслоўяў аддзеяслоўнага паходжання

§ 996. У прыслоўях, якія суадносяцца з дзеепрыслоўямі, націск супадае з месцам націску ў адпаведных дзеепрыслоўях: *глéдзячы, дзя́куючы, éдучы, жартýючы, жывучы́, ідучы́, лéжачы, сéдзячы, стóячы, хвáлячы, плáчучы* і інш.

У прыслоўях *зáгадзя* і *нéхаця* націск на прыстаўцы.

У частцы аддзеяслоўных прыслоўяў з суфіксам *-ма* націск знаходзіцца на корані: *бéгма, гýльма, лéжма, роўма, сéдзьма*, а таксама *ніцма*. З націскам на суфіксе *-ма* ўжываюцца прыслоўі *кішмá, старчмá, тарчмá*.

У прыслоўях, якія суадносяцца з формамі дзеепрыметнікаў незалежнага стану цяперашняга часу ніякага роду, націск застаецца нязменным: *захапля́юча, хвалю́юча*.

### Націск прыслоўяў, утвораных ад прыслоўяў

§ 997. Прыслоўі, утвораныя ад прыслоўяў пры дапамозе прыставак *за-*, *на-*, *па-*, *паза-*, *пасля-*, *у-*, часцей за ўсё захоўваюць націск на тым жа складзе, што і ва ўтваральнай аснове: *завысока* (параўн. *высока*), *заглыбока, загу́ста, задалёка, задорага, задоўга, зале́тась, залішне, замоцна, зара́на, заўчора, нааба́пал, наводдаль, надоўга, назаўжды́, назаўсёды, наза́ўтра, назусім, напотым, наскрозь, настолькі, насу́працъ, наўзбоч, наўздоўж, наўсцяж; пааба́пал, пазале́тась, пазаўчора, пасляза́ўтра; удвойчы, употай, утройчы.* Толькі некалькі прыслоўяў адрозніваюцца месцам націску: *напоперак, упоперак* (параўн. *папярок*), *за́даўга* (параўн. *доўга*). Прыслоўе *надалей* мае два акцэнталагічныя варыянты, якія дапускаюцца як літаратурныя: *нада́лей* і *надале́й* (параўн. *дале́й*).

Акцэнталагічныя варыянты *за́даўга* і *задоўга* адрозніваюцца па семантыцы: *за́даўга* 'за многа часу да чаго-небудзь'; *задоўга* 'надта доўга'.

### *Націск складаных прыслоўяў*

§ 998. У складаных прыслоўях, якія ўтварыліся шляхам зліцця займенніка *што* з назоўнікам або пры́метнікам, націск падае на матываваную аснову: *штогадзінна, штогадзіны, штогод, штодзе́нь, штодзённа, штодня́, штоле́та, штоме́сяц, штосу́тачна, штоты́дзень.*

Націск на другім кампаненце складанага прыслоўя наглядаецца ў словах *басаноож, мімаволі, мімаходам, навідавоку, самату́гам.* Але *абе́руч.*

У прыслоўях *сяголета, сягоння* націск падае на другі склад першай часткі.

Складаныя прыслоўі, утвораныя шляхам паўтарэння асноў або злучэння сінанімічных або антанімічных асноў, маюць два націскі, прычым на кожным кампаненце месца націску захоўваецца без змен: *высо́ка-высо́ка, далёка-далёка, ра́на-ра́на, ціха-ціха, да́лей-болей, дайны́м-даўно, кругом-вокала, ма́ла-многа, ма́ла-пама́лу, позна-ра́на, сюды́-туды́, сяды́-тады́, тады́-сяды́, туды́-сюды́, шы́варат-навы́варат, шы́та-кры́та* і інш.

Складаныя прыслоўі, якія ўтварыліся шляхам паўтарэння аднолькавых слоў з далучэннем адмоўя або прыназоўніка да другога кампанента, часцей за ўсё маюць націск на другой частцы: *дзе-нідзе́, калі-нікалі́, крыж-на́крыж, перш-на́перш, як-нія́к.*

Складаныя прыслоўі, якія ўтварыліся шляхам злучэння прыслоўяў і словаўтваральных частак, маюць адзін націск на прыслоўі: *абы-адку́ль, абы-дзе́, абы-калі, абы-куды́, абы-я́к, адку́ль-небудзь.*

Адзін націск маюць таксама прыслоўі, утвораныя шляхам злучэння назоўнага і творнага склонаў аднаго і таго ж назоўніка ці лічэбніка: *адзін-адны́м, век-ве́кам, час-ча́сам, чын-чы́нам.* Але *во́ляй-нянво́ляй, даўны́м-даўно.*

Адзін націск маюць таксама прыслоўі, складзеныя з усечаных частак (прыслоўяў або прыслоўя і часціцы): *сюд-ту́д, сям-та́м, сяк-та́к, тамся́м, так-ся́к.*

Захоўвае націск кожная частка ў такіх выразах, як *адзін на адзін, вока на вока, сле́д у сле́д.*

# ЗМЕСТ

## ЗАЙМЕННІК (§ 220—230)



## ДЗЕЯСЛОЎ (§ 231—309)



## ПРЫСЛОЎЕ (§ 326—331)



## НЕПАЎНАЗНАЧНЫЯ СЛОВЫ (§ 332—344)

## ПРЫНАЗОЎНІКІ (§ 333—335)
## ЗЛУЧНІКІ (§ 336—338)



## ЗВЯЗКІ (§ 339)
## ЧАСЦІЦЫ (§ 340—344)

## ВЫКЛІЧНІКІ (§ 345—347)



## **СЛОВАЎТВАРЭННЕ (§ 348—882)**

## НАЦІСК (§ 883—998)

**БЕЛОРУССКАЯ ГРАММАТИКА**

**в 2-х частях. Ч. 1.**

**Фонология. Орфоэпия. Морфология. Словообразование. Ударение.**

Издательство «Наука и техника»

На белорусском языке

Загадчык рэдакцыі *Г. Ф. Юрчанка.* Рэдактар *А. М. Садоўская.* Мастацкі рэдактар *Л. І. Усачоў.* Тэхнічны рэдактар *С. А. Курган.* Карэктар *В. В. Кляновік.*

ІБ № 1916

Друкуецца па пастанове РВС АН БССР. Здадзена ў набор 19.09.84. Падпісана ў друк 16.01.85. АТ 17019. Фармат 70×100¹/₁₆. Папера друк. № 2. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 34,83. Ум. фарб.-адб. 34,83. Ул.-выд. арк. 34,9. Тыраж 1050 экз. Зак. № 1161. Цана 2 р. 50 к. Выдавецтва «Навука і тэхніка» Акадэміі навук БССР і Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68. Друкарня імя Францыска (Георгія) Скарыны выдавецтва «Навука і тэхніка». 220600. Мінск, Ленінскі праспект, 68.